№5(72)
/верасень-кастрычнік/ 2014

Дзе

дзеяслоў

ЗМЕСТ

проза

Галіна Каржанеўская



...неадольнай сілай іх прыцягвала
да ранейшых бацькоў у новым целе,
або да людзей, якім яны не даравалі,
або хто не дараваў ім...

# Дзень добры, будучыня!

***Апавяданне***

Чаканне здоўжылася. Чарга прыстала і зняверылася, бо руху амаль не назіралася. Але ахутаныя марывам душы, запомніўшы свае нумары, гатовы былі чакаць вечна. Кожны бавіў час, як умеў. Адны драмалі, другія ўвогуле ўпадалі ў сон, рызыкуючы прапусціць выклік дзяжурнага анёла. Хтось успамінаў перыяд ад мінулага ўвасаблення (ва ўсіх розная працягласці): чысцец, Вышэйшы вердыкт, далейшае адбыванне тэрміну п а м і ж, які здаецца нескончоным пры ўсёй насычанасці падзеямі.

Падзеяў не было толькі ў залішне нецярплівых. Яны адпрацоўвалі сваю карму тым, што ўвесь час нечага чакалі.

Душа Н. была нецярплівай змалку, шмат займела праз тое непрыемнасцей, але зразумела сваю хібу толькі пасля сарака. Лёс узяў яе грубай рукой за горла і сказаў: або ты падключыш мазгі да сваіх эмоцый, або бяздарна згінеш. І яна пачула. Цяпер яна адно пасміхалася, гледзячы на ціхія пакуты астатніх. О, ёй вядомы гэты жар расплаўленай

лавы, здольны выпаліць нутро, калі пажаданае затрымліваецца або калі яго блакуюць абставіны...

Некаторыя з прысутных спрабавалі перамаўляцца. Праўда, у размеркавальніку не прынята было завязваць цесныя стасункі. Тут кожны сам па сабе, а сустрэцца яны могуць і на Зямлі, куды адправяцца прыблізна ў адзін час і, не выключана, – на адзін лапік сушы.

Першай пайшла – пырхнула – душа Т., якую Н. ведала як класную масажыстку. Крэпенькая целам, з бліскучымі вачамі-вішнямі, Т. працавала нястомна. І не столькі рукамі, колькі прагным сваім духам. Яна адолела безліч школ, курсаў і практык, была інструктарам ёгі і майстрам Рэйкі і пры гэтым не цуралася царквы. Размінаючы кліента, Т. паміж іншым давала шмат карыснай і рэдкай інфармацыі, якую не выкапаеш з кніг. У групе яна займала асаблівае месца, бо ёй кланяліся анёлы.

З Т. была звязана адна займальная гісторыя. Н. надумала ўзяць сеанс масажу на свой дзень нараджэння (што было рызыкоўным: у гэты дзень чалавек слабы). У медцэнтр ехала з перасадкамі. За некалькі прыпынкаў адчула ў аўтобусе якісь незразумелы, непрыемны пах. Тлушчу, ці што? Яна сцялася ў камячок ад сораму: мусіць, схапіла на кухні скарыстаны пакет, у якім цяпер везла ручнік. “Хаця б не пачулі пасажыры!” – з жахам думала Н.

На вуліцы пах развеяўся. Калі яна пераступіла парог масажнага кабінета – у нос ударыў ужо знаёмы спецыфічны пах! Гэта быў пах аліўкавага алею, якім карыстаюцца масажысты. Не то Н. заскочыла па дарозе ў блізкае будучае, не то ўвайшла ў рэзананс з энергетыкай памяшкання.

На развітанне яны цёпла абняліся. “Сустрэнемся!” – сказала Т., пабліскваючы сваімі вішнямі, і радасна ступіла наперад.

За час мінулага знаходжання ў целе Н. навучылася не толькі прыслухоўвацца да сябе і аналізаваць пачуцці – яна стала пільнай да навакольных, назіральнай. Вось і цяпер, акінуўшы позіркам гурт у душ дваццаць, яна вылучыла дробную постаць, якая падалася знаёмай. “Дзе мы маглі перасекчыся?” – успамінала яна. Згадала калег па працы, суседзяў, паездкі... Яны дакладна дзесь бачыліся. Колькі ні напружвалася – яе “комп” тармазіў, перабіраючы байты і файлы. Н. заплюшчыла вочы і адключыла плынь свядомасці. Часам карцінкі дапамагаюць лепш. Вуліца. Тратуар. Дрэвы роўненькім радком. Якія? Ліпы. Многа ліпаў, алея. Вечаровая прахалода, сабака на павадку. Стоп! Яна ўспомніла! З гэтай бабуляй яны ў адзін час выводзілі сабак на прагулку. У бабулі быў смешны малы цюцька з адным вывернутым вухам, у Н. – прысадзісты кароткалапы дварняк, які меў у далёкіх родзічах аўчарку. Бабуля была худзенькай і чысценькай і падавалася дзікаватай: паглядвала, але на кантакт не ішла. Хто мог падумаць, што яны сустрэнуцца ў размеркавальніку, ды яшчэ ў адной групе!

А там хто зыркае па баках? Ага, усходні мужчына... І ён знаёмы. Адкуль? Пералёт над тайгой. Рака неверагоднай шырыні і моцы. Успомніць бы назву... Цеплаход, рэзкі вецер, даўгаватыя яго валасы адкінуты з твару... Вось яно што! Па нейкіх справах яе закінула ажно ў Сібір, на край свету. Іх дэлегацыю прымаў мясцовы партыйна-камсамольскі актыў. Гэты юнак быў сярод іх, суправаджаў. Там яны ўсе на двух мікрааўтобусах раз’ехаліся і пагубіліся сярод стэпу. (Тады ж мабільных тэлефонаў не было.) Доўга бязладна калясілі, ад пылу парабіліся чорнымі, як чэрці. У яе адной была з сабой свежая ільняная сукенка. Вечарам, у горадзе, яны апынуліся ў

адной кампаніі, а калі засталіся сам-насам, баяліся глядзець адно аднаму ў вочы. Яна выкладвала на стале з канцылярскіх сашчэпак абрысы кветкі, як быццам нічога больш важнага ў той момант быць не магло.

З той таёжнай глыбінкі яна прывезла скураную ціснёную сумачку, якую дваццаць гадоў беражліва захоўвала пры ўсіх пярэбарах, а пасля, здуру, узяла ды выставіла да сметніка. Потым доўга шкадавала: ну не прасіла ж яна есці, тая сумачка!

Упырхнуў дзяжурны анёл, прысутныя заварушыліся.

– Нумар пяты! Увага! Кантынент – Азія. Краіна – Тыва. Бацькі – жывёлаводы.

Ага, яго зноў закідваюць на радзіму, падумала яна. Але паднялася іншая душа, таропка падалася да выхаду, дзе віднеўся прасвет. (Так, напэўна, з дна возера выглядае палонка.) Усе зайздросна паглядзелі ўслед, хаця разумелі: варыянт не лепшы. Нейкая невядомая Тыва, што раней звалася Тувою... Ужо б лепей Манголія альбо Тыбет... У гэтай групе на лёгкія шляхі не разлічвалі. Жыццё, поўнае цяжкасцей, лічыцца больш перспектыўным для духоўнага росту, чым сытае і заможнае.

З агульнай масы вылучалася душа (назавём яе А.), якая ўвесь час была нечым незадаволеная. Найперш ёй не спадабалася месца ў чарзе – перадапошняе. Нервавала маруднасць і непрадказальнасць працэсу. Ёй не сядзелася, хацелася пагаварыць, раздражняў сусед, які хіліўся да яе пляча. Урэшце яна разбудзіла яго і выгаварыла: як можна спаць у такі хвалюючы момант, калі ў кожнага рашаецца далейшы лёс, і далей у тым жа духу. Сусед ад такой бесцырымоннасці выпаў у асадак і агрызнуўся. “Прабачце, – сказаў ён, – але вы не мая жонка, каб мяне будзіць”.

Прысутныя ўстрапянуліся (усё ж нейкая драматургія!) і, як належыць у такіх выпадках, падзяліліся на два лагеры: адны падтрымлівалі незадаволеную, другія – яе суседа. Іскра пагражала разгарэцца ў полымя. Такое ў нябеснай канторы здаралася рэдка, ды яшчэ ў старэйшай групе. (Часцей браліся загрудкі з-за рэлігійных разыходжанняў.) Належала прымаць меры. Дзяжурны выклікаў падмогу ў выглядзе воіна Архангела Міхаіла.

Страж парадку тут жа прымчаўся на выклік. Яму хапіла хвіліны, каб усё зразумець: А. была пакінутай нявестай. І пакінуў яе не хто-небудзь, а менавіта яе цяперашні сусед, да таго ж на пятым месяцы. Канфлікт, відавочна, быў не зжыты, а крыўда не даравана. Паўстала пытанне, як А. магла трапіць у чаргу на рэінкарнацыю, хто недагледзеў, ці пакаяўся пры жыцці мужчына і г. д. У выніку кароткай нарады было прынята рашэнне абаіх адправіць на адпрацоўку сітуацыі, а душы А. да таго ж належала “шліфануць” характар.

Двое ў суправаджэнні воіна пакінулі месца чакання. Не выключана, хтосьці мог ціха парадавацца (бо чарга пакарацела), а Н. падзівілася: як яны маглі не пазнаць адно аднаго?!

На экране паказвалі суцэльную парнаграфію. Закаханыя або пажадлівыя пары зліваліся ў абдымках і пацалунках, качаліся на ложках або шукалі зараснікі. Гэта былі патэнцыяльныя бацькі – але, на жаль ці на шчасце, не для іх, а для іншых, маладых і нявопытных душ. Па законе адпаведнасці іх вабіў энергетычны вір, створаны той ці іншай парай. Неадольнай сілай іх прыцягвала да ранейшых бацькоў у новым целе, або да людзей, якім яны не даравалі, або хто не дараваў ім і г. д. Варыянтаў можа быць процьма. Некаторым толькі дадуць шанец нарадзіцца, а потым матулі адмаўляюцца,

бацькі знікаюць, і – чао, бамбіно, як хочаш, так і жыві. Н. успомніла брата, які заўжды пакідаў сабе кацянят і шчанюкоў ад беспрытульных матуль. Гэта называлася – “даць шанец”.

Як толькі душа рабіла рывок у развіцці, яна вырывалася з замкнёнага кола, путы наканавання рваліся, да яе прыстаўлялі дадатковых ахоўнікаў, мянялі настаўнікаў, і яна ўжо мела права свядома выбіраць варыянты – каб атрымаць неабходны толькі ёй досвед. Праблема заключалася ў тым (з-за чаго яны ўсе тут і марнелі), што на Зямлі не так многа было людзей належнага духоўнага ўзроўню, ды яшчэ ў фертыльным узросце. Прасцей кажучы, для гэтай групы бацькоў элементарна не хапала.

І на тым, і на гэтым свеце існавала шмат баек адносна пасмяротнага існавання душы. Адна з іх наконт “аднаразовага” жыцця належала вядомай сусветнай рэлігіі, другая зыходзіла з нетраў будызму – быццам пры наяўнасці правінаў можна ўвасобіцца ў жука або якуюсь іншую дробную істоту. Дудкі! Хто ўжо ўзбіўся на высокі чалавечы статус, той чалавекам зноў і народзіцца.

Н. ведала гэта дакладна, бо пыталася ў сваіх нябесных апекуноў. Тыя пасміхаліся з такіх пытанняў, але мусілі адказваць. І яшчэ адна рэч хвалявала Н. – што будзе з цалкам здэградаванай душой. Тут апекуны, як згаварыўшыся, спасылаліся на занятасць і знікалі. Яна праявіла настойлівасць і прычапілася да нябеснага настаўніка. Настаўнік расталкаваў, што адназначнага адказу не існуе; мае значэнне ступень дэградацыі і яе прычыны, а слова “цалкам” не канкрэтнае. У самых горшых выпадках, калі душа загубленая пры жыцці, яна на тым свеце проста ідзе ў распыл. Н. засмуцілася. Вакол яе хапала блізкіх людзей, хто мог заслужыць такі бясслаўны фінал.

Н. вырасла ў звычайнай, не самай горшай сям’і, не ведала холаду і голаду, але ёй страшэнна не ставала маральнай падтрымкі. А найбольшая прэтэнзія яе тычылася таго, чаму яе ніхто нічому не вучыў. Яна была здольнай дзяўчынкай, усё лавіла на ляту, а ў дарослым жыцці рабіла сотні недарэчных памылак у стасунках з людзьмі. Маці выконвала ролю бацькі, а бацька быў далёкім і абыякавым. Усё спазнавалася метадам “тыку” – цаной гузакоў на ілбе. У душы Н. доўга заставалася недалюбленым, не паважаючым сябе дзіцем, пакуль сама сабе не стала і мамай, і бабуляй.

Чаго было больш у жыцці – добрага або кепскага – Н. так і не вызначыла. Яна прымірылася з усім, што выпала перажыць. Усё прыняла, зрабіла высновы, падвяла вынікі, і вось яна ў першай лізе. У першай, але не вышэйшай, дзе збіраюцца прарокі, праведнікі і святыя. Няма межаў дасканаласці, і пра святасць лепш не будзем.

Цікава, ці пазнае яна кагосьці са свайго “кошыка” ў новым, наступным існаванні? Не факт, што вокал будуць толькі сябры. Могуць на шляху сустрэцца людзі, ад каго трэба бегчы не разбіраючы дарогі. Н. спадзявалася, што яна іх пазнае. Напрыклад, былы муж прыйдзе рамантаваць кран. Яны пераглянуцца, падзівяцца гэтым недарэчным пераглядкам, але не болей (свят, свят, хай Бог крые!). Каго хацела б зноў бачыць каля сябе – сваіх дачок, сваіх крывінак, якія сталі сэнсам і апраўданнем няўдалага, стрэсавага шлюбу.

– Нумар сем! – гукнуў анёл. Н. схамянулася. Перад яе ўнутраным зрокам пранесліся малюнкі новага жыцця: яе народзіць незамужняя мастачка, якая “заляцела” ад мэтра і без пяці хвілін класіка. Дзяўчынку

змалку прывучаць да малявання. У шэсць гадзікаў яна пашкодзіць ножку. У 15 гадоў яе згвалцяць аднакласнікі пад наркатой. Усе маладыя гады будуць атручаны крыўдай на Усявышняга і невыносным пытаннем “За што?!!” Пакуль яна не зразумее, што гэта чарговая ілюзія – думаць, што мы заслугоўваем толькі добрага і прыемнага.

Ага, уцяміла яна, застаўся апошні рубеж – гардыня. Што ж, яна пройдзе і яго. Яна г а т о в а прайсці.

Анёл паўтарыў: “Нумар сем, вы прынялі рашэнне?”

Н. азірнулася, злавіла прытоены позірк тувінца (пазнаў і ён!) і ступіла да прасвету, як ступае парашутыст да люка самалёта. Усё, што ёй адкрылася за міг да інкарнацыі, яна надзейна забудзе і стане чыстым лістом паперы. Як і ўсе.

Дзень добры, будучыня!

*29 мая – 2 чэрвеня. Друскенікі.*



Андрэй Хадановіч



...добрая метафара буржуйскага грамадства:
фешэнебельны басейн з усімі выгодамі –
і лёгкі пах серы па-над ім...

# Гейзер. Вясёлка. Барселона

## *МЫЛЬНАЯ ОПЕРА*

Паэт прыручае вясёлкі.
Выходзіць мыльная бурбалка:
шуміць караванам у вушка іголкі
і пахне дзіркай ад бубліка.

“Вясёлка”, – думае публіка.

## *ГЕЙЗЕР, ЯКІ ЗАЎСЁДЫ З ТАБОЙ*

### *1. У чаканні Г.*

Як яны пазнаёміліся?
Вельмі проста. Разам чакалі гейзера.

Адзін папрасіў другога,
каб той яго сфоткаў,

калі гейзер пачне вывяргацца,
а потым яны зробяць наадварот.

У першага быў яблык на планшэце
і нейкае таксама расліннае імя.
Другі меў фотакамеру
з імем праваслаўнага патрыярха.
Ясна, што славянін.

*– Ты чуеш, нешта булькае.*
*Зараз-зараз.*
*Павінен выбухнуць.*

Адзін навёў камеру,
другі прыняў карцінную позу,
чакаюць.

Мінае трохі часу.
Нічога не адбываецца.

– А ты ўпэўнены, што ён увогуле працуе?
– Так, казалі, кожныя сем хвілін.
– Мы чакаем пятнаццаць.
– Ну, можа, завіс.
– Гэта ў цябе мазгі завіслі. Хадзем у аўтобус.

*– Не, чуеш, нешта булькае.*
*Зараз-зараз.*
*Павінен выбухнуць.*

Рукі мёрзнуць. Ногі мёрзнуць.
Спіна здранцвела.
Палец здранцвеў на кнопцы.
Акуляры закапала дажджом.
Вочы слязяцца на ветры.

– Бачыш, пара ідзе.
– Так, вадзічка, відаць, цёпленькая.
– Як дома ў ванне... А тут гэты дождж.
– Так, я зараз бы прыняў ванну.
– Слухай, хадзем ужо, нічога не будзе.

*– Не, чуеш, нешта булькае.*
*Зараз-зараз.*
*Павінен выбухнуць.*

– Слухай, а на колькі мы ўвогуле спыняліся.
– На паўгадзінкі.

– Дык яны даўно скончыліся.
– Што?
– Што чуў. Наш аўтобус пайшоў.
Ці зараз пойдзе.
А я застануся.
У чужой краіне.
З прыдуркам, які нават гейзер сфоткаць не можа.
Хутчэй пабеглі!

*– Чакай, чуеш, нешта булькае.*
*Зараз-зараз.*
*Павінен выбухнуць.*

Дождж узмацняецца. Вецер таксама.
Парасон вырывае з рук ветрам.
Пры спробе злавіць парасон
падаюць і разбіваюцца акуляры.
Пры спробе злавіць акуляры
падае й разбіваецца камера.
Пры спробе злавіць камеру таварыша
падае й разбіваецца планшэт.
Пры спробе злавіць планшэт
падае таварыш.
Пры спробе злавіць таварыша...

*І тут гэты... ну гэты... на г...*
*нарэшце выбухае.*

### *2. Грыба-кіт*

Глядзець на кітоў – як хадзіць у грыбы.

Трэба ведаць спецыяльныя кітовыя месцы,
мець добры зрок і выдатную інтуіцыю,
якая падкажа, калі паварочваць назад,
бо нічога няма і ўжо не будзе.

Але галоўнае –
зыркі чырвоны камбінезон,
каб кіты бачылі грыбніка здалёк
і плылі яму насустрач з радасным крыкам:
“Глядзі! Я тут! А цяпер тут!
Ды не там, а тут, дубіна!”

Падгляданне за кітамі – сур’ёзны спорт.
На тваім кацеры нават ёсць каментатар.

Сядзіць зверху і крычыць у мікрафон,
паказваючы напрамак, у які глядзець,
прычым у гадзінах,
з першай па шостую – глядзець направа,
з сёмай па дванаццатую – налева:

– тры гадзіны, за дзвесце метраў!
– дзве гадзіны, за сто метраў!
– адна гадзіна, за пяцьдзясят метраў!
– дванаццаць, эх, прайшоў пад самым носам,
а вы ўсе зноў аблажаліся!

Нагадвае падарожжа ў часе,
прычым супраць стрэлкі гадзінніка,
да самага дзяцінства, калі ты хадзіў у грыбы
без спецыяльнага камбінезона.

Злева па борце вялікі масляк
за дзвесце, сто, пяцьдзясят метраў,
ай, халера, знік разам з грыбніцай,
перш чым ты зрэзаў яго
сваёй фотакамерай, дубіна!

Да таго ж яшчэ карабель канкурэнтаў,
а ў іх і аб’ектывы даўжэйшыя,
і кабінезоны такія зялёныя,
што грыбы губляюць усякую асцярожнасць!

Справа па борце,
разам асядлаўшы хвалю,
касяком ідуць апенькі.

А паабапал ababкі,
а паабапал ababкі,
а паабапал ababкі...

Толькі напрыканцы,
калі ты ўжо амаль страціў надзею,
вялікі сіні грыб на секунду
паказаў табе сваю шляпку –
і развітальна пляснуў ножкай
па хвалях ісландскага моху.

Зноў не пашанцавала.
З тваімі здольнасцямі – толькі ў ягады.
Або глядзець на цюленяў.

Уночы табе прысніцца
гіганцкі баравік
з мапай Грэнландыі на шляпцы,
па якой будзе плысці
чырвоны, як твой камбінезон, кіт –
і пускаць гейзеры.

Твая фотакамера абудзіць увесь дом.

### *3. Музей фаласаў*

Спецыяльна для маралістаў можна пачаць так:
у прынцыпе, я не збіраўся туды ісці,
але ўсе іншыя музеі зачыняліся а пятай,
а гэты працаваў да шостай.

Вось бачыце, памер
(нават працягласць працоўнага дня)
усё-ткі мае значэнне.

“Не, гэта не музей філалогіі,
а музей фалалогіі”, –
цярпліва тлумачыць субтыльнай бабульцы
здаравенны мужык на ўваходзе.
“Якая розніца?
А вы заходзьце і самі ўсё ўбачыце”.

Адказу бабулькі не чуваць
праз выбух жаночага смеху ў музеі.
Ну і як тут было не зайсці?

Як я і думаў,
я быў тут адзіным наведнікам-мужчынам.
І адзіным, хто не смяяўся з кожнага экспаната.

“Не, ну ты глядзі, – рагоча адна. –
Гэтая доўгая штука на сцяне –
фалас кіта-забойцы!”
“Трапна адзначана, сапраўдны забойца”, –
адказвае другая.

Ёсць, дарэчы, і больш мірныя пенісы:
кашалотавы, цюленевы й нават маржовы.
(Так, менавіта ён!)

Сіні кіт, гарбаты кіт, белабокі дэльфін...
За пяць хвілінаў я дазнаўся пра іх нашмат больш,
чым учора, паўдня ганяючыся за імі па акіяне.

Коні, быкі, сабакі, нават адзін ангелец
1971-га года нараджэння –
акт дарэння музею далучаны,
так што рана ці позна (дай яму Бог здароўя!)
музей папоўніцца новым экспанатам.

З некаторымі хочацца паразмаўляць па душах,
як з чэрапам Ёрыка,
спытацца, што яны бачылі ў сваім жыцці,
на якія свавольствы й выдумкі былі здатныя,
перш чым апынуцца заспіртаванымі ў слоіку
аб’ектамі дурацкіх насмешак,
трасца, зноў яны рагочуць,
няўжо мне аднаму тут нявесела?

Цяпер прыдалася б пуэнта,
патаснае заканчэнне без ідыёцкіх жартаў,
але ў вершах маёй краіны
шмат вядзецца пра хлеб і пра матчыны рукі,
і пра бацькавы рукі, таксама пра дзедавы рукі,
што мужна трымалі зброю,
дзякуй, мы помнім пра зброю,
толькі пра хер там няма ні хера,
быццам бы нас рабілі пальцамі рук...

Вось жа, пакойцеся з мірам, фаласы ў фармаліне!
Вашыя гонар і слава – у вашых нашчадках,
юных, прыгожых і жорсткіх, як гэта зямля і мора,
*orcinus orca*,
*balaenoptera musculus*,
*phocoena phocoena*
і *homo erectus*, *erectus*, *erectus*!

### *4. Блакітная лагуна*

*И понял я, что я в аду.*
У. Набокаў

Ніколі не ведаеш,
хто зараз вынырне з густое пары
па-над гарачай салёнай вадой:

морж,
цюлень,
падводная лодка,
скандынаўскі Вергілій з балканскім Дантэ,
гішпанскі турыст-пікапер,
дзядуля ў вязанай шапачцы,
бабуля з пластыкавым кухлем піва;

можа быць, ты сам у сіліконавай масцы на твары –
нанесці на сухую скуру,
а праз 5-10 хвілінаў змыць;

ці апостал нейкай новай канфесіі –
хры́сціць гарачай парай і рыбіным тлушчам,
дзеткі растуць здаровыя, моцныя
і ўстойлівыя да любых рэлігійных уплываў.

Станоўчых і адмоўных персанажаў
адрозніваеш толькі па тым,
як згушчаецца ці знікае пах серавадароду.

Твой знаёмы лявак сказаў бы,
што гэта добрая метафара буржуйскага грамадства:
фешэнебельны басейн з усімі выгодамі –
і лёгкі пах серы па-над ім.

Так, свет заўсёды й паўсюль быў такі:
каму пад душ,
каму на масаж,
каму маску на твар,
каму ў саўну,
каму ў гарачую пару,
каму халоднае піва проста ў басейне...

А ў самым канцы –
прад'яві, калі ласка, на выйсці
бранзалет з электронным датчыкам.

Кожны праведнік
атрымлівае ад апостала
шампунь і вялікі ручнік,
зручны халат і фен,
а галоўнае – ключ ад шафы
з сухімі і цёплымі рэчамі,
у якіх сядзе ў камфартабельны аўтобус
і паедзе туды, дзе найбліжэй да неба,
дзе яму ўключаць паўночнае ззянне
з бясплатным вайфаем,
каб фоткі – адразу ў фэйсбук.

Кожнага грэшніка,
мокрага й голага,
выпхнуць на вецер з дажджом і снегам,
без грошай і дакументаў,
без айфона й айпэда,
без тэрмаса й малітоўніка,

без алоўка й нататніка,
каб хоць неяк занатаваць
усю гэтую трасцу.

### *5. Гейзер, які заўсёды з табой*

Не, гэты верш не пра фаласы.
Гэты верш пра паэтаў.

Я вярнуўся да гейзераў,
як злачынца на месца злачынства.
А там ужо чакаюць некалькі знаёмых паэтаў,
якіх я фатаграфую і якія фатаграфуюць мяне.

Паэты ж – яны таксама людзі,
таксама любяць фатаграфавацца ля гейзераў.
І нават больш за іншых людзей.

Бо ў кожным гейзеры паэт бачыць калегу.
Уважліва й раўніва прыглядаецца,
прыслухоўваецца,
прынюхваецца,
асцярожна распытвае пра яго:
ці часта выбухае?
і якой моцы выбухі?
як доўга ўжо не выбухаў?
ці чакаецца новы прыступ актыўнасці?
і ўвогуле, ці жывы ён яшчэ?

Зайздросны цытуе:
“Калі ў цябе ёсць фантан, заткні яго”,
але моўчкі,
бо тое ж могуць сказаць і пра цябе.

Дысцыплінаваны раздражняецца:
мог бы пускаць свае фантаны
паводле раскладу, хвіліна ў хвіліну,
праз рэгулярныя інтэрвалы,
каб добрыя людзі не мучыліся,
чакаючы невядома чаго.

Толькі жабрак,
які пад’ядае разам з коткаю і сабакам
рэшткі ежы з мясцовага рэстарана,
цешыцца, дапіваючы піва,
недапітае кімсьці з японцаў,
сабе пад нос прамаўляючы тост:

“За падземную музу,
якая хоць зрэдку казыча яйцы
гэтым старым пердунам!
І яны хоць крыху, хоць кепска,
але яшчэ могуць даць чаду
і не дазволяць астыць ні кухоннай пліце,
ні дурненькім сэрцам турыстаў,
якія на гэта дагэтуль вядуцца,
вядуцца й не пераводзяцца,
і ўсё гэта неяк круціцца –
і я, і гандляр сувенірамі,
і гід, і кіроўца аўтобуса,
і ўвесь турыстычны бізнес Ісландыі,
не кажучы пра планету”.

*верасень 2013, Рэйк’явік*

## *БАРСЕЛОНСКІЯ СНЫ*

### *1. Крэсла*

*вершык для турыстаў і пурыстаў*

У падобным да батанічнага саду
ўніверсітэцкім дворыку
дазволіў сабе ўсміхнуцца
з выразу “стул Гаўдзі”,

за што быў адразу ўджалены
проста ў вока
снобскай каталанскай мошкай,
якая мела свой погляд
на чысціню беларускай мовы.

### *2. Кожны чацверты барселонскі голуб*

Кожны чацверты барселонскі голуб –
папугай.
Кожны трэці – партовая чайка.
Кожны пяты – малюнак Пікаса,
што лётае па горадзе,
покуль музей зачынены.

Папугаяў лёгка адрозніць
па гучных крыках:
*“Rebaixes! Rebaixes!”*[1]

---

[1] Rebaixes – зніжкі (*каталанск.*)

### *3. Музей эротыкі*

Чайка з паветраным змеем
высока над хвалямі
вынаходзяць усё новыя позы
для паветранага пацалунку.

А я, нахлябтаўшыся
міжземнаморскай вады,
шчыра крычу ім:
“Горка!”

### *4. Барселонскія сны*

– Мама, хадзі паглядзі,
што мне прыснілася!

– Зранку пакажаш.

– Зранку ў меня бяссонніца!

### *5. Парк атракцыёнаў*

*Толькі паглядзі на Святое Сэрца*
Л. Коэн

Высока-высока,
на самай гары Тыбідаба,
вышэй за ўсю Барселону,
вышэй за вінтажны блакітны трамвай,
вышэй за фунікулёр
і бязбожна завышаны кошт на яго,
вышэй за кола агляду
з усім гэтым смешным паркам атракцыёнаў,
вышэй за свайго ганарлівага цёзку,
парыжскі храм Сакрэ Кёр,
вышэй за сваю ганаровую варту,
апосталаў на галерэі ля вежаў, –
стаіць, узносіцца, ззяе.

А ты, што забраўся вышэй за каменных апосталаў,
ледзь не да верху, да Збаўцы,
таксама ззяеш ад шчасця,
а потым – глядзіш і разводзіш рукамі:
які недарэка даўмеўся паставіць гэтае кола агляду,
гэты чырвоны стары самалёцік на палачцы,
гэтыя рускія (амерыканскія) горкі –
проста перад бажніцай Святога Сэрца?!

І раптам усё разумееш. Каб кожны
убачыў свой парк з адпаведнае перспектывы –
залезшы высока на галерэю,
глядзеў на маленькае, смешнае кола агляду,
і толькі разводзіў рукамі,
бо ўласнае кола агляду пашырылася ў разы:

яшчэ не выходныя, але публікі – не прадыхнуць,
наведнікі храму здзіўлена бачаць парк,
а наведнікі парку – храм,
хлапец задзірае дзяўчынку,
а вецер – яе сукенку,
рускі (ці амерыканскі) турыст
зараз зваліцца з амерыканскіх (ці рускіх) горак,
вагончык робіць віраж,
самалёцік на палачцы круціцца,
дзеткі шалёна крычаць,
але ўрэшце, як гэта ні дзіўна,
усё абыходзіцца.

Збаўца разводзіць рукамі.
Ніхто не разбіўся,
а сэрца б'ецца.

*ліпень 2014, Барселона*

Сяргей Рублеўскі



...у нас здавён не любяць "мондрых",
не такіх, як усе...

# Адыходнікі

***Апавяданне***

Не так даўно было ажывіліся мае аднакласнікі: пачалі тэлефанаваць, ліставаць па электроннай і звычайнай пошце ды запрашаць на сустрэчу. Вырашылі пасля больш як сарака гадоў сабрацца разам, трошкі выпіць, пагаманіць, успомніць залатыя дзянькі дзяцінства ды юнацтва... А найперш дзеля таго, каб пахваліцца адно перад адным, хто чаго дамогся: якую дысертацыю абараніў, якую кніжку напісаў, на якую пасаду праціснуўся, колькі дабра нагроб – ці хопіць хаця б на пару пакаленняў нашчадкаў... Вечны сярод людзей кірмаш славалюбства і фанабэрыі. Тым больш, што пад ісподам яго – такі ружовенькі падбой, сатканы са світальных гадочкаў. Лёгка можна ўявіць, як прыхінуліся галовамі за столікам даўнія школьныя сяброўкі ды, нібы на ўроку, пачынаюць перашэптвацца:

– А Віценька наш, паглядзі, як быў здыхляком, так і застаўся. Скура ды косці. Хоць бы трошкі чэраўца адгадаваў...

– Здыхляк, здыхляк, а жонку штогод то ў Егіпет, то ў Турцыю возіць пагрэцца на марскім пясочку...

– Адкуль ты ведаеш?

– Светка казала. У гэтай усё адно як картатэка на нашых мальцаў заведзеная...

– А Людка, паглядзі, якая глюма... Уся ў "Габане", не дзіва – трэці раз замужам...

– Ідзі ты!

– Я табе кажу.

– А гультаёза наш, Федзечка, доктар філасофскіх навук...

– Таму і філосаф, што лены...

І так доўгімі языкамі па ўсіх костачках.

Я адмовіўся сустракацца. І не толькі таму, што не люблю бабскіх размоў ды пустога, заброджанага на дражджах славалюбства выхвалення. Не толькі з боязі, што, падпіўшы, тузанеш, дуротнік, каторую аднакласніцу за коску, а ў руцэ – пасмачка рэдкіх ссівелых валасоў... Паўночы не заснеш, як у юнацтве пасля фільма жахаў.

Не толькі...

***

Яшчэ ў дзяцінстве слабым розумам я зразумеў, што слова "адыходнік" прылеплена да не надта каб прывечаных у калгаснай грамадзе людзей. Усе людзі як людзі, граблі, касу, лейцы, вілы, серп, пілу ці рыдлёўку – на плячо і шыбуюць на брыгадны двор, а гэты, асядлаўшы веласіпед, – у мястэчка ці ў гарадок бліжні – на "прэдпрыяціе". Ды і запозна, калі ўжо сонца высока, а раса "ляжыць" у пракосах. А ўвечары, калі яшчэ ўсе ў полі, адыходнік з мяшком і коскай, коцячы веласіпед, сунецца па ўзмежку адкасіць кароўцы дзятліны на вечаровую падкормку. Не са свайго агарода, у калгаснае залезе... Дарма што бацькі яго працуюць у брыгадзе, а ўсё адно нялюба. Ды і жыве багацей за калгаснікаў, хоць і лягчэй працуе. Вунь ужо матацыкл сабраўся купляць... Адыходнікі вытыркаліся па вёсках, як калівы пустазелля ў роўным жыце. У крайнім выпадку, для некаторых калгаснікаў той пары гэтае параўнанне не здалося б перабольшваннем. У нас здавён не любяць "мондрых", не такіх, як усе.

У ліку двух-трох вясковых адыходнікаў быў і мой родны дзядзечка Цімафей Юстынавіч. Рабілася трохі непамысна, калі яго называлі "адыходнікам". Як такім ганарыцца? Гэта ж не тое, што мой татулька, які выкошвае аж па 60 сотак за дзень, а вазы сена ці снапоў жыта ўкладвае пад неба, так, што ўся вёска дзівуецца – як сабе дамоў. Праўда, гэта не замінала мне падчас радзіннага сумоўя захапляцца сваім дзядзечкам, такім дасведчаным і прыхільным. Ён жа іншым разам браў мяне з сабой нават пчол даглядаць, дазваляў падзьмухаць на кусліўцаў дымаром, частаваў свежымі сотамі... Да таго ж якраз ён збіраўся купляць матацыкл ІЖ-49...

Толькі ў юнацтве я трохі дакумекаў, чаму наш Цімох не такі, як іншыя. У 1944 годзе яго, шаснаццацігадовага юнака, ураджэнца Ушацкага раёна падчас блакады немцы разам з дзедам Юстынам вывезлі ў Германію. Жылі ў канцлагеры, а ўдзень на працу іх забіраў які-небудзь баўэр. Вось там Цімачка, малец з вушацкай глухмені, і нагледзеўся на больш цывілізаванае жыццё. А тут яшчэ ў заморанага няволяй сэрца пачало зацiскаць... Дык

пасля вайны ён пачаў падшукваць лягчэйшую работу – зусім зламаўся б ад калгасных прыпараў.

Дзядзька ўладкаваўся на электрастанцыю ў ваенным гарадку N, які месціўся кіламетрах за сем ад нашай вёскі. А дзеці адыходнікаў, каб вы ведалі, ужо ад нараджэння таксама адыходнікі, не помню выпадку, каб каторы з іх прыбіўся ў калгас.

Калі маёй стрыечнай сястры Валі пасля заканчэння пачатковай школы прыйшла пара вучыцца далей, дык не дзіва, што Цімка аддаў яе не ў Каменскую сярэднюю школу, дзе вучылі па нашаму, па вясковаму, а ў N-скую, дзе, можна сказаць, выкладалі настаўнікі з усяго свету. Гэта ж былі жонкі афіцэраў, якія вандравалі са сваімі мужамі па вайсковых гарадках, раскіданых па бязмежных прасцягах Савецкага Саюза і Усходняй Еўропы.

Разам з Валяй пайшла ў прэстыжную, на думку майго дзядзькі, школу і мая родная сястра Аля. Першыя ластаўкі вылецелі, за імі – уся чародка.

Пасля маіх сёстраў ніхто ўжо з нашай вясковай дзятвы не хадзіў са школьнымі партфелямі ў Камена, як у нас называлі вёску Камень, нібыта бацькі, усе да аднаго, вырашылі зрабіць сваіх сыноў і дачок адыходнікамі, змалку рыхтаваць да гарадскога жыцця.

Надышла і мая пара ісці ў пяты клас. “И вспомнишь деревню Николу, где кончил начальную школу...” А Чарэйшчыну дык і наогул нельга забыць і на імгненне: распеўны голас першай настаўніцы Антаніны Канстанцінаўны, дзякуючы якой здавалася, што беларускія слоўцы вечна былі і будуць на белым свеце; выпетраныя бярвенні сцен школкі-хаты, такія ж цёплыя на сонечным прыгрэве, як і ў сваёй роднай; радасць прагляду дыяфільмаў у зацемненым калідорчыку, які, як высветлілася, выводзіў наўпрост да экранаў вялікага кінематографа; поклічныя гукі горна, якія, калі пастарацца, паддаюцца і табе, дарма, што потым губы ад муштука баляць – радасць мацнейшая, чым боль; кашлатую сасну на панадворку, а на ёй – буслянка з аселым у сухіх, нанесеных дзюбатымі птушкамі галінках, клёкатам... Усе мы ведалі, што па вайне тут было фрыцаўскае “гняздо”, з якога яны азіралі ў бінокль наваколле і высочвалі партызан. Фрыцаў мы не любілі, а буслоў – вельмі. Чарэйшчына... – на якой мове выгукнеш гэтую назву, апроч як на беларускай!..

І вось з усім гэтым давялося развітвацца ў думках, стоячы на нязвыкла вялікай лінейцы на школьным двары ў ваенным гарадку. Дзіўна, але яснае сонечнае надвор’е не развейвала, а толькі шматкроць павялічвала мой сум і незразумелую трывогу.

А тады мы ўвайшлі ў клас... Прасторны, з вялізнымі вокнамі, непрывычна доўгімі радамі партаў, з чыста выбеленымі сценкамі, ад якіх, здавалася, голас будзе адскокваць, як мячык...

Калі ўсе ўвайшлі, наш новы пакой напоўніўся воклічамі ды шчабятлівымі галасамі, як перапоўненая шпакоўня. Словы так перамешваліся, блыталіся, што немагчыма было вылучыць з іх які суладны ланцужок. Да таго ж словы, як стракатыя мятлікі на лузе, здзіўлялі сваім нязвыклым, а здавалася спецыяльна прыдуманым для гэтага святочнага дня гучаннем. Нашыя Паўліна ды Аніся на гулянках з брыгаднай прэміі па выніках года пераапраналіся ў “кловунаў” ды вычмуралі, прыдумвалі розныя сцэнкі, весялілі людзей на такі ж манер – “ламаючы” свае языкі.

І вось мы, вясковыя, агаломшаныя і зніякавелыя, туліліся ў класе да сцяны, пераступалі з нагі на нагу, нібы сарамлівыя хроснікі, якія прыйшлі

на Вялічка да матусі па ласункі і маўчаць у чаканні, сумна пазіраючы адно на аднаго. Не такія, як усе. Касцюмчыкі, купленыя навырост, на нас сядзелі мехавата – калі іх было падганяць ад цямна да цямна занятым на працы маці; прычоскі не ў цырульні даведзеныя, а ў хаце Міронава Івана, які ў свой час прывёз з пераможанай Германіі адмысловую машынку: абалваненыя галовы – толькі чубкі тырчаць... На нас хутка звярнулі ўвагу ды пачалі абступаць і чапляцца новыя аднакласнікі.

– Деревня приехала... Теперь они нашу успеваемость вниз потянут... – заклапочана перамовіла адна белабрысая невысачанькая дзяўчынка з вялізнымі белымі бантамі на галаве.

Пачалі ўсё бліжэй і бліжэй падыходзіць хлопчыкі, тузаць за рукавы: “Что за форма такая?” – дражніцца, штурхацца...

Я, лепшы вучань пачатковай школы, не вытрымаў і счубіўся з адным хлопчыкам. Усе ў адзін момант пасталі наўкруг і, здавалася, толькі гэтага і чакалі. Мы хапалі адзін аднаго за рукі, плечукі, імкнучыся крутануць як след ды паваліць суперніка на падлогу – я, зялёны клоп, з геномам патомнага хлебароба і такі ж самы клоп, толькі больш укормлены і таму не такі зялёны, з геномам, адпаведна, патомнага воіна. У адно імгненне яму раптам удалося ўзяць у абшчэп маю шыю ды зрабіць мёртвы замок з рук, каб не вырваўся. Наваспечаны аднакласнік пачаў з такой балючай сілай сціскаць яе, што я забаяўся: лёгка можа зламаць пазванкі, як чараціну, і галава будзе матляцца, нібы прышытая ніткамі... Ад страху, болю, заціснутага дыхання я ўпаў вобзем, і задаволены крыўдзіцель адпусціў мяне са сваіх абдоймаў, хуценька ўзняўся ды пачаў абтрасаць сваю навюткую вопратку. Тое самае за ім пачаў рабіць і я, толькі марудліва і неахвотна, як звычайна робяць агаломшаныя нечаканай і таму яшчэ больш крыўднай паразай. Але гэтая запаволенасць паспрыяла майму назіранню за дзяўчаткамі, якія былі галоўнымі гледачамі нашага гладыятарскага двубою. О, як яны ўсхвалявана плёскалі ў ладкі, як шчасліва ўсміхаліся! “Молодец, Саша! Так ему!..” Як потым высветлілася, гэта былі ў асноўным выдатніцы. Няўжо і сапраўды моцна перажывалі, што я сапсую іх статыстыку паспяховасці?

Якраз гэтыя воплескі і ўсмешкі ўкалолі маё сэрца атрутнымі іголкамі куды глыбей, чым дзіцячая крыўда паразы. Апроч таго, якраз тады я, зялёны клоп, успрыняў іх паводзіны чамусьці як вялікую здраду, хоць і не быў з імі яшчэ знаёмы.

А з Сашам мы даволі хутка памірыліся і калі не пасябравалі, дык займелі таварыскую прыхільнасць адзін да аднаго, а ён потым пры кожным зручным выпадку і паддобрываўся да мяне, бо, сярэдні вучань, даволі часта спісваў задачкі па матэматыцы.

З пачаткам вучобы мы, вясковыя хлопчыкі і дзяўчаткі, пакрысе пачалі прызвычайвацца да новай школьнай рэчаіснасці: ламалі язык з “вясковага” на “гарадскі”, пераймалі некаторыя звычкі аднакласнікаў, больш старанна пачалі сачыць за сваёй вопраткай і абліччам... Але ўсё адно прадонне, якое аддзяляла нас ад афіцэрскіх дзетак, зноў і зноў нагадвала аб сабе на працягу ўсёй вучобы.

Да школы ў ваенны гарадок N мы даставаліся такім чынам: пару кіламетраў пешкі, да бальшака, а там садзіліся ў аўтобус і праз колькі хвілінаў – на месцы. Што тыя сем кіламетраў... Але ж рэйсавы аўтобус мае свой расклад руху, не пад’язджае забраць цябе адразу пасля ўрокаў. Пару гадзінаў даводзілася бадзяцца па гарадку, туліцца каля завуголля

школы або сыходзіць у бліжні лясок, на возера ды там бавіць час да прыходу аўтобуса. Нудотна...

І тады мы пачалі прасіць настаўніцу фізкультуры адчыніць нам спортзалу і дазволіць пабегаць з мячом, пагуляць у баскетбол...

Тоўпімся перад настаўніцкай, таўхаем адно аднаго: “Ідзі ты папрасі ключ у Лідзіі Канстантынаўны...” “Не, лепш ты, цябе яна больш любіць, дык паслухае...”

Пачуўшы нашу гаману за дзвярыма, выходзіла настаўніца і казала:

– Хлопчыкі, вы ж ведаеце, у зале ўжо прыбрана, падлога памыта, а вы ў сваіх чаравіках забрудзіце, наслядзіце...

Мы адчувалі, што ў душы яна спачувае нам, бо сама ж вясковая, непадалёчку ад гарадка з маці жыве, і пачыналі скнарыцца:

– Мы на трошачкі, і знаку не будзе. А чаравікі знімем, у шкарпэтках пабегаем...

– Ну хіба ў шкарпэтках... – не выдаючы аніякіх сваіх пачуццяў, даставала з кішэні ключ Лідзія Канстанцінаўна.

І мы апрамеццю беглі ў залу з мілажальнай радасцю жабрака, які атрымаў яшчэ адну капеечку. Скідвалі з ног чаравікі і, мільгаючы дзіркамі шкарпэтак, насіліся па зале. А хто-небудзь з нас раз-пораз выбягаў у калідор ды пытаўся ў прыбіральшчыцы ці яшчэ ў каго з дарослых, колькі часу, каб не спазніцца на аўтобус. Але заўсёды – хочацца ж нагуляцца – таго часу заставалася ў абрэз і, задыханыя, высалапіўшы языкі, мы беглі на прыпынак.

Бывала, гарэзнікі, мы чым-небудзь назалялі Лідзіі Канстанцінаўне ці яе апаноўвалі якія турботы, цяжарам на душу клаўся кепскі настрой, і тады яна адмахвалася ад нас, як ад дакучлівых мух, і не давала ключа. Дык, гаруючы, ішлі бадзяцца па гарадку.

Калі я ў шкарпэтках бегаў па зале (не будзеш жа штодзень цягаць у школу кеды), дык у маёй, яшчэ зусім не абцяжаранай жыццёвым досведам галаве аднойчы міжволі асацыятыўна згадаліся словы, якія неаднойчы чуў ад бацькоў і аднавяскоўцаў падчас іх размоў пра свой сялянскі лёс: “гарапашнік”, “грабар”, “лапатнік”... N-ская сярэдняя школа дапамагала і мне самавызначыцца з прыналежнасцю да бацькоўскай сацыяльнай “касты”.

Якраз адлегласць, як гэта ні банальна гучыць, найперш раз’ядноўвала нас з аднакласнікамі. Пакуль мы пасля ўрокаў чакалі аўтобус, яны ўжо выходзілі на вуліцу пагуляць: хто з сабачкам, хто з мячыкам, жуючы прыгатаваны маці бутэрброд, – дом жа побач... Збіваліся ў чародкі, гаманілі, а ў наш бок, лічы, і не глядзелі.

А яшчэ ў іх была магчымасць пасля школы наведваць розныя гурткі. Вядома, нам таксама можна было, але тады даводзілася чакаць позні аўтобус, калі ў вокнах ДОСаў (дом афіцэрскага саставу) ужо запальвалася святло.

Я было не ўтрываў, запісаўся ў толькі што створаны радыётэхнічны гурток. Вёў яго капітан, бацька адной нашай вучаніцы. Пананёс у школу кандэнсатараў, электронных лямпаў, транзістараў, іншага непатрэбнага на службе радыётэхнічнага ламачча. На першыя заняткі ён прыйшоў толькі што павячэраўшы, і ад яго, як ад печкі, патыхала смажанай цыбулькай ды атуляльнай цеплынёй...

Пасля заняткаў у чаканні аўтобуса я доўга хадзіў па гарадку і з асаблівай дапытлівасцю пачаў зазіраць у асветленыя вокны. Праз шчылінку ў шторах мне хацелася хаця б адным вокам паглядзець на гарадское жыццё

– якія ў іх там кнігі на паліцах, якія люстры і кілімы, а заадно – і на твары, мусіць жа, у такой утульнасці з іх ніколі не сыходзяць шчаслівыя ўсмешкі... Мне, ужо цалкам перакананаму адыходніку, толькі і мроілася такое, са шчыліны гарадскога вакна жыццё.

Шлях адыходніка быў пазначаны марай-мрояй, а шлях да сябе закруціўся, згубіўся паміж трох ДОСаў, бо нечакана зліплася скручаная ў клубочак пуцяводная нітачка маміных слоў.

А з новых матылькова-пярэстых слоў такая нітачка не сукалася, не накручвалася на маміна верацяно. Хоць я ўсё адно надточваў і надточваў свой працяг выпадковымі, нятрапнымі, перакаверканымі, пазбаўленымі натуральнага гучання словамі. Наперад прамаўляў іх пра сябе, перабіраў каторыя ў памяці, падшукваў лепшыя, а калі выказваў іх услых, дык усё адно збіваўся з тропу. І нават пачаў камплексаваць, што, відаць, не змагу быць такім, як усе. Як усе афіцэрскія, гарадскія...

У дзявятым класе я вельмі ўпадабаў адну трохі малодшую за мяне дзяўчынку – яснавокую, са зграбненькім прамым носікам, усмешлівымі вусенкамі, з акуратна сабранымі грабеньчыкам валасамі, якія пяштотна атулялі яе разумную галоўку... Я пачаў “сохнуць” па Наташы, пры кожным выпадку ловячы позіркам яе промневую постаць. А падысці, загаварыць з ёй так і не наважваўся. Мне ж патрэбны былі шчырыя, шчодрыя словы, не механічна складзеныя па правілах, а якімі наўпрост прамаўляе сама душа. Скарыстаць жа для самага галоўнага і чыстага вымаўлення матылькова-пярэстыя словы я баяўся, як нямко, ахоплены любоўнай дрыжакай, баіцца паварушыць языком, а заіка – адкрыць рот. Баяўся, што афіцэрская дачка, калі і падпусціць да сябе “лапатніка”, дык, як толькі загавару, скрывіць свае вусенкі ў пагардлівай усмешцы: “Деревня!..” Страх у маёй крыві быў гарачэйшым, чым закіпаючыя гармоны. Гармонаў мне было зусім недастаткова. Ад нараджэння я ўсё ж такі чалавек слова... І, як высветлілася тады, ужо закамплексаваны чалавек.

А яшчэ прыгнечвала, нявечыла душу тое, што мае горкія перажыванні адбываліся ў маўклівым звязе з не менш горкімі перажываннямі самой Наташы. Як з цягам часу прыкмеціў па некаторых дробных дэтальках у яе паводзінах, я ёй таксама падабаюся...

А тады яшчэ высветлілася, што нашыя пачуцці сталі заўважнымі і іншым людзям. Аднойчы выкладчыца рускай літаратуры Тамара Максімаўна запыніла мяне пасля ўрока і сказала:

– Сережа, я вижу, тебе Наташа Булычева нравится. Так подойди, поговори с ней, чего ты стесняешься...

І я выляцеў з класа, як на крылах, і пабег да... гаманкой чародкі аднакласнікаў. Я быў шчаслівы, што пачуў гэтыя словы, што маё каханне зусім не змарнела ў душы, а хоць такім чынам, хоць так ускосна, хоць трошачкі зацвердзілася няхай сабе і ў чужых словах. А да аднакласнікаў я пабег таму, што хацелася найхутчэй у іхняй гамане, воклічах, смеху схаваць сваю і ў той жа час толькі што пазычаную ў настаўніцы радасць. Як скнара баіцца, што стане няпоўным, вышчарбленым, калі патраціць лішні грошык, так і я раптам забаяўся цалкам спраўдзіцца, выказацца няўдалымі словамі ў сваіх пачуццях і такім чынам назаўсёды страціць іх.

За цэлы год, які заставаўся да завяршэння вучобы, я так і не змог прызнацца Наташы ў сваім каханні. Толькі наважваўся і наважваўся, колькі разоў пасля ўрокаў заставаўся да вечаровага аўтобуса, кружляў па гарадку,

зноў і зноў падыходзіў да ейнага ДОСа, углядаўся ў асветленае, здавалася, ярчэй ад іншых, акно на чацвёртым паверсе і як невыпраўны дзівак радаваўся сваім перажываннем, у якіх хоць так цепліўся прысак кахання. Аднойчы асмеліўся, падняўся і пазваніў. Дзверы адчыніў Наташын бацька, спытаў, хто мне патрэбны, і сказаў, што яе няма дома... Яе не было дома...

“А можа, гэта няхай сабе не маштабнае, не геапалітычнае, а ўсё ж злачынства супраць чалавечнасці – вось так пакутліва забіваць у сваёй і ейнай душы чыстае, як першы снег, каханне?” – з сумам думаю цяпер.

Я пакорліва прызнаў бы сябе злачынцам, каб з маёй душы знялі яшчэ большы гнёт – вялікі грэх, на які мяне падштурхнула вучоба ў N-скай сярэдняй школе.

Калі класная загадвала нам дастаць дзённікі і запісаць дзень і час бацькоўскага сходу, я рабіў гэта толькі дзеля адводу вачэй.

– Вы же не забудьте заранее показать родителям запись. Я всех их жду! – наказвала нам старанная настаўніца.

Мы дружна запэўнівалі, што не забудзем, у тым ліку і я хітаў галавой – крывадушнічаў, бо даўно вырашыў, што ніколі не скажу матулі пра які б там ні было сход у школе. “Ну калі ёй хадзіць на тыя сходкі, – думаў я, пераконваючы і супакойваючы сябе. – Дзянёчак у полі, а то ў цялятніку падмяняе каторую даглядчыцу. А колькі на сялібе работы: карова, парсюк, гусі, куры... Прыцемкам уходжваецца. Дыхнуць некалі. Ды і што я, двоечнік які, вучуся ж нармальна... А як ёй вяртацца дамоў з таго сходу? Пешкі?..” Супакойваў сябе такім чынам зноў і зноў, хоць і ведаў, што ўсё не так. А калі яно і так, усё адно скажы маці, паведамі! Не казаў ніколі.

Я не мог уявіць, як мая мама з пасівералым тварам, з парэпанымі і ўчарнелымі ад работы рукамі, у плюсовачцы, адзінай старой апранасе на выхад, у спадніцы з “чортавай скуры” ды ў бліскучых (таксама на выхад) гумавых боціках сядзе за парту слухаць настаўніцу разам з гэтымі глюмамі камандзірыхамі ў фасоністых, пачасту купленых за мяжой строях, з “кукламі” на галаве, з наведзенымі памадай вуснамі, з дагледжанымі ў цырульні далікатнымі рукамі, якія зроду не ведалі цяжкой работы...

Але, калі пакласці руку на сэрца, маці шкадаваў я толькі трохі, а больш, атручаны адыходніцтвам эгаіст, думаў пра сябе. Мне хацелася, о, Божа, падобнай на іншых маці: з такога ж утульнага гарадскога жытла, са шчабятлівым вымаўленнем, што мае нямераны запас вольнага часу, смачна пад’еўшай крамнай яды, якая прадаецца толькі ў абнесеным бетоннай агароджай ваенным гарадку... Я не ведаў, чаму камандзірыхі з ахвотай купляюць у нашых вясковых гаспадынь малако і яйкі, якія яны штораніцы прывозяць на прыпынак. Крамнае ж усё смачнейшае! Усё адно як сам д’ябал едкім туманом засціў мне вочы, дурманячым павевам ускружыў галаву, заляпіў воскам вушы, каб я не глядзеў на вясковае жыццё, не ўслухваўся ў звыклыя, як з печы дамашні хлеб, словы...

І я, нібы ў цемры, пачаў ледзьве бачыць сваю матулю, нібы ў глухім лесе, ледзьве чуць яе. Грэх! Які страшны грэх! Не будзе мне даравання і на тым свеце.

***

Калі я вярнуўся з вычварэнскага самавыгнання, і ўбачыў, і пачуў, дык памкнуўся кожным адхуканым з ледзяшоў адцурання словам маліць у матулі прабачэння. У родненькай, самай лепшай настаўніцы нашай мовы,

і ў Антаніны Канстанцінаўны з Чарэйскай пачатковай школы, дзе я быў шчаслівы.

Вы не паверыце, іншым разам на самоце прымерваю на сябе лёс механізатара шырокага профілю як вынік маючай было адбыцца вучобы ў Каменскай сярэдняй школе. А што! Араў бы, сеяў, рабіў хімпраполку, касіў, як той Ясь, канюшыну, убіраў збажыну, кукурузу і лубін, звозіў у прычэпах з поля буракі і бульбу, турнэпс і бручку... І, як заведзена, непрыкмет з поўным прычэпам заязджаў бы і на сваю сялібу, каб скінуць трошкі смачненькага парсючкам і кароўцы, і бычку, вядома, куркам з індыкамі... Калгасы ў нас ад такіх заездаў раней ніколі не бяднелі, а дзе ты, закручаны, як віхурай, сацыялістычным спаборніцтвам, паспееш самаруч усяго назапасіць.

А ўвечары з ласкавай, як ліпеньская рака, жоначкай сядзелі б разамлелыя каля патрэскваючай яловымі дроўцамі грубачкі, усё адно як каля каміна, і пасмоктвалі з гранёных чарачак салодкае чарнільца. А што, не смейцеся. Вунь мой знаёмы прафесар, светлая галава, толькі чарнілам і перабіваецца: і градусаў яму ў меру, і смак па нутру. Тое, што трэба, сваё. І на халеру там нейкае “Бужале”.

Падчас сумоўя мы з жонкай, асалавелыя, улагоджаныя, з замілаваннем аглядалі б родную, старанна адбудаваную хату, у якой, як кажа мая мама, кожны сучок на дашчурцы з табой гаворыць. А на сценах – фотаздымкі дзетак і ўнукаў. І, вядома, мае ганаровыя граматы ў акуратных рамачках пад шклом. Думаю, іх было б шмат. Рупны ж!

А магло б і не спраўдзіцца. Мог бы і пасля роднай школы скончыць фізмат, а тады, адпрацаваўшы толькі годзік на ніве адукацыі, збегчы ў журналістыку, дзесяцігоддзямі пералапачваць цяжкія тоны пустой слоўнай руды і толькі пасля доўгіх гадоў, каб дарэшты не распыліць душу на ветры, узяцца за літаратурную справу...

Няхай бы так і было.

***

На тую сустрэчу з аднакласнікамі, дарэчы, у большасці сваёй годнымі, прыемнымі людзьмі, не пайшоў і мой сябра і аднавясковец Пятрок. Ён, шчаслівец, убярогся, не стаў адыходнікам. Вывучыўся на агранома, доўга кіраваў саўгасам, а цяпер калгас у арэнду ўзяў, фермерскай гаспадаркай аформіў. Амаль усё тое самае, толькі аніякай дзяржаўнай помачы не перападае.

Маленства, залатое, дзе ты?..
Сплыло і ў роднай старане
Задумаў выйсці я ў паэты,
А Пётра ў полі жыта жне...

***

Паехаў надоечы ў родную вёску. Паздымаў замкі з дзвярэй бацькоўскай хаты, парасхінаў фіранкі, нібы расплюшчыў вокны-вочы, павымятаў павучынне з кутоў ды зацепліў грубачку, каб паветра ажыло, з месца зрушылася. Сяджу каля агню, як зачараваны, з месца не магу крануцца, разглядаю пацямнелыя за год бэлькі, дошкі столі, сабраныя ў рамкі фотаздымкі на сценах... Гляджу на сябе, маладога, на нябожчыцу сястрыцу, на сваіх маленькіх дачушак... Люляюць, закалыхваюць сэрца хвалі мілажальнасці.

А ўвечары прыехаў Пятрок, і ў нас адбылася традыцыйная сустрэча аднакласнікаў. Выпілі па грамульцы, пагаварылі. Ад яго я дазнаўся, што ў Каменскай сярэдняй школе (гаспадарка сябра месціцца ў гэтым жа сельсавеце) засталіся лічаныя вучні – і паўсотні не будзе, і яна пад пагрозай закрыцця. Нават з Камена дзеткі пачалі ездзіць на вучобу ў па-ранейшаму ваенны гарадок N. Дарма, што цяпер гэта ўжо не кропка глабальнай стратэгічнай сілы, вучаць тут, як і раней, па-гарадскому, а выпускнікі выбіраюць абыходны жыццёвы шлях, абгінаючы сялянскія лугі і гоні. Але найперш іх выбар зрабілі бацькі. А больш дакладна, яшчэ іх пра-пра-прадзеды. Адыходніцтва! Як жыццёвая пазіцыя, светапогляд, кішэнная філасофія браткоў-беларусаў. Вучыцца там і так, каб лаўчэй было выбіцца ў людзі (прыдумалі ж: не стаць чалавекам, не людзьмі звацца, а выбіцца ў людзі!) – зрабіцца шляхцічам, "дворянином", начальнікам, у рэшце рэшт хоць якім, але гараджанінам. А тое, што душа дзіцяткі, як неапёранае птушаня, выпіхваецца з улоння беларускасці, што заўчасна адрываецца пупавіна, якая нібы шланг, падведзены да скафандра касманаўта ад "сістэмы жыццязабеспячэння", сілкуе яе нязводнай энергіяй роднага этнасу, – каго гэта хвалюе, хто гэта ўсведамляе. Выкрапаецца з ліпкага павучыння комплексаў – дзякаваць Богу, а не – столькі бяды... Жыццё хуткацечнае, перабоўтаецца і так на гэтым свеце чалавеча.

Дзякуючы тату з мамай, амаль няма ў маёй душы зайздрасці да людзей, а ўсё ж цалкам ад яе не ўберагл: адна кропелька зайздрасці, няхай сабе недзе пад ісподам, усё ж такі ёсць. Зайздрошчу пісьменнікам, якія ў школе вучыліся па-беларуску і з юных гадкоў адчулі сваю пакліканасць.

І зайздрасць гэтая не белая, а змрочная і горкая, як плач.

Фелікс Баторын



...Тысячы светаў адбітыя
ў кроплях залевы...

# Яблычны пах цішыні

## *СПРОБА СКЛАДАННЯ ТАНІЧНАГА ВЕРША*

Чаго болей – жуды ці камізму
У пафаснай паэзіі сацыяльнага аптымізму?
Ды праз якую ні глянуць прызму,
Жыццё нам паставіла сіфонную клізму.
Так і носім клізменную харызму
І сябе за локці грызем грызма.

* * *

Па хвалях, як па шпалах, –
За шэры небакрай...
Ты марна нас, прапалых,
Кляцьбою не карай.

На апусцелых пляжах
Халодныя жвіры.

І хто нам шлях падкажа? –
Вакол адны вятры.

І толькі ўзмахі вёслаў
Ды крылаў чарады.
І толькі стылы плёскат
Няўтульнае вады.

У сэрцы рэшткі веры
У вышні патранаж,
Ды супрацьлеглы бераг
Такі ж пусты, як наш.

* * *

Жорсткія гульні дарослых дзяцей
З верай у казкі і прагаю шчасця,
Вы запаўняеце лёсы людзей
Перш, чым у вечнасці людзям прапасці.

## А ДЗЕ Ж ТОЙ ПЛОТ?..

А дзе ж той плот збуцвелы,
Таемны пералаз,
І ў садзе загусцелым
Здранцвелы дрэмны час?

Дзе тая камяніца
І сцежка ля яе,
Дзе мілай завушніца
Згубілася ў траве?

Адкуль над садам гусі
Вяртаюцца дамоў?
Дзе кола, куды бусел
Ляціць з галінай зноў?

А дзе ж той хлопец русы,
Што ў гэты лазіў сад?
Ці, можа, толькі гусі
Вяртаюцца назад?

* * *

Ходзяць паралельна й папярэчна.
Ходзяць развітальна і сустрэчна,

А калі сустрэчна, то па-рознаму:
Лоб у лоб з паглядамі пагрознымі,
З сэрцамі, скрываўлена-паскрыленымі,
Ці інакш – з абдымкамі раскрыленымі.
Я іду, каб стрэцца, людзі, з вамі.
Як не сутыкнуцца нам ілбамі?

### *НЕАЦЭННАЕ І БЯСКОШТНАЕ*

Тое, што не мае цаны –
Альбо неацэннае, альбо бяскоштнае.
Рознае – па-рознаму.
І аднолькавае – па-рознаму:
У розны час альбо розным нам.
А розныя мы ўсе –
І ў часе, і паміж сабою.
Толькі адкуль столькі
Аднолькава безаблічных твараў?

* * *

Тысячы светаў адбітыя ў кроплях залевы,
Што расцякаюцца тысячамі раўчукоў,
Калейдаскопна змяняюцца справа і злева
З безліччу імі імгненна пражытых вякоў.

Людзі дажджу! Павыходзьце з-пад стрэхаў чужыны
Вецер, адмыты ад дыму і пылу, ўдыхнуць.
Чыста адмытыя, лягуць пад ногі сцяжыны,
Што нас урэшце на родным парозе звядуць.

* * *

Яблычны пах цішыні.
Імгненні маўклівых ападаў.
Яблычныя прамяні
Сцежкі спярэсцілі саду.

Птушкі збіраюцца ў шлях,
Памяць пакуюць у клункі.
Яблычны смак на губах –
З вераснем пацалункі.

Віктар Супрунчук



...нехта шукае паратунак у Бога,
хтосьці ў д'ябла,
а нехта – у тым,
што вакол...

# Дачнікі

***Аповесць***

Часопісны варыянт.

## 1

Учора ішоў дождж, і ў агародзе волка. Зямля чапляецца за чаравікі, якія ўжо мокрыя. Шкарпэткі сырыя, і нагам няўтульна. Але я, не звяртаючы на гэта ўвагі, апантана спрабую палоць граду морквы, якую апанавала зелле. Морквіны, як нітачкі, а зелле тоўстае, сакавітае. Дажджы для яго ў радасць, і тое, што сонца мала – не перашкода. "Вось каб гэтак раслі агуркі ці тая ж морква", – думаю я, паныла азіраючы граду, на якой зусім маленькая палоска чыстай ад зелля плошчы.

– Ну і што ты там знайшоў? – чую я ад варот хрыплаваты голас. Ля хаты стаіць Васіль Кандратавіч Макар. Яго ніхто не называе па імені, а толькі па прозвішчы: Макар, Макар... Ён, як заўсёды, у вайсковай зялёнай куртцы. На нагах старыя з сапсаванымі замкамі парудзелыя боты. Твар няголены, сівая шчэць няйнакш тыднёвая. – Пачакай трошкі, хай падсохне зямля. Вырвеш увесь свой ураджай разам з зеллем.

Макар прысаджваецца на калодку, на якой я сяку дровы, крэкча, трымаючыся за сэрца. У вачах у яго запальваецца вясёлы хітраваты агеньчык. Я здагадваюся, пра што зараз будзе гаварыць госць і вырашаю перахапіць ініцыятыву.

– Няма часу байкі баяць, трэба працаваць.

– Дый я пра тое ж, – у Макара выгляд, быццам бацьку пахаваў, цяжка ўздыхае. Аднак сядзіць на калодцы. Мне робіцца няёмка, усё-ткі чалавек зайшоў. Я ж не свіння, каб папрасіць яго пакінуць селішча. Дый раптам самому захацелася пагаварыць. Тыдзень адзін ужо на дачы, здзічэць можна. І шкада мне Макара, шкада. Як мужчына яго разумею. Штосьці ў шафцы ў мяне ёсць. Добра, пасля абеду дапалю граду, а тады траву скашу ля плота і пад яблынямі.

Я наліваю амаль поўную шклянку гарэлкі, на сподак кладу скрылік сала, акрайчык хлеба і цыбуліну. Макар з гонарам прымае пачастунак. П'е гарэлку маленькімі глыткамі. Нават праз сівую шчэць бачна, як ружавее твар, памалу знікаюць маршчыны.

– Учора быў на саракавінах у Казіка, па ягонай маці, – кажа Макар, з апетытам жуючы сала з хлебам. – Дык трошкі перабралі. Ну, ты ж ведаеш Казіка...

Канечне, я ведаю Казіка з вёскі, які на маленькім трактарыку часта праязджае па дачным пасёлку. І жонку яго – Аўдоццю. Яна раней працавала ў магазінчыку. Магазінчык вясной зачынілі, а Аўдоцця пайшла на пенсію. І цяпер ва ўсёй акрузе ні ў адной вёсцы няма крамы.

У Казіка ёсць яшчэ хоць і стары, але на ходу, трактар "Беларус". У свой час паспеў прыдбаць у калгасе, які купіў нейкі магнат, і цяпер па вёсках няблага зарабляе: каму поле ўзараць, дровы прывезці. Дый ці мала патрэбы ў транспарце. А яшчэ побач вялікі дачны пасёлак.

– Глянь, глянь, – паказвае Макар рукой на ўезд на дачы. Збоку ля варот там месціцца крамка, якую з месяц назад адчыніў старшыня праўлення нашага кааператыва Журбіч: вагончык з вялікім белым халадзільнікам. Журбіч, невысокі, хітраваты мужчынка ва ўзросце, з шырокай пляшынай на галаве; казаў, што не ён гаспадар, а жонка. Ёй толькі дапамагае, з прыбытку нічога не мае. Гэтак газеты некалі пісалі пра маскоўскага мэра Лужкова: жонка мільярдэрша, а ён – ледзь не жабрак.

Тыдзень крамка была зачыненая. Цяпер каля яе стаяў грузавы мікрааўтобус, з якога два мужчыны цягалі ў халадзільнік скрынкі з таварам. Прадаўшчыца Клаўка, пухлявая, чырванатварая дзяўчына, іх кантралявала, часам гучна пакрыкваючы. Вецер калмаціў яе доўгія светлыя валасы, гуляў са спаднічкай, якую яна прыціскала да каленяў, пакуль не апранула белы халат.

Нарэшце мікраўтобус зачмыхаў, зароў і рушыў ад крамы. Клаўка нешта закрычала наўздагон кіроўцу, паляпала па плячы аднаго з грузчыкаў і адчыніла вагончык.

– Слухай, – сказаў Макар, аддаючы мне пустую шклянку. – Слухай, ёсць ідэя... Ты бачыў?..

– Што я бачыў?

– Клаўка прыехала. Крама працуе. Мо чырвонец у кішэні знойдзеш? З пенсіі аддам. Ей-богу!

– У мяне ёсць чырвонец, але гэта на білет. Без грошай мяне ніхто не павязе ў аўтобусе.

– Падумаем, Валодзя, штосьці прыдумаем...

Я дастаю з шуфляды схаваную дзясятку, якую трымаю ў рэзерве: хлеба купіць, малака. З сумам гляджу на яе і аддаю Макару. Азіраюся на краму, мужчыны стаяць ля вакна вагончыка.

– Пайшлі, паглядзім, – нацягваю на сябе кашулю, няёмка ж быць паўголым перад Клаўкай. І без таго на мне брудныя, парваныя джынсы, в'етнамкі. Адзеты не на свята, тут усе гэтак ходзяць: пераапранаюцца, калі вяртаюцца дамоў у Мінск. Мне не абыякава, якім мяне ўбачыць Клаўка. Маладая дзяўчына, сімпатычная. Шкадую, многа гадоў за плячыма. Яна кантактная, гаварлівая. Я заўважыў, якімі гуллівымі вачыма глядзіць на яе наш старшыня праўлення. Відаць, забывае, што галава сівая і напалову пляшывая. Зрэшты, кажуць: жанчыны любяць лысых мужчынаў. Іх апошнім часам чамусьці многа з'явілася. І маладых таксама. Мне здаецца, раней столькі не было.

Я нацягваю капялюш на галаву, які некалі прывёз з арміі, калі служыў у Закаўказзі, і мы з Макарам памалу сунемся да крамы. Ужо здалёк пазнаю ў мужчынах, што дапамагалі Клаўцы выгружаць тавар, Паўла, электрыка, і яго пляменніка, рыжага Андрэя. Заклапочаны выгляд у абодвух, пералічваюць грошы. Над імі ў вагончыку стаіць Клаўка, на вуснах усмешка.

– Ніяк не палічаць. Мусіць, у школе арыфметыку не вучылі. Дам я вам за работу "фаўст" чарніла, дам, але больш ні-ні...

– Здароў, хлопцы! – кажа Макар. – Дапамога трэба? Дык мы мігам...

– Дай, Макар, чырвонец, – просіць Павел. – Не хапае.

– Каб у мяне быў чырвонец, я б тут не стаяў, а сядзеў бы ўжо, як пан, за столікам.

Павел стары халасцяк, жыве адзін у маленькай хатцы на пачатку вёскі. Заробак сто пяцьдзясят тысяч рублёў у месяц, за якія адзін Бог ведае ці можна пражыць. Павел жыве, у агародзе нічога не садзіць і з голаду не памірае. Восенню крадзе бульбу, капусту на калгасным полі. На дачы шмат адзінокіх пажылых жанчын, якім дапамагае на агародзе. Так што Павел амаль кожны дзень на добрым падпітку і нават з твару не худы. Вопраткі ў яго хапае. Ад дачнікаў і штаны, і боты, і куртка, кашуля. Усё, што на ім.

Пляменнік Андрэй нідзе не працуе і таксама ашываецца на дачах. Некалі разбіўся на матацыкле, і нібыта хворы. У яго вогненна рыжыя валасы, невыразны твар, глядзіць спадылба, быццам узіраецца ўдалячынь, як шукае нешта. Ён трымае пярэстую торбу, старанна спрабуе ўкласці туды чатыры бутэлькі віна, і ніяк гэта ў яго не атрымліваецца. Рукі дрыжаць, бутэлькі звіняць. Дзядзька выхапіў у яго торбу, кінуў туды яшчэ пачак пячэння. Пасля выпрастаўся, расхінуў плечы і сказаў:

– Хлопцы, мы пайшлі. Час ужо і адпачыць, – ён шпарка пакрочыў праз дарогу ў лес. За ім трушком, не адстаючы ні на крок, пашыбаваў пляменнік.

Яшчэ ўчора Павел ляжаў ля варот у густой траве, сціскаючы ў правай руцэ паўбутэлек віна, і марматыў нейкую песню. Я ішоў з грыбоў і спыніўся ля яго, спытаўся:

– Не холадна?

– Горача, горача, горача... Я самы шчаслівы чалавек. Што яшчэ трэба: неба над галавой, трава пада мной, а ў руцэ віно, – Павел зарагатаў і праз хвіліну ўжо захроп.

Позна ўвечары на дачах пагасла святло. І ніхто не мог адшукаць Паўла, каб уключыў трансфарматар, таму што ён спаў у лесе. Раніцай яго праклiналi, а мая суседка налiла яму шклянку гарэлкi, пакармiла, i Павел капаў ёй агарод.

## 2

Я гэтую дачу прыдбаў выпадкова. Знайшоў у Інтэрнэце аб'яву, пазванiў па тэлефоне i праз тыдзень паехаў глядзець. Гаспадыня была жанчынай сталага веку, з прыемным гладкiм тварам. Як здавалася, з добрымi вачыма, шчырая. Ёй нiбыта было цяжка палоць грады, ездзiць туды-сюды на аўтобусе, хварэла. Дзецi не хацелi нiякай дачы. Муж, выкладчык iнстытута, таксама быў хворы.

Я паглядзеў дачу адзiн раз, другi. Вакол лес, цiшыня, паветра – быццам кiслародны кактэйль. Мне спадабалася лецiшча, але нешта насцярожвала, трывожыла.

Некалi ў мяне была хата ў вёсцы, якую купiў па рэкамендацыi свайго нiбыта добрага сябра старшынi мясцовага калгаса. Усярэдзiне яна была пафарбаваная, сцены аклеены новымi шпалерамi. Я збольшага яе агледзеў, застаўся задаволены i разлiчыўся з гаспадыняй. Праз некаторы час, больш уважлiва азiраючы сваю хату, я праваліўся ля акна: падлога была гнiлая. З грыбам, якi хiтрая гаспадыня замазала свежай густой фарбай. Па недасвечанасцi, магчыма, па нежаданнi займацца, я застаўся надоўга з сваёй сядзiбай. Грыб пад хатай я не змог знiшчыць i вымушаны быў за капейкi збыць новым гаспадарам.

Колькi разоў у жыццi мы наступаем на граблi, але зноў i зноў паўтараем свае памылкi. Я баяўся памылiцца, хоць лецiшча мне спадабалася. Цана таксама была для мяне прывабнай.

У пакоях ляжалi старыя дываны, там-сям выцертыя, яшчэ прыдатныя для карыстання. Канапа, ложкi, мэбля на кухнi – усё заставалася мне. Я прайшоў па хаце i вырашыў браць гэты дамок. Хоць усё роўна мяне штосьцi трывожыла...

Старшыня праўлення кааператыва выдаў мне тоўстую папку з дакументамi, каб я вывучаў свае правы i абавязкi. Дзе i ў якiм месцы садзiў дрэвы, ягаднiкi. Там шмат было напiсана, але гэта мне было не надта цiкава. Я стаў уладальнiкам зямлi i магу вырошчваць агуркi, памiдоры, цыбулю i яшчэ шмат што. Абы хапiла здароўя.

Дождж перастаў, запахла гнiлым лiсцем i грыбамi. Я падышоў да куста ў двух метрах ад дарогi. З-пад ляснога дывана, здаецца, проста з лiсця, на божы свет ля шырокай каржакаватай бярозы настойлiва паўзла шэраватая апенька. Яна была вельмi прыгожая, быццам ягня, толькi што народжанае. Зноў кiсла запахла, нiбыта пазаўчарашнi сiлас, ад якога каровы адварочваюць галовы. Не iнакш хтосьцi на ўчастку раскiдвае кампост.

– Ты шмат сабе дазваляеш... Гэта мая зямля!.. – чуваць голас Ганны Сiдараўны, суседкi з правага боку.

– А ты хто такая?! – крычыць другi мой сусед Аляксей, i ягоны голас ляцiць па вулiцы, чапляючы мяне за жывое. Не люблю сварак. Таму i маўчу, толькi слухаю. Гэта сварацца мае суседзi. Нехта з iх залез на чужы ўчастак. Яны бегаюць з рулеткай i не могуць вырашыць, хто вiнаваты. Гэты канфлiкт цягнецца не першы дзень. І я ўсё чую i бачу. Мне абрыдлi гэтыя крыкi, пастаяная апеляцыя да мяне, быццам я трацейскi суддзя.

Якая мне розніца, хто ў каго забраў пяцьдзясят сантыметраў ці нават метр. Абы мяне ніхто не чапаў. Мая зямля – гэта мая зямля.

На верандзе я бяру тэхнічны пашпарт дачы і ў які ўжо раз чытаю яго, перажоўваючы ў галаве метры і сантыметры шырыні, даўжыні ўчастка, памеры дамка. Ужо і мне здаецца, што ў паперы напісана адно, а ў сапраўднасці – іншае. Чаму туалет суседкі Антаніны стаіць на мяжы майго ўчастка? Калі па законе, ён павінен быць за два метры ад яе. А ці не захапіла і яна частку маёй зямлі? Былая гаспадыня нічога не гаварыла. Але, магчыма, мяне і ашукала? Нядаўна я даведаўся, што яна сварылася з суседам Паўлам, скардзілася на яго ў міліцыю... Штосьці тут ёсць... Так, так...

Я бяру трыццацімятровую рулетку, паперу і аловак. Калі купляў дачу, дык, дурны, не перамераў участак. Чаму гэта не зрабіць цяпер?

– Ты, свінячая морда! – крычыць Ганна Сідараўна.

– Ад свінні чую... – адгукаецца Аляксей. Ягоная жонка яшчэ штосьці дадае, але я не чую.

Дзеля бадзёрасці і ўпэўненасці я раблю добры глыток пякучкі і пачынаю сваю землямерную аперацыю. За плотам сціхаюць, чамусьці змоўклі Аляксей з Ганнай Сідараўнай. Я ўзнімаю галаву ад зямлі і бачу, што суседзі, забыўшыся пра сварку, назіраюць за мной. Металічная лента рулеткі, нібы змяя, выкручваецца, згінаецца, ледзь утрымліваю яе ў руках. І ўсё-ткі вынік ёсць. Шырыню ўчастка вымераў з двух бакоў, запісваю на паперы побач з параметрамі тэхпашпарта.

За плотам па-ранейшаму ціха. Так, па тэхпашпарце шырыня ўчастка трыццаць тры метры. А ў мяне?.. Трыццаць два метры і семдзесят сантыметраў? Дзе астатнія мае сантыметры? Куды яны падзеліся? Значыць, Ігнат, сусед злева, украў кавалак маёй зямлі. Вось табе, Аляксей і Ганна Сідараўна! Я што, горшы, мяне можна крыўдзіць?!. Не, такому не быць. Мяне перапаўняюць ужо эмоцыі. Я махаю рукамі і гучна лаюся.

Аляксей і Ганна Сідараўна стаяць ля плота і ўважліва назіраюць за мной. Аляксей штосьці гукае мне. Але я ўжо вымяраю даўжыню ўчастка, зачапіўшы адзін канец рулеткі за слуп на мяжы нашых з Ігнатам дач. І што я бачу – таксама не хапае пятнаццаці сантыметраў. Не, гэтак больш не будзе. Праўда на маім баку. Калі трэба будзе, разбуру суседскі туалет, знясу іхні плот. Нікому не аддам ні сантыметра сваёй зямлі. Я тут навяду ўрэшце парадак. У сябе на дачы я гаспадар, а не папіхіч. Што ж гэта такое, каб у мяне зямлю кралі. Не, гэтак не будзе.

– Ну, што? – чуецца над маёй галавой голас Ганны Сідараўны.

– І ў цябе непарадак? – задаволена гаворыць Аляксей.

Ім да мяне якая справа? Хай у сваіх агародах спярша зробяць парадак. Зараз яшчэ пачнуць парады даваць, нешта раіць. Мне не трэба іхнія кансультацыі, сам усё высветлю.

Ад мяне недалёка дамок праўлення, куды, заўважаю, нетаропка крочыць Журбіч, наш старшыня.

– Аляксандр Мікалаевіч! – крычу я, спрабуючы яго спыніць, пакуль не дайшоў да сваёй рэзідэнцыі. Нават вухам не павёў, галаву не павярнуў. Ці то робіць выгляд, што не чуе? Я паклаў свой інструмент на ганак і патрухаў услед за старшынёй. Ён ідзе і нешта мармыча сабе пад нос, нейкую мелодыю. Толькі не магу разабраць. Здаецца: “А я лягу, прылягу ля гасцінца старога...” А, можа, і не. Што хоча чалавек, тое і мармыча.

– Мікалаевіч! – зноў гукаю, нібы ў грыбах.

Журбіч спыняецца, узіраючыся некуды за лес, адкуль чуваць шум верталёта, які па некалькі разоў у дзень пралятае над нашымі дачамі, назіраючы за пажарнай абстаноўкай. І я на хвіліну ўглядаюся ўдалячынь, спрабуючы ўбачыць крылатую жалезную птушку.

– Пайшоў няйнакш на райцэнтр, – гаворыць старшыня. – Навошта шуміш? Што здарылася? Што, Макар усю гарэлку выпіў?

– Ды не... Якая гарэлка... – я, збіты з панталыку яго пытаннямі, спачатку злуюся, а потым супакойваюся. Зрэшты, старшыня ён ці не старшыня? – У мяне ёсць да вас, Аляксандр Мікалаевіч, вялікае пытанне.

– Ажно вялікае... – здзекліва ўсміхаецца Журбіч. – І доўга яно ў цябе спела?

– І вырасла, і паспела. Бачыце, дзе мой участак?

– Бачу, чаму ж не...

– Дык я хачу даведацца, чаму ў мяне ў тэхнічным пашпарце напісана адно, а ў сапраўднасці зусім другое?

– Не разумею. Якое дачыненне да гэтага маю я? – гаворыць Журбіч. – Нешта ты заблытаўся, альбо з Макарам лішку выпіў.

– Ды не. Проста я перамераў свой участак і высветліў...

– Ну і што? – Аляксандр Мікалаевіч ужо смяецца і па-сяброўску ляпае мяне па плячы. – Што ты высветліў?

– Ігнат залез на мой участак і забраў сабе паўметра зямлі. Хто даў яму такое права?

Журбіч зморшчыўся, нібыта з’еўшы кіслы яблык альбо лімон. Ягоны твар крывіцца, і нават вочы заплюшчыліся ад маіх слоў. Я маўчу, і старшыня маўчыць, потым глядзіць на мяне, сціснуўшы вусны ў тонкую, бы лязо, лінію.

– Вы што, звар’яцелі ўсе? Больш рабіць няма чаго?

– У якім сэнсе? Я падлічыў, памераў...

– Ты, Валодзя, ужо пяты чалавек, які сёння дурыць мне галаву, што нібыта нехта захапіў яго зямлю. Адчапіся!

– Я не магу адчапіцца. Мне трэба, каб была праўда і толькі праўда.

Журбіч глядзіць на мяне, як гестапавец на партызана, у ягоных вачах вырастае чорная кропля, якая робіцца маленькай-маленькай, а пасля – быццам выбух. Ён мацюкаецца, нібыта Макар, які незразумела чаму ўжо стаіць за два крокі ад нас.

– Саша, Саша, – ласкава мармыча ён, – Саша. Ты выдатны чалавек, разумны кіраўнік. Навошта табе злаваць на Валодзю. У яго бульба кіпіць і вада ўжо льецца на пліту. А пліта газавая і – не дай Бог. Пайшлі лепш паядзім бульбы ў Валодзі...

– У мяне няма бульбы, Макар. Чаму да мяне, пайшлі лепш да цябе.

– Ага, жонкі баішся!

Сонца ўжо высака, але ўсё роўна цёпла. Лес шуміць ціха. Не чуваць верталёта, які апошні раз ляцеў убок Віцебшчыны. Нешта перасталі сварыцца Аляксей з Ганнай Сідараўнай. І я супакоіўся, але галаву свідруе думка: у мяне ўкралі паўметра зямлі.

Макар мякка штурхае мяне ў плячо, міргае правым вокам і хітае галавой на Журбіча. Мне яшчэ працаваць, шмат капаць, і гэтыя госці мне не патрэбныя. Але ж старшыня праўлення. Можа, і вырашыць маю праблему з зямлёй. Усё-ткі тут яго слухаюць. Толькі гэты Макар... Ужо быў у хаце і зноў пішчом лезе. Бульбай яго пачастуй...

## 3

Гадоў дзесяць назад амаль усе мае знаёмыя атрымалі ўчасткі і пачалі будаваць дачы. Мне чамусьці не пашанцавала. У той арганізацыі, куды я прыйшоў працаваць, участкі скончыліся, а ў арганізацыі, адкуль звольніўся, яшчэ і думак не было пра дачы. Нібыта хтосьці накруціў у маёй галаве спружыну, якая штодзень і нават уначы варочалася, варочалася, не давала мне спакою.

Сваімі размовамі пра дачу я так расхваляваў жонку, што яна на гадзінудзве ўцякала з дому. Маўляў, падыхаю паветрам, каб толькі не чуць цябе.

Скончылася гэта тым, што я купіў хату ў вёсцы. Каб было паболей зямлі і сам сабе гаспадар. Вольны чалавек, а не ў калгасе, гэта значыць у дачным кааператыве. Я ўжо казаў, што былая гаспадыня мяне вельмі хітра ашукала, пафарбаўшы падлогу і наклеіўшы новыя шпалеры.

У вёсцы быў яшчэ адзін дачнік, урач мясцовай бальніцы, якога паважалі, таму што ад хваробы ніхто не застрахаваны. Ён рэдка наведваўся на сваё селішча і ні з кім з суседзяў не сябраваў. Але калі ехаў на матацыкле па вуліцы, кожны сустрэчны з ім вітаўся.

Засяліўшыся ў сваю хату, я адразу пазнаёміўся з суседзямі. Праз вуліцу жылі сваякі былой гаспадыні хаты. Яны былі вельмі незадаволеныя, што я купіў сядзібу. Асабліва гэта было бачна па Тэклі, якая доўга размаўляла са мной скрозь зубы. Дый Мікалай, яе муж, невысокі хударлявы мужчынка са злымі маленькімі вачыма, пабачыўшы мяне, адразу мацюкаўся.

Ён адчуваў сябе панам у вёсцы, каралём, таму што быў конюхам і збіраў малако па хатах. Неяк бачыў, як Мікалай адліваў з бідона малако ў сваё вядро, а пасля даліваў туды ваду. У яго ў руках былі коні, і каму хацеў, таму іх даваў. Брыгадзір аддаў яму ўсе правы.

Кожны дзень Мікалай быў ушчэнт п'яны. Калі зранку, калі ў абед. Вечарам абавязкова. Конь паіў яго і карміў.

На сваю галаву я аднойчы яго пачаставаў, наліў шклянку гарэлкі. Трэба ж усталяваць суседскія адносіны: а мне і араць агарод, і баранаваць, дый гною прывезці. З таго часу Мікалай пачынаў свой дзень з маёй хаты. Па-гаспадарску адчыняў дзверы і заходзіў на веранду, дзе была кухня, з аднымі і тымі ж словамі: “Налі, бо цяжка...”

На шчасце, я прывёз з Віцебшчыны чатыры скрынкі таннага віна, якое па сабекошце прыдбаў па знаёмстве на заводзе. Дапамог сябра, былы аднакурснік, а зараз адказны супрацоўнік мясцовага райвыканкама. І вось гэтым напоем я частаваў Мікалая. У яго было такое шырокае горла, што бутэльку ён высмоктваў за некалькі хвілін. Я са смуткам аглядваў свой запас, які з кожным днём рабіўся ўсё меншы, і прыдумваў варыянты, каб пазбавіцца ад свайго абрыдлага госця.

Недзе пад абед я калупаўся ля хлява, і раптам за спінай – нечыя хуткія крокі, а потым крык, ад якога ў мяне загудзела ў галаве. Ля пограба стаяла Тэкля і раўла, бы ёй нехта прышчаміў палец альбо яшчэ што-небудзь:

– Скаціна, свалата! Каб ты здох! Майго мужыка спаіў... Каб ты здох! Дачнік ванючы...

Пасля гэтых слоў Тэкля на адным дыханні выгукнула серыю мацюкоў, якіх я ніколі не чуў нават ад былых зэкаў, калі жыў на Поўначы, дзе шабашнічаў з сябрамі. Жанчына не магла стаяць на месцы, ажно падскоквала ад злосці. Гамонку закончыла тым, што падняла спадніцу і паказала мне сваё голае задняе месца...

Я маўчаў і ўсміхаўся, бо мне было шкада Тэклю. Яе атака на мяне была з адчаю, таму што ў гэты момант Мікалай ляжаў ля варот і ад яго на двор струменіўся смярдзючы ручай, а вакол стаяў пах, ад якога адразу хацелася заціснуць нос.

Значыцца, я купіў хату і навучыў суседа піць... Ух, паганы дачнік!.. А найгорш, што ў мяне цяпер агарод, які дагэтуль сеялі суседзі. А ў гэтай хаце нарадзіўся Мікалай. Зразумела, гэта была іхняя бацькаўшчына, а тут прыехаў нейкі дзядзька і пазбавіў роднай зямелькі. Бяда!..

Вясной перад хатай я перакапаў зямлю, выбраў з яе карэньчыкі пустазелля, зрабіў грады. Яны былі такія прыгожыя, што, мне здавалася, у нікога лепшых я не бачыў. На адной градцы пасеяў агуркі, на другой пятрушку, кроп, на трэцяй пасадзіў цыбулю... Паверх плота, які адмяжоўваў мой агарод ад суседкі Матруны, тоўстай задыхлівай кабеты, я нацягнуў дрот. Беражонага Бог беражэ.

У Матруны па дварэ гуляла дзясяткі два курэй, якія калі-нікалі любілі паляваць у маім агародзе. І як я не забіваў дзіркі ў плоце, куры ўсё роўна траплялі на маю тэрыторыю. Праз тыдзень, як купіў дачу, у бураках, што пасадзіла яшчэ былая гаспадыня, я знайшоў гняздо, дзе было з вядро яек. Знаходка мяне вельмі ўзрадавала. Я ўявіў, як увечары будуць есці смачную яечню. Гэта засталося марай, таму што праз паўгадзіны Матруна залезла ў мой агарод і забрала яйкі. Я толькі пачухаў патыліцу.

Матруна праз плот пыталася, адначасова лаючыся з сваім мужам Алесем, якога сын забраў ад крамы, дзе той прасіў у людзей грошы на бутэльку чарніла:

– І навошта табе, Валодзя, яці яго маць, гэтая хата. Жывеш у Мінску ў кватэры, дык і жыві. Табе трэба гэны агарод, яці яго маць. Я ўжо старая і ў мяне гэны прыдурак... Чуеш, прыдурак? Дзе пяць рублёў, якія я табе дала на хлеб? Га, свалата?!. І навошта табе гэтая хата, Валодзя! Прадаў бы лепш майму сыну. Тысячу рублёў дасць...

– Дык я ж заплаціў тры тысячы...

– Ну і што? – здзіўляецца Матруна. – Ты багаты. У цябе і кватэра, і дача. Што табе, шкада?

Я не адказваю Матруне, а яна адыходзіць ад плота, і чуваць, як ляпае рукою па твары Алесю, а той нешта мармыча, а потым галаву ў плечы і – ходу з двара.

– Куды, свалата, пацягнуўся! – крычыць Матруна. – Хто зелле для свінні рваць будзе?

Пасля абеду я палез чысціць паграб. У кутку ляжалі яшчэ мяхі з тры бульбы. Я прыгледзеўся: шмат паедзенай ці то мышамі, ці то пацукамі. У пограба глыбіня больш за два метры, але ж, бач, далезлі і нават у забетанаванай падлозе прагрызлі дзіркі. Неяк трэба з гэтымі “акупантамі” змагацца. Я паехаў у Бараўляны і прыдбаў там атруты. У пакеце быў атручаны ячмень і нейкая падобная на масла паста. Супрацоўніца санэпідэмстанцыі гарантавала мне стопрацэнтны эфект: “акупанты” будуць знішчаны.

Адпрасіўшыся на службе, я з цудоўным настроем паехаў у вёску. Ужо мінула два тыдні, як пасеяў агарод, і меркаваў, што тое-сёе, магчыма, узышло. Ад электрычкі да хаты я ляцеў быццам на крылах.

Гэта быў мой першы вопыт самастойнага вырошчвання агароднiны, гаспадарання на зямлі. Хацелася як хутчэй убачыць тонкія зялёныя нітачкі раслін, што дзякуючы мне з’явіліся на свет, пад пяшчотнае ласкавае сонца.

Я кінуў рэчмяшок з прадуктамі на верандзе, і ледзь не бегма ў агарод. Адчыніў веснічкі і аслупянеў: на месцы маіх град была ўтаптаная курынымі лапамі пляцоўка. Відаць, грэблі яны зямлю так, што ажно пыл курэў. Дрот над плотам быў абарваны, а ў самім плоце – свяціліся вялікія дзіркі. Там-сям балясчыны былі проста адарваны.

Мяне ахапіла дзікая злосць, і ў першае імгненне я хацеў бегчы да Матруны і высветляць адносіны, а, можа, зрабіць такое, каб яе нагі больш не было не толькі на маім двары, але і каля хаты. На вочы патрапіла сякера, схапіў яе і пачаў секчы парасткі вішні, з-за якіх немагчыма хадзіць за пограбам. Памалу супакоіўся і праз паўгадзіны зноў зайшоў у агарод.

Ля плота стаяла Матруна і карміла курэй. Я маўчаў і яна маўчала. Нарэшце я не вытрымаў:

– Як гэта разумець? – спытаў і паказаў на знішчаныя грады.

– А што такое? – здзівілася Матруна. – Што ў цябе, нямашака грошай купіць агуркоў? Табе трэба гэны агарод? Не дурыў бы сабе галаву.

Пасля такіх аргументаў я махнуў рукою і, больш нічога не гаворачы, палез у пограб на вайну з мышамі і пацукамі. Зрабіў бутэрброды з батона і пасты, пасыпаў па падлозе атручаны ячмень. Хапіла паловы пакета. Астатняе я паклаў у старое вядро і паставіў яго ў хляве, які збіраўся разабраць на дровы. Дзвярэй у ім не было, у сценах прагнілі дзіркі. Там былыя гаспадары некалі трымалі свіней, сляды іхніх зубоў засталіся на бярвеннях.

Зноў я прыбіў балясчыны да плота, нацягнуў дрот, пасеяў грады і адбыў у сталіцу. Хутка мяне накіравалі ў камандзіроўку, была розная мітусня на рабоце і трапіў я на сваю сядзібу толькі праз месяц.

Не паспеў адчыніць дзверы, як на двор заскочыла Тэкля. Твар вясёлы, вочы гараць. Смех душыць, ледзь стрымліваецца. Што лаялася на мяне – ніякага ўспаміну.

– Чуеш, Валодзька! – смяецца, ажно слёзы на вачах. – У Матруны паздыхалі ўсе куры. Усе дваццаць пяць штук. Да адной. Учора пад вечар, нібыта хто падушыў. Пападалі, быццам хто касой скасіў. Во смех, гы-гы-гы. Уся вёска смяецца. Дык Матруна кажа: “Усё, болей курэй трымаць не буду. У магазіне ёсць і куры і яйкі”. Гы-гы-гы. А ты выпадкам не ведаеш, ад чаго яны маглі здохнуць?

– Я ж не ветэрынар. Скуль я ведаю, чаму ў Матруны куры паздыхалі.

– І то праўду кажаш... Гы-гы-гы. Пайду ў краму, цукру куплю. Кажуць, падаражае. Не чуў? – Тэкля, не чакаючы адказу, шыбанула назад да сябе ў двор.

Здохлі ў Матруны куры. Ну і туды ім дарога. Гэта ім пакаранне за здзек з мяне. Не толькі чалавек павінен адказваць за свае ўчынкі, але і куры, хоць яны і бязмозглыя істоты.

Я пастаяў ля хаты, а потым мяне нібыта штурхнула ў плечы нейкая сіла, кінуўся ў хлеў. Вядро стаяла на ранейшым месцы ў кутку на саломе, але было пустое. Збоку ляжала разарваная газета, ў якую я загарнуў рэшткі атручанага ячменю.

У плоце чарнела вялізная дзірка. Адбітыя балясчыны ляжалі каля сліўкі за два крокі. Па маіх новых градах ад дзіркі ў напрамку хлява цягнулася сцежка з курыных слядоў...

**4**

Тэлевізара ў мяне не было, радыё таксама. Як толькі пачало цямнець, я павячэраў, пачытаў газету дзесяцігадовай даўніны і прылёг на ложак. На гарышчы весела гулялі мышы, там трашчала салома, а ў метры ад мяне ў кутку пакоя няспынна гуў стары халадзільнік. Пасля доўгага дня хацелася спаць, і цела прасіла адпачынку, але сон не ішоў. Я падняўся і выйшаў на веранду папіць вады. У гэты момант пастукалі ў дзверы. Я не збіраўся нікому адчыняць. Але нехта настойліва ляпаў і, нарэшце, падаў голас. Гэта быў сусед Мікалай. Адчувалася, што нецвярозы. Я, як дурань, адчыніў дзверы.

Ён ледзь перапоўз парог, а ўслед за ім ступіў яшчэ адзін мужчына. Я яго ведаў: малодшы Мікалаеў сын Васіль. Ён жыў з сваёй сям'ёй у Стоўбцах.

Абодва ледзь трымаліся на нагах. "Мала мне самога Мікалая, дык яшчэ сына прывалок", – падумаў я.

– Валодзя, налі. Вельмі цяжка, – выдыхнуў бацька.

– Вельмі цяжка, – падтрымаў яго сын.

– Няма нічога. У мяне ж не бар, – я ледзь стрымаўся, каб не сказаць што-небудзь абразлівае, брыдкае, але не хацелася пачынаць сварку з п'янымі, якая магла скончыцца невядома чым.

– Не нальеш, больш каня не атрымаеш. Рыдлёўкай будзеш капаць свой агарод. Паняў?!. – Мікалай тупнуў нагой у падлогу. – Налівай! Мне і Ваську. У цябе, я бачыў, віна шмат. Дай, пайду сам вазьму.

У мяне стаяла бутэлька віна на кухні. Я моўчкі адкаркаваў яе і разліў па кубках. Яны выжлукцілі віно і, трымаючыся адзін за аднаго, пацягнуліся дахаты.

Мне было даўно зразумела: я сам вінаваты ў тым, што Мікалай унадзіўся да мяне, бы карова ў смачную канюшыну. Але ж гэта было паўбяды. Назаўтра даведаўся, што Васіль развёўся з жонкай і цяпер будзе жыць тут, у вёсцы. Горла ў яго не менш шырокае, чым у бацькі. А, можа, нават яшчэ і шырэйшае. Цяпер яны па чарзе з раніцы наведвалі мяне. Я як мог супраціўляўся, але тады-сяды не вытрымліваў націску і наліваў ім для здароўя. Тэкля, мабыць, змірылася з тым, што кожны дзень Мікалай з сынам пад градусам, і ўжо больш не прыбягала да мяне сварыцца. З кожнай сваёй шабашкі Мікалай прывозіў грошы альбо гарэлку, папаўняў сямейны бюджэт. За свае грошы ён ніколі пітво не купляў. Зарплата конюха ўся заставалася ў хаце.

У чэрвені пачалася касавіца. Трава была багатая, сакавітая. Мікалай з Васілём нацягалі поўны двор сена, забілі ім пуню: нарыхтавалі не на адну карову. І ўсё роўна Тэклі здавалася, што мала. Зімою збіраліся гандляваць сенам.

Зранку Мікалай з сынам былі ўжо нападпітку. Васіль падышоў да мяне, вышчарыўшы рот з паўгнілымі і паламанымі зубамі, гмыкнуў:

– Ты думаеш – багаты, а я дурань? Ты думаеш, калі скончыў універсітэт, а я восем класаў – разумнейшы за мяне? Во! – Ён паказаў мне дулю і пайшоў да воза, на якім ляжаў бацька. Яны вырашылі ехаць па стажок сена, што накасілі ў ляску на беразе Свіслачы. Урэшце, не яны вырашылі, а так запатрабавала Тэкля. Яна выскачыла на вуліцу ў разадранай кашулі і крычала, палохаючы нават сваіх курэй, бо Матруніных ужо не было.

Я паціснуў плячыма і пайшоў у чарговы раз палоць свой агарод, на якім

нічога так і не вырасце. Мне было сумна, а на вуліцы спякотна і душна. Я прылёг на ложак і заснуў. Колькі спаў, не ведаю, але было адчуванне, нібы праляцела вечнасць, у якой я вяртаўся ў дзяцінства, а пасля крочыў па невядомай тэрыторыі, а вакол ішло шмат людзей. Толькі я не бачыў іхнія твары. І толькі бег, бег...

Я ачнуўся ад ляманту, які, здаецца, пранізаў бярвенні, разадраў дах маёй хаты і цвіком увайшоў у галаву. Было светла, у акне мільгалі нейкія цені і нейчым пахла. Непрыемным. Страшным. Я ўспомніў: гэтак пахла, калі памёр мой тата. Пах смерці. Ён ішоў проста хваляй, нібыта запоўніў сабою ўсю вуліцу і перапоўз у хату.

Я ўскочыў з ложка і глянуў у акно. Ля суседскіх варот стаяў конь з возам і еў траву ля плота. Больш нікога не было. На возе ляжала трошкі сена, зверху бялеў цэлафанавы пакет.

Я выйшаў на двор, агледзеў вуліцу і ўбачыў Васіля, які ляжаў ля Матрунінага плота. Мікалая не было. Тэкля карміла курэй і таўкла бульбу для свіней.

Пад вечар Васіль па-ранейшаму ляжаў пад плотам, а ўсе займаліся сваімі справамі. Па вуліцы прагналі калгасных кароў, пасля прагналі вясковых. Тэкля, ласкава ўсміхаючыся, прынесла мне літровы слоік малака. Я падзякаваў ёй і аддаў бутэльку віна. Не хацеў быць залежным, лепш пераплачу, чым буду прасіць. Такі ў мяне прынцып.

Ля дзесяці гадзін пачуўся гвалт, лямант. Тэкля выскачыла на вуліцу і крычала, нібы ёй адкусілі што-небудзь... Ля яе стаяў, хістаючыся, сын Васіль і штосьці бубніў.

Я не мог адмовіць Тэклі, і разам з ёй і суседам Казімірам, які толькі што прыехаў з Мінска, пайшлі ўслед за Яняй, стрыечнай сястрой Мікалая, якая жыла ў канцы вёскі, і ўбачылі Мікалая. Ён ляжаў на сене на беразе ракі і ўсміхаўся. Усмешка ў яго была крывая, твар белы, як зубны парашок, а на вуснах – чырвона-белая пена. Мікалай дыхаў, са свістам паглынаючы паветра і з цяжкасцю выпампоўваючы яго з сябе.

Мы паклалі яго на дно воза, каб цела роўна ляжала на дошках. Ён стагнаў і толькі шаптаў:

– Цішэй, цішэй...

Ля хаты Мікалай сказаў так, каб чуў толькі я. Якраз Тэкля адчыняла вароты.

– Мы наклалі сена на воз. Я быў наверсе, Васіль скінуў мяне. Мусіць, я зламаў пазваночнік... Нічога нікому не кажы...

Свяціла высокае яркае сонца. Спявалі птушкі ў садах. Васіль спаў пад лаўкаю ля плота. Тэкля прасіла нас з Казімірам, каб нічога не казалі міліцыі.

Зрэшты, што мы маглі ёй расказаць. Пра тое, што Мікалай з сынам кожны дзень лыка не вяжуць, а я іх яшчэ і частую...

(...)

## 6

На машыне ездзіць на дачу дарага, больш выгадна на аўтобусе. Туды-сюды ў тры разы танней. Бензін амаль кожны дзень даражэе і даражэе. На дачу і дахаты – дзесяць літраў. Я прыкідваю: за гэтыя грошы куплю білет на аўтобус і яшчэ хлеба, мяса, кілбасы, бутэльку гарэлкі.

Раніцай я на аўтавакзале. Пад рукой поўны рэчмяшок, у якім курыны

супавы набор, бохан хлеба, батон, кавалак ліվернай кілбасы, бутэлька гарэлкі, вермішэль барысаўскай фабрыкі і паўкілаграма пернікаў. Іх я люблю есці з чаем.

Людзі туды-сюды снoўдаюцца, я сяджу на прыпынку, чакаю аўтобус і п’ю піва. Узяў кухаль, хоць і шкадую, што гэта зрабіў. Ніколі асабліва не любіў піва. Тым больш аўтобус не цягнік, як прыцісне, куды бегчы: туалета няма.

Я не дапіў піва, выліў рэшткі ў сметніцу. Сонца было вясёлае, неба блакітнае, чыстае. Але нядоўга. На маіх вачах папаўзла адна хмара, другая. Стала душна, цяжка, нібыта хтосьці на грудзіну палажыў камень. Адчувалася, пойдзе дождж. Магчыма, ліне, як з вядра. Апошнім часам так і было. Быццам жывем у субтропіках. Помню, гэтак было ў Піцундзе на Чорным моры, дзе купаўся апошнім разам пятнаццаць гадоў назад.

На лаўцы ля мяне прысела жанчына. У руках вялізная сумка на колах. Жанчына ўздыхнула, правяла рукой па валасах. Яны былі ў яе жоўтыя, з ледзь прыкметнай сівізной. Я прыгледзеўся: высокая, ростам амаль як я. У мяне метр восемдзесят пяць. Твар у яе зусім звычайны, няма воку за што зачапіцца. Нават грубаваты, як у спартсменак: шырокія скулы, цяжкі падбародак. Вочы зялёныя-зялёныя, нібыта веснавая трава. І ногі доўгія, як у цяперашніх мадэлей, абутыя ў кітайскія кеды, не менш сорак чацвёртага памеру.

Мне раптам захацелася з гэтай жанчынай пазнаёміцца, хоць было бачна: яна старэйшая за мяне. Ну і што. Я ж не збіраюся з ёй жаніцца.

Людзі гудзелі быццам пчолы, снoўдаліся па вакзале. Гоман стаяў, як на базары, ледзь чутны былі аб’явы па радыё. А я чакаў аўтобус і хацеў загаварыць з суседкай. Вельмі хацеў. Язык ажно свярбеў, я яго ледзь не рукою ўтрымліваў ад размовы, таму што якое знаёмства пры такім гвалце.

Нарэшце падышоў аўтобус, і я ўслед за суседкай зайшоў у салон. Як ні дзіўна, нашыя месцы былі побач. Усе пасажыры размясцілі свае рэчы, і мы паехалі. Мінулі Мінск, выбраліся на трасу. Мяне нібыта заціснулі ў абцугі. Ніякаватасць, разгубленасць апанавалі мною. Так даўно не было: я не ведаў аб чым гаварыць з суседкай.

Яна сядзела з заплюшчанымі вачыма. Я раз-пораз пазіраў на яе. Ніколі не думаў, што ў мяне ўзнікне праблема, каб пазнаёміцца з жанчынай. Здавалася, магу пачаць размову з любым чалавекам, нягледзячы на ягоны статус. Некалі я скончыў спецыяльныя курсы, на якіх вучылі кантактаваць з людзьмі, размаўляць з імі, калі трэба супакойваць. Праўда, гэта было даўно, і я не меў вопыту такой работы. Ну і што? Усё-ткі гэтую жанчыну мне хацелася разгаварыць, пазнаёміцца з ёю.

Наш аўтобус спыніўся на чарговым прыпынку ў лесе. Я дапамог суседу дзядку выцягнуць ягоны мяшок праз дзверы і вярнуўся на месца.

– Вы дапамагаеце кожнаму? – спыталася суседка. У яе быў нізкі хрыплаваты голас курыльшчыцы. Акуратная ці то баязлівая ўсмешка. Ад зялёных вачэй ішло святло. У іх быў сум і страх адначасова. Можа, мне так здалося.

– Магу і вам дапамагчы, – у мяне раптам перасохла горла, і я прахрыпеў, кашлянуў і паўтарыў ужо больш цвёрдым голасам: – Магу і вам дапамагчы. Калі ў вас прыпынак?

– Дачы. Мне дапамагаць не трэба. Я колы свайго вазка добра змазала...

Ага, калі сама змазала колы, значыць, мужа ў яе няма. Можна працягваць

размову далей. Я пачаў расказваць французскі фільм, які нядаўна глядзеў у кінатэатры. Па твары было відаць, што ёй падабаецца гэта. Зрэдзь на вуснах узнікала ўсмешка. Гэта я ўспрыняў як пахвалу і плёў свае кашалі і плёў, дадаючы ў аповед такія дэталі і сюжэтныя лініі, якіх у фільме не было. Галоўнае, не спыняцца ў атацы. Толькі – уперад!

Мяне ўжо слухалі, не заплюшчваючы вачэй, і ўсмешка не знікала з твару. Калі аўтобус прыехаў да дачнага пасёлка, мы называлі адзін аднаго на “ты”. Пазнаёміліся: “Валодзя, Вераніка. Вельмі прыемна. А мне як прыемна!”

Я ўскінуў свой рэчмяшок на плечы і цягнуў яе вазок за сабой. Вераніка была ўжо не супраць маёй дапамогі. Мы былі адны, хто выйшаў на гэтым прыпынку.

Абапал дарогі ў гушчары спявалі птушкі. Гарэза-салавей саліраваў так, што, здавалася, стаяў бы і слухаў, нікуды не ішоў. Наваколле дыхала жыццём, пахла радасцю, шчасцем і каханнем. Гукі кахання гучалі ў спеве кожнай птушкі, мяккім шэпце дрэў, шоргаце вады па беразе возера.

Я на хвіліну спыніўся, удыхнуў як мага больш гэтага незвычайнага паветра, агледзеўся. Прырода нібыта сама запрашала ў госці, раскрывала перад намі сваю душу.

– Як хораша, – сказала Вераніка. – Я прыязджаю з горада сюды, на дачу, і быццам трапляю ў цудоўны санаторый. Тут мне ніколі не баліць галава, нармалізуецца ціск. Хочацца жыць і жыць...

Увечары, калі ўжо села сонца, і толькі яго ружовыя хвасты яшчэ чапляліся за лес, я стукаў у дзверы. Перад гэтым абышоў дачны пасёлак, здалёк агледзеў дамок Веранікі. Ён быў невялікі, аднапавярховы, пакрыты чырвоным шыферам. Вокны і дзверы таксама пафарбаваны ў чырвоны колер. Дакладней, не зусім чырвоны, хутчэй цагляны, як старадаўнія мураванкі. Перад домам раслі дзве яблыні і груша. Ля вуліцы буялі кветкі. Іх было шмат, і адразу хацелася сарваць, панюхаць якую-небудзь.

– Цябе ніхто не бачыў? – спыталася Вераніка, як толькі я пераступіў парог. – У мяне такія цікаўныя суседзі, у якіх язык без тармазоў. Усё ім трэба ведаць, усё ім мала. На тым тыдні скандалілі са мной: быццам я парушыла іхняе землекарыстанне.

– Як гэта?

– Каб я ведала. Але ж астатнія суседзі нармальныя людзі. Раней мы часта збіраліся, смажылі шашлыкі, песні спявалі. Ці то мы пастарэлі, ці то яшчэ якая халера, але даўно не чуваць спеваў над дачамі. Кожны сам па сабе. Дый цяпер шмат чужых людзей. Спярша ўсе былі з аднаго завода, ведалі адзін аднаго.

Вераніка гаварыла і збірала на стол. Пашэнціла мне, вячэру не трэба гатаваць. У вялікую міску насыпала духмянай бульбы, ад якой да столі ўзнімалася пара. На стале з’явіліся кілбаса, сала, салёныя агуркі, памідоры. Потым паставіла паўлітровы слоік апенек. Мне стала няёмка: хоць якую шакаладку ўзяў бы. Гэта і сказаў, але Вераніка адмахнулася: маўляў, не бяры да галавы. Дастала з шафкі бутэльку. І мы селі балявацъ...

Уначы я выйшаў на вуліцу. На небе было столькі зорак, нібы травы на лузе, яно ажно зіхацела. Вось адна зорка паляцела ўніз, другая, – пакідаючы за сабой тонкі бліскучы след. Было ціха-ціха, недзе ў вёсцы, недалёка ад хаты Тадэвуша, забрахаў сабака, заекатаў і змоўк. На слупах нашай

вуліцы гарэлі лямпачкі, якія, асвятляючы дачы, магчыма, перашкаджалі дрэннаму чалавеку зрабіць сваю справу. І птушкі адпачывалі, не спявалі, каб раніцай упрыгожыць гэтую блаславеную зямлю спевам.

Я вярнуўся ў хату. Чуваць, як спакойна і роўна дыхае Вераніка. Яна павярнулася да мяне, абхапіла рукамі за шыю і пачала прагна цалаваць. Да ўзыходу сонца яшчэ было шмат часу...

## 7

Я выйшаў ад Веранікі, як толькі пасвятлела за акном, юркнуў у кусты і, нібы мядзведзь, прадзіраючыся праз іх, выбраўся на гару, ад якой рукой падаць да маёй хаты. Пастаяў, перадыхнуўшы, і ўжо меркаваў паціху цягнуцца па вуліцы, а пасля яшчэ на гадзінку прылегчы, даць спакй свайму целу і душы. Па-ранейшаму было ціха-ціха. Мне здаецца, у маёй роднай вёсцы я не адчуваў сябе так спакойна. (...)

## 8

Крапаў нудны дождж, шаргацеў лісцем, схіляў да сну. З раніцы я пакалупаўся ў агародзе, агледзеў свае ягаднікі: агрэст, парэчкі, маліны. Застаўся задаволены: назбіраю няйнакш з дзясятак вёдзер. Будуць варэнне, сокі розныя. Можна і віна паставіць. Смачнае, самаробнае. Неяк мяне частавалі віном з чорных парэчак. Ай, якая смаката! П'еш і адчуваеш: вітаміны ў кожным глытку. Праўда, пасля нешта галава балела і нібыта хтосьці у страўнік з нажом залез. Але я крыўды на таго чалавека не трымаю. Ён ад шчырага сэрца мяне частаваў, хацеў зрабіць ласку. Што ж, калі я такі нягеглы.

У мяне ёсць кніжка, у якой падрабязна апісана тэхналогія вырабу напояў. Дарэчы, гэта ідэя. Грошай не хопіць частаваць усіх Макараў і Ёсек, якія неспадзеўкі пажадаюць наведацца ў госці.

У студэнцкія гады, на бульбе, мы з сябрамі вырашылі выгнаць самагонкі. Грошай на гарэлку не было, а студэнцкая душа захацела свята... Мы зрабілі брагі, якая праз чатыры дні так булькала ў бітоне, што дзядзькі з суседняй вёскі прыбягалі яе панюхаць.

Зрэшты, нічога ў нас не атрымалася. Мы не змаглі выгнаць нават ста грамаў: у нікога не было вопыту. І гэта на шчасце. Таму што пасля ад'езду ў горад да нас дайшлі чуткі, нібыта міліцыя правяла следства, высвятляючы, хто пакінуў ля калгаснай сталоўкі паўнюткі бітон брагі. Ніхто з вяскоўцаў нас не здаў.

"Можа, мне паўтарыць тую спробу, улічваючы агульначалавечы вопыт", – думаю я, сумна гледзячы на лужыну, што ператвараецца перад хатаю ў возера. Калі гэтак працэс пойдзе далей, то маім агуркам будзе капец. Паплывуць яны ручайкамі на вуліцу, а адтуль сваімі сцяжынкамі ў лес, у балота, і застануся я з носам. Гэта значыць, без агуркоў. Дзе ж тая рыдлёўка? Я – не цукар, не растану і цяжэйшым ад вільгаці не стану. Як некалі мне знаёмая гандлярка расказвала па сакрэце: ля мяшкоў з цукрам ставілі вёдры з вадой і – жывы прыбытак. Было сто кілаграмаў, стала сто дзесяць.

– Эй, гаспадар! – з вуліцы нехта крычыць, перашкаджае мне думаць, разважаць, як атрымаць лепшы на гэтай тэрыторыі ўраджай. – Гаспадар!

Чую, што скрыпяць старыя паўразламаныя веснічкі, спадчына прафесара, гавораць мужчыны. Калі ўжо парушылі мае межы, трэба і глянуць на зламыснікаў. На маім дварэ стаяць два міліцыянеры і нейкі мужчына, таўстун у падраных спартыўных штанах, з шырокай лысінай на галаве, якая ажно блішчыць, быццам змазаная алеем. Я бачыў яго з тыдзень назад каля доміка праўлення. Ён сварыўся з Журбічам, мацюкаўся.

Мне не застаецца нічога іншага, як злезці з ганка і вітаць нежаданых гасцей. Яны, мабыць, настроены рашуча, таму што ідуць да мяне, не спыняючыся, нібыта па сваім дварэ, упэўнена. Зразумела, гаспадары жыцця. Не я гаспадар, а яны, бо адчуваю, як пачынаюць дрыжаць ногі, і слабасць у жываце. Пэўна, я зрабіў нешта паганае, шкоднае для грамадства, калі людзі ў форме ступілі на мае шэсць сотак зямлі.

– Добры дзень, Уладзімір... Э... – спатыкаецца на слове светлавалосы сімпатычны капітан.

– Вацлававіч, – дапамагаю яму.

– Так-так, Уладзімір Вацлававіч, – капітан нерашуча перакідвае з рукі ў руку сінюю тонкую папку, на якой залатымі літарамі пазначана “Мінскі трактарны завод імя У.І. Леніна. XXVII прафсаюзная канферэнцыя”. Няйнакш, дапамога шэфаў, альбо падарунак сяброў. – Мы тут па такой справе... – Ён азіраецца на свайго калегу, а гэта – гадоў пад сорак чарнявая жанчына. Наогул, сімпатычная жанчына. На яе пагонах маёрская зорка. – Сёння раніцай, а, можа, і ўначы на тэрыторыі дач адбылося злачынства.

Цікава. У маім жываце пачыналася бура, якую, магчыма, я праз некалькі хвілін не змагу перамагчы. Хто ж каго тут забіў, ці абрабаваў?

– Нейкі злачынец, а мы хутка высветлім, хто гэта, – працягваў капітан, а чарнявая маёрша разглядвала мяне, быццам выкапнёвую істоту, з ног да галавы. У яе вачах я чытаў, якую характарыстыку атрымаю, нягледзячы на тое, што не ў парваных штанах, а ў залапленых мною пазаўчора, стаю на ганку, – пашкодзіў некалькі машын грамадзян. У прыватнасці, на лабавым шкле грамадзяніна Пятрушы, – ён паказаў на таўстуна, – напісаны мацюкі з трох літар. Літары прадраны нечым вострым, накшталт цвіка альбо нажа. Так мы думаем...

– Спачуваю грамадзяніну Пятрушу, – сказаў я і з сумным выразам твару пакланіўся таўстуну, – вельмі спачуваю. Толькі нічым дапамагчы не магу. Грошай не дам, бо ў самога мала. Мне б дацягнуць да канца тыдня. У халадзільніку другі дзень вецер гуляе. Так што зайшлі вы не па адрасе. Дый, наогул, з якога боку мне да гэтай справы? Я нават не ведаю мацерных слоў, не тое, што пісаць іх на лабавым шкле машыны грамадзяніна Пятрушы...

– Мацюкі выразалі яшчэ на машынах... – капітан зазірнуў у сінюю папку. – Грамадзян Янушкевіча, Пятроўскага, Самсоніка і Калядовіча. Атрымліваецца салідная сума. Кожнае шкло, мне здаецца, каштуе даляраў дзвесце, а, можа, і больш...

– Спачуваю гэтым грамадзянам. Толькі спачуваю, – сказаў я і ўзяў рыдлёўку з-пад яблыні, каб прабіць дарогу на вуліцу перапоўненай вадой лужыне. – Бачце, патоп. Трэба ратавацца.

– Грамадзянін Івашкевіч, – падала нарэшце голас чарнявы маёр. – Не думаеце вы, што прадстаўнікі міліцыі зайшлі да вас толькі дзеля таго, каб праінфармаваць пра здарэнне і пачуць спачуванне ў адрас пакрыўджаных грамадзян? І больш рабіць нам няма што? Мы расследуем злачынства.

Заўважце – небяспечнае злачынства, якое не павінна застацца непакараным. Дык вось, у нас пытанне да вас, грамадзянін Івашкевіч...

Так, капітан называў мяне Уладзімірам Вацлававічам, а прыгажуня звяртаецца ўжо да грамадзяніна. Нешта хутка мізэрнее мой статус. Хутка мне скажуць: “Вы арыштаваны, грамадзянін Івашкевіч”, і будзе гэтак далей і далей...

– Я ўважліва слухаю, таварыш маёр. Вельмі ўважліва. Якое ў вас пытанне да сціплага, беднага дачніка, у якога агуркі змыла дажджом?

– Дзе вы былі прыкладна ў чатыры-пяць гадзін раніцы?

– У чатыры ці ў пяць?

– Адказвайце на пытанне.

– У гэты час ў мяне актыўны сон. Я сплю, як дзіця, і нічога не чую, не бачу.

– Што ты, дзядзька, кіно паказваеш? – прахрыпеў таўстун, які ад злосці пачырванеў, быццам раздзьмуўся і, здаецца, праз хвіліну знішчыць мяне.

Ой, бяда, ой, бяда! Што ж такое робіцца, што такое робіцца? На вуліцы цішыня, і па-ранейшаму кропля за кропляй сыплецца дождж, сыплецца.

– Паважаны, грамадзянін...

– Яны мне расказваюць, як жыць... Я жыву так, як мне Бог сказаў, а як ён мне сказаў... Бог адзін ведае, – гэта я мармычу сабе пад нос, каб ніхто з прысутных не пачуў.

– Мы ведаем, што вы, Уладзімір Вацлававіч, сёння ўначы хадзілі па дачным пасёлку. Пытанне: што вы рабілі ў пяць гадзін ночы, а, магчыма, і ў чатыры? – чарнявая маёрша глядзела на мяне так, быццам я ўкраў карову ў суседа. Дарэчы, каровы ў суседа няма. Чаму няма, гэта іншае пытанне.

Мне раптам здаецца, што я сапраўды саграшыў, нашкодзіў і моцна вінаваты, але пакуль не магу зразумець, у чым. У тым, што надосвітку пайшоў ад Веранікі?

– Дык што вы рабілі ўначы на вуліцы? Мы прыйшлі да вас не дзеля жарту, а па сур’ёзнай справе, – гаворыць маёрша, а капітан чамусьці ўсміхаецца і адыходзіць пад яблыню, разглядвае лісце, быццам спрабуе знайсці там малады яблык.

– Таварышы капітан і маёр! Я, наогул, не помню, што адбывалася ў гэты момант на свеце. А што здарылася на тэрыторыі дач? Не ведаю. Я спаў.

– Ты не спаў. Я сам бачыў, як ты каля пяці гадзін раніцы ішоў міма маёй дачы. Прачнуўся, выйшаў на двор, а ты праскочыў, нібы шалёны, – таўстун з задаволеным відам махнуў рукою на вуліцу і сагнуўся, паказваючы, як я бег.

– Якая розніца ў рэшце рэшт, што я рабіў уначы, – я пачаў злавацца. Абурэнне нарастала ў душы, як лавіна з гор. Яшчэ трошкі і мой спакой узарвецца, ажно дым пойдзе. Лепш не будзіць у мне звера. Я сябе ведаю і не пагляджу на гэтых прадстаўнікоў улады.

– Вы ж разумееце, што адбылося злачынства і нам з гэтым трэба разабрацца, – змякчыла свой тон маёрша, – а вы, магчыма, нешта бачылі, калі ішлі міма дачы грамадзяніна Пятрушы. І ўсё-ткі нам трэба ведаць, дзе вы былі ў гэты час. Ніхто з ста пяцідзесяці дач не хадзіў уначы па вуліцы. Усе, мабыць, спалі. Толькі вы, Івашкевіч, ішлі міма грамадзяніна Пятрушы.

– Ну і што, што я ішоў. Дзе хачу, там і хаджу. Можа, вы мне забароніце і на вуліцу выходзіць?

– Калі вы не скажаце, дзе былі, мы будзем вымушаны вас на пэўны час затрымаць у якасці падазронага, – гэта сказаў капітан і ўсміхнуўся мне, як сябруку: у вачах весялосць і задаволенасць. – І калі гэта не вы пашкодзілі машыны, у чым я сумняваюся, вы не маглі не бачыць каго-небудзь у гэты час на вуліцы.

"А што? – падумаў я. – Пасадзяць у сваю міліцэйскую машыну і адвязуць у турму, за краты. Трэба прызнавацца. Мяне Вераніка пракляне... Але выйсця іншага няма".

Калі дурны, дык гэта назаўсёды. Мне трэба было неяк зрабіць гэта паціху, шапнуць маёршы альбо капітану на вуха, а я сказаў уголас. У прысутнасці таўстуна Пятрушы, у якога пасля маіх слоў вочы зрабіліся яшчэ больш лупатымі, а твар ажно перакасіла ад радасці, ці, можа, ад зайздрасці.

– Я быў у гасцях у Веранікі Дубевіч. Дача нумар семдзесят пяць.

– У чатыры гадзіны раніцы? – недаверліва спытала маёрша.

– А чаму нельга быць у гасцях у чатыры гадзіны раніцы? – я глядзеў на капітана, якому стала так весела, што яшчэ хвіліна – і ён схопіцца за жывот. Не, стрымаўся, толькі пачырванеў, быццам у горле затрымалася гарачая бульбіна, і пачаў кашляць.

– Не, чаму, можна быць, – сказала маёрша. – Гэта мы, канечне, праверым. Калі вы ішлі з гасцей, не бачылі нікога па дарозе?

Як гэта я не бачыў. А кілер Ёська, які хацеў мяне ляпнуць па галаве арматурай. Такой жалязякай толькі і псаваць машыны. Вельмі зручная рэч. Любое слоўка можна напісаць на шкле і на капоце. Далёка будзе відаць. Не, Ёська мне пакуль самому патрэбен, дый ён сябрук Макара. Наўрад ці будзе ён псаваць машыны.

Калі я ішоў у госці да Веранікі, якраз каля машыны таўстуна стаялі тры хлопцы, падлеткі. Адзін з іх быў сынам майго суседа Цімафея, другі – яго сябра з суседняй вуліцы, а трэцяга – я бачыў упершыню. Яны гучна смяяліся і нешта гаварылі, няйнакш абмяркоўвалі старыя "Жыгулі" таўстуна Пятрушы. Я нават і забыў пра іх. Лета, хлопцы на канікулах. Ім весела.

Мусіць, нешта прамільгнула на маім твары, бо маёрша ўжо амаль ласкавым голасам проста выдыхнула:

– Ну, Уладзімір Вацлававіч?.. Ну?..

Я зірнуў на Пятрушу, – не, не будзе табе больш інфармацыі, – і адышоў убок крокаў на пяць. Маёрша, як прывязаная, за мной. Капітан застаўся з Пятрушай.

– Мне не хацелася б, каб усе дачнікі ведалі...

– Не турбуйцеся, усё канфідэнцыяльна... – маёрша прыціснула да вуснаў маленькі пальчык.

– Што ж тады слухайце... – уздыхнуўшы, я расказаў пра падлеткаў.

Гаварыў і вінаваціў сябе за тое, што раблю непрыгожы ўчынак. Магчыма, сапсаваў хлопцам канікулы. Толькі б Цімафей не даведаўся, што я стаў інфарматарам у міліцыі. Супакойвала толькі тое, што нашу размову з маёршай Пятруша не чуў. Непакоіла мяне будучая сустрэча з Веранікай. Але, мне здаецца, з жанчынамі я ўмею размаўляць.

Пакуль у мяне ў гасцях былі міліцыянеры, перастаў дождж. Лужына ручаінкамі амаль уся ўжо выцекла з двара на вуліцу і памалу высыхала пад яркім летнім сонцам. (...)

## 12

Раніцай Журбіч перадаў мне позву ў міліцыю. І зрабіў гэта так, нібы ўручыў падарунак. Калі я, скрывіўшыся, бы ад воцату, збіраўся пайсці ў хату, Аляксандр Мікалаевіч абвясціў, што праз гадзіну паедзе ў райцэнтр і можа захапіць з сабою мяне.

Я не паспеў папіць чаю, а ля варот ужо пачулася піканне. На душы было трывожна, хоць ніякай віны за сабой я не адчуваў. Страх, які сядзеў у мне з дня нараджэння, быў неспакойны, прымушаў думаць пра кепскае. Тое, што выклікаюць у міліцыю, адразу нервуе, турбуе і пачынаеш шукаць у сваёй біяграфіі грахі. Думкі замітусіліся, каб пазбавіцца ад іх, супакоіць і знайсці выйсце, якое выратуе ад непатрэбных і неспадзяваных праблем.

Мы ехалі з Журбічам моўчкі, пад гукі радыё. Піліп Кіркораў сваім салодкім голасам суцяшаў мяне, супакойваў. І пакуль даехалі да райцэнтра, у падначаленні якога знаходзіўся дачны пасёлак, я ледзь не заснуў.

Позва была падпісана маёрам Кавалевіч. Кабінет нумар сямнаццаць. Дзяжурны па райаддзеле накіраваў мяне на другі паверх. На шыльдзе было напісана: следчы Кавалевіч М.С. Я адчыніў дзверы: за сталом сядзела знаёмая маёрша. Я, канечне, пастукаў у дзверы. Убачыўшы мяне, на твары Кавалевіч М.С. з'явілася ўсмешка, ад якой, мне здаецца, маёрша стала прыгожай дзяўчынай. Толькі ў міліцэйскай форме. Калі ўсмешка знікла, перада мной ужо сядзеў следчы, суровы і бескампрамісны. Мне зрабілася няўтульна. Захацелася вярнуцца на дачу і палоць грады. Але парог пераступіў ужо і назад не вярнуцца. Прынамсі, у гэты момант.

– Усё-ткі вам нешта ад мяне трэба, – сказаў я, бо нічога іншага прыдумаць не мог, і аддаў позву маёршы. – Марыя Сяргееўна...

– Не Сяргееўна, а Сцяпанаўна, – прамовіла, прыплюшчыўшы вочы, следчы Кавалевіч М.С. – Вы ж не захацелі на дачы нічога расказваць. Таму я вырашыла вас запрасіць да сябе ў кабінет.

– Дзякую за давер. Ці можна прысесці? – У мяне, мабыць, быў радасны твар ад таго, што запрошаны ў кабінет следчага.

– Калі ласка, Уладзімір Вацлававіч. Каб вы надта не турбаваліся, адразу скажу: мне трэба афарміць пратакол, у якім зафіксаваць вашы паказанні.

– Паважаная Марыя Сяргееўна... Прабачце, Сцяпанаўна... Я ўжо ўсё, што ведаў, вам расказаў у той дзень. Мне няма чаго больш дадаць.

– Ну і выдатна. Раскажыце ўсё спачатку, а я запішу.

– Відаць, міліцыі няма больш чым займацца, як высвятляць, хто аўтар надпісаў на машынах...

– Гэта не вашая справа, грамадзянін Івашкевіч, чым займацца міліцыі, – пасуравеў твар у маёршы. – Адказвайце на пытанне.

Так, тут не да жартаў, лепш прыціснем язык, бо паважаная Кавалевіч М.С. надта сур'ёзная і рашучая жанчына. З такімі трымай вуха востра. Толькі цяпер Цімафеевага сына ўспамінаць не буду. Нікога не бачыў і нічога не чуў. Быць у Веранікі быў, начаваў у яе і раніцай вярнуўся дахаты. Канечне, бачыў я гэтых падлеткаў. Стаялі на вуліцы і рагаталі так, што я іх пачуў яшчэ ад пачатку вуліцы. Цімафееў хлопец сябруе з чарнявым мацаком, які жыве на суседняй вуліцы праз тры хаты наўскасяк ад мяне. Нахабны хлопец, ніколі не павітаецца. У яго бацькі пяцісоты “Мерседэс”, а сам ездзіць на трохдзверным “Пежо”. Значыць, ёсць грошы. Хай сабе хоць на “Ягуары” ездзіць. Мне ўсё роўна. Мой бацька некалі

казаў: лепш біць свае вошы, чым лічыць чужыя грошы. Грубавата, але чыстая праўда.

Я нетаропка, быццам смакуючы кожнае слова, пачаў свой аповед, як хадзіў да Веранікі, колькі часу там быў і калі вярнуўся дахаты. На Кавалевіч М.С. не глядзеў, засяродзіў сваю ўвагу на вялізным, бы шафа, металічным сейфе. Відаць, цяжкі, кілаграмаў дзвесце, а, можа, і больш. І што сакрэтнае ў ім яна трымае? Гэта ж колькі паперы туды можна пакласці. Цікава, ёсць у гэтым сейфе бутэлька дарагога каньяку, як паказваюць у некаторых фільмах? У сейфе абавязкова павінен быць каньяк, каб пасля цяжкай працы наліць маленькую чарачку.

Ніколі раней я не заўважаў за сабой такіх здольнасцей: гаварыць адно, а думаць пра іншае. Здзіўляцца няма чаму: жыццё навучыць яшчэ і не такому.

Калі я павярнуў галаву на маёршу, дык убачыў, што яна нічога не піша. Здзекліва ўсміхаецца. У руках нават ручкі няма.

– Вось і ўсё, – сказаў я, стомлена ўздыхаючы, нібы ўскапаўшы без перапынку дзве соткі зямлі.

– Усё? – У яе руках зноў была ручка. – Мінулы раз вы гаварылі, што бачылі падлеткаў, сярод якіх быў і сын Цімафея Касецкага... Дык ён там быў, ці не быў?

– Не ведаю. Такога не помню.

– Грамадзянін Івашкевіч, я вас папярэджвала пра адказнасць перад законам. За ілжывыя сведчанні абавязкова будзе пакаранне. Пра гэта я напамінаю вам яшчэ раз.

– Я ніколі не ілгу. Навошта мне хлусіць? Якая для мяне з гэтага выгода?

– Ну, суседзі... Магчыма, сяброўства... – Яна пералічыла некалькі матываў, якія нібыта перашкаджаюць мне гаварыць праўду. Але ні з кім, акрамя Макара, я не сябрую, а Пятруша таксама і мне сусед.

Кажуць, часам сусед лепш за сваяка. І гэта праўда. Але ж усяляк бывае. Я тады-сяды ўспамінаю, як была ў мяне хата ў вёсцы. З суседзямі Мікалаем і Тэкляй... Нічога благога пра іх не хачу сказаць. Людзі як людзі. І няма ў мяне злосці на Мікалая і яго сына, што кожную раніцу патрабавалі ад мяне сто грамаў. Сам прывучыў. Толькі нехта вынімаў шкло ў вокнах і залазіў у хату. Не думаю, што да мяне прыходзілі за дзесяць кіламетраў.

Суседзі неаднойчы бачылі, як я прывозіў і цягаў у хату руберойд, аўтамабільныя шыны, скрынкі з віном-“чарнілам”, дошкі і шмат яшчэ чаго. Потым усё гэта знікла. Не ад землетрусу ці пажару, а дзякуючы чалавечым рукам. Дарэчы, і пажар быў. Частка даху згарэла. На жаль, не было ў гэтым раёне сімпатычнай маёршы-следчага, каб знайсці і пакараць злодзеяў. Тады мясцовы ўчастковы нават не захацеў узяць ад мяне заяву. Ён сказаў: “Як вы свае дошкі пазнаеце? Яны што, залатыя ці срэбныя? Такія дошкі ў кожным двары”.

Мне падабаецца ўжо Кавалевіч М.С., і я з задавальненнем, калі атрымаю грошы, запрашу яе ў рэстаран. Наўрад ці яна пойдзе. Дый запрашаць я не буду. Я для яе – трэці сорт, альбо зусім безсартавы. Мне толькі і застаецца, што пасядзець на ганку з Макарам і наведаць Вераніку, якая, пэўна, ужо і не павітаецца. Хаця шкада... Недзе ў глыбіні душы варушыцца чарвяк...

Зазвінеў тэлефон. Маёрша слухала, зрэдзь устаўляючы “так-так”, палажыла трубку і ўздыхнула. Я чакаў, назіраючы за яе паводзінамі. Яна падціснула вусны, скрывілася, уздыхнула:

– Ладна, Уладзімір Вацлававіч. Распішыце і свабодны.

– Як птушка?

– Гэта як у вас атрымаецца. Наогул, дарэмна вы маўчыце пра гэтых хлопцаў...

Я нічога не адказаў, пакінуў апошняе слова за Марыяй Сцяпанаўнай. Калі я выходзіў, у яе быў вельмі іранічны позірк. Я не мог проста так пакінуць гэты кабінет і не стрымаўся: падміргнуў сімпатычнай маёршы і памахаў рукой. У мяне была ўпэўненасць: мы яшчэ сустрэнемся.

На вуліцы мяне чакаў Журбіч. Ля яго на сядзенні ляжалі два боханы хлеба, палка кілбасы, дзве бутэлькі гарэлкі, мінеральная вада, памідоры, яйкі і туалетная папера. Аляксандр Мікалаевіч з усмешкай агледзеў мяне і, раптам праспяваўшы: “Как молоды мы были, как молоды мы были...”, – сказаў:

– Нешта вясёлы ў цябе твар.

– Я павінен плакаць?

– Я так не казаў. Марыя Сцяпанаўна табе спадабалася?

Я памаўчаў, гледзячы ў задняе шкло машыны, – яшчэ хвіліна, і будынак міліцыі знік. Нібыта не было нашай сустрэчы з маёршай, а я не трымцеў, заходзячы ў кабінет з шыльдаю “Кавалевіч М.С.”

Калі мы заехалі на дачы, Журбіч спыніўся ля доміка праўлення, пагаспадарску агледзеў стэнды з аб’явамі. Я вылез з ягонай маленькай “Рэно”: Паветра было, як чысты кісларод, паціху шумеў лес, і праз зеляніну дрэў побач выглядвала мая хата. Можа, горшая, чым у іншых і не такая прыгожая, як у Макара, але мая. Мне захацелася легчы на канапе, заснуць у цішыні, якую немагчыма парушыць, і, прачнуўшыся, зноў палоць грады. Я захацеў атрымаць ураджай агуркоў, буракоў, цыбулі, усяго, што пасеяў, каб увосень пахваліцца. Нездарма я працаваў, капаў сеяў, палоў. На зайздрасць усім. Магчыма, і Веранікі. Што ў мяне – няма рук, ног? Я – не інвалід. І мне проста цікава ўбачыць, як мне аддзячыць зямля за клопат і любоў да яе. Зямля – гэта святое. З зямлі прыйшлі і ў зямлю пойдзем... У гэтым сэнс чалавечага быцця. Зрэшты, навошта я хадзіў па зямлі, кахаў, нешта рабіў, калі такі канчатковы і безумоўна, абсалютны, выхад? Божа, скажы мне ці варта наогул жыць?

Я сеў у машыну, і мы паехалі да Журбіча. Ля яго хаты ўжо стаяў Тадэвуш, ахоўнік агульнай і маёй маёмасці. У далечыні, ля плота, што адгароджваў дачы і калгаснае поле, узнікла постаць Макара. Ён ішоў з пакетам у руцэ і махаў нам.

– Ну што, пасядзім? – Аляксандр Мікалаевіч аддаў мне торбу з мінеральнай вадой і гарэлкай. Я ўздыхнуў: грады і сёння не прапалю. Можна было б адмовіцца ад сумеснага абеду, але ў мяне пусты халадзільнік, а бульбай вячэраў і снедаў. Надта апетытны выгляд быў у кілбасы, дый смачныя агуркі ў Журбіча: халодныя, з пограба. Нібы тыдзень, як саліў.

Стол накрылі ў альтанцы. Камандаваў Макар, яму дапамагаў Тадэвуш. Я нарэзаў хлеб і кілбасу.

– Слухай, Тадэвуш, – сказаў Макар, – у цябе сала дома ёсць?

– Канечне, ёсць, – адказаў Тадэвуш, жуючы кавалак кілбасы, які ён выхапіў у мяне ледзь не з-пад нажа. – Пад Новы год зноў буду калоць парсюка. Жыць у вёсцы і не трымаць свіней – гэта не па-сялянску.

– Агуркі салёныя ў цябе ёсць? – дапытваўся Макар.

– І ў бочцы, і ў слоіках трохлітровых...

– Бач, усё ў цябе ёсць: і сала, і да сала. Чаму ж ты ніколі нічога не прынясеш. А сам, бач, які ласы на чужыя кілбасы...

– Перастань, Макар, не дуры галаву, – Журбіч нёс на стол вялікую патэльню з пахучай яечняй. – Сала на патэльні, думаеш, чые? Тадэвуша.

– Ну, зразумела... Табе, як начальніку, ён хабар дае, – працягваў жартаваць Макар. (...)

## 15

Я ішоў ад крыніцы з вёдрамі сцюдзёнай вады, смачнай і чыстай. З вадаправода ваду не п'ю. Хоць і палохаюць, нібыта ў крыніцы доўгія чырвоныя чэрві, якія імкнуцца залезці ў чалавека. Можа, і праўда. Толькі я ні разу іх не бачыў. Бачыў, што той мужчына, які гэта расказваў, цягнуў ад крыніцы на вазку паўнюткі бітон вады.

Загуў мабільнік. Званіла жонка. Асноўная навіна была, што ў вёсцы памёр наш былы сусед Мікалай. І Тэкля, яго жонка, прасіла, каб я прыехаў на пахаванне.

Атрымлівалася, што Мікалай, паралізаваны пасля той паездкі з сынам па сена, праляжаў амаль пяць гадоў. Значыць, адпакутаваў.

Пасля таго, як збыў хату, я неяк наведаў яго. Здалося, Мікалай нават памаладзеў. Твар стаў светлы, ружаваты. Гэта ўжо быў твар не алкаголіка, з якім я некалі пазнаёміўся. Вочы былі сумныя і разумныя. Аднак пытанне было ранейшае:

– Бутэльку прывёз?

Я глянуў на Тэклю, яна хітнула галавой. Дастаў гасцінец з торбы. Тэкля наліла яму паўшклянкі гарэлкі і ўставіла туды саломінку, праз якую п'юць кактэйлі. Я толькі палез у торбу, каб дастаць кілбасу, а Мікалай ужо выжлукціў гарэлку. Не перадыхнуўшы, зноў цягне шклянку.

Зайшоў сын і адразу:

– А мне? Чаму так мала прывёз?

Я змаўчаў, хоць хацелася сказаць штосьці рэзкае, абразлівае. Усміхаюцца бацька, маці. Іхні сын, значыць, так і патрэбна. Я хто? Чужы чалавек. Мае словы ім, што вецер у завуголлі.

Пакінуўшы нас удвух, Тэкля з сынам выйшлі па гаспадарцы. Гледзячы на Мікалая, нават не адчувалася, што ён перажывае з-за сваёй хваробы. Наўрад ці прывык, хутчэй гэта ад характару.

– Эх, які я быў жвавы ў маладосці, Валодзя. Дзевак любіў і яны мяне.

У арміі, а гэта ж былі пяцідзясятыя гады, спадабаўся я жонцы нашага старшыны Задубайла. Дзябёлая такая была хахлушка. Я каля яе, бы кацяня. Худы, малы, галодны. Яе Задубайла быў начальнікам склада, дзе трымалі кансервы, масла, мяса, кілбасу. Ой, чаго там толькі не было. Задубайла паехаў, а я да Насці. П'ём, ядзім. Не верыш, за два месяцы наеў такую шыю, што гімнасцёрка стала малая. Мне добра, і Насця пахарашэла. Да гэтага часу не магу зразумець, што яна знайшла ўва мне. Такія прыгажуны хадзілі, хоць у царскую гвардыю. Не, мяне ўпадабала. А што, Задубайла ўвесь дзень на рабоце. Увечары, як бэля, лыка не вяжа. Я колькі разоў прыходзіў уначы да Насці. На адным ложку мы з Насцяй, а на другім – дае храпавіцкага старшына. Я працаваў... Ух, ажно пыл ляцеў з ложка...

Казала, мне акрамя цябе нікога не трэба. Заставайся на звыштэрміновую. А навошта яна мне? Дый Насця была на дзесяць гадоў старэйшая

за мяне. Пажыў я ў арміі, дык пажыў. Дома гэтага не было. Калгас, калгас... Коні, каровы... І гарэлка. Каб не яна, дык здурнеў бы... Але і ад яе дурнеў... Нешта стаміўся...

Я паціху выйшаў з хаты. За хлявом гучна лаялася з сынам Тэкля. Размова ішла мацюкамі. Недарэмна казалі старыя людзі: што пасееш, тое і пажнеш.

Больш я там і не быў. Не хацелася бачыць паралізаванага, худзенькага, бы хлапчук, дзеда, які прагна цягне гарэлку праз саломінку. І вось цяпер ён памёр. І сусед-дачнік ужо не перашкаджае...

Я паставіў вёдры на ганак, прысеў і бяздумна агледзеўся. Проста так, вакол прырода квітнее, птушкі пяюць. Ці нельга пасядзець, нікуды не спяшацца? А што заўтра? Хто ведае, што нас чакае. Нешта заціснула сэрца. Я ўсё гойсаю, нібы маладое жарабя, а за спінай столькі гадоў, столькі гадоў... І колькі?.. Шмат, а я па-ранейшаму няўрымслівы, неспакойны. Нехта шукае паратунак у Бога, хтосьці ў д'ябла, а нехта – у тым, што вакол. У тым жыцці, якое віруе, ляціць, гуляе і плача, але яно ёсць. О, Божа, дай мне моцы!

– Валодзя, ты спіш? – ад варот чуваць голас Макара, які з сваёй торбай цягнецца да сметніка. Гэта ў яго такі звычай: кожную раніцу праходзіць каля маёй хаты і крычаць: “Ты спіш!?” Я ўжо казаў яму, каб не дурыўся, не псаваў мне сон, але што сцяне, што Макару.

Заходзіць Макар у двор, усміхаецца і дастае з кішэні бутэльку віна. Па этыкетцы відаць, ад Дзімы Корзуна. Вось не баіцца сабака, што маёрша наедзе, ці капітан. Дарэчы, даўно іх не бачыў.

– Што сумны? – Макар сядае побач і цяжка ўздыхае: – Ведаеш, Валодзя,у мяне бяда.

– Якая бяда? – Мне хочаца пабыць аднаму, але Макар ужо побач. Пырхае, нешта мармыча. Учора зноў тэлефанавала Макарава жонка і сварылася, што я напаіў яго. Я не бачыў Макара тыдзень, бо ад'язджаў у горад. Трэба было пабыць у доктара. Нешта моцна балела горла, і я кашляў, бы сабака, які аб'еўся косткамі.

Гэта штосьці, як з Мікалаем, хай яму Бог даруе ўсе грахі, – прывёз яму трохлітровы слоік піва і бутэльку віна. Ён так мяне папрасіў. Назаўтра Тэкля крычала на ўсю вёску: “Свалата, сабака, каб цябе Бог прыбраў! Напаіў мужыка, спаіў! Дагэтуль жыў, як чалавек, а цяпер нікуды нярварты!”

– Дык ты ведаеш якая ў мяне бяда? – Макар штурхае мяне ў плячо. – О, якая ў мяне бяда!..

Пакуль не спытаю, не адчэпіцца. Каб ты згарэў, хацеў пабыць у цішыні, у спакоі. Не, прыцягнуўся, валацуга. Але я так не кажу. Навошта крыўдзіць чалавека. Раптам у яго сапраўды штосьці здарылася і патрэбна мая дапамога.

– Якая ў цябе бяда? – я бачу, што Макар ужо разліў віно па шклянках, хоць я іх яму не даваў. Хто што хоча, той знойдзе.

– Валодзька, майму сыну Васілю прысвоілі чын палкоўніка! – гэта Макар крычыць на ўсё горла, палохаючы птушак на яблынях і грушы. – У мяне сын – палкоўнік! А ты хто?

Ён узнімае шклянку з віном, якое не зразумела хто і дзе рабіў, і мы чокаемся, п'ём. Я трошкі, Макар да дна. У ягоных вачах агонь. Здаецца, перада мной не дзядзька пад семдзесят гадоў, а трыццацігадовы дзядзюк. Канечне, вялікая радасць – сын стаў палкоўнікам. Хай бы і маёрам, якая

розніца, але ж гэта новая ступень. Радасць для бацькі. Я яго разумею, і мая душа святкуе разам з ім. Бач ты, палкоўнік! Можа, і да генерала дарасце.

Некалі я ў дзяцінстве марыў стаць лётчыкам, насіць прыгожую форму. Магчыма, нават стаць Героем Савецкага Саюза. Побач з маёй роднай вёскай аэрадром. Пад гул самалётаў я вырас. Толькі дзесьці ў сёмым класе пабачыў за фермай разарваны на тры часткі самалёт, які ўпаў уначы, і кроў на бялюткім снезе. Ад лётчыка нічога не засталося... Аднак некаму трэба ўзнімацца ў неба і быць сяржантам, палкоўнікам. Якая ў каго доля...

Макар маўчыць і я маўчу. За плотам відаць, як Ганна Сідараўна цягне поліэтыленавую плёнку, махнула мне рукой. Прайшоў міма тоўсты Пятруша. Ці знайшла яго крыўдзіцеляў маёрша? Не вітаецца са мной, быццам я сапраўды распісаў ягоны “Жыгуль”.

– Слухай, Валодзя, я зусім забыў табе сказаць, – Макар хітра ўсміхаецца і пачынае чысціць палкаю свае забітыя граззю боты.

– Што ты мне забыў сказаць?

– Я скажу, калі дасі ў доўг дваццаць тысяч. Ты ж ведаеш, не кожны дзень сыну палкоўніка даюць. Не кожны...

– Не кожны. І што ты зробіш з гэтымі грашыма? Зноў пойдзеш да Дзімы?

– Не, у вёску сёння павінна прыехаць аўталаўка.

– Значыць, пойдзеш да Тадэвуша...

– Не, ты што! Сынам, палкоўнікам клянуся! Гэны гад, Тадэвуш, каб бульбу заскварыць, сала не прынёс. А ты кажаш...

– Дык што ты забыў? Многа чаго тут наплёў, але галоўнага я ад цябе не пачуў.

– Дык ты мне не даў дваццаць тысяч, – Макар смяецца і твар зноў святлее, маладзее, і я пачынаю верыць, што дваццаць гадоў назад ад яго дурнелі дзяўчаты і жанчыны, але ён заставаўся аддany сваёй Тамары. Усё магчыма на гэтым свеце. Магчыма такое, што ніводны фантазёр не здольны прыдумаць.

Макар мяне заінтрыгаваў. Хачу даведацца, што падрыхтаваў для мяне. Не той ён чалавек, каб нешта прыдумваць, выдумляць. У яго на твары ўсё напісана, што ў галаве. Хоць неаднаразова пераконваўся: не вер, што на паверхні, перад вачыма. Пасля з-пад нізу ўзнімалася такая чорная хмара, якая імгненна знішчала ўсе светлыя памкненні.

Я даю грошы Макару. Мне іх не шкада, таму што ён заўсёды вяртае. Атрымлівае пенсію і адразу аддае доўг.

– Дзякуй, Валодзька, – Макар з цяжкасцю падымаецца з ганка і, ужо стоячы ля варот, гаворыць: – Ведаеш Хрысціну?

Яго пытанне, нібы ляп па галаве. Я, па шчырасці, за гэтыя дні нават забыў пра існаванне Хрысціны. Тым больш, яна пасля пажару не тэлефанавала. У мітусне, клопаце пра свае грады, якія ледзь адваёўваў у зелля, мне ўжо нічога не хацелася. Павячэраў, лёг у ложак з кніжкаю і праз паўгадзіны вочы заплюшчыліся, хоць ты запалкі пад павекі замацуй.

– Ведаю Хрысціну, – чамусьці вельмі хрыпла прамаўляю. – Ты скуль яе ведаеш?

– Скуль-скуль, адтуль. Учора ўвечары падышла да мяне кабета, калі я вяртаўся ад Казіка. І кажа мне: “Таварыш, перадай прывітанне Вацлававічу”.

– І што?

– Перадаю табе прывітанне. Вось што.

– А якая яна, гэная Хрысціна?

– Якая? Няўжо не ведаеш? – Макар паказвае, праводзячы рукою ад зямлі да галавы. – Такая... Вялікая, якраз такіх любіш. Усё, я пайшоў. А ты падумай пра Хрысціну. Дарэчы, учора спаткаў Вераніку. Чорным вокам на мяне зірнула, быццам гэта я ў яе начаваў, а не ты... Ну, будзь здароў!

Ён акуратна зачыніў веснічкі, уздыхнуў:

– Не кожны дзень сыну даюць чын палкоўніка...

## 16

Возера было ціхае-ціхае. Кволыя хвалі шаргацелі аб бераг, змывалі бруд і спакваля знікалі пад мастом. Я стаяў і слухаў музыку вады, якая разам з песняй лесу мне здавалася апафеозам прыродзе, жыццю. Яно было цудоўным, радавала мяне, і нібыта я быў дзесьці побач з аблокамі, з сонцам. Спявалі птушкі, і іх шматгалоссе ўздымала маю душу, натхняла. Я адчуваў сябе маладым і здаровым, як у дваццаць гадоў, калі поўз, чапляючыся з астатніх сіл за камяні, каб не паляцець з гары ў цясніну, і дыхаў неверагодным паветрам Каўказа. І ўсё-ткі гэта так даўно было... Даўно.

Я кожную раніцу іду да возера. Гэта толькі трыста метраў. Туды і назад. Але пасля таго, як мне зашылі ў параненую калісьці нагу кавалачак металу, гэтая адлегласць стала для мяне зусім кароткай. Я даўно пакінуў кульбаку і шпацырую, нават не кульгаючы.

Бабёр з апетытам грызе паваленае дрэва. Дзікія качкі праплылі з качанятамі і, спалохаўшыся мяне, схаваліся ў чароце.

На сёння вялікі план работы ў агародзе. На другім паверсе хаты таксама трэба разабрацца: ад былой гаспадыні засталося шмат рознага смецця. Я ўжо вынес на сметнік чатыры мяхі старога абутку, адзення, рыззя, але яшчэ заставаліся, як кажуць, вагон і ладны воз. Куды ні глянь, усюды пыл, павуціннe, а па начах ладзяць баль мышы. Каб Ганна Сідараўна здала мне ў арэнду на тыдзень свайго Ігнація, магчыма, ён навёў бы парадак. Гэтыя хітрыя істоты ў пастку лезці не хочуць, хоць і параскідаў па хаце разам з атрутай кавалачкі сала.

Праехаў аўтобус з горада. Нехта з акна памахаў мне рукой. Быццам жанчына. Відаць, мяне ведае, калі вітаецца...

Я пастаяў трохі ля возера, памыўся да пояса халоднай імклівай вадой. Час і паснедаць. У мяне на сёння аўсянка і чай. Давядзецца праз дзеньдругі ехаць у горад па прадукты. Журбіч з Клаўкай так і не адчынілі краму.

Я ўжо стаяў адной нагой на дварэ, калі падаў сігнал тэлефон. Адразу стала радасна: нумар быў Хрысціны.

– Ты мяне не пазнаў? – спытала яна.

– Дзе? Дзе не пазнаў?

– Я ж табе з аўтобуса махала... Падумала, мусіць, зазнаўся...

– Гэта ў якім сэнсе? – я цягнуў час, бо мне было прыемна слухаць Хрысціну, яе хрыплаваты спакойны голас.

– Ладна. Я жартую. Прыходзь у госці, у мяне сёння свята. Чакаю зараз. Не забудзь прынесці кніжку апавяданняў Хэмінгуэя, якую абяцаў, – Хрысціна адключылася.

Вось і ўсе мае планы на сёння, але я не шкадаваў, што так атрымалася. Не ўцякуць агарод і смецце з другога паверха. Вырасце новае зелле, а спадчыну былых гаспадароў разабраць хоць бы да восені. Я зразумеў,

што ўсе гэтыя дні мне хацелася ўбачыцца з Хрысцінай. Але сам ёй не тэлефанаваў, чакаў. Дачакаўся...

Я вырашыў ісці напрасткі па рапсавым полі. У плоце недалёка да дачы Веранікі была дзірка. Адтуль да Хрысціны метраў семсот-васемсот. Пералез цераз плот і ўбачыў, што Вераніка выйшла з хаты і глядзіць у мой бок. Здалося, што нешта збіраецца сказаць, але я, не азіраючыся, шуснуў па полі. У кожнага свой шлях і ў мяне таксама. І зараз я кірую ў госці да жанчыны, якая сама мне патэлефанавала. Значыць, я патрэбен ёй.

Пад яблыняй на самаробны, з негабляваных дошак, стол Хрысціна ўжо ставіла талеркі. З чыгуна курэла параю бульба.

Я ціха падышоў ззаду і асцярожна крануў Хрысціну за плячо. Яна ад нечаканасці ледзь не выпусціла з рук міску з салатай.

– Ой, Валодзька!.. Ты, як шпіён... Напалохаў мяне.

Па тым, як заззялі вочы і паплыла ўсмешка па твары, было бачна, што Хрысціна вельмі рада мне. Здалося, яна паімкнулася да мяне як бы прыхіліцца, абняць, але толькі цмокнула ў шчаку, абдаўшы тонкім пахам парфумы.

– Дык якое ў цябе свята? – я сядзеў на ўслоне, азіраўся: дача была ўпарадкаваная, дагледжаная. Адчувалася рука спрактыкаванага чалавека. Акуратны хляўчук на высокім падмурку, сцежкі ў камені, сабраным з калгасных палёў. У тутэйшых мясцінах ён нібы расце з зямлі. Уздоўж дарог кучы каменя, які паступова забіраюць дачнікі на свае патрэбы.

– Якое свята, пытаешся? – Хрысціна раскладвае на стале па талерках зялёную цыбулю, пятрушку. – У мяне сёння дваццаць гадоў, як развялася з мужам. Такі быў гад, ажно ўспамінаць не хочацца.

– І не ўспамінай.

– Я ўжо даўно супакоілася. Піў, прапіваў усё з хаты. Біўся, а потым яшчэ ў кватэру пры дзецях пачаў прастытутак вадзіць. Цярпенне лопнула. Ай, няма чаго гаварыць... Проста я падумала, што ты прыйдзеш у госці, і будзе для мяне свята. Няправільна падумала?

– Чаму, правільна.

– Наогул, я столькі напакутавалася ў жыцці, што мне не грэх хоць зрэдку і пасвяткаваць. Дарэчы, каб ты не саромеўся: пазней павінны падысці мае мясцовыя сяброўкі Зіна і Марыя. Я на гэтай дачы ўпершыню. Яна не мая. Гэну дачу майму старэйшаму сыну падарыла бабуля. Маці былога мужа. Яна ўжо зусім старэнькая, з хаты не выходзіць. Як салата?

– Смачная, вельмі смачная, – я ледзь здолеў прамовіць з поўным ротам.

– Еш, еш. Калі мужчына добра есць, дык і добра працуе. Я табе не казала і не ведаю, ці казаць, – Хрысціна памаўчала, і на яе вачах з'явіліся слёзы. – Не ведаю...

– Ты тайны міліянер?.. Не, ты – сакрэтны агент замежнай варожай нашай краіне разведкі... Здагадаўся?

– Амаль што... Я сядзела ў турме.

– Ну і што? – зусім абыякава прамовіў я, але недзе ўсярэдзіне заварушылася здрадніцкая мітуслівая думка.

– Амаль тры месяцы...

Я ўздыхнуў і з яшчэ большым апетытам пачаў частавацца. Душа ўжо зноў была спакойная. Мне стала сорамна за свае баязлівыя думкі. Хрысціна глядзела на мяне задумліва, прыплючыўшы вочы. Потым усміхнулася:

– Я чакала, што ты скажаш...

– Ну, і як?

– Нармальна. У мяне ў горадзе ў прыватным сектары свой дамок. Не дужа вялікі. Тры пакойчыкі, кухня і яшчэ розныя каморы. Участак зямлі быў дзесяць сотак. Усё жыццё я рабіла на гэтую хату. Будавала, рамантавала. Ты разумееш, гэта бясконцы працэс. А зарабляла я няблага. Працавала ў адным з лепшых атэлье горада закройшчыцай. Мне вельмі падабалася гэта работа. Відаць, і нейкі талент ёсць. У прыгожым касцюме нават абы-які чалавек выглядае харашуном.

Адразу пасля тэхнікума мне даверылі кроіць шкуры на футра. Я рабіла гэта лепш за ўсіх закройшчыц. У мяне не прапала ні сантыметра матэрыялу. Не было браку. Я навучылася эканоміць матэрыял. Памалу, сантыметр за сантыметрам, сабрала на футра. Пашыла пасля работы і схавала за шафай ля свайго рабочага стала. У нас была загадчыцай Галіна Сямёнаўна, такая гадаўка... Хоць нібы і нічога, як чалавек, але яна была каханкай дырэктара камбіната. Гатова была для яго на ўсё. Павінна была раз у месяц аддаваць яму левыя работы... Гэта яна мне па сакрэце сказала. Дырэктар рабіў свой бізнес. Потым ён здаў яе міліцыі і нават ні разу перадачы не занёс. Зараз жыве недзе ў Ізраілі. Але гэта так... Каб ты хоць трошкі ведаў пра мяне, хто я такая...

– На цябе ён не звяртаў увагі?

– Не, я напачатку шуганула яго і – ўсё. Я ж лепш за ўсіх кроіла шкуры, а ў нас заказвалі футры розныя начальнікі. Навошта яму было псаваць са мной адносіны. Галінай Сямёнаўнай ён быў задаволены. Зрэшты, акрамя мяне ў атэлье хапала сімпатычных дзяўчат, якія не адмовілі б яму...

– І што, за гэта трапіла ў турму?

– Не, гэта зусім іншая гісторыя. Калі табе цікава.

– Канечне.

– Я табе ўжо казала: у мяне свой дамок і было дзесяць сотак. Неяк я паехала да родзічаў у вёску. Якраз быў Вялікдзень. Затрымалася там на некалькі дзён. Памагла брату пасадзіць агарод, пахадзіла па гасцях. У мяне, дзякаваць Богу, яшчэ дзве цёткі жывыя.

Прыязджаю дахаты, а там... Бачу, плот, між маім агародам і суседскім, ушчэнт разламаны. Быццам бура якая прайшлася. У хаце дачка плача, зяць, п’яны, нейкага Куралесава кляне мацюкамі. А тут заходзіць і сусед Васіль. Расказвае. Значыцца, не спытаўшы нас і парушыўшы ўсялякія законы, для гэтага Куралесава, які вялікі начальнік у нашым раёне, выразалі адрэзаць ад майго і Васілёвага ўчасткаў кавалак зямлі. У яго, маўляў, вялікая сям’я і яму трэба пабудаваць дом.

Я думала тым вечарам памру: як сціснула сэрца, галава, бы чыгун. Крыўда такая, што, здаецца, буду крычаць на ўвесь свет. Як гэта магчыма проста так забраць у мяне кавалак зямлі. Гэта мая маёмасць. Ёсць усе паперы.

Пачала я хадзіць па кабінетах шукаць праўды. Паўгода блукала і – ніякага выніку. Сусед Васіль трошкі пахадзіў і махнуў рукою. Пасля я даведалася, што яму цішком, за тое, што маўчаў, гэты Куралесаў даў для ягонай дачкі аднапакаёўку.

Я не здавалася, пісала пісьмы. Канечне, і крычала, стала нервовая. Дзе толькі не была. Скончылася тым, што пасля чарговай атакі на начальнікаў мяне спынілі ля пад’езду і, не паспела я агледзецца, як заперлі ў псіхіятрычку. Была ў камеры для злачынцаў...

– І што?

– Што-што... Адбыла тры месяцы. Каб не добрыя людзі, і цяпер там сядзела б...

Хрысціна замаўчала. Раптам выцягнула з кішэні пачак цыгарэт, запаліла. Пасля некалькіх зацяжак закашлялася, патушыла цыгарэту.

– Я не палю. Гэта так, ад нерваў... Успомнілася. Ёсць усё-ткі добрыя людзі на зямлі. І хоць мае соткі не вярнулі, але я ўдзячна лёсу за тое, што пазнаёмілася з добрымі людзьмі, і яны мне дапамаглі выбрацца з-за кратаў. Як-небудзь потым раскажу пра іх. Дарэчы, адна жанчына павінна сёння прыехаць да мяне... Ты ж не спяшаешся?

## 17

Сонца прыпальвае. Адчуваю, як пачынае смылець скура на твары, на голай спіне. Горача, але няма жадання пайсці з-пад яблыні, схавацца ў цень. Я слухаю Хрысціну, частуюся і адчуваю сябе, як у сваёй хаце. Нават лепш. Мне здаецца, даўно ведаю гэту жанчыну. Мяне цягне да Хрысціны. Яшчэ хвіліна, і я абдыму яе. Што я раблю? Навошта тут? Калі, нарэшце, ачышчу грады ад зелля і другі паверх ад смецця? Я смяюся, слухаючы Хрысціну, назіраю за ёй...

Смех з вуліцы. Пошчак абцасаў, і ля хаты ўзнікаюць дзве жанчыны. Худая і тоўстая. Мабыць, Зіна і Марыя. Адразу рагочуць, пра нешта шчабечуць. Пэўна ж, пра нас з Хрысцінай. Пра каго яшчэ і гаварыць?

Я задаволены, сыты, як кот. Яшчэ трошкі і засну. Жанчыны аглядваюць мяне, вочы гуллівыя. Шэпчуцца з Хрысцінаю. Потым пачынаюць дапытвацца: хто я і што я...

Разглядваю іх, і мне робіцца смешна. І шкада. Абедзве старыя кабеты, на барадзе выпаўзлі ўжо сівыя валасы, а ўсё роўна... Прырода. Адна – зусім без зубоў, другая, нібы метраном, хітае галавой. Побач з імі Хрысціна, як дваццацігадовая дзяўчына. І я сябе пачынаю адчуваць юнаком.

Вось-вось мае вочы заплюшчацца. Яшчэ толькі абед. Людзі працуюць, зарабляюць на хлеб і да хлеба, а я, нібы апошні гультай і прайдзісвет, ашуканец, красуюся ля гэтых жанчын. Бач ты, у іх паружавелі твары, выпрасталіся спіны. Галасы, бы ў маладых буслíх.

Пад'ехала машына, спынілася ля хаты. Да нас ідзе жанчына. Высокая, у светлай кофтачцы, джынсах. Чарнявая. Чым бліжэй яна да мяне, тым лепш я разумею, што ведаю яе.

Яна ўжо зусім блізка. Канечне, я ведаю яе. Гэта Кавалевіч М.С. Маёрша. Марыя Сцяпанаўна.

Хрысціна цалуецца з ёй і плача, нібы спаткала нарэшце пасля шмат гадоў родную маці. Мы з Зінай і Марыяй налiваем сабе ў чаркі віна і спяваем. Спяваюць жанчыны, бо я такіх нават песень не ведаю: пра нейкіх казакаў, Маню, якую кахаў капітан...

Хрысціна з маёршай у альтанцы. У іх свае сакрэты. Значыцца, яны знаёмыя?..

Часам маёрша павяртае галаву ў мой бок, усміхаецца. Усмешка не знікае з твару Хрысціны. Значыцца, яны даўно знаёмыя...

Я ўпершыню з гэтымі людзьмі. Ніколі раней не бачыліся. Мы сядзім і гамонім, быццам ужо з'елі разам не адзін пуд солі.

– Табе добра? –пытаецца Хрысціна. Яна ўжо за сталом са мной,

прыціснулася, паклала руку на плечы. Насупраць сядзіць маёрша. Я ведаў, што мы з ёй сустрэнемся. Адчуваў. Але навошта мне гэтая сустрэча?

Хрысціна расхрысталася, пачырванела ад выпітага віна. Мне хочацца што-небудзь ёй сказаць, але я маўчу. Проста назіраю за вясёлымі жанчынамі. За маёршай. Кавалевіч М.С. Яна аказалася тым добрым чалавекам, які дапамог Хрысціне выйсці на волю. Як і што там было, я не пытаўся. Хай пакуль гэта будзе іхняй тайнай...

...Позна ўвечары мы нарэшце застаемся з Хрысцінай удваіх. На небе поўня, і на вуліцы, здаецца, светла як удзень. Нам быццам зараз вельмі добра. Хрысціна шэпча ласкавыя словы, смяецца. Нам ніхто не перашкаджае, толькі настырны камар гудзе, гудзе, ніяк не супакоіцца: уцякае з-пад маёй рукі.

Моцна хачу піць, і я асцярожна, каб не зачапіць Хрысціну, падымаюся з ложка, іду на кухню. Калі вяртаюся, яна ўжо спіць, прыхіліўшыся да прахалоднай драўлянай сцяны.

Я доўга гляджу на жанчыну, і ў душы пачынае штосьці муляць, непакоіць мяне. Чамусьці мне раптам робіцца вельмі сумна і нейкі чарвяк сумнення свідруе, свідруе маю ўпэўненасць у тым, што раблю і жыву правільна.

Я не магу легчы назад у ложак да гэтай жанчыны, якую паўгадзіны назад прагна цалаваў, атрымліваў асалоду і задавальненне ад блізкасці з ёю. У мяне адно жаданне – як мага хутчэй пакінуць гэтую хату і вярнуцца да сябе на дачу.

Я на дыбачках, ухапіўшы штаны і кашулю, а басаножкі былі на ганку, – амаль не дыхаючы, вышмыгнуў з пакоя. Ніякай запіскі вырашыў не пакідаць. Навошта?

На душы было пагана. Мне хацелася зараз апынуцца дома, у кватэры, з жонкай і дзецьмі, пачуць іх галасы, смех. Усё вакол здалося чужым, халодным і часовым, а я тут, нібы падарожнік, які страціў арыенціры, каб далей ісці...

З цяжкасцю пераначаваўшы, таму што не мог спаць, я першым аўтобусам паехаў у горад, дамоў. Некалькі разоў званіў мабільнік: гэта была Хрысціна. Я не адказваў. Чаму, не магу растлумачыць і сабе. Урэшце, адключыў тэлефон...

Аляксей Саламаха



...перадайце мне жменю зямлі з фальварку.
На магілу не хопіць, але ля яе — усцешыць...

# Касцюшкава прысяга

***Паэма***

### *I. ЛІСТ З ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЙ КРЭПАСЦІ*

Як вы, любая маці мая? Кацярына? Ганна?
Як ты, Юзэф? У Сяхновічах, мусіць, зараз.
Як там дзеці, унукі? Мне ўжо нават складана
пералічваць усіх – гэта быццам рабіць каштарыс.

Я сумую адчайна. Дарэчы, мінулай ноччу
напісаўся першы не да Людвікі вершык.
Ён пра тое, як я вандраваў ды збочыў,
каб наўпрост дадому, ды пешшу, дарма што вершнік.

Недзе побач са мной з басціённых муроў апоўдні
чысціць горла гармата, мусяць весці ў прыбіральню.
Колькі шчэ нашы жыцці на ўскрайку імперыі поўніць
будуць грукат, праклёны ды лямант званоў развітальных?

А сапраўдны палон — гэта тое, што робіцца звычкай.
Я мяркую, яна і з'яўляецца сілай катаў.

Што раблю? Раззнаёміўся з пацукамі, пільную знічкі
у каардынатнай сістэме кратаў.

І чарга на прагулку зняволеным ды збялелым
у расейскіх турмах штодзень у парадку рэчаў,
бо па нас, ліцвінаў, прыходзяць не з кожным стрэлам.
Вось у гэтым яны пакуль не далі асечак.

Мы з Юльянам, увогуле, мусім доўга
не гуляць пад хмарным пятровым небам,
што зліваецца колерам шэрым з такой жа падлогай,
і ўжо не ўцяміш, дзе тая рака, дзе глеба.

Вось такі б нам туманны мур наўсцяж манеўра,
каб, што тая вільготнасць, гусцела ў далонях зброя
і знянацку сляпіла вочы лязо касінераў,
бо выключна ў бліжнім баі ажывае мроя.

Але ўсё спісаць на надвор'е было б спрашчэнствам.
Мы і самі сабе стагоддзі капалі ямку:
нават Бог не паспеў бы на нашыя ўсе набажэнствы,
ды вагаецца шляхта ў адным і другім напрамку.

Калі нехта наважыцца з нашых мясцін па справах
(хай бы зараз, пакуль яе не заснежыць),
дык прашу — перадайце мне жменю зямлі з фальварку.
На магілу не хопіць, але ля яе — усцешыць...

### *II. РАЗМОВА З ПАЎЛАМ І*

"Ты — славуты змагар за свабоду брытанскіх калоній.
Генерал-брыгадзір, не які там штабны падгалосак.
Я сачыў, як вы слушна чынілі канфуз Кароне.
Аніводны бок не забыўся на твой унёсак.

Мне не трэба больш ворагаў, чым ужо ёсць. І скуру
мае сэнс абдзіраць, калі гэта паслужыць узорам.
Буду шчырым з табою, Тадэвуш Банавентура:
у цябе ёсць шанец спраўдзіць лацінскі корань.

Прапаную табе старую, як свет, дамову
(мне пасуюць кандоты, а вешаць цябе — навошта?):
прысягні мне на вернасць і лепей — на нашай мове.
Атрымаеш свабоду, сялян і нямала грошай.

Пры табе застануцца маёнтак ды крыж малення.
Застанешся ўплывовай персонай. Што скажаш? Згода?

Усяго тае справы, што стаць на абодва калены
і сказаць “абяцаю ніколі табе не наносіць шкоды”.

“Гасудар, я гатовы, але прысягаць асобе
не магу, калі толькі яна не ў спадніцы.
Мне таксама, дарэчы, і поза не даспадобы —
кленчу цалкам я толькі, як п’ю з крыніцы.

Вось такія ўмовы. Сабе жа пакінь прыгонных.
Хай звярне вызваленчы імпэт на сяброў на маіх вялікасць.
Што да мовы... дык я жаўнерам палонным
адмыслова па-руску казаў толькі слова “милость”.

Цар маўчаў, адчуваў інсургенцкі нораў,
але розум падказваў надзейны і звыклы вобраз:
у Расіі заўсёды знойдзецца граф Суавораў.
Цар падумаў крыху ды й мовіў з палёгкаю: “Добра.

А калі ж ты ізноў зробіш выбар, Тадэвуш, няўдалы,
дык чакаюць цябе ўжо Сібір, ланцугі ды ядры”.
Мо, пакінем пагрозы на хворым сумленні Паўла,
як і рэшткі тае размовы, як кажуць цяпер, за кадрам.

### *III. ПРЫСЯГА*

Час ішоў, снежань холад такой велічыні
спрычыніў, што вершнікі падалі з коней.
Такі нехта прыехаў наведаць Касцюшку з малой айчыны,
ліст ад родных ды нешта яшчэ працягнуў у далоні.

Павялі арыштанта змацоўваць з царом дамову.
Цвёрда голас Касцюшкаў гучаў па ўсім пакоі:
“Я клянуся ніколі не здрадзіць ніводным словам,
ані думкай зямлі, цяпер стаю на якой я”.

Варушыліся хмары, як быццам пад ветрам — збожжа.
Ад уважлівых і ўсюдыісных вачэй употай
апусціўся Тадэвуш спіной да дзвярэй на ложак,
усміхнуўся...
Ды й вытрас зямлю з ботаў.

Васіль Жуковіч



..я не сумняваўся,
што мы з ёю пабудзем сам-насам...

# Правінцыйныя гісторыі

***Два апавяданні***

## Арабінавая ноч, альбо Правінцыйны сюжэт з эпілогам

*Уладзіміру Васілевічу –*
*з прыязнай усмешкаю*

**1**

Ці ведаеце вы, якую ноч называюць арабінавай? Калі чулі ці чыталі пра гэта альбо нават назіралі з вокнаў свайго жытла за тым, што дзеецца ў такую ноч у прыродзе, усё адно не кажыце і не думайце, быццам добра ведаеце гэтую фантастычна-яскравую з'яву, такую неверагодна наступальную і неўгамонную стыхію. Ах, ці стаў бы я вас інтрыгаваць, калі б не ўспамін пра тое, як зусім нечакана разам з маім новым сябрам якраз у такую ноч добраахвотна і надоўга апынуўся пад адкрытым небам! Зрэшты, пра ўсё па-парадку.

Ліпеньскім нядзельным днём 1968 года я, дваццацідвухгадовы хлопец, ехаў за дзвесце вёрст – з абласнога цэнтра ў мястэчка, запрошаны Інай Мілаш, студэнткаю сталічнага педінстытута, каб вузкім сяброўскім колам адзначыць здадзеныя ёю іспыты за першы курс і завяршэнне трэцяга курса ўніверсітэта яе сястрою Нэляй.

Сонечны і гарачы выдаўся той дзень. У аўтобусе, перапоўненым пасажырамі, было цесна і душна. Мне дастаўся квіток без месца, і я стаяў, спачатку на адной назе, пакуль не знайшлося сантыметраў трыццаць для маёй другой нагі, але ніколечкі не быў падобны да пакутніка. Я нават радаваўся, што не сяджу: гэтак лепш захоўваліся канты на добра адпрасаваных нагавіцах – я ж ехаў на спатканне з дзяўчынаю! Яе лісток разам з канвертам ляжаў у кішэні майго пінжака. Глытком азону ў душным салоне аўтобуса здаваліся яе словы запрашэння ў госці. За кароткі час тут я ўжо двойчы іх перачытваў. Зычлівы змест ліста гэтак гарманічна спалучаўся з каліграфічным почыркам, якім яна асабліва прыгожа вывела маё імя і прозвішча: Яну Лебедзю. Штосьці незвычайнае і ў той жа час блізкае знаходзіў я ў адрасе Іны – завулак называўся: Лясны. Найменне такое натуральна-беларускае і такое мілагучнае! У памяці маёй раз-пораз паўставаў прывабны дзявочы вобраз: залаціста-зялёныя вочы, смуглявыя і як бы чымсьці здзіўленыя бровы, якія даставала жывая грыўка каштанавых валасоў, цудоўным чынам адцяняючы бляск вачэй. Вусны – усмешлівыя і зусім некранутыя памадаю...

Успаміналася нашае знаёмства, што адбылося тры тыдні таму, у гасцініцы, дзе я, карэспандэнт абласной газеты, камандзіраваны ў раён, пасяляўся, а яна з'явілася ў ролі прыбіральшчыцы, падмяніўшы на працы матулю. Я ніяк не чакаў убачыць страйнюткую, як таполька, дзяўчыну з вядром, з анучаю і швабраю ў руках! На маё недарэчна-гуллівае пытанне, каго тут фея чаруе, яна загадкава ўсміхнулася, больш вачыма, чым вуснамі, і аджартавалася: "А каго тут шукае прынц?"

Калі Іна навяла парадак на абодвух паверхах, я выпадкова, ідучы з нумару ў буфет, ізноў спаткаўся з ёю і змог крыху пагаманіць. Даведаўся, што яна, студэнтка, летнія канікулы мяркуе правесці дома. Я, натуральна, коратка распавёў пра сябе. Радаваўся, што і я – студэнт, толькі шкадаваў: з мінулага года, калі памерла маці, стаў завочнікам. Спатрэбілася праца і я прыдбаў яе ў рэдакцыі.

З Інай хацелася пасябраваць, і мы абмяняліся адрасамі. Мяне ўразіла незвычайнае прозвішча дзяўчыны – Мілаш (такое ў нашых краях мне сустрэлася ўпершыню), але найбольш – яна сама, яе краса і дабрыня.

Зваротнаю дарогай і ўжо дома стараўся разабрацца ў сваіх пачуццях, адказаць самому сабе, чаму я неабыякавы да яе і як называецца мая неабыякавасць: проста прыхільнасць ці закаханасць? "Магчыма, так нараджаецца Яго вялікасць Каханне?" – думалася мне. Прайшло некалькі дзён, як развітаўся з дзяўчынаю, а ўжо мне так чагосьці бракавала, так не ставала! Толькі наважыўся чыркануць ёй ліст, а яна ўзяла і сама азвалася, апярэдзіла мяне, прытым не проста так напісала, а запрасіла да сябе на вечар. І калі там, у гасцініцы, мы адно да аднаго звярталіся на "вы", то ў сваім лісце яна смела скараціла адлегласць між намі – перайшла на "ты". Успомніўся Пушкін: "Пустое *вы* сердечным *ты* // Она, обмолвясь, заменила..." Я загарэўся новым спатканнем настолькі, што адбіў тэлеграму, у

якой паведаміў час прыезду ў мястэчка. Вырашыў ехаць нягледзячы на тое, што галоўны рэдактар, стары занудлівы чалавек, не падараваў мне ніводнага рабочага дня, ні паўдня, матывуючы адмову так проста: “Ты ж нядаўна там быў!” Словам, мусова было ў панядзелак раніцай з’явіцца ў рэдакцыі. “Нічога, – разважаў я, – зваротны аўтобус а шостай раніцы, наперадзе – цэлы вечар і цэлая ноч!..”

У маёй сумцы побач з пляшкаю мускатнага віна і натуральнага шакаладу, купленых на Інін святочны стол, ляжалі часопіс “Маладосць” з “Альпійскаю баладаю” Васіля Быкава і паэтычная кніга “Чалавечы знак” Анатоля Вярцінскага. Вёз тое, што мяне апошнім часам прыемна здзіўляла ў нашай літаратуры, каб прачытаць самыя хвалюючыя старонкі разам з Інаю і абмяняцца ўражаннямі ад прачытанага. Я не сумняваўся, што мы з ёю пабудзем сам-насам.

У раённым цэнтры аўтобус прыкметна разгрузіўся, і я даў нагам адпачынак, але сеў так, каб не выпучыліся на каленях мае старанна адпрасаваныя нагавіцы. Нарэшце паказалася высокая труба мясцовае электрастанцыі, і неўзабаве шафёр збавіў хуткасць, зрабіў плаўны паварот. Я ўбачыў патрэбную мне аўтастанцыю. Лічаныя секунды – і аўтобус прыбыў да месца прызначэння. З-за невысокага будынку выйшла з нейкім худзенькім кучаравенькім юнаком Іна, апранутая ў блакітную сукенку. Вузкі паясок падкрэсліваў яе тонкую талію і статную паставу. Маё сэрца амыла хваля зачараванасці дзяўчынаю. У гэтую хвіліну юнак штосьці ёй сказаў, і яны абое ўсміхнуліся.

## 2

“Мабыць, сваяк”, – падумаў я. Але думку-галубку прагнала думка-ястраб: “А што, калі гэта – “Рамэа”? Якая ж тады роля адводзіцца мне?” Я сам сябе не пазнаваў... Яны абое зыркалі вачыма то на пярэднія, то на заднія дзверы аўтобуса, а калі я “прызямліўся”, хуценька рушылі да мяне.

– Салют! – з паднятаю злёгку рукою вымавіў я моднае тады слоўка, прыхаваўшы нечаканае, хоць і не зусім акрэсленае пачуццё рэўнасці.

Іна падала руку. Рука была халаднаватая, затое вочы – поўныя цеплыні, яны так свяціліся-ззялі пад дужкамі броваў і грыўкаю-хмаркай свежавымытых валасоў.

– Знаёмцеся, – сказала яна прыязна.

Я назваў сябе, паціскаючы цёплую юначую руку.

– Артур, – прадставіўся хлопец.

– Гэта – сын знанага прафесара, – сказала Іна, – сябра маёй сястры Нэлі і мой добры знаёмы, прыехаў з Мінску. А пра цябе я распавяла яму.

Я не стаў пытацца, дзе тая Нэля і чаму яна не з Артурам, проста з палёгкай уздыхнуў, супакоіўся, дзівак, што Іну ніхто не перахапіў, нібыта яна павінна была належаць мне.

Вечарэла. Па тратуары, што акаймоўваў брукаванку, мы ішлі паўз рынак, рэстаран, гасцініцу, парк з помнікам ахвярам вайны і Вечным агнём. Далей, між кронамі дрэваў, паказаліся купалы царквы. Потым тратуар і брукаванка скончыліся, пайшла дарога палявая, з выбоінамі і лужынкамі.

– Не так даўно межы мястэчка пашырыліся за кошт вёсачкі Нівы, – казала, звяртаючыся да мяне дзяўчына, – і цяпер былая вёсачка сталася яго ўскраінай. Якраз там і мой хутар, Артур ведае.

Артур аказаўся інтэлігентным, у меру гаваркім юнаком, які скончыў дзевяць класаў. Начытаны, захапляўся паэзіяй, фальклорам, музыкай, цікавіўся архітэктурай. А быў ён тонкі і худы настолькі, што паласатая тэніска вісела на ім, як на калочку. Пры гэтым хлопец быў у "дудачках", якія тады ўвайшлі ў моду і спрыялі з'яўленню першага пакалення стылягаў. Ён да Мілашаў заехаў, пагасцяваўшы ў сваякоў у Янаве-Палескім.

Пятнаццаць хвілінаў няспешнае хады – і мы ў раскошнай сядзібе Мілашаў. Прасторная, з пушчанскага лесу хата, разам з усімі сялянскімі пабудовамі і пчольнікам, патанала ў добра дагледжаным садзе. Ля хаты, уздоўж веранды, буялі кветкі, на якіх ці то ад нектару, ці то ад шчыравання хмялелі чмялі і пчолы. Побач з хатаю раскашавалі шырокія і доўгія грады гуркоў і памідораў, абгароджаныя ад хатняе птушкі металёваю сеткаю, раслі бульба, капуста, буракі, сланечнікі.

У хаце нас чакалі руплівыя і дужыя, сялянскай загартоўкі гасцінныя гаспадары – чубаты, з вялікімі і вузлаватымі рукамі бацька, ласкавая каравокая маці, здаровыя, кроў з малаком, Іеіны старэйшыя сёстры Зіна і Воля, каржакаваты брат Коля з пышнаю жонкаю. Не паспеў я павітацца з усімі, як у хату Нэля прывяла яшчэ аднаго госця – Толю Ковеля, свайго аднакурсніка, які прыехаў да яе яшчэ раніцай, паспеў аблюбаваць сенавал, добра адпачыць з дарогі і, як пасля высветлілася, спланаваць начлег.

Стол у святліцы быў застаўлены далікатэсамі – азёрнаю рыбаю, смачна пасмажанай у смятане, салатамі, грыбамі ў алеі, пірагом, мёдам. А калі гаспадар паклікаў усіх за стол, гаспадыня дастала з печы яшчэ і дранікі з маладой бульбы са смажанінай. Вядома, пад такую закусь знайшлася і мясцовая "партызанская", як тут жартам ахрысцілі "нязжытую самагонку з жыта". Каб не Артур, які яшчэ ўвогуле не ўжываў моцнага алкаголю, маё мускатнае віно прастаяла б неадкаркаванае. Шчодрай вячэры адпавядала шчырая бяседа – з тостамі, жартамі, песнямі. А песні пераважалі народныя, апроч беларускіх, украінскія, якія добра ведаў Артур і якія даволі дасканала выспеўвалі Іна з матуляю, падгалосак забяспечвалі тры Іеіны сястры з Артурам. Бацька, Коля і ягоная жонка, як і мы з Толем Ковелем, часцей за ўсё былі ўважлівымі слухачамі.

У прасторнай і ўтульнай хаце Мілашаў думалася пра тое, што сярод мноства агульнанацыянальных, дзяржаўных, рэлігійных святаў ці не самае светлае тое свята, якое збірае духоўна блізкіх даўніх і новых сяброў, і самае цёплае тое застолле, дзе прасторна песням і добрай людской гамане.

Недзе а палове на дзясятую гаспадар і гаспадыня пажадалі ўсім "дабранач", пайшлі ў свой пакой за печчу спаць. Крыху пазней з намі развіталіся Зіна і Воля, яны зачыніліся ў сваім пакоі. Затым і Коля з жонкаю выправіліся дамоў. Нашая юная кампанія ў поўным складзе заставалася нядоўга, бо Нэля з Толем, як толькі выйшлі ў двор падыхаць свежым паветрам, надоўга адасобіліся. Я парадаваўся, бо Толя гучна размаўляў, нягледзячы на позні час. Мы ўтрох у цішыні смакавалі эпізоды "Альпійскай балады" Васіля Быкава, "Каласоў пад сярпом тваім" Уладзіміра Караткевіча, паэмы "Дажынкі" Анатоля Вярцінскага.

Вечар спатканняў атрымаўся цікавы. Заставалася апоўначы сустрэць аўтобус з Гомеля, у якім абяцала прыехаць Іеіна сяброўка Ніна Шкляр. Мы з Артурам выказалі такую гатоўнасць і ўгаварылі Іну перадыхнуць. Неўзабаве пакінулі гасцінную хату Мілашаў і рушылі да аўтастанцыі.

## 3

Пакуль выходзілі з сядзібы і потым ішлі ўздоўж канавы да шырокае вуліцы, чулі, як наўкола неўгамонна цвыркалі-свіргаталі конікі. Было парна. Нейкім цудам недасушанае бяздарнаю меліярацыяй балота, што раскінулася непадалёк, раптам дыхнула прахалодаю. Свежы ветрык лашчыў нам вочы. Ідучы, мы больш і больш знаёміліся. Я даведаўся, што Артурава мара – стаць фальклярыстам-этнографам. Сваю будучую прафесію ён не без гонару называў справай мужчынскаю, з захапленнем гаварыў і пра Аляксандра Сержпутоўскага, і пра Міхала Федароўскага, і пра ўнікальнага казачніка-апавядальніка Рэдкага. Я ведаў пра іх не так багата, як ён, таму новае знаёмства акрыляла.

У мяне Артур цікавіўся, як я стаў журналістам. У гамонцы мы і не заўважылі, як прыйшлі на аўтастанцыю і як сюды прычаліў з Гомеля аўтобус.

Ніна Шкляр не прыехала. А мы, чакаючы яе, так прагна ўглядаліся ў пасажыраў, якія выходзілі на бетанаваную пляцоўку, спадзяваліся спаткаць яе, аж пакуль не выйшла апошняя пасажырка – маладзенькая дзяўчына ў белай сукенцы з двума вялізнымі чамаданамі і сумкаю на плячы. Яе ніхто не сустракаў, і мы спыталі дазволу паднесці ёй чамаданы.

Калі дзяўчо ўсміхнулася, давяраючы нам свае чамаданы, мы запыталіся, натуральна, куды трэба ісці.

– Тут недалёка, – яна махнула рукою ў бок чыгункі.

Дзяўчына перавяла нас праз чыгунку, і мы апынуліся на нейкім неабсяжным куп'істым лузе. У гэты час нечакана здрыганулася неба, падсвечанае маланкамі, пасыпаліся дробныя дажджынкі, і ў прыродзе пачалося штосьці неверагоднае. Над зямлёю запанавалі ўспышкі, якія ахоплівалі амаль усё неба, і суцэльны ціхі звон, які парушаўся толькі працяжнымі раскатамі грому. Бліскавіцы штоміг асвятлялі ўвесь абшар, яны ззялі адначасна з усіх бакоў, заліваючы прастору асляпляльным святлом. Іх вогненныя зігзагі, асабліва тыя, што мелі не вертыкальны, а гарызантальны накірунак, і ў вышыні, і ўдалечыні працінали неба, утвараючы фантастычныя формы. Часам такія бліскавіцы нагадвалі хвалепадобныя дугі, сям-там перарваныя, яны сваімі канцамі ўтваралі завостраныя пікі. І на гэтым д'ябальскім маляўнічым фоне пачалося шквалістае нашэсце ліўня. Наша спадзяванне, што навальніца як наляцела, так і праляціць, развеялася хутка, як, дарэчы, і мая трывога за канты на штанах, і мы, даўно згубіўшы сцежку, перасталі пераскокваць з купіны на купіну: ратаваць ногі ад вады не было аніякага сэнсу. Што і казаць, выглядалі мы недарэчнымі мурашкамі, якія з вялікімі ношамі пайшлі насуперак непагодзе.

Каб дзяўчыне было лягчэй адолець цяжкі шлях, мы пачалі знаёміцца. Звалі яе Аленай. Прозвішча насіла чыста беларускае – Кажух. Студэнтка, затрымалася пасля сесіі ў горадзе і дабіраецца ў сваю вёску Пяскі, за сем вёрстаў ад мястэчка. Мы пажартавалі, спыталіся, ці не цэглу вязе яна ў чамаданах. Аказалася, асноўным грузам былі кнігі. Нягледзячы на праліўны дождж, пра што мы толькі не размаўлялі. Напрыканцы пакутлівай вандроўкі ў Пяскі ўспомнілі пра сумнае: не стала бліскучага расійскага майстра прозы, сардэчнага пісьменніка Паўстоўскага.

Аленіна вёска ўразіла брамаю ў самым яе пачатку. "Помнік архітэктуры 19 стагоддзя. Неагатэчны стыль", – адразу прыйшоў да такой высновы Артур.

Што да нашага з Артурам рыцарства, то за яго Алена арыгінальна

ўзнагародзіла нас: у мокрым кветніку зламала жоўтую вяргіню і ўручыла зорку кветкі – адну на дваіх.

Зваротная дарога ўсё яшчэ пад шалёнаю залевай была нашмат лягчэйшая: рукі, як-ніяк, вызваліліся ад чамаданаў.

Да Мілашаў вярнуліся мы а чацвёртай гадзіне раніцы. Іна дужа хвалявалася за нас: дзе прапалі? Мусіла спароць з сенавала Толю Ковеля, узброіць яго бацькаваю плашч-палаткаю і выправіць на пошукі прапаўшых. Пошукі скончыліся нічым, дакладней – яшчэ большаю трывогай.

А шостай раніцы я ўжо быў на аўтастанцыі, каб у мокрым касцюме і раскіслых басаножках вяртацца дамоў. Дома пераапрануўся, перакусіў і роўна а дзявятай, поўны стваральнай энергіі, паўстаў у рэдакцыі перад занудлівым галоўным...

### *Эпілог*

Як там у Янкі Купалы ў “Кургане”? “Пацяклі, паплылі за гадамі гады...” Божа мой, якое непрадказальнае жыццё! Хто мог падумаць, што Іначка, якая мяне з Артурам здружыла навек, загіне ў аўтакатастрофе! Загінула маладзенькаю настаўніцай у галалёд. Сястра яе Нэля выйшла замуж і пераехала на Украіну. Толя Ковель прыжыўся ў Піцеры. Мы з Артурам займелі кожны па адной жонцы і па двое дзяцей, дажылі і да ўнукаў. Сустракаючыся, не раз успаміналі былое і, вядома ж, тую арабінавую ноч. Нам карцела завітаць у Пяскі, праведаць нечаканую гераіню той ночы – Алену. Аказалася, што яна, рана аўдавеўшы, выйшла замуж за італійца пад час савецкае перабудовы і пераехала ў Італію! Аднак у Пяскі, усклаўшы кветкі на Ініну магілу ў пасёлку, мы аднаго разу ўсё-ткі завіталі.

Пасівелая Аленіна маці нас, нечаканых гасцей, сустрэла прыязна, частавала садавіной. Расказвала, паказваючы сямейныя фатаграфіі. Шкадавала, што рана адышоў яе гаспадар і што ёй наканавана цяпер векаваць адной. Дачку яны гадавалі ў строгасці. Старая паказала рэмень, што ўсё яшчэ вісеў на цвіку, той самы, якім Аленку выхоўвалі змалку.

Самае цікавае тое, як у тую арабінавую ноч маці рэагавала на паводзіны дачкі. Спачатку ёй сказала: “Як жа, доню, ты магла з двума незнаёмымі ноччу пайсці?!” А калі доня нас тады надта пачала хваліць, яна папракнула яе: “Ну дык як жа ты магла іх не запрасіць у хату?!” “Лічыце, запрасіла, калі мы прыйшлі”, – так падумалася.

## Падла

– Ну, дзядзька Павел, кампанію табе вядуць – такога ж дзеда, як ты сам, – сказалі Паўлу Мікалаевічу Навіку Коля і Толя, маладыя хлопцы, калі ўвайшлі з калідора ў палату. – Абмываць падзею будзем сёння ці заўтра?

– І сёння, і заўтра абмыем, на жарт адказаў жартам гаваркі Павел Навік. – Сёння чаем, заўтра кампотам альбо кісялём.

– А што ж кефір мы забылі? – прадоўжыў нясумную гамонку Толя.

– Дарэчы, у кефіры некалькі сотых ці то нават дзясятых працэнта алкаголю, – падтрымала размову Надзея, дачка Паўла Мікалаевіча, што прыехала ажно з Каўказа, каб праведаць свайго бацьку, і сядзела зараз на табурэтцы пры ягоным ложку.

– Гэта я і меў на ўвазе, – усміхнуўся хлопец.

А тут ужо і новенькага прыняла медсястра з прыёмнага пакоя. Новы дзед аказаўся надта слабы. Ён, кульгаючы і цяжка дыхаючы, прашкандыбаў да незанятага ложка ля шырокага і высокага бальнічнага акна і моўчкі ўлёгся на ім, побач з ложкам Паўла Навіка. Маўчанне доўжылася некалькі хвілінаў, яго парушыў дзядзька Павел.

– Адкуль прыбыў? – ён гучна запытаўся ў старога.

– З Ружанаў.

– Я ў Ружанах усіх пажылых ведаю, а цябе нешта не пазнаю.

– Тут я ў прымаках, сам са Шчытнага.

– І хто ж ты будзеш? – дапытваўся Павел Навік, які пры ўсёй прыроднай цікаўнасці ўжо слабавата бачыў.

– Я – Шут. Ці знаў такога?

Як толькі пачула гэтае прозвішча Надзя, яна ўзгадала ваенную часіну, калі ў іх двары марадзёрствавала купка партызанаў, якіх жыхары сяла баяліся больш, чым чужынцаў. Не толькі ў хаце, а й у сене, і ў саломе, і па ўсім двары яны арудавалі, шукалі нажытае сям'ёю дабро, нават шампаламі прапорвалі зямлю і такім чынам знайшлі закапаную скрыню з адзеннем. Пагрузілі знаходку на фурманку. Дзесяцігадовая Надзечка прасіла-енчыла:

– Дзядзечкі, аддайце хоць маю зялёную спаднічку і сінюю сукенку!

– Прэч, смаркатае шчанё! – выкрыкнуў тады Шут-старэйшы, які памагаў марадзёрам, бо сярод іх быў і ягоны сын.

Надзін бацька непараўнальна больш, чым дачка, сербануў гора ад дзеяў гэтага ліхога чалавека. Ды на яго пытанне адказаў на дзіва стрымана.

– Як жа не знаць! У Вараўнілаўцах пасля вайны ты быў начальнік.

– Дзела прошлае, – сказаў ён, крэкчучы.

– Пэўна, што не цяперашняе, але людзі ўсё памятаюць...

Шут нечакана, усім на дзіва, імгненна заснуў. Ува сне ён стагнаў.

– Няўжо той самы гэта Шут? – спытала Надзя ў бацькі.

– Ты ж лепей за мяне бачыш. Хіба не пазнала?

– Я ж думала, ён даўно памёр, бо і ў вайну ўжо быў немалады.

– Як бачыш, жывы. Ну, за паўсотні гадоў змяніўся. Так што можаш наноў пазнаёміцца.

Цяпер у Надзі ў вачах імгненна з'явіўся новы эпізод, ужо з мірнага жыцця. З кампаніяй раённых агентаў, якія не давалі спакою сялянам за нявыплачаныя падаткі ды бралі людзей за горла, каб куплялі аблігацыі, заявіўся да Навікоў і ён, тадышні старшыня сельсавета, прытым з гарэлкаю.

– Ну, Павел, шукай закусь, мы да цябе заскочылі во з літрухаю, – як гаспадар сяла літаральна з парога ўпэўнена пачаў ён.

– То праходзьце ў пакой, сядайце, толькі, як кажуць, чым хата багата... Бо гаспадыня панесла пеўня прадаваць, дачка масла біла, а я абганяў бульбу, толькі вярнуўся з поля. Па кухні вецер гуляў...

Бацька дастаў з печы капусту і прынёс з чыгунком на стол, папрасіў дачку падаць хлеб, талеркі, лыжкі, шкляначкі.

– Выбачайце, госці, за такую нішчымную закусь, – сказаў ён, сядаючы з краю, накладвайце кожны сабе.

Шут кінуў вокам на Надзейку, што тулілася да бацькавага пляча, і, адкаркоўваючы пляшку, прамовіў:

– А можа, маслічка свежага малая падасць?

Дзяўчынцы крыўдна было, бо і самой хацелася хлеба з маслам, аж

ныла ў жываце, ды яна чакала матулю. І ведала, што масла чакаюць і тры меншыя сястры, і, тым больш, хворы на сухоты старэйшы брат.

– Яно ж яшчэ не дастатае з біянкі і не памытае, – адказала Надзейка.

– Пойдзе і непамытае, – падміргнуў агентам старшыня, напаўняючы шкляначкі.

– О то ж бо, – падтрымалі Шута раённыя агенты, – пойдзе, пойдзе!

– Дастань, дачушка, масла, – сказаў бацька.

Надзейка адвіхнулася ізноў на кухню, накроіла там тоўстых лустаў хлеба, намазала іх маслам і паставіла ў цэнтры стала.

– Вось гэта па-нашаму, – пахваліў яе сельскі начальнік.

З рынку вярнулася маці. Прыйшла і не павіталася.

– Што ты такая пячальная, Пічэўская, ці, можа, злосная? – яхідна заўсміхаўся мясцовы начальнік.

– А хіба загадаеш быць вясёлаю? Ці ж даўно ты з хеўраю абабраў нас?.. Нават дзіцяці ніц не пакінуў.

– Я не ўзяў ніводнай шмоткі.

– Браў ці не браў, мы не ведаем, але назаўшы ўквэцаўся ў брудную справу.

– Раю табе прыкусіць язык, Антаніна, а то пашкадуеш, – прыгразіў Шут, пры гэтым падняў шкляначку, спрабуючы ўсміхнуцца, і сказаў:

– Вып’ем за нас.

Ён першы прычасціўся горкаю “Маскоўскаю”. Начальнікі дружна пілі і закусвалі. Гаспадар, чалавек памяркоўны, моўчкі іх падтрымліваў: уважылі, прыйшлі з гарэлкаю. А што ніхто з іх не запрасіў ягоную жонку, то ён гэта апраўдваў чыста мужчынскаю кампаніяй.

Пакуль Надзя ўспамінала, Шут працягваў зрэдку стагнаць праз сон. Потым у палату ўвайшла медсястра і, раздаючы лекі, пабудзіла яго.

– А хто такі ты? – запытаўся ён у дзядзькі Паўла.

– Я з Варанілаўцаў. Навік Павел.

– Не згадаю. А дзе твая хата, з якога канца?

– Хата мая якраз насупраць Гармановае. Гармана ўсе ведаюць, ён у царскую вайну не выязджаў у бежанства, у сваім сяле з бацькамі застаўся.

– А што за маладзіца каля цябе? – спытаў Шут, абы не маўчаць.

– Гэта мая дачка Надзя, аж з Каўказа прыехала, там яе сям’я.

Надзя хацела сказаць, што ў час вялікай вайны яна была малая і горка плакала, калі забіралі скрыню вопраткі з іх двара, прасіла пакінуць хоць бы спаднічку і сукенку, але ён, Шут, не пашкадаваў малую, нават вызверыўся. Сказаць то хацела, ды прыклад брала з бацькі, які ні ў чым Шута не дакараў. Тады яна адно асмелілася нагадаць, як частавала маслам яго і дзядзькоў, што з ім разам пілі гарэлку.

– Памятаеце? – запыталася Надзя.

– Не, не помню. Мо табе гэта прыснілася.

Надзін бацька не забыўся, як гэты самы Шут аддаў ні за што яго пад суд, напісаўшы данос, быццам ён, Навік Павел Мікалаевіч, сарваў заданне па вывазе лесу. Гэта ў той час як задання ніякага не было, бо конь у Паўла быў кульгавы. Калі Антаніна ў Шута пыталася, за што мужа ўпёк у турму, той адказаў: “За твой востры язык”. Ён і пазней помсціў сумленнай жанчыне: калі мусіў уручыць ёй медаль за пяцёх выгадаваных дзяцей, то грашовую прэмію ўсё ж не даў, бо, маўляў, адну дачку нарадзіла ў вайну. Антаніна не сказала яму, што, калі б у ваенны час не нараджаліся дзеці,

то пасля вайны адкуль узяліся б у школах вучні, у інстытутах студэнты, а ў войску прызыўнікі. Яна ўвогуле нічога не сказала ад крыўды. Адно заплакала, палічыла сябе вінаватаю: мусіць, начальства лепш разбіраецца за яе, грэшную?..

Цяпер Паўлу Навіку цяжка было зразумець, ці то насамрэч Шут не можа пазнаць яго ды ўспомніць мінулае, быццам у яго памяці замыканне здарылася, суцэльныя там правалы дый годзе, ці ён гэтак толькі спрытна прыкідваецца.

– А што ты ўвогуле памятаеш? – амаль з абурэннем звярнуўся да яго Павел. – Як забілі Урбановіча, хоць гэта ведаеш? Маўчыш. Дык слухай.

Ён распавядаў пра тое, як камандзір партызанскай брыгады Іосіф Урбановіч 20 ліпеня 1944 года прыпыніўся з партызанамі на лужку паміж Каплямі і Варанілаўцамі, дзе рэзка папярэдзіў марадзёраў: "Адкажаце ўсе па законе!" У гэты час адзін з вінаватых стрэліў яму ў спіну... Слаўны быў камандзір. Пра яго мне чытала найменшая дачка... Павел не паспеў сказаць: "у нараджэнні каторай ты абвінаваціў маю Антаніну", бо Шут ізноў заснуў. І ўва сне стары зноў стагнаў.

– Ну, татачка, папраўляйся, я пайду ўжо, – Надзя развітвалася з бацькам. – Адно скажы мне, чаму ты прамаўчаў, што Шут у нас у сядзібе быў з марадзёрамі заадно, а пасля паклёпнічаў на цябе і загнаў у няволю.

– Я пашкадаваў яго: слабы, дужа хворы, усё стогне...

Калі дома Надзя расказала пра ўсё маці і брату, маці здзівілася, што муж яе такі міласэрны, а брат папракнуў сястру, чаму яна сама не сказала гаду ў вочы ўсё, што пра яго думае. Нейкае імгненне ён памаўчаў і дадаў:

– Разумееш, кожнае падла, незалежна ад стану здароўя, павінна напоўніцу ўсведамляць, што яно і ёсць падла.

---

***„Дзеяслоўцы“ шчыра віншуюць свайго сталага аўтара Васіля Аляксеевіча ЖУКОВІЧА з 75-годдзем і зычаць яму моцнага здароўя, новых творчых набыткаў і плённай працы на карысць нашай Бацькаўшчыны.***

Ярына Дашына



...тэарэтычна паэт

практычна псіх...

# Пакой чакання

### ТЫ І Я

Уцякай у Паэзію. Ні скальпелем, ні абразаю там цябе не дастануць. Ні слоўнікавай цукровасцю... Экзістэнцыя верша твайго – экзекуцыя фразаю. Таніроўка душы – няроўнасці ў гэтай мясцовасці.
І таму мы не любім жэлейнае і шакаладнае, абыякава ўспрымаем вершы мінорныя – усё накручваем сэнс, нібы бруд на палачкі ватныя, і шукаем бясконцага выйсця ў словы прасторныя.
Ты нікім не хацела быць. Адбывала маленькаю тэрмін свой і сыходзіла ў гульні язычныя. Наляпіла трыпутнікі на душэўна-каленкавыя раны... Крываточыла вершамі хаатычнымі.
Я гляджу на цябе – мы з табою нібыта палярнасці аднае рэчаіснасці і аднае бяздоннасці, аб’яднаныя дзеля нейкае салідарнасці ў бясконцасць жыцця вершаванай сваёй сінхроннасцю.
Уцякай у Паэзію. Там мы з табой і сустрэнемся. Як каханкі таемныя на паласе нейтральнай. Мы, магчыма, палюбімся, а пазней і ажэнімся ў бессмяротнасці звершаванае і сакральнае...

### *ТЭАРЭТЫЧНА ПРАКТЫЧНА*

тэарэтычна бог
практычна ідал
тэарэтычна паэт
практычна псіх
тэарэтычна жывеш
практычна памерла
тэарэтычна кахаеш
практычна любіш
тэарэтычна жонка
практычна каханка
мужчыны таго
што
па
тэорыі верагоднасці
тэарэтычна правы
практычна левы

* * *

ноч на ноўтбуку цыгарэтны попел за акном
цвыркоча нельга столькі кавы нельга столькі
словаў спіць халодны месяц за сцяною сына сніць
анёлаў крохкіх Бог глядзіць праз шыбу з болем і
папрокам нема і трагічна Божа адгукніся

### *УНАЧЫ*

Дапісваеш тэкст да чарговае коскі...
На небе згасаюць зоркі Свароўскі
і маладзіковы анфас.
Аптычны падман у месячным ззянні –
глядзяцца ў брук адцянённыя здані.
І жабкі выконваюць джаз.

За коскаю ты вырашаеш дылему...

А Бог не выносіць вясковыя тэмы,
як рэгіянальны спецкор.
Спрабуе ўціснуць у вершык каханне.
У галаграфічнае гэта світанне.
У гэты нішчымны прастор...

## З ЦЫКЛУ ГЕРМЕТЫЧНАСЦІ ЖЫЦЦЯ

Балюча не будзе, будзе заўжды герметычна.
Ёгуртная белізна бялізны. Пачыналіся ў адным Богу.
Прачыналіся ў адным целе. Паміралі ў розных...
Вяснуй жа волю! Кропельніцы на дрэвах, сонцападцёкі на твары.
Сціснуты ўшэпт да памеру дыхання голас. На другую палову
жыцця завядзёнае сэрца.
І хруст рыфмы на збег радкоў –
аплікацыі маіх вершаў...

* * *

Цемра – як цішы бясколерны атрыбут.
Успыхваюць душы анёлаў у зорным суквецці.
Мне ўвесь час здаецца, што я ўжо тут,
што я ўжо здарылася ў гэтым Сусвеце.
Высакамоўна цвыркун адпявае ноч
у такт гарадской шашы – пульсуючай вене.

Звярні ў завулак
і моўчкі прайдзі наўзбоч
ценем...

* * *

маленькі
мой
мульт
анімацыя
шчасця
выкід
сератаніна
сына

* * *

Ён малюе зялёным алоўкам зялёнае мора. А4 фармат – яго нефармат мора. І яму амаль шэсць – дзве тысячы дзён з нечым ягонага свету і маляванак ягоных.
Колер морквы ў супе і колер сумётаў малочных, недасяжных нябёсаў і кісла-салодкай ажыны. Будзе колер сяброўства і колер вачэй дзявочых, і матулін колер, і, нават, колер Айчыны...
А пакуль шар паветраны ўзлятае над дахам і лядзяш прыхаваны ў кулачок-гарлачык, ён абгортвае ў фанцікі ўсе мульцяшныя страхі, фарматуе свет дарослы ў свой дзіцячы.
І хвіліннік паціху адлічвае дзяцінства... Абяру абярэг любові сваёй і болю – мой маленькі мужчына, які не здрадзіць ніколі, што малюе зялёным алоўкам зялёнае мора.

* * *

Цэнтар мяне – у цябе. Цэнтар цябе – дзе? Маятнік балансуе між намі, выводзячы слова “нянавісць”. Амплітуда пачуццяў зашкальвае... але, псіхадэлічны сеанс скончаны. Духі супакоеныя. Душы ў сваіх гняздоўях
чысцяць пёркі.
Навязліва-вяжучы здрады пах... Нехта забыўся сказаць нам пры сваім сыходзе – ходу далей няма... Вязкі лакрычны падман – самой сабе. На 35 годзе жыцця перажоўваеш па складах...
Марфалогія цела. Пачуццяў сінтаксіс... Аднакарэнныя. Аднародныя. Бяззлучнікавыя. Безназоўныя. Не дапасаваныя. Не дадзеныя.
Дзейнік і выказнік.
Ты і я.

### *ПАСЯРОД ПАПЯЛІШЧА*

Мы, як дзеці, гуляліся ў небяспечныя гульні. Папялішча астыла, пачуцці згарэлі датла. У вяселлі тваім мне было не надта ўтульна, у маёй адзіноце табе не хапала цяпла... Азірніся – мы сталі з табой камячкамі болю, каляровай налепкай на колішняе жыццё. Ты заўсёды шукаў абвостранае на волю (я – на вершы абвостранае) пачуццё. Ланцугі пражавелі. Неяк зусім сіратліва аблямоўкі абвіслі ўсіх пераможных сцягоў... Пад падушкаю – непраяўленыя негатывы пасівелых нябёсаў і кахання майго.

* * *

Ты мае думкі хочаш трымаць пад кантролем, мне не патрэбна клетка, ланцуг не патрэбен. Я толькі вецер, ціхі яго малебен за волю.
Ты агаляеш воблік свой чалавечы, скідваеш долу шчыгрынавую паруку. Вершы нацягнутыя цецівою гука ў пустэчы.
Мы – не адное і тое ж: ні зместам, ні сутна. Моўчкі, навобмацак толькі, пяшчотай паднёбнай... перасякаемся ў нейкай самоце вантробнай
адсутна.

* * *

Бог нешта гаворыць мной і табой,
усёю пяшчотаю і брыдотаю ўсёй,
што паміж намі...
Гэты паверх зямлі
перанаселены тымі,

хто пакуль жывы.
І толькі мы нібыта з табой

усёй пяшчотаю і брыдотаю ўсёй
сябе забілі...

* * *

А давай распілуем наш дом,
станем жыць:
я на гэтым краі свету, ты на тым.
Я пад гэтым кодавым замком,
ты пад кодавым замком другім.
Паспрабуй падкодавае адчыні –

за мільён
камбінацый і варыянтаў цішыні.

У мяне –
абабіліся дзьмухаўцы.
У цябе –
у душы ледзяшы.

* * *

Заўтра каханне памрэ і мы застанемся нікім адно аднаму.
Спачатку была цемра, у ёй – сэрцавіны слоў. Вусны твае з пахам
мовы маёй і моў звяроў і птушак. Каханы, пакуль ты мой, таму

дыхай мною – мы ў вымярэнні адным. Маўчанне, як і
маўленне, прасейвае гукі. Мы заўтра станем нікім адно аднаму,
нямы і шэры абсяг за акном застанецца тым,

хто пусціць карэнні, каб паспець заквітнець... А мы без
цялеснасці, мы распадаліся на
бесцялеснасці...
Гэта была вясна нашая.
Нам паламалі квець.

## *ПАКОЙ ЧАКАННЯ*

Мама памерла ў дзве тысячы пятым, бацька пражыў яшчэ
тры гады без яе. Кожны чакаў паасобку ў гэтым пакоі. Бацька
ўздыхае цяжка, з ложка амаль не ўстае. І каля ложка кубак з
вадою.
Час завяду ў гадзінніку наадварот. На адвароце жыцця
душэўныя шнары. Мама з газетай за тысяча дзевяцьсот....
моўчкі глядзіць тэлевізар з-пад акуляраў.
Ужо не баліць, ды бывае не ўтрываць тое пякучай тугі і той
смутак хвілінны...

Я ўвайду ў пакой, каб дачакаць
сына.

* * *

Злева направа подпіс пад фатаздымкам. Там усё адбалела.
Агрубелі пачуцці і словы. Ты – падробка свайго пра-пра-пра...
апошняя ў другім радзе – ананімка, з поглядам у нікуды.
Будучыня блізка...
За табойназіраюць, углядваюцца ў рысы болю. Твар з пустымі
вачыма... сцёртыя лічбы і даты. Тут нашчадкі гуляюць у схованкі
за сцяною часу, прымяраючы памперсы ад Valentino і Prada.
Нерухомасць умоўная: аблокі і дрэвы паснулі. Чорна-белы
пейзаж, шакаладна-малочныя поўдні. Бог стварае палотны:
партрэты і нацюрморты. І жыццё, як адбітак малюнку пад
капіркай ягонай.

* * *

Занатуй мяне ў сваім сэрцы. Крэйдаю, крывёю, пацалункам.
Кожную хвіліну, кожны подых буду слухаць я яго біццё.
І табе балець ужо не будзе. Зажыўляю перакісам слова. Я з табой
заўсёды буду побач на халодным нашым страшным дне.
Мне знаёмая з дзяцінства бездань. Я праходзіла ўсе лабірынты
страху, забівала ў пячорах цмокаў адзіноты і тугі.
Цьмяным і шчымлівым сэрцасумам: успамінам, дотыкам і пахам
занатуй у гэтую рэальнасць...
каб у ёй застацца да канца.

* * *

Анёлы ажурныя крылы свае раскрылілі –
любуюцца, бесцялесыя, ў люстра сабой.
У іхняй анёльскай краіне – Белай Крывіі,
напэўна, зусім не хапае пяшчоты зямной.

А мой, аднакрылы, сядзіць ля нябесных варотаў –
стварае з аблокаў ружовыя вітражы.
Ён быў пакараны Усявышнім за бездань палёту
і прывязаны да грэшнай маёй душы...

* * *

Калі ўжо немагчыма быць нічыёй –
прыдумай сабе Айчыну, жыві ў ёй.

У ёй нараджай дзяцей, у ёй памірай...
Калі ўжо немагчыма, то абірай,
кім быць, кім здавацца, кім
звацца...

Алесь Аркуш



...Час быў надзвычай імклівы,
цікавы і змястоўны.
Трэба было паспець шмат зрабіць...

# Мясцовы час

***Урывак з амаль дакументальнага рамана***

## Частка першая

Павал Іванавіч патэлефанаваў мне недзе праз год пасля нашай сустрэчы і папрасіў зноў пабачыцца на тым самым месцы – на лавачцы ў скверы праспекта Карла Маркса. Калі казаць шчыра, я чакаў яго званка.

Ён амаль не змяніўся. Толькі твар яшчэ больш пакрыўся зморшчынамі. Як і ў першы раз, ён прыйшоў раней і чакаў мяне. Узняўся з лаўкі і прывітаўся поціскам рукі. Даўно заўважыў, што старыя людзі заўжды, калі сядзяць, устаюць, каб парукацца пры сустрэчы.

– Як у вас справы? – гэтым разам першым пачаў размову Павал Іванавіч.

– Нібыта ўсё нармальна. Выйшла мая трэцяя кніжка.

– Віншую, віншую! Гэта важная падзея! – ён яшчэ раз пацiснуў мне руку. – Рады за вас!

Шалёна пах бэз. З дзяцінства цвіценне бэзу ў мяне атаясамлялася з сапраўднай вясной. Да школы ў сваім родным маленькім гарадку я ішоў па алеі, якая абапал была абсаджа-

ная бэзам. Прыходзіла вясна, бэз выбухоўваў кветам, і гэта сведчыла, што да школьных вакацыяў засталося зусім не шмат часу. І тады я на крылах ляцеў са школы дахаты. І абавязкова адломваў галінку бэзу, якая потым стаяла ў вазе на пісьмовым стале, напаўняючы пакой саладжавым пахам.

– Вы, напэўна, хочаце даведацца, навошта я вас яшчэ раз паклікаў? – абудзіў мяне ад развагаў Павал Іванавіч.

– Калі быць шчырым, я чакаў вашага званка.

– Не ведаю, колькі ўжо мне засталося... Можа, вы маеце якія пытанні да мяне?

– Маю толькі адно пытанне: як вы гэта ўсё вытрымалі?

Павал Іванавіч зірнуў мне ў вочы, пасміхнуўся і прамовіў:

– Звычайна. Няма тут ніякага геройства. Гэта нармальныя паводзіны нармальнага чалавека. Іншая справа, што нармальнасць робіцца ўсё большай рэдкасцю. Бо за нармальнасць можна атрымаць па шыі.

Павал Іванавіч зірнуў у бок той лаўкі, дзе мінулы раз сядзеў “дзядок” з газетай. Гэтым разам на ёй нікога не было.

– Сёння няма вашага куратара, – пажартаваў я.

– Недзе ёсць іншы. Абавязкова, – суразмоўнік засмяяўся ціхім смехам. Затым стаў зноў сур’ёзным і амаль шэптам прамовіў:

– Паабяцайце, што напішаце.

І я расказаў Паўлу Іванавічу сваю гісторыю.

Я вучыўся ў Інстытуце народнай гаспадаркі. Юнаком мне здавалася, што вучыцца там вельмі прэстыжна. Маўляў, з наргасаўскім дыпломам будзеш добра ўладкаваным у жыцці. Але на той час я ўжо гарэў паэзіяй. З’явіліся першыя публікацыі, і мне стала не да вучобы. Найбольш цяжкай дысцыплінай было матэматычнае праграмаванне. Я абсалютна нічога ў ім не цяміў. Выкладаў яе прафесар Саковіч, вельмі суворы дзядзька, якога баяліся нядбайныя студэнты. І нечакана той прафесар палюбіў мяне. На практычных занятках выклікаў да дошкі і замест нейкіх сваіх заданняў прасіў пачытаць вершы. За вершы я атрымліваў выдатныя адзнакі. На іспытах таксама атрымаў «выдатна» – спісаў з канспекта. Прафесар Саковіч, развітваючыся са мной, сказаў, што мне не патрэбныя ўсе гэтыя бухгалтарскія ўлікі і разлікі – ён гэта выдатна разумее, бо мой лёс абірае іншы шлях. І папрасіў, калі выйдзе мая першая кніжка, каб я яму абавязкова даслаў з аўтографам. Я паабяцаў. Але згадаў пра сваё абяцанне вельмі позна. Калі пачаў расшукваць прафесара Саковіча, яго ўжо не было на гэтым свеце. І гэтае спазненне дагэтуль вісіць каменем на маёй душы. Цяпер стараюся выконваць свае абяцанні. Баюся спазніцца.

І вось пішу.

***

– А давайце назавем гурт “Заё...істы час”! – бубнач неяк нязвыкла шапялявіў, таму імкнуўся гаварыць выразна і на поўны голас, як чалавак, які ніколі не забывае пра сваю праблему і імкнецца трымаць яе пад кантролем.

– Ну ты дэбіл! – бас-гітарыст быў мальцам прамым і ніколі не выбіраў словаў для выказвання сваіх нават самых складаных думак. – І як ты сабе ўяўляеш афішу: у нашым горадзе з адзіным канцэртам “Заё...істы час”. Або на радыё вядоўца кажа: а зараз паслухаем новую песню “Заё...істага часу” “Поўны пісец”.

Бубнач зарагатаў, як дзіця-шкоднік, які толькі што напракудзіў. І смех ягоны быў з нейкім дзіўным тэмбрам. Мне нават падумалася: трэба яму паспрабаваць заспяваць, можа атрымаецца, як у Філа Колінза, бо для рок-выканаўцы галоўнае нязвыкласць і пазнавальнасць.

– А ніякае радыё нам не свеціць. А так хоць назва будзе заё...істая, – бубнач не здаваўся і працягваў развіваць сваю думку. – Будуць перапісваць на магнітафоны. Падпольны рок – самае тое.

– А запісвацца будзем на тваю “Ноту”, – бас-гітарыст паспяваў першым рэагаваць на словы бубнача.

– Годзе цырк ладзіць, мы сур’ёзнае пытанне абмяркоўваем. Як карабель назавеш, так далей і паплывеш, – Алесь Кузьмін, якога сябры звалі дзіўнай мянушкай Фула, вакаліст гурта, вырашыў навесці парадак на сходзе калектыву. Засталося яшчэ алоўкам пастукаць па графіне.

– Ну вось і я кажу: заё...іста паплывем, – бубнач зноў засмяяўся сваім дэфектыўным смехам, адкідваючыся ўсім целам назад.

– Ну дэбіл, што з яго возьмеш, – бас-гітарыст устаў, падыйшоў да бубнача і выпісаў яму поўху.

– Толькі без рукапрыкладства, – працягваючы смяяцца, бубнач накрыў сваю галаву рукамі.

– Макс, сядзь на месца. А ты, Свідрыцкі, харэ блазнавацца, – Фула павярнуўся да рытм-гітарыста і сказаў: – А ты чаго, Дракеша, маўчыш? Скажы хоць што.

– Свідрыцкі, і праўда, харэ хернёй займацца. Няма часу зубы сушыць. Давайце па-сур’ёзнаму.

– Час – гэта грошы, толькі чамусьці я гэтых грошай ніколі не бачыў, – Свідрыцкі перастаў смяяцца і змяніў тэму.

– Заўважу, што мясцовы час ужо дваццаць сорак. Крамы вось-вось зачыняцца, – Макс паглядзеў на гадзіннік і пляснуў рукой па сцягне. Затым дастаў з кішэні нагавіц гаманец, палічыў у ім стосік дробных банкнотаў.

– А чаму б не назваць наш гурт “Мясцовы час”? – неяк няўпэўнена, нібыта пускаючы пробны шар, прапанаваў Фула. – З аднаго боку і патрыятычна атрымліваецца, маўляў, прыйшоў наш уласны час – беларускі. І, з іншага боку, не ў лоб. Хто не ў тэме, той не зразумее.

– “Мясцовы час” дык “Мясцовы час” – пара разбягацца, – Макс зноў дастаў з кішэні гаманец.

– Свідрыцкі, палова назвы твая, палова – Фулы. Таму вы і прастаўляеце, – адчуўшы, што кампраміс блізкі, узрадаваўся Дракеша.

– А ўсё ж “Заё...істы час” лепш. Але лады, супраць калектыву не пайду. На твары Свідрыцкага зноў з’явілася блазнаватая ўсмешка. Відавочна, бубнач быў задаволены, што ягонае выдурванне завершылася канструктыўна.

– Ну тады ў першым чытанні прымаем пастанову пра назву гурта – “Мясцовы час”. Хто “за” – падняць руку. Хто супраць? Хто ўстрымаўся? Прынята адзінагалосна! – Фула ўстаў і запляскаў у ладкі. Астатнія таксама паўскоквалі са сваіх месцаў. Кожнага чакалі ўласныя справы. Толькі Свідрыцкі нікуды не спяшаўся. Ён сеў за свае бубны і талеркі і выканаў троххвіліннае сола.

***

Я сустрэў яго выпадкова. У цэнтры Полацка віравала свята горада.

Усё гуло і рухалася ў нейкім млявым, павольным рытме. Са сцэны на плошчы кагосьці віншавалі. А аднекуль з іншай святочнай пляцоўкі далятала занудная траскучая музыка, якая глушыла словы выступоўцаў, ператвараючы ўсё ў балаган.

Ён стаяў пасярод пляца Свабоды з дзвюма дзяўчынамі... Дракешу я не бачыў, магчыма, гадоў пятнаццаць. Лідар-гітарыст "Мясцовага часу" зусім не змяніўся. Толькі яго гнілыя пярэднія зубы сведчылі, што час няўмольны. Мы цёпла павіталіся і нават абняліся.

– Як ты? – спытаць нешта больш сэнсоўнае ў мяне адразу не атрымалася.

– Я па-ранейшаму пры музыцы. У Доме культуры... – Дракеша таксама не ведаў, з якой пост-мясцовага часу старонкі пачаць распавядаць.

– Чуў, што няма ўжо Свідрыцкага, – я даведаўся пра гэтую трагедыю ад Руслана, клавішніка "Мясцовага часу", з якім перыядычна кантактаваў праз фэйсбук і скайп.

– Ну так, няма Свідрыгона, – Дракеша глыбока ўздыхнуў і заціх.

Я чакаў, што ён нешта распавядзе, удакладніць. Але Дракеша з нейкай штучнай усмешкай на твары маўчаў.

– І што здарылася? – усё ж я хацеў пачуць версію трагедыі ад Дракешы.

– Забілі. Знайшлі ў пад'ездзе зарэзаным, – сказаў і зноў замоўк. Распытаваць далей не схацелася. Трэба было змяніць тэму, і я спытаў зусім пра іншае:

– А праўда, што напачатку тэксты для песень пісаў Свідрыцкі?

– Ну так. Галоўным чынам ён і пісаў. Гэта затым ужо Фула да гэтай справы далучыўся.

Дракеша быў нешматслоўным, што абсалютна нехарактэрна для музыкаў. Звычайна ўсе яны гаваркія, а пра свае музычныя поспехі могуць расказваць гадзінамі. За свае журналісцкія гады я ўдосталь наслухаўся ўзнёслых маналогаў.

Недзе за спінай гучна зайграў аркестр. Барабан манатонна адбіваў пульс. Я пачаў згадваць, ці спяваў калі-кольвечы на гэтай галоўнай полацкай сцэне "Мясцовы час". Не прыпомнілася. У 90-х такіх маштабных гулянняў на Дзень горада не наладжвалі.

– Фулу гадоў дзесяць не бачыў. Хацеў быў перарабіць апошні альбом "Халі-Халі", падняць вакал, але без Фулы не буду чапаць, – на твары Дракешы не знікала ветлівая ўсмешка. Ці то ён радаваўся святу горада, ці то яму было прыемна са мной сустрэцца. Тут яго гукнулі дзве дзяўчыны, што чакалі зводдаль, відавочна, адна з іх была яго дачка, Дракеша развітаўся і пашыбаваў даганяць сваіх спадарожніц.

***

Кватэра Сержука Сокалава-Воюша нагадвала офіс якой-небудзь апазіцыйнай партыі. Увесь час у яе нехта заходзіў, нехта выходзіў. Дзверы кватэры не зачыняліся на замок, таму наведнікі не чакалі запрашэнняў і вітанняў гаспадароў. Распраналіся і ішлі ў святліцу. Нярэдка Сяржук быў моцна заняты – пісаў нешта за сваім пісьмовым сталом. Але гэта не азначала, што наведнік мусіў пакінуць гаспадара ў спакоі і як найхутчэй сысці. Госці звычайна сядалі на канапу, побач з якой вісеў вялікі алейны партрэт Івана Луцкевіча, і нешта міжсобку абмяркоўвалі. Часам яны перабіраліся ў кухню і там палілі ды пілі гарбату. Спрачаліся, нешта апавядалі адзін аднаму, часам нехта чытаў свае творы.

Калі я ў першы раз трапіў у гэтую дзіўную кватэру, усе прысутныя ў ёй займаліся калектыўнай творчасцю. Любімым заняткам Сержука было складанне слоўніка рыфмаў. Працуючы над ім, ён эксплуатаваў сваіх гасцей. Балазе, амаль усе яны былі літаратары. Вось і на гэты раз гаспадар сядзеў за пісьмовым сталом, трымаў на каленях сваю фанерную бібліятэчную скрыню з карткамі і гучна прамаўляў слова, на якое трэба было знайсці рыфму.

Рыфмы сыпаліся як зерне з мяхоў на млыне. Але на кожную прапанову Сяржук казаў: ёсць, альбо маю. Знайсці свежую, невядомую Сержуку рыфму, было цяжка.

– Во, новыя сілы прыбылі на дапамогу, – гаспадар, якога я ведаў раней, прадставіў мяне іншым гасцям. – Гэта паэт Алесь Аркуш. Цяпер будзе жыць на Полаччыне. Прашу любіць і шанаваць.

Сяржук паказаў на фатэль, маўляў, сядай, выцягнуў са скрыні чарговую картку і прамовіў:

– Ураджай.

– Край, – выгукнуў нехта.

– Ёсць.

– Пашукай.

– Маю.

– Бай.

– Казачнік-бай, – удакладніў Сяржук. – Ёсць.

– Каравай.

– Ёсць. А што нам скажа Алесь?

– Паранджа, – падумаўшы колькі секундаў прапанаваў я.

– Што значыць – свежыя сілы! Няма. Дзякуй. Запішам.

– Гэта не беларускае слова, – зазначыў хтосьці з мясцовых пурыстаў, напэўна, гэта быў Вінцэсь Мудроў.

– А як будзе па-беларуску? – спытаў у пурыста Сяржук.

– Намітка, – мовіў пурыст.

– Э, гэта не зусім тое, што паранджа, – уступіў у дыскусію мясцовы гісторык. – Намітка не закрывала цалкам твар.

– А ў нас ніхто твар не хаваў, – пачынаў дыскусію пурыст.

– Дык што гэта за мова будзе, калі толькі пра сваё, – не здаваўся гісторык.

– Паранджа – нармалёвае слова, – вынес вердыкт Сяржук. – Таму заносім у нашыя аналы.

Ён узяў у руку самапіску і дэманстратыўна запісаў слова.

– Усё, перакур. Ідём частаваць госця гарбатай.

Усе падаліся на кухню.

– Чытаў твой артыкул пра рок-музыку ў “Чырвонай Змене”, – сказаў мне па дарозе Сяржук. – Ёсць тут у нас для цябе праца. Неўзабаве пазнаёмлю з хлопцамі. Добра граюць. Але яшчэ б лепш зайгралі, калі пачалі б спяваць па-беларуску.

***

Памяшканне наваполацкай гарадской газеты “Хімік” знаходзілася ў адным будынку з наваполацкай друкарняй. Для журналістаў гэта было вельмі зручна, асабліва для адказнага сакратара, які два разы на тыдзень рабіў макет новага нумара і здаваў у набор матэрыялы. Трэба было толькі

ўзняцца на другі паверх і перадаць наборшчыкам свае паперы. І калі раптам узнікала патрэба нешта змяніць у свежым нумары – а такое ў газетнай справе здараецца нярэдка, – то зрабіць гэта можна было аператыўна і пад асабістым кантролем.

На першым паверсе друкарні знаходзіліся друкарскія варштаты, якія амаль бесперапынна грукаталі, друкуючы свежыя нумары навакольных раёнак і шматтыражак.

Атрымлівалася два ў адным – і рэдакцыя газеты, і друкарня. Гэта месца мяне прыцягвала, як магніт. Балазе, у газеце працаваў ужо вядомы малады празаік Уладзімер Арлоў.

Але самае цікавае, што адбывалася ў гэтым будынку, – гэта паседжанні літаратурнага аб’яднання “Крыніцы”, слава пра якое грымела на ўсю Беларусь. Аб’яднанне працавала пры газеце і штомесяц рыхтавала літаратурную старонку. Традыцыйна літаб’яднаннем займаўся нехта з супрацоўнікаў рэдакцыі, які меў дачыненне да прыгожага пісьменства. Перад маім прыездам на Полаччыну «Крыніцамі» кіраваў Арлоў. Бадай, гэта быў зорны час аб’яднання, калі на яго паседжанні прыязджалі госці з Менску, а літаратурныя перыёдыкі гасцінна запрашалі крынічанаў на свае старонкі. І якія госці прыяжджалі! Рыгор Барадулін, Янка Брыль, Генадзь Бураўкін, Алесь Разанаў, Міхась Ткачоў, Анатоль Грыцкевіч...

Прычым, крынічане займаліся не толькі літаратурнымі справамі. Яны заўжды былі ў гушчыні сацыяльных і палітычных падзеяў у сваім рэгіёне. Пісалі лісты да ўладаў у абарону помнікаў архітэктуры, вялі працу за пашырэнне беларускамоўнага навучання, удзельнічалі ў археалагічных раскопках і суботніках на архітэктурных помніках, здымках фільмаў, наладжвалі вандроўкі па родным краі.

Варта мне было напачатку жніўня прыехаць на Полаччыну, як я ўжо меў расклад свайго ўдзелу ў мерапрыемствах амаль на ўвесь месяц: 5 жніўня – археалагічныя раскопкі на плошчы Свабоды ў Полацку; 6 жніўня – паседжанне “Крыніцаў”; 7 жніўня – удзел у свяце адной з вуліц Наваполацка... Практычна кожны дзень нешта адбывалася.

Я хадзіў з іншымі крынічанамі па кватэрах бацькоў першакласнікаў і ўгаворваў аддаць іх у беларускамоўныя класы. Цягаў насілкі з зямлёй на археалагічных раскопках. Вычышчаў ад смецця былы будынак Брацкай школы, які затым стаў музеем беларускага кнігадрукавання. Удзельнічаў у шматлікіх сустрэчах з чытачамі. Ездзіў на абласныя і рэспубліканскія нарады творчай моладзі. Здымаўся ў масоўках гістарычных фільмаў Віктара Шавялевіча. Падпісваўся пад рознымі адозвамі, зваротамі, калектыўнымі скаргамі.

Час быў надзвычай імклівы, цікавы і змястоўны. Трэба было паспець шмат зрабіць.

***

Полацак пры канцы 80-х выглядаў на дэмаралізаванага былога шляхціца. Гэта калі ў шляхцюка, амбітнага і ганарлівага, забраць маёнтак, зямлю і ўсё астатняе, акрамя жыцця, то вельмі хутка ён дэградуе. Былыя амбіцыі штодзень жорстка канфліктуюць з навакольнай рэчаіснасцю. Нярвовасць узрастае да крытычнага ўзроўню. У такой сітуацыі ратуе або гарэлка, або сыход з жыцця. Прасцей было перажыць савецкае ліхалецце якому-небудзь мястэчку, напрыклад, Глыбокаму, якое ціха-мірна жыло ў

сваіх правінцыйных клопатах. Складаней было Полацку – гораду, з якім непарыўна звязана гісторыя ўсёй Усходняй Еўропы.

Полацак выглядаў так, нібыта былога шляхціца апранулі ў нейкае рыззё – у абліччы адчувалася былая веліч, але "вопратка" была жахлівая. Змрочнае ўражанне ўзмацняла гарадская тапаніміка: усе гэтыя звыродлівыя назвы вуліцаў – Савецкая, Фрунзе, Леніна, Камуністычная, Карла Маркса, Войкава. І гэта ў самым гістарычным цэнтры горада.

Зрабіць з Полацка ўбогі райцэнтр – ці не найлепшы план, каб канчаткова даканаць беларусаў.

Бадай, адзіным пазітыўным знакам для Полацка быў адрэстаўраваны Сафійскі сабор, які годна і высока трымаў свае званіцы над Дзвіной.

***

Дамовіліся, што знаёмства адбудзецца ў нядзелю. Я спусціўся на першы паверх свайго інтэрната, каб патэлефанаваць. Вырашыў удакладніць, ці не змянілася што ў нашых планах. Для тэлефоннага аўтамата адмыслова збіраў "двушкі", каб не шукаць пры патрэбе. Яны ў мяне захоўваліся ў маленькай кішэні джынсаў. Воюш звыкла бадзёрым голасам паведаміў, што ўжо мяне чакае.

Да Воюшавага дома было хвілінаў дзесяць пехатою.

У Сержука было амаль бязлюдна. На канапе сядзелі толькі два хлопцы і гарталі нейкія кніжкі. Яны былі нечым падобныя да вучняў-старшакласнікаў, якія час ад часу таксама наведвалі гэтую дзіўную кватэру.

– Вось, знаёмцеся, гэта і ёсць той паэт, пра якога я вам казаў, – Воюш падвёў мяне да "вучняў", – Алесь Аркуш.

Абодва аказаліся таксама Алесямі – Алесь Кузьмін і Алесь Свідрыцкі. У знак знаёмства я паціснуў цёзкам рукі.

– Цяпер вы ўзброеныя як мае быць, – пажартаваў Воюш. – Алесь вам дапаможа з тэкстамі.

– Увогуле, мы самі пішам, вось толькі яшчэ з беларускай мовай крыху праблемна, – патлумачыў Алесь Кузьмін.

Хлопцы былі падобныя да вучняў, якія вырашылі далучыцца да чагосьці эзатэрычнага і не ведалі, з якога боку падступіцца.

– Алесь выдатна спявае, – Воюш кіўнуў на Кузьміна. – Мае неверагодны фальцэт. Яны тут прынеслі стужку. Можам паслухаць.

Воюш падыйшоў да магнітафона і ўключыў яго.

Запіс быў прымітыўны, але патэнцыял вакаліста ўсё ж дэманстраваў. Песні нагадвалі ангельскі панк-рок 70-х з відавочным уплывам "новай хвалі". Пазней некаторыя з гэтых песень хлопцы перапісалі па-беларуску і яны трапілі ў альбом "Слота".

– Усё добра, толькі мова не нашая, – сказаў Воюш, праслухаўшы адну песню. – Вось заспяваеце па-беларуску – будзе тое, што трэба. Па-беларуску вам нават лацвей будзе спяваць, бо нашая мова больш мілагучная.

Воюш быў аматарам распавядаць пра вялікія перавагі роднай мовы.

– Але тэксты вы нармалёвыя пішаце. Не банальныя і не прымітыўныя. І, галоўнае, не ў лоб, – пахваліў я хлопцаў.

– Гэты мы са Свідрыцкім і пішам, – паведаміў Кузьмін.

Кузьмін спрабаваў гаварыць па-беларуску. Перыядычна збіваўся на расейшчыну, але вымаўленне меў амаль бездакорнае. Горш атрымлівалася ў

Свідрыцкага. Гаварыў ён па-расейску з выкарыстаннем асобных беларускіх словаў. Але вымаўляў іх жахліва, як студэнт Наваполацкага політэхнічнага інстытута з якіх-небудзь далёкіх краёў. Таму, відавочна, саромеўся і амаль не падаваў голасу. Толькі лаканічна адказваў на пытанні, якія мы з Воюшам яму задавалі.

Развітваючыся, я запісаў музыкам свой службовы тэлефон і інтэрнатаўскі адрас. Хлопцы мне спадабаліся. Была ў іх нейкая жарынка, божая іскра. Бо нічога добрага нельга зрабіць, калі не гарыш справай.

***

Гісторык Сяргей Тарасаў, які пры канцы 80-х вёў археалагічныя даследаванні Полацка, быў яшчэ і пісьменнікам, таму нярэдка наведваў наваполацкія "Крыніцы". Пісаў ён апавяданні на гістарычныя тэмы. Слухаць, як ён чытае свае аповеды, было цікава. Але яшчэ цікавей было знаходзіцца з ім у археалагічным раскопе. У той год ён раскапаў на цэнтральным пляцы Полацка, на былым Вялікім пасадзе, унікальную, надзвычай вялікіх памераў сядзібу полацкага ювеліра-залатара. Знаходкі, якія трапляліся ў гэтым культурным слоі, датавалі сядзібу сярэдзінай XII – пачаткам XIII стагоддзя. Якраз у гэты час жыў славуты полацкі ювелір Лазар Богша, які зрабіў на замову Еўфрасінні Полацкай легендарны Крыж. Сяргей Тарасаў выказаў здагадку: ці не на сядзібу слыннага полацкага ювеліра трапілі археолагі? Гэтая здагадка надавала нам, крынічанам, якія кожныя выходныя праводзілі ў раскопе, новых сілаў і азарту.

Вярталіся ў Наваполацак мы ўсім крынічанскім гуртам. Каб сесці на аўтобус да Нафтаграду, трэба было ісці ажно да аўтавакзала. Па дарозе Уладзімер Арлоў расказваў пра старажытную сталіцу крывічоў. Калі мы абміналі старыя будынкі, у якіх на пачатку XX стагоддзя знаходзіліся мясцовыя гатэлі, Арлоў абавязкова згадваў іх назвы. Але я так і не запомніў, у якім быў "Лондан", у якім "Еўропа", а ў якім "Гранд-Атэль".

***

Падчас першага наведвання кватэры Воюша я пазнаёміўся з Вінцэсем Мудровым. Яго толькі нядаўна пачалі друкаваць у літаратурных перыёдыках і адразу ж пасля першых публікацыяў наваполацкі прадстаўнік беларускага андэграўнду набыў вядомасць. Ён не выглядаў на нейкага сур'ёзнага літаратара, які ходзіць па вуліцы з партфелем і прафесарскім выглядам. Наадварот, у яго абліччы яшчэ захаваліся рысы былога хіпана, прынамсі, меў даўгія валасы і бараду. Але, бадай, самай істотнай асаблівасцю Мудрова быў ягоны надзвычай вясёлы характар – жарты, показкі і прыкольныя гісторыі ліліся з яго ракой. У гэтым ён быў падобны да Воюша, які таксама не прамінаў магчымасці парагатаць і паблазнаваць. Некалькі гадоў таму Мудроў меў праблемы з КДБ з-за выдання рукапіснага альманаху "Блакітны ліхтар". Усе нумары альманаху КДБ канфіскаваў, а самога рэдактара застрашыў і ўзяў на ўлік. Каб неяк ад гэтай гісторыі аддаліцца, Мудроў з'ехаў са сваім сябруком паэтам Алегам Мінкіным працаваць на будаўніцтва нафтаправодаў – спачатку ў Калмыкію, а затым у Цюмень. Праўда, і ў Цюмені ён не схаваўся ад пільнага вока камітэта – да яго прыходзілі адпаведныя людзі і праводзілі адпаведныя гутаркі.

Мудроў якраз прыехаў у адпачынак на радзіму. Ён з прагнасцю аку-

нуўся ў мясцовае культурніцкае жыццё – хадзіў да Воюша, удзельнічаў у археалагічных раскопках, збіраў па кватэрах подпісы за беларускамоўныя класы, ну і перадусім наведваў паседжанні “Крыніцаў”, дзе чытаў свае творы, напісаные ў далёкіх камандзіроўках. Мы неяк хутка з ім сышліся і бачыліся амаль штодня.

Напярэдадні яго вяртання ў Цюмень мы вырашылі зрабіць фотаздымак на памяць. Такі класічны, якія любілі рабіць у фотасалонах “маладнякоўцы” ў 20-х гадах. Фотастудыю выбралі на наваполацкай вуліцы Якуба Коласа. Схадзілі, сфатаграфаваліся. Пасля чаго пайшлі да Арлова глядзець футбол па тэлевізары. Мудроў быў заўзятым аматарам футбола, а я пайшоў хутчэй дзеля кампаніі. Пасля футбола Мудроў чытаў нам свой новы аповед “Кантакт”. Гэта было фантасмагарычнае апавяданне пра кантакт галоўнага героя з іншапланетнікамі. Вясёла-трагічнае. Мудроў, чытаючы свой твор, час ад часу каментаваў падзеі аповеда, гучна рагатаў і паўтараў: “Так і магло быць насамрэч!” Арлоў таксама шчыра смяўся. Затым папрасіў даць рукапіс яму, маўляў, для літстаронкі ў “Хіміку” аповед завялікі, таму трэба яго завезці ў Менск. Неўзабаве тое апавяданне і было надрукавана ў нядаўна заснаваным сталічным часопісе “Крыніца”.

***

*Твой ліст я атрымаў – дзякуй! Асабліва мяне ўзрадаваў факт адкрыцьця ў Наваполацку беларускае клясы. Гэта сапраўды выклік 200 тысячам (насельнікі Полацка + Наваполацка) сучасных мясьцюхоў, патрыётаў уласнага трыбуха, якія зьлітнаю масаю піхаюцца ў нікуды! Цяпер толькі ня даць гэтай, няхай пакуль і мізернай ясачцы, згаснуць! Напішы, ці мяркуецца збоку “Крыніцаў” якая спамога ў гэтым дачыненьні, якія імпрэзы і г.д.*

*Трэба абавязкова сабраць бібліятэчку беларускіх ксёнжак, дапаможнікаў, настольных гульняў. На Новы год пажадана павіншаваць кожнага вучня і вучаніцу паасобку. Карацей, трэ варушыцца. Дзякуй Богу, надышла часіна Дзеі. Гэта падарунак Гісторыі і яго неабходна выкарыстоўваць”.*

*(З ліста Вінцэся Мудрова. Улан-Хол, Калмыцкая АССР. 6 кастрычніка 1987 г.)*

***

Колькі людзей сабралася на мітынг, цяжка было падлічыць. Улада дазволіла апазіцыйнае мерапрыемства каля помніка першай палатцы ў Наваполацку, а там не было вялікага адкрытага пляца, таму людзі атачалі помнік, які ператварыўся ў трыбуну, з усіх бакоў. Людзей было процьма. А яны ўсё ішлі і ішлі да палаткі з боку Маладзёжнай вуліцы.

Мітынг апазіцыянеры прысвяцілі кепскай экалогіі ў горадзе – самай надзённай праблеме Нафтаграда. Не было ніякага сакрэту, што пратэстная акцыя была падрыхтаваная Сержуком Сокалавым-Воюшам і ягонымі паплечнікамі, якія затым утвораць моцную суполку Беларускага Народнага Фронта ў Наваполацку.

Сяржук цэлую ноч перад мітынгам пісаў адмысловую песню, якую збіраўся выканаць пад гітару перад шматтысячным натоўпам. Хацеў напісаць нешта накшталт экалагічнага гімна Нафтаграда. З раніцы мы сустрэліся. Воюш праспяваў мне тое, што атрымалася.

– Ну як? – гарэзліва спытаў ён, гледзячы на мяне чырвонымі ад недасыпу вачыма.

– Добра! Толькі ты словаў не ведаеш, па паперцы спяваеш. – Хутчэй гэта быў жарт, чымсьці крытыка.

– І на мітынгу праспяваю па паперцы. Дзялоў тых. Ты ж таксама будзеш чытаць верш па паперцы? – Воюш быў у гуморы. Ён як апантаны рыбак прадчуваў добрую рыбалку. Мітынг дазволілі. І людзі на яго абавязкова прыйдуць. У гэтым Воюш быў перакананы.

У кватэру Сержука з раніцы пачалі сцякацца мясцовыя апазіцыйныя сілы. Бэнээфаўцы, рокеры, актывісты-эколагі, «крынічане» і розныя іншыя неабыякавыя людзі. Усе разам, гэтым стракатым збоем, мы й рушылі да першай палаткі. Там ужо актывісты “Дэмфоруму” мантавалі гукаўзмацняльнік, дружыннікі з бел-чырвона-белымі павязкамі атачылі і сам помнік, і прылеглы сквер. Ва ўсіх быў нейкі ўзнёслы настой. Нібыта сабраліся на свята.

– Будзеш трымаць мне тэкст пад носам, сапраўды словаў не памятаю, – сказаў мне ўжо на трыбуне Сяржук.

Людзі сустракалі кожнага выступоўца вельмі цёпла. Воюш прамовіў і праспяў, як мацёры мітынгоўшчык. Калі вядоўца мітынгу аб’явіў мяне, натоўп прывітаў гэта такім гудам, нібыта я як мінімум Зянон Пазьняк. Аказалася, што за маёй спінай дружыннік узняў на руках маленькую дзяўчынку, якая згубілася. Але гэты гуд людскога мора мяне нібыта наэлектрызаваў. І я, заведзены на поўную шпулю, пачаў чытаць вершы:

Зноў людскія адбіткі заганныя,
Як музыкі, ў нябёсах лятаюць –
Працінаюць пякельную ноч.
Нараджаюць мелодыі танныя:
Дзьмуць у комінаў доўгія пальцы,
Дзьмуць да чырвані пацерак-воч.

Іх музычны імпэт без падману –
Не жартуюць браты-блюзняры.
Уздымаюцца клубы туману,
Тлум цярушыцца на ліхтары.

Што паперныя столі і дахі!
Тлум укрые таксама і нас.
Тлумны час, як заўсёды, не ў час.
І мацнеюць мелодыі жаху,
І цярушацца пёрамі птахаў –
Вар’яцее атрутны джаз.

***

На адным з паседжанняў “Крыніц” вырашылі, што пара выходзіць на шырокую аўдыторыю і заснаваць курсы беларусазнаўства. У якасьці пляцоўкі абралі наваполацкаю гарадскую цэнтральную бібліятэку, з кіраўніцтвам якой мелі даўнія шчыльная кантакты. Адкрыццё курсаў запланавалі на пачатак кастрычніка. Ганаровым госцем запрасілі Янку Брыля.

Брыль прыехаў у Наваполацк ажно на некалькі дзён. На аўтавакзале мы сустракалі шаноўнага госця пісьменніцкай дэлегацыяй, праўда, без аркестра і ваеннага каравула, – Сокалаў-Воюш, Ірына Жарнасек, Навум Гальпяровіч і я. Адвялі ў мясцовы гатэль “Беларусь” і пасялілі яго там. Увечары ўся крынічанская тусоўка сабралася на «канспіратыўнай» кватэры ў Воюша. У вялікім пакоі гаспадары накрылі сталы і наладзілі пачастунак. Янка Брыль быў душой кампаніі. Спяваў песні, згадваў розныя забаўныя

гісторыі, чытаў вершы. Пагулянка доўжылася да позняга вечара. Правесці Брыля ў гатэль даручылі мне. Па дарозе ён распытваў мяне: адкуль я, з якіх мясцінаў мае крэўныя. Затым неяк, ці то са спачуваннем, ці то з ветлівасці, асцярожна сказаў, што і раней сустракаў Аркушаў у Беларусі. Гэтая ягоная далікатнасць мяне моцна рассмяшыла і я прызнаўся, што Аркуш – мая "нацдэмаўская" мянушка. Ён спыніўся і ўжо сваім звыклым голасам спытаў: "А як тваё сапраўднае прозвішча?" "Козік, але мне падалося, што гэта не зусім падыходзіць для літаратурнага імя, таму я ўзяў псеўданім", – патлумачыў я старэйшаму калегу. І тут Брыль пачаў мяне пераконваць, што Козік вельмі мілагучнае і сэнсоўнае беларускае прозвішча. Зноў спыніўся і чарговы раз спытаў: "А ты ведаеш, што значыць па-польску Козік?" "Ня ведаю," – прызнаўся я. "Сцізорык," – выдыхнуў Брыль, нібыта паведамляючы мне вельмі сур'ёзную рэч. На гэтым абмеркаванне маіх крэўных і прозвішча спынілася і Брыль пачаў распытваць пра полацкае літаратурнае жыццё.

На наступны дзень усе сабраліся ў наваполацкай бібліятэцы. Было ўрачыста. Акрамя Брыля на адкрыццё курсаў прыехаў тэатральны рэжысёр Валеры Мазынскі. Нашая школа беларусазнаўства атрымала назву "Курсы беларускай мовы, культуры і гісторыі". Кіраўніком курсаў прызначылі Лявона Баршчэўскага.

Але на гэтым мы не развіталіся з Янкам Брылём. На наступны дзень было прызначана паседжанне "Крыніцаў". Збор быў самы поўны, з запрашэннем і мастакоў, і музыкаў. З "Мясцовага часу" прысутнічалі два Алесі – Кузьмін і Свідрыцкі, а таксама іншыя музыкі – Ален і Аніса. З мастакоў – Сяржук Цімохаў і ягоная жонка Рыта.

Мы чыталі вершы, празаічныя мініяцюры, спявалі госцю свае «крынічанскія» песні. Янка Брыль у сваю чаргу расказваў пра свайго малодшага сябра Уладзіміра Караткевіча, якога на той час ужо не было ў жывых і легендарная постаць якога паўставала ў поўны рост.

***

– Ты ведаеш, што мне распавяла сёння сястра? – Таццяна завіхалася ля кухоннай электраплíткі.

Нешта сквірчэла на патэльні і прыемны пах па-партызанску пранікаў у кожны закутак інтэрнацкага пакоя. Я толькі прыйшоў з працы і нават не паспеў зняць абутак.

– На прадпрыемствах на партыйных сходах расказваюць страшныя рэчы. Дарэчы, і пра цябе таксама. Кажуць, што прыехаў эмісар апазіцыі з Менску і пачаў падбухторваць людзей да бунту, – Таццяна засмяялася гучным смехам. – Так што, эмісар, сядай хутчэй за стол і падсілкуйся, пакуль за табой не прыехалі.

– Ну зусім звар'яцелі! – такой увагі да сваёй персоны я абсалютна не чакаў. – Адчуваюць свой канец, падлюкі.

– О, не спадзявайся на хуткі канец. Не за нашым жыццём, – Таццяна мела здольнасць аптымістычна супакоіць.

– І што нам застаецца?

– Жыць. Гадаваць дзяцей. Займацца мастацтвам. Падарожнічаць. Сустракацца з добрымі людзьмі. Бачыш, колькі ўсяго шмат, – яна зноў засмяялася. – Не бяры да галавы. Не ты тут галоўны эмісар, і там добра пра гэта ведаюць. Але і па-пустому не падстаўляйся.

Больш за ўсё я баяўся, што падобная навіна, а да мяне ўжо даходзілі трывожныя чуткі, напалохае Тацяну. Бо калі ў сям'і пачнецца чаканне "чорнага ворану", то тады будзе не жыццё, а кашмар. Тацяна ўспрыняла ўсё без перабольшванняў. І мяне гэта радавала.

З Тацянай мяне пазнаёміў мастак Сяржук Цімохаў. Ягоная жонка Рыта вучылася разам з Тацянай у інтэрнаце для таленавітых дзяцей. Яны з дзяцінства рыхтаваліся стаць мастачкамі. Рыта стала кніжным графікам, а Тацяна мастачкай па тканінах і габеленшчыцай. Некалькі святаў мы адзначалі ў агульнай кампаніі. Пры першым знаёмстве Тацяна мне сказала, што ёй вельмі падабаюцца мае вершы і нават прадэкламавала адзін з іх. Мяне гэта надзвычай уразіла, гэта быў першы выпадак у маім жыцці, калі незнаёмы мне чалавек прачытаў на памяць мой верш. Калі яна любіць мае вершы, то, магчыма, палюбіць і мяне, – з надзеяй падумалася мне той хвілінай. Мы пабраліся шлюбам праз тры месяцы пасля першага знаёмства. Любім нават жартаваць, што да вяселля бачыліся ўсяго некалькі разоў. Праз восем месяцаў пасля вясельля ў мяне выйшла першая кніга. Праз дзевяць месяцаў – у нас нарадзіўся першы сын.

***

Неяк, калі ўсе пасыходзілі з кватэры Воюша і я застаўся з гаспадаром сам-насам, то выказаў яму прапанову распачаць на Полаччыне ўласнае кнігавыданне. Для пачатку заснаваць літаратурны альманах. На той час у Менску пачалі з'яўляцца, праўда, падпольна, без якіх кольвечы рэгістрацыяў і ўзгадненняў, грамадска-палітычныя і літаратурныя перыёдыкі. А таварыства маладых літаратараў "Тутэйшыя", да якога мы з Воюшам таксама належалі, пачало выдаваць альманах "Літаратура". Воюш не вельмі загарэўся гэтай ідэяй.

– Вось ты гэтым і займіся, – сказаў ён жартаўліва.

Ягоны жартаўлівы стыль паводзінаў напачатку ставіў мяне ў тупік. Я так і не мог даўмецца: ці гэта ён кажа сур'ёзна, проста ў такой жартаўлівай форме, ці проста блазнуе і гэтыя ягоныя словы нічога не вартыя.

– Добра, я гэтым займуся. Балазе, ужо маю прапанову заснаваць такі перыёдык на Полаччыне. Ёсць людзі, якія мне дапамогуць з друкам.

– Ну і цудоўна! – Воюш не стаў распытваць і ўдакладняць, што гэта за людзі.

– Спадзяюся, што ты мне дасі свае творы для друку.

– Абавязкова! Дарэчы, ёсць у мяне што табе прама зараз прапанаваць, – Воюш пачаў перабіраць на сваім стале паперы, узяў у рукі звыклы вучнёўскі сшытак і працягнуў яго мне.

На вокладцы было напісана ўжо добра знаёмым мне Воюшаўскім почыркам: "Сяржук Сокалаў-Воюш. Раніца Рэспублікі. Міні-п'еса". Нядаўна Воюш пачаў працаваць загадчыкам літаратурнай часткі Віцебскага драматычнага тэатра, таму і захапіўся драматургіяй.

– Дзякуй! То з гэтага твору і пачнем першы нумар "Ксэракса Беларускага".

– Як, як? – перапытаў Воюш, яго відавочна зацікавілі апошнія мае словы.

– Вырашыў назваць альманах "Ксэракс Беларускі". Ну, па аналогіі з кніжкамі Багушэвіча "Дудка беларуская" ды "Смык беларускі". А слова "ксэракс" – як сімвал падпольнага выдання. Альманах жа будзе падпольны.

Воюш засмяяўся і выцягнуў правую руку з узнятым вялікім пальцам.

– Клас! Так бы мовіць, пераемнасць з папярэднікамі! У рэчышчы беларускай традыцыі!

Вельмі аператыўна адгукнуліся на мае просьбы даць свае тэксты ў новы літаратурны альманах Уладзімер Арлоў і Вінцэсь Мудроў. Арлоў прапанаваў сваё найноўшае эсэ «“Совершенно секретно” або Адзін у трох іпастасях», якое затым шырока друкавалася ў беларускім перыядычным друку. Але ўпершыню яно было надрукаванае менавіта ў “Ксэраксе”. Эсэ было прысвечанае прафесару-гісторыку Абэцэдарскаму, які лічыўся адным з асноўных фальшавальнікаў беларускай гісторыі.

Мудроў прапанаваў апавяданне “Час камара”. Прыканцы 80-х Вінцэсь быў акрылены першымі сур’ёзнымі публікацыямі. З’явіліся спадзяванні на кнігу. Дарэчы, гэтае апавяданне затым і трапіла ў ягоны першы зборнік “Жанчыны ля басейну”, які выйшаў у 1992 годзе ў дзяржаўным выдавецтве “Мастацкая літаратура”.

Свае вершы прапанавалі Лявон Баршчэўскі і Валянціна Аксак. Гэта былі практычна дэбюты. Валянціна Аксак толькі нядаўна на паседжанні “Крыніцаў” прызналася, што піша вершы, і “Ксэракс” падтрымаў талент. А Лявон Баршчэўскі, які неўзабаве стане дэпутатам Вярхоўнага Савета і возьме ўдзел у абвешчанні незалежнасці Беларусі, быў вядомы выключна як перакладчык, і сваіх уласных твораў нідзе не друкаваў.

Па аналогіі з “тутэйшаўскім” альманахам “Літаратура”, які ў першым нумары змясціў тэксты рок-гурта “Мроя”, у першы “Ксэракс” я ўключыў тэксты “Мясцовага часу” з іх першага беларускамоўнага альбому “Слота”.

Ну і, натуральна, у першым нумары “Ксэракса” знайшлося месца і для маіх новых вершаў.

***

Тацяна выйграла на працы талон на выкуп тэлевізара “Гарызонт”. Дапамагчы з набыццём дэфіцытнага апарата вызваўся Сяржук Сокалаў-Воюш. Як вялікі знаўца тэлерадыётэхнікі, Сяржук старанна выбіраў тэлебачар – нехта з маладых пурыстаў з кампаніі Воюша прапанаваў такім словам называць тэлевізар. Сяржук круціў ручкі, задаваў гандляркам прыкольныя пытанні, хахміў і жартаваў.

Затым мы пагрузілі тэлевізар на дзіцячыя саначкі і пакацілі набытак ад крамы “Арбіта” да нашага з Тацянай інтэрната. Цэлы вечар глядзелі тэлік. Ясная справа, пад выпіўку, закуску, жарты і спевы Сержука.

***

Прыходзілі да мяне Кузьмін са Свідрыцкім, прыносілі тэксты да новага альбому, напісаныя па-расейску. Папрасілі перакласці на беларускую. Тэксты мяне здзівілі. Нейкай сваёй духоўнасцю, як бы гэта ні гучала дзіўна ў адноснах да рок-паэзіі. Не часта пачуеш, каб рокеры спявалі пра сэнс жыцця, пра шлях дамоў, пра сваю любімую ўскраіну, пра тое, каб было не сорамна сказаць: я жыў! Паабяцаў, што зраблю пераклад.

Праз пару дзён аказалася, што перакласці трэба як мага хутчэй: Кузьмін патэлефанаваў і папрасіў прыспешыць працу, бо музыкі мусяць на наступным тыдні ехаць у Мазыр на студыю гурта “Адлюстраванне”, каб запісаць свой чацвёрты альбом.

Праз некалькі дзён Кузьмін прыехаў забіраць пераклады. З сабой ён

меў “рыбу” зусім свежай песні. Тэксту практычна не было. А песню трэба запісаць заўтра. Кузьмін з вінаватым выразам на твары працягнуў мне аркушык з вучнёўскага сшытка. На ім было накрэмзана ўсяго некалькі першых радкоў.

– І гэтую песню вы заўтра будзеце запісваць у студыі? – са здзіўленнем усклікнуў я.

– Спадзяюся, да вечара гэта будзе сапраўдная песня.

Кузьмін мне падаўся авантурыстам. Як можна запісваць тое, што толькі нарадзілася і яшчэ не адкатанае, не праверанае часам?

– І што, мне проста вось зараз трэба напісаць тэкст? – гэта было ўжо рытарычнае пытанне.

– Так, – Кузьмін лічыў такую сітуацыю цалкам нармальнай, маўляў, усё вартаснае нараджаецца экспромтам.

– І колькі я маю часу? – гэтае пытанне было наогул шызафрэнічным.

– Не больш за гадзіну. Бо праз дзве гадзіны мусім пачаць рэпетыцыю.

Мы разам селі на канапу, і я на каленях пачаў пісаць.

За лясамі, ўзгорамі,
За сівымі зорамі
Ягадай няспелаю
Спіць краіна белая.

З поўняй размінулася,
Хмарай загарнулася,
Голас пахаваўшая,
Волю не пазнаўшая.

А была шляхетнаю,
Гонарам адметная,
Моцная і вольная,
Да навукі здольная.

Нашай ускраіна была!

Аблокі гоне вецер-гун,
Забыўся ён, што ёсць Пярун,
Забыўся, што чакае нас
Сурмы працяглы спеўны час.

Мой сын маўчыць, маўчу і я:
Навокал скрозь – калонія.
Калее ў студзеньскай вадзе
Пярсцёнак згубленых надзей.

Праз паўгадзіны тэкст быў гатовы. Я працягнуў яго Кузьміну. Той узяў аркушык і пачаў чытаць, напяваючы радкі. Я думаў, што апошні слупок Кузьмін забракуе, бо задужа ён атрымаўся палітычным, але, на маё здзіўленне, Фула сказаў, што ўсё вельмі добра і заўтра яны гэта запішуць у студыі.

Песня атрымала назву “Ускраіна”, а сам альбом “Наша ўскраіна”.

***

Званок быў ад незнаёмага чалавека. Ён назваўся. Сказаў, што чытае мае артыкулы ў “Віцебскім кур’еры” і хацеў бы са мной сустрэцца. Мне час ад часу званілі розныя дзівакі. Адзін мясцовы Кулібін аднойчы некалькі

гадзінаў апавядаў пра тое, што вынайшаў вечны рухавік, але чыноўнікі не хочуць яго слухаць, а сусветнае аўтамабільнае і нафтавае лобі нават плануе яго забіць. Ён паказваў мне разлікі, малюнкі і шматтомную перапіску з рознымі навуковымі інстытутамі. Я сказаў, што ў гэтым абсалютна не цямлю, таму не магу пісаць пра тое, што для мяне “цёмны лес”.

Але гэтым разам мне падалося, што чалавек, з якім размаўляю, хоча мне распавесці нешта істотнае. Адчувалася, што суразмоўца хвалюецца, і на тое ёсць сур’ёзныя падставы. У ягоным нетаропкім маўленні сталага чалавека гучала вялікая стомленасць і ў той самы час нейкая таямнічасць. Нібыта незнаёмец хацеў мне паведаміць страшэнны сакрэт, але пакуль яшчэ вагаўся, ці варта перада мной адкрывацца.

Мы дамовіліся сустрэцца ў скверы на праспекце Карла Маркса. Ён мне патлумачыў, на якой лавачцы будзе мяне чакаць.

Адмовіць у сустрэчы было не ў маіх правілах. Бо журналіст у нейкім сэнсе як лекар, або апошняя інстанцыя, асабліва ў грамадстве, дзе ўсё кантралюецца спецслужбамі і толькі публічнае агучванне пэўнай інфармацыі можа выратаваць нечы лёс.

Я прыйшоў на пяць хвілінаў раней, але ён ужо мяне чакаў. Гэта быў хударлявы чалавек досыць стала ўзросту, на выгляд я б яму даў гадоў шэсцьдзясят. Сустракаючы мяне, ён устаў з лаўкі, працягнуў руку і яшчэ раз назваўся: Павал Іванавіч.

Мы селі на лаўку і я запытальна паглядзеў у твар незнаёмцу. У ім адчувалася духовая моц. Вочы сведчылі пра розум і нейкую зацятасць. Ёсць такія людзі, якія ўсё жыццё слугуюць пэўнай ідэі або перакананням. І ўсё іх жыццё падпарадкавана абранаму шляху.

– Вы хочаце разгадаць, хто я насамрэч? – ціха спытаў незнаёмец.

– Я думаю, вы мне самі пра гэта паведаміце, – хваляванне, якім быў апанаваны суразмоўца, перадалося і мне.

– Адразу хачу папярэдзіць, не спрабуйце пра пачутае ад мяне напісаць у сваёй газеце. Для вас гэта будзе небяспечна. Яны вам адпомсцяць, – гэтыя словы выклікалі ў мяне лёгкае раздражненне і ў галаве мільгнула думка: няўжо зноў натрапіў на вар’ята.

– Вы гаворыце нейкімі загадкамі. Хто яны? І навошта тады хочаце гэта распавесці?

– Сілы д’ябла. Яны і зараз сочаць за намі. Вунь бачыце, у тым куце, пад бэзам, сядзіць рэспектабельны “дзядок”? Газету чытае. Гэта якраз ён арыштоўваў мяне і катаваў. Думаеце, ён выпадкова тут апынуўся? Цікава іншае, гэты “дзядок” даўно на пенсіі, але, паглядзіце, усё роўна пры выкананні. Хаця можа тут у яго ўласная справа, бо трэба замятаць сляды.

Незнаёмец пасміхнуўся краёчкамі вуснаў і прыжмурыў вочы.

– Вы не адказалі на другое пытанне: навошта хочаце мне гэта распавесці?

– Сёння пра гэта пісаць нельга. Так будзе лепш і для мяне, і для вас. Але прыйдзе час і вы напішаце... прынамсі, я веру ў гэта.



Дзмітры Шыла



...ад перамены вокнаў
чысцейшым не зробіцца мозг
памылкам патрэбны Брэйвік
заганам маім – галакост...

# Няшэры сезон

* * *

восень-чараўніца
засыпала мяне лісцем
жанчына-прыгажуня
адарыла мяне лістамі
з-за мяжы вершы піша
за мяжою майго
жадання
...небяспечная вельмі
экспазіцыя, бо замежжа –
гэта тое, што вабіць
крэсы, пустэча, граніца –
мэта для тых, хто
хоць на каліва
лічыць сябе мужчынам...
хіжы вецер зграбае
летуценнае лісце
ў ледзь бачную на тле
змярцвелай травы

sms-ку: *“ты ж,*
*дурненькі, дагэтуль*
*не знаеш,*
*чым яно ёсць*
*каханне!..”*

* * *

У восеньскі пейзаж уплецена журбінка,
якая той фрустрацыі падобна,
што ахінае імпатэнта
падчас прагляду порнафільма.
Мы назіраем агаленне дрэваў
і адчуваем уласнае бяссілле,
бо гэты выкшталцоны і паўсюдны
стрыптыз відочна не для нас.
Нам застаецца эстэтычна захапляцца,
гаркавы смутак гэтых даляглядаў
тлумачыць “увяданием природы”
ды рознаю цнатліваю лухтою, а між іншым
нам проста цяжка вытрымаць
канкан галінаў-ножак, якія гэтак бессаромна
задралі лісця легкаважныя спадніцы.
Восень – больш эратычная пара, панове!
Увесну ўсё нараджаецца – з зямлі ўлоння
прадзіраецца трава, з пупышак на галінах
лезе лісце – і відавочна акт
праліва семені ў спрыяльныя ўмовы
мусіў быў адбыцца
за некалькі прынамсі месяцаў,
то бок увосень!..

## КАЛЯДНАЯ НОЧ У СПАЛЬНЫМ РАЁНЕ

Ціша. Вятрыска
гоніць дробныя сняжынкі
і маскіруе пад сумёты каля пад’ездаў
кінутыя на ноч іншамаркі.
Чыгунка
нехарактэрна моўчкі схавалася
дзесь за дамамі,
адбудаванымі яшчэ за часам
уладара, які калісьці марыў
апошняга папа ўласнаручна
здаць у кунсткамеру...
Спаруды шыхтаваныя на ўскрайку
вялізнага мястэчка, якое пхнецца быць сталіцай.

Царкоўныя званы гучаць як выклік,
як правакацыя, як нонсэнс.
Нязгаслымі зрэнкамі вокнаў
кватэры шматлікіх баракаў
здзіўляюцца і мяркуюць,
што звон – сігнал да збору
наяўнага асабовага складу,
бо нехта ўрэшце збег з адчаю
з просталінейнага лагеру
тыповага дабрабыту...
Званы як выклік, як сігнал трывогі
для тых, хто зараз назірае
праз скрыні тэлевізіі за нейкім
дзіўным,
але бяспечным, бо на адлегласці,
служэннем.
Званы...
Штосьці здарылася.
Тут і сёння.
Штосьці, што скрадзе наш спакой,
калі мы не прыкрыем шчыльней
нашыя вокны і дзверы,
нашыя вочы і вушы...
Сярод гэтай цішы,
сярод гэтых сляпых вокнаў,
сярод гэтых мёртвых самаходаў
зявіўся Той, Каму не ўсё роўна...

* * *

Адсутнасць сонца засмучае болей за адсутнасць грошай,
і хмары-гастарбайтары, затынкаваўшы неба,
у душу лезуць са сваёю праўдай беспрытульнага бадзягі.
Зіма, на месяцы другім цяжарная адчаем,
непастаянства сваё песціць: то ёй адліга,
то маразы, а то “каля нуля”, і ўспамінаеш
Напалеона вызначэнне: ў гэтым краі Творца
на дні другім спыніў Свае забавы,
не аддзяліўшы ад вады ваду... Адзінае
выратаванне ад гэтай шэрасці нікчымнай –
утаймаваць яе бясконцасць апісаннем,
надаць ёй вобразаў і ўспамінаў,
тых цёплых момантаў,
калі былі мы побач,
і сонейка свяціла
з тваіх вачэй, і саграваў
ўсмешка задаволенага шчасця...

***насуперак расстанню***

мужны горад заплакаў
калі ты з’ехала

самы цёплы горад Беларусі
стаў невыносна сцюдзёным
калі цябе скралі абставіны

маляўнічыя дамкі і лямусы
ператварыліся ў размазанае
масціхінам месіва алейных фарбаў
калі ты знікла за танаванымі шыбамі

утульныя вуліцы, напоўненыя натоўпам,
сталі раптам калючай пустэчай,
калі ты ўладкавалася ў крэсле
міжнароднага рэйсу

знаёмыя з юнацтва месцы і прыкметы
схаваліся за хмарачосаў навабудамі,
калі твой аўтобус павялічваў хуткасць

смак кавы і каньяку ў найлепшай кавярні места
стаў нікчымным дадаткам да маёй адзіноты,
калі колы твайго аўтобуса лізалі слоту
прапускнога мытнага пункта

гукі кропель і блюзу
высушвалі мае мазгі
калі ты тэлефанавала
ўжо з іншага боку мяжы

і толькі несвядомы выбрык дызайнера
жыццесцвярджальна ўсміхаўся мне
класічным англійскім почыркам
са сценаў, меню і сурвэтак –
*time doesn’t exist* –
і я зведаў, што дачакаюся
калі горад стане
мужным
цёплым
утульным
знаёмым
ветлівым
смачным
і мілагучным
таму што ты

будзеш побач
ты ўжо побач
ты!..

* * *

Ты лічыш тыдні.
Я гартаю справы.
Ты запытала (рытарычна):
каму цяжэй?..
Не ведаю, наўрад ці
варта мераць.
Табе лягчэй
выплёскваць у словы,
слёзы, сны і крыкі.
Я звычку маю, зубы сцяўшы,
караскацца да мэты.
Прабач за гэтае маўчанне.
Адолеем і гэтае чаканне.
І будзе момант –
Цяжкасці ўсе
З усмешкай ўзважым
Шалямі ўспамінаў,
І знойдзем іх
Лягчэйшымі за хмары.
Зрэшты, мы і зараз
іх уважаем толькі
за заслону сонца...
...як прагну я
праменняў
позірку твайго
напіцца!

* * *

мітусня горада тупіць усе адчуванні –
а я думаю пра цябе, абвастраючы боль растання
за вакном шэрагі “ціпавых” знічак –
а я бачу сяйво твайго позірку
натоўпы розна-заклапочаных твараў
атакуюць мяне сваёй абыякавасцю –
а я ўспамінаю дотык тваіх валасоў да маёй шчакі
нават сонца не хоча глядзець праз хмары
на гэтае места шэрых патрэбаў і памкненняў –
а я імкнуся ізноў ды ізноў убачыць,
як вясёлка ўспыхвае ў тваіх вачах,
калі мы сустракаемся

пад лесвіцай на Кастрычніцкай,
не бачачы вакол сябе нікога з мінакоў
бо нам ніхто і не патрэбны, калі мы побач,
калі мы разам, мы тое адзінае адзінства, пра якое
ані Платон, ані Плацін не мелі нават уяўлення...

## *АГОРКЛЫ МІНУЛЫМ СНЯДАНАК*

“за вокнамі – Брэйгель”
у душы – Босх
кожнае вызначэнне – лэйбл
кожная думка – пост
кожны вобраз – рэклама
кожны рух – Леві-Строс
кубачак кавы грэе
вантробы горла і нос
кожная думка свідруе
тэчак мінулага стос
вонкавы свет – Каспараў
крок вызначае лёс
кожны камент нязменны
помніць усё чыйсьці хост
ад перамены вокнаў
чысцейшым не зробіцца мозг
памылкам патрэбны Брэйвік
заганам маім – галакост
...так невыносна рана
боль я табе прынёс!..
кожная мара – пастка
кожная казка – тост
кожнай раніцай просты
рухаў расклад да слёз
тостэр запёк бутэрброды
крок вызначае лёс

Уладзімір Сіўчыкаў



…прозвішча тваё, Машэраў, даволі рэдкае і, відавочна, французскага паходжання – ад "mon cher" са значэннем "мой дарагі"…

# Іронія лёсу

***З нізкі "Уладзевы гісторыі"***

*Працяг. Пачатак у №№ 64, 68.*

## "Макавеі"

Зайшлі два маладзёны на дачны ўчастак да Вольгі Н., спачатку спыталі, а потым сталі патрабаваць, каб павырывала і аддала ім макі.

Гаспадыня абуралася, адпрэчвала нязваных гасцей, але тыя не зважалі нават на яе мужа Віталя П., які на шум выйшаў з дому.

– Слухай, цётка, не раві! Аддавай мак па-харошаму, покуль мы яшчэ добрыя!

– Нішто сабе, добрыя – убіліся на чужую сядзібу без дазволу ды яшчэ тут камандаваць будуць!

– Канечне, добрыя! Другія даўно сілком павырывалі б тое, што трэба, змультавалі б табе кусты дый павытоптвалі б грады. Урэшце, сваё патрабуем!

Вольга ледзь не захлынулася ад абурэння:

– Гэта што ж тут ваша?!

– А тое, што трэба! Хіба ты гэты мак садзіла?! Мы ж па вясне і падсыпалі насення на твае ўскапаныя грады! А вераб'і пад суседскім плотам, думаеш, чаго валяюцца ў пяску дагары нагамі? Надзяўбліся нашых канопляў...

– Якіх яшчэ канопляў?!

– А вунь тых кусцікаў з жоўтымі мяцёлкамі. Спытайся ў свайго мужыка: ён у цябе ў акулярах, на разумнага падобны.

– Дык вы ў нас, аказваецца, арандатары?!

– Слухай, цётка, харош далдоніць! Нам няма калі – у нас у шалашы на Лысай Гары сяброўка загінаецца, а ты тут пустое балабоніш! Ломка ў чалавека, урубаешся?

– Дык вы наркаманы?! – ледзь не села долу гаспадыня.

– Ага, зараз табе даведкі з дыспансера пакажам!

– А што, як я ў міліцыю пазваню?!

– Звані, калі мазгі ў цябе курыныя. Самой жа потым горш будзе!

Тут Віталь, мужчына пенсійнага веку, мякка папрасіў жонку сысці ў дом, пааддаваў няпрошаным візіцёрам злашчасны мак, а пасля той ліхтугі доўга і разважліва супакойваў узнерваваную кабету:

– Ну, падумай сама. Падумай як след і без эмоцый! Вось мы з'едзем у горад, а яны, можа, яшчэ тыдзень прабавяцца ў сваім будане. А як будуць раз'юшаныя, дык прыцягнуцца ў любы момант дый навычвараюць тут, што ўздумаюць. Захочуць, шыбы паб'юць, а захочуць – і яшчэ што горшае ўчыняць, каб папомсціцца! Узімку вунь з дзясятак дамоў абрабавалі, а дзе былі тыя вартаўнікі, дзе была тая міліцыя?! Павер, мы перад такімі прыхаднямі і злодзеямі практычна безабаронныя...

*3 жніўня 2010 года*

## Славянская назва

Пад канец лета па паўночных беларускіх рэчках сплаўлялася на байдарках і плытах спрактыкаваная каманда інтэлектуалаў.

У адной з мясцінаў на Расоншчыне спыніліся лагерам на начоўку, а тэолаг Ірына Д. дый філосаф Валянцін А. выправіліся ў манапольку за мяжу – на процілеглы, расійскі бераг.

– Як завецца вашая вёска? – спыталіся яны ў гандляркі.

– Чё?! – няўцямна перапытала тая.

– Деревня ваша как называется? – перайшлі на мову, зразумелую тубыльцам, інтэлектуалы.

Гандлярка прыняла паважны выгляд і з гонарам выдала:

– Бухаво, а чё?!

– Добра, што не Бухалава! – саркастычна зазначыў філосаф, а тэолаг талерантна разважыла:

– А што, нармалёвы славянскі тапонім! У Чэхіі, у Паўднёвай Маравіі ёсць Бухловіцкія горы. А ў іх, непадалёк ад знакамітага Аўстэрліца, які цяпер завецца Славакаў, – мястэчка Бухловіцэ з аднайменным замкам і садова-паркавым комплексам і навакольнымі плантацыямі хмелю.

– Дык можа таму і прайгралі Банапарту баталію расейцы з аўстрыякамі, што паспелі набухацца ў тых Бухловіцах? – задаўся гістарычна-рытарычным пытаннем філосаф.

*19 жніўня 2011 года*

## Машэраўскія Дзічкі

Набыў Сяргей у вёсачцы пад Заслаўем ладны кавалак зямлі па-над возерам і збудаваў з бярвення двухпавярховы дом, які менаваў на альпійскі лад.

Аднаго пагоднага дня выправіўся ён туды на легкавіку разам з сябрам.

– Ты б вызначыўся, Серж, дзе тваё шале, – дабрадушна пацвельваў яго Мікола, што сядзеў поруч, на пасажырскім сядзенні.

– Як гэта дзе?! – няўцямна перапытаў Сяргей, бо адчуў у сябравай інтанацыі лёгкае падступства. – А куды мы, па-твойму, едзем, мой дарагі?! Ты ж сам там бываў, і не раз – дапамагаў мне будавацца дый гасцяваў з сям'ёю!

– Я маю на ўвазе, што ты, бывае, кажаш Дзічкі, а часам – Дзічкí!

– А якая розніца?! – ускінуў бровы Сяргей.

– Э-э, не! Ты, калі ласка, вызначайся! Калі табе да душы, што назва вёскі паходзіць ад дзікіх яблынек ці грушак, тады спыняйся на варыянце Дзíчкі...

– А што, па-твойму, мой дарагі, азначаюць Дзічкí?

– Прапаную версію, што ў той мясціне – на ўзлеску пры першапачатковым паселішчы ці пры хутары нярэдка паяўляліся, рохкалі дзікі са сваімі парсючкамі. Адсюль магла пайсці назва Дзічкí.

– А як правільна, як бліжэй да ісціны?

– Э-э, Сержык, у тапаніміцы, раздзеле мовазнаўства пра назвы мясцінаў і гарадоў, нярэдка маюць права на жыццё некалькі гіпотэзаў! Тут ужо выбірай, што табе бліжэй – флора ці фаўна!

– А я перапытаю ў тубыльцаў, у суседзяў, што здаўна там жывуць!

– Мудрае рашэнне, мой дарагі! – пераняў улюбёны Сяргееў зваротак Мікола.

– Пардон, але зноўку кажаш такім сваім тонам, што не разабраць, дзе ён у цябе іранічны, дзе саркастычны, а дзе і сарданічны, як у мізантропа! Цябе нават даўнія сябры могуць недалюбліваць за вечныя прыдзіркі і падколкі!

– Ну, знайшоў мізантропа! Але і тут папрашу вызначыцца. А калі ты лічыш, што я занадта прыдзірлівы да словаў, дык я ж філолаг, я з гэтага хлеб ем!

– А я больш люблю французскі батон – багет! А твой сённяшні настрой вызначаю як саркастычны! – Сяргей рэзка вывернуў руль управа і збочыў на эстакаду, што вяла ў старажытны горад-спадарожнік сталіцы.

– Тады заві мяне не Мікола, а Нікаля!

– Гэта з якога такога дуба?!

– А як французскага прэзідэнта Нікаля Сарказі!

– Што яшчэ за капрыз?!

– Ну, вязеш ты мяне на французскай машыне “Peugeot”, ахвотна карыстаешся словамі-галіцызмамі – “шале”, “барсетка”, “пардон”, “мізантроп”, “багет”, “капрыз”... Значыць, і імёны на гальскі манер табе павінны падабацца. Ты ж не пярэчыш, калі заву цябе Сержам?! Дый прозвішча тваё, Машэраў, даволі рэдкае і, відавочна, французскага паходжання – ад “mon cher” са значэннем “мой дарагі”. У табе найхутчэй гавораць гены, а французы, дарагі мой франкафіл, зазвычай ставяць націск на апошнім складзе...

– А я й не супраць! – міралюбна пагадзіўся Сяргей, а заадно разруліў сабе і тапанімічнае пытанне. – І едзем мы з табою ў Дзічкí!

*15 кастрычніка 2011 года*

## Касі, каса, пакуль раса!

Прыйшоў дачнік-“лысагорац” Васіль Г. да суседа Уладзі С. дый папрасіў пазычыць касу.

– Ну вось табе і маеш! – усклікнуў той. – Першы раз у гэтым годзе бачымся, першы раз заходзіш сёлета на мой участак і адразу ж – пазычацца! Не – каб пасядзець у альтанцы, не – каб расказаць ці паказаць што добрае!

– Ды калі тут сядзець?! – стаў апраўдывацца Васіль. – Вечна прыляціш на гэтую дачу, дык не ведаеш, за што й хапацца! Часу проста катастрафічна не стае!

– Ага, як на рыбалку, дык часу ў цябе хапае?! Дый навошта табе каса спатрэбілася? Можа, як таму Міколу?

– Якому Міколу? – насцярожыўся Васіль.

– Дый Міколу Р., які кажа, што ягоны дзед-класік вельмі любіў і шанаваў зямлю. Праз гэта, маўляў, і не прадае свае ўдзірвянелыя соткі, хоць і не мае часу і жадання іх апрацоўваць. Прыязджае гады ў рады, а днямі прасіў у Генрыха касы, каб выкасіць... маліннік і шыпшыну!

– Ды не, не хвалюйся! Мне толькі пазбіваць траву ад дарогі, пад плотам – покуль яшчэ росна.

Вынес-такі Уладзя сваю “дзявятку” з хлеўчыка, а пад вечар убачыў, што сусед з’язджаць збіраецца, і папрасіў вярнуць касу, маўляў, раптам самому спатрэбіцца.

– Дык ты знаеш, літоўку тваю я не ўпадабаў і магу аддаць. А на касільна тваё насадзіў ямчэйшую, Генрыхаву касу. Можаш браць у яго ў любы момант.

– Э не, дарагі суседзе! – рашуча запярэчыў Уладзя. – Аддай мне маё дый у тым выглядзе, у якім браў! А то выходзіць, што сваё я яшчэ і прасіць буду павінен?!

Прынёс Васіль праз чвэрць гадзіны касу ў належным выглядзе, а тут Уладзя і спытаўся ў яго:

– Ты, даражэнькі суседзе, пра горад Маскву ведаеш?

– Як не ведаць, я ж там на Вышэйшых літаратурных курсах вучыўся!

– А на Краснай плошчы бываў?

– Ну, канечне, і не раз!

– А бачыў там храм Васіля Блажэннага?

– Ну, бачыў, – адказаў Васіль, усё больш падазраючы прыхаванае падступства. – І што з таго?

– А тое, што калі збудуюць што-небудзь у твой гонар або паставяць табе помнік, дык назавуць яго помнікам Васілю Няўдзячнаму!

– Гэта чаму?!

– Ды таму, што зганіў ты маю касу, і пакрыўдзіў тым яшчэ двух суседзяў! Генрых Д. дапамагаў мне выбіраць яе ў купалаўскіх мясцінах, на базары ў Пятрышках, а Алесь Ж. адбіваў, кляпаў ды вастрыў яе! Другі раз добра падумаю, ці выручаць цябе!

– Ну, навошта ты так пячэш?! – удавана-пакрыўджана паківаў Васіль, які заўсёды і сам быў гатовы папікіравацца, пакпіць з суседа. – Пачакай жа, будзе і на крапіву мароз!

*16 траўня 2012 года*

## Мова продкаў

Ці не дваццаты раз Уладзева сям'я сустракала восеньскія Дзяды ці Асяніны ва ўручанскай кватэры Пятра В. Усё было звыкла-традыцыйна: гаспадар пераказаў "Ойча наш", паклікаў дзядоў, у асобную місу паклаў ім з кожнай стравы, гаспадыня, культуролаг Ніна З., падала заўсёдныя шыкоўныя клёцкі з "душамі", а котка Багданка зусім не адразу шуснула ў пакой. Хіба што ў абедзвюх сем'ях дочкі павырасталі, паразляцеліся па белым свеце, а праз тое не ставала іх імправізаваных інтэрмедый.

За мярлінным сталом прыгадалі і васьмідзесяцігадовага юбіляра, выдатнага акцёра Анатоля Папанава. У гайдаеўскай кінакамедыі "Брыльянтавая рука" стварыў ён камічны эфект праз свайго героя-кантрабандыста дзякуючы мове сваіх беларускіх продкаў, а хутчэй праз так званую трасянку. Варта згадаць хоць некаторыя ягоныя рэплікі, расцяганыя на цытаты: "Сядзем усе!", "Кутузаў!", "Кліент гатоў!", "Будзе табе там і ванна, будзе і кофа, будзе і какава з чаем! Паехалі!" Нават цютчаўскі раманс гучыць у Папанава з шаржаваным беларускім акцэнтам: "Я ўстрэціў Вас і ўсё былое..."

Немаведама, праўда, ці радавацца той знаходцы акцёра, які такім чынам згадаў свае беларускія карані. Па-першае, і вусамі нагадвае ён віртуоза трасянкі, які не сыходзіць з айчынных тэлеэкранаў, па-другое, герой ягоны хоць і запамінальны, а па-свойму і сімпатычны, але злачынец, а па-трэцяе, фільм ад пачатку хлуслівы, бо кантрабандыстамі ў той час займалася не "свойская" міліцыя, а адыёзны Камітэт дзяржбяспекі!

*На Змітраўскія Дзяды, 3 лістапада, 2012 год*

## Іронія лёсу

Стаўляў Валера Ф. новы дом у Заслаўі і надумаў пазычыць у сябра печку-буржуйку, каб найміты-шабашнікі маглі час ад часу пагрэцца.

Прыехаў ён да Сяргея С., узяў ключы ад дачнага доміка і перапытаў дарогу да лецішча пад Баярамі, што ў Маладзечанскім накірунку, хаця і гасцяваў там аднаго разу.

Наступнага дня патэлефанаваў Сяргей Валеру, бо турбаваўся, чаму той не адзваніў ды не падзякаваў.

– Ды не знайшоў я ў цябе аніякай "буржуйкі"! – раздражнёна азваўся Валера. – Дарма толькі снег мясіў!

– Як не знайшоў?! – здзівіўся Сяргей. – А дзе ты шукаў?

– Як ты і казаў, у доме, у вялікім пакоі...

– Чакай! Давай пра ўсё па парадку!

– А што тут расказваць?! Брама на лецішча – наросхрыст. Пад'ехаў, зайшоў на ўчастак, адамкнуў замок ключом, прайшоўся па пакоях. Печка – не іголка, адразу заўважыў бы.

– А ровар? Поруч з ёю павінен быў стаяць спартовы ровар!

– Ды не было там ніякага ровара!

– Во блін! Значыць, і яго падлабудзілі! А як жа залезлі ў дом? Замок, кажаш, цэлы быў? А вокны, вокны?

– Асабліва не прыглядаўся, але, здаецца, шыбы не крануты, дый слядоў пад вокнамі не было відаць...

– Значыць, і зайшлі, і выйшлі нягоднікі праз дзверы! Ну, можа, ты штосьці адметнае, незвычайнае заўважыў?

– Не ведаю, што і сказаць... Хіба што здзівіла шафа з рознымі прыпасамі пасярод пакоя!

– З якімі такімі прыпасамі? – насцярожыўся Сяргей.

– Ну, з трохлітровікамі. З памідорамі, з агуркамі, з асарці...

– Ды не пакідалі мы на зіму ніякіх прыпасаў! Не маглі ж злодзеі нанесці слоікаў замест печкі і ровара... – канчаткова разгубіўся Сяргей, але тут на яго нібы святы дух сышоў. – Чакай, а па якім адрасе ты наведваўся?

– Як гэта па якім?! Як ты й казаў – сёмая лінія, пяты дом.

– І што, ключ падыйшоў? – асцярожна перапытаў Сяргей.

– А як ён мог не падыйсці, калі ты сам даў мне яго?!

Тут ужо Сяргей не стрымаў гамерычнага рогату, а калі крыху аддыхаўся, дык аб'явіў збянтэжанаму сябру:

– Ды ўся загваздка ў тым, што мой дом – сёмы, а стаіць ён на пятай лініі!

– Не можа быць! – недаверліва ўсклікнуў Валера. – Жартуеш?

– Вось былі б табе жарты, была б табе іронія лёсу, каб заспелі цябе сапраўдныя гаспадары або каб пабачыў цябе вартаўнік дый выклікаў бы міліцыянтаў! Даводзіў бы потым, што ты не вярблюд!

*23 лютага 2013 года*

## Вясёлая кабета

За абрэвіятуру Беларускай акадэміі мастацтваў была прынята БелАМ. Але многія студэнты і выкладчыкі карысталіся карацейшай і больш звыклай вуху – БАМ, што азначала і Байкала-Амурскую магістраль.

На імправізаваным фуршэце пасля прагляду ў дыпломнікаў плакатыст, шрыфтавік і кніжны дызайнер Уладзь В. стаў выбачацца перад лабаранткаю Лізаветай К. за тое, што тры гады таму пад шафэ заляцаўся да яе на банкеце-юбілеі кафедры.

– Ды што вы, кіньце, спадар Уладзімір! – нечакана пачуў ён у адказ ад сваёй колішняй сімпатыі. – Гэта я была дурніцаю: дагэтуль шкадую, што адмовіла вам тады!

– Дык можа, як кажа адзін мой знаёмы выдавец, я быў недастаткова настойлівы?

Замест адказу Лізавета, вясёлая кабета, агучыла яму на вуха перайначаную камсамольска-чыгуначную дрындушку з часоў, калі статус тэатральна-мастацкага інстытута падвысілі да Акадэміі:

Да мяне прыходзь на БАМ...

*На дзень дурня, 1 красавіка, 2013 год*

## Непамыснасць

Атрымаў Уладзя ледзь не апоўначы электронны ліст ад Паўла К. Даўні знаёмец – журналіст, празаік і перакладчык проста маліў выбавіць з бяды: у падарожжы па Італіі, у Вяроне, скралі ў яго грошы і дакументы. Пісаў Павал, што будзе ўдзячны за любую дапамогу, дакляраваў, што аддасць грошы, як толькі вернецца, падаваў банкаўскія рэквізіты і адрас гатэля.

Крыху насцярожыла Уладзю, што ліст быў напісаны па-ангельску, а не,

хай сабе й лацініцай, па-беларуску. Але патлумачыў сабе тым, што гэта была калектыўная рассылка, а Паўлавы адрасаты маглі жыць не толькі ў Беларусі, але і ў Ізраілі, і ў Злучаных Штатах... Не ставала апошняй літары ў прозвішчы рэспандэнта, дык, дзіва што, можна было ўявіць ягоны душэўны стан!

На наступны дзень пакіраваўся ўжо Уладзя ў банк, дый надумаў на ўсялякі выпадак набраць Паўлу на мабільнік – раптам той ацалеў і спрацуе роўмінг.

– Ды не, ні ў якую Італію я не ездзіў, і ні грошы, ні дакументы ў мяне не кралі. І ўвогуле сяджу я ў Менску! – азваўся Павал, як толькі выслухаў пытанні.

– А чаго тады рассылаеш гэткія няўцямныя лісты?!

– Ды гэта не я! Проста ўзламалі маю электронную паштовую скрыню дый рассылаюць спам ад майго імя!

– Нішто сабе спам! Гэта ж самае сапраўднае кампутарнае махлярства!

– Ну, грашыма ў мяне не разжывуцца! І прэмія, і тое, што быў назапасіў, і тое, што пазычылі бацькі – усё пайшло на кватэру-двухпакаёўку. Сам разумееш, трэба ж недзе жыць з маладой жонкаю.

– А хакеры, і праўда, паляваць на цябе пачалі найхутчэй тады, як дазналіся пра тваё лаўрэацтва. Хаця могуць быць яны і не з Апенінаў, а з суседняга пад'езда, але ж адрасную базу тваю скарыстоўваюць. Мабыць, падумалі, што версія пра ваш круіз на Адрыятыку падасца сапраўднай, што леташняга падарожжа на Балтыку падалося вам мала.

– Ды хіба цяпер гэта мае значэнне...

Уладзя ўздыхнуў з палёгкаю, калі скончыў размову, парадаваўся, што ўсё высветлілася, але пэўная прыкрасць не адступала. Падумалася, што мог бы Павал парупіцца зрабіць агульную рассылку пра імавернае ашуканства сябрам і знаёмым, усім прыязным карэспандэнтам. Не паспеў гэтага зрабіць, проста паленаваўся ці хацеў дазнацца пра тых прасцячкоў, што страцілі грошы праз тое, што паспачувалі яму і паверылі прайдзісветам, якія абяцалі Божую ласку і спагаду?

*11 сакавіка 2013 года*

## Таксоўшчыкі

Мастацкі кіраўнік "Вольнага тэатра" рэжысёр Мікалай Халезін напісаў у Facebook пра тое, як выпраўляў дадому цешчу і адвозіў яе ў лонданскі аэрапорт Хітроў (Heathrow Airport). Замоўленая таксоўка падрулiла на гадзіну раней за прызначаны час, а абачлівы цемнаскуры кіроўца патлумачыў, што гэта зусім не лішне, бо трэба будзе працісквацца скрозь імаверныя з-за пахавання Маргарэт Тэтчар "коркі". Тады і сам рэжысёр спахапіўся: сапраўды быў дзень праводзін у апошні шлях 71-га прэм'ер-міністра Вялікабрытаніі Margaret Hilda Thatcher, Baroness Thatcher. На рэгістрацыю на рэйс ледзь-ледзь паспелі, бо на сталічных вуліцах было нямала і тых, хто радаваўся, што "жалезная ледзі" сканала, і нават гарлаў песню "Дзін-дон! Ведзьма памерла!" ("Ding Dong! The Witch is Dead!") з фільма "Дзівосны чараўнік краіны Оз".

А Уладзю прыгадаўся ягоны, пяцігадовай даўніны выпадак з таксоўшчыкам.

Разам з палачанамі – музейшчыцай Аленай Качкінай, загадчыцай літчасткі тэатра Вікторыяй Дашкевіч і археолагам Кастусём Шыдлоўскім – удзельнічаў ён у міжнароднай канферэнцыі па дзіцячай культуры і літаратуры Балтыйскага рэгіёна, што праходзіла ў горадзе Вісбю на шведскай выспе Готланд.

Арганізатары сімпозіума, супрацоўнікі Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў выпраўлялі беларускую дэлегацыю на мацярык апошняю, а праз гэта, мабыць, крыху расслабіліся.

Калі познім вечарам машына прыбыла ў невялічкі аэрапорт, таксоўшчык дапамог пасажырам выгрузіць багаж і раптам заявіў:

– А я дык не разумею, навошта прывёз вас сюды. Апошні самалёт у Стакгольм паляцеў ужо, а наступны будзе толькі раніцою!

– Так, сёння першае красавіка, дзень дурня, – адказаў яму Уладзя. – Але жарт ваш запознены, бо дзень ужо мінаецца, і не тое каб дурацкі, а, скажам так, няўдалы і нясмешны!

– А я і не думаў жартаваць...

Таксоўшчык правёў пасажыраў да стойкі рэгістрацыі, дзе авіятаркі пацвердзілі, што апошні рэйс адправілі сорак хвілінаў таму, і развярнулі манітор, на якім значыліся прозвішчы чатырох нязбытных авіяпасажыраў.

Небаракі звязаліся па тэлефоне з дырэктаркай Ленай Пастарнак, і той самай таксоўкай вярнуліся ў Балтыйскі цэнтр. Там заночылі, а на досвітку зноў дапялі аэрапорта і нарэшце вылецелі ў шведскую сталіцу. Натуральна, знерваваліся, бо тэрмін візаў мінаўся, а рэйс Стакгольм-Мінск быў толькі на наступную раніцу. Але балтыйская чараўніца Лена Пастарнак арганізавала і жытло, і вылет у Беларусь. Дзякуючы ёй, небаракі сталі шчасліўцамі – займелі дадатковыя суткі чароўнай вандроўкі ў скандынаўскай краіне. Дзякуючы ёй, пабачылі не толькі гіганцкі аэрапорт "Арланда" ("Arlanda"), але і саму сталіцу з яе цікавосткамі – Каралеўскім палацам, парламентам Рыгстагам, Шведскай каралеўскай операй, Ратушай, у якой ушаноўваюць Нобелеўскіх лаўрэатаў, Рыдархольмскім храмам на Рыцарскай выспе, вуліцай Улафа Пальме, старажытным варажскім суднам дракарам...

На апошнім рубяжы шведская памежніца абурана ўтаропілася была ў пратэрмінаваныя візы, але потым параілася з начальнікам змены і махнула рукою, паставіла ў пашпартах дазвольныя штампы.

*17 красавіка 2013 года*

## Тонкая натура

Мастак найчасцей працуе ў майстэрні, ну і, натуральна, выбіраецца на пленэры.

Музыку-выканаўцу ці кампазітару патрэбна рэпетыцыйная зала ці хаця б асобны пакой у кватэры.

Літаратару больш чым пажадана мець свой кабінет ці хаця б нейкі катушок. І зусім ужо раскоша, калі здольны ён арэндаваць атэлье. Як, да прыкладу, Эрнэст Хэмінгуэй, які жыў у Парыжы ў адной кватэры, а працаваў у другой, што і апісаў у рамане "Свята, якое заўсёды з табою".

Усё гэта ведаў Гена Р., а таму і аплочваў двухпакаёўку на вуліцы, якую, лічыў ён, назвалі ў гонар журналіста, публіцыста і фельетаніста Уласа Дарашэвіча. У ёй літаратар намерваўся ствараць свае камерцыйныя раманы. Не пісаць, а менавіта ствараць, хаця б таму, што ягоны ўласны вопыт і

практыка сяброў-калег даводзілі, што самы прадукцыйны метад – раманы крымінальныя і дэтэктыўныя надыктоўваць. Прычым нагаворваць іх на дыктафон максімальна выразна, каб спрактыкаванай наборшчыцы было лягчэй здымаць іх са стужкі, пераўвасабляць ў кампутарны набор з усімі неабходнымі рэплікамі, абзацамі, знакамі прыпынку і простай моваю.

І, здавалася б, нішто не замінацьме творча-вытворчым будням. Мінімум мэблі, дыктафон, джэзва і кава на кухні – усё гэта было ў наяўнасці.

Але нярэдка не ставала так званага натхнення. Ці ўменне самаарганізоўвацца. Або замінала такая, уласцівая практычна любому чалавеку і такая натуральная якасць, як... лянота.

Тады лёгка знаходзіліся прычыны, тлумачэнні і рознага роду адгаворкі: няма настрою, ня выспаўся, баліць галава, бразгацяць чыгунныя люкі “Мінскводаканала” пад коламі тралейбусаў і аўтамабіляў...

– Ага, ты яшчэ скажы, што галубы на даху топчуцца і замінаюць засяродзіцца, – паджартоўваў з яго Сцяпан С. – Калі табе шумна, дык працуй па начах або купі мяккія навушнікі ці нават берушы! Вунь Максім К. прызвычаіўся пісаць у самым цэнтры горада, на лаве ў Купалаўскім скверы і мінакі яму там не замінаюць! Натхненне – гэта выдумка гультаёў і абібокаў!

– Але, як гэта ні парадаксальна, якраз лянота нярэдка рухала прагрэс! Шмат чаго людзі вынайшлі. Каб пазбавіцца цяжкой ручной працы. Да прыкладу, вятрак і вадзяны млын.

– Ну, дык прыдумай, каб кампутар з прынтарам перамолвалі твае думкі ў арганізаваны тэкст!

– Ага, а яшчэ лепей – у зялёныя прамакутнічкі з партрэтам Бенджаміна Франкліна! Але ведаеш, як гэта соладка – прадчуваць першы сказ, першы абзац?! Гэта як мастаку адтэрміноўваць першы штрых на аркушы паперы ці першы дотык вуглём да палатна. А я – натура тонкая і, бывае, перагару...

– І ты мне, дыпламаванаму жывапісцу, будзеш гэта расказваць?! Пабла Пікаса казаў, што конь не ўмее сам упрагацца ў аглоблі, затое чалавек прыдумаў будзільнік. Як па мне, дык так званае натхненне павінна заспець творцу за сталом, калі той уперся пузам у стальніцу.

– Гэта як?

– А так! Што б там ні было, мусіш выдаваць штодня вызначаную колькасць старонак якасці, на якую толькі здатны. Вунь Вячаслаў А., наколькі я ведаю, лічыць удалым дзень, калі выдаў старонку свайго рамана, і выдатным, калі напісаў дзве.

– Ну, дык гэта прафесійны празаік, сапраўдны пісьменнік! – запярэчыў Гена.

– Калі ясі хлеб з літаратурнай працы, дык і ты прафесіянал. Толькі мусіш выдаваць не адну, а дзесяць друкабельных і чытэбельных старонак! Запомні – у раманіста павінна быць жалезная срака!

– Ага, табе добра казаць, як маеш вопытнага суаўтара!

– А хто табе замінае ўтварыць тандэм з тым жа Алесем А.?

– Ну, я не ведаю. Паспрабую з ім перагаварыць...

– А што тут гаварыць?! Захочаш есці булку з маслам, як казаў мой выкладчык жывапісу і кампазіцыі Альгерд М., дык знойдзеш і час, і сілы, і натхненне! А не, дык галодныя жонка з сынам папіхнуць!

*11 жніўня 2013 года*

## Пат і Паташон

Працавалі пэўны час за мастакоў-афарміцеляў ў Палацы культуры і спорту чыгуначнікаў Аляксандар Наважылаў і Барыс Зяльдовіч. Адзін быў высокі, хударлявы і надзвычай меланхалічны. Другі – што крамяны баравічок, рухавы, спрытны дый сабе наўме.

На абед Аляксандар зазвычай здавольваўся тэрмасам з каваю і зсабойкаю, што збірала яму маладая жонка. А Барыс часцяком бегаў да сваёй пасіі, якая жыла непадалёк ад Палаца, на вуліцы Караткевіча, што пры старым аэрапорце "Мінск-1", і вяртаўся з выглядам сытым і надзвычай задаволеным.

– Можа, і сяброўка твая, – зверху ўніз пазіраў на яго калега, – такі самы курдупель, як і ты? Вы што, на мышэй звесціся хочаце?

– Ды не, вышэйшая за мяне на паўгалавы. Але гэта не мае асаблівага значэння, – казаў Барыс і ўздымаў руку з раскрытай далонню, нібыта намерваўся прамовіць клятву ў судзе. – Вось бачыш, мезенец – гэта я, а сярэдні палец – гэта яна. Кладземся ў ложак і адразу робімся роўныя!

Барыс падгінаў пальцы да сярэдзіны далоні і паглядаў на спаўбрата па мастакоўскім цэху пераможна, не раўнуючы, што той Напалеон пасля вікторыі пад вёскай Барадзіно.

А калі бываў ён у асаблівым гуморы, дык мог пераказаць і гістарычны анекдот:

– Французскі імператар Банапарт І цягнуўся да патрэбнага яму фаліянта на кніжнай паліцы, дый не мог дапяць.

– Сір, дазвольце я дапамагу вам, – паслужліва падскочыў адзін з ардынарцаў. – Я значна вышэйшы за вас!

– Вы хацелі сказаць "даўжэйшы"?! – змерыў яго халодным позіркам Напалеон і шматзначна дадаў: – Ну, дык гэта вельмі лёгка выправіць!

*20 жніўня 2013 года*

## Кракадзілавыя слёзы

Вельмі чуйная і спагадная душа ў Вольгі Н.

Спякотным і задушлівым летам не раз пераказвала яна сваёй суседцы Марыі Д. праз плот:

– Каб ты толькі ведала, Марыйка, як пакутваюць у гэты сквар нашы жывёлінкі! А мы ж іх так шкадуем, так спачуваем! Уяўляеш, з-за гарачыні на небаракаў нават анестэзія не дзейнічае! Дык мы вымочваем у халоднай вадзе анучкі або сурвэткі з нітніцы дый кладзем, накідваем ім проста на спінкі!

Марыя расчулена ківала, але потым спахоплівалася, згадвала, што працуе суседка не даглядчыцай у заапарку і не дрэсіроўшчыцаю ў цырку, а што ёсць яна шэраговым спрактыкаваным вівісектарам[1]!

Тады Марыя яскрава ўяўляла карціну: на вачах у Вольгі жаласныя слёзы, а ў руцэ – востры скальпель, якім яна ўпэўнена і спрытна рассякае пузіка бялюткага пацучка ці трохколернай марской свінкі.

Двойчы мусіла Марыя прыдумляць адгаворкі, каб далікатна адмовіцца

[1] Вівісекцыя (*фр.* vivisection, ад *лац.* vivus = жывы + section = расчляненне) – ускрыццё жывога арганізму ў навуковых мэтах.

ад суседчынага запрашэння на пачастунак – пражаную трусяціну. Мела яна ўсе падставы падазраваць, што тыя даўгавухія – з ліку падвопытных, на якіх выпрабоўваліся новыя антыбіётыкі ці іншыя медпрэпараты, але не ўтылізаваныя пры віварыі[1], а прынесеныя дахаты на вячэру.

Аднаго дня, як кот Цімох з насалодаю ўшчэнт падрапаў і навюткія шпалеры пасля доўгага і дарагога рамонту ў хаце, Марыя роспачна спыталася:

– Можа ты, Волечка, зрабіла б гэтаму шкадліўцу які-небудзь укольчык?!

У суседкі было кепска з гумарам, а таму не адчула яна аніякай іроніі дый сур’ёзна адказала, што гатовая паспрыяць – укалоць у вушка і ўсыпіць Цімку-Цімафея.

Гаспадыні ласкуна і ўсеагульнага ўлюбёнца, мажнога прыгажуна з доўгай поўсцю і шыкоўным хвастом абаранкам, ажно мову заняло.

“Напэўна, Вользінага шпрыца ці скальпеля пабойваецца нават яе мужык Віталь! – падумала яна. – Прынамсі, астатнія два-тры гады стаўся ён ціхмяны, як вада ў лужыне, а днямі прагаварыўся, што жонка не дае яму чытаць вольнае прэсы, а тым болей – хадзіць у інтэрнэт. Дый і зяць-амапавец па прозвішчы Гыркалін не гарлае больш зрання ў сваім крапавым берэце, як раней!”

*4 кастрычніка, Міжнародны дзень абароны жывёл. 2013 год*

[1] Віварый (*лац.* vivarium = звярынец) – спецыяльнае памяшканне для ўтрымання паддоследных жывёл.



Павал Хадзінскі



...Прабач, што цябе
Забываю на ноч...

# Дваццаць тры гадзіны свабодных адносінаў

*ДЖ*

Пакуль не замерзне мая рака,
сумніўна ўскормленая сем'ямі пыхі.
Імчыць, састарэлая,
у зморшчынах каляіны:
бурліва, гулліва ўсмоктвае хібы.
Змакрэлыя рукі, нібы толькі на волю –
пакуль не замерзне мая рака.
На ёй пабудую я дом з жорсткіх высілкаў,
накіды фрэсак па лініях льду.
Горача дзе, я залью атынкоўкаю:
хвалебна мне сведчыць аб шанцы жыцця –
калі ўпадзе і, прабіўшы лёд дзіркамі,
распусціцца ціха ў падлёднай вадзе.
Пакуль не замерзне мая рака,
яна пераможа праз яе сувязі,
але хутка прыйдзе Ён, каб спытаць:
смерць, дзе тваё джала?

### *АЎРОРА*

узыйдзі Аўрора,
кваліфікацыі вышэйшай моц,
не пашкадуй чарговага намеру
справакаваць на раніцу мілосць.
маленькі госць
вyслізгвае з кватэры:
неасцярожны з пакаяннем сны.
упэўнены ў здзейсненым прачнуцца,
з імпэтам – вонкі. не дазволь.
мне ўзыйдзі Аўрора.
раней чым не паспею дараваць
і быць асвечаным з прызнанняў.
укрый мяне ў вігілійны вечар
на засцярогу ранішніх выгод.

### *УВЕЧАРЫ*

Увечары трыццаць дзявятага дня
сачыў за ім цень спакушэння,
нервова глытаючы новую плынь
у часе ягоных размоваў.
Магчыма схавацца ў след на пяску,
які абсыпаецца хутка,
за ім – у наступны, каб быць ля яго,
сустрэцца сам-насам на заўтра.
Увечары трыццаць дзявятага дня
можна зламаць без вяртання,
ён бачыў усе скарбніцы граду даўно,
прыбраныя на час смутны.
Увечары трыццаць дзявятага дня
спаў Езус і дзень спакушэння.

### *АЛЕЙ*

на маіх алеях
феі з алеем выкарчоўваюць
на Вы ў найменні паненак.
адну за адной
іх на
вечны спакой.
смех, не супраць выкарыстоўваць.
на маіх фазэндах
выплачвае аліменты добры гном,
ён гуляў з маім пашпартам,
нагуляў за вясну.
а вясна заахвочвае феяў.
у маіх каласах
прагна-хлебны калапс

і паненкі палеглі ў жніво.
з імі мне не ляжаць,
выкарчоўвае іх
мая мілая фея з алеем

### ВЕРШ НА ВЯСНУ

верш на вясну.
насоўвацца чоўнамі –
адзін па адным
бы рукой у галаву,
і па ўсёй даўжыні
валасоў перасоўвацца,
спатыкацца аб бераг
ля ейных вачэй.
на вясну веславую
шмат вадкасцяў
прагнецца,
каб даплыць з валасоў
куды-небудзь
ніжэй.
па цячэнні з чаўном
я адкідваю якар.

### НА РАНІЦУ

у яе на раніцу меланхолія,
сухія далоні
і гарбата з мінулага лета.
у бялізне яна будзе
зоркай балету, калі хтосьці
будзе глядзець.
але раніцай мала бывае фанатаў,
але раніцай мала
хто бывае.
але ў яе сухія далоні,
пэўна сны былі мяккімі. сёння
паглядзець у альбомах сямейныя здымкі
ці не вельмі сямейныя, і не глядзець.
у яе на стале забыўся напой,
той аматар балетных фантазій,
ён вядома чакае на зручнае штосьці,
каб дапіць.
ну а ёй трэба добра паспаць,
бо на раніцу
меланхолія

### НАСЫЧАЕ

запалю табе свечкі на развітанне
на паўустойлівыя дзяды.

ціха, цішэй, захварэлае званне
беглага знака ў папялец серады.

здарыцца, што, без умення ўхвалены,
сам спадкаемца найпершых правоў
вырашыць здзейсніць вынятак у правілы
нашай рамантыкі доўгіх гадоў.

свечкамі дні, састарэла забытыя,
Бог насычае ў доўгі спакой.
нашых сустрэчаў асобныя літары:
дзіўны паўтор тых жаданняў. з табой

## ЛЁГКІЯ РЭЧЫ

памкненне летніх амбіцый
ляціць, выкручвае траекторыі
да апошняй ці юнай вікторыі:
не фарматы не паўнагадовых.
расцелена ўночы на шчылінах
покрыва блізкіх сустрэчаў
да дзікасці лёгкія рэчы
у шчыліны тыя праслізгваюць.
і ўжо з галавою амбіцыі
пакрытыя покрывам гвалту
у летнім сезоне фальтстартаў.
свярбіць бессаромна думка.

## ДА БЕРЛІНА

за адну Польшчу да Берліна
жыць,
а ты ляскай рукамі
вышэй бы за локці
калі магчыма ўжо мне
ў той нясконачанай чарзе,
дзе кожны цотны выбівае такт,
каб трапіць слушна ў законны
шыфр,
а ты жыла крыху далей:
рука, рука, не задранцвей,
табе ўдала трэба выбіць
для паездак.
і каб на дзень было лацвей,
я распранаўся да лакцей,
і з іншабоку бы ін‘екцыяй
у думкі.
за адну Польшчу да Берліна
жыве мая цывілізацыя
дасюль

## ХОДЗІЦЬ

Выпадкова пад коўдрай
Чытаю равінаў
У роўную доўгую ноч.
Паказальна ўзрушаны,
Лепш сачыць за модай.
Мае сны ўвечары
Пятніцы
Не ў рыфмах тэндэнцыі.
У празрыстых саколках
Вандруе. Нахабная.
Хлебам яе па суботах
Не кормяць. Ходзіць
Яна да мяне.
Дамінуе да вечару,
Пакуль не хаваюся з коўдрай,
А пад ёю
Ужо мяне чакаюць мае
Равіны.
Прабач, што цябе
Забываю на ноч.

## УСЯ Ў СНЕ

І нават там, калі
Ты ўся ў сне,
Я пачынаю гульні свечкамі
У цені,
Я арэндую іх імёнамі
На выпадак далейшага
Жыцця.
Калі заплюшчу ў наступны
Раз, яны ў стымуле кахання
Будуць разгортваць усход.
Тэатр дзеля нашага
Ў пачуццях ценю, пакуль мы
Будзем без вачэй,
Расплюшчаных на атрыманне
Альбому вечнасці.
На даху можна скокнуць
Ценем уніз. Пазабывацца
На прысутнасці абапіраннямі
Ў нечую столь і стаць вышэй за цень
На адно
Заплюшчванне вачэй.
Уся ў сне.
Ты здолееш.



пераклады

Юр Іздрык



...будзь хоць дымам
хоць дзівам
хоць птахам
хоць рыбаю...

# Шанс on

### *таямніца*

гэтыя двое хіба ненармальныя –
кажуць пра нас на небе
без даху без страху без клятвы без спальні
усяго што іншым патрэбна
на голых пантах на парожнім полі
на малаймаверным даверы
растуць бессаромна адкрыта голыя
як рыбы звяры ці дрэвы
у цемры яны паасобку блукаюць
самотна плывуць супраць плыні
ці ж так чалавек чалавека шукае?
ці ж гэта мужчына й жанчына?
ці ж яны ведаюць аці патрапяць?
ці ж яны схочуць і змогуць?
чаму не папросяць чаго не спытаюць?
на што спадзяецца кожны?

*Пераклад*
*з украінскай*
*Наталлі*
*РУСЕЦКАЙ.*

а мы сабе моўчкі дайшлі аж да краю
і пекла на рай перакройваем
ніхто больш не знае таго, што мы знаем
мы ёсць
мы ўжо разам
нас двое

### *шанс оп*

калі дойдзеш да краю і ступіш за край і сутонне
глыне з галавою
ты адно загадай –
каб сказала яна:
“ты не бойся
я разам з табою”

калі загнаны ў кут і губляеш маршрут і здаешся
практычна без бою
уратуе адно: “я з табою
я тут
ты не бойся
я тут
я з табою”

калі стома і страх і адчай і сумнеў напрарочаць
табе параною
варухнуцца
бязгучна вусны яе:
“ўсё нармальна
я тут
я з табою”

### *адзіная*

*...в пору життя, коли спати твердо, як не стели,*
*коли хочеться відчиняти вже не всі існуючі двері...*

Галина Петросаняк

насамрэч патрэбна ўсё меней
не цікавая проста гульня
і першынство як раней не грэе
і ўгору не кожная вабіць гара
і трапіць не ў кожныя прагнеш дзверы
і толькі ў адно пазіраеш вакно
сакрэты цяпер давяраеш паперы
і гэта дабро
і гэта дабро

сціраеш адрэсы выбельваеш клятвы
выблёўваеш словы што всуе казаў
пустых абавязкаў і сувязяў бляклых
ні сэрца не прыме ані галава
не так ужо важна ці будзеш пачутым
як сліна чужая пустая хвала
часамі ўдаецца забыцца атрутны
жах ад вужа
страх ад нажа
з спляцення уцех асалод і прыманак
адзіную выцягнеш нітку сваю
надосталь усіх пацалуеш каханак
бо знаеш каханую маеш адну
і толькі да гэтай дастукацца варта
і ёй разнасцежыць аднойчы вакно
гэта адно толькі й ставіш на карту
бо верыш і знаеш
што гэта дабро

## *летаргія*

не ўзрадуе не ўгрэе не кране
не торкне не параніць і не ўсцешыць
усё, што не пасуе да цябе
што з іншымі цябе змяшае-змесіць

я столькі выткаў і знасіў радна
і слепнуў столькі раз ад зорак
што бачу – толькі ты гарыш адна
на іншых больш не чуйны зрок мой

няхай мой свет убогі і малы
не трэба неба мне над галавою
хай летаргічныя лунаюць толькі сны
дзе я жыву дзеля цябе з табою

## *love is not*

*любоў не..*
ап. Павел

а той хто любіць – той не запрагне ўжо большага
бо той хто любіць няздольны хацець яшчэ нечага
не мусіць пісаць той хто любіць вершы любоўныя
але той, хто любіць заўсёды так ціха свеціцца
бо так насамрэч хто любіць той не існуе
існуе любоў у вар’яцкіх сваіх аватарах
ах! – і цябе няма ўсё ў нябыце віруе

ах! – і ты зноўку ёсць але ты ёсць пара
то бок вас двое
й любові вам – доза падвойная
не стрымае яе ўжо нішто і нішто не спыніць
пра якія вы грошы там сэкс рэлігіі войны?..
пра якія жыцця перыпетыі трэнды шцілі?..
бо тыя што любяць
маюць усё так далёка!
страшна далёка усё гэта і ўсё ім па барабану
бо яны толькі чуюць бубнаў трапічны плёскат
бо яны толькі знаюць прарыў у сваю нірвану
толькі маючы ўсё разумееш – якая брыдота!
ўсё – нішто ў конадзень алхімічнага шлюбу
вось і ходзіш такі – як касмічная проста істота
і не хочаш нічога –
напэўна ты той
каго любяць

### гуьнуь

маё сонца спіць да абеду і ўстае так няспешна
маё сонца свяціць патрапіць праз ноч і цень
асвятляе маіх скляпенняў цёмныя нішы
часам гучна б'е вокны а часам за цішу цішэй
запускае ўва мне фотасінтэз і венамі гоніць фрэшы
на нябачных воку частотах строчыць лісты
і фатоны яго бессаромныя іскры з мяне выкрэсваюць
эрагеннымі робяцца зоны маёй мерзлаты
растаюць снягі і паводкі змываюць стрэхі
не паспею да ночы я дабудаваць каўчэг
захлынаюся ў плыні радыяцыйнай уцехі
не ўцяку ад яго і яно ад мяне не ўцячэ
маё сонца спіць да абеду і ўстае так няспешна
абуджаецца лета паволі мацней пячэ
прачынайся пакуль пра цябе я пішу тут вершы
і свяці мне сонца маё яшчэ і яшчэ

### thanks

безнадзеяй ахоплены як эйфарыяй –
свет замёр і памёр
ну а ты шчэ жывы
безнадзея не просіць не мроіць не ные
нават вецер не вые
хоць воўкам завый
безнадзея цудоўна пазбаўлена дзеі

раўнавага стыхій
раўнадзенства ўначы
ўсё статычна ў табе як сама безнадзея
і ад вечнасці
ўжо не патрэбны ключы
безнадзея – не роспач
не сум
не журбота
і надзейная
цвёрдая быццам кара
і спакойная – ёй невядома работа
толькі марнасці сталай
ілжывай ігра
безнадзея стэрыльна – а нават прачыста
і абраз для яе – гэта чорны квадрат
мы у шлюбе інцэстным і неўрачыстым
быццам смерць і сястра
бы іголка і брат
я абраннік яе і даўжнік і фанатык
бо яна не пакіне і не праміне
я удзячны за тое ёй што так зацята
без надзеі любіць навучыла мяне

### ***we are***

у палове зімы пасярэдзіне тыдня
дзесь між ноччу і днём
небыццём і быццём
прачынаемся мы покуль спіць усявышні
як бы цела адно
як малое дзіцё
і няма навакол ні святла шчэ ні свету
і няма шчэ ўсярэдзіне “я” і “не-я”
толькі ў лёгкіх супольных – запасы паветра
і ў паветры адзінае стыне імя
нам было абяцана світанак прыўкрасны
дом без цёмных кутоў і маршрут без пакут
нарадзіліся мы як заўсёды дачасна
прачынайся жа госпадзі
покуль мы тут

### ***noise***

не прывыкаць да болю
не шукаць у сабе правінаў
не хадзіць па лязе ў пошуках адрэналіну
заставацца голым

за сотнямі ўбраных спінаў
зберагаючы боль як рэшнюю сваю правіну
заставацца ўбогім і цёмным ажно да канца
спакушацца адважна хіба толькі тым што зняважана
і вечнажывога ў сабе забіваць мерцвяка
што трымае стырно за мяне і кіруе разважліва
не прывыкаць да болю бо гэта наркотык цяжкі –
жыць пажадана проста а можна і радасна кажуць
не прывыкаць да бога – хто ўвогуле ён такі?
што ён мае насамрэч кром бесперапыннага стажу?
не чакаць не разлічваць не верыць тысячам праўд –
знаеш – гэта не рада як трапіць на неба калісь
то мой спосаб на боль: не кідаць незавершаных спраў
не знікаць нікуды да цябе не прывыкнуць ніколі

### ***хто што***

нам конча патрэбна быць патрэбнымі
і добра б заўжды заставацца добрымі
і кожны каб меў хоць кагосьці ды роднага
і трымаў у сабе хоць бы штось непадробнае
і было б усім тады шчасце мабыць
ну ці прынамсі зона камфорту..
ды ўсё падмяняе падманная памяць
і ўсё падмінае аблудная гордасць..
і белы альбом запісаны богам
на чорны вініл запораты чортам
мяняеш не зразумеўшы нічога
проста па звычцы амаль жа без торгу..
бо той хто стварыў гэта белае й чорнае
у прапорцыях недапушчальна роўных
ён мабыць таксама хацеў быць добрым
ён таксама б хацеў быць патрэбным

### ***be like bee***

ты сцяна? я ў табе прабіваю вакно
ты вакно? я твае разбіваю шыбы
ты крышталь а не шкло? толькі мне ўсё адно –
будзь хоць дымам хоць дзівам хоць птахам хоць рыбаю
ты чыя? нічыя? не журыся бо мне
ты належыш хоць хто б не дзяліў з табой ложак
толькі я знаю сцежку скрозь цёмны твой лес
толькі мне твой пагляд нібы сонечны сполах
мне належыш ты як чалавеку імя
ты мяне наракла і ўракла й запісала

на скрыжалях сваіх
і нарэчаны я
нарачоным тваім хоць бы з кім ты ні спала
і няма ў гэтым жалю і крыўды няма
я прарэжу вакно і нанова накрэслю скрыжалі
не адзін я і ты больш не будзеш адна
бо на мне ё твой мёд і ўва мне тваё джала

### ***напрыканцы***

даўганогія дзеўчыны ўброд пераходзяць мора
танкарунны хрыстос бестурботна ідзе па вадзе
нібы востраў лятучы завіс мацярык без апоры
ўсё збылося амаль... але збудзецца там толькі дзе
зноў абудзіцца лета й пазбудзецца лёну і шоўку
і прачнуўшыся ранкам ты цвёрда адчуеш дно
і пабачыш што рвецца не там дзе празмерна тонка
рвецца там дзе ўсё тупа і проста і ўсім ўсё адно
але нашыя тонкія капіляры надзейныя як
наш тандэтны тандэм ад начных халадоў не замерз
засталіся нам словы што вернуты проста з малітвы
засталіся з сяброў толькія тыя што йшлі па вадзе
засталося зямель – толькі востраў над морам і камень
не нарожны а той што камусьці на сэрцы ляжаў
гэта будзе нам ключ да глухое нябеснае брамы
гэта будзе канец незакрытых гештальдаў і спраў
час каменне расціць ёсць і час засяваць іх заўзята
час кахацца няўцямна і ціхай пяшчоты ёсць час
мы прыйшлі як на свята то будзе нам радасна й свята
й танкарунны хрыстос пабудзіць не забудзе і нас

Эва Ліпска



...варта памерці
дзеля такога верша
якому
не паверыць смерць...

# Дзень усіх жывых

### *НАВУКА*

Спрабую навучыцца гуляць у шахматы
ужо шосты дзень спрабую навучыцца гуляць у шахматы
чытаю навуковую літаратуру
стараюся зразумець сур'ёзнасць сітуацыі
займаюся грамадскай працай
і гімнастыкай для пальцаў

і ўжо хачу зрабіць ход
як раптам
мой настаўнік кажа:
– трэба ўмець выйграваць у шахматы
не ўжываючы
рук.

*Пераклад з польскай Андрэя ХАДАНОВІЧА.*

## ІНСТРУКЦЫЯ

Самагубства
рэкамендуецца здзяйсняць пасля сняданку.
На сняданак найлепей выпіць кубак
малака.
У малацэ шмат вітамінаў А.
А вітаміны А. аберагаюць ад хваробаў
вачэй.
Вочы выкарыстоўваюцца дзеля глядзення.
Глядзець належыць
на свет.

Самагубства
рэкамендуецца здзяйсняць як мага цішэй.
Так ціха
быццам муха праходзіць па
скрыпічнай струне
здабываючы далікатны гук або можа
толькі ўздыхаючы.

Рэшткі хлеба
належыць кінуць птушкам.
Каб яны маглі далей жыць.
Каб яны маглі далей
жыць.

## ПРА ШТО ДУМАЕ ДЗЯЎЧЫНА НА ЎРОКУ ПОЛЬСКАЙ ГРАМАТЫКІ

Ён з’явіцца трынаццатага лістапада. Або
калі-небудзь.
Сыдзе з глянцавых здымкаў у шчыльна
абцягнутых шортах якія рэкламаваў гэтым летам.
Або з экрана. У змярканні Гадара
з шыпшынай якая нам заменіць дубляж.

Мы паедзем на востраў
які дамалюем на мапе.
Наш агульны пакой у гатэлі
будзе гайдацца як карабель у хмарах.
Каго з нас дваіх
уратуюць? (Дзяўчына
прыступае да гэтае думкі
з ратавальным колам
на сэрцы.)

Настаўніца носіць пару чырвоных шкарпэтак
на пары дэманстратыўна выстаўленых ног.
Так нібы ўсё разумее пра важнасць часу
й паважнасць думкі.
Б'е трывогу ўяўленне. Гучыць перкусія сэрца.
Субфебрыльны стан ночы. Ноч: форма часу.
Форма будучага часу
што складаецца з асабовае формы: буду
будзеш будзем будзеце будуць
і формы інфінітыву: кахаць.
Буду кахаць.

## *ПРЫЗНАННЕ МУЖЧЫНЫ АД ЯКОГА ЖАНЧЫНА СЫХОДЗІЦЬ ЯК ЛЕТА І ВЯРТАЕЦЦА ЯК ЛЕТА*

Сыходзіш ад мяне
як лета.
І вяртаешся да мяне
як лета.
Раптам павернеш на пляц (Опель Ралі 1900
магутнасць 102 КС)
Апошні раз ты. Апошні раз я.
Трыванне маё апошняе
і ўсё ж
не апошняе.
Столькі яго нарасло што ніяк
не скончыцца хопіць на ўсё каханне.

Толькі б скончылася. Толькі б не.

Ты ж нават не выключыш фараў.
З'явішся лёгкая нібы аўто. Без верха.
І я ўсё больш з табой і ўсё менш з табой.
З такою больш менш табой.
З'явішся нечакана як катастрофа.
І гінем абое ў гэтым дарожным здарэнні
але нікога няма хто б нас пераехаў
з першага позірку – так
каб ты
больш не магла
ад мяне сыходзіць
як лета
і да мяне вяртацца
як лета.

### ПЭЎНАСЦЬ

Быў ужо такі іспыт па гісторыі
які правалілі адразу ўсе вучні.
І ад іх засталіся ўрачыстыя могілкі.

Няма пэўнасці што гэта быў іспыт.
Няма пэўнасці што ўсе правалілі.
Ёсць пэўнасць што засталіся могілкі.

Было ўжо такое каханне.
Але няма пэўнасці што нашае.
Былі ўжо такія людзі.
Але няма пэўнасці што гэта былі мы.
Былі ўжо такія лятучыя птэранадоны.
Але няма пэўнасці што ў нашыя часы.
Была ўжо такая мова.
Але няма пэўнасці што гэта мы размаўлялі.
Было ўжо такое маўчанне.
Але няма пэўнасці што паміж намі.
Быў ужо канец свету.
Але няма пэўнасці што нашага свету.

І засталіся пасля ўрачыстыя могілкі.
Ёсць пэўнасць што засталіся могілкі.

### НАСУПРАЦЬ

Рудая дзяўчынка стаіць на балконе насупраць.
Гляджу на яе тры гады а можа і больш.
Высахлая бы гербарый. Бы запаленне сонца.
У сукенцы колеру цэглы. З вавёркаю валасоў.
Кідаю ёй цукеркі. Яна па іх не схіляецца.
Некаторыя выбухаюць.
Дзяўчынка ляціць у паветра.
Хапаюся за бінокль.
Бачу як падае зверху вазонік колеру цэглы
з рудою сцяблінкай майго ўяўлення.

### СЯМНАЦЦАЦЬ РУДЫХ ВАВЁРАК

Выйшаў з ваннай у доўгім махровым дыялогу.
Старанна скруціў дыван: падстрыжаны роўна газон.
Спытаўся ці буду ягонаю жонкай. Напоўніў
шклянкі адказам.

Сказаў што даносіць.
Сказаў што падслухоўвае.

Сказаў што ўратуе свет.
Грымеў нада мной сваёй рудой барадой.

Адразу відаць нейкі маг – падумала я.

А калі абудзілася
праз пакой
праляцела сямнаццаць рудых вавёрак
трасучыся ад смеху.

### *А МЫ БЕГАЛІ*

А мы бегалі па газонах
калі вырашаліся лёсы гісторыі.

Мы не чулі стрэлаў. Замест
гісторыі была фізкультура.

А мы бегалі па газонах
покуль нам шылі боты.

Кароткія ватныя курткі
вязалі нас па руках.

### *ДЗЕНЬ УСІХ ЖЫВЫХ*

У Дзень усіх жывых
мёртвыя прыходзяць на іх магілы –
запальваюць неонавыя свечкі
праполваюць хрызантэмы антэнаў
на шматпавярховых плітах
з цэнтральным ацяпленнем.

А потым на ліфце
вяртаюцца ўніз:
да сваёй штодзённай працы
да смерці.

### *НЕЎРОЗ*

Думкі
што пасля другой ночы
выбіваюць дзверы нашага мозгу.
Выбухаюць прыступам кашлю
эпілепсіі.
Тонуць па вушы ў страху.
Страляюць буйнакаліберныммі ідэямі.
(Таблетка атараксу)

Думкі
што раздзіраюць нам вантробы
неспакою. Распіраюць нас
як ваніты.

(Таблетка лібрыюму)

Думкі
што паляць за сабой масты
па якіх мусяць вяртацца.

(Таблетка фенактылю)

Пад раніцу
выцягваем сякеру сну.
Адсякаем галовы думкам.
Рэшта лапоча крыламі
лапоча крыламі –

Засынаем з крыкам.

### *ПАПЯРЭДЖАННЕ*

Будзь асцярожны з сабой.
Верыць сабе небяспечна.
Можаш стрэліць сабе ў патыліцу
сам не заўважыш калі.

Ці абагнаўшы сябе
забыць і пакінуць ззаду.
Так, ты на гэта здольны.

Не давярай сваёй правай руцэ.
Можа табе падпісаць смяротны прысуд.
Не давярай сваёй левай руцэ.
Можа зрабіцца правай.

Сачы за сваімі думкамі
што раптоўна цябе пакідаюць
катапультуючы
з падбітага самалёта мозгу.

І пазбягай так часта
карыстацца маўчаннем – яно
можа развязаць табе язык.

## *ПАСЛАННЕ*

Так пісаць каб жабрак
думаў што гэта грошы.

А тыя хто памірае
што гэта народзіны.

## *КОНКУРС*

Конкурс на караля
прайшоў дасканала.

Запісалася некалькі каралёў
і адзін кандыдат у каралі.

Каралём выбралі аднаго караля
што й мусіў зрабіцца каралём.

Ён атрымаў бонусныя балы
за паходжанне
спартанскае выхаванне
і ўсмешку ад якой аж сціскала сэрца.

На іспыце па гісторыі адказваў
геніяльна ўжываючы маўчанне.

Абавязковая мова
аказалася языком. Яго ўласным.

Калі казаў пра мастацтва
узяў за душу ўсіх членаў камісіі.

Аднаго ўзяў
трошачкі замоцна.

Так
гэта быў сапраўдны кароль.

Старшыня камісіі
пабег па народ
каб урачыста ўручыць
яго каралю.

Народ
быў прыгожа апраўлены
ў сем скураў.

* * *

Не ўратавала мяне паводка
хоць я ўжо ляжала на дне.

Не ўратаваў пажар
хоць я шмат гадоў гарэла.

Не ўратавалі мяне катастрофы
хоць пераязджалі машыны і цягнікі.

Не ўратавалі мяне самалёты
хоць выбухалі са мной у паветры.

Муры вялікіх сталіцаў валіліся на мяне.
Грыбоў ядавітых атрута
не ўратавала.
Ані трапныя залпы расстрэльных камандаў.

Не ўратаваў канец свету
бо скончыўся час.

Не ўратавала. Нічога.

*Жыву*.

## СПОВЕДЗЬ РАЦЫЯНАЛІСТА

Я не хаджу ў царкву.
А з Богам сустракаюся на прымерках.
Мы шыем сабе магілу ў аднаго краўца.

## ІНСТРУКЦЫЯ КАРЫСТАННЯ

Спрабую актывізаваць краіну.
Уважліва чытаю інструкцыю карыстання.
Паварочваю народ улева.
Паварочваю народ управа.
Але краіна не працуе.
Народ мёртвы.
Падбіраю ключы, паўстанні, рэвалюцыі.
Пляту інтрыгі дакладна паводле схемы
але краіна не працуе.
Народ мёртвы.
Палі бітваў зарастаюць травой.
Тэорыі ржавеюць.
Загараюцца чырвоныя лямпачкі.

Уключаю народ.
Выключаю народ.
Цісну на літасць. На лютасць.
Раздаю дзецям
шакаладных салдацікаў.
Ракеты з марцыпану.
Але народ мёртвы.
Нарэшце пішу скаргу пастаўшчыкам.
Хаўруснікі санітары
бірузовыя анёлы
замяняюць зменныя часткі.
Але народ мёртвы.
Хтось перапрадае мову
выпадковым гандлярам.
Хтось іншы п*а*дае
забіты перуном
бо з усіх праграмаў працуе толькі смерць
версія дзевяноста дзявятая.

З брацкага дэпо
выязджае трамвай
з ахвярамі няўдалай перазагрузкі.
Кантралёры як заўсёды
спраўджваюць білеты.

## *СТО ГАЛОЎ АДЗІНОТЫ*

На нашым кухонным Уэмблі –
серада чэмпіёнаў.

Моцна запараны поўдзень.

Мая барочная жонка
праходзіць па мінным полі мовы.

“Ведаеш, я зусім забыў, што цябе кахаю”.

Мы п’ем чырвонае віно.
За акном халодная закуска.

Нашая серада чэмпіёнаў
заканчваецца нічыёй.

## *КАХАННЕ*

Без тлумачэнняў. Заўвагаў.
Спасылак. Пароляў. Адказаў.
Маўклівае свята п’янкіх вінаградзін.

Усё вызначаецца тым
як доўга мы будзем заўсёды.

* * *

Варта памерці
дзеля такога верша
якому
не паверыць смерць.

### ПТУШЦЫ

Кажу птушцы:
я мушу ляцець.

А птушка махае мне
практычным дапаможнікам.

### ПЛЯМА

Падчас кантролю бяспекі
у цюрыхскім аэрапорце
праходжу рамку-металашукальнік.

Усе дэтэктары бяссільныя.

Нержавеючыя томікі вершаў.
Бляшаныя аркушы экспрэсіі. Храмаваная іронія.
Гучныя жэтоны афарызмаў
рухаюцца павольна як сама цярплівасць.

Тэрарыстычныя думкі
нават на хвілю не выклікаюць
падазрэння.

Глядзім адно аднаму ў вочы
як метал з металам.

Што можа ведаць машына
пра загадку паэзіі
якая разгадвае мяне
ўжо шэсцьдзясят гадоў.

На экране сканера
гэта проста
пляма
з правага боку.

### ПРАЗ ГАДЫ

У часы
калі мы кахаліся
на абрыўках таямніцаў
гісторыя залазіла
ў палітычныя пазыкі.

Паперкі ад цукерак
удавалі табуны словаў.

А мы ляжалі
ў абрыкосавым джэме
хаця ўсё іншае
было
як паліцэйская сірэна.

Праз гады
мы сустрэліся
ў той самай мелодыі
якую мурлыкаў твой гадзіннік
на адсутнай руцэ.

### МОЖА БОГУ БОЛЬШ ДАСПАДОБЫ ПОНЧЫКІ

Можа Богу больш даспадобы пончыкі?
Што яму да ўсіх нашых правінаў?

Усё тая ж камедыя дэль артэ.
Ганебная банальнасць. Няпарнае каханне.
Кровазмяшальны сон.

Можа больш даспадобы пончыкі?

Нашто яму яшчэ адна здрада
грэху вартая?
Мора-акіян васковых слёз?

Можа пончыкі?

Санкі святога Ніколі
любяць катацца
па нявінным снезе.

## Мойша Кульбак



...Без жалю рэжа Бойтраў востры нож
Паскуднікаў з кагалу.
Ды сэрца ты мне, Стэра, хараством
Вастрэй за нож працяла...

# Бойтра

***Драматычная паэма ў шасці карцінах***

### Прадмова перакладчыка

Мойша (у перакладной літаратуры часцей – Майсей) Кульбак, адзін з найвыбітнейшых ідышсцкіх габрэйскіх пісьменнікаў першай паловы мінулага стагоддзя, нарадзіўся ў 1896 годзе ў Смаргоні, вучыўся ў Валожынскім ешыбоце, які скончыў у 1914 годзе, пасля чаго працаваў у габрэйскіх школах і гімназіях у Смаргоні, Мінску, Вільні. Яго першыя творы з'явіліся на старонках друку ў 1916 годзе і адразу прыцягнулі ўвагу чытачоў і літаратурнай крытыкі, якая высока ацаніла талент маладога пісьменніка. Росквіт яго творчасці супаў з рэвалюцыйнай эпохай і першымі дзесяцігоддзямі савецкай улады.

М. Кульбак быў годным сынам габрэйскага народа і палкім патрыётам Беларусі. Матэрыял для сваіх твораў ён чэрпаў у гушчы жыцця краіны. Пры жыцці пісьменніка выйшла пяць кніг яго паэзіі, раманы "Месія сын Эфроіма", "Панядзелак", "Зельманцы", драмы "Якаў Франк" і "Бойтра", шэраг паэм (найбольшым поспехам карысталіся паэмы "Беларусь", "Дзісенскі Чайльд Гарольд" і інш.). М. Кульбак перакладаў на

*Пераклад з ідыша, прадмова, слоўнік Фелікса БАТОРЫНА.*

ідыш творы Я. Купалы і Я. Коласа, а яго творы перакладаліся на беларускую і рускую мовы.

У 1937 годзе пачалося палітычнае шальмаванне М. Кульбака, якое скончылася арыштам. 17 ліпеня 1940 года ён прыняў пакутніцкую смерць у сталінскай вязніцы.

Драма "Бойтра" створана ў 1936 годзе і тады ж была пастаўлена Дзяржаўным габрэйскім драматычным тэатрам у Мінску, мела поспех, але неўзабаве была забаронена як твор "ворага народа", пасля не перавыдавалася і не перакладалася на іншыя мовы. Толькі аднойчы, у 1966 годзе, да 70-годдзя з дня нараджэння пісьменніка, тады ўжо рэабілітаванага, часопіс "Саветыш геймланд" змясціў гэтую п'есу на сваіх старонках. Часопіс выдаваўся на мове ідыш, і, на жаль, кола яго чытачоў было не самае шырокае.

Паказаныя ў драме падзеі адбываліся ў мяжы аселасці ў часы імператара Мікалая І.

Венцаносная бабуля Мікалая Кацярына ІІ з аднаго боку спрабавала ставіцца да габрэяў па-еўрапейску. Так, у лісце да беларускага генерал-губернатара яна пісала, што трэба здзейсніць, і неадкладна, роўнасць правоў габрэяў у саслоўна-гарадскім самакіраванні, а з невыканаўцаў гэтага ўчыніць "законнае спагнанне". З другога ж боку... Лепш працытую рускага пісьменніка Андрэя Бураўскага. "Новыя чыноўнікі, што пачалі кіраваць Беларуссю (пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння беларускіх земляў да Расійскай Імперыі – *Ф.Б.*), выраслі ў Вялікаросіі. Многія з іх нават калі бачылі кагадзе жывога паляка, то пэўна ўжо ніколі не бачылі ніводнага габрэя. Калі беларуская адміністрацыя (чытай: царская адміністрацыя беларускіх губерняў – *Ф.Б.*) пісала, што "прысутнасць габрэяў у вёсцы шкодна адбіваецца на эканамічным і маральным стане сялянскага насельніцтва, бо габрэі... развіваюць п'янства сярод мясцовага насельніцтва», – то за гэтай лухтою вельмі выяўна адчуваецца балбатня «мясцовых» – той агентуры, тых памочнікаў і асабістых знаёмых, якімі абрастае любы чыноўнік цэнтральнай улады, прысланы на новае месца службы". І ў 1783 годзе з'явіўся ўказ імператрыцы аб абмежаванні правоў габрэйскіх кагалаў. Узнікае намер перасяліць усіх габрэяў у гарады. Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што ўсяго праз два гады перасяленне габрэяў было адменена і многія правы вернутыя кагалам.

Але адмоўнае стаўленне рускага царызму да габрэяў заставалася. Яго сур'ёзна ўмацаваў руплівы саноўнік (і бліскучы паэт!) Гаўрыла Дзяржавін, прысланы ў Беларусь у 1800 годзе. Ён убачыў змізарнеласць сялянства, голад і адначасова – раскошу панства, і крутымі захадамі, што ўключалі экспрапрыяцыю ў памешчыкаў і раздачу заняпалым сялянам збожжа, навёў належны парадак. Дасталося ад Гаўрылы Раманавіча і панам, і падпанкам, і ўсім без разбору габрэям.

Мікалай І прыйшоў да ўлады пасля паўстання дзекабрыстаў. Ён панічна баяўся рэвалюцыі і з фанатычнай жорсткасцю распраўляўся з найменшымі праявамі іншадумства. Аб'ектыўна яго палітыка тармазіла развіццё капіталізму ў Расіі. Што тычыцца габрэяў, то імператар ставіў пытанне аб карэнным "выпраўленні" гэтага народа, дзеля чаго ў 1825 годзе быў створаны "Габрэйскі камітэт", адной з найгалоўнейшых задач якога было выпрацаваць механізм "выпраўлення" габрэяў праз армію. Пасля двух гадоў бясплённай працы камітэта імператар выдаў указ, якім праз валявое рашэнне ўвёў асаблівыя ўмовы рэкруцкіх набораў для габрэяў. Па гэтым указе ажыццяўленне рэкруцкіх набораў ускладалася на габрэйскія абшчыны (кагалы). Пры гэтым хлопчыкаў можна было здаваць у салдаты з 12-гадовага ўзросту. У кіраўніцтве кагалаў былі жывыя людзі. Яны імкнуліся, як цяпер кажуць, "адмазаць" ад арміі сваіх дзяцей, дзяцей сваякоў і "патрэбных" людзей. Да таго ж і карупцыя ў кагалах не была рэдкасцю. У выніку кагалы пачалі здаваць у салдаты сіротаў і паўсіротаў, дзяцей беднякоў, маўляў, і ў бядняцкіх сем'ях ратоў паменее, і сіроты будуць утрымлівацца за дзяржаўны кошт. Пры гэтым, лічачы, што габрэі

наўмысна заніжаюць колькасць членаў абшчынаў, урад стварыў спецыяльныя ваенныя каманды, якія ездзілі па мястэчках, адлоўлівалі габрэйскіх хлопчыкаў і 12, і 10, і нават 8 год – усіх, хто трапіць пад руку – і здавалі іх у так званыя "кантаністы". Дзяцей накіроўвалі ў спецыяльныя батальёны кантаністаў, дзе іх прыводзілі да праваслаўя, некага і прымусова. Мала хто з дзяцей, выявіўшы ўпартасць, заставаўся ў веры дзядоў. Нярэдкасцю сярод кантаністаў бывалі выпадкі самазабойства. Афіцыйна вайсковая служба пачыналася з 20 год і доўжылася 25 гадоў. Час знаходжання ў батальёнах кантаністаў да прызыўнога ўзросту ў тэрмін службы не залічваўся. Пазней тэрмін салдатчыны знізілі да дзесяці гадоў, але ўтрая павялічылі рэкруцкі набор. Адначасова аднавілася палітыка высялення габрэяў з вёсак з мэтаю перасялення іх на неабжытыя землі ў Наваросіі і некаторых іншых месцах. Габрэі супраціўляліся, не хацелі пакідаць родныя мясціны, бо не мелі ні сродкаў, ні ўмення падымаць гаспадарку з нуля на няўробленай зямлі. Тыя ж, хто быў гатовы асесці на зямлі, не мелі на тое ні фізічных, ні фінансавых магчымасцяў, бо механізмы такога перасялення не былі адпрацаваныя. Габрэі спрабавалі перабірацца ў гарады і мястэчкі, бліжэй да сваіх супляменнікаў. Кагалы часта не маглі фізічна прыняць усіх выгнаных з вёсак, а нярэдка і не хацелі ўпускаць патэнцыйных канкурэнтаў. Выгнаныя з вёсак габрэі сем'ямі бадзяліся па лясах і палях, здабывалі хлеб надзённы выпадковымі заробкамі. Здаралася, голад падштурхоўваў самых адчайных да разбою.

У драме М. Кульбака і апавядаецца пра тое, як у памянёных вышэй умовах сын балагола Хаім, што застаўся сіратою, таленавіты, але бедны юнак, быў здадзены кагалам у салдаты. Пры гэтым істотную ролю адыграла і тая акалічнасць, што ў хлапца закахалася дачка старосты кагалу, багатага і ўплывовага чалавека, які не хацеў аддаць яе за жабрака і меў намер па-свойму ўладкаваць жыццё роднага дзіцяці. Хаіму ўдалося ўцячы з салдатаў, і ён зрабіўся высакародным атаманам разбойнікаў, габрэйскім Робін Гудам. Толькі ж апынуўшыся паміж жорнамі самадзяржаўнай улады і ўлады кагалу, герой-адзіночка не здолеў перамагчы. І хоць урэшце яму ўдалося з'яднацца з каханаю, але толькі дзеля таго, каб ім разам загінуць...

Выказваю шчырую падзяку спадару Алесю Астравуху, які меў ласку перадаць мне ксеракопію машынапіснага рукапіса гэтага твору з уласнаручнымі аўтарскімі праўкамі.

**Фелікс БАТОРЫН**

А с о б ы :

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ – староста габрэйскай абшчыны.
БЭЙЛЯ – яго жонка.
СТЭРА – яго дачка, падчарка Бэйлі.
БОЙТРА – збеглы салдат, атаман разбойнікаў.
РАБІН горада, дзе адбываюцца падзеі.
ПЕРШЫ ДАЕН*
ДРУГІ ДАЕН
ГІЛЯ-ЛІХВЯР – габай* абшчыны.
КАЛМАН ГІТЧЫН – габай абшчыны, гандляр птушкай.
ЗІМАЛЬ-ПІСАР
ХОНЬЧА КОТ – лоўчы абшчыны.
АСЭСАР
КЛЮЧВОЙТ
РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ
ЛЭМЭЛЭ ФУТ – бліжэйшы паплечнік Бойтры.
МЭЛКА

* Значэнне словаў, абазначаных зорачкамі, тлумачыцца ў слоўнічку, змешчаным у канцы публікацыі.

МАЙРЫМ – маршалак музыкаў-клэзмераў*.
ЕКЕЛЬ – скрыпач.
НІСАН – флейтыст.
ШЭВАХ – барабаншчык.
БЭРКА – басіст.
ЯНКЕЛЬ – шавец.
ВЫСОКІ КАРЧМАР
КАРЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ
РЫЖЫ КАРЧМАР
ВЯСКОВЕЦ З КАЗІНАЙ БАРОДКАЙ, стары.
ВЯСКОВЕЦ У КАЖУСЕ
МАЛЕНЬКІ РОСТАМ ВЯСКОВЕЦ
БЯДНЯК, ЗАРОСЛЫ ВАЛОССЕМ
БЯДНЯК З ПЕРАВЯЗАНАЙ ШЧАКОЙ
ПЕРШЫ БЯДНЯК
ДРУГІ БЯДНЯК
БЯДНЯК, ПЕРАПЭЦКАНЫ САЖАЙ
МАГІЛЁЎСКІ РАБІН
ЁСЕЛЬКА – сын магілёўскага рабіна.
МАЛАДЗЁН З ШАЎКОВАЙ ХУСЦІНКАЙ НА ШЫІ
ПЕРШЫ ХЛАПЕЦ
ДРУГІ ХЛАПЕЦ
ПЕРШАЯ ЖАНЧЫНА
ДРУГАЯ ЖАНЧЫНА
ЖАНЧЫНА, АБВЕШАНАЯ ЎПРЫГОЖВАННЯМІ
МОЙША-ХАІМ – адзін з багатых гасцей.
БАГАТЫЯ ГОСЦІ, ПЕКАРЧУКІ, ВЯСКОЎЦЫ, БЕДНЯКІ (МУЖЧЫНЫ І ЖАНЧЫНЫ)

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Паседжанне кагалу ў доме старосты. Вялікі пакой з венецыйскім вакном на заднім плане. Цяжкая бронзавая люстра пасярод столі. Каля ўсходняй сцяны катэдра і Святы Каўчэг з Тораю. Пасярэдзіне памяшкання цяжкі дубовы стол, лавы і зэдлі. Адны міжпакаёвыя дзверы справа, другія – злева. На заднім плане – уваходныя дзверы з вуліцы. Каля іх медны таз для рытуальнага абмывання рук.

За сталом сядзяць рабін, першы даен, другі даен, Гіля-ліхвяр, Калман Гітчын, Зімаль-пісар. На заднім плане на зэдліку – Хоньча Кот. Знадворку зазірае ў вакно Рахміел-балагол.

РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ (*у вакне*). Рэб Калман, дык якой дарогаю везці мне птушку: па Чорным гасцінцы ці праз Крэўскі лес?

КАЛМАН ГІТЧЫН (*скіраваўшы вочы ў Пісанне*). Ну, едзь ты ўжо, зломак няшчасны, едзь нарэшце! Ну, хоць сабе і праз Крэўскі лес.

РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ. Па Крэўскім лесе туляюцца бяздомнікі-вяскоўцы. Увесь лес поўны жаночых ды дзіцячых галасоў. Плачуць, гвалтам крычаць. І, гаспадарове, людзі кажуць, гэта толькі пачатак, маўляў, неўзабаве, пазбаў нас таго, Божа, аніводнаму габрэю ў вёсцы паратунку не будзе.

КАЛМАН ГІТЧЫН. Ехаў бы ты ўжо, гультаіна! Такога лайдака толькі па смерць пасылаць.

Рахміел знікае.

ПЕРШЫ ДАЕН. Кашмар!

РАБІН. Ды дзе ж гэты рэб Арон-Вольф бавіцца?

ЗІМАЛЬ-ПІСАР. Ён там (*паказвае гусіным пяром на міжпакаёвыя дзверы*) ад самага поўдня сядзіць з асэсарам.

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. Цяжкія часы. Цяпер такая дарагоўля – да лядашчага вазка дроў не падступіцца! Даен, у вас не знойдзецца панюх табакі?

КАЛМАН ГІТЧЫН. У вочы скажу: габрэю не пасуе пабірацца на панюх табакі. Мяне ад такога на ваніты цягне, рэб Гіля!

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. Рэб Калман, калі вы крывіцеся на ўвесь белы свет, вам робіцца лягчэй?

КАЛМАН ГІТЧЫН (*скурчыўшы грымасу*). Свет-шмет! Вялікі разумнік!

РАБІН. Мо хто ведае, ці нешта праяснілася наконт пасагу рэб-Арон-Вольфавай дзяўчыны? Такі няма? Напалі на фуры і ўкралі? І каго падазраюць? Ці не вяскоўцаў?

ДРУГІ ДАЕН. Гавораць, што вяскоўцы чыняць такое з безвыходнасці, праз нястачу і голад. Але сёй-той мяркуе, што гэта (крый нас Божа!) разбойнік Бойтра, які помсціцца кагалу.

РАБІН. Бойтра? Разбойнік? І ён такі што – з сыноў Ізраіля?

ДРУГІ ДАЕН. Ліхадзей мнагагрэшны! Збеглы салдат. А між тым, калі верыць пагалосцы, ён – сын паважаных бацькоў (адвядзі ад нас, Божа, такую бяду!), ледзь не ўнук Віленскага гаона*, першы вучань Валожынскага ешыбота*.

КАЛМАН ГІТЧЫН (*адрывае вочы ад Пісання*). Што вы, даен, верзяце! Гаон-шмаон! Гэта ж сын нашага балагола Ісроэла! Два гады таму яго здалі ў рэкруты. Хоньча з ім такі намучыўся – ніяк у рукі не даваўся.

ХОНЬЧА КОТ. Хто? Гэты? Чортаў вырадак!

КАЛМАН ГІТЧЫН (*ціха да даенскага суда і да Гілі-габая*). Прыходзім сюды на нараду і сядзім, як балваны. Пра што гаварыць, калі няма з кім? Кагал не павінен умешвацца. Вось пабачыце, дабром гэта не скончыцца. Арон-Вольф упэўнены, што яму ўсё павінны вярнуць, а я – не. Хто і чым яму абавязаны?

РАБІН. То так!

КАЛМАН ГІТЧЫН. Мянцяць таксама, што там быў маладзенькі разбойнік, зусім хлапчанё (*азіраецца па баках*), і дачка Арон-Вольфа Стэрачка... (*штосьці таямніча шэпча*).

ПЕРШЫ ДАЕН. Гэтак?

КАЛМАН ГІТЧЫН. А вы што думаеце, дачка старосты кагалу проста так заседзелася ў дзеўках? Але ж кагал тут ні пры чым. Дык дзеля чаго ўмешваць у няшчасце цэлую габрэйскую абшчыну там, дзе ў Арон-Вольфа свой асабісты інтэрас? І так проста немагчыма вывезці з горада хоць крыху тавару. Кагалу хоць аб'явы на сінагогах вывешвай, што ён ніякім бокам не датычны да ўсіх гэтых спраў, і габрэі-гандляры не павінны цярпець страты праз крыўды, што ўчыняе адзін чалавек, хай сабе гэта нават сам рэб Арон-Вольф!

У гэты час з суседняга пакоя чуецца жаночы голас, што пяе польскую песеньку.

КАЛМАН ГІТЧЫН. Гэта яна, Стэрка.

Рабін і даены затыкаюць сабе вушы.

РАБІН. Хрысціянская песня. Гэта супроць нашых правілаў!

КАЛМАН ГІТЧЫН. Забярыце яе ў двор! Хай там са шляхцянкамі спявае чужынскую брыдоту!

Спеў тым часам змаўкае.

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. А ведаеце што... Калман, а што як вяскоўцы? Я чуў, што рабуюць яны.

КАЛМАН ГІТЧЫН. А вы, Гіля, думаеце, што калі вы ліхвяр і не возіце тавараў, дык вы ўжо ў Бога за печчу? Дабяруцца яшчэ і да вашых куфраў, і да вашых закладаў.

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. Рэб Калман, у горадзе ведаюць, што таго хлопца аддалі ў салдаты і дзеля вашага падшыванца. Разважце: я ні ў чым не вінаваты, бо каму я што раблю такога?

Злева расчыняюцца дзверы, з іх выходзіць асэсар, за ім – рэб Арон-Вольф. Ён цалуе асэсару руку. Усе ўстаюць, здымаюць уздзетыя паўзверх ярмолак святочныя футраныя шапкі, кланяюцца.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Дзенькуе, яснавяльможнэ пане-дабрадзее, дзенькуе, пане!

АСЭСАР. Добра, Вольфка, добра! (*Звяртаецца да габая Гілі.*) Гілька, калі ўжо ты нарэшце апранешся ў новую капоту*? У цябе ж усё відаць.

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. У мяне пад капотаю анічога нямашака, пане дабрадзею. Я, дзякаваць Усявышняму, худы, як сабака!

АСЭСАР. Ха-ха-ха! А дзе ж тады ты, Гілька, грошы трымаеш? Кажуць, яны ў цябе ў капшуку каля сэрца. Гэта праўда?

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. Брахня, пане-дабрадзею, брахня! У мяне ні гроша за душою. Вось да якой беднасці я дайшоў.

АСЭСАР. Ну, сматры. Добра, жыдкі, добра.

УСЕ. Дзенькуемы, пане асэсожэ!

Асэсар пайшоў. Рэб Арон-Вольф набліжаецца да стала, з годнасцю займае старшыньскае месца.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. У Арон-Вольфа не адбіраюць, у Арон-вольфа не хапаюць – не той чалавек! Ёсць яшчэ Найвышэйшы Пан у Ізраіля! (*Іранічна.*) Аднак таго, што габрэйская дачка цяпер мусіць ісці да хупы* не так, як пасуе добрапрыстойнай дзяўчыне, я напэўна варты. (*Без іроніі.*) Я настойваю, што кагал абавязаны падпісацца, каб выгнаныя з вёсак не дапускаліся ў горад. Гэтыя лайдакі, што засталіся без страхі, не шануюць габрэйства. Яны займаюцца толькі крадзяжом ды пагромамі, гультайнічаюць ды ліюць у горла. Ад іх могуць учыніцца розныя хваробы, якімі іх па заслугах пакараў Бог: ліхаманка, шкарлятына, барані нас ад таго, Усявышні, ласкаю сваёй! І быць гэтак! А што тычыцца Бойтры, кагал таксама не павінен змоўчаць. Хоньча, асэсар прышле табе ў дапамогу ключвойта, і вы разам пойдзеце па акрузе – ад мястэчка да мястэчка, ад вёскі да вёскі, каб дазнацца, хто ён такі і дзе яго шукаць. Кажуць, ён хаваецца недзе ў смалярні. Кагал не пацерпіць уціску грубых мужланаў! І яшчэ: хай усе ведаюць, што вяселле дачкі Арон-Вольфа, дачкі старосты кагалу, адкладзенае не будзе! (*Уздыхнуўшы, працягвае.*) Але праз бяду іншых людзей, праз тыя страты, што нясуць габрэі, вяселле не будзе гуляцца так, як магло б у старосты кагалу. На вуліцах не будзе наладжана раздача

гарэлкі, не будуць накрытыя сталы для бедных, каб не абудзіць зайздрасці ў тых, хто страціў страху над галавою і туляецца па лясах ды палях. Вось як будзе. (*Пагрозліва-ўрачыста.*) І я пытаюся ў кагалу і рабінскага суда: ці вы згодныя з маімі словамі?

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. Кагал згодны.

КАЛМАН ГІТЧЫН. Кагал згодны. (*Нахіляецца да даенаў, яны ціхенька гавораць між сабою.*) Суд параіўся і пагадзіўся з думкаю старосты кагалу.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Зімаль, унясі ў пратакол, што кагал згодны са старостам. Чаго ты спіш? Не выспаўся? У цябе ўся пыса ў атраманце!

ЗІМАЛЬ-ПІСАР. Кепскі атрамант – пэцкаецца.

ГІЛЯ-ЛІХВЯР (*забірае бутэлечку*). Дай-ка мне, Зімаль, кроплю чарніла!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Ну, якія там яшчэ справы ў кагалу?

ЗІМАЛЬ-ПІСАР. Пекарчукі прыходзілі з хадайніцтвам перад кагалам аб дазволе стварыць цэх. Яны кажуць, што не хочуць, каб іх прылічвалі да жабракоў і здавалі ў рэкруты.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Цэх пекарчукоў? Гэта не рамяство: усе жанкі ўмеюць пячы. І якая будзе выснова кагалу?

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. Кагал згодны са старостам.

КАЛМАН ГІТЧЫН. Кагал згодны.

РАБІН (*нахіляецца да даенаў, яны ціха гавораць між сабою*). Судовая рада абмеркавала і згадзілася з думкаю старосты кагалу.

ЗІМАЛЬ-ПІСАР. А яны сказалі: калі ім не пакінуць выбару, яны ўцякуць да Бойтры, як Лэмэлэ Фут.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Што?! Анархія?

ЗІМАЛЬ-ПІСАР. І яшчэ яны сказалі: староста кагалу Арон-Вольф хай не думае, што яму ўдасца аддаць дачку за сына магілёўскага рабіна.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Ушанавалі! Няздары! Што гэта за лухта!

ЗІМАЛЬ-ПІСАР. Так яны сказалі. А калі я ў іх спытаўся, з чаго яны гэта ўзялі, яны адказалі: тады пабачыце.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Хоньча, вы з ключвойтам пойдзеце сёння ж увечары. Ты павінен мне данесці, дзе знаходзіцца той нягоднік. І калі гэта сын балагола Ісроэла Хаімка, прывядзі яго да мяне ў кайданах. Кладу сорак залатовак серабром. Хоньча, ці ты чуеш? Мая дачка Стэра – увасабленне габрэйскае цноты, і яна ніякага Хаімкі ў вочы не бачыла. А калі Бойтра – адзін з выселеных беднякоў, усё адно прывядзі яго ў кайданах. І не пазней, як праз трое сутак. Ты павінен паспець вярнуцца да дня вяселля. Ідзі. І пералічы фуры з ільном. Яны ўвечары павінны быць адпраўленыя. Сорак шэсць фураў. (*Хоньча пайшоў.*) Ну, высокі суд, і што вы скажаце вашым прыхаджанам, га?

РАБІН. Непахісныя запаветы Ізраіля! Рэб Мойша-даен аднак сказаў, маўляў, так – ды не так: разбойнік Бойтра можа аказацца, з волі Божай, унукам Віленскага Гаона, першым вучнем Валожынскага ешыботу.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Валожынскі ешыботнік? Унук Віленскага Гаона? Гэта ў галаве не ўкладваецца... ну, так, Ісроэляў Хаімка хутчэй за ўсё даўно нежывы, бо зразумела, што з рэкрутаў уцячы немагчыма, слава Табе, Божа! (*Паўза.*) Рэбэ, вы сумленны габрэй і мудры чалавек. Растлумачце ж вы мне, каб я зразумеў – колькім людзям я даю зарабіць на жыццё, і колькі людзей жывуць з маёй ласкі, колькі кормяцца з маёй крупарушкі, з майго млына, з майго лёну – за што мяне людзі не любяць? Чаму людзям так і карціць убачыць маё прыніжэнне? Чаму мне даюць зразумець – а гэта агідны паклёп! – нібыта мая дачка Стэрачка, чыстая, цнатлівая габрэйская

дзяўчына, мела дачыненні з Хаімкам Бойтрам? Я паарыштоўваю! Я напоўню горад удовамі і сіротамі! Я буду біць да крыві!

ПЕРШЫ ДАЕН. Бандыцтва!

ДРУГІ ДАЕН. Мала каму якое ліха можа ўчыніцца, дык што, за ўсё і ўсіх павінна балець галава старосту?

КАЛМАН ГІТЧЫН. Арон-Вольф, як на маю думку, то праўда твая, але... ці бачыш... кагал не можа... у кагалу ж... як табе сказаць... з кагалу ж нельга... Вы ўбачыце, што дабром гэта не скончыцца!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Што ты там, меланхолік, мармычаш? Я ні слова не разумею. Гэта ўсіхная бяда. Лішанька габрэям, вэй ун вінт!.. А калі ўсё ж Бойтра не Ісроэлаў Хаімка, га? Уссеў ён габрэям на галаву і ножкі звесіў! Мянцяць нават, быццам Бойтра ўвогуле тутэйшы пан, што выкідвае вар'яцкія каленцы. А раптам гэта – Жаліхавецкі? Помніцца, не так і даўно, ён паналіваў у карыты гарэлкі і панапойваў усіх быкоў. Не, гэта – не па-габрэйску: габрэй не пойдзе разбойнічаць, габрэй не раскідаецца сваім дабром, а Бойтра падкормлівае галоту.

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. Адкуль вы, рэб Арон-Вольф, узялі, што ўсе габрэі сквапныя?

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. О, так! Вы, Гіля, такі габрэй з шырокай душой! Кажуць, вы нават ясце з закрытым ротам, каб, не дай Бог, хоць крошка не выпала.

ГІЛЯ-ЛІХВЯР (*з'едліва*). А раптам я гэта раблю праз далікатнасць? (*Гарачыцца.*) Навошта на мяне нагаворваць? Я з месяца ў месяц выдаткоўваю па восем капеек на дабрачыннасць, а цяпер, калі пачаліся гэтыя зверствы, я нават дадаў яшчэ капейку!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Каму дапаможа твая капейка? Чаго хоча габрэй? Габрэй хоча ўсяго толькі на жыццё. Амхо Ісроэл црыхім парносэ – народу твайму, Ізраіль, трэба заробак. Б'юць іх, мучаюць, выганяюць з вёсак... (*Уздыхае.*)

РАБІН. Гора габрэям!

ДРУГІ ДАЕН. Усім бяда!

Кіроўцы і суддзі кагалу нейкі час сядзяць моўчкі і раз-пораз вохкаюць. Раптам расчыняюцца ўваходныя дзверы, і гуртам увальваюцца музыкі-клэзмеры.

МУЗЫКІ.
– А вось і мы са сваімі хаёльнікамі*!
– Схавай свой жадобнік*, Шэвах!
– Майрым, прасі спэндац са стрымдацам*!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Што такое?

МАЙРЫМ-МАРШАЛАК. Рэб Арон-Вольф, дык будзе вяселле ці не? Капэла кіруецца на баль да Жаліхавецкіх. Маé спеўныя птахі могуць узяць лішнюю кроплю і спазніцца на жаніховы вячоркі.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. А з якой такой нагоды мне, крый Божа, адкладаць вяселле? Што здарылася?

МАЙРЫМ. Я ведаю? Але ж ходзіць пагалоска, што ўкралі нявесцін пасаг.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Які пасаг? Ілганнё! У Арон-Вольфа не крадуць! Гэта нагаворы.

КАЛМАН ГІТЧЫН (*ціхенька*). Ганарліўца ёмка біць!

МАЙРЫМ. А Бойтра? Як быць з Бойтрам? З горада страшна высунуцца.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Не-не, музыканцікі! Магу запэўніць, што вяселле адбудзецца роўна праз тры дні. А Бойтра? Ёсць на тое, дзякуй Богу, і ўлады, і асэсар, і турма. Свет не безнаглядны.

РАБІН. Ну, даены, ці не час нам ісці?

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. Такі пара, поўнач на дварэ.

Усе ўстаюць, гатовыя пайсці.

ШЭВАХ-БАРАБАНШЧЫК. А вось па чутках у ласухі Стэрачкі Бойтра за смятанку!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Што ён вярзе?! Стэра – з Бойтрам?

МАЙРЫМ. Маўчы ты, балабон! Слухайце вы болей, што гэты зломак напляце на сваім лабуховым жаргоне!

УСЕ. Дабранач, рэб Арон-Вольф, дабранач.

МУЗЫКІ. Пашкандыбалі! Пешкі дзесяць вёрстаў па начы.

Усе выходзяць. Рэб Арон-Вольф застаецца адзін, садзіцца да стала, апусціўшы галаву ў далоні. З правых дзвярэй бясшумна з'яўляецца яго жонка Бэйля. Яна спыняецца за мужавым крэслам.

БЭЙЛЯ. Арон-Вольф!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ (*самому сабе*). Ай, нядобра, нядобра, нядобра, нядобранька!

БЭЙЛЯ. Арон-Вольфачка, што рабіць са Стэркаю? Яна кажа, што ёй пайсці да гэтага шлюбу, як у віры ўтапіцца. Яна не хоча тапіцца і не хоча гэтага шлюбу! А калі я пачала расказваць ёй пра жаніха, яна – такая адчайная галава! – яна сказала... Язык у роце не паварочваецца паўтарыць. Яна крыкнула, што задушыць яго! Ці чуеш?

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ (*падскоквае*). Што?!

БЭЙЛЯ. Што я магу зрабіць?.. Я ж усяго толькі прыёмная маці. Дзяўчына набрала дурноты ў галаву.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Дзе яна? Што гэта за размовы? Бэйля, кліч яе зараз жа! Стэрка!

БЭЙЛЯ (*падыходзіць да дзвярэй і крычыць*). Стэра, Стэрачка! Тата кліча.

Завінуўшыся ў хустку, уваходзіць Стэра.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Хадзі сюды, Стэра, сядай. Я хачу спытаць тваёй рады.

СТЭРА (*сядае*). Ну?

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. У свеце поўным-поўна бацькоў і дзяцей. Не кагальных старостаў – проста людзей. Яны правяць дзецям вяселлі ў свой час – у восем год, у адзінаццаць, у сямнаццаць. За што ж сыплюцца на мяне кары нябесныя, што ты засёдзелася ў дзеўках, а сама і не шманаеш? Га?!

СТЭРА. Я хацела выйсці замуж у належны час.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ (*перабіваючы*). Я гэта ўжо чуў! Каюся: я цябе пакрыўдзіў. Я ў рэшце рэшт усяго толькі чалавек. Ну, добра, ты мела жаніха, жаніха (*з іроніяй*) вучонага, высакароднага, аднак твой тата-душагуб яго звёў. Каюся! Але ж Хаімкі ўжо няма. Ён памёр у рэкрутах. Памёр!

СТЭРА. А хто ж тады Бойтра?

БЭЙЛЯ. Ш-ш-ш... Не так гучна!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ (*схапіўшыся за галаву*). Ай! Бойтра? Разбойнік? Табе хочацца пабрацца з разбойнікам Бойтрам?

СТЭРА. Сыну магілёўскага рабіна маім мужам не быць!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ (*ускіпеўшы*). А я табе кажу, што сын магілёўскага рабіна такі будзе тваім мужам!

БЭЙЛЯ. Ш-ш-ш-ш... Не так гучна! Ш-ш-ш...

СТЭРА. Добра, што Бойтра забраў мой пасаг. Я апрануся ў шматы! Я плюну яму ў морду, гэтаму расцудоўнаму жаніху! Пейсікі з горлачкам-пішчалкаю! Гіля-ліхвяр з асігнацыямі ў панчохах! Ад іх усіх патыхае дзёгцям з акавітаю! О, не, я не пастрыгу сваіх валасоў, не стану смердзюковаю жонкаю! Ніколі!!! Бог мне паможа. Я магла б нарадзіцца недзе ў іншым месцы. Я магла б нарадзіцца ў Жаліхавецкіх, нават не габрэйскаю дзяўчынаю... А Бойтра – хто? Хто ён? Разбойнік? Ён за справядлівасць! Пра такога чалавека ўжо напісана. Вы не чытаеце – і не ведаеце. Вы нічога не ведаеце!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Ах ты, сараматніца! Хаімка Бойтра – душагуб!

БЭЙЛЯ. Я казала табе, Арон-Вольф, казала, што гэтае навучанне з нямчызнаю, з чытаннем markdown розных пісанін да дабра не давядзе!

СТЭРА. Я ўцяку! Куды вочы глядзяць, уцяку.

У расчыненым вакне з'яўляецца Бойтра. Стэра, што стаіць тварам да вакна, уздрыгвае.

СТЭРА. Вой!

БЭЙЛЯ. Што такое, дачушка?

Стэра напружана ўзіраецца ў вакно. Арон-Вольф і Бэйля таксама пераводзяць пагляды на вакно. Толькі Бойтры там ужо няма. Яны не разумеюць, што здарылася.

З а с л о н а.

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Узлесак, што спускаецца да тракту. Зваленыя ў кучы цюкі тканіны, рэчы хатняга ўжытку. Тут і там – бочкі з гарэлкай. Спяць дзеці. Гараць цяпельцы, і над імі кіпяць гаршкі. На галінах сушацца пялюшкі. Позняя ноч. Мужчыны і жанчыны ляжаць вакол вогнішчаў.

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Ешце курку. Бойтра наказаў есці курку. Па палове на брата. Рахміел-балагол, бядак, адбіваўся. Габрэй, а дурань: памры, а воза з птушкаю не аддай!.. Людцы, што вы задумаліся, чаго седзіцё, як пасля пахавання? Вымайце хлеб з кайстраў. Гэта, браткі, смачная птушка. Курыны булён – кволым дзеткам, мясістыя галёнкі – красным дзеўкам!

ВЫСОКІ КАРЧМАР. Што – птушка, дзе – птушка! У горла, даруй Божа, не лезе. Горад цвікамі пазабіваў вароты і не ўпускае выгнаных з вёсак братоў, пярун пабі такі горад! Кагал! Староста рэб Арон-Вольф! Падпаліць бы з чатырох канцоў!

ВЯСКОВЕЦ У КАЖУСЕ. На рэках бабілонскіх сядзелі мы, плачам сыходзячы... На вербы павесілі мы гарфы* нашыя...

ВЫСОКІ КАРЧМАР. І што? Вяскоўцы – прэч, хоць павыдыхайце? А чаму прэч – менавіта вяскоўцы? Чаму не прэч гандляры збожжам, лесапрамыслоўцы, падрадчыкі? Яны што – з Божай літасці, не габрэі? Выходзіць, перад няшчасцямі свету і габрэі няроўныя. Згрызоты на худака, на бедака, на нішчымнага жабрака. А на Валыні, габрэі, думаеце, будзе лепей? Чаму нас высяляюць на Валынь? У беднага чалавека два выбары: альбо ў жалобе рваць на сабе адзенне, альбо счарнець ад пакутаў.

ПЕРШАЯ ЖАНЧЫНА. З нашых падаткаў і выплат ладзяць дочкам вяселлі, выдаткоўваючы тысячы.

ВЯСКОВЕЦ У КАЖУСЕ. Бо вымагалі там ад нас прыгнятальнікі нашыя – весялосці, ка́ты нашыя – песнапенняў (маўляў, спявайце нам песні Сіёна!). О, дачка Бабілонская, не абмінеш ты наканаванага табе заняпаду і змізарнення; блаславёны той, хто заплаціць табе па заслугах за нам учыненае...

ДРУГАЯ ЖАНЧЫНА. Стэрачка... Рабінаў сын ёй не падабаецца, ці што? Казака ёй цыбатага трэба!

КАРЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ. А я лічу, што трэба прарывацца ў горад сілаю.

Жанчыны плачуць.

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Кабеты, годзе прычытаць! Таксама мне навіна: карчмары прагарэлі! Калі вы бачыце, што вяскоўцаў не пускаюць у горад, дык трэба кагалу косткі пераламаць. Падумаць толькі: рэб Арон-Вольф баіцца, каб галодныя вяскоўцы не сапсавалі вяселля!.. Рэб йід, устаньце, вазьміце кавалак кураціны: як гэта, каб чалавек лёг спаць не павячэраўшы?

НЕХТА ЗАСПАНЫ СІПАТЫМ ГОЛАСАМ. Я не ем нарабаванага.

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Ай, пане габрэю, рэб йід – праведнік! Ён не есць нарабаванага...

ДРУГАЯ ЖАНЧЫНА. Людзі туляюцца без страхі над галавою, дзяцей валіць з ног ліхаманка, косіць шкарлятына, а рэб староста ладзіць вяселле сваёй расцудоўнай швэндзе!

ВЫСОКІ КАРЧМАР. Людцы, нехта ідзе па дарозе.

КАЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ. Дзе? Дзе?

ВЫСОКІ КАРЧМАР. Ключвойт і... Хоньча Кот. Хавайце кураціну, тушыце вогнішчы! Ой, людцы, нядобра гэта. Дай Бог, каб я зманіў.

ПЕРШАЯ ЖАНЧЫНА. Лія, дзе ты паклала спаць дзяцей? Ключвойт з Хонем Катом! Дзе дзеці? Схавайма іх у лесе!

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Ціха! Ша! Куча дурняў! Не гасіце вогнішчаў! Што вы робіце? Не вылівайце булёну! Я вам зараз!.. Сціхніце вы, дурні, сядзіце і вячэрайце, не ўсчыняйце вэрхалу!

З'яўляюцца ключвойт і Хоньча Кот.

КЛЮЧВОЙТ. Жыдкі? Што робяць жыды ў лесе сярод ночы? Ды яшчэ такой вялікай гурмою!

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Пане ключвойт, гэта вяскоўцы, якіх павыганялі з вёсак. Арон-Вольф не пускае іх у горад.

КЛЮЧВОЙТ. Ах, выгнаныя з вёсак?..

ХОНЬЧА КОТ (*зазірае ў гаршкі*). Кураціна ў будзень?

ДРУГАЯ ЖАНЧЫНА. Рэб Хоньча, добрыя людзі забілі для нас колькі курак, каб адхаяць хворых дзяцей.

КЛЮЧВОЙТ. Тут толькі вяскоўцы? Ціха! Ш-ш-ш... а вы часам не ведаеце, дзе цяпер Бойтра? Тут недзе павінна быць смалярня... А хто яго бачыў, гэтага Бойтру? Мо ён круціцца недзе тут у лесе?

ВЫСОКІ КАРЧМАР. Ды не, мы яго не бачылі.

ПЕРШАЯ ЖАНЧЫНА. Тут адны сумленныя габрэі.

ВЯСКОВЕЦ З КАЗІНАЙ БАРОДКАЙ. Казалі, што ён недзе за некалькі міляў адгэтуль, у Заскавіцкім лесе.

ВЫСОКІ КАРЧМАР. Пане ключвойт, вазьміце шкляначку акавіты.
ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Ён паехаў у горад да рэб старосты на вяселле.
КЛЮЧВОЙТ. Дык у лесе яго няма?

Устае чалавек, што сядзеў сярод клункаў. Гэта Бойтра.

БОЙТРА. Хадземце, я пакажу, дзе Бойтра.
КЛЮЧВОЙТ. А ты хто такі?
БОЙТРА. Я – новы півавар на бровары ў Жаліхавецкіх.
КЛЮЧВОЙТ. А тут што ты робіш?
БОЙТРА. Ды я ў горад іду, а тут прылёг крыху адпачыць.
ХОНЬЧА КОТ. А я цябе, здаецца, ведаю...
БОЙТРА. Хадземце, пане ключвойт. Я вам пакажу Бойтрава сховішча. Яно вунь тама ў лесе, направа.
ХОНЬЧА КОТ. Пане ключвойт, гэта ён!

Хоньча Кот і ключвойт хапаюць Бойтру пад рукі і ўсе разам рушаць наперад. Яны знікаюць сярод дрэў. Лэмэлэ Фут – за імі.

ПЕРШАЯ ЖАНЧЫНА. Ой, бяда-злыбеда! Што будзе?
ВЯСКОВЕЦ У КАЖУСЕ. Хто гэты маладзён?
ВЫСОКІ КАРЧМАР. А вы не зразумелі?
ВЯСКОВЕЦ У КАЖУСЕ. Госпадзе нябесны! Уліплі дык уліплі! У мяне зуб на зуб не трапляе. Хана-Лія! Хутчэй збірай бэбахі! Дзе дзеці? Эх, фурманкачку б якую!.. А не, дык і пешкі, абы далей адгэтуль!
ВЫСОКІ КАРЧМАР. Ша! Вы чуеце?
ДРУГАЯ ЖАНЧЫНА. Здаецца, крычаць.
ВЯСКОВЕЦ З КАЗІНАЙ БАРОДКАЙ. Не, гэта птушка галосіць, сыч.
КАРЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ. Клянуся, габрэі, вісець яму ў пятлі.
ПЕРШАЯ ЖАНЧЫНА (*галосіць*). Ай! Што цяпер будзе? Божухна, памажы нам у бядзе! Прыйдзіце да нас, Абрагаме, Ісаку і Якаве!
КАРЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ. Жанчына, маўчыце. Вы наклічаце на нас няшчасце.
ВЫСОКІ КАРЧМАР. Ша!
КАРЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ. Чуеце?!
УСЕ. Шчаслівыя тыя, чый шлях – дарога цноты, хто паслухмяны Вучэнню Гасподняму; шчаслівыя тыя, хто захоўвае Запаветныя Сведчанні Яго, хто ўсім сэрцам шукае Яго!

Убягае Лэмэлэ Фут, выцірае з твару пот. Псалмаспевы спыняюцца. Хвіліна поўнай цішыні.

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Людзі! Ешце курку. Дзе хлеб? Адкрыйце бочку гарэлкі. Карчмары, вы тут нашто? Адбылося нешта асаблівае? Ну, смерць, ну, помста. А нам усё на руку! Паедзьма на Валынь – і мы, габрэйства, будзем чэрпаць золата россыпам! Не сядзіце, як тхары!

З-за сцэны чуецца голас Бойтры.

ГОЛАС БОЙТРЫ. Шагом арш! Аць-два, эйнс-цвэй, аць-два-марш! Пашол вон!

Пад гэтыя словы па сцэне салдацкім крокам праходзіць спалоханы ключвойт, аддаючы "чэсць". Пры словах: "Пашол вон!" – ён уцякае ў напрамку, адкуль першапачаткова з'явіўся. На сцэну выходзіць Бойтра.

ВЯСКОВЕЦ У КАЖУСЕ. І не чыняць яны няправеднага, ходзяць шляхамі Яго. Ты запавёў цвёрда трымацца загадаў Тваіх.

Убягае спалоханы рыжы карчмар.

РЫЖЫ КАРЧМАР. Людзі! Забойства! Хоньча Кот ляжыць каля дрэва забіты! Часам ці не Бойтрава гэта справа? Чаго маўчыце? Ён жа ўсіх нас парэжа!

На сцэне мёртвая цішыня. Бойтра глядзіць на рыжага карчмара. Той адчуў на сабе Бойтраў позірк, азіраецца на здранцвелых людзей і, адступаючы ў страху назад, знікае сярод дрэў.

ПЕРШАЯ ЖАНЧЫНА (*кідаецца ў ногі Бойтру*). Злітуйся з нашых дзетак, Бойтрачка! Даражэнечкі, пакінь нам жыццё! Мы табе ножкі будзем мыць, мы будзем працаваць, як катаржныя, а табе адпрацуем! Толькі пакінь нам нашыя душы!

ВЫСОКІ КАРЧМАР. Дарма вы, жанчына. Устаньце і ідзіце сабе! (*Да Бойтры са смяшком.*) Яна думае, што вы – душагуб. (*Да жанчыны.*) Дурніца! Хіба Хоньча Кот быў чалавекам? Гэта ж быў хіжы звяруга! Ён жа адправіў на верную пагібель сотні бядняцкіх дзяцей... Паслухайце, Хаім, вось нас не пускаюць у горад. Хіба гэта справядліва? Вось калі б вы дапамаглі, каб нас упусцілі...

БОЙТРА. Я нікому не памочнік. (*Збіраецца пайсці.*) Назад з рэкрутаў, чалавеча, вярнуўся не Хаімка, сын балагола Ісроэла, але праклён Гасподзень... Ой-вэй-злыбеда! (*Да Лэмэлэ Фута.*) Лэмэлэ, дзе пекарчукі?

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. На Чорным гасцінцы.

Бойтра пайшоў.

ВЯСКОВЕЦ У КАЖУСЕ. Гэта і быў Бойтра? Душагуб? Што можна зрабіць з чалавекам! Я, шчыра сказаўшы, упершыню бачыў забойства... Жах!.. Маліцьмуся, гаротнік, у журбоце, перад Богам выліваючы скруху маю. Пачуй, Божа, малітву маю. Хай крык душы маёй дойдзе да слыху Твайго!

КАРЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ. А прападзі ўсё пропадам! Адкрывай бочку гарэлкі, і нап'ямося, як свінні!

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Габрэі! На радасць трэба выпіць.

Выпівае з конаўкі і ідзе прэч.

КАРЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ (*сёрбае з вялікага гаршка.*) К чарцям сабачым увесь свет!

ВЫСОКІ КАРЧМАР. Каб нам здохнуць, як сабакам. Усім!

КАРЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ. Мае б згрызоты ды на іхнія галовы!

ДРУГАЯ ЖАНЧЫНА. Шмуля! Што з табою, Шмуля?! Людцы, злітуйцеся, забярыце ў яго гарэлку: ён сабе нешта кепскае ўчыніць!

ВЯСКОВЕЦ З КАЗІНАЙ БАРОДКАЙ. Каб габрэі былі такія распусты! Сорам і ганьба!

ВЯСКОВЕЦ З ПРАРЭЗЛІВЫМ ГОЛАСАМ. Што нам сталася! Ганенні на габрэяў. Ужо восем год гоняць вяскоўцаў. Аднак габрэй усё павінен прымаць як дабро. Трэба быць крыху пабожнейшымі! Усё ёсць кара за грэшныя справы нашыя.

КАРЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ. Заткніся, казёл!

На сцэне з'яўляецца рыжы карчмар.

РЫЖЫ КАРЧМАР. Людзі добрыя! Што і казаць! Хіба вы не бачыце? Ён тут! Чаго маўчыцё? Вам мала? Я ўжо стаю адной нагой у магіле. Людзі добрыя, кожны дбае толькі пра сябе!

ВЫСОКІ КАРЧМАР. У голад і пошасць мы ведалі, што паміраем па волі Бога. Але цяпер мы паміраем праз людзей. З аднаго боку – яго вялікасць Мікалайка, з другога – Арон-Вольфка!

КАРЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ. Нічога ведаць не хачу. Я, людцы, утаплюся ў гарэлцы. Дзе Янкель? Янкель, адкрывай яшчэ бочачку акавіты! Дзе тая Валынь, дый ці не ўсё адно дзе выпруціць ногі!

ПЕРШАЯ ЖАНЧЫНА. Ай! Ён ужо, дзякаваць Богу, па бровы нажлукціўся!

ВЯСКОВЕЦ З ПРАРЭЗЛІВЫМ ГОЛАСАМ. Калі трапіш у бяду, трэба наадварот устрымлівацца ад яды і піцця, трымаць бядотны пост, а тут жаруць крадзеную кураціну, п'юць ды жлукцяць. Ох, не быць дабру!

РЫЖЫ КАРЧМАР. Вам, спадару габрэю, трэ было рабінам быць недзе ў горадзе, а не вяскоўцам.

Карчмары выпіваюць, ходзячы па лесе, ядуць, трымаючы ў руках кавалкі кураціны, раз-пораз выкрыкваюць "лэхаім", цалуюцца, плачуць. З-за сцэны чуваць голас Рахміела-балагола.

РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ. Каб габрэі ішлі на ліхадзейства! Гэта нечувана! І гэта – вяскоўцы? Ды яны ж – разбойнікі! Не, горш: забойцы! Жаруць курэй – і гэта называецца: галадуюць. Спытайцеся ў сябе, хто есць кураціну? Што вы сунеце мне гарэлку?! Чорны год на ўсе галовы!

Мэлка і хлопчык-падлетак уводзяць яго на сцэну і знікаюць.

РЫЖЫ КАРЧМАР. Вазьмі каліва, Рахміел! Усё адно рэшта застанецца катáм. А на тым свеце не дадуць.

ВЯСКОВЕЦ З КАЗІНАЙ БАРОДКАЙ. І не падумай нічога, Рахміел. Вяскоўцы не рабавалі тваіх курэй.

РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ. Што? Гэта – мае куры? Гэта куры Гітчынага Калмана!

ВЯСКОВЕЦ З КАЗІНАЙ БАРОДКАЙ. Птушку ў цябе адбіраў Бойтра.

РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ (*спалохана*). Бойтра? Ён? Гэтак? А дзе ён? Яго тутака няма? Сам ён? Унук Віленскага гаона? Геніяльны вучань з Валожына?

РЫЖЫ КАРЧМАР. Які Валожын? Які гаон? Ён сын балагола Ісроэла, уцёклы салдат.

РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ. Хаімка? Такі ён? Праўда?

РЫЖЫ КАРЧМАР. А ты думаў! Ёсць пра што казаць! Ну, брат, лэхаім!

РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ (*п'е не п'янеючы.*) Вось яно як! Ісроэлаў Хаімка... А дзе ён? Ягоны тата Ісроэл – брат братам, таксама балагол, ці не так?

Найсумленнейшым чалавекам быў. Хіба не? Хаімка... А дзень, калі Ісроэл памёр, я помню як сёння. То ж быў пярэдадзень свята Пурым. Яшчэ трымаўся санны шлях. Ён вёз Арон-Вольфаў лён. Ехаў па лёдзе – і праваліўся разам з ільном, санямі і коньмі. І засталася ягоная матка ўдавою. Што яна магла зрабіць? І вось – Бойтра. Та́кі Бойтра? Ох, страшна сядзець тут у вас...

Рыжы карчмар падлівае яму ў конаўку, штораз чокаючыся, і яны п'юць не п'янеючы.

РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ. І ў выніку ён усіх зненавідзеў па скон жыцця? Я вам праўду скажу: ён мае права ненавідзець. Да яго ніхто літасці не меў. Хто меў руку, той яго і біў. Га! Дык гэта праз яго Арон-Вольфава дзяўчына адмаўляецца ад шлюбу? Закахалася? А выходзіць, за гэта кагал здаў яго на пагібель у салдаты?

Выпівае яшчэ раз.

РЫЖЫ КАРЧМАР. На, Рахміел, закусі.

Дае Рахміелу кавалак курыцы.

ВЫСОКІ КАРЧМАР (*з чаркаю ў руцэ*). А хто ж нам, вяскоўцам, вінаваты, што мы мусім бадзяцца? Даўбешкі! Трэ ісці паліць горад!
КАРЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ. Дык чаго маўчыцё? Калі пайсці ўсім гамузам*, можна дабіцца.
РЫЖЫ КАРЧМАР. Каменя на камені не пакінем, а даб'ямося! Трэба ўзняць вяскоўцаў. Усіх. Трэ ісці.

З крыкамі карчмары кідаюцца глыбей у лес.

РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ (*крыху п'янаваты*). Вось як? А ці ведаеце, дзе Хаімку злапаў Хоньча Кот? У жаночай школе. Хораша?
ВЯСКОВЕЦ З КАЗІНАЙ БАРОДКАЙ. Не ўспамінай нябожчыка, Рахміел. Ён жа Хоньчу Ката забіў.
РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ. Забіў? Хоньчу Ката? Праўда? Дзе мой конь?! Трэ ехаць дахаты... Ага!.. Як быць?.. Забіў... (*Азіраецца.*) Слухайце, што я вам скажу: горад не пашкадуе... вылюдка. (*Нешта мармыча самому сабе, голаў цяжка хіліцца.*) Вось як... Хаімка?.. Нішто сабе вясёленькі хлопчык! Як на ўсіх вяселлейках пабываўшы... Як жа так – забіў Хоньчу Ката?

Бегма вяртаюцца з лесу карчмары.

РЫЖЫ КАРЧМАР. Дык хадзем жа! Усе! З дзецьмі і клецьмі. Рушма ў горад. Разбурым, знішчым кагал!
ВЫСОКІ КАРЧМАР. Чаму быць, таму й быць! І прападайце нашыя карчмы!
ВЯСКОВЕЦ З ПРАРЭЗЛІВЫМ ГОЛАСАМ. Куды вы? Вось пабачыце, людзі, вы пашкадуеце. Адумайцеся!
КАРЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ. Дастанем гэтага курэніцкага казла, дастанем яго!
РОЗНЫЯ ГАЛАСЫ.
– Вінаваты ён, ён адзін, Арон-Вольф!

– Габаі!
– А суддзі лепшыя?
– Знішчыць усіх – і канец!
– Адабраць у скнары закладныя!
– У Гілі-ліхвяра!
– Мой медны збан!
– Мае рэчы!
– На дарогу!

З'яўляецца Бойтра.

БОЙТРА. Куды? П'яніцы! Ніхто з месца не кранецца! Горад мой з усімі вантробамі! Я ягоны рэкрут. Што трэба спаліць, я спалю, я, толькі я!

ВЫСОКІ КАРЧМАР. Што вы яго слухаеце? Ты, чортава костка, ды мы цябе струшчым на друз!

РЫЖЫ КАРЧМАР. Ён з Арон-Вольфам заадно. Ён хоча пабрацца са Стэркаю!..

БОЙТРА. Што такое? І вы – на мяне? (*Выхоплівае з-пад крыса сякеру.*) Сабакі!

УСЕ. Ай! (*Адступаюць назад.*)

РЫЖЫ КАРЧМАР. Крывавы забойца! Ён выража цэлы свет. Адступнік Ізраіля!

МАЛЕНЬКІ ВЯСКОВЕЦ. Хаім, што ты маеш супраць нас?

БОЙТРА (*да рыжага карчмара*). Слухай, ты. А ты часам не засковіцкі карчмар?

РЫЖЫ КАРЧМАР. Не! Зусім не! Ты што? Я – не!

БОЙТРА. Той таксама быў рыжы. Два гады таму я ўцякаў па тракце, а Хоньча гнаўся за мною. Позна ўвечары я забег да таго карчмара ў сенцы, дык ён агрэў мяне па галаве меднай конаўкай і выкінуў на вуліцу.

РЫЖЫ КАРЧМАР. Не я. Гэта было непрыгожа з ягонага боку. Брыдкі быў учынак. Ён быў павінен наадварот упусціць цябе ў хату і даць прытулак. Ты ж да таго яшчэ і сірата. А ў Торы сказана: і сіраму, і беднаму трэба памагчы, чым толькі можна.

ДРУГАЯ ЖАНЧЫНА. Мала каму што было, дык праз тое трэба зацяцца па скон веку на ўвесь белы свет?

ВЫСОКІ КАРЧМАР. А пра карчмароў так скажу: што і ложак на ноч, і наедак – хоць скарынка з цыбулінай – заўсёды і кожнаму ў іх знойдзецца.

БОЙТРА. Я свае справы сам вырашаю. Сам. Вы давалі мне хлеб з цыбуляю на дарогу? Не дурыце галавы! Мяне везлі па Чорным гасцінцы. На кожнай вярсце стаялі вашыя корчмы. Я бачыў праз лёсткі калёсаў, як вы стаялі на парогах і папыхвалі люлькамі. Ці ж хто падыйшоў даць мне глыток вады?!

Усе маўчаць.

БОЙТРА. Але цяпер я зразумеў: вы зрабілі добра. Помста... Гэтую рэч трэба выношваць доўга. Вашая праўда: ніхто мне не вінаваты быў глытка вады.

ДРУГАЯ ЖАНЧЫНА. Што значыць – вінаваты, не вінаваты? Каму шкада кроплі вады?

Бойтра не адказвае, паварочваецца і сядае каля бочкі. Карчмары адыходзяць недалёка ў лес, валяцца на дол і, п’яныя, засынаюць.

ВЯСКОВЕЦ З КАЗІНАЙ БАРОДКАЙ (*укладваючыся на зямлю спаць*). Слухай, Хаім, так не жывуць! Так, барані Божа, можна ўрэшце і загнуцца. Чалавеку трэба да некага прыстаць. Праўда, табе, нябогу, і рабіць няма чаго, ты інакшага выбару не маеш. Але што ты зможаш зрабіць са жменькаю сваіх галадранцаў? Табе не варта было рваць з вяскоўцамі. Яны такія ж бяздомнікі, як і ты. А разам... я ведаю?.. – ну, хоць бы і на Валынь падацца. (*Крычыць начная птушка.*) Можа б там удалося прыпісацца...

БОЙТРА. Я, пане-габрэю, ні ў кога парады не прашу.

ВЯСКОВЕЦ З КАЗІНАЙ БАРОДКАЙ. Аднак жа аднаму не пражыць. (*Крычыць начная птушка.*) Адзін жыве, бадай, як сыч. Вось, чуеш? Ён сядзіць на дрэве, утаропіўшы вочы ў цемру, і праклінае свет.

БОЙТРА. Але ж забівае ён таксама адзін... Пачварна! Я тое бачыў.

Усталёўваецца цішыня. Усе засынаюць. Бойтра прыхінае галаў да бочкі і застаецца так сядзець працяглы час.

БОЙТРА (*пяе*).

Ой, лясы наўкол пасталі,
Засланілі волю.
Ў шынялях на шляху хлопцы
Жаляцца на долю.

У галлі паселі птушкі,
Песень не спяваюць.
Нашы рэкруцкія косткі
Ля шляхоў стляваюць.

Не, мяне ты не стрымаеш,
Сэрцу дарагая.
Дзе руку прыложыць Бойтра,
Там агонь шугае.

Сведкі – сосны, сведкі – елкі,
Сведкі вы, бярозкі:
Па нябожчыку заплачуць
У доме ў старосты!

З’яўляецца Лэмэлэ Фут.

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Арон-Вольфавы фуры з ільном едуць па Чорным гасцінцы.

БОЙТРА. Ага, вось як...

Абодва знікаюць. Прыходзяць музыкі. Яны п’янаватыя.

НІСАН. Шэвах, а тутака спяць. Мы, здэцца, прышкандыбалі дамоў.

ШЭВАХ. Калі мы дома, дык чаму ж мяне баба не кляне?

НІСАН. Чуеце? Ён не ведае, чаму! Ды таму, што ты сёння прыйшоў цвярозы!

ШЭВАХ (*спявае*). Ліха-баба Хая-Злата, чорт забраў бы твайго тату! (*Далей прагаворвае.*) Гэта дрыхнуць вяскоўцы.

МАЙРЫМ.

А дзе ж гэта скрыпачка енчыць?
А дзе барабан тарабэнчыць?
А дзе дудка плача
І галота скача?

УСЕ.

П'яніца ля кварты,
Карчмар – у карчме,
Еклю толькі скрыпка,
Бэрку – бас наўме.

ЕКЕЛЬ. Трое сутак п'янстваваць – гэта ўжо не па маіх сілах. Ох, здабуду я сабе праз гарэлку сухоты!

ШЭВАХ. Екель, а дзеля чаго ты п'еш? Хто цябе прымушае?

ЕКЕЛЬ. Я п'ю? То ж яна п'е! (*Паказвае на скрыпку.*) Скрыпачка, прагны твой трыбух, бух-тарабух! Шэвах, скрыпачка любіць трошачкі кульнуць.

НІСАН. А што на гэта дудка скажа?

ЕКЕЛЬ. Дудка? Дудка павінна мець сваю меру. Паўквартачкі – гэта ўжо вышэй за галаву! Дудка, раз у яе дзьмуць, яна раздзімаецца і па-чалавечы думае пра сябе: Дух Божы! А ты, мая скрыпачка? На табе толькі рукамі граюць. Ды толькі, ці ж сякера грае? Ну, што такое? Чатыры струны з дзеравяшкаю, а табе трэба зрабіць так, каб людзей за сэрца хапала. Вы чуеце, п'янюгі? Без добрае галавы са скрыпкаю не абыдзешся!

ШЭВАХ. Хоць бабу ў мяне забярыце, а я буду біць палачкамі!

МАЙРЫМ. А мне што, на гарляку граць? Зразумейце вы з Божаю дапамогаю, што найцяжэй за ўсё быць маршалкам капэлы!

ЕКЕЛЬ. Певень таксама грае на гарляку.

БЭРКА. П'яніцы, чорны год на вас усіх! Можаце вы валюхацца трохі шпарчэй ці не? Мы заблукалі.

ЕКЕЛЬ. Скамарох не мае раю. Ён жыве толькі дзеля грання. А калі яму шкада паміраць, дык толькі таму, што тады ён мусіць развітацца з інструментам.

БЭРКА. Ну, ідзі ўжо, жлукта, а то яшчэ спознімся на вяселле!

НІСАН (*пяе*). І хто ж тады прыйдзе, ой ды на вяселле, аж да Арон-Вольфа?

МАЙРЫМ.

Дык хто прыйдзе на вяселле да Арон-Вольфа?
Рабін разам з бімаю*,
Крамнік разам з крамаю,
Сінагога й лазня.
А разнік – той з ножыкам,
А субота – з халаю,
Студня – з калаўротам!

УСЕ РАЗАМ.

П'яніца ля кварты,
Карчмар – у карчме,
Еклю толькі скрыпка,
Бэрку – бас наўме.

Улятае закуродымлены Бойтра. Ад яго патыхае дымам.

БОЙТРА. Вы хто такія?

Музыкі спалохана ціснуцца адзін да аднаго.

ЕКЕЛЬ. Мы – клэзмеры, музыкі. Мы ідзем ад Жаліхавецкіх з банкету. Зрабіце ласку, а хто вы?
БОЙТРА. Бойтра.
УСЕ. Ай!

Екель адскоквае і хаваецца за спіны іншых музыкаў.

БОЙТРА. А куды вы ідзяце?
МАЙРЫМ. Мы павінны быць на вяселлі Арон-Вольфавай дачкі. У Жаліхавецкіх у зямлю закапáныя бочкі з гарэлкай, накшталт студняў. Дык мы, дзякуй Богу, такі папілі з аднае “студні”. А цяперака, як вы бачыце, блукаем, блудзім, ніяк да дому не дойдзем.
БОЙТРА. А вяселле сёння?
УСЕ. Сёння.
БОЙТРА. Ты! Дай сюды барабан! (*Забірае ў Шэваха барабан і ўздзяе на сябе.*) Як трэба барабаніць? Я пайду з вамі на вяселле.
МАЙРЫМ. Мы бедныя клэзмеры. Што вам ад нас трэба?
БОЙТРА. Каб вы трымалі языкі за зубамі, чорт забяры! А на вяселлі каб маўчалі і слухаліся мяне.
ШЭВАХ. Бойтра, злітуйцеся, я не аддам вам барабан. Я не магу. Што мне рабіць цэлую ноч без барабана? У музыкаў шалёная кроў! Злітуйцеся! Лепш вазьміце ў Бэркі бас.
БЭРКА. Бугай дурны! Я табе зараз пакажу бас! Будзе табе і слота і блота!
ШЭВАХ. Пашкадуйце! Мяне жонка выгане з хаты. Мне няможна без барабана!

Злева ўзнімаецца густы дым, неба чырванее. Усе паварочваюцца ў той бок, а адтуль з’яўляецца таксама закуродымлены Лэмэлэ Фут.

МАЙРЫМ (*крычыць*). Гарыць!
ВЯСКОВЕЦ З КАЗІНАЙ БАРОДКАЙ (*падхопліваецца са сну.*) Людзі! Горад гарыць!
ВЫСОКІ КАРЧМАР (*ускоквае*). Горад? Дзе? Гэта Божая кара за пакуты вяскоўцаў!
ПЕРШАЯ ЖАНЧЫНА. Дзе гарыць? Хто гарыць? Шмуля! Ратуй бялізну! Ой, ён жа п’яны! Дзе дзеці?

Карчмары падхопліваюцца. Спалоханыя, адны бягуць праз лес, іншыя пакуюць рэчы.

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Гэта гараць Арон-Вольфавыя фуры з кудзеляю на Чорным гасцінцы.

З а с л о н а.

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Вяселле ў доме ў старосты кагалу. Той самы пакой, што і ў першай карціне. Стол для мужчынаў асобна ад стала для жанчын. Нявеста сядзіць пад вэлюмам. Магілёўскі рабін і жаніх – на пачэсным месцы за мужчынскім сталом. У куце сярод спалоханых музыкаў сядзіць Бойтра з барабанам. Праз расчыненае вялікае вакно відаць, як на вуліцы таўкуцца беднякі, карчмар з расшчэпленай губой і рыжы карчмар. Лэмэлэ Фут стаіць у вакне не адыходзячы. Госці ядуць і п'юць.

МАЛАДЗЁН З ШАЎКОВАЙ ХУСЦІНКАЙ НА ШЫІ. Мойша-Хаім, што з табою? Ты што, не можаш крыху глынуць? Фэ!

МАГІЛЁЎСКІ РАБІН. Лэхаім! Сваяцтва, на вяселлі трэба піць!

СВАЯКІ. Лэхаім! Лэхаім!

БЯДНЯК, ЗАРОСЛЫ ВАЛОССЕМ (*у вакне, аблізваючыся*). Староста наладзіў дачцэ вяселле, а для беднякоў сталоў не выставіў. Сорам і ганьба! А як хочацца кавалачка селядца...

МАГІЛЁЎСКІ РАБІН. Сваток, чаго вы такі заклапочаны? Прысядзьце хіба. Хай сабе ўжо і надарылася такая прыкрасць з пасагам, але ж староста Арон-Вольф мае да сябе павагу і давер.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Сваток мой магілёўскі рабін, мае дзеці, лічу я, будуць мець з Божае ласкі на пражытак.

КАРЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ (*у вакне*). Вяскоўцы бядуюць па лясах, а тут правяць вяселле. Нічога, мы яшчэ прыйдзем усёю грамадой разам з Бойтрам, пусцім усё з агнём ды полымем!

КАЛМАН ГІТЧЫН. Што гэта за чалавек? Вясковец? Як ён трапіў у горад?

РЫЖЫ КАРЧМАР (*у вакне*). Забойцы! З вас трэба скуру пасамі здзіраць...

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Хоньча! Дзе Хоньча? Ён яшчэ не вярнуўся? Зусім спрыт страціў.

МОЙША-ХАІМ. Жаніх, будзь чалавекам! Запомні, Ёселька, ты павінен даць сваёй жонцы наедак і апранаху. Ці чуеш?!

Бліжэйшыя госці смяюцца.

БЯДНЯК З ПЕРАВЯЗАНАЙ ШЧАКОЙ (*з-за вакна*). Будзьце людзьмі, пярун на вас! Гэта, урэшце, непрыгожа. Зрабіце ласку, сваток, мо дасцё мне во гэты кавалачак мядовага пірагу? Ага, вось гэты.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. От, гэты Хоньча! Навошта панапускаў поўны двор жабракоў?!

БЯДНЯК, ЗАРОСЛЫ ВАЛОССЕМ. Людцы, дайце гарэлачкі, у мяне ў роце перасохла.

ГІЛЯ-ЛІХВЯР (*увесь час ад пачатку вяселля сядзіць і макае мядовы пірог у гарэлку*). Нахабнік, капора на яго*!

КАЛМАН ГІТЧЫН. Годзе ўжо вам, Гіля, жаваць. Сорамна перад людзьмі. Такое ўражанне, што ў вас колькі дзён макулінкі ў роце не было.

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. А тое, што ад вас, рэб Калман, кладоўкай патыхае, лепей? І ўсміхайцеся хоць бы раз-пораз. Як можна быць чалавеку такім унурaным? Што вы маеце супраць белага свету?.. Рак, а квакае!

Мачае новы кавалак і працягвае жаваць.

КАРЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ. Сваточкі-раточкі – так шчоўкаюць зубамі, нібы на лічыльніках прыбыткі рахуюць.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ (*бегаючы вакол сталоў*). Хоньча... Дзе ён, гэты чортаў Хоньча?!

МОЙША-ХАІМ. Лэхаім, нявеста!

Госці смяюцца.

МАЛАДЗЁН З ШАЎКОВАЙ ХУСЦІНКАЙ НА ШЫІ. Слухай, Мойша-Хаім, а ты сапраўдны бадхан, вясельны тамада! Налівай, налівай! А з музыкамі – што? Маршалак, чаго ты маўчыш? Музыканцікі, вы нешта седзіцё сёння, як гліняныя.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Музыкі, ну! Што вы сабе думаеце? “Фрэйлахс”*, “Весялуху”! Свята ў мяне ці як? А дзе ваш Шэвахка?

ЕКЕЛЬ (*да Майрыма*). Чуеш, жлукта? Адумыснік пытаецца пра жадобніка.

МАЙРЫМ. Шэвах не ў лепшым стане здароўя. Мы ўзялі замест яго аднаго маладога клэзмера.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. А чаго ён гэтак глядзіць, гэты новы музыка? Нібыта яму цэлы свет вінаваты. (*Да Бойтры.*) Ты, хлопец, нямы?

БОЙТРА. Ага ж, нямы.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Дзе ты выкапаў такога музыку? Дзяцюк, відаць, уцёк з нейкай абшчыны. Хоньча! Дзе да ліха Хоньча? (*Бяжыць да свата і сваякоў.*) Госцейкі, чаго вы спіцё? Бярыце нешта за губу. Такая радасць!

БЯДНЯК, ЗАРОСЛЫ ВАЛОССЕМ (*з-за вакна*). Грубіяны! Што ў вас тут – начлежка? Вас жа нельга ўпускаць у габрэйскі дом! (*Да свацці.*) Кабетка, дайце чаго-небудзь, я ўжо тры дні анічога ў роце не меў, слова даю!

ГОСЦІ. Ша! Ціха!

БОЙТРА (*да музыкаў.*) Грайце!

Музыкі пачынаюць граць нейкую жудасна гнятлівую мелодыю. Майрым спявае занадта высока, грымаснічаючы. Госці сціхаюць. Ад жаночага стала чуваць усхліпванне.

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. Што гэта за спеў? Досыць, супыніцеся!

МАЛАДЗЁН З ШАЎКОВАЙ ХУСЦІНКАЙ НА ШЫІ. Ну, не як на вяселлі, а, барані Божа, зусім як на пахаванні. Спыніцеся, жанчын да слёз давялі.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Што за насланнё? Вы п’яныя?

Музыкі не спыняюцца. Яны граюць і трасуцца ад страху. У нейкі момант з-за вакна чуецца жаночы крык, і музыкі абрываюць гранне.

ЖАНЧЫНА Ў ВАКНЕ. Што вы седзяцё тут і весяліцеся? Майго Рахміела абрабавалі ў крэўскім лесе! Ён усю ноч праляжаў звязаны. Ай-военькі, прыдумаць не магу, як яго адхаяць...

ГОСЦІ. Што? Дзе? Што яна гаворыць? Калі яго абрабавалі?

КАЛМАН ГІТЧЫН (*ускоквае*). Ай! Мая птушка! Я разораны!.. Няпраўда! Гэта немагчыма! Яго ніхто не рабаваў! Рахміелка ўсё прагуляў у карты! Вяскоўцам праклятым! (*Выбягае прэч.*)

МАГІЛЁЎСКІ РАБІН. Якія вяскоўцы, даруй Божа?

МОЙША-ХАІМ. О, не, ратуй нас Усявышні, то Бойтра!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Госцейкі і сваты, не псуйце свята! Весяліць жаніха з нявестаю – адно з найвялікшых дабрадзействаў. Па цяперашнім часе ўсё можа здарыцца, і Калман Гітчын – не лепшы за іншых. Лэхаім, госцейкі, ваша здароўе! Гэта вяселле маёй адзінай дачушкі. Дачушкі ўдалай. Піце, госцейкі, піце, сваякі, і налівайце. А што здарылася з музыкамі? На панскіх банкетах вы граеце гэтаксама? Маршалак, пакажы нешта, як на панскім банкеце!

МАЛАДЗЁН З ШАЎКОВАЙ ХУСЦІНКАЙ НА ШЫІ. Музыкі сёння ніякія, як не музыкі.

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. А яны і не шманаюць, пэўна, хочуць сапсаваць нам вяселле. Гэта ж нахабнікі бессаромныя!

МОЙША-ХАІМ. Гэй, музыкі! Скажыце ўрэшце хоць што-небудзь!

Майрым устае, выходзіць на сярэдзіну пакоя, перакручвае шапку на левы бок, перакідвае крысо капоты цераз плячо.

МАЙРЫМ. Гэта я звузіўся. Госці, цішыня. Я раскажу вам дзівосную казку пра цара звяроў ільва, які вёў да хупы сваю дачку, удалую дачку.

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. Ша! Ціха! Майрымка будзе казку распавядаць.

МОЙША-ХАІМ. Каб ціха было! Ні слова не чуваць.

МАЙРЫМ. Калі цар звяроў леў меўся справіць вяселле сваёй дачцэ, ён запрасіў на свята ўсіх звяроў і птушак з цэлага лесу. Вяселле ён падрыхтаваў адпаведна царскае. Рыба і мяса – на любы густ, прысмакі – якія толькі бываюць. Усіх запрасіў цар на свята, толькі аднаго прапусціў – беднага ваўка, бо цару падказалі, нібыта воўк млее па царскай дачцэ, рэдкай красуні. Проста душою прыкіпеў. А ж не пасуе ільву, калі яго дачка пабярэцца не з наканаваным ёй жаніхом, таксама ільвом, царом і царовым сынам. А што робіць бедны воўк? Ён уздзеў чужую шкуру і таксама прыйшоў на вяселле. Выкацілі бочкі з гарэлкаю. За сталом для мужчынаў сядзяць ільвы, мядзведзі, леапарды і таго ж кшталту іншыя звяры. За сталом для жанчын сядзяць усе птушкі, сярод іх гусі, качкі, курка раба і квактуха, глушыца, кажаніцы і совы. Узнялі ільвы вялікія кубкі, распрасталі бароды і крычаць: “Лэхаім, сваты!” – Мядзведзі сядзяць у футрах, мачаюць мядовы пірог лэках у гарэлку і бурчаць: “Лэхаім табе, нявеста!” – Усе яны цешацца, весяляцца, нават козы, нават казлы, нават, даруй Божа, дзікі з балота. І нікога не абыходзіць воўк, што ціхенька сядзіць адзін у кутку, і яму, небараку, крыўдна і горка. Толькі адна спеўная птушка, салавейка, сядзела на галінцы ўся ў слязах і апявала няшчасную долю беднага ваўка. Ай-я-яй!.. Чаму няма справядлівасці на свеце?.. Чаму?

МОЙША-ХАІМ (*крычыць*). Гэта што за плявузганне?! Слова да слова, даруй Божа, не клеіцца.

МАЛАДЗЁН З ШАЎКОВАЙ ХУСЦІНКАЙ НА ШЫІ. Ды ён жа п’яны, не пра нас будзь сказана. Ён вечна п’яны!

МАЙРЫМ. Чакайце, чакайце! Зараз я ўжо буду з панскага балю. Я спяю вам песню нямецкага паэты Шылера, прыбліжанага да прускага караля. Гэта цудоўная песня з глыбокім сэнсам, павучальная для чалавека.

МОЙША-ХАІМ. А на якой мове? На нямецкай? На ашкенаскай? Каб мы зразумелі – добра?

ГОСЦІ. Ціха! Ша! Кабеты, дайце паслухаць!

МАЛАДЗЁН З ШАЎКОВАЙ ХУСЦІНКАЙ НА ШЫІ. Казалі, Майрым, што ты не грэбуеш зазірнуць у кубак са святымі грашыма ў сінагозе. Гэта праўда?

МАЙРЫМ. Песня называецца “Зэнзухт”, што па-нямецку значыць “туга”. То бок, чалавек тужыць. (*Пяе.*)

Ах, з даліны цяжкай стыні,
Што густы туман здушыў,
Здолеў выйсці я на волю –
І такі шчаслівы быў!

Вечна юны і зялёны
Ўстаў пагорак прада мной.
Я памкнуў, нібы на крылах,
На пагорак слаўны той.

Гук гармоніі пачуў я,
Цішыні нябеснай спеў.
Мне прынёс бальзам салодкі
Лёгкі ветрыку павеў.

МАЛАДЗЁН З ШАЎКОВАЙ ХУСЦІНКАЙ НА ШЫІ. Глыбока! Вельмі глыбока! Тут закладзены высокі сэнс.

МОЙША-ХАІМ. Малайчына!

НЕХТА З ГАСЦЕЙ. Што і казаць, ён прыроджаны артыст. Але ж пустапас!

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. Паны ведаюць, што такое зямная насалода!

МАЙРЫМ (*зноў сядаючы каля Бойтры*). Што можа нам памагчы, калі мы з ласкі Божай у палоне...

Бойтра страляе ў яго паглядам, пад якім Майрым сцінаецца.

МАГІЛЁЎСКІ РАБІН. Госцейкі, а цяпер жаніх пакажа, на што ён здатны. Каб пацешыць грамаду, жаніх скажа прыпавесць на важную тэму сённяшняга дня.

МОЙША-ХАІМ. Ну, жаніх, пакажы, што ты можаш!

АДНА З ЖАНЧЫН (*з-за жаночага стала*). Ён баіцца.

ДРУГАЯ ГОСЦЯ. А чаго ж вы хочаце, хлопец упершыню сярод чужых людзей.

МАЙРЫМ. Высакародны жаніх, рабін і гаон рэб Ёсэлэ, сын высакароднага рабіна і гаона рэб Ошэра, гарадскога суддзі са святой грамады магілёўскае, чытае ўрывак з Торы!

ГОСЦІ. Ша! Ціха! Дайце паслухаць!

ЁСЕЛЬКА (*нараспеў, як належыць пры чытанні Гемары*). Рувн сохар пасэсье... Рувім вёў гандлёвыя перамовы аб набыцці пэўнай маёмасці з асобаю пачэснаю, з памешчыкам, да прыкладу, Жаліхавецкім, маючы на ўвазе заключэнне кантракту на шэраг гадоў. Рувім арандаваў памянёную маёмасць у асобы пачэснае, у памешчыка, да прыкладу, Жаліхавецкага, па кантракце, як зазвычай прынята, на тры гады. Нехта Шыман займеў інтэрас да маёмасці асобы пачэснае ягамосці памешчыка, да прыкладу, Жаліхавецкага. І прыйшоў Шыман, і атрымаў свой інтэрас, пэўную маёмасць, у асобы пачэснае памешчыка ягамосці, да прыкладу, Жаліхавецкага...

ПЕРШЫ ДАЕН. Напой мядовы!

МОЙША-ХАІМ. Вось пабачыце, з яго неўзабаве вырасце сапраўдны муж гонару.

АДНА З ЖАНЧЫН. Ён будзе вялікім падрадчыкам з сотнямі тысячаў!

ЁСЕЛЬКА. І памянёны Шыман прэтэндуе, каб асоба пачэсная вырашыла канчаткова. І тады пайшла асоба пачэсная і мовіць: «Ці не выкажа дабрачынны Рувім згоду пацвердзіць, што не мае намеру карыстацца з пэўнай маёмасці надалей? Бо, паколькі я звязаны дамоваю, я гатовы заключыць з ягамосцем угоду аб вяртанні задатку, і я гатовы аддаць задатак і атрымаць адпаведны цэтлік». І адпаведны цэтлік атрыманы.

АДЗІН З ГАСЦЕЙ. Ай, таленавітае дзіця! Яно ўжо ведае, што трэба браць цэтлік.

МАГІЛЁЎСКІ РАБІН. Што казаць, мой Ёселька...

АДНА З ЖАНЧЫН. Ах! Голас Торы! Той голас, што расцякаецца маслам па сэрцы!

ЁСЕЛЬКА. Вэйгойсо бэйдотэйну – і тут узнікла ў нас патрэба, да прыкладу, у Бабруйску, каб ехаць у Бабруйск на кантракты, каб там заключыць кантракт. Дык якая будзе пастанова, гаспадары і панове: ці ма́е Шыман перавагу ў сферы дзейнасці перад Рувімам, ці не мае перавагі ў сферы дзейнасці Шыман перад Рувімам?

Нявеста плюецца. За жаночым сталом гэта заўважаюць. Жанчыны пачынаюць шушукацца.

ЖАНЧЫНА, АБВЕШАНАЯ ЎПРЫГОЖВАННЯМІ (*ціха*). Калі дзеўка ўжо заседзелася, дык якое з яе дабро?

УСЕ. Геній!

МОЙША-ХАІМ. Светлая галава!

ПЕРШЫ ДАЕН. Тут мы бачым сумяшчэнне Святога Вучэння з навукаю эканамічнаю.

БЯДНЯК, ЗАРОСЛЫ ВАЛОССЕМ (*у вакне*). Як бы гэта дабрацца да паштэту са шмальцам? Ён зверху пасыпаны такімі буйнымі гусінымі шкваркамі... Гэй, гаспадары, колькі можна чакаць, каб нарэшце паставілі хупу?!

Тут расчыняюцца дзверы, і ўваходзіць Зімаль-пісар з двума фурманамі. Фурманы закопчаныя, вывадзганыя ў сажы.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Га? Што? Лён? Ты глядзі... Ай!.. (*Хапаецца за галаву.*) Не гаварыце нічога! Не гаварыце! Я разумею, я разумею!

БЭЙЛЯ (*ламаючы рукі*). Ай! Лён?!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ (*крычыць.*) У мяне свята! Чаго вы прыперліся? Хто вас прасіў? Мне не трэба ільну! Мне не трэба нічога ніякага! Кацiся ты, Зімаль, разам са сваімі фурманамі! Прэч адгэтуль! (*Выштурхвае ўсіх траіх.*)

БОЙТРА. Ха-ха-ха!

Усе глядзяць на яго. Хвіліна замяшання.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Я не дапушчу трыумфу гвалтаўнікоў. У мяне сёння свята! Хоньча!.. Дзе Хоньча? Хай ён выкаціць у двор бочку гарэлкі для беднякоў. Бэйля! Станаві на стол срэбныя келіхі, фарфоравы посуд! Свята ў мяне ці не? Госці, чаго вы маўчыце? Лэхаім!

Ён хапае келіх і выпівае. Ніхто з гасцей не п’е.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Што такое? Я п’ю адзін? Чаму не граюць музыкі? Такое свята, такое свята! (*Прыкідваецца вясёлым.*) Мойша-Хаім, ты што? Памагай! (*Пяе.*) Гарахмон ганнкдаш! Моцны й міласэрны, узвысішся Ты ў свеце, благаславёны будзеш давеку. Так, як поўна чаша, поўным будзе наша благаславенне, Божа, Табе!

ГОСЦІ.

– Жах!

– Ну ж і вяселлейка!

– Штосьці сэрца шчыміць на нядобрае...

Памалу пачынаюць падпяваць.

УСЕ. Поўнае будзе наша благаславенне, Божа Міласэрны, Табе!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Жвавей, жвавей, весялей! Гілька, хадзем таньчыць! Гілька!

Абхоплівае Гілю-ліхвяра і спрабуе з ім таньчыць.

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. Пусці, Арон-Вольф! Адчапіся. У мяне, не пра цябе сказаўшы, гемарой!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Такое свята! Такое свята! (*Таньчыць адзін, падскокваючы, як казёл.*)

Ой, сваточак, гупанькі!
Ножанькамі тупанькі!
Ручанькамі ма́ханькі!
Роцікам смяяханькі!

РЫЖЫ КАРЧМАР (*у вакне*). Свіння, калі ты маеш грошы, будзь мне за свата! Скачыце, скачыце, пакуль у магілу не ўскочыце!

КАРЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ (*у вакне*). Кінь на вуголле блёкат-траву – будзе і ў чэрава, і ў галаву!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Што за навалач? Чаго карчмары на мяне ўз’еліся? Прэч адгэтуль, чортава семя! Хто іх упусціў у горад? Асэсар! Хоньча, каб табе чорны год на галаву! Дзе гэты лайдак прапаў? Ён жа павінен быў прыйсці на вяселле. Хоньча!

МАЛАДЗЁН З ШАЎКОВАЙ ХУСЦІНКАЙ НА ШЫІ. Карчмароў сапраўды наехала зашмат!

ЛЭМЭЛЭ ФУТ (*у вакне*). Хоньчы больш няма. Яму ўчора ноччу Бойтра галаву праламіў.

МОЙША-ХАІМ. Што ён гаворыць? Прэч адсюль, вырадак!

Стэра рэзка ўстае з нявесцінага месца, скідае вэлюм, распускае валасы.

ГОСЦІ. Ай! Што яна робіць!

ЖАНЧЫНА, АБВЕШАНАЯ ЎПРЫГОЖВАННЯМІ (*заломвае рукі*). Вочы баляць глядзець на такое! Што яна вычварае!

СТЭРА (*адыходзячы ад стала з галашэннем у поўнай цішыні*). Як жа мы з вамі размінуліся, мае гадочкі маладыя? Дзеля каго мушу я абстрыгчы вас, мае валасочкі? Пусціце мяне, сяброўкі, з нявесцінага месца! Я пакрыю попелам галаву маю!

Зорачкі, ў моры ўтапіце праменне,
Вал, біся ў бераг як дуж!
Ты ж мне даў слова, вернае слова –
Дзе ж ты схаваўся, мой муж?

Бойтра ўстае з месца, з сілаю б'е ў барабан і насоўваецца на гасцей. Усе падаюцца назад, глядзяць на Бойтру ашклелымі вачыма.

БОЙТРА. Досыць! Годзе! Вяселле вы згуляеце іншым разам! Марш! Аць-два, аць-два, асадзі назад!

СТЭРА. Вось жа ён!

НЕХТА З ГАСЦЕЙ. Ай! Бойтра!

Лэмэлэ Фут заскоквае ў пакой, накідвае на люстру мех, робіцца цёмна.

ГОЛАС. Хто патушыў святло?

ДРУГІ ГОЛАС. Дзе Бойтра? Дзе?

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Дзе ён? Што адбываецца? Ды я ў пыл яго сцяру! Дзе?!

ГОЛАС ГІЛІ-ЛІХВЯРА. Ай! Рабуюць! Ратуйце! Ратуйце!

ЖАНОЧЫ ГОЛАС. Мой арлеанскі жэмчуг! Гвалт! Людзі, гвалт!

З а с л о н а.

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Той самы пакой у доме старосты кагалу. Рабінскі суд і першыя гаспадары горада сядзяць за сталом, ходзяць па пакоі. Гіля-ліхвяр. Калман Гітчын. У кутку сядзяць музыкі. Рэб Арон-Вольф стаіць перад Святым Каўчэгам, бледны. За гэты час ён пасівеў. Зімаль-пісар сядзіць за сталом і ўзбоўтвае чарніла.

РАБІН (*ціха*). Суд абвясціў пост, служкі рабіна пайшлі па горадзе агледзець мезузы*. Што яшчэ можа суд?

МАЛАДЗЁН З ШАЎКОВАЙ ХУСЦІНКАЙ НА ШЫІ. Нядобра! Ох, нядобра! І дзе яна цяпер? У яго?

ЗІМАЛЬ-ПІСАР. Ша! Не кажыце.

МАЙРЫМ (*у другім кутку*). Але што мы маглі зрабіць? Ратавалі жыццё. Калі прыступаюцца з нажом да горла, не будзеш зухам.

МОЙША-ХАІМ. Я ведаю?.. Ну, міргнулі б, намякнулі б неяк...

МАЙРЫМ. Здаецца, і сляпы б мог усё заўважыць. Ці так сядзяць музыкі на вяселлях? У нас жа паджылкі трэсліся.

РАБІН. Ш-ш-ш... Ша! Вы што – не маглі не згадзіцца?

ЕКЕЛЬ. Клэзмеру так: хто яго кліча, таму ён грае. А вы думаеце, гранне заўсёды дае заробак? Аз ох ун вэй* на такі заробак! Сядзець перад анёлам смерці дый граць – вось што такое быць музыкам!

ШЭВАХ. Гораду відавочна, калі Шэвахаў барабан ёсць, а Шэваха няма, то вяселле ўжо – ніякае не вяселле. Я трыццаць пяць гадоў клэзмер-музыка.

БЭРКА. Вы што хацелі, каб мы галовамі налажыліся? За каго? Калі маё дзіцятка шкарлятына зваліла, хто мне дапамог?

ЗІМАЛЬ-ПІСАР. Ш-ш-ш... музыканцікі, крышку цішэй.

ГІЛЯ-ЛІХВЯР (*сядзіць і плача*). Мяне пусцілі ў адной кашулі. Куды пайсці, куды падацца? Разбойнікі! Забойцы! Каму я што зрабіў? Ці ж я калі муху на сцяне пакрыўдзіў?

КАЛМАН ГІТЧЫН (*ламаючы рукі*). Ай! Мая птушка! Арон-Вольфачка і Гілечка! Ён жа нас забіў. Ай, ай, ай!

РАБІН. Што гэта за гаворка такая, рэб Калман? Непрыгожа. (*Глядзіць на насценны гадзіннік.*) Час передвячэрняй малітвы блізка, а нешта простага люду не відаць. Сёння трэба спяваць псалмы ўсім разам. Яны, можа, думаюць, што бяда бліжняга – не іх бяда? А ты, Нохум, чаго гэтак сядзіш?

МАЛАДЗЁН З ШАЎКОВАЙ ХУСЦІНКАЙ НА ШЫІ. У мяне слабое сэрца, не пра вас будзь сказана. Праз папрокі я раблюся нечалавекам. (*Нешта вымае з кішэні і нюхае.*)

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Зімаль, абыдзі прыход, збяры просты люд. Трэба праспяваць псалмы ўсім разам. Цэлым горадам!

Зімаль ідзе, чапляе ўслончык, той падае.

УСЕ. Ай!

КАЛМАН ГІТЧЫН (*хапаецца за саромнае месца*). Дзе мой кашэль?

ЗІМАЛЬ-ПІСАР. Рэб Калман, нічога не здарылася – проста паваліўся ўслончык.

КАЛМАН ГІТЧЫН. Гліняны балван! Не глядзіць, куды пнецца! Вечна з пяром за вухам, варона безгаловая!

ЗІМАЛЬ-ПІСАР. Ой, мне ж яшчэ трэба сёння напісаць прашэнне. (*Выходзіць.*)

МОЙША-ХАІМ. Што ты зробіш з пісарчукамі! Альбо ён ератык, барані нас Усявышні, альбо поўнае боўдзіла.

ПЕРШЫ ДАЕН. Рэб Арон-Вольф, можа, вам варта яшчэ раз перамовіцца з асэсарам?

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Не ведаю.

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. Ай! І хто ж ад мяне толькі не меў – рамесніку трэба выкупіць штуку тавару, старызніку трэба ехаць на кірмаш, удаве трэба на суботу... І вось за ўсё ўзнагарода! Ай, ай, ай!

МОЙША-ХАІМ. Трэба давесці да толку хаця б справу з вяскоўцамі. Яны ж грозяцца спаліць увесь горад. Што скажаце, рэб Арон-Вольф?

Рэб Арон-Вольф маўчыць. Уваходзіць шавец Янкель. Ён без каптана, у фартуху. Спыняецца каля дзвярэй.

ЯНКЕЛЬ. Дабрыдзень, гаспадарове.

РАБІН. Праходзьце, Янкель. Сядайце о-тут-о. Перад бядою, з волі Божае, усе роўныя.

Янкель падыходзіць і сядае.

МОЙША-ХАІМ. А-яй! Ну й вяселлейка!

Расчыняюцца дзверы, і ўваходзяць людзі – і больш заможныя, і небагатыя. Тут і рамеснікі, і беднякі, і балаголы (Рахміел з пугаю). Усе пазіраюць на бледнага Арон-Вольфа, які здранцвелы стаіць перад Святым Каўчэгам.

РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ. Я зусім не маю часу. Мне трэ ехаць у Курэнічы, а я ні села ні пала павінен тырчэць тутака і спяваць псалмы.

РАБІН. Ш-ш-ш... Ша, грамада, без тлуму.

АДЗІН З ЛЮДЗЕЙ. Гавораць, Бойтра збіраецца ўзяць шлюб са Стэрай. Беднякі па ўсім горадзе рыхтуюцца да вяселля.

МОЙША-ХАІМ. Ш-ш-ш! хто ў вас пытаецца, пане-габрэю?

БЯДНЯК, ПЕРАПЭЦКАНЫ САЖАЙ. А што абыходзіць звычайных людзей? Ён не чапае іх, яны не чапаюць яго.

МОЙША-ХАІМ. Гэтак? А хто, Буня, будзе плаціць за цябе падаткі?

БЯДНЯК, ПЕРАПЭЦКАНЫ САЖАЙ. Падаткі-шманаткі! Нібыта гэта ты, Мойша-Хаім, плаціш за мяне падаткі!

ПЕРШЫ ДАЕН (*трымае стос псалмоў*). Ш-ш-ш! Не час, не час на такія спрэчкі. Сёння жалобны пост. На табе псалмы, Янкель.

РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ. Пляваў я на ваш пост! Мне ехаць трэба. Усё адно па горадзе ідзе пагалоска, што яна сама туды ўцякла, дык чым тут псалмы дапамогуць?

АДЗІН З ЗАМОЖНЫХ ГАСПАДАРОЎ. А цябе гэта, Рахміелка, ніякім бокам не тычыцца?

КАЛМАН ГІТЧЫН (*да Рахміела*). Злыдзень! Злодзей і бандыт!

РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ. Злы год на вашую галаву! Я ўсю ноч праляжаў звязаны праз вашых, між іншым, Калман, курэй. Ключвойт бачыў мяне.

ДАЕНЫ. Ш-ш-ш... Ша! Досыць! Спыніцеся! Жалобны пост! Зараз нешта скажа гарадскі рабін. Паклічце жанчын.

Зімаль адчыняе ўваходныя дзверы. Уваходзіць Бэйля з купкаю жанчын, завінутых у хусты. Яны становяцца ў кутку.

РАБІН (*перад Святым Каўчэгам*). Мойрэ вэйрабойсай! Гаспадарове! Надышлі цяжкія для габрэяў часы, часы прыгнёту і ганенняў. А ўсё праз што? А праз грахі народа Ізраіля. Бяда габрэям. Дзяцей косіць шкарлятына. Цяжарныя нараджаюць не ў час. Які ж вялікі грэх павінен ляжаць на абшчыне, калі выкрадаюць з-пад хупы дачку яе старосты! Калі гарыць лес, што будзе падлеску? Калі ў паважаных людзей засмылела, то што будзе звычайнаму чалавеку? Мойрэ вэйрабойсай, трэба прысягаць! Дзе такое чувана: крадзёж, рабаўніцтва і забойства. Па нашай акрузе ходзіць габрэй-душагуб. За якія грахі караеш ты нас, Цару Сусвету? Трэба паглядзець, ці ў сінагогах Кнігі Торы ў парадку, ці па ўсіх яны захоўваюцца правілах. Ці не таму так сталася, што маладыя людзі, прашу прабачэння, пачалі абуваць вастраносыя чаравікі і фарсяць у іх па вуліцах са сваімі харашухамі? Ці няма ў нашай грамадзе, барані Божа, нявернай жонкі? Адкажы, Божа, на жалобныя малітвы нашы, не пакідай нас у злыбядзе.

Жанчыны плачуць, мужчыны з ліку заможных гаспадароў таксама выціраюць вочы. Гарчэй за ўсіх галосіць Гіля-ліхвяр. Ён проста заходзіцца плачам.

ПЕРШЫ ДАЕН. Габрэі, бярыце псалмы.

РАБІН. Шчаслівыя тыя, што захоўваюць Запаветныя Сведчанні Яго, што ўсім сэрцам шукаюць Яго.

РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ. Не высмоктвайце сокі з бедняка, а там шалейце сабе, як хочаце!

РАБІН. І хай не чыняць яны ганьбы, але ходзяць пуцявінамі Яго.

РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ. Хай натрапіць вас у вашых бедах шчасце блаславення!

Жанчыны плачуць, гаспадары таксама выціраюць вочы, стаіць гблас. Немагчыма разабраць асобных словаў. Так доўжыцца некаторы час, пакуль рабін не цалуе заслону Святога Каўчэга і не адыходзіць.

РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ. Дык ужо можна ісці?

БЭЙЛЯ. Хай бы толькі Ўсявышні ўбачыў нашыя слёзы. Такое няшчасце! Не дзіця – багацце ў доме! Хай я мачыха – а таксама ж сэрца баліць.

АДЗІН З ГАСПАДАРОЎ. Ну ж і часы-часочкі!

Просты люд намерваецца пайсці, кагал і суд таксама.

ЗІМАЛЬ-ПІСАР (*грукае па стале*). Суддзі і нарада застаюцца на членаў кагалу!

МОЙША-ХАІМ. Як? Што сказаў гэты шлімазал?

ЗІМАЛЬ-ПІСАР. Я памыліўся, даруйце. Суд і кагал застаюцца на нараду.

Гаспадары, просты люд і музыкі моўчкі выходзяць.

МАЛАДЗЁН З ШАЎКОВАЙ ХУСЦІНКАЙ НА ШЫІ. Дык колькі ў нас там яшчэ... каб пасціцца? (*Нешта лічыць на пальцах і збіраецца выйсці.*)

РАБІН. Нохум, чаго ты спяшаешся? Заставайся на нараду. Мы будзем разам маліцца Ўсходу.

Кагал і суд сядаюць вакол стала ў тым самым парадку, што і ў першай сцэне. Маладзён з шаўковай хусцінкай на шыі далучаецца да іх. Рэб Арон-Вольф займае старшыньскае месца. Усе маўчаць.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Што на думку кагалу трэба рабіць?

Усе маўчаць.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Кагалу варта было б сёння паслаць вяскоўцам хлеба. Па чутках, яны галадаюць. Сваё дабро з Божай дапамогай пражэрлі і праждукцілі ў першыя некалькі дзён... Рэбэ, страшна сказаць, трэба нешта рабіць, а я сіл не маю... Відаць, лекар Менахем мусіць узяць з сабою банькі і пайсці да іх памагаць хворым. (*Уздыхае.*) У нас, на бяду, не асэсар, а ябеднік і п'яніца. Я пытаюся ў вас, кагал згодны з маёй думкай?

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. Кагал згодны.

КАЛМАН ГІТЧЫН. Кагал згодны.

Рабін нахіляецца да даенаў, яны ціха гавораць, раюцца між сабою.

РАБІН. Суд параіўся і згадзіўся з думкаю старосты кагалу.

Бязгучна расчыняюцца дзверы, і ўваходзіць Бойтра. За ім – Лэмэлэ Фут. Ніхто з членаў кагалу іх не заўважае. Бойтра ідзе наўпрост да стала і сядае.

БОЙТРА. Вечар добры!

УСЕ. Ай!

БОЙТРА. Я прыйшоў запрасіць шаноўны кагал і высокі суд на сваё вяселле ў Крэўскім лесе. Гэта будзе вялікае вяселле. У госці запрошаныя ўсе вяскоўцы. Усе бедныкі прыйдуць на свята, на салдацкае вяселле. Кагал і суд мусяць там быць. Рэб Калман, я дам вам гуску. Смажаную. (*Устае з-за стала, накіроўваецца да дзвярэй.*)

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ (*апрытомнеўшы*). Блюзнер! Крадзяжом і разбоем хочаш ты атрымаць месца пад сонцам? Пабачыш, захлынешся ты крывёю!

БОЙТРА. Крадзяжом і разбоем... Я?.. Арон-Вольф, паглядзіце на мяне! Кагал і суд, падніміце вочы, зірніце на мяне... Вы нікога не забівалі, ніводнага чалавека? А я – хто?

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Ты – бездань бедаў. Ідзе на тое, што габрэяў звядуць са свету. Вада па самыя ноздры ўжо, а ты – костка ад косткі нашай, кроў ад крыві нашай – прыходзіш у такі час помсціць габрэям? Цябе зусім не кранае, што тысячы ўдоваў і сіротаў бадзяюцца без страхі над галавою, што ўжо месца бракуе на кладах, каб хаваць памерлых? Май жа літасць – не да нас, але да тысячаў зжабрачаных і гнаных, якія, нябогі, мусяць звяртацца да нас па дапамогу!

БОЙТРА. Не вы, харты, не вы! Гэта я, Хаім Бойтра, прыму хворых і бедных. Я! Я буду карміць усю іхнюю грамаду.

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Дзеля іх Бойтра расчыніць багацейскія клеці. Ён апране беднякоў у сабаліныя футры, сіротаў – у аксаміт. А вас ён пусціць агнём. Мы пусцім чырвонага пеўня па ўсім свеце, каб і вы ўведалі, як прападаюць з голаду!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Мір! Габрэям цяпер трэба мір. Хаім, на нас жа на ўсіх цяпер наваліўся цар.

БОЙТРА. Мір?! Вось вам мір – вы прыйдзеце на вяселле Бойтры з дачкой старосты кагалу.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Забойца!

Ён кідаецца на Бойтру і хапае яго за горла. Бойтра абхоплівае яго і перакульвае на зямлю. Арон-Вольф застаецца ляжаць. Спалоханыя члены кагалу туляцца адзін да аднаго. Бойтра падыходзіць да стала і сядае на старостава месца.

БОЙТРА. Цяпер я староста кагалу!

ЛЭМЭЛЭ ФУТ (*стукнуўшы па стале*). Калі дзе ёсць катаваны хлапец – хай прыйдзе сюды, мы адпомсцім за яго. Калі ёсць дзе ўдава, хворы, карослівы – хай прыйдуць. Мы вылечым іх.

БОЙТРА. Кагал згодны са словамі старосты?

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Кагал згодны!

ПЕРШЫ ДАЕН (*у стрбху*). Усё так, усё так, згодны! Канечне!

ЧЛЕНЫ КАГАЛУ. Кагал згодны!

Бойтра хапае маладзёна з шаўковай хусцінкай на шыі і здымае з яго пальца залаты пярсцёнак.

БОЙТРА. Нявесце на шлюб!

Расчыняюцца дзверы справа, і з'яўляецца першы хлопец з вялікай горкай срэбнага посуду.

ПЕРШЫ ХЛАПЕЦ. Беднякам, каб елі на срэбры.

З левых дзвярэй з'яўляецца Мэлка з вялікай скрынкай, поўнай фарфору.

МЭЛКА. Хай вяскоўцы п'юць акавіту з фарфоравых кубкаў!

ПЕРШЫ ХЛОПЕЦ. Хаім, загадай занесці ў кагальную хроніку, што пекарства – гэта адмысловая прафесія.

БОЙТРА. Справядліва. Зімаль, запішы ў хроніку, што пекарства – гэта адмысловая прафесія.

Зімаль у страху пазірае на яго і піша.

БОЙТРА (*да першага хлопца*). Забяры гэты гадзіннік (*Той здымае гадзіннік са сцяны*), кагальную хроніку (*хлопец бярэ са стала хроніку*),

гусіныя пёры (*хлопец забірае ў Зімаля пёры*) і Зімаля-пісарчука таксама. Ён будзе апісваць вяселле. Бойтрава вяселле.

Бойтра са сваімі людзьмі выходзіць, на сцэне мёртвая цішыня. Арон-Вольф крыху прыўзнімаецца, застаецца сядзець на падлозе, абняўшы рукамі калені.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. І быў у зямлі Уц чалавек іменем Іоў. І быў той чалавек беззаганны душою, справядлівы і богабоязны і адцураўся зла. І нарадзіліся ў яго сямёра сыноў і трое дачок. І было жывёлы ў яго сем тысяч галоў дробнае і тры тысячы вярблюдаў... (*Замаўкае і некаторы час сядзіць моўчкі. Раптам ускоквае.*) Я вырву яе з паганых рук! Футра мне! (*Крычыць у другі пакой.*) Бэйля, дай мне футра!

З а с л о н а.

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Той самы лес, што ў другой карціне. Сядзяць Бойтра і пекарчукі. Вечар.

МЭЛКА. Па ўсёй акрузе беднякі шукаюць, дзе правіцца вяселле. Прычым не толькі ў Крэўскім лесе – шмат хто падаўся ў Заскевіцкі лес да смалярняў. Яны гатовыя пайсці і яшчэ далей. (*Смяецца.*)

ДРУГІ ХЛОПЕЦ. Яно то цяжка сказаць, дзе, але хто шукае, той знойдзе. Дый хто куды ні прыйдзе, усё адно трапіць да сваіх – паўсюль жабрак на жабраку.

БОЙТРА. Дзе Лэмэлэ Фут?

МЭЛКА. У карчмароў.

Набліжаюцца беднякі, вяскоўцы. Яны ідуць міма па дарозе, спыняюцца.

БЯДНЯК, ЗАРОСЛЫ ВАЛОССЕМ. Хлопцы, ці вы не ведаеце, дзе тут Бойтрава вяселле?

МЭЛКА. Ідзіце туды, далей, да ручая.

ПЕРШЫ БЕДНЯК. Да ручая? І ўжо там?

ДРУГІ БЯДНЯК. Я чуў, нібыта кагал цяпер пераходзіць да бедных людзей. Бойтра, кажуць, ужо староста.

БЯДНЯК З ПЕРАВЯЗАНАЙ ШЧАКОЙ. Гаварылі, нібыта сёлета Бойтра здае ў рэкруты багацея. Гэта праўда? Нешта не верыцца...

ДРУГІ БЯДНЯК. Гэта праўда. Сёлета, кажуць, ён здае Нохума. Бойтра адабраў у яго заручальны пярсцёнак, а самога абяцаў здаць у рэкруты.

ПЕРШАЯ ЖАНЧЫНА. Казалі, ён павядзе вяскоўцаў на Валынь. Ён ведае дарогу.

ДРУГІ БЯДНЯК. Святы наш настаўнік Майсей!

ПЕРШЫ БЯДНЯК (*з іроніяй*). Добры настаўнік Майсей, якога ніхто ў вочы не бачыў!

БЯДНЯК З ПЕРАВЯЗАНАЙ ШЧАКОЙ. А што кажуць пра вяселле?

БЯДНЯК, ЗАРОСЛЫ ВАЛОССЕМ. Ходзіць пагалоска, што беднякі атрымаюць па цэлай гусцы на брата, а пасля кожнаму дадуць локшынаў ад пуза. А тады дадуць яшчэ па талерцы маркоўнага цымусу. (*Аблізваецца.*)

БЯДНЯК З ПЕРАВЯЗАНАЙ ШЧАКОЙ. Жабраччо! Трэба ж быць людзьмі!

ПЕРШАЯ ЖАНЧЫНА. Стэрка, кажуць, будзе раздаваць арэхі і разынкі. Усім...

ДРУГІ ХЛОПЕЦ. Ды куды вы йдзяцё? Не туды, правей!

Беднякі і хлопцы адыходзяць. Бойтра застаецца сядзець на лаве. Цямнее. Бойтра спявае старую салдацкую песню мікалаеўскіх часоў на журботны манер (“Салдатушкі, бравы рабятушкі”). У гэты час са смалярні выходзіць Стэра. Яна сядае поруч з Бойтрам.

СТЭРА. Ты і пасля вяселля хочаш застацца жыць у смалярні?
БОЙТРА. Хачу.
СТЭРА. Ты баішся жыць у горадзе? Ты хочаш, каб была справядлівасць? Каб людзей не хапалі жывасілам і не чынілі ім гвалту? Мяне хацелі аддаць замуж гвалтам. У свеце дзяўчатам рукі цалуюць. Ім усміхаюцца і абыходзяцца з імі вытанчана, высакародна... Чаго ты такі пахмурны? Некалі ж ты быў вясёлы, таньчыў і спяваў.
БОЙТРА. Спяваў.
СТЭРА. Усміхніся! Засмейся! Ну ж! Ты ж жаніх!
БОЙТРА (*усміхнуўшыся*). У цябе рабацінкі на носе.
СТЭРА (*узрадавана*). Гэта нічога. Рабацінкі сыдуць. Я буду абмываць твар вадою з расталага граду. Гэта памагае.

Бойтра смяецца.

СТЭРА. Два тыдні таму быў град. Дык Бэйля мне і кажа: “Ідзі хутчэй абмый сваё рабацінне!” А я не захацела. Хай яму, жаніху майму, дастанецца нявеста з рабацінкамі! Яму і так падабаецца. Ха-ха-ха! (*Туліцца да Бойтры.*) Ты такі харошы... А можа, на Валынь? Там, кажуць, новазаселеная зямля, ніхто нікога не ведае.
БОЙТРА. На Валынь? Не цяпер. Пабуду тут. Там, у нізіне, – горад. Ён больш не павінны існаваць на белым свеце. Ён зарасце травою. Аніводная фурманка не пад’едзе да былога горада. Дзецюкі шнырацць па акрузе, і ў горадзе ноччу не паляць агнёў, баяцца Бойтры...

Стэра маўчыць.

БОЙТРА. У мяне о-тут-о, у сярэдзіне, нешта тупое, цяжкае, цёмнае... О! Горкае я дзіця! Хай толькі пагусцее цемра! Я закую ў кайданы людзей з кагалу і спалю іх у вогнішчы. Багацеі будуць ляжаць звязаныя пад сталамі. Я зламлю замкі – хай беднякі забяруць усё. Я парву Кнігі Торы. Я зраблю так, што яны ўсе бегма пабягуць у рэкруты, ратуючыся ад Бойтры, ад мяне!
СТЭРА. Ты – праўда – не вінаваты.
БОЙТРА. Табе не трэба было ісці са мною. Ты – дачка старосты. Ішла б ты лепей дадому.
СТЭРА. Што? Дадому! Куды? (*Уздрыгвае.*) Да магілёўскага атожылка, асобы пачэснае?! Слізкі слімак! (*Закрывае твар рукамі.*)

Бойтра падымаецца, ідзе ў смалярню. Стэра застаецца сядзець у здранцвенні.

СТЭРА. Гэта – не ён. Не, не ён! Ён ненавідзіць людзей. Яны атруцілі яго (*плача*). Яму трэба бегчы адгэтуль. Ён мусіць уцякаць на Валынь. І я з ім. Там, напэўна, жывуць хто як хоча...

Бойтра выходзіць са смалярні са скруткам, разгортвае яго, раскладвае на зямлі залачоныя чаравічкі, прыгожыя штучкі, шаўковыя рэчы.

БОЙТРА (*усміхаючыся*). Твой пасаг да вяселля.

СТЭРА. Добра, што ты пераняў фуры. Нашто мне гэта? На такім вяселлі, як будзе ў нас, усё гэта непатрэбна... Ты – вялікі герой. (*Штурхае рэчы нагой, ускоквае.*) Хадзем. Можа, ты здалееш стаць інакшым? Будзь весялейшы. Ты ж заўсёды смяяўся. Хадзем танцаваць! (*Абдымае яго і спрабуе з ім танцаваць.*)

БОЙТРА. Я не магу!

Стэра падае на лаву і плача. Яе плечы ўздрыгваюць. Бойтра стаіць воддаль і глядзіць, потым падыходзіць і садзіцца каля яе. Ён цалуе валасы дзяўчыны. Яна памалу супакойваецца, узнімае галаву і абапіраецца аб яго плячо, абдымае і цалуе Бойтру.

СТЭРА. Давай паедзем на Валынь. Ты не такі, як усе тут. У нас будзе свой бровар. Ты будзеш гандляваць ільном. Ты будзеш ездзіць да паноў у брычцы, на тройцы коней. Я буду ездзіць з табою, як звычайна робяць пані. У нас у доме будзе не так, як заведзена ў габрэяў, але як у падрадчыкаў. Ты ўмееш гаварыць па-маскальску...

Бойтра паблажліва ўсміхаецца.

СТЭРА. Праўда ж? Да нас будзе заязджаць спраўнік. Мы будзем ездзіць на панскія балі. Ты будзеш сядзець з панамі і гутарыць пра справы, я буду танцаваць паланэз. Будзе хораша, праўда? Пабачыш... Ты ведаеш, як танцуюць паланэз? Трэба ўзяцца за кончыкі пальцаў вось гэтак! І – лёгка, лёгка!..

Стэра напявае паланэз і танцуе. Яна напоўніцу захоплена танцам. Бойтра напружана ўглядаецца ў яе. Яна стомлена падае на лаву і ўсміхаецца. Бойтра абдымае яе.

БОЙТРА. Ну чаму ты – старостава дачка? Чаму ты не бедная дзяўчынка з вулак слабодкі, што носіць дамоў ваду на каромыслі? Ёй баляць плечы – і яна бліжэйшая мне. Ты гаворыш, а мне цяжка зразумець, што ты гаворыш. Ты падобная да паненкі, што глядзіць праз вакно на кветкі ў садзе, і трэба спыніцца і высока ўзняць галаву, каб зірнуць на яе. І грызе вось тут, і так і цягне да яе... (*Цалуе Стэру.*) Да цябе... Стэрка.

СТЭРА. Не ўцямлю, ты любіш мяне ці ненавідзіш майго бацьку...

БОЙТРА. І тое, і тое.

СТЭРА. Нам трэба ўцякаць адгэтуль, Хаім! Лэмэлэ расказваў, як салдаты ўначы абкружылі смалярню, што каля Чорнага гасцінца, і разнеслі яе на друз. Яны могуць дабрацца і сюды. Хаім, здабудзь каня, і мы паедзем. Ідзі, пашукай каня, ты ж можаш!

У лесе чуюцца крыкі. Бягуць людзі. Чуваць галасы вяскоўцаў.

СТЭРА. Ай! (*Завінаецца ў хусту.*)

ГАЛАСЫ ВЯСКОЎЦАЎ:

– Іх забіваюць, а вы маўчыце!..

– На смерць!

– Што вы робіце?! Не чапайце рабіна! Вам месца не будзе ні на тым, ні на гэтым свеце! Ратуйце! Ратуйце!

На сцэну ўбягаюць члены кагалу і суда, растрапаныя, у парваным адзенні. Гіля-ліхвяр і першы даен скрываўленыя. Стэра бачыць Арон-Вольфа, крычыць і ўцякае ў смалярню.

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. Ратуйце! Гэтыя вяскоўцы – яны хочуць нас пазабіваць! Ратуйце!

КАЛМАН ГІТЧЫН. Арон-Вольфка! Арон-Вольфка! Ты нас завёў у магілу!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Твая праўда, Калман. Я, відаць, з глузду з'ехаў.

Абодва заўважаюць Бойтру і дранцвеюць. Улятаюць вяскоўцы з кіямі і камянямі ў руках. Разам з імі з'яўляецца Лэмэлэ Фут.

ВЫСОКІ КАРЧМАР. У нас дзеці ў дол сыходзяць, а яны хочуць жыць у новых дамах?

КАРЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ. Бі! Канчай іх! Бі!

Вяскоўцы заўважаюць Бойтру і сціхаюць.

БОЙТРА. Што такое?

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Навакольная галота рыхтуецца да вяселля. Вакол Крэўскай смалярні людзей кішма кішыць. Раптам з'явіўся кагал і прывёз хлеб для галодных. Вяскоўцы накінуліся на іх. Я іх ледзьве адратаваў і прывёў сюды.

БОЙТРА (*да вяскоўцаў*). Ідзіце!

Вяскоўцы моўчкі разыходзяцца.

ПЕРШЫ ДАЕН. Што робіцца: б'юць даена! Гэта нечувана! Чым кагал вінаваты, што, даруй і ратуй нас Божа, ідуць ганенні на габрэяў?

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Хаім, мы прыйшлі на вяселле. Кагал вінаваты, я вінаваты, я саграшыў супроць цябе. Ты правільна зрабіў, што спаліў мой лён, што разарыў мяне. Я варты таго. Кагал хоча даць табе здавальненне. Я, са свайго боку, згодны пайсці на твой шлюб з маёю дачкой Стэрай. Жыві з ёю, колькі Бог дасць веку. А ў прыданае – тысяча срэбных залатовак. Якія я хацеў даць магілёўскаму рабіну. Усё гэта я дам табе на рукі, калі ты маеш намер збудаваць з маёй дачкой дом Ізраілеў. Кагал прыпіша цябе – і тым змые пляму, якою збрыдзіў цябе, чынячы зло табе.

ГІЛЯ-ЛІХВЯР. Але пры ўмове, што ты вернеш мае грошы (*плача*), маю кроў, плён маёй горкае працы! Бог табе гэтага не даруе!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Гіля, спыніся! Усё мінецца.

БОЙТРА. Няма больш ніякага кагалу! Я – кагал. І мне не трэба здавальнення ад кагалу.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Ты атрымаеш на рукі тысячу сярэбраных залатовак (*вымае капшук з грашыма, але Бойтра не кранаецца з месца*). І ты атрымаеш сведчанне, замацаванае подпісамі і пячаткамі кагалу і суда, што абшчына бярэ на сябе ўвесь цяжар па абароне ад зладзейскіх рук цябе, і тваіх дзяцей, і дзяцей тваіх дзяцей.

РАБІН. Перад тым, хто раскаяўся, ніколі не зачыняюцца вароты міласэрнасці. Самым беззаганным святым не дасягнуць той вышыні, на якую ўздымаецца грэшнік, што раскаяўся. Мудрэц Талмуда Рэйш Локіш быў таксама некалі разбойнікам.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Хто разбойнік? Тут няма ніякіх разбойнікаў!

Са смалярні выходзіць Стэра. Яна спыняецца перад старостам кагалу. Цяжка дыхае. Рэб Арон-Вольф дрыжыць, выцірае слязу.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Дачка мая Стэра, я прыйшоў на тваё вяселле, хоць ты мяне й не запрашала.

СТЭРА. Ты прыйшоў на маё вяселле, а дзе ж цётухна Бэйля?

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Яна захварэла, дачушка, з гора захварэла. Даруй мне, я грэшны перад табою, дачка мая. Я вінаваты. Я – злачынца. Але я хачу змыць свае грахі перад вамі. Віно і гарэлка ў нашым доме яшчэ некранутыя, стравы яшчэ ў печы. Я хачу паставіць сталы і для бедных людзей. Я хачу прынесці ахвяраванні на ўсе парогі, толькі былі б дараваныя віны мае.

СТЭРА. Тата, дамоў я не пайду. (*Паказвае на Бойтру.*) Я такая самая, як ён. Вы яшчэ пабачыце! Мы яшчэ зажывем у вялікіх гарадах, будзем хадзіць па тэатрах, ездзіць на конях. (*Горача.*) Пачакайце, некалі мы вам пакажам (*выстаўляе бацьку кулак левай рукі*).

УСЕ. Ай!

ЛЭМЭЛЭ ФУТ (*раптам засмяяўшыся*). Што ты на гэта скажаш!

СТЭРА. Мы яшчэ вам адплацім. Вы – дробныя гідкія жывёліны! Вы носіце сырамятныя штаны з дзеравяшкамі замест гузікаў, а зверху апранаеце па тры футраныя каптаны. Фэ! Агідныя габрэйчыкі! Вось ён гандлюе курамі – колькі чорных год можна гандляваць курамі?! А вось гэты пазычае грошы напавер усім памешчыкам, сам жа ходзіць без кашулі. Цьфу на вас! Яны хацелі аддаць мяне за сына магілёўскага рабіна. Дайце мне сюды гэтага смаркача, я яго ў балоце ўтаплю! На смерць! (*Да бацькі.*) Ты што сабе думаеш? Ты ж наклікаеш праклёны на сябе і на ўсіх нас!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ (*закрываючы твар рукамі*). Твая праўда, дачка, твая праўда. Калі на мяне абрынаецца кара, значыць, я вінаваты. Я, Арон-Вольф, староста кагалу, саграшыў супраць вас. І я хачу ачысціцца ад граху. Я рады, што ўсё сталася так. Я рады, што ты знайшла свайго суджанага. У добры час, дачушка! Я апавяшчу ўсе абшчыны, што Арон-Вольф-староста аддае дачку за Бойтру і прымае яго як роднага сына, каб свет зрабіў выснову.

БОЙТРА. Лэмэлэ, вядзі кагал і суд у смалярню.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Хадземце, члены кагалу, суд, хадземце. (*Ідуць.*)

РАБІН. Хай будзе шчаслівая доля! І хай ужо спыняцца беды і няшчасці народа Ізраілевага!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. У добры час! У добры час!

Лэмэлэ Фут, кагал і суд ідуць у смалярню. Сонца заходзіць. Бойтра стаіць на месцы. Стэра ля яго як прывязаная.

СТЭРА. Ты такі дужы! Кагал змушаны табе паддацца... Мне трэ прыбрацца да вяселля ў новыя строі. Мы згуляем вялікае, панскае вяселле!

БОЙТРА. Панскае.

Лэмэлэ Фут выходзіць са смалярні з глякам гарэлкі і закуссю, ставіць на дол. Цямнее.

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Возьмем па кропельцы. Сёння твая апошняя халасцяцкая ноч.

БОЙТРА (*да Стэры*). Хочаш выпіць глыток?

СТЭРА. Хачу.

Усе трое садзяцца на зямлю і выпіваюць.

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. А будзе цікава?
БОЙТРА. Будзе.
ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Ты нешта задумаў?
БОЙТРА. Ага.
ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Вось гэта папрацавана! Вось гэта я разумею!
БОЙТРА. Ага ж.
ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Уся акруга скаланецца.
БОЙТРА. Скаланецца!
СТЭРА (*устае*). Мне боязна з вамі тут сядзець.

Стэра ціха адыходзіць і абапіраецца на дрэва. Вельмі цёмна. У змроку свеціцца толькі яе сукенка, як бледная пляма.

ЛЭМЭЛЭ ФУТ (*ціха*). От шалёная дзеўка! Усё адно як ейны бацька. Чаго яна хоча?

Паўза.

БОЙТРА. Ужо справім мы вяселлейка, Арон-Вольф!
ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Ха-ха-ха!

Бойтра пачынае ціхенька спяваць, Лэмэлэ падцягвае:

Дарогі спяць, і спіць увесь абшар,
Халопы і вяльможы.
Ды ў Крэўскім лесе птушак будзіць крык –
Гукае Бойтра: “Божа!”
Ідзе ён праз начы жуду і змрок,
А на душы гаркота.
Бядноце хоча ён дапамагчы,
Удовам і сіротам.
Без жалю рэжа Бойтраў востры нож
Паскуднікаў з кагалу.
Ды сэрца ты мне, Стэра, хараством
Вастрэй за нож працяла.

З а с л о н а.

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

Вяселле ў смалярні ў Крэўскім лесе. Стольніцы пакладзеныя на смаляныя бочкі. Абрусаў няма. На голых дошках сталоў фарфоравыя кубкі, сярэбраны посуд. Над гарачым уздымаецца пара. На сцэне бітком вяскоўцаў, пекарчукоў, гарадскіх беднякоў. Тут жа і кагал. Суд сядзіць за асобным сталом. На пачэсным месцы Бойтра і Стэра. У куце – музыкі.

БЯДНЯК, ЗАРОСЛЫ ВАЛОССЕМ (*увесь час аблізваючыся*). Дайце яшчэ! Што за смаката! Гусі плаваюць у лоі... Бойтра, дай яшчэ! Мы адгрызем табе галаву!

КАРЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ. Тое, што правяць вячэру перад купаю, добра. Будзем есці і піць, покі не лопнем. І гэта добра.

БЯДНЯК, ЗАРОСЛЫ ВАЛОССЕМ. А музыкі павінны граць найвесялейшыя штучкі. Людзі сцвярджаюць, што пад музыку есці лепей! Мы будзем сёння есці ды есці. Тут столькі ўсяго! Гэй, “Фрэйлахс”, “Весялуху”! Музыканцікі, вы чуеце ці не? Галадранцы сёння самыя важныя госці!

БЯДНЯК З ПЕРАВЯЗАНАЙ ШЧАКОЙ. Не хапайце, ліха на вас! Гэта ляжыць у маёй талерцы!

ВЯСКОВЕЦ З КАЗІНАЙ БАРОДКАЙ. Жаніх, галота крадзе сярэбраныя лыжкі!

БЯДНЯК З ПЕРАВЯЗАНАЙ ШЧАКОЙ (*з кавалкам гусяціны ў руцэ*). Ша, ліха на вас! Вы ў Бойтры на вяселлі ці дзе?

МАЛЕНЬКІ РОСТАМ ВЯСКОВЕЦ. Гэта не Бойтрава вяселле! Гэта нашае ўсіхнае вяселле!

БЯДНЯК, ЗАРОСЛЫ ВАЛОССЕМ. Бойтра бярэцца са старостам. Кагал бярэ яго на ўтрыманне. Гэта нашае свята! Дайце яшчэ! Мне яшчэ паўгускі. А тады я буду есці канфіцюр... Жаніх, музыкі будуць граць ці не? Калі не будзе музыкі, дык мы зусім сыдзем прэч!

БЯДНЯК З ПЕРАВЯЗАНАЙ ШЧАКОЙ. Кабетка, не ешце рукамі.

ПЕРШАЯ ЖАНЧЫНА. Мае рукі чысцейшыя за твой гнілазубы рот, валацуга!

ДРУГАЯ ЖАНЧЫНА. Сербаніце юшкі. Юшка – пальчыкі абліжаш!

ПЕРШАЯ ЖАНЧЫНА. Глядзі, як Стэрка сёння начыпурылася: як пані!

ДРУГАЯ ЖАНЧЫНА. Гэта тое ўбранне, што ён украў.

ГАЛАСЫ З ЛЕСУ:

– Хадзем-хадзем, ісці яшчэ цэлую мілю!

– Гэта тут Бойтрава вяселле? Тут? Дык пусціце!

– А я вам кажу, хадзем у Заскевіцкі лес!

– Хадзем, гэта не тут, хадзем!

– Злыдні, пусціце!

БЯДНЯК, ЗАРОСЛЫ ВАЛОССЕМ. Ах, што за хараство! Фаршыраваныя шыйкі... Я слінаю сыду. Я буду есці, хоць здохну, а канфіцюр пакіну на потым.

БЯДНЯК З ПЕРАВЯЗАНАЙ ШЧАКОЙ (*спалохана*). О, горачка! Болей не лезе. Трэба выйсці на двор. Мне трэба на хвілінку на двор! (*Бяжыць у лес.*)

КАРЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ. Жаніх, падай акавіту! Звычайную гарэлку мы п’ямо цэлы год. Сёння хочацца крыху мацнейшай!

РЫЖЫ КАРЧМАР. Зрэшты, а чаму вы маўчыце? Вось жа яны сядзяць. (*Паказвае ў бок кагалу.*) Што? Мы іх выпусцім адсюль жывымі? Кагальскія клеці...

ВЫСОКІ КАРЧМАР. Калі хто людзі, то яны не маўчаць. Але ж карчмары – быдла!

Бойтра зіркае на рыжага карчмара.

БОЙТРА. Ты, рыжы!

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Колькі цяпер часу? Нешта гадзіннік як спыніўся...

БЯДНЯК, ЗАРОСЛЫ ВАЛОССЕМ. Ах, як есца! Ах, як жа есца! Каб я так жыў! А міхае! Асалода! Сваце, хай вам Усявышні так чыніць, каб вы мелі радасць ад вашае дачкі і нават ад Бойтры! Але чаму не граюць музыкі? Пад музыку ж лепей есці.

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Музыкі, грайце!

БЕДНЯКІ. “Фрэйлахс!” “Весялуху”!

Музыкі ўдараюць “Фрэйлахс”.

БОЙТРА. Не грайце “Весялуху”! Мне не хочацца яе чуць!

Музыкі спыняюць гранне. Робіцца ціха. Раптам глыбока ў лесе ўсчынаецца шум. За сталом, дзе сядзяць кагал і суд, усе ўздымаюцца з месцаў. Рэб Арон-Вольф падскоквае. На сцэне поўная цішыня. Беднякі таксама перастаюць есці.

ГОЛАС БЕДНЯКА З ПЕРАВЯЗАНАЙ ШЧАКОЙ. Пусціце, гэта я! Жаніх, я зноў магу есці, прапусціце мяне хутчэй!

КАЛМАН ГІТЧЫН. Ён звар’яцеў! Арон-Вольф, ён звар’яцеў!

БЯДНЯК, ЗАРОСЛЫ ВАЛОССЕМ (*п’янавата*). Вось гэта вяселле! Вось гэта я разумею! Кабеткі, пацалуймася.

ПЕРШАЯ ЖАНЧЫНА. Ідзі прэч, мачалка! Таксама мне – чалавек!

ДРУГАЯ ЖАНЧЫНА. Зусім сорам страціў. Тут сядзяць паважаныя людзі, гаспадары і рабін.

Бядняк, зарослы валоссем, зарагатаў. Ён спрабуе заспяваць п’яным голасам і пстрыкае пальцамі. Здаля, з-за лесу, далятае гук вайсковых барабанаў. Лэмэлэ Фут выбягае са смалярні. Хвіліну пануе цішыня. Уваходзіць Рахміел-балагол, святочна апрануты, але з пугай. Стук барабанаў сціхае.

РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ. Я прывёз воз галоты з бабамі і дзецьмі. Ноч блізка. На Чорным гасцінцы поўна людзей. Віншую, жаніх. Мазл тов! (*Цалуецца з Бойтрам.*) Мазл тов, нявестухна! Што? Едзем на Валынь? Ну, калі так дык так! Беднякі зробяцца сялянамі, годзе бедаваць, канечне, годзе! Я таксама паеду. Рахміел-балагол з усімі. Сваё царства. Чаму не?

БОЙТРА. Сядай, Рахміел, сядай.

РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ. Ах, калі б твой тата Ісроэл жыў цяпер, от радаваўся б! Якая веліч: а быў жа звычайны балаголаў сын, ці не так? Такі павядзеш просты люд на Валынь? Цар! Бядняцкі цар. Ось гэта я разумею! Годзе гарбець на багацеяў. Ужо, дзякуй Богу, сытыя па горла. Хай бядняк папрацуе на сябе самога. Ці ж не так? Як прарок сказаў: воўк з ваўком, а авечка з авечкаю...

КАЛМАН ГІТЧЫН (*да суда*). Пш-ш-ш... вялікі знаўца! Ах ты, балагол – сын балаголаў...

РАХМІЕЛ-БАЛАГОЛ. Лэхаім, габрэі! За жыццё! Канец гору, ці ж не так? Хай жа будзе весела! Танцуйма ўсе! (*Падкасвае капоту, танцуе.*) Майрым, “Казу!” Спявай! “Бедную казу”. Людцы, ідуць часы Месіі! Ну! Людцы! “Прыйдзе каза да воза, прыйдзе каза да воза!”

УСЕ. Прыйдзе каза да воза! Прыйдзе каза да воза!

Майрым апранае кажух на левы бок.

МАЙРЫМ (*пяе*).

Гэх, каза,
йітойш – страказа,
ёгойн ваанбхо – голад і бяда,
лэхэм – крошкі хлеба,
ма́ім – вада́.

УСЕ. Прыйдзе каза да воза! Прыйдзе каза да воза!

МАЙРЫМ.

Махвэс – патэльня,
оні – бос і гол,
ёшайн – спаць кладуся,
эйц – пад галаў кол!

УСЕ. Прыйдзе коза да воза! Прыйдзе коза да воза!
МАЙРЫМ.

Маке-цройро – (не пра нас кажучы) балячка,
ногід – багацей,
адам – чалавек, не сабачка,
авозім – есць лебедзяў!

УСЕ. Прыйдзе коза да воза! Прыйдзе коза да воза!
МАЙРЫМ.

Аго – авохці,
Мэ гойо лону – аз ох ун вэй!
Мішманэй эрэц – багач купаецца ў масле,

Мэлэх – бядняк прысольвае скарынку і кладзецца галодны на цвёрдую лаву.

А ў печы не палена, дзьмухае скразняк.
А ён і не шманае – будзе абы-як!

УСЕ. Прыйдзе коза да воза! Прыйдзе коза да воза!

БОЙТРА. Майрым, гэта маё вяселле, і я хачу сказаць прамову-дрошу.

МАЙРЫМ (*нараспеў*). Ягамосць жаніх, князь і настаўнік наш, рабін рэб Хаім рэба Ісроэла-балагола сын, будзе казаць дрошу. (*Без напеву.*) Відавочна, што пра хупу ніхто й не думае.

БОЙТРА. (*Устае з месца, твар збялелы.*) Дзіця Ісроэла-балагола Хаімка хадзіў вучыцца ў хедар да настаўніка Геморы. У яго была добрая галава. Ісроэл вазіў рэбу Арон-Вольфу лён. Аднойчы, напрыканцы зімы, ён утапіўся. Яго прывезлі на сялянскіх санях, накрытага кажухом. Маці шукала сыну якой карысці. Рамеснікі яго ў чаляднікі не ўзялі. Яны прасілі за навуку сем сярэбраных залатовак на год. Хлопчык стаяў на вяселлях з вядром вады. Каб за абмыванне рук яму далі які грош. Ён быў вулічным хлопцам. Ён зганяў галубоў са страхі старосты кагалу, і Стэра, рэб-Арон-Вольфава дачка, сядзела ў вакне і смяялася. Яна была маленькаю дзяўчынкай і палюбіла Хаімку. Але ж ён быў вулічным хлопцам. Аднойчы, кідаючы каменьчыкі, ён трапіў у гусака Калмана Гітчынага. Рэб Калман адразу ж пабег у кагал, каб хлопчыка здалі ў салдаты. Кагал пастанавіў, і для Хаімкі надышлі цяжкія часы. Лоўчы абшчыны Хоньча лавіў яго цэлы год па розных корчмах, па вёсках. І аднойчы, калі Хаімка спаў у жаночай школе, хлопчыка закавалі-такі ў кайданы. Кагал прызнаў яго дурнем, і нябогу павезлі ў салдаты. Ён ляжаў на саломе на калёсах, і яму прыйшло ў галаву, што ўсё толькі пачынаецца. Хлопчык Хаімка не ўмеў плакаць, у яго не скацілася з вачэй ні слязінкі. Ён праслужыў два гады ў салдатах. Думалі, што ён змірыўся, але неяк ноччу ён выйшаў з казармы нібыта па патрэбе, пералез праз паркан і ўцёк. Цэлую ноч бег ён па ямінах напрасткі. Потым ён месяцамі бадзяўся па дарогах. Днём ён адседжваўся ў якой-небудзь яме, а ноччу ізноў пускаўся ў шлях, аж пакуль не дабраўся да роднага горада. І вось ён трапіў сюды, на сваё праклятае вяселле ў Крэўскім лесе.

Стэра ў слязах. Мёртвая цішыня.

БОЙТРА. А што такога ўчыніў маленькі хлопчык Хаімка? Чаму кагал узяў яго шманты і выкінуў са свету прэч? Ён пайшоў вось з гэтаю сякераю, як бандыт. Ён не смеў успомніць сваё імя і гойсаў па вёсках, як воўк, азіраючыся на кожны агеньчык. Ён зрабіўся Хаімам-Парэзаным-На-Кавалкі, Хаімам Бойтрам

з жалезным абручом на жываце, якім палохаюць дзяцей. Габрэі-гаспадары, я прыйду да вас як усе кары нябесныя, як запаленая запалка, і кагал разам са сваім старостам навекі зробяцца такімі самымі страшыдламі, як і я.

Мёртвая цішыня. Стэра туліцца да Бойтры. Арон-Вольф сядзіць, апусціўшы галаву на стол. Заможныя гаспадары застылі ў жаху, утаропіўшы вочы долу.

АДЗІН З БЕДНЯКОЎ. Іх усіх трэба павыразаць!
БЭРКА-БАС. Яны селі на карак простаму чалавеку і па кропельцы высмоктваюць яго.
КАРЧМАР З РАСШЧЭПЛЕНАЙ ГУБОЙ. А тое, што дзеці, зусім малюткі. Паміраюць ля варотаў горада, а да іх нават лекара не прыслалі – гэтак можна рабіць?

Стукат барабанаў чуецца зусім блізка. На сцэне зноў робіцца ціха. Заможныя гаспадары ўздымаюць галовы.

ГОЛАС З ЛЕСУ. Хаім! Уцякай, Хаім! Асэсар з дзвюма сотнямі салдатаў ідзе сюды!

Кагал і суд ускокваюць з месцаў. Бядняки за сталом насмерць перапалоханы. Бойтра працягвае сядзець, быццам яго нішто не тычыцца. Стэра кідаецца галавой і грудзьмі на стол і плача.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ (*набыўшы свой звычайны выгляд*). Што, Хаім, ты думаў, свет без нагляду? Ты, смярдзючая кропля, думаў, што стопчаш нагамі габрэйскія каштоўнасці? Кагал гэта – кагал! А ты, дачка, давай цяпер назад дахаты! Я табе яшчэ магу дараваць. Не сарамаці мяне перад людзьмі, дачка!
СТЭРА (*ускочыўшы – да бацькі*). Бандыт!

Яна хоча кінуцца на бацьку, Бойтра стрымлівае яе, садзіць ля сябе.

БОЙТРА. Я сам.
РАБІН (*да Бойтры*). Ерэтык, ты думаў судзіць суддзяў. Пачакай, здзяруць яшчэ з цябе скуру! Ведай, табе і ў пекле месца не будзе! Габрэі, іменем горада і іменем кагалу я выракаю: у каго ў сэрцы засталася хоць іскра габрэйства, той павінен адцурацца гэтага ліхадзея.

Усе маўчаць.

ЛЭМЭЛЭ ФУТ (*убягаючы*). Хаім, уцякайма!
БОЙТРА. Рэб Арон-Вольф, яшчэ трэба надзець нявесце пярсцёнак на знак заключэння шлюбу.
РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. У пекле ты возьмеш шлюб з царыцаю Саўскаю!

Бойтра ўстае. Усе адхінаюцца. Ён падыходзіць да рабіна і першага даена, бярэ іх за каўняры і ставіць на ногі каля таго стала, дзе яго са Стэраю месца.

ПЕРШЫ ДАЕН. Ратуйце! Ліхадзейства!
РАБІН. Ратуйце! Ратуйце! Гаспадзін асэсар, на дапамогу!
БОЙТРА. Шлюб адбываецца!
РЭБ АРОН-ВОЛЬФ (*раз'юшана*). Не смей чапаць мяне, разбойнік! Мая дачка табе не нявеста! Адчыніце дзверы! Вы ўсе арыштаваныя! Вас усіх закуюць у кайданы!

Бойтра бярэ Стэру за руку і надзявае на палец пярсцёнак.

БОЙТРА. Гэтым пярсцёнкам ты прысвячаешся мне адпаведна законам Майсея і Ізраіля.

РЭБ АРОН-ВОЛЬФ. Ай! Біце яго! Што ён нарабіў! Ай!

Ніхто не кранаецца з месца. Бойтра і Стэра моўчкі садзяцца, нібыта нічога не здарылася. Хвіліна цішыні, усе ў застылых позах. Барабаны чуваць за самым пагоркам, што паблізу смалярні.

ГОЛАС З ЛЕСУ. Хаім! Яны ўжо тут! Яны зараз увойдуць!

БОЙТРА (*ціха – да Лэмэлэ Фута*). Выйсці нельга?

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Не.

БОЙТРА. Падпалі лес, хай гарыць!

Лэмэлэ Фут ідзе да выхаду, бярэ свечку са стала і падпальвае невялікі цабэрак смалы. Ніхто гэтага не заўважае.

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Музыкі, грайце «Фрэйлахс»!

БЭРКА-БАС. Грайце, п'янюгі, грайце: ён варты таго! Ён заслужыў.

Музыкі ўдараюць з усяе моцы. Бэрка-бас з імі.

ШЭВАХ (*кідаецца да барабана*). Смаж!

БЭРКА-БАС. Шэвахка, садзі як дуж!

ЕКЕЛЬ. Грай, каб струны лопаліся! Грай, скрыпачка, астатні раз!

МАЙРЫМ (*пяе*).

Ідзе ён праз начы жуду і змрок,
А на душы гаркота.
Бядноце хоча ён дапамагчы,
Удовам і сіротам.

ГОЛАС. Ай! Гарым!

ДРУГІ ГОЛАС. Нас падпалілі!

ТРЭЦІ ГОЛАС. Жах! Жах!

БЯДНЯК З ПЕРАВЯЗАНАЙ ШЧАКОЙ. Ат, чым нас зжаруць, дык лепш згарыма!

ГОЛАС. Гарыць смала!

ДРУГІ ГОЛАС. Дзе Арон-Вольф? Забіць яго!

Натоўп кідаецца на Арон-Вольфа. Лэмэлэ Фут, Бойтра і Стэра бягуць да пагорка.

СТЭРА. Хутчэй, хутчэй! Уцякайма!

БОЙТРА. Давай!

Ён падхоплівае Стэру і ўскоквае з ёю на пагорак. Чуецца стрэл. Стэра падае. Бойтра нахіляецца да яе.

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Прэч адсюль: тут страляюць!

БОЙТРА. Я не кіну яе!

ЛЭМЭЛЭ ФУТ. Бяжым!

Усчыняецца страляніна. Бойтра бярэ на рукі Стэру і падае разам з ёю. Ён яшчэ спрабуе падняцца, але не можа.

З а с л о н а.

С л о ў н і к:

*Аз ох ун вэй* – экспрэсіўны габрэйскі выраз, які, у залежнасці ад кантэксту, можа азначаць «не дай Гасподзь» альбо «авохці на яго».

*Біма* – узвышэнне ў сінагозе, з якога прамаўляюць казань, амбон.

*Габай* – сінагагальны стараста.

*Гаон* – высокадасведчаны, славуты і паважаны вучоны ў галіне талмудычнай навукі.

*Гамуз* – кампанія, натоўп, кодла.

*Гарфа* – тое ж, што арфа, музычны інструмент.

*Даен* – рэлігійны кагальны (абшчынны) суддзя.

*Ешыбот* (*яшыва*) – габрэйскае духоўнае вучылішча.

*Жадобнік* – жаргоннае слоўца, тое ж. што «чэрава», «трыбух».

*Капора* – габрэйскі абрад выкуплення грахоў, у час якога над галавою круцяць, трымаючы за ногі, курыцу. «Капора на яго» азначае, каб яму было так, як той выкупляльнай курыцы.

*Капота* – доўгі каптан.

*Клэзмер* – вясковы ці местачковы музыка.

*Мезуза* – скрутак пергаменту са скуры рытуальна чыстай (кашэрнай) жывёлы, які змяшчае частку тэксту малітвы Шма. Пергамент згортваецца і змяшчаецца ў спецыяльны футарал, у якім затым прымацоўваецца да знешняга вушака дзвярэй у габрэйскім доме.

*Спэндац, стрымдац* – жаргонныя слоўцы-крыўлялкі, нешта неверагоднае, незвычайнае, асаблівае.

*Фрэйлахс* – вясёлы габрэйскі народны танец.

*Хаёльнік* – жаргонная назва рота.

*Хупа* – вясельны балдахін на чатырох жэрдках. У хрысціян пры заключэнні шлюбу над галовамі маладых трымаюць вянцы, у габрэяў – за жэрдкі хупу.

Рыгор Барадулін



...усё ж такі я выхаваўся на сацрэалізме.
І сентыменталізм мне не вельмі па душы...

# “Вярніся, вясна мая!..”

***Студэнцкі дзённік****

*Працяг.*
*Пачатак у №71.*

*Укладанне і падрыхтоўка да друку Наталлі Давыдзенка.*

*Заўвагі Рыгора Барадуліна, Наталлі Давыдзенка, Ірыны Сляповіч.*

*Друкуецца з захаваннем асаблівасцяў аўтарскай мовы.*

***1956 год***

*1 студзеня, нядзеля*

Так. Пачаўся 56-й год. Што дасць ён мне новага? Стары быў для мяне неблагім. Схадзілі з Сашам [Булыкам] у кіно “Цень ля пірса”. Так сабе. Прыгодніцкі. Можна чакаць лепшага. У магазіне абдурылі на 10 руб. Не трэба вароніць. У новым годзе ў першы дзень і ўжо канфуз. Ну, нічога. Вечарам пайшлі з Rys. [Рысем], з Зосяй і Ляляй на праспект. Тут нашым спутніцам сустрэліся спутнікі. Мы з R. пайшлі на пару. Пала ўсё ж Л. Шкада З. Звіхнулася. Дрэнны ўплыў Л. Схадзілі з R. на вакзал. Выпілі піва.

*** “Ну, як справы?” – “Нічога, дзякуй”. – “Калі ласка”.

---

** Трыма зорачкамі адзначаны дадатковыя запісы Р. Барадуліна; таксама ў тэксце друкуюцца вершы, якія не ўваходзілі ў зборнікі паэта.*

*2 студзеня, панядзелак*

Рыхтуемся да зарубежнай. Пішу цытаты. Чытаю. Раздавалі кантрольныя па англійскай мове. Мне самаму апошняму аддалі работу. “Bad[1] і нічога больш не магу дабавіць”. Я ўзяў і смяюся: “Ого, – гавару, – работа савецкая, ніякой контры няма – уся чырвоная”. Я. усміхнулася і сказала, што другі раз будзе ставіць 2 – сінім алоўкам. Чытаў Анатолю [Клышку] “Падарак”, сказаў – нічога. Схадзіў у медінстытут дарэмна.

*3 студзеня, аўторак*

Штурмуем ззяючыя вяршыні ведаў. Заўтра зарубежная, замежная, фізкультура. Вечарам прыходзіў Генка [Гарбук] з Зінай. У капелюшы Жак [Машчоў]. Прама дыпламат. Якія яны шчаслівыя. Яны кахаюць адзін другога. Спаць лёг у 4-й гадзіне ночы. Сапраўды, “Ой вы ночы, студэнцкія ночы! Толькі кнігі, канспекты вакол!” Быў у R. [Розы Бутоўскай]. Падабаецца яна мне. Быў у анатамічцы.

Ружовая. У белым халаце. Мара!

*4 студзеня, серада*

“И грянул бой, полтавский бой!” Прыйшоў здаваць. Усе хвалююцца. Страшнавата неяк. Зайшоў. Выцягнуў білет. “Барацьба двух напрамкаў у французскай літаратуры. Праблема класіцызму”. Знаў. Да паловы ўбраўся. Спыніў. Хопіць. Залік. Аню выгнаў вокамгненна. Засталося фізбрык. Пайшоў. Аронавіч расчыркнуўся.

Па англійскай плаваў. Задала адмоўе ў сказе. Тры выпадкі адказаў. Чацвёрты – тпру. “Думайце”, – кажа. Тут якраз адзін геолаг тысячы здаваў. Я ў кнігу гляджу. Нарэшце знайшоў патрэбнае. Яна шчэ пытанне. Напісаў правільна. Яна абвяла алоўкам і кажа: “Чаму так?” Я думаў – няправільна (што значыць схапіць за гадзіну граматыку) і пачаў пароць ерунду. Чуць не прагнала. Паставіла залік, але заўважыла, што на экзаменах ліберальнічаць не будзе.

У Rys. [Рыся] быў дамашні “сельскагаспадарчы” напітак. Замачылі гэту справу.

*5 студзеня, чацвер*

Прачытаў “Залатую розу” Паустоўскага[2]. Цікавая і харошая кніга. Потым сядзеў у Ленпакоі[3]. Справу скончыў. Можна крыху адпачыць.

*6 студзеня, пятніца*

Спец. няма. Сёння схадзілі з Алікам [Падлужным] па білеты на “Максім Перапяліца”. Адстоялі гадзіну. Чарга ад касы да магазіна “Абутак”, аж за магазін. Відаць, добры фільм. К R. [Розе] прыехала Тамара. З ёй нейкая цётка і хлопчык. Хлопчык цікава чытаў: “Апушкін”.

Маці прыслала пісьмо. Піша, ці ты там праўда жаніцца сабраўся? Не ведаю, з чаго яна ўзяла гэта. Прагледзеў “Максім Перапяліца”. Харошы, вясёлы фільм. Ёсць трошкі фарсавы элемент. Увогуле добры.

*7 студзеня, субота*

Апошні дзень заняткаў. Марксізму-ленінізму не было. Быў amicus Pilman. Некалькі чалавек выклікаў. Каля мяне пранясло. Ну, і тое добра. Шапялевіч даў экзаменацыйныя пытанні. А затым дадому-дахаты. Вечарам хадзіў у Ленпакой. Выпілі. R. [Рычард] як тупнуў, што камендант – тут як тут з крыкам.

---

[1] Bad – дрэнна (*анг.*).

[2] Паустоўскі Канстанцін Георгіевіч (1892 –1968), рускі пісьменнік.

[3] Так званы Ленінскі пакой – для заняткаў – быў у кожным інтэрнаце.

*8 студзеня, нядзеля*

Сесія пачалася! Хай шчасліва ўсё праходзіць. Сёння чытаў Райніса[1]. Чытаў "Детская болезнь "левизны" в коммунизме"[2]. [У] 12 залік па марксізму-ленінізму. Прыходзіў Жалейка Воўка[3]. Ён прыехаў на канікулы. Падпісаўся на 13-томнік Маякоўскага.

*9 студзеня, панядзелак*

Вадзіў Воўку. З'ездзілі к Рыме [Коршун]. Яе дома не засталі. Паехалі да "искусственного работника" [Гарбука]. Хацеў пазычыць грошай. У яго таксама не ахці як многа. Даў чырвонец. Прыехаў дадому. Тут ужо і вечар. Так дзень і сцёрся. І добра мець шмат землякоў, і дрэнна мець шмат землякоў. Потым дапазна сядзеў чытаў. Пачаў пісаць сатырычны верш. Штосьці не атрымоўваецца. Я хачу ў гэтым напрамку пісаць. Не ведаю, што выйдзе.

*** Ужо ягоны першы верш быў узяты ў жалобную рамку.

*10 студзеня, аўторак*

Раніцой прыходзілі Аня [Міклашэўская] і Лявонцьева[4]. Яны здалі ўсё. Заўтра едуць. Я перадаў хоць трошкі таго-сяго сваёй дарагой Андрэеўне.

Чытаў Леніна. Выйшаў новы нумар нашай шматтыражкі. Заметка пра здачу экзаменаў. Я як добры. Ляля як дрэнная. Прама як наўмысля хтось правёў пералель, каб ушпіліць. Сёння дзень нараджэння Ані [Дуброўскай], выявілася. Грошай 2 рублі. Кніжкі, якія ёсць, падпісаны. Прытым не падыходзячыя. Знайшоў хоць маленькі зборнічак "Русские народные песни". Яе на кансультацы не было. Аддаў С-дзе [Слагадзе], каб перадала. Няёмка, але што зробіш. Чым багат, тым і рад.

R. [Рычард] сказаў штосьці такое, што я вушам не веру. Гэта занадта ўжо вялікая чэсць для мяне, якой я не варты. Варым з R. булён да 12-ці гадзін з хвосцікам. Цяпер R. чытае "Дні выпрабаванняў" і збірае цытаты пад мяне. Трэба заўтра не праспаць, каб правесці землякоў. Бачыў сёння Ліду[5]. Дома, пішуць, усё старое.

*** Лаўровы ліст добры скрозь: і на грудзях, і на галаве, і ў супе.

Ён быў настолькі прыдзірлівым стылістам, што нават у пісьмах сваёй каханай падкрэсліваў стыль, памылкі.

Апускае пісьмо і шэпча, як малітву, губамі. Звярае адрас.

*4 сакавіка, нядзеля*

Доўгі час не пісаў дзённік. Здаў экзамены на 5. Дадому з Жакам [Машчовым]. Лепельскі тэлеграф. На конях раніцой уехалі ва Ушачы.

Адпачываў. Еў. Спаў. Быў на вечары сустрэчы. Выступаў з прамовай. Чытаў 2 свае вершы. "Памідоры" падабаліся.

Быў на званым вечары ў Жака. Цвет Ушачы сабраўся. Пасля другой [чаркі] – усе роўныя. Весела.

Хадзілі фатаграфавацца. Дурэлі, сыпаліся снегам. Абсыпаў R. [Розу] і G. Ужо 2 замужнія (Смаляк і Галя), а дурэем, як малыя.

Выехаў з Жакам і Лідай. R. [Роза] штось праводзіць не прыходзіла. Да Лепеля чысцілі дарогу і штурхалі аўтобус. Купілі саграваючага. І цёпла, і весела.

---

[1] Райніс Ян (сапр. Плiекшанс Янiс; 1865 – 1929), латышскі паэт, грамадскі дзеяч. Народны паэт Латвійскай ССР (1940).

[2] Праца У. І. Леніна.

[3] Малодшы брат аднакласніка Георгія Жалейкі.

[4] Лявоньева, зямлячка; разам з Г. Міклашэўскай студэнткі-завочніцы бібліятэчнага факультэта Мінскага педінстытута.

[5] Дук Лідзія, зямлячка.

У Мінску.

Былі імяніны. Троху клюнулі. 65-ты пакой павіншаваў паштоўкамі. Фота ў Мандрыка. Крыўдна.

Сёння спатканне з R. [Розай]. Білеты ўзяць нікуды не ўдалося. Прыйшлося паехаць у звярынец. Не падабаўся. На малюнках прыгожы. Праўда, буры мядзведзь сімпатычны і белы – прадставіцельны.

R. была ў нас. Праканваіраваў дадому. Там настрой сапсавала трохі нейкая "па прафесіі жонка". У суботу буду ў медінстытуце. Там Цімафееў[1] будзе чытаць лекцыю аб Ясеніне.

Была ў мяне Рыма [Коршун].

З А. трэ парваць. Дакладней, выкінуць з галавы донкіхоцтва, бо сувязей, уласна кажучы, і не было. Чужая яна мне.

5 сакавіка, панядзелак

На М. чытаў. Англічанкі не было. Фортачка. Напісаў петыцыю R. [Розе]. Шмат цікавага расказаў Ніл [Гілевіч].

*6 сакавіка, аўторак*

На лыжах хадзіў з S. [Зосяй]. Яна слаба ездзіць. Злавіў варону – згубіў 10 руб. Злосць аж бярэ, што гэткі расцяпа. R. [Роза] прыслала запіску. У сваёй запісцы я паблытаў даты. Зноў расцяпа. Дастаў 4 білеты. На кінафільм "Маці". Хадзілі ў наш клуб з R. і яе сяброўкамі. Прасіў даць білеты разам. Далі ў розных баках. Агледзеўся – позна. Праводзіў R. дадому. Усе пайшлі, нас пакінулі. Пагутарылі. Руку, якую помню з лета, падае так, як яна заўсёды падае. Цвёрда складзена, не вялая. Прыйшоў дадому рана.

*7 сакавіка, серада*

Хадзіў купіў R. [Розе] Ісакоўскага[2]. Спазніўся на гадзіну асноў [марксізму-ленінізму]. Ізюм здаў залік. Англічанцы рашылі паднесці падарунак. Пабеглі ў магазін. Спазніліся. Яна іх (дзяўчат) не пусціла. Яны з падарункам – яна ад іх. У дэканаце таксама адмовілася. Псіханула. Я смяюся, што выходзіць, як у песні: "Дарыў, дарыў ён калечка". Кансультацыя. Сход. Выступіў. Усе настроены несур'ёзна.

*8 сакавіка, чацвер*

Хадзіў да R. [Розы] у медінстытут. Не застаў. Спазніўся на гадзіну янзыка польскего. На 2-й гадзіне прыйшла R. Аддаў.

Дэкан адпусціў – нікога не было. Разбегліся, хто ў тэатр, а хто, пад маркай гэтай, куды трэ. Rysika запрасіла Нона [Герасіменка]. Схадзіў яму за Wein[3]. Зубрыў спец.

*9 сакавіка, пятніца*

Спец. Дурэлі.

*20 сакавіка, нядзеля*

Хадзіў да R. [Розы]. Прасядзеў бітых 3 гадзіны. Zukerki – Rysiku прыслалі пасылку. Замачылі.

---

[1] Цімафееў Леанід Іванавіч (1904-1984), рускі літаратуразнавец і перакладчык, аўтар прац па творчасці і паэтыцы С. Ясеніна. Доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт АН СССР.

[2] Ісакоўскі Міхаіл Васільевіч (1900-1973), рускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (19443, 1949). Герой Сацыялістычнай Працы (1970).

[3] Wein – віно (*ням.*).

*26 сакавіка, субота*

Хадзілі ў медінстытут слухаць лекцыю аб Маякоўскім. Выйшла памылка. Думалі, што лектар прафесар. Праводзіў R. [Розу] дадому.

*27 сакавіка, нядзеля*

Імяніны ў Rysika. Тэлеграмы. Танцы. Камендант. Саша [Булыка]. R. [Розу] праводзіў nach Haus[1]. Цудоўна!

*28 сакавіка, панядзелак*

Быў у "Вожыку". У "Чырвонай [змене]" узялі верш. На апошняй лекцыі быў.

*1 красавіка, нядзеля*

Устаў. Ва ўмывальніку ўжо абмануў камендант. Наконт зарэзаных. Потым Іван. Пабег да Бураўкіна.

Далі верш у "Чырвонай [змене]"[2]. На першай старонцы ў "Камсамольскай мяцёлцы". Бегаў. Ладзіўся. Harnitur Alika [Падлужнага]. Схадзіў да R. [Розы]. Тыя паўгадзіны выбіраліся. Учатырох завалілі ў храм навукі. Выступленні. Чытаў два сваіх вершы. Перад адыходам R. падбадзёрыла. Глядзелі п'есу. Фралоў[3] цудоўна выконваў ролю. Затым танцы. Танцаваў усё, за выключэннем танга і бастону. Большай часткай з R.

Першы раз у жыцці ў чужым касцюме. Прама гарэў на плячах. Ну, добра, што ёсць, ды толькі не тут. Праводзіў дадому R. Прыйшоў – у ложак. Паўгадзіны добрых сутаргі ногі сцягвалі з непрывычкі. Хлопцам смех, а тут хоць плач.

*** Вершы такія звонкія, што калі ён іх чытае, трэ было вушы затыкаць.

*3 красавіка, аўторак*

З рання да 7-мі адзін пісаў гурткавую [працу]. Пайшоў у 7 гадзін ва ўніверсітэт (трэба ж хоць на адной лекцыі пабыць), аж гляджу – аб'ява: "Сёння студэнт (ну я, канешне) чытае даклад". Я да Клышко [Анатоля]. Ён так паглядзеў, што я пабег у чыталку і за 2 гадзіны напісаў з/п [заліковую працу]. Прачытаў. Увогуле, станоўча. Сам адчуваю, што слабавата.

*4 красавіка, серада*

Ніна[4] лаяла, што не быў на лекцыях. Выклікаюць да дэкана на перадапошняй гадзіне. Ну, думаю, штось няладнае. Прыйшоў. Сказаў пачытаць байкі Крапівы. Сустрэча пачалася. Карабан[5] распінаўся, хваліў Крапіву. Аж трохі культам асобы аддавала. Потым выступіў Клышко. Выклікаюць мяне. За трыбунай чытаць няёмка. Ну, я, кажу, да дакладу не рыхтаваўся. Пажадаю вам таго, што тут выступіўшыя жадалі і каб болей. Зараз прачытаю байкі. Пачаў расказваць. Калі расказваў "Дзед і баба" (хлопцы потым смяяліся). Чытаю: "Ва ўстановах часам ёсць" і кіўнуў рукой, выйшла якраз як на юбіляра паказваю. Потым аўтографы даваў [Крапіва]. Я таксама ўзяў.

*5 красавіка, чацвер*

Узяў кнігі для Лілі. Бачыўся з R. [Розай]. У хустачцы. Паружавеўшая. З нейкім чароўным бляскам, іскаркамі ў вачах. Захапляючая.

---

[1] Nach Haus – дадому (*ням.*).

[2] Праясніцца / Чырв. змена. 1956, 1 крас.

[3] Фралоў Пётр Якаўлевіч, студэнт аддзялення журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ.

[4] Брыт Ніна, стараста курса.

[5] Карабан Уладзімір Сцяпанавіч, выкладчык кафедры беларускай літаратуры БДУ, кандыдат філалагічных навук, дацэнт.

Быў вечар журналістаў.

*** Вясна. Ідуць, мо вучаніца, па камнях край тратуара, а хлопец па тратуары йдзе, і плячо ў плячо.

Усё ён хлопае вушамі, аж дзівіцца, як да гэтых пор не абтрапаліся яны.

Каханне, гэта грошы з КУД[1], яго трэба вяртаць.

*6 красавіка, пятніца*

Спец. Апошняя лекцыя. Быў дзяжурным. Няўдалым.

*7 красавіка, субота*

Сустрэча з сястрой Маякоўскага і Лавутам[2]. Цікава. R. [Роза] перапутала числы. Пільман сказаў "камплімент" мне, Rysiku, Булыку, Дуброўскай, [Клары] Дарошцы. Не вельмі прыемны.

*15 красавіка, нядзеля*

У суботу казус з выступленнем. Факстрот у Unterhose[3]. Днём перакладаў Голда[4]. Trinken[5]. Быў у R. [Розы]. "Не згубі галошы".

*17 красавіка, аўторак*

Быў у "Чырвонай [змене]". Здаў верш пра вясну. Быў у "ЛіМе". Праз пару дзён прыйсці. Да 2-х гадзін ночы кончыў гурткавую.

*18 красавіка, серада*

Іван узбудзіў. Тралейбус. "Чырвонка". Вярцінскі[6] фатаграфаваў. Настрой благі. Хочацца спаць. Практычныя па асновах марксізму-ленінізму.

На дварэ цуда – бальзам, а не паветра. Чаравікі з вентыляцыяй.

*** А дома бэз расцвіў... Везла ў Мінск букет бэзу. Намачвала яго, каб не засох. (А ўспомніў марозную навагоднюю ноч. Пайшлі ў гурбы, падалі, і пацалунак.)

"Я здаў на павышаную [стыпендыю]", – надпіс на шкілецы.

*[Ліпень[*

Прадаўжаю пісаць дзённік ужо ў Златаусце трэццякурснікам. 17 [ліпеня] пакінуў Ушачы. Едзем на цаліну. "Трымайся, цаліна". Провады на мінскай таварнай станцыі. Праўка бока. У Оршы пілі кофе. Вандравалі.

Праехалі Смаленск.

У Туле абедалі (гадзіны ў 4 раніцы). Затым Пенза. Пензенская вобласць. Цудоўна прыгожыя лясы. У Сызрані кармёжка.

Пераязджалі Волгу. Цуда! Ноч. Месяц, як пражэктарам, адбівае дарожку. Каса, як страла, разразае гэтую дарожку. Маякі, як зоркі ў вадзе. Рыбак[7] бачыў рэйкі. Смех, весялосць.

Куйбышаў.

Уфу прагуляў у карты. Рака Белая, рака Уфа.

---

[1] КУД – каса ўзаемнай дапамогі.

[2] Лавут Павел Ільіч (1898-1979), арганізатар гастрольных паездак У. Маякоўскага; прапагандыст творчасці паэта.

[3] Unterhose – сподняя мужчынская бялізна (*ням.*).

[4] Голд Майкл (сапр. Граніч Ірвінг; 1894-1967), амерыканскі пісьменнік.

[5] Trinken – піць (*ням.*).

[6] Вярцінскі Анатоль Ільіч (н. 1931), студэнт аддзялення журналістыкі філфака БДУ. Беларускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

[7] Рыбак Алесь (Аляксандр Пятровіч; н. 1934), аднакурснік. Беларускі пісьменнік.

Урал непараўнальны. Могільнік імён. Бярозкі бягуць уверх, як дзяўчаты ад ракі. Гарбы Урала[1].

Затым Азія. Становіцца гарачэй. У Карталах піў кампот. Лыжак няма. Такому фрукту, як мне, прыйшлося цягаць фрукты рукой.

Нарэшце мы ў станцыі Брэды. Адсюль нас пагрузілі ў дзве партыі і ў саўгас імя Фрунзе. Машына, як п'яная. Суслікі ў ганаровай варце. Побач з машынай лятуць шпакі. Таксама, відаць, перасяленцы-цаліннікі. Стаяў ззадзі. Чорны як негр. Мыў "личность" два разы ў казахскіх рэках. Ледзь не забыўся такі важны момант. У Брэдах заправіўся. У сталоўцы смяюцца саўгаснікам: тут вам не Казахстан (Брэды ў РСФСР). Чэчко[2] хахміў у дарозе. Нагналі нашых (ад сваіх адсталі, пакуль елі). У машыне сена, але такое калючае, што прама рызыкуеш ад гэтых уколаў застацца без нашчадкаў.

Нарэшце і зернесаўгас імя Фрунзе. Прыехалі зацемна. Нам адвялі палаткі. Цуда. Прывезлі сена. Схадзілі памыліся (побач нейкі вадаём). Потым спаць. Сена пахне нечым водарным. Крышку ап'яняе, хмеліць. Вясёлым быў паход мыцца. У нас [у] палатцы стары склад, г. зн., склад нашага шостага вагона. Ледзь не забыўся: у часы следавання выпусцілі адзін нумар "Позора" (на беларускай мове). Мастак Клышко Рыма. Разумная дзяўчына, прама гаворыш з ёй, як нектар нагбом з вядра п'еш. Да гэтага як сумняваўся ў разумовых здольнасцях жаночага полу. Цяпер гавару сабе, што быў дзікуном 8 ст. Хоць сярод іх такіх феноменаў пяць-шэсць працэнтаў.

Што было яшчэ ў дарозе. Карты. Дурняў атрымаў за дарогу соцен некалькі. Наш 6-ты вагон быў штабам. За начальніка быў Яўменаў. Па вечарах было весела. Спявалі. Хто спіць. Хто ў карты. Хто ў дзявочым вагоне. Хто есць. Хто чытае. Чэчко даваў заяўкі. З Рыбака ўвесь смех. З ягонага спінінга (ён упаліў за гэтую каштоўнасць каля 200 рублёў з гакам). Наогул весела было. Чэргі ў культурныя месцы. На ходу вагона. Чай прынясуць – ажыўленне. Прыемна ехаць і адчуваць, што ты не турыст, а патрэбны чалавек, якога чакаюць.

З сённяшняга дня пішу дзённік па чыслах.

*24 ліпеня, аўторак*

Прачынацца не хочацца. Водар сена ап'яняе. Жэнька [Клімаў] разбудзіў. Пайшлі мыцца. Палатка прасторная. Ёсць і вокны, зашпільваюцца, як кішэні, вакно і ўгары ёсць. Над палаткай трапеча сцяг. Хлопцы голяцца. Хахмяць. Не абыходзіцца і без моцных слоў, асабліва народнікі[3]. "Сильно выражается народ русский". Так і прыходзяць на памяць словы Гогаля.

Пайшлі ўлезлі ў ваду, памыліся. Памыў насоўку. Вада халаднаватая, як і ў нашай бурнай шматводнай Ушачы. Дзень крыху ветраны. Спёкі няма. У 11 гадзін сход (па маскоўскаму – гэта 9 гадзін). Выступаў парторг зернегаспадаркі, гаспадарнік, сакратар камсамольскай арганізацыі. Нашы ўручылі падарунак. Ерунда. Расказалі, як арганізавалі саўгас. Усяго засеена 32 тыс. га. Жыць можна. Усе сядзяць паўкругам. Хахмяць, што Бабосава[4] трэ кухарам паставіць.

Потым зайшліся з Сашам [Булыкам] у сталоўку. Меню на цвіку. Тры блюды. Пад'елі танна. Не вельмі далікатна, але затое вельмі спажытковая яда. Нейкі хахол з вусамі і барадой. Жаранае, варанае, кускамі і кавалкамі заказваў. Жэнька пагаліў

[1] Гл.: "Вагон таварны дрогка тузае..." (1957) / Маладзік над стэпам. Мн., 1959. С. 5.

[2] Чэчка Эдуард, студэнт аддзялення журналістыкі філфака БДУ.

[3] Студэнты Інстытута народнай гаспадаркі.

[4] Бабосаў Яўген Міхайлавіч (н. 1931), студэнт філасофскага аддзялення гістарычнага факультэта БДУ, камсорг. Беларускі філосаф, сацыёлаг. Акадэмік НАНБ (1994), доктар філасофскіх навук (1972). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1984).

галаву. Цяпер не галава, а аэрадром для мух. Затым схадзілі за камфортам. Узяў коўдру, прастыню і матрац.

*** “Тут робіцца стрыжка і ўкладка мазгоў”.

Мух столькі, што і самы скромны набярэ іх поўны нос.

*25 ліпеня, серада*

Жэнька не пабудзіў. Пайшоў ў лазню мыць аэрадром свой. Пайшлі з Матвеевым[1] на Табол. Незайздросная рачушка. Ушача лепш. Памыліся. Купацца пабаяўся (furunkul). Нарваў лілей. Прастояў у сталоўцы гадзін каля трох. Пасля абеду пайшлі мыць на Табол. Я, Саша [Булыка], Віктар. Зайшлі ўверх плыні. Няма як прыступіцца. Пайшлі ўніз. Знайшлі калдобіну. Памылі. Я як выкручваў – перастараўся: рушнік перакруціў. Каўнер у каўбойцы таксама троху.

Потым вясёлка над Таболам. Праўда, толькі адзін канец дугі. Успамінаецца дом, Ушачы. Табол[2] нічым не адрозніваецца ад нашых беларускіх рэк. Чарот, як футравая атарочка.

Капітан з вусамі (на беразе Табола стаіць мехчасць), у яго 50 рублёў ёсць – самы багаты ў часці (але 50-рублёўка рваная, таму і цэлая), а так усё прапілі.

Прыйшоў дадому. Прыйшоў Коля[3]. Сказаў, што мы паедзем у Брэды. Народнікі спрачаліся, чаму іх начальнік не ў генштабе. Потым накінуліся на Рыбака (прыйшоў з нейкай работы і агрызнуўся). Рыбак і куры. Палатка трашчала па швах ад смеху.

Ледзь заснуў. Не ведаю, чым кончылі народнікі сваю дыскусію. Неяк боязна. Ці спраўлюся я з работай (грузіць вугаль). А быць утрыманцам сяброў – гэта ж не справа. Заўтра, так сказаць, экзамен. Чаго я варт у працы?

*** Вецер стэпавы так зацалаваў, што губы парэпаліся.

*26 ліпеня, чацвер*

Устаў ў 6 з хвосцікам (па-нашаму гэта ж 4 гадзіны. Як трэба, дык падымешся). Да 8-мі чакалі ваяк з машынамі (тэрмін 7 гадзін). Маэстра пайшоў пад’есці ў сталоўцы ( мы з Ж. [Клімавым] урубілі сала). Сем. Хто ў кабіне (больш нахальныя), хто ў кузаве – усё роўна на “к”. Я ехаў наверсе. Я, Жэня, Алік [Падлужны], Коля, Томка[4], 2 географы. Женька спаў. Я казытаў каласком. Пыл лезе ў рот. Гаркаваты. За ўсю дарогу адно дрэва. Па баках шлёпанкі[5] чушмекаў. З левага боку блішчэў Табол. У Джэтыгары паснедалі. Нядурственна. Хлеб смачны. Пакуль мы з Алікам бегалі ў пошуках “культурнейшай установы”, машыны ледзь не паехалі. У Джэтыгары былі ў трох магазінах. Усе будынкі – шлёпанкі. Фарсіравалі раку. Нарэшце мы ў Брэдах. Ужо не першы раз. Нашага Чарапуху (заггас) сустрэлі землякі-хахлы. Пагрузілі нейкія балванкі.

На вакзале (у ларочку) пілі нейкую малочную вадкасць – квашанае малако. Потым на машыны грузілі вугаль. Мы ўчатырох нагрузілі машыну вугалю. Потым машыну жалеззя. Дождж, падлез пад машыну. Там сядзеў і шафёр. Бягуць раўчукі маленькія. Зямля ўсыпана вугалем, так што дождж рабаціць яе, як воспа твар. Раўчукі маленькія бягуць, як кроў у жылах пад скурай. Нафта і іншыя рэчывы ў вугалю стварылі моцны покрыў. Як скура негра.

Дождж сціх. Абрадавалі. Мы начуем ў нейкай клапоўні пад мудрагелістай і гучнай назвай “Экспедыцыя”. “Экспедыцыя”, выходзіць, звычайная шлёпанка з гаспадыняй-украінкай (яна ўраджэнка тутэйшых мясцін).

---

[1] Матвееў Аляксандр, аднакурснік.
[2] Гл.: Вечар над Таболам (10.11.56) / Маладзік над стэпам. Мн., 1959. С. 23.
[3] Студэнт наргаса.
[4] Томка Міхаіл, студэнт філфака БДУ.
[5] Шлёпанкі – глінабіткі.

Вуліцы – бруд суцэльны. Машына круціцца як жулік на кірмашы. Пад’елі ў чайнай. (Біў дровы.) Хадзілі за вадой. Хлопцы на танцулькі. Мы пайшлі на пошту, гэта ўстанова з замком, працуе гадзіны тры.

Спалі на падлозе. Рыбак залез у трактар. У dine[1] прычасціліся.

**“Экспедыцыя”**

Такое ў памяць назаўсёды ўесца:
Дождж сціх – і чарназём,
як масла чорнае.
Сапуць машыны, круцяцца на месцы,
Нагружаныя вугалем і бёрнамі.
А да брыгады – кіламетраў дзвесце.
І захад хустку павязаў пунсовую.
Азяблі ўсе і захацелі есці,
І ў кожнага павекі як свінцовыя.
Ды брыгадзір сказаў,
што ныць не трэба,
Па ўжо даўно заведзенай традыцыі –
Пакуль да раніцы падсушыць глебу,
Мы будзем начаваць у “Экспедыцыі”.
Не выбрацца ўсё роўна сёння з Брэдаў.
І шумнаю павесялелай кучкаю
За Дзідам-брыгадзірам крочым следам
У гэтую ўстанову з назвай гучнаю.
У мазынцы сустрэў нас матчын голас:
 – У, сколькі війска прыбуло цалінного! –
І хутка наляглі братвой вясёлаю
На свежы хлеб і малако казінае.
На земляной падлозе леглі ўпокат,
Пасцілкі нам здаваліся пярынаю.
Стаяў яшчэ ў вушах матораў рокат.
І пахла стэпам...
Спёкаю палыннаю...
...І зазвінелі жаўранкі над полем...
І зашапталі вербы над крыніцамі...
Такім салодкім сон не быў ніколі,
Як у начлег наш гэты
ў “Экспедыцыі”.

*13 сакавіка 1959*

*27 ліпеня, пятніца*

Пабудзілі ваяк (яны спалі ў машынах). Шуравалі. Рыбак сланяўся, як Hund[2] ад мух. Шушкевіч[3] цыркаваў. Нажынаў ва ўсю.

Мылі рукі, ногі ў вадзе пад бярвеннямі. Як у дзяцінстве. Затым селі ў машыны. Але даў хтосьці ініцыятыву прыняць матэрыяльную страву ў сталоўцы. Падтрымалі. Рыбак у сталоўцы заўсёды першы.

Сеў у кабінку разам з Алікам з грузінам. Частыя прыпынкі. Адсталі ад калоны 2 машыны. То тое, то сёе, а ўсе стаім. Перасеў к закарпатцу. Гаварылі. Бензіну капут. Сеў на ваенную машыну. Дзе штурхалі, дзе ехалі. Прыехалі ноччу.

Дзяўчаты зрабілі кранаючую сустрэчу. Мы прыехалі ўтраіх. Астатнія сядзяць у гразі. Яны прыйшлі поўначчу пюхтам.

---

[1] Diner – сталовая (*англ.*).
[2] Hund – сабака (*ням.*).
[3] Шушкевіч Міхась Серафімавіч, студэнт філфака БДУ. Беларускі паэт. Аўтар шырока вядомай песні “Ты мне вясною прыснілася...” (музыка Ю. Семянякі).

*28 ліпеня, субота*

Дождж. Надзеў плашч і ў myslil[ню "шпакоўню"]. У сталоўцы натоўп. Хто басяком, хто нясе дзяўчыну па гразі. Ходзяць і слізгаюцца па гразі. А на вуліцу глянеш – мора гразі. Гадзіны праз тры атрымалі капусту і макарон. Уся асалода 1 р. 80 к. Потым згружалі вугаль і соль. Мне памог зямляк-беларус.

Затым дадому. На рэчку. У цяню пішу дзённік. Сонца садзіцца, нібы хто хоча апусціць у тэлефон-аўтамат пятак. R. [Рычард] and kompani развучваюць танец – заўтра гулянне. Да дзявочых палатак сходзіцца афіцэрыя. На тым беразе ў салдат песні, музыка. Весела. Цудоўны вечар у стэпах Казахстана. Басяком ідзеш, як ў туфлях на стыльнай падэшве (у сталоўцы меню на цвічку, з 2 –3-х назваў).

*29 ліпеня, нядзеля*

Гулянне на Таболе. Мы з Ж. [Клімавым] таксама падрыхтаваліся да яго. Узялі хлеба з салам, я ўзяў яшчэ Нікалая Васільевіча [Гогаля]. Пайшлі. На левым беразе танцы (радыёла выводзіла). Мы загаралі на правым беразе. Купаліся. Вада саланаватая. Потым на правы бераг [пераехалі] машыны і людзі. Паставілі 2 машыны, і атрымалася сцэна. Потым скрынка на скрынку, і на гэта збудаванне – мікрафон. Першым выступіў Харкевіч[1]. Затым чудзіў Галубенка (салдат-канферансье). Акрабатычны нумар. Хор – з рук вон дрэнна.

Пайшлі ў сталоўку. (Я паглядзеў, што ўсе вылізаўшыся – ну давай, думаю, і я не адстану. Пайшоў памаладзіўся, пераапрануўся.) Іду. Ж. махае рукой і ледзь мацюгі не гне (мо і загнуў бы, калі б не людзі). Ён дапамог насіць хлеб, і без чаргі яму далі чэкі. Пакуль я бегаў займаў стол, далі замест 2-х порцый макарону – адну. Мы пальцарствавалі – адмовіліся і ад апошняй. (Дастаў буханку хлеба.)

Вечарам "Бадзяга" (2 серыі запар), перад сеансам – танцулькі. Чытаў лекцыі "аб добрым тоне". Танцаваць не прыйшлося, быў ерундова апрануты (пасля сталоўкі – дождж, ну, я і не пераапранаўся), а галоўнае, пад тапачкамі было столькі гразі, што тапачкі важылі амаль столькі, колькі іх гаспадар, а найгалоўнае – не было с кім танцаваць (людцы былі, ды не было "людыны" па душы).

Затым "Авара я"[2]. Стаяў каля слупа (на гэты раз удалося амаль усё бачыць і ўсё чуць), 2-ю серыю кінаўшчык бядовы штосьці рваў бязбожна. Затым дадому на пару з тапачкамі, якія пасярод вуліцы прыйшлося несці ў руках, – абставіны мацней за нас.

Затым дапамагаў, дакладней, спрыяў салдатам заляцацца да нашых дзяўчат: пераапранаў іх у штацкае.

*** Кінафільм вельмі сыры: ад пачатку да канца ідзе дождж.

*30 ліпеня, панядзелак*

Спаў датуль, пакуль есці захацеў. На шчасце, у сталоўцы ўдалося дастаць макарон і чай (праўда, халодны). Прыйшоўшы дадому, пакупаўся апошні раз у калдобіне.

Сабраліся. Пагрузілі нас – і айда ў 3-ю брыгаду. Ехалі пшаніцай. Невысокая, але затое колас моцны. Яшчэ зялёная (пачынае дзе-нідзе жаўцець). Каля дарогі як шляк зялёны. Прыехалі і на месца. Стаіць 2 вагончыкі. Некалькі трактараў. Гэта і ёсць брыгада № 3. Ледзь не забыўся. На дварэ сталы ўкапаны ў зямлю літарай "г". Кухня, як піпка без мундштука. І склад, абцягнуты брызентам. І самае галоўнае – ДК у выглядзе кабіны. Вось і ўся сядзіба. Брыгадзір мае багатыя, праўда, рыжаватыя вусы і бараду.

Разбілі палатку. Паставілі бароны. На бароны дошкі, на дошкі сеннікі (тут не адрозніш, дзе сена, дзе салома). Ілья Мурамец (со товарищи) спалі на ступах, на баронах, выходзіць, што і мы ім раўня, хаця і ў далёкім калене. Ну а ў завяршэнне

[1] Харкевіч Аляксандр, студэнт журналісцкага аддзялення філфака БДУ.

[2] Перафразоўка папулярнай песні з індыйскага кінафільма – "Бадзяга я...".

ўсяго – “бостанскае”[1], тут лепей будзе сказаць цаліннае, чаяпіцце. Хто з цукрам, хто з салам, хто з кансервай. Мы з Ж. [Клімінымм] прыйшлі з хлебам (без солі – соль тут быдлячая) і з двума конаўкамі-цыстэрнамі. Цукар быў R. [Рычарда]. Цэлы мех. Пасля чаяпіцця хто ляжаць, хто спаць. Весела спявалі. “Бярозы ды сосны”, “Ой, ляцелі гусі з броду”.

Спаць доўга не маглі класціся, бо была, так сказаць, першая шлюбная ноч – спалі ў адной палатцы з дзяўчатамі, адгароджаныя ад іх чэсным словам і некалькімі чамаданамі пасярод. Досціп за досціпам. У мяне сяннік вышэй за Ж. Качуся ўвесь час на яго.

*31 ліпеня, аўторак*

За сном няма калі адпачыць. Сланяліся, як Hunden ад мух. У 6 гадзін рубон. Шча смачная. Было начальства ў асобах Яўменава і Бабосава, парторга і агранома. Абяцаюць націснуць, паднаціснуць, палепшыць становішча. Грошы, як соль у вадзе, таюць.

*1 жніўня, серада*

Месяц пачаўся. Што новага будзе ў ім, новым? Сёння ўсталі адразу на работу. Будуем дом, праўда, з дзёрну. Ездзім усёй гопкампаніяй за будматэрыялам. Насця[2] варыць смачныя вячэры. Захапляюся “Халасцячкай”[3].

*2 жніўня, чацвер*

Макарон без мяса. Прама канцлагер. Будуем па-ранейшаму. Сёння не вазіў, а падносіў дзёрн і засыпаў зямлёй шчыліны. Сцяна выходзіць дзіўная, як кавалак стэпу. Трава звісае, як казліная барада. Мазалі садзяцца на рукі, цела ные па вечарах, але з такой братвой – весела. Прывозілі прадукты, у тым ліку памідоры. Дастаць іх не ўдалося. З Аліка [Падлужнага] адна пацеха.

Прыйшлі з работы. Каша рысавая і шча (кантрабандай, так сказаць). Хадзіў аглядаць прасторы. Пшаніца вось-вось нальецца сілай сонца. Пачало збірацца на дождж. Парой парывы ветру прыносілі такое цёплае дыханне пшаніцы. Нібы чалавек, разамлеўшы ад спёкі, аддыхваецца і ад яго вее цяпло. А камары-нахабнікі без дазволу робяць прышчэпку супраць няўстойлівасці і нервознасці. Вечарам (дакладней, ноччу) дождж шуміць па даху палаткі. Выйдзеш за палатку, зірнеш – цемень хоць вока выкалі. Наш вугал дзявочы (дарэчы, мы зараз адгароджаны простынямі) зацягвае нейкія сумныя рамансы. Хлопцы гуляюць у карты. Жэнька і Маэстра робяць інквізіцыю з камарамі. Badim [Вадзім] раіць, што трэба камару [даць] такую аплявуху, каб ён ляжаў пяць дзён, а потым год іншым расказваў пра ўсе жахі. Прыехалі з Цэнтральнай, акардэон іграе “Даміно”[4]. Засынаю.

*3 жніўня, пятніца*

Устаў апошні, затое на сягоння і за сталом я быў апошнім. В. развёў антыномію аб ночахаджэннях. Дзяўчаты, як заўжды, бурна рэагуюць. Работа тая ж. Дом расце на вачах. Кладзём дзёрн, як кавалак аўчынкі. Пыл лезе куды толькі можа. Прыемна пасля ўсяго гэтага абкаціцца халоднай [вадой] (тут халодная градусаў 10, а то і 15).

---

[1] “Бостанскае чаяпіцце” (1773), эпізод з барацьбы англійскіх калоній у Паўночнай Амерыцы за незалежнасць.

[2] Кніга Настасся, студэнтка. Гл.: Насціна кухня (1956) / Маладзік над стэпам. Мн., 1959. С. 14.

[3] Аповесць В. Маргерыта. Маргерыт Віктор (1886-1942), французскі пісьменнік.

[4] Папулярная песня з рэпертуару А. Вярцінскага. Вярцінскі Аляксандр Мікалаевіч (1889-1957), эстрадны спявак, кінаакцёр, кампазітар, паэт.

У абед елі да адвалу. Я памешаны на рысавай кашы з цукрам (можа, гэта і мяшчанства крыху, але я буду любіць гэтае блюда і пры камунізме, калі дажыву да яго). Потым Матвееў стрыг мяне з добрую гадзіну. І галава была абалванена. Потым хлопцы адпускалі камплiменты. Хто кажа, як карова выскубла без парадку, хто – снарад разарваўся.

Сонца нясцерпна паліць спіну, хочацца ў цянёк (пласты сталі лепшыя, але цяжалейшыя), але хочацца, каб жыхарам у нашым доме было і ў лютую зіму так горача, як нам зараз. Працуем з Rybka [Рыбаком]. Працы канец. З (4-й) брыгады прывезлі халодную ваду. Памыліся, настрой аптымістычны. Пішу дзённік, а Механізатар (так завецца наш кот) ловіць нейкага матылька. Пасля вячэры дзе хто. Хто піша, хто чытае, хто ў карты.

Загар у мяне пачынае станавіцца сапраўды цалінным. Цяпер рэзалі за вячэрай хлеб сваім пірацкім нажом, і смешна стала, што прымяніць яго прыйдзецца толькі на кухні. (Вось табе і “мясціны ссыльныя, дзікія”.)

Дом наш будзе слаўным, вакол пшаніца. Будуем адно рыдлёўкай, без дошак, пілы, тапара.

Вечарам танцы. R. [Рычард] вучыў крокі танга. Танцавалі. Танцуем, як па карчах: то яма, то кол палаткі. Як больш павечарэла, расклалі вогнішча з саломы, каб камары не так дакучалі. А то толькі пацямнела – страцілі ўсякі сорам і цэлымі вяткамі садзяцца бесцырымонна. Танцавалі вакол вогнішча. І дарослыя танцы, і дзіцячыя.

*4 жніўня, субота*

Рубон позні, работа яшчэ пазнейшая. Кладзем, дый годзе. Сцяна расце як на дражджах. Падаваць усё цяжалей. На сценах Radim, Druch-Фарочок, Kosbus. Як кінеш пласт, ці свінню, так мы завем тоўсты пласт, – поўны вочы, рот, нос, вушы чарназёмчыку цаліннага. Мы падаем з Rybkai. Дзе ладзім, дзе сварымся. Увогуле, добра ўсё ідзе. Ж. [Клімаў] быў узвёўся за глупства – палез з кулакамі. Але справа абышлася без рукапрыкладання.

Абедам закончыў “Халасцячку”, сярэдняя кніга. Цудоўна заканчваецца, проста геніяльна перадае думку. “Наслаждаясь ароматом цветка, мы не думаем о навозе”. Затым чытаў Остапа Вишню[1]. Цудоўна.

Прыязджалі 2 нейкіх Брухмянёвы[2], чыталі штосьці аб пажарнай бяспецы, дарэчы, чытаў Ж., мы сядзелі ў заценку, а яны стаялі амаль па камандзе “смірна”, нібы пры выкананні дзяржаўнага гімна. Спёка была нясцерпная. Проста балела галава. Свечка ляжала ў палатцы – расплавілася напалову. Жалеза гарачае – нельга дакрануцца.

Заканчваем будаўніцтва, але прыйдзецца, відаць, будаваць нанова, бо адна сцяна вось-вось рухне, ды і астатнія могуць паследаваць яе прыкладу. Барада [брыгадзір] толькі яхідна ўсміхаецца. Васіль раіць ужыць трактар, каб падтрымаць няўстойлівы элемент. Закончылі, прыйшлі дадому. Сядзім з земляком на трактары. Сонца заходзіць, прама выпушчаны жаўток з яйка. Хоць падстаўляй патэльню – і смаж яешаньку ў калена.

Відаць, з панядзелка – уборка. Так і жывём. Жыць можна, нічога страшнага няма.

*5 жніўня, нядзеля*

Усталі ледзь свет. Праўда, было відна. У 6 гадзін (па маскоўскаму часу 4 гадзіны. Гэта самы сон. У гэты час я прасынаўся мо раз з дзясятак). Пайшлі даканчваць сваё збудаванне. Сонца пячэ. Спіна загарае ўвачавідкі. Матвееў і Wadim вяршаць. Мы падаем дзёрн. Чаго-чаго, а зямлі ядзім удосталь. Але настрой цудоўны.

---

[1] Вішня Астап (сапр. Губенка Павел Міхайлавіч; 1889-1956), украінскі пісьменнік.

[2] Брухмянёвы – значыцца, таўстуны.

**Новы дом**

А ногі зямля, як патэльня, пячэ,
А сонца без жалю падскварвае спіну.
Стараемся ўзвесці як лепей, хутчэй
Мы свой на чатыры пакоі будынак.

Не чуем тут паху смалістай сасны,
Ні бойкай гаворкі сякер галасістых.
Сам стэп тут глядзіць на цябе са спіны
Галоўкамі кветак і траў шаўкавістыў.

Бярвеннямі служаць тут дзёрну пласты,
Рыдлёўка – адзіным для ўсех інструментам.
З увагі не выпусціць трэба прытым
Увішныя рукі вясёлых студэнтаў.

Не клалі ў вуглы мы ні срэбра, ні медзь
(Каб грошы былі невыводныя ў доме!).
І грошы, і шчасце заўжды будуць мець
Яго жыхары, – то й без прымхаў вядома.

Дырэктара просім як будаўнікі:
Няхай у наш дом наважонаў паселяць,
І разам мы ўсе ў выпадку такім
Згуляем за раз наваселле й вяселлі.

Хай дом наш ніколі не ведае слёз,
Хай будзе ў ім радасць і печ, і смяяцца,
Хай цёпла ў ім будзе ў траскучы мароз,
Як нам было цёпла за працай.

*10 кастрычніка 1956*

Пасля абеду – адпачынак. З выпадку выходнага дня. Мяне цудоўна вымылі са шланга, спачатку змачылі раптоўна, а потым рабіць не было чаго. Халодна. Прыемна. У абед далі абед Яўменаву і нейкаму лектару. Затым ездзілі купацца на Табол. За лілеямі плавалі. Ледзь каюк многім не быў – берагі крутыя. Затым дадому. За вячэрай не пашанцавала, далі кавалак мяса з камарову душу (мо трохі і больш), дый той з’еў Механізатар. Ён грыз, а я глядзеў. (Пачаў есці і ўжо “предвкушал” прыемнасць – ды пацягнуў лыжкай разарваць – мяса бразь долу. І капут усяму.)

Прыйшоў Маслоўскі[1] і расказаў пра Кашавога[2]. Гам. Крык. Шум. Чацвёра пайшлі праз ноч на Цэнтральную сядзібу. Гулялі ў дзіцячыя гульні.

*** Трус не толькі героем, а і здраднікам быць не можа.

*6 жніўня, панядзелак*

Селі снедаць, ідуць нашыя “паломнікі”. Розных цудаў нагаварылі. Алег [Кашавой] нібыта ў Заходняй Германіі. Маці яго жыла з афіцэрам. Цэлы дзень стаіць садом. Да палаткі на выстрал падысці нельга – такі тлум, глум, гвалт. Дзяўчаты прарабатваюць “памелников” [“паломнікаў”]. Работы няма. Сон усемагутны замыкае векі.

Прыязджала начальства. Жніво на носе. Дзіду [брыгадзір] нас насмяшыў да смерці. Як ён хадзіў у Маскве па ГУМе і шмат іншага, пакладзеш бакі.

---

[1] Маслоўскі, студэнт рускага аддзялення філфака БДУ.

[2] Кашавой Алег Васільевіч (1926-1943), камісар падпольнай камсамольскай арганізацыі “Маладая гвардыя” ў гады Вялікай Айчыннай вайны, закатаваны фашыстамі. Герой Савецкага Саюза (1943, пасмяротна).

Вечарам танцы. Салдаты хорам выконвалі “Глухари”. Вечарам дыскусія на вечныя тэмы. Канфлікт Элы [Шалаевай] і Тасі [Карповіч]. R. [Рычард] бегаў у сукенцы.

*7 жніўня, аўторак*

Хадзілі падмятаць ток. Потым адпачынак і сон. Абед не варылі. Не было з чаго. Самі свой абед зрабілі. Хто рыбы хвост, хто сала, хто што прынеслі. І падрубалі так-сяк. Затым пайшлі збіраць кветкі ў букет. Розныя. Букеты ў дзяўчат выйшлі лепшыя, прыгажэйшыя, але і ў нас – цудоўныя па-свойму. Прыязджаў камсорг, [мяне] выбралі ў нейкі камсамольскі патруль. Гавораць, што ў пажарную каманду. Хадзіў у стэп. Пшаніца, пшаніца да небакраю. Бачыў суркоў ці, можа, суслікаў. Дагнаць не ўдалося. Прынёс перакаці-поле[1]. Зялёнае-зялёнае, як гай. Корань малы і слабы. Прыхінеш да цела – колецца. Вечарам танцы па закону. Танцавалі да самага канца з Тасяй[2]. Цудоўна танцуе. Рэдка калі танцаваў я з такім натхненнем.

*8 жніўня, серада*

Працуем не прыкладаючы рук. Сон да поўдня. У паўдзён дождж. Прыехаў магазін, г. зн. машына з вельмі крыклівай жанчынай.

Далі аванс па 100 рублёў. “На собранию” рабілі ў палатцы. Прынеслі бачок з макаронам, хлеб. Ну, і ў выніку ўсяму гэтаму – капут.

Пад вечар з Матвеевым чысцілі пляцоўку пад пятачок. Парэзаў палец. Маслоўскі, як звычайна, чалавек гаспадарлівы, заўважыў, што чыстага бінту на нагу шкада. Пляцоўку пасыпалі жоўтым пяском. Патанцаваць не ўдалося. Прыехала начальства. Сход. У нашай палатцы сабраліся ўсе. Адзін ліхтар скнарыцца. На адной палове (нашай) ваякі і частка механізатараў, на дзявочай – гаспадыні і частка мы і мехаў.

Дзіду адкрыў сход. Як заўсёды з гумарам, з жартамі. Заліхвацка падкручвае вусы. Выступіла некалькі чалавек. Проста, каротка, без лішніх “разглагольствований”. Прама як перад боем нарада. Сапраўды, перад боем за ўраджай.

Пасля сходу паехалі з вецярком у 4-ю брыгаду. Імчаліся па прынцыпу: болей газу – меней ям. Аралі да хрыпаты: “Вьётся дорога длинная”. Вось мы і на месцы, сустрэлі нашых беларусаў з 1-га курса, рускіх з 2-га. І вось на экране стаіць Марына. Фільм дрэннаваты, добрае ў ім – гэта шмат досціпаў. Падаюць знічкі, цягнучы за сабой хвост. Глянеш – на спінах бушлат на двух чалавек, хоць бушлат на аднаго чалавека прадназначаны. І зноў дадому – з вецярком.

*9 жніўня, чацвер*

Ездзілі за глінай на Цэнтральную. Мы пасля сваёй брыгады і яе амаль горадам лічым. Як ні хочаш – некалькі дамоў, вуліцы, нават пошта ёсць. Дарэчы, заходзіўся на пошту, там усе разбіралі карэспандэнцыю. Так мне і не ўдалося ўзяць тое, чаго мне не было. Убачыў Барбосава і завуголлем хутчэй змыўся: трэ было напісаць падтэкстоўкі, ну а я не зрабіў.

Гліна нейкая дзіўная, больш да пяска падобна. Канешне, гэта абставіна вялікага значэння не мае. Пакуль вазілі – спазніліся “на собранию”. Ну, мы нічуць не пацярпелі. Урубілі, як гэта гавораць, ад пуза.

Сон. Прачхнуўся. Былі на таку. Ездзілі на машыне да камбайна. Сонца на захадзе. Зерне сыплецца-льецца ўпартае, разагрэтае ад працы[3]. Іменна толькі такое ўпартае, настырнае магло выстаяць супраць усіх нягод і выспець.

---

[1] Гл.: Перакаці-поле (10.10 – 12.56 – 1957) / Маладзік над стэпам. Мн., 1959. С. 16.
[2] Карповіч Тася, студэнтка рускага аддзялення філфака БДУ.
[3] Гл.: Цалінная пшаніца (20.10.56) / Маладзік над стэпам. Мн., 1959. С. 7.

Вечарам танцы пад акардэон. “Амурскія”, “Дунайскія хвалі” так і падмываюць[1]. Факстрот, танга. Танцавалі ізноў з такім натхненнем, якога не памятаю. Тася рухава, лёгка, увішна. Асалода і больш. С. , відаць, раўнуе. Не ведаю, ці не закахаўся я “к завершению всех невзгод”. На сэрцы вельмі хараша і весела. Камбайн асвятляў. Відна. Пыль слупам.

*10 жніўня, пятніца*

Ездзіў да камбайна. Зерне. Зерне.

Вечарам танцы. Настрой цудоўны. Затым позна спявалі. Дзід выдаваў гапака, Rysik mit Plas. [Нінай Плашчынскай]. Правакацыя з машынай.

*11 жніўня, субота*

З раніцы ездзіў да камбайнаў. Машын шмат, а зерне камбайны даюць мала. Горача. Загараю. Сашку [Булыку] даюць павадзіць машыну. Ён, канешне, на сёмым небе. Адным прыпынкам я задрамаў. А Васіль (памочнік) – каласком. Прачхнуўся. Затым гляджу – Сашка спіць у кабіне. Я яму ў рот жменю пшаніцы. Усхапіўся, бедны, як ашпараны.

Пасля трох рэйсаў – у Камышнае. З зернем. Дарога ўецца ў пшаніцы. Кавыль пераліваецца на сонцы такім дзіўным шоўкавым адлівам – цуда адно! Я ездзіў з Генам з Калінінскай вобласці. Уперадзе Дзід на машыне. Гэта ж першыя машыны з нашай брыгады з зернем. Па шляху трапілася адно сяленне. Пад’язджаючы да Камышнага, убачылі нешта накшталт лесу (дрэў 20, мо і тых трохі меней). Камышнае – дзірка глухая. Мае Ушачы супроць яго Масквой выглядаюць. Уперад чым зерне прыняць у лабараторыю, робяць аналіз. Хлопчык з такой прыладай, якая бярэ зерне з любой глыбіні. Хлопчык смешны. З курносым носам. З хвартушком. Адна калашына засучана, другая зашчэплена шпількай. З самым сур’ёзным, важным тварам. На шафёраў крычыць. Чуць Дзіда нашага не паганяў. Пацешны малы. У лабараторыі вельмі (не вельмі-вельмі, а трохі то точна) харошая дзяўчына ў белым халаце. Затым важаць.

Разгрузка. Бачу журналістаў. Пасля разгрузкі ўзважваюць пустыя машыны і выводзяць чыстага зерня колькі. Зерня многа на складзе, нейкая машына хутка перасыпае з аднаго месца ў другое. Пшаніца б’е струменем.

Сапраўднае зерне займае сваё месца цвёрда, а палава розная адсяваецца (так часта і сярод людзей. У прыватнасці, сярод цаліннікаў. Сапраўдныя людзі засталіся, а living амецце адсеелася). Згрузіўшы машыну – з вецярком дадому.

Замёрз так, што зуб на зуб не цаляў. (Басяком, у адной каўбойцы – хадзіў як чучмэк які. Бег жа апранацца, дык Дзід, ліха яго барадзе, супыніў і завярнуў у машыну). Добра, што Сашка хоць фуфайку даў. Прыехаў – пагрэўся на дровах. Рассек калоду з вепрука добрага ростам. Пілы ў брыгадзе і ў паміне няма. У 20-м веку прыходзіцца дровы здабываць такім самым спосабам, як і ў 1-м веку. Бывае ж і такая справа. Пасля “собрании” – танцы. Весела і хораша неяк пасля танцаў. Здаецца б, горы перавярнуў. Залатыя хвіліны жыцця прама. Усё пяе ў табе, прама нейкім дзяцінствам светлым патыхае.

*** Кавыль, бы праставалосая дзяўчына, пераліваецца на сонцы.

Зерне пахне вясельным караваем.

*12 жніўня, нядзеля*

Стаў запісваць у дзённік – заўважыў, што свята па закону. Так і не ведаў.

Раніцай прыехаў нарэшце Міша [мясцовы экспедытар], прывёз 11 бутэлек “жывячай вільгаці” (наліўка, праўда, а не святая беленькая).

---

[1] Гл.: Танцы ў стэпе (12.56) / Тамсама. С. 17.

2 рэйсы ў Камышнае. Ездзілі, як і ўчора, з Генкам. Па дарозе пасадзілі адну Frau. “Ara”. Прыехалі ва ўрачыстую хвіліну – “собрания” пачалася. Машына сапсавалася. Пасля абеду працаваў на таку. З салдатамі. Валодзя адзін, другі Коля (разанец), а Валодзя з Сочы, відаць, армянін (Айвазян). Большасць нашых была каля камбайна. Падносілі пшаніцу ў вёдрах. Наперагонкі. Прама эстафета. Шумна, весела. Miss Plas. [Плашчынская], напудраная пылам, як млынар які стаіць.

Прыехалі госці нашыя (у нас жа сёння каля 4-х імянін[1] запар: Rosh.[2], Babos. [Бабосаў]. Прыйшлі з току – памыліся, прылюдзіліся трохі чаго. У нас у палатцы парадна, чамаданы састаўленыя, адзін на адзін пакладзены. Засланы прасцінамі – гэта і ёсць не якая там барыкада на выпадак агрэсіі, а звычайны святочны стол. Па правы бок нашы ложкі, а канкрэтней кажучы – бароны) служаць за мяккія крэслы. (Камароў куды табе к ліху!) Па левы бок пакладзена дошка. На сталах букеты з палявых кветак. Кавыль распусціў свае валасы. Рамонак выглядае прылізаным хлопцам-зухам. Адзін букет з каласоў спелай пшаніцы. Посуд самы разнастайны. Паўлітровыя слоікі, алюмініевыя конаўкі, шклянкі – каму што трапілася пад рукі. Ложкі ёсць ва ўсіх (відэльцамі тут няма чаго рабіць, ды яны ў гэтых краях і не вадзіліся). Хлеб. Макарон у місках (гэта наша вячэрняе меню). І самае галоўнае – бутэлькі са спакуслівай наклейкай, на якой напісана “Вішнёвая”. І крыху драбнейшымі літарамі “Наліўка”. Ну, гэта самае галоўнае на стале. За сталом жа самае галоўнае – гэта віноўнікі ўсёй гэтай урачыстасці – нашы імяніннікі, прадстаўнікі абодвух палоў, і прыгожага, і, канешне ж, не прыгожага, а цудоўнага полу. Я сеў паміж двух сеннікоў, на голыя бароны (мяне пасадзілі, вярней сказаць), добра, што трапілася падушка, і я яе выкарыстаў па прызначэнню. Адна зручнасць маей пазіцыі была тая, што каля мяне ляжаў мяшок, не, не мяшок, дык торба-то точна. З цукрам. (У нас, хлопцў, так сказаць, свой НЗ). Міску з макаронам паставіў за спіной на ложку і ўвесь час дрыжаў, каб наш армян не развярнуў, бо ён бегаў з бутэлькамі. Госці сядзелі адпаведна гасцям. Дзіду сваю бараду гладзіў.

І вось урачыстая хвіліна настала. Наліўка з прыемным бульканнем, ну, якраз як вясновы ручаёк, пераліваецца ў посуд. Пройдзе колькі хвілін, і яна пойдзе з такім жа музычным афармленнем у рот і далей. Ну але перад гэтым трэба тост. Тост ёсць, гаворыць Эля. Падносіць імяніннікам міску пшаніцы і жадае ім столькі шчасця, колькі зярнятак у гэтай місцы, не мала, дадае, каб столькі шчасця, колькі зерня ў нашай брыгадзе (а яго парадкам, як-ніяк 4 тыс. га). Нарэшце даходзіць да маштабу цаліны ўсёй, і спыняецца, не ведаю, што ёй пашкодзіла ўзяць зерне ў сусветным маштабе. Усе гэткае пажаданне ўхваляюць, чуецца прыемны перазвон посуду (ну, каму ён не радаваў і душу, і сэрца, і ўсё-ўсё). Прама заслухаешся гэтай музыкай, бы тым танцам маленькіх лебедзяў.

Гаварыць пра прысутных што? Ва ўсіх (амаль усіх) настрой такі, нібыта ты на павышаную здаў самую цяжкую сесію. Калі я падымаўся для чокання (плошча развароту ў мяне маленькая), дык прыйшлося ізноў сесці. Затым ажыўленне. Макарон таяў. Я падсыпаў цукар у макарон усім жадаючым.

Спявалі. Гарланілі. Пайшлі на танцы. (За сталом сядзеў як на гарачай патэльні.) Абмен кампліментамі не вельмі прыемны, і Тася знікае. Трохі пагадзее – танцы скончыліся. Хадзілі з Косцем [Цвіркам] за аколіцу. Размова аб самоце. Настрой у мінорным плане.

*13 жніўня, панядзелак*

Паспрабаваў працаваць – немагчыма. Рука баліць. Прыйшоў у палатку, дзе

---

[1] Гл.: Імяніны (23.08.57) / Маладзік над стэпам. Мн., 1959. С.18.

[2] Рожын Мікалай Васільевіч (1926 – 1993), адзін з камсамольскіх кіраўнікоў. Доктар філасофскіх навук (1992).

Павел таксама папасваўся каля сваёй кокшы[1]. Шушкевіч спіць. Ніна[2] зрабіла перавязку, і я, так сказаць, застаўся курортнічаць. Чытаў троху Вышню, трохі граматыку англійскую. Так дзень і сцёрся.

Вечарам танцы. Паспрабаваў – на холадзе баліць рука. Распрануўся, лёг. А фоксы, танга і вальсы сэрца так і раздзіраюць. Ну, ляжыш, прама як цябе калёным жалезам паляць. Ледзь заснуў.

*14 жніўня, аўторак*

Курорты. Неяк брыдка, і настрой падаўлены. Усе працуюць. А тут ляжыш, як намоклая гнілая калода. І хлопец здаровы. Але нічога няма як зрабіць, прыходзіцца мірыцца з такім становішчам. Вера [Ш.] дзяжурная. Убіралі. Нацягвалі граніцу з прасцін. Яна мыла. Памыла мне кашулю. Хадзіў за вадой. Селі гуляць у шахматы. Адну партыю згулялі – тут нясуць пісьмы. Мне ліст ад маці[3]. Колькі ў ім цеплыні мацярынскай, шчырасці. Дома ўсё добра. “Вожык” даў мой верш[4]. Надвор’е лонданскае стаіць. Па-ранейшаму баіцца, каб позна не хадзіў, ні з кім не лаяўся, моў, старана чужая. Толя [Емяльянаў[5]] яе часта наведвае. Ад нашых аднакласніц прывітанне. Перачытаў разоў з пяць. Былі [пісьмы] іншым нашым, праўда, не ўсім. Колькі гэта радасці – атрымаць вестку з далёкай любай Беларусі, ад маці ці ад каго так.

Вечарам ездзілі глядзець кітайскі, з дазволу сказаць, фільм “Баявыя сябры”. Такую лухту колькі жыву – першы раз бачу. Перанёс ужо і не раз нават і [фільм] “Зялёныя агні”. Кляў сябе – навошта ехаў. Глядзелі з кузава газіка. Перад кіно былі танцы. Дрэнна танцавалася. Балела рука. Пляцоўка дрэнная, і не было настрою.

Вечарам размаўляў з былым брыгадзірам. (Дзід – новы, першы год.) Умовы дрэнныя. Зімой бураны. Снег да пояса. Толькі трактары ходзяць. 2 мая буран. Трактар сеяў і заблудзіўся. Прыйшлося раскладаць вогнішча. Зіма ўжо з Кастрычніцкіх свят і да мая. Сабіраецца восенню дадому.

Прыйшоў у палатку. Дзід балагурыць, як ён піша лісты дадому – паўліста, затым “да пабачэння, чакаю адказу”. І затым з пачатку да канца распісваецца.

Рысік як вагар, падлічвае і запісвае. Ж. [Клімаў] варочаецца. Не спіцца каўбою.

*(Заканчэнне будзе)*

---

[1] Ад слова кок; кухарка Насця.

[2] Кудрэка Ніна, студэнтка рускага аддзялення філфака БДУ.

[3] Гл: Ліст з дому (30.09.57) / Маладзік над стэпам. Мн., 1959. С. 21.

[4] Дойны конь / Вожык. 1956, № 13. С.12.

[5] У рабочым блакноце верш “Балада” (20.02.59) прысвечаны А. Емяльянаву (Рунець, красавіц, налівацца!” Мн., 1961. С. 108).

спадчына

Мікалай Улашчык



...На сьвеце адбываюцца грандыёзныя падзеі.
Ствараюцца і гінуць цэлыя дзяржавы,
бальшавікі ў сябе будуюць зусім новы сьвет,
але ў нас зьмен няма...

# Віцкаўшчына. Рэвалюцыя ў мяне

## Мемуарныя запісы Мікалая Улашчыка

*Падрыхтоўка матэрыялу да друку і прадмова Арсена ЛІСА.*

Мне пашанцавала ў жыцці – у свой час пазнаёміцца з некалькімі старэйшымі беларускімі інтэлігентамі. З некаторымі з іх я пазнаўся вельмі блізка і меў працяглыя кантакты ў непасрэдных сустрэчах, ліставанні.

Людзі, чыя маладосць прыпала на 10-20-я гады XX стагоддзя ды што так ці іначай прычыніліся да тагочаснага духоўнага ўздыму, названага Адраджэннем, захавалі ў душы высокі ідэал свабоднай, суверэннай Беларусі.

Кожны з іх быў нечым адметны на ўласнай дзялянцы працы і вылучаўся як асоба.

У кожнага з іх, натуральна, быў свой жыццёвы грамадскі досвед, часам няпросты, горкі. Яны ацалелі пасля неверагоднага молаха рэпрэсій 30-х – 40-х гадоў ды люта адшумелай у Беларусі і свеце апошняй вайны.

Канец 50-х – 60-я гады мінулага стагоддзя былі пазначаны, сказаў бы, нясмелым ажыўленнем нефармальнага беларускага

грамадскага жыцця ў выглядзе культурніцкіх яго праяваў, сустрэч. Нагодамі для знаёмстваў было публічнае чытанне вершаў маладымі беларускімі паэтамі ў сціплым пісьменніцкім дамку на Энгельса або ў тэатральна-мастацкім інстытуце, а таксама выстаўкі, ладжаныя маладымі мастакамі, якія няўзнак адыходзілі ад прадпісаных зверху афіцыйных мерапрыемстваў.

Падзейнае значэнне ў 70-я гады набылі мастацкія выстаўкі, прысвечаная паэтэсе-рэвалюцыянерцы Алаізе Пашкевіч, беларускаму паэту высокага еўрапейскага Адраджэння Міколу Гусоўскаму і ўпершыню паўней сабранай для паказу гледачу мастацкай спадчыне ўніверсальнага ў сваёй творчасці Язэпа Драздовіча. На адной з такіх святочных па настроі імпрэзаў я быў прадстаўлены высокаму, інтэлегентнага выгляду чалавеку, гісторыку з Масквы, як тое было сказана пры знаёмстве. Мікалай Мікалаевіч Улашчык пацікавіўся, дзе працую. Прызнацца, з той першай сустрэчы мала што засталося ў памяці. Хіба што адно: недзе ў канцы нашай гаворкі Мікалай Мікалаевіч заўважыў, што, чытаючы мой нарыс пра мастацтвазнаўца Шчакаціхіна, кінулася ў вочы, як я сабраў на яго лекцыі студэнтаў розных факультэтаў і ўзростаў. Сам выпускнік БДУ, ён ведаў кожнага з упомненых мною ў нарысе былых універсітэцкіх студэнтаў, што называецца, у твар.

Гаварыў Мікалай Мікалаевіч, і гэта нельга было не заўважыць адразу, мовай крыху адрознай ад нашай, якую потым нехта назваў звяздоўскай.

Яго маўленне было неяк бліжэй да традыцыйна беларускай народнай гаворкі. Пазней гэта можна было заўважыць па яго кнізе “Была такая вёска”, прысвечанай малой радзіме вучонага – Койнадаўшчыне. Неўзабаве пасля першага знаёмства я ўбачыў на прылаўку акадэмічнага кніжнага кіёска кнігу М.М. Улашчыка “Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Беларуси”.

З яе даведаўся пра аграрную рэформу Сігізмунда Аўгуста, якая адыграла значную ролю ў эканамічным жыцці Літвы-Беларусі, стала перадумовай спецыфічнага гаспадарчага іх развіцця.

У мяне, як і ў Генадзя Каханоўскага, Вячаслава Чамярыцкага, Міхася Ткачова, завязаліся з Мікалаем Улашчыкам даволі сталыя кантакты. Яны аблягчаліся тым, што, як прызнаваўся сам самавіты гісторык, яго цягнула на Беларусь, на сцежкі маладосці.

У Інстытуце гісторыі АН СССР у Маскве ён меў сталае навуковае становішча, яго цанілі калегі па працы на чале з дырэкратам інстытута Буганавым. Але навуковы інтарэс М.М. Улашчыка цалкам палягаў у гісторыі яго радзімы Беларусі. Кожная чарговая праца ягоная працягвала дапытлівыя пошукі рупліўца беларушчыны, выяўленне і вырашэнне нейкіх істотных праблем мінулага беларускага народа, выданне беларускай гісторычнай спадчыны.

Так склалася, што, пэўна, у кожны прыезд у Мінск, а наведваўся да нас Мікалай Мікалаевіч не менш як два разы на год, спыніўшыся ў сястры Вольгі, ён тэлефанаваў, што “вось, маўляў, я тут, загляніце...”

У міжчасе я атрымаў ад М.М. Улашчыка яго “Очерки по археографии и источниковедению истории Беларуси феодального периода” 1973 г. выдання. У кнізе гісторык паказаў дзейнасць І. Грыгаровіча, У. Лабойкі, І. Даніловіча, С. Пташыцкага, М. Доўнар-Запольскага, У. Пічэты і інш., стварыў аб’ектыўную, дакументальна-абгрунтаваную карціну беларускай мінуўшчыны. Для акадэмічнага выдання Поўнага збору рускіх летапісаў М.М. Улашчык паспеў падрыхтаваць, пракаментаваць і адрэгадаваць 32-гі і 35-ты тамы, літоўска-беларускія летапісы, настольнае выданне для беларусазнаўцаў усіх профіляў.

А ўся спадчына высокаадаронага вучонага-гісторыка – дзейсная ўспамога, духоўная апора ўсім, хто хоча жыць у незалежнай дэмакратычнай Беларусі.

У часе адной з размоваў з Мікалаем Мікалаевічам, калі ён казаў пра некаторыя рэаліі з жыцця Савецкай Беларусі 20-х гадоў і заакцэнтаваў на нейкім факце су-

верэннасць рашэнняў беларускага савецкага ўраду, я незнарок усміхнуўся. Суразмоўца рэзка перапыніў мяне, сказаўшы: "Не ўсміхайцеся, малады чалавек, у 20-я гады мы мелі сваю дзяржаву. Так, так, мелі ўласную дзяржаву", – паўтарыў цвёрда.

І яшчэ неяк раз давялося пачуць ад аўтарытэтнага гісторыка нечаканае азначэнне ролі Інстытута беларускай культуры ў станаўленні дзяржаўнасці Савецкай Беларусі, наданне ёй беларусацэнтрычнай скіраванасці. "Дваццатыя гады ў Беларусі былі эпохай Інбелкульту", – сказаў Мікалай Мікалаевіч. Я адразу не мог ацаніць гэтай максімы ў дачыненні першынца беларускай навукі. Пазней, асэнсаваўшы дасягненні культурна-дзяржаўнага будаўніцтва першых дзесяці год існавання БССР, няраз вяртаўся думкай да знакавасці людзей на чале з Усеваладам Ігнатоўскім, што былі дзейныя ў тыя часы ў навуцы і практычнай палітыцы Беларусі.

Дзесь незадоўга да сыходу з жыцця Мікалай Мікалаевіч пакінуў мне рукапіс сваіх мемуарных запісаў, зробленых у чатырох агульных і дзевяці звычайных школьных сшытках. Як вынікае з запіскі, прыкладзенай да рукапісу, успаміны запісваліся нашым гісторыкам у 1939-1937 гг. ва Ульянаўску, часткова ў 1940 годзе ў Маскве. У цэлым жа натаваліся яны ў перапынках паміж чарговымі арыштамі і высылкамі іх аўтара. А ўсіх тых арыштаў і высылак Мікалая Улашчыка было ажно чатыры. Толькі ў другой палове 1950-х гадоў ён здолеў вярнуцца да нармальнага жыцця. Упадабанай гістарыяграфіяй патрапіў стала навукова заняцца толькі маючы пяцьдзясят гадоў. Але ж колькі яшчэ паспеў зрабіць у навуцы. Які дар, творчы патэнцыял меў, каб, нягледзячы на перажываныя цягам чвэрці веку рэпрэсіі, пакінуць нашчадкам такую багатую, каштоўную навуковую спадчыну.

Што да мемуарыстыкі Мікалая Мікалаевіча Улашчыка, то яна, на жаль, засталася ў фрагментах. Прынамсі, запісы што рэальна захаваліся і маюцца ў нашым распараджэнні, ахопліваюць час 1918-1921 гг., перыяд вельмі складаны ў жыцці Беларусі. Адна акупацыя на нашых землях змянялася другой, і кожная мела сваю спецыфіку, як яны адбіваліся на жыцці, лёсе народа.

Аўтар запісаў фіксаваў усё, як было, без аглядкі на нейкія ідэалагічныя арыенціры.

Калі ўдалося з большага расчытаць рукапіс мемуараў, уразіла, як схоплены, перададзены ў іх атмасфера, дух часу і дасканасць пісьма сталага літаратара, пісьменніка.

**Арсень ЛІС**

## VIII. ВІЦКАЎШЧЫНА. РЭВАЛЮЦЫЯ Ў МЯНЕ*

На сьвеце адбываюцца грандыёзныя падзеі. Ствараюцца і гінуць цэлыя дзяржавы, бальшавікі ў сябе будуюць зусім новы сьвет, але ў нас зьмен няма. Людзі жывуць тым, чым жылі і да вайны. Вайна, рэвалюцыя толькі затрымліваюць ці паскараюць набліжэньне да мэтаў, калі яны ў каго былі. Мэты больш энергічныя ў сялян – купіць больш і лепшы кавалак зямлі, меньшыя – набыць харошыя боты, добра паесьці, меньш рабіць.

Няма зьмен і ў мяне. Я яшчэ ня думаю, хто я буду. Больш схіляюся ісьці за братам па лясной часьці. Лес вабіць заўсюды і ўсякі. Хваёвы лес улетку мае адну прывабнасьць: пахне смалою, стукае дзяцел; увосень – другую – ціха шумяць вяршыны хвоек, нікне трава. У полі сьвішча асеньні вецер, а тут ціха. На душы адразу робіцца таксама ціха, спакойна. Узімку, засыпаны сьнегам, ён захоўвае ціш нават тады, калі за лесам круціць мяцеліца. Сьвішча вецер, круціцца сьнег, сыпле з усіх бакоў у твар, а ў лесе толькі вярхі хвоек калышуцца і ціха-ціха падае

* Правапіс арыгінала і асаблівасці аўтарскай мовы захаваныя.

сьнег. Здаецца, што трапіш у хату. Нага правальваецца ў глыбокі чысты сьнег. Маленькія елачкі ўсе абсыпаны сьнегам. Хораша ў такім лесе.

Лес дубовы мае сваё хараство. Ён расьце ў большасьці над ракою ў нізкім месцы. Зімою гэты лес голы, нудны. Вецер ходзіць па ім, як у полі; ня мае ён хараства і ўвосень, калі сыплюцца лісьця, а ўся зямля засыпана жалудамі. Гэта мокры лес, які ня мае ні шэпату вяршынь, ні мяккасьці моху ўнізе, але які харошы гэты лес увесну ці летам.

Зялёны кудравы лес з мяккім муравом вабіць здалёк. Прыход у лес спатыкаюць сотні птушыных галасоў. Яны нібы стараюцца адна другую перасьвістаць. Магутныя дубы, белыя бярозы стаяць зусім нерухома. Сонца аблівае гарачымі струменямі ўсё навокал, за лесам пераліваецца паветра і здаецца, што ў паветры ідуць хвалі, прарэзаныя яркім сонцам, а тут прахлада. Сонца прарываецца скрозь голле і кладзе на зямлю плямы белыя, зялёныя і чорныя. Час ад часу праскочыць вавёрка, праімчыцца заяц. Раньняю вясною, калі цьвіце чаромуха, такі лес пахне. Прышоўшы ў лес, ня хочацца з яго выходзіць. Ён прыгожы і днём, і вечарам, і ўночы, а найлепшы пры ўсходзе сонца, калі асабліва голасна сьвішчуць птушкі, трава і дрэвы мокрыя ад расы.

Калі ж праз лес цячэ рэчка, то хараство лесу падвойваецца. Невялікая рака – ня Волга, але наша маленькая рака, якую часам ня цяжка пераскочыць і няма прыгажэйшай у нас ракі, як Сьвіслач у лесе. Чыстая вада цячэ па пясчаным дне міма зялёных дубоў, прыбраная ўнізе лазою, арэшнікам. Уночы яна блішчыць срэбрам пад месяцам, удзень вабіць пакупацца. Уночы над ракою крычыць філін ці сава, дзікі голас здаецца прыемны. Ёсьць нейкая гармонія ціхага цёмнага лесу, ціхай малой ракі і гэтага далёкага крыку драпежніка. Не забываюцца дзіцячыя і юнацкія паходы ў лес.

У лесе можна жыць аднаму і так, як жыве Ваня. Стаіць сярод вялікага лесу дом, прад домам бэз, ружы, арэлі, за домам сад. У канцы сада рэчка, а далей на дзясяткі, сотні кіламетраў лес. Ніколі б я не выходзіў з лесу. Ваня расказвае, што старыя лесьнікі, якія ўсё жыцьцё пражылі ў лесе і звольненыя з работы, скора паміраюць – нуда па лесе заядае іх. Так і павіньна быць. Вырваць чалавека з лесу – гэта значыць адарваць яго ад зямлі. Чалавек у паветры жыць ня можа. Але зараз сьвет зьмяніўся.

Дзень я іду вучыцца на лясьнічага, ды мне пакуль толькі 13 год. Лес застаўся мілы сэрцу на ўсё жыцьцё, аднак у гэтым годзе адбываюцца падзеі, якія ставяць мяне зусім на іншыя рэйкі. У мяне адбываецца рэвалюцыя, я ўспрыймаю маё новае вучэньне і адразу захапляюся ім увесь. Мяне расьпірае ад новых ідэй, хочацца, каб усе думалі і рабілі тое ж, што і я. Рэвалюцыя гэта нацыянальная.

Гэта даўняе, нявырашанае пытаньне. Час ад часу яно ўсплывала, трывожыла, выклікала думкі, але заставалася нявырашаным. Былі непаразуменьні, няўвязкі ў поглядах, але ўсе навокал казалі, што гэта так, і я ўспрыймаў, што гэта сапраўды так.

Мы – рускія, ёсьць яшчэ палякі, жыды, цыганы, татары. Гэта тыя, што мы бачым; апрача таго недзе жывуць немцы, французы, ангельцы, аўстрыйцы. Немцаў і аўстрыйцаў бачылі пад час вайны, іншых – не. Мы – рускія праваслаўнай веры, ходзім маліцца ў царкву, палякі польскае ці каталіцкае веры моляцца ў касьцёле. Каля Рубілак ёсьць малы старэнькі “касьцёлік”, куды зьяжджаецца маліцца шляхта на свае польскія сьвяты. Нашы хадзілі маліцца ў касьцёл, палякі бывалі ў цэркві. Розьніцы вялікай няма. Хіба тое, што палякі – гэта пераважна шляхта, “шэршні”, але ёсьць сярод іх простыя. Кажуць, недалёка ад нас ёсьць Юнцаўшчына, Кложава, дзе палякі жывуць не на хутары ці ў засьценку, як звычайна, а ў вёсцы, зусім як простыя людзі. Палякі мусяць гаварыць па-польску, але нашы палякі слабыя наконт гэтага.

Мы рускія, але гаварыць хораша, па-руску ня ўмеем. Мы гаворым па-просту. Гаварыць хораша па-руску ўмее той, хто вучыўся. Руская мова – гэта навука, мастацтва, якім трэба аўладаць. Саматугам гэта даецца кепска. Прыкладам можа быць Мікалайка Тамковіч.

Нашы палякі таксама гутараць па-просту. Па-польску ідзе размова толькі ў сьвяты, калі шляхта зьяжджаецца на сваіх жоўтых і зялёных брычках да царквы ці касьцёлу на фэст, але і то такія далікатнасьці трымаюцца да таго часу, пакуль не падап’юць, а пасьля ізноў ідзе па-просту. Калі ў 1915 г. у нас зьявіліся палякі-бежанцы, то нашы палякі селі, паколькі ніхто з іх ня мог гаварыць з палякам. У Менску шляхты няма. Там палякі рабочыя ў большасьці чыгуначныя. Гэта палякі мудрэйшыя, чым наша шляхта. Як людзі гарадзкія, яны ўмеюць гаварыць і па-руску, але ў большасьці карыстаюцца простаю моваю, бо па-польску або зусім ня ўмеюць гутарыць, або гавораць ня лепш, чым наша шляхта. Віцкаўскія погляды прыблізна такія: вясковы чалавек, радзіўшыся і жывучы ў вёсцы, зразумела ўмее гаварыць толькі па-просту. Раз у 1919 г. я чуў, як нашы дарослыя людзі дзівіліся, што маленькая дзевачка аднаго менскага грамадзяніна гаворыць па-руску. “Такая малая, а як хораша гаворыць”: значыцца прыроджанаю натуральнаю моваю кожнага чалавека была мова простая, а ўжо пасьля, з ростам, калі чалавек удасканальваўся, ён вучыўся гаварыць ці па-руску (“хораша”), ці па-польску (“далікатна”).

Што ёсьць сяляне, простыя мужыкі, якія гавораць без усякае навукі па-руску, пэўна ня ведалі. Увесь сьвет здаваўся такі, як Віцкаўшчына, Рубілкі, Шкіндзяроўка. Кнігі, зразумела, пішуцца толькі па-руску ці па-польску. Жыды маюць свае кнігі. Што кніг, пісаных па-простаму, няма – гэта зусім натуральна. Чалавек, які чытае кнігу, той вучыцца. Раз вучыцца, то значыцца ня хоча быць простым. Самая ідэя, што кнігі могуць быць надрукаваны па-просту, здавалася дзікаю.

Аднак між моваю, на якой пісана кніга, і моваю людзей, што гутараць па-руску, ёсьць розніца: у кнізе пішацца “корова”, а гавораць усе – і простыя, і ня простыя – “карова”. Пішацца “вода”, а ўсе гавораць “вада”. У расейскай граматыцы пісана, што калі гук “о” чуваць нявыразна, то трэба зьмяніць склон, але як ні зьмяняй склон “карова”, усё роўна будзе адно.

Паўлік, прышоўшы першы раз у адпачынак з салдат, зьдзіўлена казаў, што ёсьць салдаты, якія гавораць чыста па-кніжнаму: “окно”, “вода”, “корова”. Мы такіх яшчэ ня бачылі.

Я чытаю “Вечера на хуторе” і спаткаю там слова “ховзятся”, гэта значыцца коўзацца. Мяне злуе, чаму гэта аўтар піша ні па-простаму, ні па-руску, перакручвае простыя словы. Другія словы песьні зусім ужо нікуды: “ой місяц, місяцю”. Ну што гэта за “місяц”. Аднак гэта таксама мова простых людзей, бо Вакула ў Пецярбурзе дзівіцца, чаму запарожац зварачаецца да царыцы па-просту, калі можа гутарыць па-вучонаму. Пазьней, калі я чытаў “Женитьбу”, мяне цешыла, што лейтенант Жевакин м*а*е погляды на рэчы якраз як віцкоўцы – ён расказвае, што ў французскай зямлі Сіцыліі ўсе, нават мужыкі, гутараць па-французску, а па-руску зусім ня ўмеюць. Во гэта дык мужыкі, мудрэй рускіх паноў, якія не заўсёды ведаюць французскую мову, не раўнуючы як наша шляхта польскую.

Кніг, пісаных па-простаму, на зямлі няма, але простыя вершы ўспрымаюцца як дзіва. Яны робяць такое ўражаньне, што звычайна чалавек, раз праслухаўшы такі верш, запамінае яго на ўсё жыцьцё. Так у нас часта дэклямуюць “панскае ігрышча”, горад і вёска ня ведаюць і ня чуюць зусім пра аўтара.

Першы раз я пачуў, як чытаюць беларускую кніжку, у дзяцінстве. Дзед па нейкаму выпадку запрасіў да сябе гасьцей, якіх набралася поўная хата. Была здаецца сёмуха. Калі я, учапіўшыся за маміну руку, увайшоў у новую хату дзеда, то ўбачыў хлопца, які ў сьвяточным адзеньні, у шапцы сядзеў каля вакна на лаве і чытаў кнігу. Каля яго стаяла яшчэ некалькі хлопцаў, якія час ад часу рагаталі. Гэты хлопец

чытаў па-просту, утрыруючы словы. Ён вымаўляў словы “узноў, зыноў, паднюў”, што ў нас лічылася крайняю ступеньню простасьці. Хлопцы рагаталі з таго, што былі людзі яшчэ больш простыя, чым яны, пра якіх пішацца ў гэтай кнізе.

У 1913 г. мне трапіла кніга “Сказки и рассказы белорусов-полешуков” Сержпутоўскага. Я пробаваў чытаць яе, але скора кінуў. Ізноў было нешта простае, але перакручанае, несапраўднае.

Было зусім натуральна, што чалавек, які вучыцца, перастае гутарыць па-просту, пачынае па-руску. Руская мова – гэта навука, і хто ў школе не навучыўся гутарыць па-руску, то значыцца нічаму не навучыўся.

Што чалавек можа ўмець гаварыць па-руску, але ня будзе карыстацца гэтым дарам неба, здавалася немагчымым. Гэта быў бы просты дурань, які ня хоча вылезьці з мужыкоў у вучоныя.

## VIII-а

Ад’яжджаючы першы раз у Самахвалавічы, маю загад ад мамы: “Глядзі, каб ты навучыўся там гаварыць хараша па-руску”. Успрыймаю гэты загад, стараюся з усіх сілаў, але ў Самахвалавічах гэта выходзіла кепска. У нас па-руску гаварылі толькі настаўнікі, ды на гэтай на мове напісаны кнігі, а мы ўсе ў школе і ўсе за школаю гаварылі па-просту.

У нашых чытанках такая мова, што прачытаўшы сказ ці ў апошні год верш, пачынаем рабіць пераклад, настаўнік дамагаецца ад нас, каб мы разумелі сэнс прачытанага.

*“Горит восток зарёю новой, / А на равнине, по холмам”*, – надрукована ў кніжцы. Пасьля запытаньняў выходзіць, што восток – гэта ўсход, а “заря” – зусім ня зорка, бо зорка – гэта “звезда”. Крыху падобна да чытаньня Эвангельля на славянскай мове, дзе славянскі тэкст перакладалі па-руску, а рускія словы яшчэ тлумачылі па-беларуску.

Нашы настаўнікі і поп глядзелі на беларускую і расейскую мову як і вяскоўцы, хто кепска ўладаў расейскаю моваю, той быў тупіца, які ня ўмее аўладаць навукаю. За беларускія словы з нас настаўнікі кпілі, дражнілі, звалі мужыкамі. Мы стараліся адказваць ім па-руску. Як у нас гэта выходзіла, сам ня ведаю, пэўна ня надта ўдала, хоць нейкія посьпехі, зразумела, былі.

Гэта ў Самахвалавічах, але ў Менску сталася больш складана. У Менску ўсе гавораць па-руску, усе былі паны. У кроў прасочвалася разуменьне, што гарадзкія лепш за вясковых: усякі гарадзкі вышэй за ўсякага вясковага.

“У Менску нават сын дворніка ці ізвозчыка будзе сьмяяцца з цябе, бо ты з вёскі”, – казала мне Ніна перад ад’ездам. І гэта сапраўды было так.

Наша “простая” мова, нашы рудыя боты, шытыя Фядосам, польты скрозь выклікалі кпіны. У год рэвалюцыі гэта зменьшылася, бо ў нас быў хлеб, а паны сядзелі галодныя, але дух застаўся.

Усякі, хто хацеў перайці ў стан паноў, а перайці хацелася ўсім, мусіў найперш гаварыць па-руску: гэта было важней, чым добры гарнітур. Абшарпаны чалавек, які мякка вымаўляў “р”, а “п” вымаўляў, як “д”, заўсёды мог разлічваць на посьпех. Усё сваё ганьбілася. Пра гэта пісалі кнігі, казалі разумныя і вучоныя кнігі, і самі “мужыкі” ўспрымалі гэта.

Аднак напляваць на ўсё сваё было ня так проста. Мы ўспаміналі апавяданьні свае самахвалавіцкае гаспадыні пра Пензенскую губэрню, і гэта губэрня, дзе ўсе гаварылі па-руску, была нібы дзікунскім краем, дзе ня ўмеюць ні адзецца, ні есьці, дзе ўсе п’яніцы. За час вайны шмат хто пабыў у Расіі. Мой адзін прыяцель жыў у Разані і расказваў пра яе прыблізна тое ж, што і пра Пензенскую губэрню – таксама нейкі дзікунскі край.

Мы крыху пачалі адрозьніваць мову ад іншага жыцьця.

Адзін раз у першай ці другой клясе я пачаў дэклямаваць "горад і вёску". К таму часу вёска ў маіх вачах ужо значна падрасла. Вакол сабраліся вучні. Здаецца, я сам дэклямаваў, каб крыху пакпіць, во як проста гавораць у нас. Адзін з вучняў, высокі, добра апрануты хлопец, які ўмеў надта хораша, чыста гаварыць па-руску, хоць прозьвішча меў польскае і лічыўся палякам, сказаў мне: "Говори, говори по-просту. Я понимаю, как говорят в деревне". Гэта была нібы пахвала, але сказана так зьверху ўніз, што я абразіўся не асабіста, але за вёску, што такі-то вось пан можа так зьняважліва гаварыць пра вёску.

Трэба было стаць зусім хамам, каб сьмяяцца і труціць усё сваё. Шмат такіх хамаў і дала вёска. Погляд, што сваё "простае" пусьціла надта глыбокія карані ў нас. Гэта быў не індывідуальны погляд людзей, якія стаялі на версе вёскі, погляд ня толькі паноў ці тых, хто імкнуўся ў паны, але масавы погляд большасьці саміх сялян, і таму ў нас перад вайною зьнікаюць свае песьні, і дзяўчаты сьпяваюць "Когда б имел я златые горы" і "Маруся отравилась". Сьпяваюць, зразумела, на свой лад, так, як жніўныя ці купальскія.

Непараўнана больш трывалая, устойлівая была свая казка, прыказка, прымаўка, звычай. Тут амаль не было ўзораў для перайманьня. Песьня передаецца проста праз паветра, а гэта мае больш інтымны характар. Мы, малыя, успрымаючы погляды старэйшых, лічылі, што так і належыць. Такія ж погляды ўшчапляла нам і літаратура. У Менску, і нават прыязджаючы дамоў, я стараўся гаварыць толькі па-руску, і шмат кпін, шмат горкіх хвілін перанёс, як і ўсе мае равесьнікі-вяскоўцы, за няўменьне гаварыць "хораша па-руску".

Усё гэта прыпомнілася пасьля.

Узімку 1919 г. у нас у школе пачаліся зьмены. У праграму была ўведзена польская мова. Праўда, гэта ж было зроблена і ў другіх школах. Нават нашы "палякі" кепска разумелі па-польску, а мы тым больш. Выкладаць польскую мову пачала жонка інспэктара. Настаўніцы ў нас наогул карысталіся малою пашанаю, народ мы былі кепска дысцыплінаваны, а тут яшчэ з польскаю моваю, а мы ж рускія, рускія, выхаваныя на Тарасе Бульбе з аднаго боку, і з варожасьцю да "шэршняў" ужо арганічна і без усялякіх кніг. І таму, калі першы раз прышла да нас настаўніца на заняткі і загаварыла да нас па-польску, то апрача канфузу нічога ня вышла.

Толькі настаўніца пачала з намі гутарыць, як на задняй парці здаровы хлопец год 18 замяўкаў ды так, што больш сумленная частка аж падскочыла. Настаўніца зірнула туды, папрасіла сядзець цішэй, але з другога канца клясы нехта кеўкнуў. Ізноў рух і рогат. Настрой адразу ва ўсіх сьмяшлівы. Усім захацелася дурэць. Калі настаўніца пачынала гаварыць, то ўся кляса за ею галасіла тое ж слова. Тлум быў незвычайны. Рогат, крыкі. Кляса рабіла абструкцыю польскай мове. У другіх школах Менску было ня лепш. Настаўніца ня вытрывала. Са сьлязьмі, не дачакаўшы званка, выскачыла яна ў карыдор і на наступны раз прышоў ужо сам інспэктар. Пры ім прышлося сьцішыцца, але калі заспакоены інспэктар выйшаў, у клясе адразу падняўся такі гвалт, што настаўніца, нават ня пробуючы нас суцішыць, уцякла з клясы.

Доўга нас прывучалі да польскай мовы, але так і не прывучылі. Пасьля ўжо крыху стала лепш з дысцыплінаю, стала мажліва занімацца хоць і з бядою, без інспэктара, але посьпехі нашы ў польскай мове былі больш чым мізэрныя.

Усімі сіламі адкручваліся мы ад гэтай мовы і к вясьне 1920 г. адужалі кароценькі верш і сяк-так, кульгаючы, навучыліся разьбіраць па-польску чытанку.

Другою навіною ў школе быў ксёндз. Поп у нас выкладаў закон божы з першай клясы. Гэта для нас здавалася нармальна. Ды і поп тут проці самахвалаўскага быў ня кепскі. Малады, прыгожы, ён нікога ня біў і ня лаяў, як самахвалаўскі вядзьмак, а тут раз перад вурокам закона божага ў клясу ўвайшоў ксёндз. З нас

шмат хто, у тым ліку і я, ніколі ня бачылі ксяндза і таму з цікавасьцю ўставіліся на гэту фігуру. Ксёндз быў такі, якіх іх звычайна малюе літаратура: малады, ружовы, апрануты амаль так, як і поп, але валасы былі кароткія, а на галаве быў выгалены кружок.

Ксёндз запытаўся, хто з нас палякі. У клясе такіх знайшлося чалавек 6 ці 7. Гэта былі або шляхцюкі з-пад Менску, як браты Шаблоўскія, або дзеці менскіх рабочых. Па-польску яны гутарылі мала лепш за нас, г. зн. амаль зусім ня ўмелі, але паколькі былі каталікі, то гэта ў нас ужо аўтаматычна азначала, што чалавек паляк. Адначасна, калі мы праходзілі закон божы з папом, нашы “палякі” праходзілі свой польскі закон у другой клясе.

Пасьля ўсяго гэтага ў нас пранеслася чутка, што старыя настаўнікі адменены і ў школу назначаны новыя настаўнікі – беларусы, якія будуць вучыць нас па-просту, што зараз завецца па-беларуску. Вучэньне і простая мова ў нашым разуменьні наогул былі такія розьніцы, якія ніяк не сумяшчаліся ў нашай галаве. Ніколі мы наогул ня чулі, што ёсьць такія школы і што можна вучыцца па-просту. Першая мэта навукі – навучыцца гутарыць па-руску, калі ж будзем гутарыць па-просту, то сэнс вучэньня траціцца.

Мы абсалютна ня былі прывязаны да сваіх настаўнікаў. Адзін з іх, які выкладаў расейскую мову і тэорыю літаратуры, галіўся пэўна разы два ў год, калі рудая барада прымала пагражальныя памеры. Мундзір на ім, падзёрты пад пахаю, паказваў вялікі кавалак бруднае кашулі, калі ён падымаў руку. Сваю дысцыпліну ён выкладаў надзвычайна нудна і ў дадатак зваўся Корнилий Евтихиевич. Прычын любіць яго ў нас не было ані.

Другія настаўнікі, можа і не такія шэрыя, ані ня цікавіліся намі. Арганічнай сувязі з настаўнікамі не было ніякае. Асабліва праціўны быў настаўнік, які выкладаў гімнастыку. Галава ў яго была голая, уся ў гузах. Камандуючы направа, налева, ён расказваў розныя патрыятычныя ўчынкі з рускае гісторыі, у большасьці тыя, якія мы і самі чыталі ў сваіх падручніках. Ніколі не мінаў ён выпадку, каб пакпіць над вёскаю ці абарваць нас, калі хто-небудзь казаў слова па-просту. Мы мусілі быць удзячнымі, што з нас робяць людзей, але бесперапынныя кпіны над вёскаю абражалі, выклікалі варожасьць.

## VIII-б

Перад самым прыходам у клясу настаўніка-беларуса на дошцы з’явіўся надпіс “долой новых учителей”. Пісаў Расуновіч, той самы, што першы замяўкаў на першай польскай лекцыі. Ён быў з бежанцаў, некалькі год жыў у Расіі і хоць адносіўся да той Расіі, дзе ён жыў, зусім зьняважліва, але па-руску гаварыў чыста і зараз у нас быў першы пратэстант і проці пальшчызны і проці беларускасьці. Мы ўсе падтрымлівалі яго. За пальшчызну было некалькі нашых “палякаў”, за беларусаў не было ніводнага.

Празьвінеў званок, усе селі на месцы, чакаючы новага, невядомага настаўніка-беларуса, і ў клясу ўвайшоў малады высокі русы настаўнік. Кляса напружылася, чакаючы, што будзе, а настаўнік на дзіва ўсім нам загаварыў зусім проста і па-просту.

Я прыблізна чакаў, што ён будзе вымаўляць, як той хлопец некалі ў дзеда “узноў, зыноў, паднюў”, але настаўнік гаварыў так, як гаварылі ў нас, і ў гэтым было дзіва. Настаўнік, чалавек вучоны, мусіў гаварыць толькі па-руску, бо інакш ён быў “просты”, нявучоны, а тут загаварыў па-просту чалавек, які ўмее гаварыць і па-руску, але не гаворыць, бо лічыць, што “простая” нашая мова ня горшая, чым руская ці польская.

На вялікае наша зьдзіўленьне настаўнік кажа, што ён не адзін такі, што такіх

шмат, што на простай мове друкуюцца кнігі, газэты. Для ўсіх нас гэта было Амэрыка. На першы раз настаўнік надта не закідаў нас новымі ідэямі. Выклаўшы асноўнае, што гаварыць "па-просту" зусім ня брыдка, ён рэшту часу гутарыў з намі пра вясковае жыцьцё, пры гэтым не глуміўся з вёскі, не сьмяяўся з простых людзей, мужыкоў, але даводзіў, што яны лепш за іншых. Гэта таксама Амэрыка. Гэта першы раз за ўсё жыцьцё наша не высьмейвалі, ня зьдзекаваліся, ня кпілі, але спачувалі, разумелі. Чалавек ведаў вёску і ведаў, якія струны зачапіць у нас. Гэта было іншае, чым польская мова, чым усе іншыя. Гэта была рэвалюцыя.

Кляса сьцішылася. Ніхто ня пробаваў галёкаць, але шмат было ахвотнікаў запытацца, паспрабаваць пасьмяяцца з настаўніка, зрэзаць яго. Настаўнік адказваў спакойна, не злуючы, нібы разумеючы, чаму так пытаюць хлопцы. Празьвінеў званок, і настаўнік выйшаў.

Група была ўзрушана, але на першы раз, здаецца, не знайшлося ніводнага прыхільніка. Недзе глыбока ў нас былі зачэплены струны, але кожны яшчэ баяўся паказаць сябе прыхільнікам гэтай новай рэлігіі. Старыя багі былі моцныя. Наш сьветапогляд трэба было перарабляць да шчэнту, і школа пакрысе гэта рабіла.

Старыя настаўнікі ня ўсе былі зьменены, але зараз яны ўжо сьцерліся, пра іх існаваньне проста забыліся. Цяпер нас цікавілі толькі новыя, што скажуць, як трэба нам трымацца, што пытаць у іх. Варожасьць, зразумела, за першыя дні ня зьнікла.

На другі дзень мы знаёміліся яшчэ з новым настаўнікам. На лекцыю геаграфіі замест прывычнага нам высокага, рыжавусага настаўніка вайшоў новы чалавек з худым энергічным тварам. Апрануты ён быў у шынель, але гэты шынель быў абрэзаны каля самага хлясьціка, таму з яго выйшла нешта падобнае да жакеткі, штаны з шынельнага сукна і салдацкія боты. Ад такога адзеньня настаўнік шмат траціў у нашых вачах. Мы паважалі больш добра, прыгожа адзетых настаўнікаў і спаткалі яго заявамі, што ня хочам вучыцца па-беларуску, бо тут прыводзілася ўся тая аргумэнтацыя, пра якую ўжо пісаў. Настаўнік слухаў зусім спакойна нават рэзкія выкрыкі і адказаў так, што крыкушам стала сорамна. І гэты настаўнік казаў, што брыдка ня гутарыць па-просту, але брыдка сьмяяцца з гэтага простага, брыдка сьмяяцца з свайго, а далей катэгарычным тонам сказаў, што спрэчкі скончаны і зараз ідзе лекцыя. Ізноў кляса скарылася, сьціхла і пачала слухаць цікавую лекцыю настаўніка. Гэты ўмеў гаварыць.

І так дзень за днём. Прыходзілі настаўнікі, сьцьвярджаючы старую тэзу, што простая мова ня горшая за рускую і штодня высоўваючы новыя і новыя тэзы.

Настаўнікі казалі, што нас шмат – дзесяць мільёнаў, мы цэлы асобны народ. Наша тэрыторыя большая, чым тэрыторыя Польшчы, Літвы, Бельгіі, Швейцарыі, у нас вялікая, слаўная гісторыя. І ўсё гэта было страчана, калі народ зрокся свае мовы. Уласна зрокся не народ, але паны. І тая акалічнасьць, што ў нас некалі былі вялікія паны, якія гутарылі па-беларуску, робіць вялізнае ўражаньне. Цяпер у нас паноў, якія б гаварылі па-беларуску, няма ці ёсьць толькі адзінкі і ўсё нанава павінны рабіць людзі, якія выйшлі з мужыкоў. Гэтыя ідэі падаваліся не сыстэматычна, урывачна. Частка іх забылася і пасьля, у 1922–24 гг. была адноўлена.

Праз тыдзень у нас яшчэ навіна – беларускія кнігі. Далей, калі мне траплялі ў рукі беларускія кнігі, то яны разглядаліся амаль як кур'ёз. Чытаць было цяжкавата. Самае незразумелае і цяжкое было "дз". Усё як трэба, кніга напісана так, як у нас гавораць, але ў нас кажуць ня дзеці, ня дзякуй – гук "дз" ня рэзкі і патрэбен для яго быў асобны значок, каб унікнуць непаразуменьняў. Ну, але гэта была невялікая бяда, і мы скора з ею асвойталіся. Дзіўна было і тое, што ў кнізе гаворыцца пра людзей і пра падзеі такія ж, якія бываюць у нас, у Віцкаўшчыне, у Грычыне. Дагэтуль колькі і чаго я ні перачытваў, скрозь апісвалася чужое, а тут Віцкаўшчына, і зразумела, што такая кніга не магла ня выклікаць цікавасьці.

Першаю кнігаю, якая трапіла да нас у школе, была “Родныя зьявы” Гушчы-Коласа. Гэта была наша хрэстаматыя. Мы чыталі яе, разьбіралі творы, адначасна разьбіраючы ўсё жыцьцё вёскі. Працэнтаў на восемдзесят школа была з вясковых, гутарылі ўсе на тую ж тэму пра простую і ня простую мову, і тыдні праз два-тры большасьць школы выразна перайшла на бок новых настаўнікаў. Школа на вачах рабілася ня толькі па назьве, але і па духу беларускай.

Мы, яшчэ дзеці, усмоктвалі новую веру, убіралі яе прагна, кідаючыся на літаратуру, якая хоць чым-небудзь кратала наш край. Мы ўспомнілі крыўды, якія кожны з нас перанёс у горадзе за тое, што ён з простых, а цяпер выходзіць, што гэта простае ня горшае за панскае, што мы народ, што мы тут, а не хто, не паны палякі гаспадары. Гэта ўсё было ў дзіцячым разуменьні. Шмат, ведама, было незразумелага, наіўнага, але самае важнае было закладзена. З школы тут пачалі бегаць у рэдакцыю па беларускую газэту, некалькі хлопцаў з старэйшага клясу пайшлі ў беларускае войска. Яны прыходзілі ў школу, апранутыя ў вайсковае, як і польскія жаўнеры, толькі заміж белага арла на шапках у іх была “пагоня” – рыцар на кані.

Чытаючы словы Багдановіча:

Бейце ў сэрца іх, бейце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць,
Няхай знаюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць

– загараліся і самі. Хацелася несьці сваю новую рэлігію, тлумачыць яе людзям. Я не разумеў, чаму людзі не ўспрыймаюць гэтага так сама, як і я, чаму яны сьмяюцца і кпяць з беларускага. Мяне гэта злавала да сьлёз. Я гатоў быў з усімі сварыцца, біцца, калі хто абражаў.

Найперш, ведама, пра гэту зьмену паведаміў дома, калі прыехаў туды на сьвята. Дома, як і належала быць, спаткалі ўсё гэта скэптычна. Гледзячы на мае гады, я не павінен быў яшчэ наогул высоўвацца, а тут яшчэ з такімі поглядамі. Аднак у гэтым пункце я не саступаў ані. Уся дысцыпліна згінула. Я, прыехаўшы, сказаў, што гаварыць па-руску ня буду, а буду толькі па-беларуску, а па-беларуску – гэта значыць па-просту, карацей, так, як гавораць дома. Гэта было парушэньне правіл. Усе, хто вучыўся, павінен быў забыцца, вытруціць простую мову, а тут хлапчук адурэўшы хоча ўжо здабыты скарб выкінуць. На мяне пачалі сварыцца, я ўпёрся. Тады пачалі дыскутаваць, але я, наслухаўшыся настаўніка і начытаўшыся кніг, адчуваў сябе мацней, чым оппоненты, а найчасьцейшым оппонентам быў бацька.

Рэдкі вечар быў такі, каб у хаце не было на гэту тэму дыскусіі. Нават было спэцыяльнае месца для дыскусій. Скончыўшы работу, у хату прыходзіў бацька, садзіўся на лаву за стол і круцячы папяросу даўжынёю з поўмэтра, гіранічна паглядаў на мяне. Я ведаў, што калі толькі я прыду ў хату, то спрэчкі не мінуць. Гэта злавала, нэрвавала, але я ішоў і чакаў.

“Ну, што ж наш беларус сягоньня скажа?” – пачынаў бой бацька, закурыўшы папяросу і выпускаючы з-пад вусоў дым.

Я адразу чырванеў. Каб гэта ня быў бацька, то ён бы меў адразу сварку, але тут, стрымліваючыся, я пачынаў даказваць, крычаў, пераскокваў з тэмы на тэму. З мяне дзівілася і кпіла ўся сям'я. Ніна, самая мірная, угаворвала маўчаць, бо размовы часта пераходзілі ў сваркі, а ў нас гэтага не павіньна б быць. Гэта не памагала, ды скора і Ніна перайшла ў новую веру. На мяне ледзьве не прыходзілі глядзець сваякі, пайшла пагалоска, што вось ёсьць такі хлопец, які ўмеючы ня хоча гаварыць па-руску і кажа, што ў нас усе павінны гаварыць па-просту.

Чытаньне кніг аб Беларусі адначасна выклікала цікавасьць да беларускае этнаграфіі, і паколькі старасьветчыны ў Віцкаўшчыне было мала, то прышлося

зьвярнуцца з просьбаю да бацькоў, каб яны расказалі, што ведаюць аб мінулым жыцьці. Мама расказвала меньш, але бацька вельмі ахвотна ўспамінаў мінулае, а я прагна слухаў. У мяне заміж цікавасьці да гісторыі і геаграфіі наогул расла цікавасьць да гісторыі Беларусі. Захацелася даведацца, як жылі ў нас даўней, але новыя грозныя падзеі закруціліся ізноў і спынілі гэта імкненьне на доўгі час.

## VIII-в

Віцкоўцы чакалі ў свой час палякаў, як збаўленьня і рады ім былі бязьмежна, рады былі яшчэ некалькі часу пасьля прыходу, але чым далей, тым больш гэта радасьць пачынае гаснуць. Новыя прыяцелі аказаліся не такімі ўжо дабрадзеямі. Яно ведама вайна ёсьць вайна. Гэта разумелі нават і вяскоўцы. Ня ўсё ж прадаць хлеб, сала, сыры па дарагой цане, а купляць усё іншае па таннай. На вайне давозіцца несьці і страты. Гэта няўхільна. Усякая ўлада, што была тут, брала, брала, мала саромячыся і мала зважаючы на лямант, сьлёзы. Брала царская армія, бралі немцы, бралі бальшавікі. У віцкоўцаў бальшавікі бралі найболыш. Вёска, якая сваім дабрабытам выдаецца сярод усіх ваколічных вёсак, ведама, не магла не прыцягваць увагу ўсіх, каму трэба было што-небудзь узяць.

У хатах гарэла лучына, а каб не застацца без сьвятла, людзі запальвалі кавалак торфу ці вяроўкі, якая пакрысе і курыла. Калі трэба было здабыць агонь, то гэты торф раздувалі ў полымя. Чалавек едзе ў поле араць, на возе ляжыць цагліна сухога торфу, разносячы пах гарэлага торфу – калі трэба будзе закурыць, то прыкурваюць ад гэтае цагліны. З гэтым торфам ідуць на сенакос. Перетрасаліся старыя куфры, адкуль выцягвалі дзядоўскія красала, шукалі ў полі крэмень і высякалі агонь. Палатно фарбавалі ў бочках з жалезам.

Людзі варачаліся на стагодзьдзі назад.

На бальшавікоў найбольш крыўда была за тое, што яны толькі бралі, а ўзамен нічога не давалі. Зразумела, не ўзамен таго, што бралі. Падатак, кантрыбуцыя – гэта другое дзела. Гэта бярэцца дзяржаваю на сваю карысьць, без усялякага эквіваленту, але крыўда была на тое, што і на рэшту вольных сродкаў купіць было нельга. Найперш таму, што няма дзе купіць – няма солі, газы, мануфактуры, абутку, запалак, наогул німа нічога, а па-другое, што і нельга. Была эпоха вайсковага камунізму, купляць-прадаваць было нельга. Усё рабілася с паталка, усё было забаронена.

Цяпер, калі прышлі палякі, зьявілася шмат тавару, праўда, ня ўсё, што трэба, але галоўнае было. Палякі прынесьлі з сабою грошы "касьцюшкі" – папяровыя грошы, на якіх быў партрэт Тадэуша Касьцюшкі. "Касьцюшкі" былі мала мацнейшыя за бальшавіцкія грошы, і цана іх няўхільна падала. Апроч "касьцюшак" былі яшчэ грошы, і якіх тады толькі не было грошай – і нямецкія маркі, і керанкі, і царскія, і думскія, і нават час ад часу амэрыканскія даляры. На ўсе гэтыя грошы быў асобы курс і на ўсім гэтым нажываліся спэкулянты ў Менску. У Менску была чорная біржа, дзе спэкулянтам грошы цяклі ў кішэню ракою.

Дык першае, што трэба было ад новае ўлады – даць тавараў, дазволіць гандаль, яна дала. Другое – трэба было ўпарадкаваць падаткі. Пры бальшавіках падаткі браліся на вока – колькі валасная дума захоча, столькі пакладуць. Чалавек ніколі ня быў упэўнены, колькі і чаго ў яго возьмуць – у суседа, скажам, які можа добра пачаставаць, маглі зусім нічога ня браць, а ў другога забяруць усё. Ад такіх парадкаў на сьцяну мог палезьці ня толькі вясковец.

Палякі крыху ўпарадкавалі і гэту галіну жыцьця, падаткі пачалі раскладацца больш раўнамерна, але прычын для непаразуменьняў набіралася колькі хочаш. Якую б тоўстую скуру ня меў чалавек, як бы ён зьняважліва не адносіўся да ўсяго свайго, лічачы яго ніжэйшым за суседзкае, аднак жа калі гэтыя суседзі толькі і

робяць, што плююць на гэтае, хоць і кепскае сваё, плююць літаральна, то гэта ўрэшце мусіць выклікаць нянавісьць, а пасьля ў нейкай форме пратэст. А палякі рабілі ўсё для таго, каб выклікаць гэту нянавісьць, рабілі старанна, што дня, на ўсіх вучастках жыцьця. Можна было думаць, што палякі, і ў прыватнасьці тое сьмецце, якое кіравала тылам – каменданты, жандары, жаўнеры і свая наша шляхта, якая ашалела ад гонару, прайшлі нейкія спэцыяльныя курсы, дзе іх навучалі, як трэба зьдзекавацца над людзьмі. Можа ў даўнія часы, калі эўропэйцы заваёўвалі першыя свае калоніі, гэта лічылася ня так страшна, але тая пара прайшла.

Заўсёды п’яныя, ніколі не выпускаючы з рук бізун ці гумавую тоўстую трубку, камендант і жандары лупілі ўсіх сялян, што спатыкаліся на дарозе. Усіх не палякаў і не каталікоў лічылі ніжэйшаю нагодаю, з якою ўсё дазволена. Біццё стала настолькі звычайнаю зьяваю, што сяляне, едучы на стойку ў воласьць адбываць падводную павіньнасьць, апраналі па два кажухі, каб меньш балела. Толькі доўгімі гадамі папярэдняга рабства можна вытлумачыць, што пры ўсіх зьдзеках у нас не пачалося агульнае паўстаньне і польскі фронт разваліўся пад ударамі арміі.

Бальшавікоў у той час ненавідзела і баялася невялікая меньшасьць, большасьць насельніцтва горача падтрымлівала іх. Палякаў не любіў ніхто, хіба паны, велізарная большасьць іх ненавідзела, а невялікая кучка багацейшых цярпела іх і то таму, што бальшавікі былі яшчэ горш. Каб зьявіўся хто трэці з больш прыемлемаю праграмаю, ён адразу знайшоў бы сабе спачуваючых.

Бальшавікі, адышоўшы да Бярозы, спыніліся, у палякаў сіл было ня надта шмат, і перайці за раку яны не змаглі. Што тварылася на другіх франтах, было ў нас невядома. Што будзе далей, так само было невядома. Менскія газэты, якія ў нас чыталіся, увесь час пісалі, што вось-вось бальшавікам будзе канец. Здаецца ўвесну 1920 г. праехаў з Савецкай Расіі праз Менск на захад пісьменьнік Меражкоўскі. Урывак з яго рамана быў надрукован у “Минском курьере”. Пісьменьнік расказваў пра Расію жудасныя рэчы. Віцкоўцам хацелася, каб бальшавікам быў канец, але заадно хай бы згінулі палякі і пачалося такое жыцьцё, як да вайны. Большага не хацелі.

Але бальшавікі, ведама, не хацелі паміраць. У чэрвені, калі буйна красавала жыта, у нас пайшлі чуткі, што паны прадаюць зямлю разам з жытам па надзвычайна выгадных умовах – зусім танна. Грошай зараз было даволі, але чутак, што хто-небудзь купляе панскую зямлю, не было. Толькі чуткі пра зямлю радзілі новыя чуткі, што, відаць, на фронце ня добра, калі паны прадаюць зямлю, відаць, скора палякам зьбірацца дамоў.

У нас скончылася вучэньне. Мы ўсе вярнуліся дамоў, а зьмен ніякіх не адбылося. Людзі ходзячы цмокалі – можа і кепска, што не купілі хутар у пана – сядзеў бы сабе зараз сам панам.

Усё йшло сваім чарадом: цьвілі сады, аралі і сеялі ў полі, рабілі грады і саджалі на іх капусту, бручку, агуркі.

Прышоў і Ян. Ян – весялейшы дзень у годзе. Ян для Віцкаўшчыны ня меньш, чым вялікадня. Ян – гэта фэст, калі ўсе прыбіраюцца, пякуць, вараць, а зараз гоняць яшчэ і самагонку. Ян – гэта гулянка такіх папугаяў, што ўсе госьці павінны хадзіць ракам. Гулялі Яна або ў нас, або ў дзядзькі на Востраве. Гэты год гулянка павіньна быць у нас. Дзень як звычайна на Яна найпрыгажэйшы – ясны, гарачы, увесь пранізаны сонечнымі праменьнямі, сьвяточны, урачысты сам ужо па сабе.

Перад Янам увесь дзень мітусьня. На дварэ рэжуць парасят, курэй або і цяля. У хаце прыбіраюць, чысьцяць, месяць, пякуць, вараць, смажаць. Самагонкі нагналі раней, і зараз яна, разьлітая ў гарцовыя бутэлькі, у саломе, у габлюшках чакае свайго часу. Я ня быў тады спэцыялістам наконт выпіць, але ўсе аўтарытэты аднагалосна сьцьвярджалі, што ў нас гарэлка была добрая. Ну добрая, дык добрая!

Увечары, калі прышлі з-пад царквы, у нас пачалася гулянка. У хаце было горача – сталы, лавы, столікі, крэслы, табурэткі, наогул усё, на чым можна было паставіць і на чым можна было сесьці, выцягнулі ў сад, на сталы паставілі смажаных парасят, кілбасы, шынкі, паляндвіцу, масла, бутлі са сьвянцонаю вадою. Справа ішла як належыць быць. Ужо нехта сьпяваў песьню пра Каперніка, які дарэмна працаваў цэлае жыцьцё, каб даказаць, што зямля круціцца. Даказаць гэту ісьціну можна было значна прасьцей. Варта толькі добра выпіць, каб зямля відавочна пачала круціцца. Усё робіцца, можна сказаць, у момант. Іграў гармонік і некалькі параў танцавалі вальса. Цямнела, надыходзіла пара, калі можна было як належыць разгуляцца. Але раптам пранеслася трывога. Нехта прыбег і сказаў, што жаўнеры ходзяць па Віцкаўшчыне і выганяюць людзей з фурманкамі, каб правіць мост у Прылуках, які зламаўся ў самы непатрэбны момант. Кажуць, нібы палякі пачалі адступаць, але ў гэта ў нас кепска верылі. Чуткаў хадзіла столькі, што верыць усяму было нельга.

Тым часам і ў нас на дварэ зьявіўся польскі жаўнер, які залямантаваў па-польску, каб хутчэй запрагалі каня. Па жаўнеру было відаць, што ён трапіў на віцкаўскі фэст не без карысьці для сябе: вочы былі вясёлыя, ногі хадзілі не зусім удала. У нас трымаліся палітычна: каня? Зараз! Але ці ня хоча наш ваяка крыху выпіць? Гарэлка ўсё роўна, як падпанскі сьпірытус.

Наш ваяка выпіць хацеў, але ня крыху, а добра. Калі яму пачалі наліваць добрую чарку, то ён адхіліў і загадаў частаваць сябе са шклянкі. Для такога пана, ведама, было не шкада і шклянкі.

Калі дзьве шклянкі загінулі, то ўсім стала відавочна, што гэтага даволі: паляк лёг на сталах спаць, паклаўшы каля сябе карабін. У гэты час пад'ехалі фурманкі, сабраныя для работы, на адну з якіх быў паложаны дашчэнту п'яны жаўнер.

Ад нас фурманкі не пашло, але фэст раскідаўся. Устрывожаныя, разыходзіліся дадому.

Так пачалося ў Віцкаўшчыне ліпеньскае адступленьне польскай арміі.

## VIII-г

Пачалася трывожная пара, якая цягнулася праз увесь 1920 г. Але трывога адно, а работа другое. Назаўтра раніцаю, як і заўсёды, паехалі ў поле. Паўлік пачаў баранаваць поле, я паехаў абганяць бульбу пад Дубовіна. Дзень быў прыгожы, ясны. Сонца паднялося і раса высыхала. Быў мірны дзень, як учора на Яна, як пазаўчора, як іншыя папярэднія дні.

Абганяючы, я глянуў на сьцежку і зацікавіўся: там бегла Ніна. Па Ніне было відаць, што трывога. Трывога гэта датычылася і да мяне. Я спыніўся. Ніна дабегшы перадала мне, каб я кідаў работу і хаваўся ў лес. Палякі адступаюць, ідуць бальшавікі. Палякі зараз шукаюць коней і забіраюць усіх, каго ўбачаць. Адзін жаўнер прыходзіў забраць коні ў Паўліка, але Паўлік уцёк пад абстрэлам паляка. Мне трэба хавацца ў вомшар і чакаць загаду.

Я кідаю плуг у полі, саджуся коньна і лагчынаю еду ў лес. Лес – вомшар, але ў ім ёсьць асобныя густыя купкі бярэзьніку, зараз зялёнага, кучаравага. Тут наша ягаднае месца. Як памятаю сябе, мы заўсюды хадзілі ў вомшар па ягады. Зараз тут трэба хавацца ад вайны. Што творыцца дома – невядома, але трывога скрозь. У вомшары я не адзін. Праехаўшы крыху ў лес, бачу пару коней, прывязаных да хвойкі, а побач сядзіць гаспадар. За кустамі яшчэ коні, далей коні дзядзькі. Дома з хутароў пазіраюць на дарогу і ў поле – ці няма нечаканых гасьцей. На выпадак трывогі будуць уцякаць адсюль у далейшыя большыя лясы.

Сядзець у лесе аднаму з канём нудна. Увесь час сядзіш напружаны. Трывожна. Нуда проста заядае. Там у полі на сонцы, дзе відаць што-небудзь – лепш. Тут

бачыш вакол сябе бярозкі, хвойкі. Крычыць варона. Можа вось зараз падыдзе паляк, дасьць прыкладам і забярэ каня.

Як цяжко жыць на сьвеце: вайна і вайна. Калі-то пачалася яна, як быў яшчэ зусім дзіця і з таго часу як памятаю ўсё ваююць і ваююць, і няведама, калі яна скончыцца. А мы павінны працаваць – араць поле, жаць, малаціць, архаваць, а калі зерне пападае ў сьвіран ці яшчэ ляжыць у тарпах, яго трэба здаць.

Мы гадуем коней, даглядаем за жарабём з дня нараджэньня – кормім, чысцім, любуемся, а як вырастае конь, прыходзіць чалавек з вінтоўкаю, якога мы ніколі ня бачылі і якога пэўно ня ўбачым, забірае каня, а пры гэтым яшчэ сьмяецца ці грозіць.

Мы робім упарта, цэлаю сям'ёю цэлымі днямі, мало адчуваючы сьвята, сеем і жнём ізноў жыта, гадуем новых жарабят, але прыходзяць новыя людзі з вінтоўкамі, гранатамі і забіраюць ізноў. Вайна!

Вайна, калі яна пачыналася, здавалася нечым далёкім, прыгожым і геройскім. Міліёны маладых, вясёлых, прыгожых салдат ішлі на захад, а зараз вайна вось тут, у нас дома. Нічога ў вайне прыгожага няма. Ёсьць грабежніцтва, страх, бізуны. Людзі ходзяць баючыся, аглядаючыся, чакаючы толькі бяды. Я ўзьненавідзеў вайну і ніколі не было такое вострае нянавісьці да яе, як улетку 1920 г.

У лесе я праседзеў нядоўга. Нехта з старэйшых забраў у мяне каня, я пайшоў дадому. Палякі насіліся, як ашалелыя. З Марыполя праз Віцкаўшчыну гналі панскае быдла. За быдлам паціху ехала брычка, у якой на фэст прывозілі з Менску архіерэя. Паны адусюль перад войскам уцякалі ў Польшчу. Вось чаму так танна прадавалася панская зямля ды і з жытам.

Па гасьцінцы яшчэ мала руху. Наш гасьцінец ідзе з Менску на Негарэлае, Стоўбцы і па ім заўсюды ішлі асноўныя сілы арміі, але зараз яшчэ відаць яны не дакаціліся.

Навучаныя ўсімі мінулымі адступленьнямі, у нас хаваюць усё: хаты, кладовыя ачышчаюцца. Хаваюць адзеньне, грошы, сала, масла, еўжышчы хаваюць, не чакаючы паведамленьня, што палякі рабуюць. Цяпер і без паведамленьня ведама, што будуць рабаваць без усякае літасьці. Але як жа схаваеш усё ў гаспадарцы? У гумне, на палатках, у хлявах схоў ненадзейны. Захаваўшы раз, ідуць перахоўваць у больш надзейныя месцы. Мама, узяўшы які-небудзь гарнітур, ходзіць з ім з гумна ў манеж, адтуль у сад, усё тоячыся, гледзячы, каб не наляцеў паляк, ламаючы галаў, дзе б было схаваць так, каб не знайшлі, але калі падумаць, то скрозь можна знайці.

Клумкі цягнуць у равок на лужку, у жыта. Жыта, высокае, каласістае, жыта стаіць навокал. У ім знайсьці цяжка, але і класьці небясьпечна. Цэлы дзень, цэлую ноч затым цягаюць, хаваючы ўсё і, ведама, не схаваюць усяго. Тое ж робіцца скрозь.

Ідзе армія, армія, азьвярэўшая ад няўдач. Пакідаючы край, яна хоча, каб у ім не засталося ані нічога на пажыву ворагу. Каб не заставіць нічога ворагу, трэба зьнішчыць усё, што ёсьць на зямлі. Край мусіць стаць пустыняю.

Колькі раз ужо на нашай зямлі было гэта. Хто тут ні хадзіў, хто ні плюндраваў, дзівячыся, што край бедны і не дагадваючыся, што багатым ён ніколі ня будзе, калі час ад часу зьнішчаць усё. Не хадзілі толькі па краю свае абаронцы. Не было толькі людзей, якія б прагналі ўсіх грабежнікаў.

Весьнікі ў нас рыпяць і рыпяць. Маладыя сабакі Абрэк і Кайзер бесьперапыньна брэшуць. Скрозь на Віцкаўшчыне чуваць сабачы брэх. Гэта бегаюць легіянеры, шукаюць коней. Ходзяць па аднаму, кучаю, ходзяць з старастаю Віктарам Шпакоўскім. Адыходзіць, дакладней уцякае, ад бальшавікоў цэлая армія, і ўсім трэба коней. Трэба везьці зброю, адзеньне, жаўнераў. Трэба везьці нарабаванае дабро, бо польская армія адыходзячы рабуе ўсё, што трапіць пад руку. Ды палякі гэта не народ – паны. Пэўно, ня толькі ў нас думалі, гавораць толькі далікат-

ныя людзі – паны. Такога ж погляду пэўно прытрымліваліся большасьць самых палякаў. Пану, ведамо, хадзіць пехатою не выпадае. Пану трэба фурманка, тым больш, што іці як-небудзь не выпадае. Трэба іці скора, амаль бегчы, бо бальшавікі напіраюць з усіх сіл.

“Коней, коней!”, – крычаць ашалелыя жаўнеры.

“Няма коней. Усіх забралі ў абоз”, – адказвае вёска.

“Коней!”, – крычыць паляк, лаючыся і па-польску і па-руску.

“Няма, пане, коней, усе ў абозе”.

Так ад рана і да вечара. Час ад часу тэма мяняецца: у хату ўвальваецца куча легіянераў, у іх такі выгляд, нібы ўвесь сьвет ім падпарадкуецца. Не здымаючы шапак, не вітаючыся з гаспадаром, яны праходзяць у хату, займаюць лепшыя месцы і камандуюць: масла, яек, сыру, слоніны. Бульба, хлеб, крупнік – усё тое, што ядуць у нас сяляне, адкідаецца як нягоднае. Паляк ёсьць пан. Пан бульбы ня есьць. Пан есьць толькі масла і яйкі. Калі гэтага няма, то хоць сам зьнясі яйца, з сябе набі масла, адε дай. Дай, бо паляк, раззлаваўшыся, пачне крышыць усё ў хаце. Ён пасячэ сякераю камору, хоць гаспадыня, ледзьве ня млеючы ад ад жалю, стаіць побач з ключамі і можа адамкнуць. У яе ўсё багацце ўсяго жыцьця ў камодзе. Тут пасаг яе і пасаг, што зьбірае дочкам. Паляк не зьвяртае ўвагі на сьлёзы – ён чалавек высокага палёту і зважаць на сьлёзы лічыць непатрэбным.Ператрасае ў камодзе ці куфры ўсё, адбірае, што падабаецца, на разьвітаньне ж выцягне гаспадыню ці гаспадара бізуном ці грукне прыкладам. Гэта не ад злосьці, а так сабе: поўзаюць нейкія стварэньні, стукну, хай памятаюць польскага ваяку.

Здаецца, йдзе ня армія, а нейкая дзікая навала, якая ўсё крышыць, усё паскудзіць. Усе адступаючыя арміі бралі. Але тое, што паказала польская армія ў ліпені 1920 г., перавышала ўсё раней разам узятае. Ішлі гуны, якія мусілі пакінуць пасьля сябе нянавісьць і пустыню.

Ніхто ня можа ў нас сказаць, што палякаў ненавідзелі дарма. Яны зрабілі ўсё для гэтае нянавісьці.

Наш дом крайні ад гасьцінца, да нас даходзяць меньш. Хто ўбаку ад дарогі, за ляском, як на Востраве, там яшчэ лепш. Жаўнеры ня надта ахвотна адыходзяць у бок ад дарогі, бо за першым кустом могуць забіць. Нам, як крайнім, меньш і дастаецца. Увесь час ходзяць па двары, па хаце, па хлявах жаўнеры. Яны цягнуць усё, што пападзе пад руку. Ратунку няма. У Станішэўскага яны вывелі з хлява жаробку-пярэзімка, запраглі яе ў брычку і паехалі. Гаспадар быў непатрэбен. Выцягвалі з кублоў сала, шынкі, крышылі пасуду, распараджаліся, не зважаючы на сьлёзы гаспадара ці гаспадыні. Уночы гвалцілі дзяўчат. Мужчыны ўсе разьбегліся і пахаваліся ў кустах, лесе, у жыце, бо, спаткаўшы мужчыну, адразу пачыналі біць яго бізунамі, вымагаючы коней ці проста завучы яго бальшавіком.

Кароў раней ужо ўсіх загналі ў дуброву, але сьвіньні, куры былі дома. Кормных сьвіней хто мог пахаваў у жыце, дзе яны маглі загінуць ад жары.

На гасьцінцы дзень і ноч рух. Польская армія коціцца на захад – да сябе ў Польшчу.

Гэта было ў нас, крыху ўжо з тылу ад гасьцінца, дзе народ ніколі не спрабаваў выступіць проці палякаў, а што ж было ў вёсках, на самым гасьцінцы, за чатыры дні адступленьня польскае арміі, там народ ледзьве цалкам не звар'яцеў.

З усяе польскае арміі бачыў толькі двух маладых хлопцаў, якія былі падобныя да людзей. Яны зайшлі ў хату і па-чалавечы папрасілі есьці. Дома былі Саша з Нінаю. Мама, хворая, баязьлівая, начавала недзе ў рове сярод поля. Саша, узрадаваная, што ўбачыла жаўнера, які гаворыць, як нармальны чалавек, пабегла ў лазу па масла. Ніна з адрынкі несла яйкі. Выцягнулі малако. Пажаліліся палякам на іх таварышаў. Тыя сядзелі, жартавалі, зьелі яечню і праганялі ўсіх іншых легіянераў, што прыходзілі пазьней іх.

## VIII-д

Уночы другога дня адступленьня я панёс есьці Паўліку, які сядзеў з коньмі ў дуброве. Нязвычайна жыла тады дуброва. Маленькі лясок быў туга застаўлены коньмі. Вараны лысы суседзкі жарабец рваўся і час ад часу ржаў. Морда яго была падвязана да алешыны так высока, як толькі наогул можна было падвязаць, але жарабец усё ж і так умудраўся ржаць. Тады Косьцік, які даглядаў жарабца, біў яго па назе тоўстаю арэшынаю. Гэта крыху сьцішала тэмпераментнага каня, але калі боль праходзіў, жарабец ізноў пачынаў іржаць.

Пад кожным кустом ляжаў вясковец, даглядаючы сваіх коней, былі і з другіх засьценкаў ці хутароў. У кустох стаялі каровы. Іх даглядалі дарослыя. Каровы ляжалі, людзі сьціха гутарылі, што ўночы трэба ўцякаць далей, у маліньнік ці на Казеяў груд, дзе большы лес, абкружаны балотамі, незнаёмы чалавек там лёгка можа заблудзіцца. Мяне адаслалі дамоў і на другую ноч ужо трэба было несьці торбу ў Казееў груд.

Быў у графа Чапскага лёкай Казей. Служыў ён графу чэсна: падаваў талеркі на стол, даглядаў вялікага пана. Раз ён не дагадзіў пану, той кінуў паданую яму талерку проста ў зубы лёкаю і выбіў яму два пярэднія зубы. За гэта і за другія ўчынкі, што перацярпеў Казей, дараваў яму граф хутар у дзьве валокі зямлі з невялікім, але гожым ляском, хутар на зайздрасьць усёй шляхце і не шляхце. Каля самага лесу цякла рэчка, тая ж, што і ў Віцкаўшчыне, але тут ужо рачулка з бягучаю вадою, з чыстым пясчаным дном. Хутар стаіць на ўзгорку, на грудзе, з таго часу і завецца Казеяў груд.

Сыходзіліся даўней на Казеяў груд людзі на Яна з усяго краю. Зьбіралася можа тысяча народу. Нядаўна яшчэ перад нашым жыцьцём быў Ян паганскім сьвятам, усенародным, усебеларускім. Людзі кідалі работу з поўдня перад Янам, ішлі грамадою, адзетыя ў сьвяточнае, несьлі гарэлку і ежу, да ранку на грудзе ішла гулянка. Палілі вогнішча, сьпявалі дзяўчаты купальскія песьні, весяліліся, жаніліся. Да нашага часу дажыў Казеяў груд як месца гуляньня, але зараз сабраўся народ не на гуляньне.

Я дарогу да груда ня ведаў, трэба было ісьці з суседам і ўночы. Калі стала цішэй, а на двары было зусім цёмна, накіраваліся мы на груд. Прайшлі Дуброву, абмінулі Рубілкі, пайшлі сьцежкаю. Ноч, чорная цёплая чэрвеньская ноч раптам асьвяцілася. Адразу стала відно: недалёка ад нас у баку загарэўся хутар, пачуўся енк, некалькі стрэлаў адзін за другім прарэзалі цішу. Жудасна слухаць уночы енкі. Каля асьветленага долу замітусіліся фігуры. Мы скочылі ў канаву і пабеглі скарэй.

Да Казеява груда ісьці трэба было ўмеючы: скрозь балоты, топкія сенажаці. Прайсьці аднаму пехатою можна, але конь адразу ўрузьне. Ісьці трэба адною дарогаю, з бакоў яе балота.

На грудзе як кірмаш. Месца ўбаку ад гасьцінцаў і ўсіх важных дарог. Туды ідуць толькі сьцежкі ды сьцежкі. Палякаў там не было відаць. Сюды паехалі хавацца сотні людзей з коньмі. Скрозь на рэчцы ў лазьніку, у алешніку прывязаны коні, іх тут сотні ці тысячы. На поплаве каровы, ляжыць скарб. Семсот год назад па нашай мясцовасьці ішлі татары на Койданава. Пэўна, мабыць, было тое ж, што і ў 1920 годзе.

Я доўга не сядзеў на грудзе. Трэба было дамоў. Ранічкаю пабег ізноў дамоў, дзе сядзелі, не сплючы ўжо каторую ноч, сёстры, а ўвечары прынесьлі вестку, што Казеяў груд разгромлены.

Палякам даказалі, што ў алешніку хаваюцца людзі з коньмі. Атрад палякаў рушыў туды праз поплава. Іх убачылі, паднялася паніка. Сеўшы на коней, кінуліся ўцякаць. Палякі пачалі страляць. Было нешта падобнае да вайны, толькі адзін бок быў узброены, а другі спадзяваўся толькі на свае ногі. Уцяклі не ўсе.

Частка коней засталася: іх, як вайсковую здабычу, забралі палякі. Скрозь валяліся кажухі, буркі, торбы, кінутыя, калі садзіліся на коней. Палякі падабралі лепшае.

Здаецца, канца няма адступленьню. Па гасьцінцы ідуць і ідуць, ідуць і едуць. Усё чуваць енкі, усё яшчэ б'юць, крышаць, страшаць. Сьвіней, парасят, курэй, што маглі знайці, зьелі ўсіх. Шафы, камоды, куфры паламаны. Жанчыны, што сядзяць дома, ссохлі, вочы ўваліліся, сталі перапалоханыя. Усе чакаюць бальшавікоў, як збавеньня. Усе, нават віцкоўцы, кажуць, нават шляхта і палякі.

На Пятра, на пяты дзень адступленьня, стала відаць, што канец блізкі. Ідзе меньш, ідуць скарэй. Забягаюць у хату, сьпяшаючыся, рвуць, што пападзе, і далей. Далёка, у баку ад Менска, чуваць страляніна. Пад вечар пачуліся два цяжкія ўдары, адзін за другім: палякі рвалі масты на рацэ Пціч. Яшчэ было невядома, які будзе канец усяго, нехта сказаў, што блізка будзе бой. Трывога ўзрасла.

Сонца садзілася далёка крывава-чырвонае, і стары Рыжэўскі, пхаючы махорку ў сваю люльку, казаў: “Кепска будзе, вунь якое сонца, як у крыві”.

Мы ізноў сядзелі далёка ад дому ў кустах. Надыходзіў вечар, пачало цямнець. Далёка ўбаку, на гасьцінцы былі чутны крыкі і стрэлы. Скора нам сказалі, што палякаў прагналі, прышлі бальшавікі. Навучаныя людзі з коньмі засталіся ў лесе чакаць, што будзе далей. Я пашоў дамоў і, залезшы ў салому, спаў у гумне да ўсходу сонца.

Пасьля ўжо нам перадавалі, што каля Воўчкавіч, дзе жалезная дарога ідзе па высокім насыпе, адбылося крушэньне двух цягнікоў. З Менску ішоў адзін цягнік, набіты бежанцамі палякамі, насустрач яму быў з Фаніпаля пушчаны другі, таварны. Машыніст, давёўшы свой паравік ледзьве ня ў лоб сустрэчнаму, скочыў з паравоза. На ўсім хаду трахнуліся абодва паравозы і абодва цягнікі паляцелі ўніз.

У Грычыне апошніх палякаў-марадзёраў, якія яшчэ ў апошнія часы бегалі па хатах рабаваць, грычанцы перабілі. Некалькіх, казалі, пабілі бабы. Пара польскіх жаўнераў было забіта грычанцамі, калі тыя, адстаўшы ад сваіх, хаваліся ў кустах. Адзін прасіўся, стаўшы на калені. Яму прыкладам разьнесьлі чэрап. Бабы разьнесьлі палякаў на кавалкі матыкамі, лапатамі. Гэта не было вынікам асобнай лютасьці грычанскіх баб. Паводзіны палякаў пры адступленьні маглі прывесьці ў злосьць самую ціхую авечку.

Палякі, адыходзячы з Грычына, запалілі мост на нашай рачулцы. Мост гарэў як сьвечка. Першым увайшоў у Грычын кавалерыйскі разьдзел у пяць чалавек.

– Дзе палякі? – закрычалі кавалерысты.

– Вунь за могілкамі, – паказалі ім грычанцы.

Кавалерысты нашпорылі коней і паімчаліся туды.

Палякаў было шмат, але такая ўжо псіхалогія адступаючых, што яны кінуліся ўцякаць. У аднаго коньніка каля мосту забілі каня. Ён выхапіў шаблю і з ёю пабег уперад. Палякі ўцякалі далей.

Назаўтра рана, ідучы ў хату, я адскочыў убок, схаваўся за сьвіран: у нас на дварэ перад хатаю спалі тры палякі. Адкуль яны ўзяліся? Аднак зараз жа даведваюся, што гэта бальшавікі, толькі апранутыя ў шэра-зялёныя польскія мундзіры.

Бальшавікі скора прачнуліся і аказаліся здаровымі маладымі хлопцамі, апранутымі кожны на свой лад. Адзін быў у ботах, другі ў вялізных салдацкіх чаравіках. У аднаго быў наган, засунуты проста за папругу, у другога збоку вісела доўгая блішчастая польская шабля. Хлопцы былі суровыя. Яны зьелі крыху хлеба з малаком. Пра масла, яйкі, сала тут не было і гутаркі. Селі коньна і паехалі.

З самай раніцы па гасьцінцы ішлі і ехалі бальшавікі. Іх спатыкалі з абразамі, цалавалі, несьлі з хат усё, што мелі. Плакалі з радасьці. Гэта ня толькі грычанцы. Багаты Войцік, уласьнік хутара ў 80 дзесяцін зямлі, чытаў бацьку Эвангельля і казаў: “Нявыпала брацць, бальшавікі – гэта тыя, пра якіх тут пісана. А палякі – гэта злыдні, нячыстая сіла”. Калі ў Войціка адрэзалі добры кавалак зямлі, ён погляды зьмяніў.

З прыходам бальшавікоў у насельнікаў зьяўляецца раптам ваяўнічы пост. У Грычыне ствараецца партызанскі атрад. Атрад, відаць, лічыць найбольш небясьпечным месцам ваколіцы Грычына, бо на фронт ня йдзе, але цягаецца па жытах, навокал, шукаючы там ворага. У нас на Казлоўшчыне такі знайшлі нейкага чалавечка, якога з лаянкаю, падганяючы прыкладамі, прыгналі ў Грычын. Здабытак аказаўся невялікі, бо ён аказаўся сваім чалавекам. Быў забраны палякамі ў абоз і, уцёкшы ад іх, хаваўся ў жыце.

У той жа дзень у Грычыне забілі дзядзьку Клімовіча. Клімовічы былі арандатары дзедавай зямлі, якія ўраблялі зямлю на палавіну – аддавалі палову ўраджаю дзеду. Пасьля рэвалюцыі, калі ўсё перакруцілася, Клімовчы адрэзалі сабе палову дзедавай зямлі і пачалі ўрабляць яе як укосьнікі. Кавалак быў някепскі, бо дзед меў 50 дзесяцін.

Клімовічы былі каталікі, у нашым разуменьні палякі. Калі прыйшлі палякі, яны былі рады, скрозь бубнілі, што прышлі нашы. Яны крыху ўмелі чытаць па-польску і чыталі віцкоўкам першыя дэкрэты, якія вывешвала новая ўлада на сьцяне хлява, дзе вывешваліся ўсе навіны.

## VIII-е

Фэлька, старэйшы хлопец, скора прысябраваўся да палякаў. Маючы паганую душу і каталіцкую веру, гэта было зрабіць лёгка. Тыя чалавечыя агрызкі, якія былі ў нас камендантамі, жандарамі (кандэкамі), тварылі ўсялякія брудныя справы, і ім былі патрэбны мясцовыя людзі, якія казалі, што ў каго можна адабраць.

Неўзабаве перад адыходам палякаў на Востраве быў абрабаваны Дубовік і краўцы, якія ў той час жылі ў яго. Увечары, калі яшчэ добра не сьцямнела, з лесу выйшла кучка людзей і пайшла пагонкаю да хаты. Здалёк не было відаць, хто яны такія, а калі тыя падышлі да дому, то ўцякаць было позна, а ўцякаць было канешне трэба, бо госьці былі ў масках, а ведама, якія людзі ходзяць увечары ў масках.

Бандыты скруцілі ўсіх, сьцягнулі ў хату, а самі пачалі гаспадарыць, перетрасаючы хату і складаючы ўсё дабро ў кучу. Каб гаспадары і краўцы гаварылі весялей дзе што ёсьць, ім пачалі падпякаць пяткі і калоць цела, а каб тыя не галасілі пры гэтай опэрацыі, ім заткнулі рот.

Аднак усё прадбачыць нельга і бандытам. Адна дзяўчына выскачыла з вакна, забегла да суседа і падняла гвалт. Народ замітусіўся, дарагія госьці сьпяшаючыся не маглі забраць усё, што хацелі.

У нас доўга і ўпарта казалі, што бандыты былі самахвалавіцкія жандары і сярод іх Фэлька. Бліжэйшым прыяцелем Фэлькі некалі быў Міхась Шальковіч, віцкоўскі бальшавік. Яно раней, да прыходу палякаў, і Фэлька быў амаль бальшавік, але пасьля зьмьяніўся. Міхасю стаць палякам было нельга. Паступова між імі вырасла варожасьць. Зараз, з прыходам бальшавікоў, Міхась спрыяў, а Фэлька зьнік. На яго помсьціліся і нашы думалі, што ён сышоў з палякамі. Можа, Фэлька быў не такі.

Ужо ў першы ж дзень прыходу бальшавікоў грамада грычанцаў, сярод якіх быў і Міхась, стоячы на вуліцы, убачылі дзіва: па гасьцінцы ехала фурманка, а на возе сядзеў Фэлька. Фэлька быў адзеты чырвонаармейцам, у руках меў вінтоўку, на шапцы зьзяла чырвонаармейская зорка. На возе стаяла кадушка з маслам, ляжалі нейкія клумкі. Фэлька ўжо разжыўся зараз, як чырвонаармеец, наступаў на Варшаву. Гледзячы на натоўп, ён пасьмехваўся: вось які я!

Шмат было ў нас зьмен, але такога яшчэ ніхто ня бачыў. У людзей аж раты расчыніліся, але гэта на хвіліну. Дык ты, Фэлька, ужо бальшавік, а ўчора, ліха тваёй матары, быў палякам!

Падзеі разгарнуліся хутка. Прыяцель Міхась кінуўся да плоту, вырваў добры кол і гакнуў Фэльку па галаве раз, другі, трэці. Грычанцы памаглі. Праз хвіліну Фэльку з рашчэпленаю галавою, без усякіх адзнакаў жыцьця выкінулі з фурманкі ў канаву, зброю і масла канфіскавалі.

Аднак праз некалькі часу Фэлька ажыў. Чыясь добрая душа прынесла яму вады. Фэлька выпіў і праскрыпеў, што будзе жыў. У гэты час ехаў па вуліцы коньнік і запытаў у грычанцаў, што гэта за хворы ў канаве. Яму сказалі. Грычанцы, не забіўшы адразу, лічылі, што чалавеку павязло, дык няхай ужо жыве. Міхась тымчасам некуды сышоў.

Пад’ехаўшы да Фэлькі, коньнік сказаў: “А ну падыміся”. Той стогнучы пачаў станавіцца ракам, у той час коньнік шабляю ўдарыў яго зьверху па шыі. Душа Фэлькі паляцела ў канаву. Маці забрала яго, закруціла ў коўдра і схавала не на могілках, але на канцах, за Станішэўскім.

У жыцьці пачынаецца новая эпоха. Бальшавіцкае войска коціцца на захад, на Варшаву. Чырвонаармейцы крычаць: “Даеш, пан, Варшаву!” Армія ідзе дзень і ноч, літаральна ідзе або едзе на фурманках. Чырвонаармейцы ўсе адзеты кепска. Поўны набор абмундзіроўкі мае мала хто. Шмат ідзе басяком ці ў лапцях. Амаль усе без прадуктаў і жывуць тым, што корміць насельніцтва. Узброены разнастайна, нешта падобнае да чырвонае гвардыі 1918 г., але значна большай па колькасьці. Кожны атрад мае абоз з сялянскіх коней, але дадаткова яшчэ бяруць падводы, каб ісьці ўперад і ўперад. Старэйшыя хлопцы ізноў ідуць у армію, як у 1915 г. Дома застаемся з мужчын бацька і я. Цяпер я ўжо вырас, стаў амаль паўнацэнным работнікам. Мяне шанавалі ў сям’і. Як малодшаму мне было меньш работы, і нават араць я пачаў у 19 год, хоць брат Паўлік і другія хлопцы хадзілі за плугам у 11-12 год. Ідзе такі араты, і за плугам яго ня відаць.

Цяпер найбольшая гаспадарская работа – гэта ехаць у абоз. Штодня, а то і некалькі раз у дзень рыпяць весьнікі – ідзе чырвонаармеец з членам сельсавета. “Хазяін, давай падводу”. Ніколі яшчэ не было чаго-небудзь пахожага.

Тых, хто пайшоў у абоз у першыя дні, хто адразу вылез з лесу з коньмі, няма тыдзень, і два, і месяц. Трапіўшы амаль у першую лінію вайны, яны ішлі ды ішлі, пераплылі праз “раку Буху” – Буг і набліжаліся да Варшавы. Віцкоўцы ледзьве не ўзялі гэты панскі горад, але палякі неяк выцерабіліся.

Да абозу для арміі далучаецца яшчэ бяда: трэба ўрабляць панскія двары. Паны паўцякалі, двары кінулі, забраўшы ўсю жывёлу, папсаваўшы машыны. Сяляне думалі, што як у 1918 г. двары раздадуць ім, аднак выйшла інакш. Двары аб’явілі маёмасьцю дзяржавы і назвалі саўхозы, а паколькі там нічога з жывёлы не было, то ўрабляць зямлю давялося нам.

Першыя разы езьдзіў да адыходу ў армію Паўлік, а пасьля сеў на фурманку я, ды так і праезьдзіў да вясны 1921 г.

Першы раз мяне паслалі з другімі ў двор Русіновічы малаціць жыта. Дома свае работы было даволі, але нічога ня зробіш.

Прыехаўшы ў двор, мы першым чынам пайшлі ў сад і натрэсьлі сабе яблыкаў, а пасьля выпраглі коней і, лёгшы на траве, пачалі есьці яблыкі: ня так ужо і кепска адбываць паншчыну!

Аднак гэты кейф цягнуўся нядоўга. Прыйшло, лаючыся на ўвесь двор, нейкае начальства і загадала нам запрагаць коні ў малатарню. Мы запрэглі, пачалі паганяць, а былыя дваровыя парабкі рабілі ўсё іншае: падавалі ў цапы, адкідалі салому, адграбалі. Тады я першы раз убачыў, як робіць чалавек не на сябе. Ледзьве варочаючыся, адкідаючы з саломаю пэўно з палову жыта, парабкі рабілі як на сьмех. Каб так ішло ў нас, то бацька даўно б разагнаў усіх. “Работа ідзе, як мокрае гарыць”, – казалі ў нас пра такую работу.

Аднак, парабіўшы гадзіны тры, нешта намалацілі, другія пачалі архаваць. Адзін

з начальнікаў, здаровы русы мужчына, год пад 30, калі з'арахавалі, насыпаў чатыры мяшкі жыта пудоў з дваццаць і адкінуў іх у бок.

Па абедзе, калі мы адпачылі, той самы начальнік, ідучы па дварэ, крыкнуў, паказваючы на маю сівую кабылу: "Чый конь? Запрагай!"

Жыта трэба было везьці ў Менск. Я запрог каня, і тымчасам да воза падыйшлі начальнік у палатняным балахоне і яшчэ нейкі другі вясёлы чарнявы хлопец. "Едзь у гумно", – загадаў мне старэйшы. У гумне тыя чатыры мяшкі ўжо былі пад саломаю. Абодва начальнікі, саскочыўшы з воза, выцягнулі мяшкі, паклалі іх у маю драбінку і заклалі сенам так, каб не было відаць. Самі селі ззаду, а я, як фурман, мусіў ехаць у перадку.

"Ну, ну, весялей! – крыкнуў начальнік. – Ты думаеш, што ў Менск трэба заўтра". Ён быў увесь час сярдзіты, гаварыў толькі начальніцкім тонам з усімі. Раўні яму на сьвеце не было. Хто ён такі, ня ведаю, але нянавісьць ёсьць яшчэ і цяпер.

Пад'ехаўшы да млына, прыяцелі выскачылі, забралі мяшкі і панесьлі ў млын. Праз паўгадзіны вынесьлі толькі два мяшкі, відаць, іншыя два былі застаўлены другім злодзеям, каб маўчалі.

Зараз наш шлях ляжаў проста ў Менск. У Менску заехалі ў двор на рагу Магазыннай і Сярпухоўскай. Мае начальнікі пайшлі ў хату, а я, выпрагшы каня, лёг у цяньку каля возу. Крыху зьеў, крыху задрамаў, надыходзіў вечар. Мае гаспадары тымчасам відаць праводзілі час някепска. З хаты, куды яны пайшлі, чуваць было гармоніка, песьні. Час ад часу з дзьвярэй выскоквала дзяўчына і бегла праз двор. Я дзіка абурыўся. Як гэта я ўзят на работу, каб абслугоўваць асабістыя патрэбы нейкага пройды, які крадзе дзяржаўнае дабро, п'е і гуляе. Конь зьеў усё сена, папаіць яго нельга, бо няма вядра, я сам зьеў усё і зараз галодны.

Я рашуча ўстаў і пайшоў да дзьвярэй. Дзьверы заткнены. Я пачаў бразгаць.

– Каго трэба?

– Паклікаць начальніка!

Праз хвіліну суровы начальнік быў перада мною. За тры крокі ад яго несла самагонам, твар быў ружовы, але вочы тыя ж камандныя і суровыя.

– Чаго табе трэба? – сурова крыкнуў ён.

– Дакуль я буду ў вас? – запытаў я. – Мяне бралі на дзень, а зараз вечар. Конь ня кормлены.

– Будзеш датуль, пакуль захачу. Сядзі і маўчы. – Начальнік павярнуўся і пайшоў назад.

Каб было што ў руках, я б стукнуў яго. Брама была замкнена. Выехаць нельга. Я пайшоў да Косьціка. Косьцік служыў у Менску і быў нейкаю невялікаю шышкаю.

Калі я вярнуўся з Косьцікам, то сілы былі прыблізна роўныя. Я ізноў загрукаў у дзьверы. Начальнік выляцеў, гатовы біцца, але ўбачыўшы Косьціка, крыху сьцішыўся.

– Чаму не пускаеце хлопца, дакуль ён будзе ў вас? – запытаў Косьцік.

– Якое вам дзела, хто вы такі, – завыў начальнік.

спадчына

Віктар Маркавец



…Заблукаў у тваіх валасах
Пяшчотны, цёплы ветрык…

# Трускавец

***На матывы Рабіндраната Тагора***

Надвор'е не для паркаў, не для гор замілаваных, якія вось тут, побач. Захацелася ўзняцца на бліжэйшыя пагоркі. Памкнуўся, але не знайшоў шляхоў, бо засыпаў усё мяккі, цёплы снег. Надвор'е не для шпацыру. Але гэта не мае значэння, бо тут, у Трускаўцы, убачыў СОНЦА. Гэтае СВЯТЛО настолькі моцнае і прывабнае, што аніякія туманы ці хмары не здатныя яго зменшыць і захіліць. Цяпер мае дні праходзяць у СВЯТЛЕ Рабіндраната Тагора. Даўно марыў пазнаёміцца з ім, з яго жыццём і творчасцю, але па розных прычынах не даводзілася. І вось, нарэшце, спатканне. Пашчасціла, што гэта адбылося ўдала, у натуральнай паслядоўнасці. Спачатку ён павёў для мяне апавяданне пра ўласнае маленства і жыццё ад самых першых крокаў свядомасці – апавяданне дзіўнае, як плынь магутнай ракі ад вытокаў да вусця. Гэта не біяграфія ці пералік нейкіх падзеяў. Гэта гісторыя развіцця душы і станаўлення духа, гэта апавяданне пра сябе ў агульнай плыні часу, сусвету – непаўторнае, мудрае! А далей развагі, погляды. Ёсць у іх усё тое, што нас цяпер хвалюе: стан мовы і адукацыі, стан

мастацтва і канкрэтныя пытанні формы, ды гэтак далей... Гэта такое святло, якое жывіць, прасвятляе, узносіць, здзіўляе сваёй прастатой, яснасцю, даступнасцю ў разуменні і велічам з'явы.

Запаланіў ён маю душу. Не змагу супакоіцца, пакуль не пазнаёмлюся з усім, што даступна знайсці ў нашых умовах.

На пачатку ўжо маю том ягонай паэзіі. Шкада, што сцяной стаіць недасканаласць перакладу, якую скурай адчуваю і якая замінае наблізіцца наўпрост.

*10.03.1988*

## *РАБІНДРАНАТ ТАГОР*

Паміж намі рака струменіць,
Паміж табою і мной –
І берагам бурлівую песню
Спявае бурлівай вадой.

Я адзін на пяску сыпучым,
На беразе пустэльным сваім.
Ты ж гаем ідзеш цяністым
Берагам далёкім другім.

І ля вады, падоўгу,
Мы слухаем песню з табой.
Але іншую песню ты чуеш,
Не тую, што ловіць слых мой.

Паміж намі рака струменіць,
Паміж табою і мной.
І берагам бурлівую песню
Спявае бурлівай вадой.

*05.12.1989.*

## *НА МАТЫВЫ РАБІНДРАНАТА ТАГОРА*

Заблукаў у тваіх валасах
Пяшчотны, цёплы ветрык,
Што сабраў на вясновых лугах
Пахі першых чысцюткіх кветак.
Ад майскіх лясоў прынёс
Птушак чароўныя спевы,
Свежасць першых ранніх рос
Трапяткі неспакой у душу ўнёс –
Заблукаў у тваіх валасах
Пяшчотны, цёплы ветрык...

* * *

**Т**абой напоўнены сусве**Т**
**А**нёлам светлым праляцел**А**
**Н**атхнення ўскалыхнуўшы зво**Н**
**Я**к сонца – клічаш да жыцц**Я**

* * *

Ты ціха-ціха
У сны мае ўваходзіш
І доўга-доўга
Да зары
Мяне з ласкаваю ўсмешкай
Водзіш
Праз незнаёмыя краі –

Дзе ўсё заліта
Цёплым светам,
Паветра дзе,
Як спеў жалейкі,
Дзе пахне мёдам,
Пахне летам,
Імчыць арэлі
Вядзьмак нейкі....

Яны ўзлятаюць над прасторай
Да птушак мне раней нязнаных –
Зачараваны дзіўным хорам...
Магутным – нібы гук арганны.

### *АРЭЛІ*

Душа мая,
На маленькім плыце маім з табою плывем
Праз усю ноч.

Плача неба ліўнем нястомным
Праз усю ноч.
На жыццё і на смерць гульня ідзе
Праз усю ноч.

Стыхія, ты страшная цяпер –
Раскалыхвай нас!
Раве, гайдае ва ўсю моц вецер –
Раскалыхвай нас!
Неба і зямлю страсянуў буры разгул –
Раскалыхвай нас!

Як безліч ведзьмакоў у цемры рагоча –
Калоціцца душа.
Адчуваю, як перапалохана дрыжыць –
Калоціцца душа.
Сягоння душы маёй не да сну –
Калоціцца душа.

Замерла, прытулілася да мяне
Суцішаў душу.
Сэрцам блізка яе адчуваў
Суцішаў душу.
Каханыя вочы яе цалаваў
Суцішаў душу.

Змог агарнуць у салодкі сон
Чулліва яе вартаваў.
Схіліла на грудзі мне галаву
Чулліва яе вартаваў.
Кветкамі выслаў ёй ложак
Чутліва яе вартаваў.

Словы лепшыя ў свеце шаптаў
Ласкава, ласкава.
Мелодыі лепшыя ў свеце іграў
Ласкава, ласкава.
Песні лепшыя ў свеце спяваў
Ласкава, ласкава.

Пяшчотай перапоўненую душу
Сон агарнуў.
Стаў ёй кветак вянок цяжкім
Сон агарнуў.
Бура яе абудзіць не магла
Сон агарнуў.

Пазбаўленая сілаў, абыякавай стала
Астыла душа.
У астрозе сваім завяла
Астыла душа.
Моцы няма абудзіцца
Астыла душа.

Я залашчыў душу сваю
Прагну вярнуць!
Трывожна азіраюся кругом
Прагну вярнуць!
Ад чаго адмовіўся на пачатку
Прагну вярнуць!

На жыццё і на смерць гульня ідзе
Праз усю ноч.
На гэтых згубных арэлях мы ўдваіх
Праз усю ноч.
Сціскаючы вяроўкі ў палёце замрэм
Праз усю ноч.

Нясе нас наперад бура
Раскалыхвай нас!
Застанься няспынным шалёны палёт
Раскалыхвай нас!
Яшчэ качні, качні яшчэ раз
Раскалыхвай нас!

Зноў сяброўка са мной
Не адвожу вачэй.
Голас буры яе абудзіў
Не адвожу вачэй.
Яе полымя зноў ажыло
Не адводжу вачэй.

Са стыхіяй злілося сэрца маё
Раскалыхвай нас!
У каханай маёй валасы распляліся
Раскалыхвай нас!

Кветкі ў вянку развіліся
Раскалыхвай нас!
Пакрывалаў тканіны ўзвіліся
Раскалыхвай нас!

Неспасціжны, трапяткі танец
Раскалыхвай нас!
Налятай, ураган, закруці, аглушы!
Раскалыхвай нас!

Усе адзенні сарві, усе покрывы з душы
Раскалыхвай нас!
Няхай аголенасці не сароміцца яна
Раскалыхвай нас!

Душу я знайшоў і мы разам зноў
Раскалыхвай нас!
Без страху адно аднаго пазнаем
Раскалыхвай нас!

У цэлым зліліся мы цяпер
Раскалыхвай нас!
Няхай нам адчыніцца сусвет без прыкрас
Раскалыхвай нас!



не Шэкспіра, а медыцынскія часопісы. Да якога лекара вы пойдзеце – з хатняй бібліятэкай санетаў ці навуковых манаграфій?

Ну, а калі з лекара мог выйсці не яшчэ адзін вырэзчык апендыцытаў, а Чэхаў? Калі з адваката мог выйсці не суддзя, а прэзідэнт Лінкальн? Хоць – каму які дар...

Дарэчы, паэт, які адчуў драму паўторнага прэзідэнцтва, памыліўся – яго герой пасля зыходу не толькі застаецца самым папулярным з жывых на гэты момант амерыканскіх прэзідэнтаў і ўплывовым палітыкам, не толькі стаў мільярдэрам і сусветным філантропам, але можа яшчэ паспытае новую небывалую ролю – мужа прэзідэнта, "першага спадара". І гэта не выключэнне – другая і трэцяя кар'еры не рэдкасць, як зусім не рэдкасць другі ці трэці шлюб, змена краіны і грамадзянства, нават пола...

Не выключэнне, але, верагодна, і не правіла.

Уільяму Фолкнеру належаць часта цытаваныя словы – мінулае не памірае, яно нават не мінулае.

Гэта так і не так, бо ёсць розныя тыпы мінулага. Квантавая механіка ведае рэчы, якія маюць пачатак і канец, але не маюць гісторыі – скачок, і новая якасць. Калі мінулае як мінак, што перайшоў вуліцу, дык яно мінае, і можна ехаць далей. Калі машына збівае пешахода, дык ўсё, што было ў яго жыцці перад гэтым, не проста мінае, а быццам ужо ніколі не існавала. Быццам? Ці ўсё ж не існавала, перастала быць мінулым? Адзін адказ ведаюць вернікі, іншы – бібліятэкары і архівісты, трэці – паліцыя, чацвёрты – дзеці. Мінуласцяў становіцца столькі, колькі памяцяў, жывых і на паперы, у камені, у дыгітальных значках.

Адзін паэт пасля перажытага ім стагоддзе таму землятруса і цунамі, якое змыла яго краіну, яго культуру, яго жыццё, прыйшоў да радыкальнай высновы: нічога апроч мінулага няма. Чалавек без мінулага ўзвёў гэтую максіму ў абсалют: не толькі нічога няма апроч мінулага, але і не будзе.

Гэта не зусім недарэчна. Так бывае са стратамі, большымі за нас саміх – тымі, што апісваюцца горкім, як вулканічны попел, і безнадзейным, як застылыя лава, словам "гора".

Але калі мінулае і памяць зліваюцца ў адно, памяць становіцца мінулым. І мінулым становіцца сам чалавек. І ў гэты момант ён становіцца чалавекам без мінулага.

Калі што і працягвае бянтэжыць, дык гэта словы Шэкспіра з п'есы "Бура": "Мінулае – гэта пралог", выбітыя на скульптуры перад уваходам у Нацыянальны архіў ЗША.

Скульптура называецца, канечне, "Будучыня".

## Чалавек без кнігі

Якая нікчэмнасць, сказала мая спадарожніца пасля сустрэчы з ім. Ён толькі што падпісаў ёй сваю кнігу, у якой назваў яе "богападобнай". Мы выходзілі з манастыра, падбегла служка з суровым выразам твару і выхапіла шалю, якую выдалі напракат на ўваходзе.

Сонца стаяла над галавой, калі мы ўваходзілі на гэты адзін з самых знакамітых манастырскіх падворкаў краіны, дзе была прызначаная сустрэча з нашым агульным знаёмым, які пасля вірлівага сталічнага жыцця памяняў спакусы свету на вабноты келлі.

Было горача, нават у галоўным храме не было чым дыхаць. На сценах віселі таблічкі "Не курыць". Калі я падышоў бліжэй, пабачыў, што насамрэч таблічкі забаранялі размаўляць: "разговаривающим в храме посылаются скорби". Я налічыў восем такіх пагрозлівых папярэджанняў, якія нагадвалі армейскае "разговорчики в строю!". Нідзе навідавоку не было словаў пра любоў ці дараванне, пра вечнае жыццё ці прасвятленне, пра міласэрнасць ці веру. Што ж так гучна абмяркоўваюць узбуджаныя пілігрымы, што трэба іх увесь час "одергивать"?

Тут не гавораць, прашаптаў мне ў вуха служка, калі я задаў гэтае пытанне сваім таварышам. Скуль ён узяўся ў пустым храме, хаваўся за калонай?..

Ладную частку царквы займаў высокі цёмна-карычневы прылавак, за якім завіхаліся два прадаўцы. У правым нефе стаяла труна з целам манаха-нябожчыка – самотна, быццам частка забытай мэблі, неслі і не данеслі, бо пазванілі на трапезу.

Наш знаёмы быў... Цяжка сказаць, кім ён быў. Гуманітарый, займаўся філасофіяй, актыўнічаў на грамадскіх палетках, складаў вершы, у якіх было багата малітоўнай духоўнасці, але не было таямніцы. У сваіх папярэдніх жыццях ён меў некалькі сем'яў, дзяцей, каханак, у вялікім доме, які застаўся яму ад знакамітага бацькі-акадэміка, сустракаліся людзі багемы і палітыкі. Глыбокай ноччу ён мог пагрукаць у дзверы да малазнаёмага чалавека з якой-небудзь петыцыяй у руках, кшталту адабраць храм у адных вернікаў і перадаць іншым, – наступнай раніцай збянтэжаныя падпісанты перазвоньваліся, каб высветліць, што гэта было, і адклікалі подпісы.

І калі ён раптам апрануў чорную расу паслушніка – многія ўспрынялі гэта не як асабісты душэўны крызіс, трагедыю ці катарсіс, а як працяг гульні ў бяскрыўднага, сімпатычнага, таварыскага блазна. Ён змяніў свецкае імя на манаскае, але пакінуў паганскі псеўданім, якім падпісваў вершы. Адны пабачылі ў гэтым працяг перарванай традыцыі духоўнай паэзіі, іншыя – свецкі запал і рыторыку. Родная дачка публічна назвала яго ідэйным правакатарам, а ягоныя выступы прапагандай.

У гэтую сустрэчу мяне цікавілі не вершы, а адна яго даўняя праца – фактычна, адзіная даследчая праца, але сапраўды ўнікальная, якая яго праславіла. Некалі ён запісваў выказванні людзей пра веру – у кавярні і тэатры, у парку і бібліятэцы, распытваў настаўнікаў, сацыёлагаў, інжынераў, цытаваў лісты геолагаў, чыгуначнікаў, падаваў вершы і выказванні пісьменнікаў. У атэістычнай краіне гэта было рызыкоўна, не заўсёды прыемна, і – патрэбна.

З акадэмічнага пункту гледжання праца была сырая, з літаратурнага хаатычная, аднак запісаныя маналогі ўспыхвалі вясёлкай і стваралі эмацыйную панараму, супярэчлівую, але жывую, і таму не безнадзейную. У тэкстах прысутнічала маральная напружанасць, некаторыя сведчанні нават праз дзесяцігоддзі гучалі "як труба архангела, што склікае на страшны суд".

Тэма веры тады, напрыканцы 1970-х, была забароненая. Бога яшчэ не было. Рукапіс патрапіў за мяжу, і яго выдалі недзе ў Парыжы. Аўтара пакаралі – выключылі з кампартыі, не далі абараніць дысертацыю, ён пачаў доўгае змаганне за аднаўленне ў шэрагах, якое спыніла толькі смерць партыі ды распад імперыі.

Яму было тады ўжо трохі за пяцьдзясят, ён паспрабаваў вярнуцца ў навуку, але няўрымслівая натура не надта спрыяла карпатлівай рэстаўрацыі мінулага, да таго ж пачаліся суды за бацькаву вілу.

Калі суды скончыліся, ён прыняў пострыг. Я не распытваў яго пра гэты крок, ды і не ўпэўнены, што ён захацеў бы расказаць, і што расказаў бы – здаецца, усё гэта патлумачана і ператалумачана Дастаеўскім і яго імітатарамі. Калі людзі з універсітэцкім дыпломам пачынаюць распавядаць пра свой прыход да ісцінай ісціны, ураджанне часцей за ўсё, што яны не тлумачаць, а пераказваюць.

Ён павёў нас па манастырскім двары, які маляўніча ўздымаўся на пагорак. На бялюткіх барочных цэрквах, якія нейкім цудам спусціліся сюды з неба і вось-вось гатовыя былі ўзляцець ізноў, віселі жалезныя замкі. Доўга шукалі ключы – навошта замыкаць, тым больш на абнесенай мурам тэрыторыі, дзе на ўваходзе стаіць будка вартаўніка, фактычна падвоенае кола аховы?..

Каб лукавы хвастом не махнуў, адказаў ён. (Лукавы ўсё ж хвастом паблізу махнуў, ці нават капытом стукнуў – такой смярдзючай, з лужынай пасярэдзіне прыбіральні для паломнікаў я не бачыў нават на аўтобусных прыпынках у райцэнтрах за савецкім часам.)

Мы папярэдне дамаўляліся аб сустрэчы, у яго быў мабільны тэлефон. Ён не толькі чакаў нас, але і рыхтаваўся – прачнуўся вельмі рана і напісаў тэзісы выступу.

У пустой царкве ён падняўся на самы верх драўлянай галгофы, як называлі там стромкую лесвіцу, копію дваццаці васьмі прыступак з палаца Понтыя Пілата, і, заглядваючы ў нататкі, зачытаў прывітальны прысуд. “Педэральная дэманкратыя”, “транскантынентальная тусоўка”, “заакіянскія педафілы” і іншыя падобныя каментары пра бягучы момант рэхам адбіваліся ад векавых сценаў, дзе на яркіх адноўленых фрэсках знакаміты падсудны нёс свой крыж, а за высокімі вокнамі ў сінім небе плыло белае сонца.

Я не быў знаёмы з ім у той час, калі ён збіраў сваю знакамітую кнігу. Гэта быў сапраўды надзвычайны чын, ён паказваў новыя старонкі сябрам і знаёмым, і ніхто не выдаў, не данёс. Прынамсі, рукапіс быў давезены да канца, не канфіскаваны, і аддадзены на водгук самаму ўлюбёнаму і аўтарытэтнаму тады пісьменніку, куміру пакалення. Пісьменнік назваў рукапіс гатовай кнігай, агаварыўся, што мае такія-сякія заўвагі, прааналізаваў сабраныя там выказванні, некаторыя падтрымаў, з некаторымі палемізаваў, выказаўся сам, але амаль нічога не напісаў пра аўтара, не вывеў ніякай праекцыі з тэксту на яго стваральніка, як звычайна робіцца ў такіх водгуках.

У назве кнігі значыліся словы пра маральна-эстэтычны прагрэс – цяпер, праз некалькі дзесяцігоддзяў, выглядала, што ў жыцці аўтара гэты прагрэс дайшоў да поўнага завяршэння.

У гэтай самай епархіі, дзе ён заняў віднае месца і дзе сцены ў храмах былі завешаныя папярэджаннямі не балбатаць, як у пільныя 1930-я, у прытворах цэркваў можна было пабачыць лісткі жоўтай газетнай паперы з яго рыфмамі. Словы там нават не складваліся ў сказы – мова распадалася на шматкі. Дзіркі ў тэксце, прыкрытыя шматкроп’ем, і абарваныя, недагавораныя радкі нагадвалі руіны пасля бамбавання, калі няясна ўжо, дзе былі вуліцы, вежы, званіцы, і толькі клічнікі тырчэлі як тэлеграфныя слупы з абарваным дротам. Можа, так праяўлялася кананічная гісторыя гэтых мясцінаў, якую здаўна раздзіралі, палілі, разбуралі і перапісвалі варагуючыя прыхільнікі адной і той самай веры, бязлітасныя адзін да аднаго, як фарысеі да іх агульнага першапачынальніка.

У адной з цэркваў ягонай епархіі я пабачыў прышпілены да калоны пералік грахоў, якія патрабавалася ўзгадваць на споведзі. Спіс, хоць і называўся кароткім, займаў чатыры старонкі, больш за паўтара дзясяткі тысяч знакаў. Апроч традыцыйных правіннасцяў у справах і думках тут грахом лічылася есці каўбасу-крывянку, доўга спаць, жанчынам – хадзіць па царкве падчас месячных і дакранацца да святыняў (мужчынам – “после ночной скверны”), абліваецца вадой паводле нейкага Іванова, займацца ўрынатэрапіяй, усходнімі адзінаборствамі і прафесійным спортам, чытаць гараскопы, Настрадамуса, Блавацкую, Рэрыхаў і яшчэ з паўтузіна аўтараў, слухаць эстрадную і рок-музыку, удзельнічаць у конкурсах прыгажосці, фарбавацца, купацца і загараць разам з асобамі іншага полу, насіць шорты і наведваць маўзалеі...

Быў нават грэх пад назвай “поза” (ён тлумачыўся кантэкстам – побач быў грэх здачы памяшканняў для блуду); непакорлівасць начальству была такой самай правінаю, як куплянне шафёрскіх правоў, гульні ў кампутары і нясціпласць у хадзе.

Дзеля чаго ён прабавіў ужо амаль трацiну жыцця, апускаючыся ўсё глыбей у гэты калодзеж, якая пільніца прыціснула? Ці сапраўды стала яму невыносна пад сонцам і спадзяваўся знайсці там жывую крыніцу альбо пабачыць адтуль зорку, ці так разгулялася ўласная пустата, што ён не мог ужо даць ёй рады і спрабаваў схаваць яе ў іншай пустаце – Бог ведае...

Адзін мой сябар, знаёмы з ім даўней і лепш за мяне, напісаў, што не судзіў бы яго за метамарфозу. І патлумачыў, чаму: «За той уплыў, які некалі ён аказаў на мяне, на ўсё нашае літаратурнае пакаленне, я яму безапеляцыйна выбачаю ўсё

мінулае, цяперашняе і будучае. Мы былі знаёмыя блізка. Ён мне прызнаваўся, што галоўны грэх у яго і спакуса – жанчыны, ад іх трэба ўцякаць. У Бога ён верыў пасапраўднаму... Мы некалі ездзілі ў Вільню на II з'езд БНФ, начавалі разам у гатэлі, многа гаварылі – пра Бога, жыццё, літаратуру. Літаральна кожнае яго слова было прасякнута дабром і мудрасцю. На другі дзень ён выйшаў на трыбуну і,ззяючы вачыма, пачаў чытаць: "Ля Кастуся, ля Гедыміна, пад небам віленскіх муроў// Мая палонная Айчына // Сабрала сход сваіх сыноў..." Мурашкі беглі па скуры».

"Педафільная дэманкратыя" няўзнак перацякла ў акафіст славянскай "Наваросіі" і вярнулася да "цёмнага духа свабоды". Ён скончыў чытаць сваю анафему і ўручыў нам пакрэмзаныя аркушы – манаскія правілы прадпісваюць выкарыстоўваць любую сустрэчу для маральнай дабрадзейнасці.

Потым замкнуў храм, паторгаў замок, схаваў ключ пад расай.

На дварэ адчуванне сораму зменшылася. Клубок чорнай пустэчы амаль знік у пасмах вечаровага сонца. На развітанне ён падпісаў мне, як і ўсім, сваю кнігу: "Богападобнаму..."

Ён, магчыма, прачытае гэты тэкст і, паводле канону, мусіць пашкадаваць мяне за маю цемру непрасвяцімую, за няздольнасць убачыць ісціну, мусіць дараваць і нават маліцца за мяне.

Не трэба, брат. А за кнігу – дзякуй.

## Чалавек без свабоды

Гэтага персанажа я ведаю даўней за іншых, што не азначае, напэўна, лепш.

Мяне ў ім раздражняе ягоная нерашучасць і ягоныя сумненні, яго эмацыйная глухата і сентыментальнасць, яго паспяховасць і шанцаванне – амаль тое ж самае, што раздражняе мяне ў сабе самім.

Аднойчы я паспрабаваў уявіць яго на месцы Сміта з "1984". Калі таго пачалі катаваць, і нарэшце зрабілі тое, што мроілася яму ў начных кашмарах – запусцілі на яго пацука – ён закрычаў: зрабіце гэта ёй, майму каханню, Джуліі! Чаму такія думкі прыходзяць у галаву?..

Ён ніколі не гаварыў пра жанчын, і калі я спытаўся яго пра Орвэла, ён адказаў сваёй любімай фразай:

– Ведаеш, я не да канца давяраю сам сабе, што ж мне казаць пра іншых.

Адна ягоная сяброўка была ў школьныя гады ўзорнай вучаніцай і актывісткай, і аднойчы, калі яны абмяркоўвалі подзвіг нейкай гістарычнай гераіні, якая не выдала тайну і яе закатавалі, сказала перад усімі – а я напэўна б не вытрымала і выдала, і заплакала.

Яна стала яго першым каханнем. Нядоўгім, але ўзаемным. Дакладней, наадварот – узаемным, але нядоўгім. Ці нават так: узаемным і таму нядоўгім.

Яго каханні нагадвалі сляпога, які ідзе па вуліцы і раптам знікае, і цяжка зразумець, што адбылося, пакуль не заўважыш адкрыты люк пасярэдзіне дарогі. Па-французску ці па-ангельску пра гэты стан кажуць "упасці" (*fall in love, tomber amoreux*), а на пачатку любога падзення ёсць палёт, тым больш што гравітацыя ў гэтых справах не працуе, да таго ж кожнае новае яго каханне было ўзаемным – а толькі ўзаемна гэта мае сэнс. Секс, неяк сказаў ён, мае сэнс толькі калі ўзаемна, бо інакшай ён проста тавар, які можна купіць. Лепш схадзіць у спартовую залу. Праўда, ён не стаў удакладняць нічога пра час, працягласць, а ў яго гэта магло сціскацца да гадзіны і магло расцягвацца на гады. Магчыма, гэтыя рэчы не вымяраюцца часам.

Што яшчэ яго вылучала сярод маіх знаёмых? Нават не тое, што яму шанцавала, а – як. Неяк у яго ўсё складвалася як норма, як належнае, без высілкаў з яго боку. Быццам нехта ім апекваўся і дапамагаў, і ў часы выпрабаванняў і ў часы спакою. Пры гэтым, здаецца, ён не выклікаў нядобрай зайздрасці, збоку здавалася,

што так і трэба. Ён на роўных сябраваў са знакамітымі асобамі, яго прафесійныя працы атрымлівалі прэміі, яго вылучалі на розныя пасады.

Я спытаўся яго аднойчы – а калі б ты быў цалкам свабодны – што б ты выбраў?

– Магчыма, стаў бы паэтам. Баюся, паэтам, – засмяяўся ён.

І патлумачыў: адным з тых бедалагаў, якія звар’яцелі ад музыкі ў сваёй галаве, і нідзе нікому ніяк не былі б патрэбныя, бо гэта ўсё роўна як стаць астранаўтам-самавукам – гэтыя рэчы так проста не працуюць. Але калі сур’ёзна – калі не стаў, значыць, быў недастаткавы для гэтай ролі, для гэтай найвышэйшай ролі з усіх магчымых. І цела выбрала сваё.

– Цела? – здзівіўся я.

Аказалася, тут ён быў ужо цалкам сур’ёзны. Паводле ягоных словаў, усім у сваім жыцці ён абавязаны свайму целу. Як яно клапоціцца пра яго душу!!!

Напрыканцы ўніверсітэта, калі ён пісаў ужо, хадзіў у літаабʼяднанні, праседжваў ночы за вершамі з новымі знаёмымі і марыў пра вольнае пісьменніцтва, перад ім паўстала размеркаванне ў вёску настаўнікам. І тут ягоны ўплывовы сваяк, які займаў некую важную пасаду, прапанаваў – пайдзі ў кдб. Добрая кар’ера, усе дзеці начальства туды ідуць, плоцяць за званне, праца не пыльная, вывучыш мовы – будзеш ездзіць за мяжу. Ён не надта ведаў, што гэта такое, не сутыкаўся, фільмы паказвалі заліхвацкія, ну, можа, і так, чаму не, і трэба было спачатку прайсці медычны агляд, фармальнасць, ён праходзіў такія агляды ўвесь час, бо займаўся спортам, быў ва ўніверсітэцкай зборнай, ездзіў на зборы, і тут пайшоў у гэтую спецыяльную клініку, і ўсіх лекараў прайшоў, засталася апошняя кардыяграма – і там пачалося нешта няўцямнае. Зрабілі раз, потым паўторна, лекары выходзілі і заходзілі ў пакой, далі яму нейкія мікстуры, зноў слухалі, вымяралі, а потым прынеслі заключэнне – непрыдатны. Ён выйшаў на вуліцу, і зямля паплыла пад нагамі, і ён не зразумеў, што адбылося, а гэта ён узляцеў, такое радаснае шчасце раптам напоўніла яго, як гарачы газ напаўняе паветраны балон, ён ляцеў над тратуарам, над паркам, над горадам – сэрца ўратавала душу. Сэрца, само, само, без адзінага слова, зрабіла за яго выбар.

– О, маё сэрца, разумнейшае за мой розум, мацнейшае за мае біцэпсы, цвярдзейшае за мой чэлес, прыгажэйшае за мае песні, хутчэйшае за мае думкі, смялейшае за мае словы, лепшае за мяне!..

Гэтыя гісторыі з целам у яго сапраўды паўтараліся: ён меўся апынуцца ў цэнтры адной небяспечнай для сябе сітуацыі, але зламаў руку і паехаў дадому да бацькоў. Вярнуўся, калі высветлілася, што дыягназ быў памылковы, пералому не было. Падобныя выпадкі потым адбываліся зноў – шпіталізацыі, эвакуацыі, якія ўрэшце сканчаліся зменай дыягназу, нават калі яго раней пацвярджалі самыя сучасныя медычныя тэхналогіі і апараты.

На яго зрабіла вялікае ўражанне гісторыя аднаго эмігранта, ідэалістычнага юнака, які вырашыў вярнуцца на Радзіму, каб змагацца за яе свабоду, і перайшоў мяжу. Мяжа і ёсць подзвіг. Тут і цяпер.

– А што пасля тут і цяпер? – крыху іранічна спытаўся я, бо гэты штамп даўно раздражняў мяне сваёй недарэчнай паўсюднасцю.

– Далей проста нічога няма, далей не бывае, – сказаў ён. – Усё заўсёды бывае толькі тут і цяпер.

У пэўным сэнсе ён меў рацыю. Рэч была ў тым, каб напоўніцу выявіць патэнцыял сітуацыі, і тады яна станавілася новым тут і новым цяпер. Чаго не возьмеце сягоння, таго і заўтра вам не ўзяць, як пісаў паэт.

Калі ён вырашыў, што паэзія не для яго, дык сабраў свае аркушы, расклаў вогнішча на беразе гарадской рэчкі і падпаліў. Міліцэйскі патруль, які пачаў разбірацца з правапарушэннем, з разуменнем паставіўся да паважнай літаратурнай традыцыі і абышлося без штрафу.

– Сяржант нават сказаў – а, можа, дарэмна?.. – расказваў ён праз гады.

Хутка высветлілася, што рукапісы не гараць – ён усё аднавіў па памяці. Аднак

усё ж здолеў стрымаць сябе і не стаў больш пасылаць у рэдакцыі. Я бачыў яго слупкі, там была іскра, але быў толькі адзін спосаб уведаць, ці стала б яна полымем, аднак ён не наважыўся.

Аднойчы ён размаўляў з пенсіянерам НКВД, які насмешліва спытаўся, што б ён рабіў на яго месцы, каб патрапіў у такую сітуацыю: затрымалі чалавека, які замініраваў шпіталь, але на допыце не прызнаецца, дзе бомба. Катаваць і, магчыма, выратаваць жыцці хворых і лекараў, ці дзеля сваіх непарушных маральных прынцыпаў працягваць угаворваць?..

– І я падумаў – а праўды? – расказваў ён. – Што б адказаў твой Орвэл?..

Сам ён тады сказаў суразмоўцу, што не апынуўся б на яго месцы. Пры ўсёй наіўнасці адказ быў не такі ўжо і наіўны, бо хоць чалавек не выбірае акалічнасці, усё ж часам выбірае, ці заставацца чалавекам. Ды й форма, месца працы ці род занятkaў не ёсць адзінымі вызначальнымі ўмовамі, па якіх праходзіць лінія падзелу.

І ўсё ж мушу прызнаць, што яго адказ пакідаў тады адчуванне сумнення, амаль зыходу ад адказу. Можа, таму, што я сам яшчэ не разумеў, што насамрэч існуе сама мала два правільныя адказы на гэтае пытанне, для міру і для вайны, і лакмусавыя абстракцыі ніколі нічога ні пра кога пэўна не сведчаць.

Усё жыццё ў яго сапраўды заставалася доля нейкай няўпэненасці – быццам ён заўсёды дапускаў варыянты, іншыя магчымасці. Але паколькі гэта не адштурхоўвала сяброў і не пладзіла ворагаў, дык мучыла толькі яго самога.

Я гаварыў аднойчы пра гэтую ягоную рысу з нашым агульным знаёмым, вядомым у свой час музыкам, які пайшоў у манахі. Пасля абавязковых у такой размове агаворак, тлумачэнняў і спасылак на аўтарытэты манах нечакана згадаў Орвэла і яго цэнтральнае паняцце: страх.

– Ён баіцца здрадзіць, бо здрада заўсёды не каму-небудзь, а сабе самому, так? – спытаўся я.

– Ён баіцца выбару, бо насамрэч баіцца свабоды, – сказаў манах.

Выснова гучала як прысуд. Магчыма, жорсткі, але быццам справядлівы, і наступныя яго жыцці, яго новыя тут і цяпер, адпавядалі прысуду. Яму надалей шанцавала, усё адбывалася само сабой, без відавочных катаклізмаў і пераменаў. Так падавалася.

А як было насамрэч – я не ведаю. Але думаю цяпер, гледзячы і на сваё жыццё, што без выбару нічога не бывае, што наш прысуд быў занадта катэгарычны і, значыць, не надта справядлівы.

Насамрэч, гэта быў страх выбару не той свабоды. А хто не мае такога страху, той не зусім чалавек. Паўчалавек альбо паўбог, напалову жывы ці напалову бессмяротны, але заўсёды кентаўр ці русалка, якія не ведаюць горычы спакусы і слодычы пакаяння, цяжару браць і радасці аддаваць, розніцы паміж адсутнасцю няшчасця і шчасцем.

Не ведаю, ці сапраўды ён мог бы стаць паэтам. І што б з гэтага выбару атрымалася.

Свабода мець не адрозніваецца ад свабоды не мець. Адрозніваюцца толькі свабода быць і не быць.

І калі ёсць яшчэ суцяшэнне, дык толькі ў гэтым.

## Замест пасляслоўя

*Зазірнуў адзін чалавек у люстэрка і нічога там не пабачыў. Тады спытаўся ў сяброў, што б гэта значыла?*

*– Ты большы за люстэрка, – сказаў першы.*

*– Люстэрка большае за цябе, – сказаў другі.*

*– Ты аслеп, – сказаў трэці.*

*І ўсе мелі рацыю. Хоць проста была ноч.*

Ала Сямёнава



...Вось ніколі ні іспанцаў, ні італьянцаў ніхто не назваў *Homo fascisticus*... Або немцаў: *homo natisticus*...

# Homo homini...

...*Homo sapiens... Homo faber... Homo liber...*
Чалавек, які мысліць... Працуе... Чалавек вольны...
...*Homo homini amicus est... Homo homini lupus est...*
Чалавек чалавеку – сябра... Чалавек чалавеку – воўк...
Што там яшчэ ў скарбонцы лаціны?
Ёсць і такое: *homo res sacra* – чалавек – рэч святая...

...Выпстрыкваюць у памяці гэтыя выслоўі... Як я крочу на далекаваты пагорак, а потым спускаюся далей – да апошняга прытулку блізкіх мне людзей...

Дарогай гэтай ідуць пераважна тыя, у каго, як кажуць, лепшыя гады засталіся далёка... Хто крочыць досыць шпарка, хто – паволі, хто – ледзь адольвае гэтыя пядзі зямлі – з кульбачкай, часам абапіраючыся на нечую руку...

Усіх нас абганяюць легкавікі, найбольш іншамаркі... Едуць дзелавіта. Шкло ў машынах найбольш замглёнае (здаецца, гэта забаронена?), але відаць, зрэдзьчасу – поўныя машыны, а найбольш – адзін, два чалавекі...

...Сябры, знаёмыя, суседзі, хто мае транспарт, прапаноўваюць: “Калі што – звані...” Але ж... Я памятаю старую местачковую завядзёнку: “Людзі маюць павагу прапанаваць, а ты май розум адмовіцца”. Сапраўды – ва ўсіх жа свой клопат:

праца, справы, сем’і, дзеці, бацькі, у каго дык і ўнукі... Абставіны, мітрэнгі... Мітусня жыццёвая... І я не надакучаю... І не наракаю... Да таго ж агульнавядома: рух – жыццё... Рухаюся...

Ці не адчуваю сябе, як вядомы герой Мікалая Эрдмана, “разжалованной в массы?” Здаецца, не. Хаця часам віраванне перспектыўнай думкі ўладных асобаў адносна маршрутаў гарадскога транспарту досыць яскрава сведчыць: яны добра забыліся пра гэты спосаб перасоўвання ў прасторы... Ну, а *сацыяльныя статысты* –яны ж на тое і існуюць: для працы і забеспячэння масавых дзействаў... Вось сустрэла знаёмую настаўніцу – скардзіцца: “Хоць ты працу кідай! Зімой ганяюць мерзнуць на хакей, летам – згараць ад спякоты на бясконцых святах! Усё імітуем трыўмфуючыя натоўпы...”

Ну але ж... Мае самотныя маршруты з цягам часу толькі памнажаюцца... Вандроўкі памяці... Тугі... Нейкай асаблівай спагады... За імі – жыццё... Успаміны... Былое... Апірышча сённяшняга... І адпрэчванне яго...

...Згадваецца... Помніцца...
Асобы... Індывідуумы... Непаўторныя... Незаменныя...
Што яны, што мы, што я – у бясконцасці Быцця?
*“Letum non omnia finit”*, – “Смерць не ўсё заканчвае”?
Ці наадварот?

Мы не останемся нигде
И канем в глубь веков,
Как отраженья на воде
Небес и облаков.

...З аўтарам гэтых радкоў давялося неяк у Дубултах, у Доме творчасці, так бы мовіць, падзяляць трапезы за адным сталом.

Было ў ім нешта ад гэтых яго і многіх-многіх іншых высокіх словаў – яго высокай паэзіі... І нешта зусім зямное, нават хатняе... ”Дэзік”, – так звалі яго маскоўскія дамы-равесніцы (сам ён на тую пару жыў у Эстоніі, здаецца, у Пярну)... Пазней адну з кніг гэтага паэта са сціплай назвай “Жменя” (“Горсть”) прэзентавала мне Алена Сямёнаўна Васілевіч... Хіба гэтую адну кнігу... Хіба толькі яна... Але гэта ўжо іншая размова...

Як, можа, і роздум пра вякі, час – як пра гістарычны і фізічны феномен, як пра адну з формаў выяўлення “падоўжанасці”, “працягласці” – іншы “варыянт” роздуму? Пра час – як пра катэгорыю абсалютнага духу? Самастойнай ці залежнай сутнасці? Што там яшчэ ў вызначаных лёсам розумаў?

Але ў той дзень, у той момант, у рэальнай прасторы рэальна, нават прагматычна, у канкрэтны час мяне цікавіў расклад аўтобуса...

...Тым гарачым ліпеньскім днём я вярталася дадому, не надта здарожыўшыся... Мабыць, светлы дух таго, да каго я выпраўлялася, добра ўплываў на ўсе мае захады: і белыя ружы даехалі свежанькія (трыццаць градусаў паводле Цэльсія), і тыя некалькі маршрутаў, якімі трэба было ехаць, не адмянялі, і нават у загарадным аўтобусе знайшлося месцейка сесці...

...На прыпынку нікога не было – да прыходу рэйсавага аўтобуса заставалася хвілінаў пятнаццаць. Тым часам пад’ехаў шэры сітраэн і прыпыніўся. Мабыць, некага чакае, падумалася мне...

Раптам адно з вакенцаў машыны прыадчынілася і зусім незнаёмая асоба прапанавала мне: “Магу падвезці да Уручча”. “Колькі?” – запытала я. Жанчына хораша ўсміхнулася: “Нічога”.

...І я не адмовілася. Справа нават не ў тым, што не ціснулася ў аўтобусе, даехала, як кажуць, што белы чалавек...

Галоўнае! Упершыню! За ўсе гады маіх вандровак-рытуалаў упершыню прыпынілася машына... Упершыню! Увогуле – натуральны жэст... Нічога асаблівага... Але ж не памятаю, каб мяне ці каго іншага якая спадарожная машына давезла да горада... Дарэчы, пасляваенным далёкім часам, ды і пазней, падвезці пешага было справай звычайнай, хаця прыватныя легкавушкі мала каму даставаліся, ды і грузавых машынаў (зразумела, дзяржаўных) было небагата. Але гэта здаралася даўно...

...У той дзень мне было хораша і светла ад гэтага звычайнага чалавечага жэста. Светла доўжыўся гэты самотны дзень – калі дарагому мне чалавеку споўнілася б... Не так мала... І не так многа...

Асоба з машынай са светлым імем Святлана... Хрышчаная ў касцёле як Станіслава... Светлая тварам, аблічам... Учынкам... Словамі...

...А ўвогуле, як задумацца, мне ў жыцці шчасціла на такую нечаканую шчадроту... Знаёмых і незнаёмых людзей...

...Надарылася неяк ехаць па справах у Польшчу. Па запрашэнні нашых беларусаў. Да свайго слова на імпрэзе я паставілася сур'ёзна (эсэ аркушы на два ў "Тэрмапілах" (1999, №2), аформіла дакументы, аднак абмяняць даляры на злотыя не паспела. Не тое каб той валюты былі поўныя кішэні, аднак на мае сціплыя патрэбы хапіла б.

Ураніцы даехаць да цэнтра мне дапамагла мая маладая калега з Мінска – пазычыла на праезд. Аднак высветлілася – абменнікі яшчэ зачыненыя. Мы зайшлі ў сімпатычную кавярню – мая суайчынніца з дачкой (узяла дзяўчо, каб пазнаёміць з замежжам) неўзабаве спажывалі трывалы сняданак, а я падышла да стойкі: "Proszę Pani, tutejsze kantory są jeszcze zamknięte, a ja mam tylko dolary". "Skąd Pani jest?" – перапыніла мяне кабета за стойкай.

"Białoruś", – выдыхнула я. "Proszę Pani! – ускінула рукі кабета. – To przecież my do was, wy do nas... Czego Pani sobie życzy?" – "Europejskie śniadanie, proszę. Bułeczkę... Kawę... Albo z kremem śmietankowym..."

...Калі я працягнула даляры, жанчына з ветлівай усмешкай іх адпрэчыла... І яшчэ гаварыла, гаварыла... Каб хто хацеў адлюстраваць-увасобіць сяброўства памежных суседзяў, дык лепшага эпізоду наўрад ці знайшоў бы.

...А кава з вяршкамі і печыва былі найсмачнейшыя... Я хутка праглынула іх і не стала перашкаджаць снедаць маім зямлячкам: мабыць, іх стравы былі не горшыя...

Пазней я, зразумела, абмяняла свае грошы, развіталася за аўтобус з калегай і ўвечары прыйшла з кветкамі і цукеркамі ў ранішнюю кавярню. Сімпатычныя жанкі запрашалі наведваць іх кавярню. Можа, калі і давядзецца. А пакуль застаўся светлы ўспамін... Незнаёмыя жанчыны ў суседняй краіне... Беластоцкая кава...

*Homo homini...*

Потым былі ў Беластоку і выдатны прыём, і інтэлектуальныя стасункі... А плённае творчае супрацоўніцтва з "Белай вежай", з выданнямі Беласточчыны было і да таго, і мае працяг (пра гэта крыху пазней), але быў і гэты, нечаканы выпадак... Неспадзяванка... Дарунак моманту...

...Як было і такое...

З добрай ініцыятывы нашага Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага ПЭН-цэнтра сярод шматлікіх важных пачынанняў з'явіліся "Стральцоўскія чытанні" (Міхась Стральцоў гэткае і ў марах не меў...)

...Выступалі тыя, хто ведаў яго, тыя, хто не ведаў, але аддаваў належнае гэтаму сапраўднаму таленту. Трапіла на адно з тых "чытанняў" і я.

...Выступленні былі цікавыя, змястоўныя, яркія. Кароткія і доўгія...

Выступленне Уладзіміра Някляева было лапідарным. Надзвычай запаміналь-

ным – пра гэта, спадзяюся, прыдасца прамовіць асобна. Трэба – асобна. Два факты – але якія! Талент пра Талента! Паэт пра Паэта! Асоба пра Асобу! Але тут – пра іншае... Скончыўшы выступленне, Уладзімір Някляеў прамовіў: “У гэтым зале прысутнічае...” І ён назваў маё прозвішча... Без каментару... Хто чытаў “Бэзавы попел” і яшчэ нейкія мае допісы пра Стральцова – зразумее... Хто – не... Ён не тлумачыў... А дарэчы, з выступоўцаў мяне ведалі многія... І бачылі мяне... І гаварылі мне некалі (шчыра ці няшчыра – не ведаю) добрыя словы пра “ Бэзавы попел”... Аднак згадаў ён адзіны... А выходзячы з зала, падышоў і пацалаваў мне руку...

Жэст? Безумоўна. Прыгожы жэст. Высакародны... Жэст-учынак... Паэта і рыцара...

*Homo homini...*

*Homo urbanus? Urbanitas?*

Так. Так. Жэст чалавека вытанчанага, адукаванага, гжэчнага...

Але і яшчэ... Яму ж хапіла клопату. Турбот...

Прэзідэнцкая кампанія... Турма... Пераследы... Суд... Працяг грамадзянскай дзейнасці... Творчасць! Актыўная. Дзейсная. Яркая! Тая, паводле якой ламаюць коп’і, спрачаюцца. Зайздросцяць... Якой захапляюцца... Чытаюць... У кніжным фармаце... Шукаюць яго выданні... У век Інтэрнэту... Усюдыісных СМІ...

Ды што я з маім шматслоўем! Сам! Народны! Рыгор Барадулін у “Літаратурнай Беларусі” ад 22 лютага 2013 года вызначыў: “гэта апошні класічны геніяльны беларускі паэт...” І вось... Менавіта ён, так бы мовіць, ганаровы насельнік Парнаса, палічыў магчымым...

А дарэчы, “Бэзавы попел”, аповесць-эсэ паводле ліставання з Міхасём Стральцовым у пару яго не самага светлага часу –прымусовага знаходжання ў Мазыры, дык вось гэты самы “Попел” з’явіўся ў друку таксама дзякуючы выключна Уладзіміру Някляеву. (Дарэчы, Арлоў у сваім слове пра “Бэзавы попел” характарызуе мой допіс, як “литературоведческую работу, облеченную в свободные одежды эссе” (“Нёман”, 1996, №6).

Так ці інакш – гэты допіс, папярэдне ўхвалены (з клічнікамі) ў рэдакцыі, праляжаў, разам з аповесцю-эсэ “Святло загадкі” і нарысам “У мройныя хвіліны падарожжаў” (у “Нёмане” друкаваўся пад назвай “Неисторические мгновения”), дык вось – пралежала ўсё гэта ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” тры гады... Не буду прыпыняцца на тым моманце, аднак даведаўшыся, што часопіс “Крыніца” набывае новы статус і што плануецца прысвяціць цэлы нумар Міхасю Стральцову, я занесла другі асобнік (першы – у выдавецтве) у рэдакцыю “ Крыніцы”...

У “Крыніцы” чыталі... І якім складам... Галоўны рэдактар – Уладзімір Някляеў, намеснік – Алесь Разанаў... І – Уладзімер Арлоў, Алесь Асташонак, Леанід Дранько-Майсюк, Валянцін Акудовіч, Юрась Залоска... Маргіналіяў на палях... Разумных... Важкіх... Якія мелі на ўвазе зусім іншы ракурс пісьма... Не мой... Так і напісала: “Дзякуй за ўвагу. Пішыце пра Стральцова, як Вы лічыце патрэбным. Свой рукапіс я забіраю”. Так і зрабіла.

...Назаўтра ў рэдакцыі “Нёмана”, дзе я ў тую пару працавала, з’явіўся Уладзімір Някляеў. Сам. Галоўны рэдактар. Дзе вы бачылі, у кожным выпадку на тую пару, каб галоўны хадзіў да аўтараў? “Давай рукапіс”, – рашуча давёў ён. – “У мяне толькі другі асобнік”. – “Хоць дзясяты”.

...І “Бэзавы попел” пабачыў свет... Праўда, як мяне папярэджваў мой муж, першы чытач, чалавек разумны, тонкі, з добрым густам: “Май на ўвазе, у нас не Парыж...”, – так яно і адбылося. Нават людзі, здавалася б, зусім не прымітыўныя, прасталінейна неслі такую ахінею... Што датычыць ліставання і нашых узаемаадносінаў са Стральцовым, дык лепш за ўсё згадаць самога героя “Бэзавага попелу”. Ён даводзіў дачцэ, Вераніцы: “Сяброўскія адносіны з жанчынай – раскоша. Але я магу сабе дазволіць такую раскошу”. Размова была пра мяне. У паэта і філо-

сафа (ва ўсіх жанрах) было дастаткова іншых фактаў біяграфіі, так бы мовіць, рамантычнага кшталту... Але гэта іншая размова...

...Сябры... Сябрына... Таварыства... Суполка... Супольнасць... Гэтыя словы ўсё неяк згадваюцца мне... Не проста як сінонімы, семантычныя ідэнтыфікаты лексемы "саюз". Першааснова, пачатак... Не толькі прафесійнае аб'яднанне літаратараў і тым больш далёка не толькі грамадскае аб'яднанне, як цяпер пазначана ў афіцыйнай назве Саюза беларускіх пісьменнікаў... Менавіта задзіночанне людзей, творчая лучнасць, уменне зразумець і блізкую, і няблізкую канцэпцыю Быцця, у патрэбны момант дапамагчы – словам, справай, учынкам...

У скрушную, чорную гадзіну майго жыцця – званок з Саюза. Старшыня СБП на тую пару Алесь Пашкевіч: "Ці патрэбна дапамога?" А пазней – зноў тэлефон... І прапановы – творчыя... Але і якія чалавечыя, чалавечныя... І да гадавіны развітання з гэтым светам майго мужа ў "Літаратурнай Беларусі" з'явілася маё эсэ – памяці яго... Потым – у серыі "Кнігарня пісьменніка" мая кніга "У святой краіне выгнання", дзе палічылі магчымым змясціць працы розных жанраў...

А калі мне даводзілася апынуцца на тым, нават не сёмым, а дзявятым "небе", куды абставіны нелітаратурнай рэальнасці перанеслі сакратарыят СБП з будынка на вуліцы Фрунзе, што належаў і належыць менавіта гэтаму Саюзу пісьменнікаў, паводле ўсіх юрыдычных нормаў, дык мяне заўсёды ўражвала атмасфера творчай і чалавечай прыязнасці. Гэта пры надзвычай шчыльным працоўным рэжыме – калі адначасова з кіраўніцтвам саюзам, процьмай арганізацыйных справаў даводзіцца выдаваць (рабіць!) часопіс і газету... І які часопіс! Якую газету! І – выдавацьрэдагаваць кнігі... І ўсё ў атмасферы актыўнага неспрыяння шматлікіх уладных структураў, судовых працэсаў, несправядлівых абвінавачванняў...

Тут, мабыць, найпершая ўмова – талент. Пісьменніцкі і чалавечы...

...А якой нечаканай радасцю для мяне было віншаванне з датай, што мела на ўвазе канкрэтна матэрыялізаваныя, сабраныя да ладу допісы... Зрабіць гэта з розных прычын не ўдалося, да таго ж меліся розныя неюбілейныя акалічнасці – адным словам, акрамя касцёла: ніякіх адзнакаў сведчання Ласкі Божай, дараваных гадоў і гадоў...

І раптам – тэлефануюць мне добрыя людзі, найперш Алена Сямёнаўна Васілевіч і да сваіх віншавальных слоў дадае...

На Інтэрнэт, як і на прыстойны прыёмнік, у мяне ніяк не выпадае "ўзбіцца", то, на вялікі жаль, не чула, але прачытала... Разумею юбілейную этыку... Але ж... "Ах, обмануть меня нетрудно, я сам обманываться рад..." Якія словы... Якіх людзей! Уладзімір Някляеў, Віктар Карамазаў, Міхась Скобла, Анатоль Кудравец! А яшчэ і творчая воля такіх добра вядомых і таленавітых адраджэнцаў, высокай думкі і смелай працы, як Сяргей Дубавец, Аляксандар Лукашук, Сяргей Шупа...

Таварыства... Сябрына... Людзей розных пакаленняў, розных творчых почыркаў... Аб'яднаных прафесіяй... Але і... "Бясконцай прасторай вечнай праблемнасці" (А. Лосеў)? Тоеснасцю гістарычнага імператыва і свабоднага станаўлення асобы? Пошукамі таго недасягальнага, а і неўміручага хараства? Парыванне духу?

Фармуляваць, вызначаць – засцерагаюся... Аднак... Адчуваю... Прадчуваю...

Знаходжу падтрымку... Саюз беларускіх пісьменнікаў... Супольнасць... Таварыства... Сябрына...

...Вось ведаю – час ад часу пачую мудрую размеркаванасць слоў Арсена Ліса... І мілую добразычлівасць тону яго прыгожай і разумнай сяброўкі жыцця – жонкі Марыны...

...Сапраўдны вучоны, нястомны працаўнік, творча аддany Бацькаўшчыне... Ніколі не збочыў з таго абранага шляху...

Даследчык, аналітык, фалькларыст, этнограф, цікавы мемуарыст, краязнаўца... Інтэлігент... Сёння гэтае паняцце не ў самай вялікай пашане, а носьбітаў тых якасцяў, што традыцыйна маюцца на ўвазе, не так багата... Тут – менавіта: так. А ведаю спадара Арсеня Сяргеевіча – з пачатку 60-х...

Як і Алеся Яскевіча. Аляксандра Сямёнавіча. З яго даўняй творчай прыхільнасцю – філолага – да філасофіі і тэалогіі. Вось і цяпер неяк азваўся па тэлефоне з намерам прэзентаваць новую кнігу – у рэчышчы яму ўласцівых творчых пошукаў...

Прыемная навіна... Як і слушная творчая прапанова майго зямляка, з Наваградчыны, Яўгена Лецкі – таленавітага літаратуразнаўцы, празаіка, крытыка...

Як эстэтычна вытрыманае – і па змесце, і па форме – віншаванне ад беларусаў Беласточчыны: Яна Чыквіна і Галіны Тварановіч. Спадара Яна Чыквіна ведаю даўно: яшчэ з той пары, калі ў нас быў Дом творчасці "Іслач". Паэт... Філосаф... Даследчык... Літаратурнае аб'яднанне "Белая вежа" – неад'емна ад творчай яго асобы... Як і часопіс "Тэрмапілы", дзе ён нязменны галоўны рэдактар. З гэтым часопісам і аб'яднаннем звязана многа важнага, лёсавызначальнага для мяне.

...А вось з паэтам і эсэістам з Берасцейшчыны Алесем Каско мы асабіста па сутнасці амаль незнаёмыя – бачыліся на XIV з'ездзе СБП і на адной з жалобных сустрэчаў памяці незабыўнай Ніны Мацяш... Чалавек іншага пакалення... Аднак чытаючы яго, адчуваю светлую радасць думкі, агульных духоўных каранёў... Спрабавала нешта з уражанняў выявіць у слове... І прачытаць звернутыя да мяне радкі яго верша... І святочныя абвесткі...

...Святы... Дзякуй усім, хто раптам ды і згадае пра маю сціплую асобу... Бандэроль ад спадара Уладзімера Арлова: каляндар на 2014 год з добрымі пажаданнямі... За што б ні ўзяўся – у любым жанры – таленавіта, своеасабліва. Непадробна: і проза, і паэзія, і гістарычныя працы, і выступленні на радыё... Пакуль гартаю каляндар, званок з пошты: пасланне з Гомеля, ад Івана Афанасьева, літаратуразнаўцы адначасова з тэарэтычным і вобразна-белетрыстычным ухілам, загадчыка кафедры рускай і сусветнай літаратуры Гомельскага ўніверсітэта. Са слыннага роду: унучаты пляменнік (па маці) двух Герояў Савецкага Саюза камандарма Аляксандра Лізюкова і палкоўніка Пятра Лізюкова, героя-партызана Яўгена Лізюкова – у Гомелі ёсць вуліца братоў Лізюковых. Ды і бацька яго, Мікалай Іванавіч Афанасьеў, паводле характарыстыкі Льва Анінскага, "легендарны дырэктар завода" (Гомсельмаша) дадаў свае "старонкі" ў летапіс Гомеля...

...Ну, і новае эсэ Івана Афанасьева... Незвычайна кранальнае... паводле жыццёвых фактаў... І глыбокае – роздумам, асацыятыўнымі сувязямі...

...А ў мяне радасць... Ад гэтай удачы... І ад творчых пошукаў у розных напрамках літаратуразнаўцы і крытыка Веранікі Стральцовай, ад яе строгай класічнай логікі, яе акадэмічна вызначаных разумовых звычак... (Гэта зусім незалежна ад таго, што яна – дачка Міхася Стральцова).

Увогуле – даў мне пан Бог уменне радавацца чужой удачы, творчаму набытку іншых.

Новае – да апошніх хвілінаў на зямлі – у Рыгора Барадуліна...

Новае ў Віктара Карамазава, Анатоля Вярцінскага, Алеся Разанава, Алеся Жука, Анатоля Кудраўца, Генрыха Далідовіча...

Новае ў Анатоля Сідарэвіча, Вячаслава Рагойшы, Юрася Барысевіча...

Неяк асабліва ўспрымаю (нібыта сама маю дачыненне) тэарэтычна заглыбленае і аднačасова палётна ўзвышанае, вызначанае яснай і разумнай канцэпцыяй і бліскуча выяўленае стылёва пісьмо Ірыны Шаўляковай, што нейкім чынам умее спалучаць дыскурснае і эмпірычнае, эзатэрычнае і звычаёвае, сутнаснае і будзённае...

...Чытаю новыя творы Аксаны Спрынчан, Андрэя Хадановіча, Анатоля Івашчанкі – і адчуваю нейкую інтэлектуальную повязь, перагук думак... Не, я не збіраюся

“бегчы за камсамолам”, за тымі, хто ўжо, безумоўна, выявіў сябе прыкметна і значна... Неадменна...

Па-добраму дзіўлюся, як умее заўсёды па-новаму, знайшоўшы галоўнае, вызначальнае весці свае перадачы на радыё Галіна Шаблінская. Кожная перадача – мастацкі твор. Дзівіць размаітасцю сваіх мастацкіх, творчых магчымасцяў, у тым ліку і на радыё, Міхась Скобла. А прыгадваюцца яшчэ цыклы перадач “Дудка Беларуская” Святланы Кароль (Рэсенчук). Даўнавата было, але помніцца...

...Часам хто-небудзь спытае: што чытаю? З кім кантактую? Як мне самота?

Супярэчлівая абумоўленасць сітуацыі...

Момантам здаецца – адна ўва ўсім свеце... У Дзяржаве Усявышняга... Іншым разам – жыву на “планеце людзей” (памятаеце “Сент-Экзюпеды?)... Часта – у сябрыне, таварystве, у суполцы... Нават калі не маю канкрэтных асабістых стасункаў...

*Homo homini...*

У думках, у словах, ва ўчынках...

Нейкім вечарам затэлефанавала мне адна знаёмая... Была ў доме адпачынку (ці санаторыі?) і сустрэла там жанчыну з майго Навагрудка... То яна вельмі хораша згадвала маю маму... Увосень гэтага года пазначыцца трыццаць год з таго дня, як мая мама пакінула гэты свет... А перад тым некалькі год жыла ў Менску. Праводзіць яе прыехала ці не паўгорада – Навагрудка, зразумела... Толькі хвароба прымусіла яе з’ехаць з горада жыцця: “Родны горад... І тут я патрэбная людзям... “Пані адвакат, маю да вас інтэрас”... А ў Мінску...

...Дарэчы, калі цяпер я прыязджаю на радзіму, абавязкова нехта на вуліцы, а ўжо каля касцёла або на кірмашы абавязкова – нехта знойдзецца, спытае: “Дачка?” І хаця я даўно-даўно мінула тыя гады, калі людзей пазначаюць паводле гэтай прыналежнасці, там, у Навагрудку, я заўсёды дачка адваката... І мне неяк прыкра чытаць яхідненькае: “адвакацкая жылка”... Зрэшты, у літаратуры зыходзяць “з прэзумпцыі” таленту... І, між іншым, а калі ў чалавека маці працуе на свінаферме, а бацька, да ўзору, бульдазерыст (паважаныя заняткі), дык што, пэўна, атрымліваецца “свінапасна-бульдозерная жылка”?

Увогуле – павага да асобы, павага да факта: абавязковыя ўмовы прафесіі літаратара... Вось неяк давялося прачытаць бліскучае эсэ бліскучага эсэіста, выдатнага паэта, нястомнага даследчыка і публікатара – пра Міхася Стральцова... І са здзіўленнем пабачыла пад фотапартрэтам пісьменніка подпіс: фота аўтара. Памылка газеты... Але... Фотапартрэт выдатны. У яго ёсць аўтар: Анатоль Каляда. На тую пару, калі надышоў апошні момант у зямным жыцці Стральцова, ён працаваў у рэдакцыі часопіса “Нёман” фотакарэспандэнтам, а я мела гонар рабіць у адным аддзеле з Міхасём Лявонцьевічам. Спадар Каляда падараваў мне гэты партрэт, і пакуль я працавала ў “Нёмане”, фота вісела на сцяне пакоя, дзе месціўся аддзел мастацтва, крытыкі і літаратуразнаўства...

А калі зноў згадаўся Стральцоў, дык мушу заўважыць: мне (ці яму?) усё ж пашанцавала... Да публікацыі ў Крыніцы” быў невялікі фрагмент у часопісе “Беларусь”, з выдатным мастацкім афармленнем Анатоля Александровіча. Ці не дзякуючы вельмі нядоўгаму знаходжанню адказным сакратаром Міраслава Шайбака?

Літаратурным рэдактарам была вядомая пісьменніца Хрысціна Лялько, аднак фрагменты прозы, надрукаваныя пры іншым адказным сакратары ў тым жа часопісе, былі “сляпыя”, ані малюнка, ані здымка... Па ўласным вопыце ведаю, што агульная “падача”, афармленне мала залежалі ад літаратурнага рэдактара, нават пры найвялікшым жаданні... Дарэчы, як галоўны рэдактар часопісаў “Наша вера” і “Ave Maria” Хрысціна Аляксееўна друкавала мае матэрыялы ў мастацкім афармленні, прынятым у гэтых часопісах.

...Ну, а выхад “Бэзавага попелу” і першай публікацыі “Святла загадкі” – у кніжным фармаце – адбыўся, дзякуючы з’яўленню недзяржаўнага выдавецтва “Радыёла” і выдаўцу Уладзіміру Сіўчыкаву. Цікаваму празаіку, перакладчыку, апошнім часам – аўтару шматлікіх эсэ, якія прыцягваюць і разнаітасцю матэрыялу, і эрудыцыяй аўтара, і спалучэннем аналітычнай і мастацкай думкі...

Выхад кнігі менавіта – адбыўся... Перад тым у выдавецтве “Мастацкая літаратура” рукапіс мой перакінулі ў рэдакцыю аператыўных выданняў..., каб там аператыўна перанесці кнігу ў план будучага года... Я спрабавала звярнуцца да незалежных выданняў (уладальніку аднаго – светлая памяць, другі – хай жыве доўга і шчасліва), людзі там былі таленавітыя і досыць смелыя: мне адмовілі, нават за свой кошт. “Свой” кошт быў пазычаны (адзіная пазыка ў маім жыцці – разлічылася, дзякаваць Богу), але не ў тым справа... Спадару Уладзіміру Сіўчыкаву я патлумачыла сітуацыю – і ён рызыкнуў... І правёў маніторынг, не ўзяўшы за гэта ні капейчыны. А гэта 1994-ты год: ледзь не кожны кампутар на ўліку...

Друкарня – праблема... пра што гаварыць... Ну, а дзелавыя сустрэчы з Уладзімірам Мікалаевічам Сіўчыкавым і яго жонкай Раісай Ільінічнай, актыўнай удзельніцай яго справаў, заўсёды былі ўзорам карэктнасці і добразычлівасці...

А на кнігу з’явілася рэцэнзія вядомай, выдатнай пісьменніцы Алены Васілевіч у “Полымі”, 1996, № 6 (атрымала прэмію года часопіса) і ўжо згаданае эсэ Уладзімера Арлова ў часопісе “Нёман”, 1996, №6. (Я ў часопісе ўжо не працавала). Не ведаю, як маё пісьмо, але рэцэнзіі – сапраўдная літаратура. Мастацкая.

Кулуарныя падрабязнасці? Ці – літаратурнае жыццё?

...І не толькі літаратурнае...Яшчэ і гэта...

*Homo homini...*

Бездань сутнасцяў, сутыкненне думак... Пякельная атрута празарэнняў, мроіва безнадзейнага, скрушны шэраг прадчуванняў, сувязь часоў і розных прасторавых судачыненняў...

Кругаверць часу, падзей...

І – заўсёднае, неадменнае... Радзіма... Землякі... Навагрудскія... І ў добрыя хвіліны, і ў цяжкія... Пісала пра тое неаднойчы... З 1946-га года – Навагрудак... І на ўсё жыццё...

Богам дадзенае жытло, будынак, што быў неяк пазначаны ў “Нашай Ніве” як “шэдэўр драўлянага дойлідства” – тут мая сям’я пражыла трыццаць гадоў... Побач – касцёл Белая Фара, насупраць – замак... “Дзве вежы вякі тут збіраюць на веча...”

Мама... Бацька...

Знаёмства... з сястрой Малгажатай, працэс Беатыфікацыі якой распачаўся ў 2003-м годзе... Кожнай раніцы – паклон крыжу, пад якім на тую пару мелі вечны спачын 11 сёстраў-назарэтанак, працэс Беатыфікацыі якіх адбыўся ў 2000-м годзе ў Рыме (рэліквіяр з астанкамі сёстраў знаходзіцца ў касцёле)... Блізкія стасункі з паплечніцай і памочніцай сястры Малгажаты Магдаленай Жукоўскай, пані Магдай... Духоўны ўплыў гэтых асобаў...

...Сястра Тэрэза, духоўная іх наступніца ... Якое свята – кожная сустрэча з ёю, кожны яе званок, кожны мой зварот да яе...

Школа... Настаўнікі... Асобая атмасфера... Дагэтуль – сябры са школы: сябры на ўсё жыццё... А мой класны, матэматык Аляксандр Якаўлевіч Лівенцаў, для мяне: Настаўнік, з вялікай літары... Ну, і быўшы на радзіме, я абавязкова імкнуся пакланіцца памяці маёй любімай Ніны Рыгораўны Лівенцавай, незабыўнай, непаўторнай...

А як прывячалі ўсіх навагрудскіх у кватэры Вараваў, калі Георгія Рыгоравіча перавялі на працу ў Мінск... Яго жонка, настаўніца, – яна была для ўсіх нас –

цётка Шура... А светлыя традыцыі сям'і памножыў сын – гісторык, краязнаўца, таленавіты экскурсавод, аўтар некалькіх сотняў нарысаў, эсэ, тэкстаў да альбомаў і буклетаў. Анатоль Варава... Эрудыт, бібліяман...

...Мае, наваградскія, духоўная эліта... Вось у самыя цяжкія моманты жыцця прыходзіў на дапамогу Аляксандр Васільевіч Харытончык... Хірург, асоба... Бацька яго таксама быў паважаным медыкам, а да таго – ганаровы грамадзянін Чэхаславакіі... Мы доўга не бачыліся, узяўшы трубку, была не ўпэўненая, што пазнае: на той момант ён займаў высокую пасаду... Дапамагчы майму мужу, акрамя Пана Бога, не мог ужо ніхто... Але ж Аляксандр Васільевіч патэлефанаваў усім – найперш мужу, спрабаваў паспрыяць... Дапамагчы...

Сябрына... Таварыства... Зямляцтва...

Геаграфічнае? Духоўнае...

Як гэтае даўняе духоўнае "зямляцтва" з урачом, што некалі выратавала маю маму пасля клінічнай смерці... З Тамарай Васільеўнай Кур'яновіч...

Як не проста суседства па дому з вельмі сучаснымі і вельмі несучаснымі Леначкай і Уладзімірам... Іх дачкой Машанькай... Іх духоўнае хараство і інтэлект цалкам адпавядаюць іх знешняй прыгажосці... Нейкае асобае паразуменне, злагада, прыязнасць...

А нечаканыя стасункі і нечаканыя званкі з памежжа з Летувой ад аматарак мастацтва, знаўцаў паэзіі і ўвогуле літаратуры Вольгі і Таццяны Васільеўны... З іх паселішча – з кветкамі, садам... З іх апекаванцамі – выратаванымі "сябрамі меншымі"...

...Разгортваю новы нумар газеты "Новы час"... І вяртаюся да сваіх калег па цэху... Цікавыя публікацыі... Значныя... Змястоўныя...

А што яшчэ здатная зрабіць я? Для іх... Для сябе...

...Згадваю даўняе... Неспадзявана трапіла я ў шпіталь... І разам са мною апынулася там жанчына, якой я імкнулася неяк дапамагчы: прыносіла ёй сняданкі і вячэры, дзялілася тым, што шчодра дастаўлялі мне... Была кабета ўдвая старэйшая за мяне, нарадзілася і ўсё жыццё пражыла Мінску, у адным доме побач з праваслаўным саборам. І ўсё жыццё рабіла прачкай... То яна гаварыла мне: "Як акрыяю, добра памыю вам бялізну..."

Цяпер, калі ўсё "близится к закату моему", я згадваю тую жанчыну... А што магла б я? Цяпер амаль усе маюць пральныя машыны... Амаль...

...Пакуль з маёй, на жаль, пазаінтэрнэтавай, невіртуальнай прасторы – нізкі паклон усім, хто меў на мэце дадаць светлых фарбаў у маё літаратурнае і нелітаратурнае быццё...

*Homo homini...*

І тут чамусьці згадваецца – апошнім часам вельмі часта пракламуюць: *Homo sovieticus.* ...Што? Адкуль? Вось ніколі ні іспанцаў, ні італьянцаў ніхто не назваў *Homo fascisticus...* Або немцаў: *homo natisticus...* І самі яны не спяшаюцца сабе такія "брэнды" навешваць... Адкуль гэта ў нас? Маю пэўнасць – раней і цяпер, пры ўсіх уладах:

*homo liber*
*homo faber*
і, даруйце:
*homo sapiens...*
Сентыментальныя штудыі? Можа...
Атавізмы мінулага? Магчыма...

Аднак... Будзённыя, звычайныя дні перамяжаюцца з днямі-датамі, часам падзеяў, неўпрыкмет становяцца гісторыяй, з'яўляецца і мета вечнасці... А свядомасць поўніцца і памяццю адчуванняў, падзей, каштоўнасных арыентацый, эмацыянальных, інтэлектуальных уражанняў, так бы мовіць, універсальнымі заканамернасцямі онтагенеза і індывідуальнымі варыяцыямі... Памяццю-прысутнасцю асоб, якімі поўнілася і мецілася жыццё... І самыя скрушныя і, здавалася б, змусова-непапраўныя моманты ратуе заўсёды прысутны змест, хаця, безумоўна, хапіла і расчараванняў і здрадаў... Ажно не яны мецілі жыццё:

Нет, был бы он невыносимо страшен,
Удел земной, не будь всегда при нас
Ни детства дней, ни молодости нашей,
Ни жизни всей в ее последний час.

*P. S.*

...Неаднойчы мне ставілі пытанне: як я стаўлюся да прэмій, узнагарод... Да мяне было моўлена:

Оставь другим
Игрушку мира – славу.
Иди домой –
И ничего не жди.

Пару разоў мяне на нешта намінавалі... Даведвалася са спазненнем – без эмоцый... Спакойна заўсёды ставілася і да грошай, і да вядомасці... І кватэра кааператыўная (а я чалавек XX стагоддзя), і з кнігамі – не да прыбытку... Але – нейкі грашовы, ну, не эквівалент, а які "варыянт"... Грант... Каб трошкі паменшыць тую "крытычную масу" – амаль за трыццаць год: выдаць сціпла ў мяккай вокладцы (Божа барані – балакрон, штапель, лідэрын!) раскіданае, расцярушанае... Ну, урупіцца ў Інтэрнэт... А то дык нават пра тое – дзіва дзіўнае, што мае допісы, зразумела, на беларускай мове – нехта прапануе на расейскім сайце. Калі ласка, скачаць. Калі ласка, кніжны фармат... – даведваюся ад людзей, што тое "сусветнае павуцінне" скарыстоўваюць дзеля справы... Яно, безумоўна, не такая вялікая праблема... Але ж і я з той электронікай – ну, не так, як у лесе з бараной, аднак... А галоўнае – прылады ў мяне такой мадыфікацыі, такога года вырабу, пра які сённяшнія прасунутыя цінэйджэры кажуць: "Столькі не жывуць"... Збіраўся мой Март, мой муж, усё аднавіць... Не паспеў... Мой светлы рыцар...

Які Інтэрнэт, калі я, адважыўшыся набраць гэты тэкст адразу на кампутар, ніяк не магу "вылузаць" яго ў які мабільны варыянт... Нават не сюжэт для невялікага апавядання, – анекдот...

І зноў пра інтэрнэт... Нават пра тое, што скончыў свой зямны шлях Рыгор Барадулін, пачула ад людзей, якія выкарыстоўваюць сучасныя формы інфармацыі... Адышоў "у неба – пехатою"... Здзейсніўшы, спраўдзіўшы... Народны не так паводле звання, а паводле прызнання... І праводзіла яго грамада... Чытачы... Суайчыннікі... Калегі... Сябры... Сябры і паводле той прыналежнасці – хрысціяне... і паводле прыналежнасці да той сябрыны, суполкі, таварыства... Саюз беларускіх пісьменнікаў... І ёсць адчуванне прыналежнасці... І маёй таксама... Ахоўнае... Вызначанае... Нават калі сам-насам... Толькі з Панам Богам...

Супольнасць... Таварыства... Сябрына...

На "планеце людзей"...

*6 ліпеня 2013 г., 7 сакавіка 2014 г.*



Наталля Гардзіенка



...каб нашы суродзічы тут на чужыне
паслухалі мяне,
дык мы стаялі-б вышэй яшчэ...

# Юры Попка: пісьменнік нявыдуманай літаратуры

Гэтую публікацыю можна было б пачаць класічнымі для нас нараканнямі на незапатрабаванасць, ці, хутчэй, імаверную магчымасць страціць пакінутую нам матэрыяльную спадчыну, пра якую пісаў Аляксандар Адзінец у артыкуле "Запавет эмігранта"[1]. Або – таксама ў межах традыцыі – звярнуць увагу на тую акалічнасць, што імя гэтага пісьменніка адсутнічае практычна ва ўсіх тых маналікіх кнігах, што прысвечаныя эміграцыйнай літаратуры.

Што казаць, абодва пачаткі былі б мо і неарыгінальнымі, але абсалютна слушнымі, хоць творчую спадчыну Юрыя Попкі, што нарадзіўся 7 кастрычніка 1912 г. на хутары Высокі Груд Пружанскага павета, не заўважыць даволі складана. Пад сваім прозвішчам ці псеўданімам (Жывіца) ён выдрукаваў у нямецкіх гарадках Пірмасенс і Ляймэн мастацкія творы: "Сын: аповесьць" (1950, 1962), "Празь сьлёзы: расказы" (1951), "Празь сьлёзы: зборнік твораў" (1951), "Расказы" (1961), "Адгалосьсе: успаміны" (1961), "У санаторнай белі: расказы-ўспаміны" (1961), "Кошык: расказы" (1961), "Па чу-

жых куткох: расказы" (1962), "Журавель: расказы" (1962), "Умелы падыход: расказы" (1962), "Сьвеціць у тумане: аповесьць" (1962, 1985), "Песьня салаўя" (1963), "Зь вінтоўкай у руках: успаміны" (1962), "Пушча шуміць: аповесьць" (1963), "Носьбіт ідэі: аповесьць" (1964), "Новая хата: расказы" (1964), "За белым плотам: шпітальныя запіскі" (1972).



*Юры ПОПКА. 1964 год.*

Двума выданнямі – у 1982 і 1983 гг. – выйшаў "Летапіс Віленскай Беларускай гімназіі: 1919-1944". Кнігі па гісторыі: "Беларусь: кароткі летапісны агляд" (1979) і "Беларусь: кароткі гістарычны агляд" (1985), а таксама "Радаслаў Астроўскі, Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады: ягонае жыцьцё, праца і змаганьне", другое, дапоўненае выданне якой выйшла ў 1984 г., праз дваццаць год пасля першага.

Асобна трэба зазначыць вялізную працу па зборы і захаванні спадчыны Хведара Ілляшэвіча; мы сёння ведалі б паэтавае і пра паэта значна меней, каб не выдадзеная Юрыем Попкам таксама двума выданнямі "Недапетая песьня: жыцьцё й літаратурная спадчына Хведара Ільляшэвіча" (1981, 1982) і "Дадатак-дапаўненьне да кнігі "Недапетая песьня: жыцьцё й літаратурная спадчына Хведара Ільляшэвіча" (1987).

Нават калі абмінуць выдаваныя ім кнігі іншых (як, прыкладам, праца Радаслава Астроўскага "Беларусь: гістарычныя нарысы", 1986), а таксама заснаваныя ім часопісы "Вехі: Ворган Беларускай паступовай думкі" (1956-1989) і "Весткі Інстытута Беларусаведы" (1986-1993) (у стваральніках якога быў і Барыс Кіт), то даробак усё адно не можа не ўразіць. І гэта пры тым, што жыццё асабліва не шкадавала Юрыя Попку; да тых шляхоў, якімі прайшлі ўсё паваенныя беларусы-эмігранты, у яго былі і свае асабістыя: 10 гадоў у шпітальных ложках. І калі іншыя маглі абаперціся на самае галоўнае – на сям'ю, ён быў пазбаўлены і гэтага:

*"[Картка недатаваная. На штэмпэлі: 12.4.1958][2]*

*Паважаны Сп. Тулейка, блізка дзесяць год прайшло з таго часу, як Вы выехалі ў ЗША і без прычыны парвалі са мной сувязь. Паскольку Вы зьяўляецеся кумам і хросным бацькам маёй Радачкі, дык па гэтай лініі варта нам пагаварыць. Пра Радачку я не забыўся й не забудуся! Надышоў час, і я мушу навязаць зь ёю сувязь. Каб ня траціць лішнія клопаты й расходы, я хацеў-бы зрабіць гэта праз Вас. І таму прашу Вас даць мне ў хуткім часе адказ на гэтае пытаньне. Я хачу ведаць, як расьце Радачка, і ці ведае, што мае бацьку. Скажыце ёй, што я думаю заўсёды пра яе, і буду вельмі рад, калі яна сама напіша да мяне пару слоў. Калі хтось будзе рабіць перашкоды ў гэтым, дык гэтым я буду змушаны прыехаць сам у ЗША, што можа прынесьці непрадбачаныя прыкрасьці. Прашу Вас паважна аднесьціся да маёй просьбы і даць мне адказ. У дванаццатую гадавіну народжаньня Радачкі перадайце ёй самыя шчырыя бацькоўскія пажаданьні.*

*З шчырай пашанай,*

*Попко Ю."*

Можна ўявіць, як быў агаломшаны гэтым лістом мілы, ціхі амерыканскі беларус Міхась Тулейка! Адпісаў ён імгненна:

*"Нью Ёрк, 23 красавіка 1958 г.*

*Паважаны Спадар Попка!*

*Дзякую Вам за ліст. Безумоўна прыкра, што мы так доўга не перапісваліся, магчыма нават, як Вы кажаце, і без прычыны. Калі віна з майго боку, дык скажу Вам толькі тое, што ўжо гады я амаль не перапісваюся з знаёмымі дзеля празьмернай занятасьці. Жыцьцё неяк так складаецца, што вольных часінаў ніколі няма. Вечны навал працы, клопатаў і турботаў. Нягледзячы на ўсё, стараюся хутка адказаць Вам на ліст, бо-ж вельмі істотную й балючую парушылі Вы ў ім справу.*

*Я добра разумею Вашыя бацькаўскія пачуцьці да роднага дзіцяці. Дасадна, бязумоўна, што ўсё так сталася, і што Вы ня маеце магчымасьці бачыцца з Рагнедай. Але-ж ці Вы адны ў такім палажэньні?*

*Я хаця й жыву ў той самай краіне, то за 8 год толькі раз бачыў Рагнеду, у кастрычніку 1956. Яна вялікая ўжо, разумная, прыгожая, добра выхаваная, а ўзрадавала мяне вельмі спраўнай ігрой на фартап'яна.*

*Фёдар з Марысяй купілі свой домік, абое працуюць і жывецца ім добра, такое маё ўражаньне. Пасьля спатканьня ў 1956 г. ня бачыў я іх больш і таксама не перапісваемся. Праўда, летась пісала мне Рагнеда, што яны прыедуць у Нью Ёрк на вакацыі, але, відаць, у іх пляны зьмяніліся, і ў Нью Ёрк ня прыехалі. Я-ж не зьбіраюся ў Чыкага, бо гэта вельмі далёка й каштоўна.*

*Кажны год, на ўродзіны Рагнеды, пасылаю ёй падарунак. Нядаўна яна мне вельмі прыгожа падзякавала за апошні. Адлегласьць пражываньня не дазваляе мне аддаць большай увагі маёй хрэсьніцы.*

*Ня маю я і асаблівай магчымасьці пасадзейнічаць Вам у кантакце з дачкою. Як-жа? Хіба Вашыя лісты ім перасылаць? Ці пісаць ім, каб Вам пісалі. Проста ня ведаю, як-жа тут парадзіць. Калі-б я мог зь імі бачыцца, дык было-б лягчэй штось зрабіць. Думаю, што Вы гэта зразумееце. Пры тым, я думаю, што ад мяне ня трэба больш вымагаць, як ад хросьнага бацькі Вашай дачкі. На расправы мяне тут не заклікайце. Што будзе ў маёй магчымасьці, я ўсё зраблю, каб Вы знаді пра сваю дачку, але змагу зрабіць гэта толькі звычайна, без камбінацыяў ці рэпрэсіяў. У сваім лісьце Вы пішаце, што калі хтось зробіць перашкоды ў Вашым кантакце з Рагнедай, дык тады Вы прыедзеце ў Амэрыку, і таму будзе непрыемна. Дай Божа Вам сюды прыехаць, хай зьдзейсьняцца ўсе Вашыя пляны, але навошта-ж пагражаць і жадаць уцягнуць мяне ў няпрыемнасьць. Вы думаеце, што натое я хросны бацька Рагнеды, каб уплятаўся ў Вашую ці Марусіну злобу. Не. Я мушу гаварыць і з Вамі, і з спадарыняй Марусяй, бо-ж Вы абое бацькі Рагнеды.*

*Уся гэтая справа, я добра разумею, вельмі непрыемная, але што-ж тут можна парадзіць. Нарэшце скажу, што калі я толькі буду бачыцца з сп. Марусяй, можа, яны ў гэтым годзе прыедуць у Нью Ёрк, бо маюць, здаецца, сваю машыну, дык абавязкова пагавару зь ёю аб закранутай Вамі праблеме. Напішу ім таксама ліста ў гэтай справе. Вось гэта ўсё, што я магу зрабіць. Зусім ня ведаю, які будзе вынік. Ня маю з сп. Марусяй ніякага кантакту і ня ведаю яе настаўленьня.*

*З свайго боку хачу Вам парадзіць папрабаваць непасрэдна навязаць кантакт з Рагнедай. Думаю, што гэта будзе лепш, чым праз кагось.*

*Як-жа Вы маецеся, як здароўе, і як Вам цяпер жывецца? Калі будзеце пісаць, раскажэце крыху пра сваё жыцьцё. Я часта Вас успамінаю і заўсёды маю да Вас шчырыя сяброўскія пачуцьці. На гэтым пакуль што і кончу.*

*Шчыра жадаю Вам усяго найлепшага ў Вашым жыцьці.*

*З пашанай да Вас застаюся".*

Міхась Тулейка адначасова напісаў і да былой жонкі Попкі, да Марыі – каб насамрэч не апынуцца паміж двух агнёў. У адказ атрымаў такі ліст:



Юры ПОПКА за працай. 1950 год.

*“Вельмі Паважаны сп. Тулейка!*

*Ужо колькі часу прайшло, як атрымала ад Вас лісты, але з адказам запазьнілась, хаця і на гэта маю выпраўданьне. На Ваш асабісты ліст, бязумоўна, вельмі лёгка адказаць, жывём мы па-старому, усе здаровыя, цешымся летам і добрай пагодай.*

*Што-ж да лісту, перасланага Вамі, саўсім іначай, перадусім я парадзілася з бацькамі і сваімі роднымі ўдома, і пака напісала, яны адпісалі, прайшло трохі часу, затое маю сатысфакцыю, што я ня ёсьць адна на сьвеце, і няясныя праблемы жыцьця заўсёды ёсьць каму памагчы разьвязаць. Шкадую толькі, што раней не пісала дахаты, напэўна, абмінула-б не адно ліха ў жыцьці, але й так усё ў парадку, агнём папарылась, вадой замачылась, аднак усё выйшла непагана, і цешуся жыцьцём. Прабачце, што адбегла ад тэмы, але міма волі пержытае ўспамінаецца.*

*Бацькі справу Рагнеды разьвязваюць вельмі проста. На іх думку, каждое дзіця патрабуе апеку маці, і пака Рагнеда малалетняя, вельмі глупа выцягаць па яе рукі альбо прапаноўваць дапамогу, калі яна мае ўсе выгады ў жыцьці; іх парада, каб тыя грошы, якія маюцьісьці на адваката і суды, лепш хай будуць адложаныя на яе адукацыю і больш культурнае ўзгадаваньне. Ня радзяць таксама тлумачыць а маім разводзе і а нашым прошлым, пака яна не дасягне хаця 15-16 год. Я ў сваю чаргу пагаджаюсь з бацькамі, прасіла-б сп. Попку заставіць мяне ў спакоі яшчэ пару год, а пасьля, калі Рагнеда выйдзе з дзіцячых год, можа заняцца яе ўзгадаваньнем і ўтручацца ў яе справы. Думаю, што ён высока маральная й кваліфікаваная асоба, можа пагадзіцца з нашымі думкамі, зрэшта, ён злом і хітрасьцю хацеў жыць раней, я думаю, цяпер гэтага ня зробіць. Магу толькі абяцаць, што калі-б мне трафілася нешта дрэннае, аддаць Рагнеду пад яго апеку, але пака Рагнеда мая да сьмерці, і ён гэта добра ведае, толькі хоча больш інтрыг, калі-ж ён як бацька добрае волі, няхай пачакае, калі зь ёю можна будзе гаварыць паважней. Аб яе жыцьці, я думаю, Вы заўсёды можаце паведаміць – гэта менш-больш усё, што я магу напісаць. Магчыма, Вам гэта незразумела, але чужая душа для каждага з нас цёмны лес, часта верым сягодкай мяжы і лезем у багно, зь якога прыходзіцца вылазіць гадамі.*

*Мы вельмі цешымся й гратулюем Вас з новай працай, крэсьлярства для Вас якраз падыходзіць.*

*Пака аставайцесь здаровы, з пашанай да Вас Марыя”.*

Мінуць гады, і Юры Попка прыедзе ў Чыкага, і наноў пазнаёміцца з дачкою, а яшчэ пазней запросіць яе да сябе ў Нямеччыну – вучыцца. Але да таго часу яшчэ доўга круціцца рататтарнаму станку пісьменніка-выдаўца Жывіцы, яшчэ толькі пачынаюцца зборы для будучага музея ў Ляймэне, яшчэ мусіць адбыцца нямала падзеяў, пра некаторыя з якіх ён піша ў лістах да Вітаўта Тумаша і Міхася Тулейкі.

*"Пірмасенс, 30.4.61 г.*

*Вельмішаноўны Гаспадар Др. Тумаш!*

*Вашае імя часта спамінаецца ў прэсе, бо Вы часта выступаеце з рэфэратамі. Вашыя рэфэраты ёсьць цікавыя, але нідзе яны, відаць, ня друкуюцца. Апошні Ваш рэфэрат аб Карскім[3] вельмі мяне зацікавіў. Дзеля гэтага я прапаную Вам выдаць яго друкам, хоць на ратататры. Калі Вы згодныя, я дапамагу Вам. Мы ня можам выплаціць Вам ганарару, але й Вы нічога да гэтае справы не дакладваеце, а карысьць нацыянальнай справе будзе вялікая.*

*Калі БАЗА[4] дапаможа нам частку спрадаць сярод для сваіх сяброў, дык выдамо ратататрам, але на добрай паперы і з друкованымі вокладкамі. Выданьне будзе прыгожае. Каб выданьне было папулярнае, а ня груповае, мы выдамо Вашу брашуру ад "Выдавецтва "Нёман". Калі Вы маеце іншыя манаграфіі ці хто другі іх мае, а яны ня выданы, а хацеў-бы іх выдаць, мы ахвотна гэта зробім. Пагаварыце з сябрамі БІНІМу.*

*Буду вельмі рад, калі Вы прымеце маю прапанову. Хай Вас не адстрашуе тое, што пішуць пра мяне ў "Бацькаўшчыне"[5] ды "голасе" Хмары[6] і ім падобнае. Яны слабыя, таму пеняцца. За выданьні і маю працу, якую я выдаў, я атрымаў не ад адной бібліятэкі і інстытуту падзяку. Вашыя рэфэраты і рэфэраты другіх, калі згодзяцца, таксама прыймуць бібліятэкі і наша грамадзтва з прыемнасьцяй і падзякай. Гэта нічога, што яны будуць выданыя пад скромнай фірмай "Нёман".*

*А цяпер дазвольце сказаць пару слоў на тэму асабістую-сямейную. Хто я? Напэўна, Вы забыліся. Я спатыкаўся з Вамі ў 1939 г. у Белавежы на зьлёце студэнтаў. Вашая жонка мая далёкая сваячка. Калі я чытаю Вашае імя ў прэсе, я заўсёды прыпамінаю сям'ю Вашай жонкі. Мяне вельмі цікавіць, ці Вы часам ня маеце ад іх якіх колечы вестак? Пры нагодзе перадайце сваёй жонцы шчырае прывітаньне ад мяне. У 1949 г. я меў вельмі скромныя весткі з дому ад жыдоўкі, якая ўцякла з Пружаншчыны ў Бэрлін. Да ведама Вашай жонцы: усе на Высокім Грудзе былі жывыя ў той час. Толькі адзін Слаўка загінуў у час вайны на фроньце. Ад таго часу я не магу навязаць лучнасьць з сваімі. Ці Ваша жонка піша да кагось з сваіх на Бацькаўшчыну? Я хацеў-бы мець хоць маленькія весткі аб сваіх.*

*Вашага адрасу я ня маю, таму перасылаю гэтае пісьмо праз Сп. Мерляка[7]. Буду вельмі рады, калі атрымаю ад Вас адказ, ад Вашае жонкі.*

*З шчырай пашанай Ваш.*

*[Штамп на паштовай картцы – 1963]*

*Вельмішаноўны Спадар Дохтар Тумаш!*

*Выбачце мне, што я ізноў пішу да Вас, адрываю Вас ад працы ці іншых прыемнасьцяў. Я маю да Вас вялікую просьбу: я закончыў новую аповесьць і хачу выдаць на пачатку новага году. Як Вы ведаеце, я ня вучыўся ў школе роднай мовы, таму трапляюцца памылкі. Ці Вы не маглі-б мне зрабіць карэкту? Я быў-бы вельмі Вам удзячны. Нехта раней зрабіў мне карэкту пачатку, а засталося яшчэ 80 бач., праз радок пісаных. Калі Вы згадзіліся-б мне зрабіць гэтую прыемнасьць і адначасна карысьць агульную, я вышлю Вам запісным пісьмом – паведамце толькі. Такім спосабам выслалі-б і Вы мне. Тэма аповесьці – нацыянальная барацьба. Дзеі адбываюцца ў Белавежскай пушчы. Назоў аповесьці: Пушча шуміць. Выдам на ратататры на добрай паперы, з друкаванымі вокладкамі. Гэта будзе выданьне да майго 25 годзьдзя літаратурнай працы, якое будзе ў наступным годзе восеньню. Я хацеў-бы, калі Вы згодзецеся, каб гэта было зроблена як мага хутка. Іншых навін у мяне няма. Справа з дачкой упарадкава, і цяпер я спакойны. Калі Вашыя зьбіральнікі цікаўляцца нямецкімі маркамі, я прышлю – я маю крыху, новых.*

*Прывітаньне ўсім, з шчырай пашанай да Вас.*

*30.3.63 г.*

*Вельміпаважаны Спадар Доктар Тумаш!*

*Сёньня атрымаў рукапіс. Шчыра дзякую за Вашыя турботы! Хоць Вашы папраўкі невялікія, аднак яны ёсьць патрэбныя. За тое, што акупанты ня далі мне беларускай школы, цяпер мусяць праглынуць мае аповесьці. Хоць аповесьці маюць мастацкія і моўныя недахопы, але затое адлюстроўваюць праўдзіва гістарычныя падзеі. Пройдзе яшчэ некалькі дзясяткаў гадоў, і ня будзе жывых сьведкаў мінулых падзеяў. Я хацеў-бы, калі гэта для Вас можна ды палічылі патрэбным, каб Вы зьмясьцілі маленькую зацемку ў друку, толькі пацьвердзілі, што падзеі ў аповесьці ёсьць праўдзівыя – адлюстроўваюць тадышнія падзеі на Беларусі. Справа ў тым, каб замацаваць праўдзівасьць тых падзеяў, настрой шырокіх масаў. Калі гэтага ніхто другі ня сьцьвердзіць, дык з часам гэтыя падзеі, што ў аповесьці, будуць лічыцца маёй фантазіяй, калі жывыя ўдзельнікі гэтых падзеяў памруць. Праз два-тры месяцы Вы атрымаеце аповесьць кніжкай – набіваю цяпер на матрыцы.*



Ю. Попка: “За гэту Пагоню я заплаціў 2000 марак”.

*Аб тым, што Вы папраўлялі аповесьць, ніхто ня знае і нікому ня буду гаварыць. Розьніца будзе ў першай палове з другой, бо першая была ў руках Ільляшэвіча[8]. Калі хто будзе яе перавыдаваць, хай тады папраўляе на лепшы стыль. Я стараюся выдаць свае аповесьці таму, каб яны не пагінулі, бо яны маюць хоць ня мастацкую вартасьць, але адлюстроўваюць падзеі, якія не кранае ніхто да гэтага часу з нашых літаратараў. Як толькі выдам гэту аповесьць, дык тады прыступлю да апрацоўкі яшчэ аднэй аповесьці, якая напісана ў духу тых самых падзеяў, але больш падрабязна. Аповесьць “Сьвеціць у тумане”, якая выданая ўжо, гэта аповесьць – “Пушча шуміць”, і чарговая аповесьць “Носьбіт ідэі”, будуць, калі так можна назваць, трылёгіяй – адлюструюць падзеі папярэднія.*

*Я маю шмат тэмаў, яны будуць іншыя ад папярэдніх. Горш тое, што я ў гэтай галіне ня вучыўся, ніхто нават ня дасьць добрае рады, калі не лічыць прыпадковыя. Аднак ахвота і патрэба пісаць робляць сваё – пішу, шукаю сам дарог. Немцы чытаюць маю “Разьбітую скрыпку” і плачуць. Ад сваіх рэдка калі я чую добрае слова. Гэта таму, што я маю свой погляд на жыцьцё і на нашу працу.*

*Вашы заўвагі я прыймаю адносна ТБШ і г. д. Ільляшэвіча я спамінаю таму, што гэта ані яму, ані сям’і не пашкодзіць. Аб ім больш ведаюць тыя, якія цяпер сядзяць у партыі ў Беластоку. Ён ня жыве, і гэта дае сям’і спакой. Я чытаю сам у “Ніве”. Адносна гарбаткі я маю засьцярогу толькі. Гарбатка ёсьць польскі назоў, а чай ня ёсьць маскоўскі назоў, хоць маскалі яго ўжываюць. Чай – нацыянальны індыйскі назоў. Так пішуць у нямецкіх аптэках і так называюць індыйцы. У нас быў тут адзін індыйскі студэнт, і ён заўсёды гаварыў да мяне па-нямецку, але чай называў заўсёды чаем, калі даведаўся, што гэта слова я разумею. Чай расьце не ў Маскве, але ў Індыі. Маскалі не маглі накінуць назоў індыйцам.*

*Я не прасіў Вас перарабляць стыль, бо гэта шмат узяло-б часу, а толькі выпраставаць. Таму за ўсе папраўкі і заўвагі шчыра Вам дзякую. Гэтым зрабілі Вы ня толькі мне прыемнасьць, але й карысьць агулу, бо аповесьць будзе выдана кніжкай і захаваецца на нейкі час. Хоць будзе выдана малая колькасьць, аднак чытачоў будзе больш.*

*Пры нагодзе хачу пажадаць яшчэ Вам і Вашай сямейцы Вясёлых Сьвят Хрыстосавага Ўваскрошаньня!*

*З шчырай пашанай да Вас Ваш.*

*Санкт Ільген, 14.9.74*

*Вельміпаважаны Спадар Доктар Тумаш!*

*Атрымаў "Запісы"*[9]*. Шчыра дзякую. Вельмі добры матэрыял. На днях вышлю Вам 40 дал., зь якіх вазьміце 20 дал. на выдавецкі фонд "Запісаў", а 20 дал. на школьныя падручнікі, што прыгатаўляюцца ў Канадзе да друку*[10]*. Калі Вы будзеце гэтыя грошы квітаваць у "Беларусе"*[11]*, дык пішыце ад Ю. Жывіцы. Добра!?*

*Адначасна высылаю 40 дал. на "Беларуса" за тое, што адзначыў угодкі ІІ Усебеларускага Кангрэсу. Ад "Беларускай Моладзі"*[12] *ані слуху, ані духу. Калі-б яны напісалі адпаведны матэрыял аб ІІ Усебеларускім Кангрэсе, я і ім паслаў-бы 50 дал., як я Вам пісаў і абяцаў ім. Калі хочаце, паўтарыце ім.*

*Перасылаю Вам мой бюст з мармуру. Ёсьць малыя недакладнасьці, я выглядаю маладым, але падабенства даволі добрае.*

*Мае турботы: не магу знайсьці ані рэдактара, ані добрага карэктара на свае выбраныя творы. На выданьне грошы маю.*

*Мне жывецца цяпер вельмі добра. Маю выгаднае й прыгожае жыцьцё – тры пакоі з усіма выгадамі на аднаго чалавека. Пакуль я гэта наладзіў, шмат давялося папрацаваць. А цяпер паўстаў новы клопат: калі маё жыцьцё ня зьменіцца, я хацеў-бы перадаць гэта на беларускую справу. Але як? Хто даглядаў-бы над гэтым? Прадаваць я не хацеў-бы гэтага, а хацеў-бы, каб аддалі ў арэнду, і на доўгія гады быў-бы даход на нацыянальныя патрэбы. Што Вы параілі-б? Я хацеў-бы на ўсякі выпадак зрабіць тэстамант.*

*Празь месяц, спадзяюся, змагу выдаць чарговы нумар "Вехаў"*[13]*. На гэтых нумарох кончыцца перажываньне па турмах Булата. Пасьля гэтага пойдзе "драма Тухачэўскага".*

*З шчырай пашанай да Вас Ваш.*

*3.1.75 г.*

*Вельміпаважаны Спадар Доктар Тумаш!*

*Шчыра дзякую за ліст. Думаю, што да гэтага часу Вы атрымалі грошы, а калі не, дык паведаміце – буду рэклямаваць.*

*Вы кранулі справу слоўнікавыхноватвораў. Да мяне быў зьвярнуўся і др. Я. Станкевіч з запытаньнем, дзе я іх бяру. Гэта зусім проста: я вышукваю самае адпаведнае беларускае слова, каб падмяніць ім менней удалае, або шукаю новае слова для тэхнікі. Падам Вам прыклад: набіваю на матрыцы – значыцца, я пішу на іх, але без устужкі. З матрыц я раблю адбіткі. З "адбіткаў" лёгка стварыць "адліткі", бо адліваюцца. Могуць таксама быць тэхнічныя "адціскі", калі адціскаюцца формай, на маю думку.*

*Ужо былі выпадкі, што немцы таксама зварочвалі мне ўвагу на новатворы. Нямецкая мова лягчэйшая на новатворы. Працуючы пры амэрыканцах, а цяпер пры немцах, я часта думаю над тым ці іншым словам, якое патрэбнае пры тэхніцы, пробую замяніць яго беларускім. Наша мова для тэхнікі бедная. Трэба будзе шмат слоў пераняць або зьбеларушчыць.*

*Шкада, што я ня маю беларускай школы. На беларускую мову я зьвярнуў належную ўвагу ўжо будучы ў Нямеччыне і то дзякуючы дапамозе праф. Астроўскага я змог збольшага апанаваць. Я вучыўся ў польскай школе, дык польскую мову ведаю вельмі добра. Па-нямецку гавару я ломана, але па мове я адразу пазнаю, з кім гавару.*

*Калі будзеце слаць мне школьныя падручнікі, дык толькі прашу слаць па адным асобніку, а гэта таму, што тут нікога ня маю, каб падарыць ці прадаць. Як буду пісаць у Аўстралію, дык напішу ім, каб зьвярнуліся да Вас па падручнікі, калі патрабуюць. Яны там маюць маленькую школу, здаецца, 6 вучняў*[14]*.*

*Рэдактара сваіх твораў ужо знайшоў – калі ня будзе шмат работы, дык возьмецца за гэта гр. Сяднёў*[15]*. Работы: папраўіць мову, зрабіць карэкту і ўладкаваць*

*па чарзе творы. Я хачу апрача літаратурных твораў улажыць і мае артыкулы, якія маюць вартасьць на даўжэйшы час, фэльетоны. Цяпер мушу спаткацца з Сяднёвым і абгаварыць гэту справу ды знайсьці друкарню. Ён таксама прыгатаваў зборнік на 300 бачын да друку.*

*Як буду перасылаць нешта з сваіх выданьняў, я прышлю Вам здымак, як узнагароджваюць мяне амэрыканцы за мае выдумкі, каб палепшыць работу, тэхнічна палепшыць. Шэсьць разоў узнагародзілі мяне амэрыканцы і два разы немцы, у якіх я цяпер працую.*

*З глыбокай пашанай да Вас Ваш.*

*8.3.75 г.*

*Вельмі Паважаны Спадар Доктар Тумаш!*

*Гэта добра, што Вы падалі цану высланай кнігі. Тых 50 даль., якія я раней выслаў Вам, ня хопіць на ўсе выданьні, каб пакрыць іхную прадажную цану. Таму выслаў на днях яшчэ 50 даль. на Ваш адрас. У кожным выпадку цяпер будзеце мець падвышку, якая не пашкодзіць Вам у выдавецтве.*

*Я чуў, што творы Віцьбіча выдаеце на маскоўскай мове*[16]*. Дзеля якіх прычын? Каб мець шырэйшае кола чытачоў?*

*На вялікі жаль, перад самай сьмерцяй*[17] *лучнасьць між мною і Віцьбічам парвалася назаўсёды. Прычына на гэта была тая, што я зьмясьціў адказ В. Астроўскага*[18] *і дакумант, што Р. Астроўскі*[19] *ня ёсьць памешчык, як цьвердзіў стары Кіпель*[20] *у сваім пашквілі на яго, што быў зьмешчаны некалькі год таму назад у "вар'яцкім голасе" Хмары, на які даваў адказ сын Астроўскага.*

*Віцьбіч абвінаваціў мяне за тое, што я нешта такое зьмяшчаю. Я яму сказаў, што стары Кіпель напісаў пашквіль на Астроўскага, дык сын мае права бараніцца, бо ня хоча, каб бацька памёр брудным. Віцьбіч сказаў, што Кіпель памёр і ня можа цяпер бараніцца.*

*Па-першае, я ведаю, што Кіпель напісаў пашквіль, бо гісторыю Статуту Літоўскага я ведаў шмат раней за яго. Я ня мог адмовіцца із-за гэтага бараніць Астроўскаму свайго бацьку.*

*Я ведаю добра, што Астроўскі Кіпеля не чапаў, а накінуўся на яго Кіпель. Каб меў розум, гэтага не рабіў-бы.*

*Калі Вы хочаце ведаць пра мае самыя вялікія здольнасьці, дык гэта будуць арганізацыйныя здольнасьці. Гэта я паказаў на Бацькаўшчыне, арганізуючы беларускія школы. Я меў 7 школ, а адну васьміклясную ў Пружанах*[21]*. Усе школы добра працавалі. Калі я адведваў школы, дык вучні віталі мяне. Мастацкія выступы я так добра арганізаваў, што Ільляшэвіч мусеў пераняць маю тактыку і выдаў загад, каб усе аддзелы так арганізавалі.*

*Арганізаваць Аддзел БАўБ*[22] *у Пружанах было даручана інж. Засіму, пасьля др. Засіму, але ані той, ані другі ў такіх складаных абставінах ня змог. За кароткі час і ў цяжкіх абставінах я так добра наладзіў працу, і шкада было пакідаць гэта ўсё, калі мяне немцы забралі ў Нямеччыну.*

*Матэрыяльна так добра было ў мяне пастаўлена, што я мог яшчэ фінансаваць у галоўную ўправу БАўБ. Усе працуючыя мелі зарплату.*

*Каб нашы суродзічы тут на чужыне паслухалі мяне, дык мы стаялі-б вышэй яшчэ і былі-б моцныя палітычна і матэрыяльна.*

*На маю думку трэба: разьвязаць Раду БНР, бо ня мае праўнае асновы*[23] *і на міжнародным падмостку зусім амаль няведамая стала*[24]*. Рэарганізаваць БЦР як праўнае прадстаўніцтва згодна II Кангрэсу. БАПЦ хай будзе разьвязана, а паасобныя прыходы хай стараюцца кананізавацца й далучыцца да Праваслаўнай Царквы*[25]*. Хай нашы вуніяты выкінуць з галавы духватства і корпацца ў мінулым, бо гэта выклікае спрэчкі, а яны нам непатрэбныя. Паправіць ня можна, дык лепш*

*зьмяніць тактыку. Эвангелікі і каталікі ў Нямеччыне змагаліся 30 гадоў. Цяпер жывуць мірна, але ніхто зь іх не калупаецца ў мінулым. Гэта павінны зрабіць і Беларусы. Я пісаў Пануцэвічу*[26]*, пісаў нашым ксяндзам у Лёндан*[27]*, каб перасталі свае студыі пра унію, гэта выклікае рэакцыю, бо яны часта маняць пры гэтым. Малецеся так, як ёсьць. БЦР і БВФ*[28] *(пры дапамозе БЦР, хоць яна нічога не рабіла, але на яе апіраліся) заваявалі на міжнародным падмостку абсалютную перавагу. А гэты даробак нам вельмі важны.*

*Паасобныя арганізацыі могуць застацца на месцы, толькі іхнай працай хай каардынавала-б БЦР сваімі аддзеламі.*

*На гэтым канчаю й жадаю Вам далейшых посьпехаў у Вашай карыснай працы.*

*З шчырай пашанай Ваш.*

*3.5.75 г.*

*Вельмі Паважаны Спадар Доктар Тумаш!*

*Шчыра дзякую за ліст і за прыемныя весткі аб Вашай рабоце.*

*"Беларускую мову"*[29] *атрымаў. Прыгожа выдана, але шкада, што трэба паясьненьне, для каго яна выданая. Пісалі, як бачна, не адмыслоўцы. Шырокага прызнаньня й карысьці яна ня дасьць. Я думаў, што гэта будуць падручнікі для школ або для тых, хто хоча навучыцца беларускай мове. Але яна прызначаная для настаўнікаў, як гаворыцца ў прадмове. Ці такая кніга нам патрэбная ў першую чаргу? Ясна, гэтая кніга не зашкодзіць, але не запоўніць патрэбы.*

*Магчыма, што В. А.*[30] *з радасьці не разабраўся, пра які статут ідзе гаворка. Калі так, дык мы маем на чужыне два Статуты. Другі статут знаходзіцца ў Амэрыцы ў адным* банку. *З гэтым другім нічога супольнага Астроўскія ня мелі, хіба толькі тое, што параіў не прадаваць, бо можа мець з гэтага непрыемнасьць. У кожным выпадку Астроўскі тут не пры чым.*

*Тое самае выйшла і з хатай ХАБРа*[31]*. Гэтая хата прадавалася не на вечнасьць, а толькі да часу. Сябры ХАБРу ведалі гэта, і да таго ня мелі грошай і не хацелі плаціць на яе грошы. Астроўскі купіў гэтую хату. Арэнда кончылася, і яна ўжо не яго. Але гэта была нагода напісаць пашквілі на Астроўскага.*

*Я не даваў Вам асабіста парадаў, а толькі дзяліўся з Вамі маімі плянамі на тое, каб была згода між намі ці, прынамся, ня было падзелу на дзьве аснаўныя групы. Я ведаю, што ідэальнага пагадненьня ня будзе, будуць адломкі. Напрыклад, былі ў нас крывічы, былі літоўцы, а цяпер вялікалітоўцы, былі ёсьць за тое, каб мець цэнтральнае прадстаўніцтва, але і ёсьць такія, якія жывуць нашэптамі розных ворагаў, якім ня трэба такога прадстаўніцтва, бо паасобку лепш іх абрабляць.*

*Я гляджу не з Ільгена на нашу нацыянальную справу. Я жыў у Пірмасенсе, ляжаў у шпіталі разам 10 год, жыву й цяпер тут, але мае погляды не мяняліся. Я браў самы актыўны ўдзел у беларускім жыцьці на Бацькаўшчыне, і тут мне гэтая справа не чужая. Я быў удзельнікам ІІ Усебеларускага Кангрэсу. Такога нацыянальнага збору, такога нацыянальнага ўздыму мы яшчэ ня мелі!!! які быў там на Кангрэсе. Ды сама дэкарацыя гэтага збору была кранаюча душу беларуская. Я быў-бы нягоднікам, калі-б я выракся гэтага Кангрэсу, ягоных пастаноў.*

*Калі мы наражалі сваё жыцьцё на кожным кроку, Абрамчык*[32] *вылежваўся з бабай у пярынах нямецкіх, а пасьля французскіх*[33]*. Калі мы яшчэ тут перажывалі страхоцьце, што нас выдадуць маскалям, ён аб'явіў сябе "прэзыдэнтам па тэстаманту"*[34]*. Перад гэтым яго перахрысьціў на вуніята кс. Гарошка*[35]*. Хто-ж быў Абрамчык на Беларусі? Я маю фатакопію дакуманта: быў агентам Масквы*[36]*! Я адразу адкінуў яго, гэта зрабілі й другія. Ад гэтага пачаўся шатанскі падзел на дзьве групы. Ці быў ён патрэбны?*

*Каб падмацаваць "прэзыдэнта па тэстаманту" (ці Вы чулі, каб былі ў культурных народах "прэзыдэнты па тэстаманту"?) была створаная г. зв. БАПЦ.*

*Але справа ня ў гэтым, што была створаная БАПЦ. Справа ў тым, як яна і хто тварыў. Тварыў яе не народ з духавенствам, а зброд: а. быў нэрвова хворы, і яму даўным даўно было забаронена адпраўляць Багаслужбы; Дзямідаў[37] — які пакінуў сваю царкву і пайшоў у вуніяцтва (каму-ж ён яе тварыў?) — бачна, што быў падасланы, трэці быў Іван Чыжык — добра мне ведамы, бо да маёй жонкі і маёй кумы, як я быў у шпіталі, прыводзіў мужчын — калі знойдзе каго, хто мае гарэлку, дык вядзе ў маю хату і там робяць папіўкі, а посьле ён ідзе з кумой да яе хаты, а п'янага пакідае ў маёй жонкі начаваць. А закусваць было чым — бо я пасылаў кансэрвы з Чырвонага Крыжа. Гэты тып раптам стаўся тварцом "царквы". Др. Войценка[38] быў слабы характарам, быў выкарыстаны, але за крывую прысягу ён быў пакараны і памёр пад чужым іменем (зрабіў жыдоўцы ў брудных абставінах аборт і памерла яна з дзіцём). Яго паліцыя доўгі час шукала, дык ён хаваўся. Людзі, якія былі прысутныя на тварэньні гэтае "царквы", былі абманам запрошаныя ў Канстанцы[39] быццам на Багаслужбу, бо прыедзе ўкраінскі япіскап[40]. Які маральны бок гэтага япіскапа? Яго і самі ўкраінцы не хацелі. Прасіўся да папы, і той не захацеў яго. Ці-ж мы не людзі, каб не маглі стварыць царкву, як гавораць, па-людзку, паводле канонаў з народам і адпаведным духавенствам? а ня браць сабе такога прайдзісьвета за япіскапа?*

*Вось-жа, пасьля Багаслужбы — прысутныя нічога ня ведалі перад гэтым — выходзяць гэтыя пяць "творцаў" і аб'яўляюць, што гэтым ствараецца "БАПЦ".*

*Я маралíст і эстэтык, дык не магу прыняць гэты твор за царкву, ды мае нацыянальныя й рэлігійныя пачуцьці на гэта не дазваляюць. Як Вы ведаеце, нядаўна духавенства гэтае царквы было ў Патрыярха Дзьмітрыяса. Прыняцьцё было ветлівае, бо інакш не магло быць. Але каб стацца кананічнай царквой, дык, як я Вам гаварыў ды пісаў, трэба гэтую БАПЦ разьвязаць, бо трэба выкінуць "аўтакефалія", ды трэба новае рукапалажэньне. Даныя шлюбы праз духавенства БАПЦ таксама ёсьць няважныя. Няважныя ўзаемныя рукапалажаньні на дзякоў і г. д. Гэты гарэх мусяць і прыхаджане й духоўнікі БАПЦ праглынуць, калі хочуць быць кананічнай царквой. Каноны ня будуць зьмененыя, і раней ці пазьней БАПЦ мусіць гэта зрабіць.*

*Я ведаю, і Вы крыўдуеце на мяне за гэту праўду, і другім гэта не падабаецца, але яе зьмяніць нельга!*

*Я прасіў вуніяцкае духавенства ня ўмешвацца ў жыцьцё праваслаўных, дык яны мне сказалі, што гэта яны робяць з патрыятычных пачуцьцяў. Добра, сказаў я ім, тагды пераходзьце да гэтае царквы — да БАПЦ, з тых-жа самых патрыятычных пачуцьцяў. Яны мне сказалі, што каноны іхнае царквы на гэта не дазваляюць. Якая-ж подласьць! Праваслаўная царква таксама мае свае каноны! І яны добра пра гэта ведаюць, бо мне зрабілі націяк, што лепш было-б, каб мы ўсе аб'ядналіся. Але тады мусім ісьці да папы разам зь імі. Але таксама папа ня ўсім падабаецца, бо мае за сабой грахі. Тагды я ім прапанаваў: жывём так, як жывуць нашыя суродзічы на бацькаўшчыне — у ўзаімнай пашане, ня ўмешвацца адзін другому ў царкоўнае жыцьцё. Ці-ж гэта не ідэальная разьвязка? Абапёртая на народнай мудрасьці. На вялікі жаль, у нас каталікі, а асобна вуніяты, вельмі-ж такі цікаўляцца БАПЦ, але самі ня хочуць да яе далучыцца.*

*Я ведаю, што й бэцээраўцы не без граху. Яны мяне таксама ня любяць, бо я крытыкую іхнюю работу або безработніцу. Але гэта ня можа адабраць у мяне сілы да працы, гаварыць праўду ў вочы. Калісьці ацэняць і мяне. Я атрымаў ліст з Аўстраліі, які мяне вельмі абрадаваў: пішуць, што мы ставім цябе за прыклад, як трэба стойка бараніць праўду, быць моцным ідэялягічна, бараніць нашыя рэлігійныя і нацыянальныя сьвятасьці. Што думаюць пра мяне іншыя, ці гаўкаюць на мяне, гэта ня так важна — гэта толькі доказ, што праўда ў вочы коле, якую я гавару. Я ведаю, што за гэту праўду і Вы глядзеце на мяне крывым*

*бокам, але ад гэтае праўды я не магу адмовіцца. Што добрага Вы будзеце рабіць, я Вас падтрымаю, але ніколі з Вамі не згаджуся, што БАПЦ ёсьць такой, якую павінен мець наш народ, ці "тэстамант" ёсьць лепшы за пастановы ІІ Кангрэсу. Я маю свае нацыянальныя й рэлігійныя амбіцыі. І ведаю добра, што наш народ хоча. Ані "тэстаманту", ані БАПЦ народ ня прыйме! Ня прыйме таксама вуніі. ня трэба было папам жыўцом паліць людзей на вагні. Я дастаю з Бацькаўшчыны лісты, а таксама з Польшчы ад сваіх суродзічаў, дык з пагардай адкідаюць вунію і "тэстамант", не прызнаюць і БАПЦ.*

*Адбудзецца чарговы пленум БЦР. Я запрапанаваў, каб зьмянілі назоў на Беларускую Нацыянальную Раду. Як бачыце, я крытыкую ня толькі Ваш бок, але й "свой". Ці яны паслухаюць мяне, ці не, ня ведаю. Таксама запрапанаваў фінансавую дапамогу на выданьне мэдалёў удзельнікам аружнага змаганьня ў час мінулае вайны. Ці прымуць, ня ведаю.*

*Калі-б мы не былі падзеленыя на дзьве групы, дык і шумець нам было лягчэй ды шумелі-б мацней. Мяне толькі дзівіць, што нашы людзі з высокай інтэлігэнцыяй ня могуць зразумець такіх простых рэчаў, як каноны царкоўныя, якія нельга пераступіць, ды дэмакратыя мае свае асновы. На гэта патрэбна крыху шчырасьці й лёгікі. Калі Хмара дурэе, гэта мяне ня дзівіць — такія вар'яты былі й будуць, але ад нашае інтэлігэнцыі вымагаецца болей.*

*Дарога стварыць кананічную царкву была даўным даўно адкрытая. Чаму БАПЦ не тварылі кананічна? Чаму тых, што ішлі кананічнай дарогай, называлі зарубежнікамі? Зарубежнікі не пайшлі на непрадрашэнства*[41]*, а пайшлі тыя, якія апіраліся на ідэальны тэстамант, каб быццам захаваць чысьціню ідэяй БНР.*

*Хто не даваў стварыць нацыянальнага прадстаўніцтва на дэмакратычных асновах? Чаму даліся вадзіцца за нос прайдзісьвету Абрамчыку? Чаму ўсё гэта рабілася? БЦР зрабілі легітымным прадстаўніцтвам звыш тысячу чалавек. Ці Вы знойдзеце з дзяцьмі столькі чалавек, якія апраўдалі-б "тэстамант"? Не!*

*Гэта не апраўданьне, што быццам бэцээраўцы ня так робяць, як трэба рабіць. Я сказаў, што я сам крытыкую іх. Але гэта ня была прычына, каб "апірацца" на тэстамант. Гэта ня было прычынай, каб прыняць г. зв. БАПЦ ад людзей, якія ня мелі ніякае маралі тварыць яе.*

*Я цаню Вас як найболей устрыманага чалавека сярод бэнээраўцаў. Калі Вы ў Менску адмовіліся працаваць у такіх цяжкіх тады абставінах*[42]*, дык Вы павінны былі мець толькі сілы волі, каб сказаць: я не прызнаю БЦР, але і не магу прызнаць "прэзыдэнта па тэстаманту". Чаму Вы не ўстрымалі тых каталікоў і вуніятаў, каб ня ўмешваліся ў рэлігійнае жыцьцё праваслаўных беларусаў? Гэта мяне дзівіць. Калі яп. Рыжы-Рыскі*[43] *шукаў падтрымкі супроць вуніятаў і каталікоў сярод праваслаўных, дык усе адмовіліся ад гэтага: рабі сам, мы ня ўмешваемся ў вашы справы. Чаму вуніяты й каталікі адкінулі адразу яп. Рыжага-Рыскага, а чаму адначасна накідаюць нам Сяргея*[44]*? Я думаю, што трэба трымацца народнай мудрасьці: не рабі таго другому, што табе ня міла.*

*Калі выплыла справа на ўзьверх з "тэстмантам", а пасьля з БАПЦ, я ветліва зьвярнуўся да кс. Гарошкі і да Абрамчыка, што гэта робіцца ня так, як трэба, бо мне стала ведама, што за сьпіной галоўную ролю гуляў кс. Гарошка. Гарошка сказаў мне, што Астроўскі зарубежнік, і што БАПЦ ёсьць кананічная. Гарошка быў праваслаўны, ён добра ведаў, якой ёсьць БАПЦ. Навошта было гаварыць мне такія дурніцы, што БАПЦ ёсьць кананічная. Цяпер у Нр. 213 "Беларуса" адкрыта гаворыцца, што яна ня ёсьць кананічная. Такой подласьці з боку ксяндза не магу сьцярпець.*

*Вы ведаеце пра кс. А. Станкевіча*[45]*. Як беларускія студэнты ды яны былі ўсе праваслаўныя з Пружаншчыны, гэтак добра гаварылі пра яго. Пад гэтым уплывам я ўяўляў нашае каталіцкае духавенства як рэлігійнае, патрыятычнае духавенства. Цяпер гляджу я на іх зь іншага боку. Яны не перабіраюць у нічым,*

*каб толькі нахапаць душ. Аднаго толькі а. Чарняўскага[46] цаню, бо ён адмовіўся ад гэтай практыкі.*

*Вы напэўна ведаеце, што запрошаных праваслаўных студэнтаў зьбівалі за тое, што ня хоча перайсьці ў унію — гэта было ў Лювэне[47]. Ці варта было ашукваць а. Робэрта[48] і вышэйшых дастойнікаў каталіцкай царквы, што, моў, дасьцё магчымасьць вучыцца, дык усе пойдуць у унію. Дзе цяпер а. Робэрт — бацька беларускага адраджэньня, як называла калісь “Бацькаўшчына”. Яму сорамна, што з такімі тыпамі зьвязаўся. Ужо дваццаць гадоў пра яго ані слова.*

*Вы ўсе на БЦР і асобна на Астроўскага. Што ён зрабіў благога? Хіба не дарабіў. Я пісаў Вам, што БВФ выйшаў на міжнародную арэну толькі таму, што апіраўся на БЦР і II Кангрэс. А ці Вы ведаеце, што Астроўскі карыстаецца і да гэтае пары вялікай пашанай у чужынцаў-палітыкаў? Калі да мяне прыходзілі амэрыканцы з адным важным пытаньнем, дык у першую чаргу запыталіся, ці я на баку БЦР. Пытаньне было важнай вагі, і яны поўнасьцю паслухалі мяне.*

*Напісаў я Вам шмат, бо “сук” ня ў тым, калі адзін прыхільна адносіцца да другога, дык справу тады ставіць інакш. Я апошнімі гадамі памагаў толькі й вылучна бэнээраўцам, бо яны нешта рабілі, але гэта ня значыць, што я апраўдываю “тэстамант” ці БАПЦ. Ад гэтага яна ня зробіцца кананічнай. Я толькі шукаў магчымасьці ў самы ветлівы спосаб пагаварыць пра гэта й знайсьці спакойны, рэчовы адказ-разьвязку. Прасіў вуніятаў ня ўмешвацца ў нашае праваслаўнае царкоўнае жыцьцё, дык яны сталі дыбам, што, моў, яны робяць гэта з патрыятызму. Таму я пісаў Вам пра тры пункты, каб разьвязаць нашу прыкрую справу, непатрэбныя сваркі. Вас яны кранулі за жывое.*

*З шчырай пашанай Ваш.*

*14.10.82 г.*

*Дарагі Сябра Міхась!*

*Шчыра дзякую Вам за пісьмо і за грошы. Якраз упору яны прышлі. Як толькі будзеце мець грошы для мяне, дашліце такой-жа самай дарогай. папярэднія 20 дал. атрымаў.*

*7.10.82 споўнілася мне 70 гадоў. Не дарам пражыў: пабудаваў памятнік Беларусам і закончыў Беларускі музэй у Ляймэн. Яшчэ патрэбныя папаўненьні беларускімі выданьнямі зь Нямеччыны, але мне гэтак цяжка выпрасіць, а людзі маглі-б памагчы. Маю 80 адбіткаў іконаў, 5 дываноў, копіі старых друкаў, узоры вышыванак і г. д. Адна Пагоня з бронзы каштавала мне 2000 мр. Але прыгожая, найпрыгажэйшая, якая да гэтага часу была зробленая. Калі толькі можна, пастарайцеся памагчы мне выданьнямі, што былі выданыя ў Нямеччыне. Пагаварыце з людзьмі. Напэўна, тое-сёе маюць. Адкрыцьцё музэю будзе пазьней, бо трэба прыгатавацца. Управа горада будзе пры гэтым. Яна бярэ пад сваю апеку. Уладкаваньне каштавала шмат грошай. Засталося ўсяго 5000 мар. даўгу. Паробляныя прыгожыя сталы з вітрынамі – усё пад шклом. Музэй выглядае прыгажэй, як я думаў. Немцы, харваты памагаюць мне, бо было шмат работы пасьля маляроў і іншымі работамі. Рабілі гэта за пачастунак. Адна немка прынесла прыгожы букет з васількоў, макаў, каласоў з шоўку. Ёсьць ужо такія, што за сотні кілёмэтраў хочуць прыехаць паглядзець музэй. Я быў-бы рады, каб і Вы завіталі да мяне.*

*Пасылаю каляндарыкі. Раздайце людзям з маім прывітаньнем.*

*Пішыце. Усяго Вам добрага, а таксама Вашай Сям’і ад шчырага сэрца жадае Ваш.*

*21.11.82 г.*

*Дарагі Сябра Міхась!*

*Я думаю, што Вы атрымалі адказ на Ваша папярэдняе пісьмо. Я выслаў Вам пісьмо даўным-даўно звычайнай поштай таму, што ўлажыў да пісьма больш ка-*

*ляндарыкаў. Калі-б Вы не атрымалі гэтае пісьмо з каляндарыкамі, дык напішыце, бо я яшчэ маю каляндарыкі, дык паўторна вышлю Вам.*

*Грошы пакуль што не высылайце, бо мне патрэбна будзе нешта купіць у ЗША, дык тады заплаціце за мяне. Калі гэтага выпадку ня будзе, дык я напішу Вам, і Вы прышлеце.*

*29.11.82 я іду ў шпіталь, а 30.11 будуць рабіць мне апэрацыю. Абяцаюць, што праз два тыдні вярнуся дамоў.*

*Тут была выстаўка народнай вопраткі тых немцаў, што прыехалі ў Нямеччыну зь іншых краінаў. На адкрыцьцё выстаўкі быў і я запрошаны. Бургамістар прывітаў агульна ўсіх гасьцей, а пасьля прывітаў прадстаўніка з міністэрства, бычшага рэктара тутэйшай гімназіі і мяне, падкрэсьліў мае заслугі ў арганізацыі тут беларускага музэю. Вельмі прыгожа выгаварыў "Беларусь" і перад усімі запэўніў, што ўсё, што я зраблю, будзе на ўсе часы дагледжанае горадам.*

*Таксама я быў запрошаны на супольную бяседу за чаркай віна. Прадстаўнік зацікавіўся беларускім музеем і позьнім вечарам завітаў са мной у музэй. Параіў усё ўзяць яшчэ на мікрафільм, каб не пагінула.*

*На вялікі жаль, нашы беларусы не сьпяшаюцца мне памагчы. Мне патрэбныя мюнхэнскія выданьні й лягерныя*[49].

*З Беластока прысылаюць здымкі старое Беларусі, і ўсе вельмі ацанілі маю працу.*

*"Недапетая песьня" разышлася. Прыгатаўляю другое выданьне, якое выйдзе ў наступны чацьвер. Якраз сёньня перапісваю Ваша пісьмо, дзе Вы прыхільна выказаліся пра кнігу. Як толькі выйдзе кніга, я вышлю Вам так, як я Вам абяцаў. Маю цяпер магчымасьць адзін паасобнік пераслаць у Менск.*

*Як бачыце, дарагі Міхась, не сяджу з зложанымі рукамі.*

*Выстаўка вышэй спамянутая трывала цэлы месяц. Я таксама меў нагляд па чарзе за выстаўкай. Бургамістар пры разьвітаньні падыйшоў да мяне і сказаў: Цяпер я ведаю, дзе Ваша Бацькаўшчына. Было вывешана шмат картаў, на якіх была адзначаная Беларусь, беларуская мова і карта, і кнігі з картамі, дзе адзначанае нашае Палесьсе, зазначаючы, што калыскай славянаў было іменна наша Палесьсе.*

*Прыходзіла шмат людзей. Некаторыя пазнавалі, што я ня немец, і калі я сказаў, што я беларус, дык распытвалі пра Беларусь, і я меў нагоду кожнаму, хто цікавіўся, паказаць, скуль я, на карце.*

*Таксама выдам другое выданьне "Летапісу Віленскай Беларускай Гімназіі". Мне абяцаюць прыслаць шмат матэрыялу з Польшчы, але пакуль што няма магчымасьці. Вось тады пачну выдаваць. Каб толькі вярнуцца здаровым з шпіталя.*

*З шчырай пашанай да Вас. Прывітаньне сваёй Палавінцы ад мяне. "Гісторыя" Ігнатоўскага цікавая. Усе хваляць. Таксама зрабіў я добрую справу, што перавыдаў*[50]*. Але яшчэ шмат ляжыць у мяне, выданыя грошы не вярнуліся яшчэ. Выбачце, што адно праз другое напісаў, бо Вы пыталі пра гісторыю, і я толькі цяпер у канцы прыпомніў, хоць хацеў наісаць адразу Вам пра гэта.*

*Шчыра Ваш.*

*20.12.82 г.*

*Шчыра дзякую за пісьмо, за прывітаньні і пажаданьні, а таксама за грошы. Ня мог адпісаць Вам раней, бо быў у шпіталі — зрабілі падвойную апэрацыю. Пару дзён таму назад выйшаў з шпіталя, а сёньня зьняў апошнюю перавязку. Чуюся добра, дзякаваць Богу.*

*За гэты час, як я быў у шпіталі, сабралася шмат працы: шмат сабралася пісьмаў, і трэба на кожнае даць адказ. Пры нагодзе Каляд я выслаў ужо 10 пачак на Беласточчыну. Харваты й Немкі далі мне шмат вопраткі, і яе нарэшце пераслаў патрабуючым. Але за тое і мяне яны не забываюцца: прысылаюць прыгожыя здымкі з беларускага жыцьця. Гэтыя здымкі ўзбагачваюць музэй.*

*Я выпісаў з Менска кнігу — збор беларускай вопраткі Раманюка*[51]*. Вельмі прыгожа зробленая. Я зраблю адбіткі і павешу на сьцяне. Як я пачынаў музэй, я сам тады ня ведаў, што будзе такі прыгожы і багаты. Мне абяцаюць шмат даслаць, але пакуль што дарога з Польшчы закрыта.*

*Я жыву для музэя. Пасылаю здымак — частка музея. За гэту Пагоню я заплаціў 2000 мар. Маё асабістае жыцьцё на другім пляне. Пасылаю здымак, як я сплю, да таго сплю на пажычаным ложку. Не на словах, а на справе Беларусь для мяне Перадусім! Вы, дарагі Сябра, можаце кожнаму паказваць гэтыя здымкі — я ня буду сароміцца, хай ведаюць, як трэба любіць Беларусь.*

*Побач Пагоні вісяць дываны. Пад Пагоняй рэпрадукцыя іконаў — 80 штук, беларускай школы.*

*Так, я атрымаў ад Вас 190 дал. Шчыра дзякую за дапамогу. З здымкаў бачыце, што я выкарыстоўваю іх для музэя, а не для сваіх выгадаў.*

*Думаю, што да вясны закончу музэй. Застаўся яшчэ адзін пакой — быўшая кухня, дзе трэба паставіць вітрыны і павесіць здымкі.*

*Праф. Кіт*[52] *вельмі прыгожы напісаў ліст да бургамістара нашага гораду. Падзякаваў за падтрыманьне музэя і апеку, а таксама за прыгожы пляц для помніка. Цяпер пры кажнай нагодзе горад заклікае і мяне. На дзень народжаньня прыслалі прывітаньне й бутэльку віна. А раней сядзеў, як мыш пад мятлой — ніхто мяне ня ведаў, ня чуў.*

*Так, дарагі Міхась, калі здароўе дазволіць, буду яшчэ шмат працаваць для свайго народу. У наступным годзе хачу поўнасьцю закончыць музэй. Хачу выдаць свае аповесьці друкам. Бяда ў тым, што няма каму зрабіць карэктуру мовы. Выдаваць з памылкамі, да таго плаціць вялікія грошы за выданьне, я думаю, шкада грошай, шкада захаду. Буду гаварыць з праф. Кітам, мо ён згодзіцца.*

*Я выдаў другое выданьне "Недапетай песьні" і выслаў Вам. Гэта падарак Вам, як я абяцаў. Вашае шчырае слова пра кнігу зьмешчанае. Выдаў таксама другое выданьне Летапісу ВБГ. Калі атрымаю копіі, дык у наступным годзе выдам яшчэ нешта. Адзін з нашых хоча мне памагчы, але баіцца пасылаць, каб па дарозе не загінула, а копію рабіць яму дорага. Цяпер я шукаю разьвязкі.*

*Калі Вы мне дашлеце нешта з часапісаў і кніг, што былі выданыя тут у Нямеччыне, будзе вельмі добра. Калі што мне непатрэбнае будзе, я вярну Вам назад.*

*Калі здымкі ўдадуцца, дык я прышлю Вам здымак з вітрынамі.*

*Вы маеце рацыю, што маё імя застанецца, бо ўжо выпісанае на граніце на помніку беларускім, як тут яго называюць. Але колькі гэта каштавала працы і тонкай дыплёматыі, каб атрымаць месца на помнік — самае прыгожае, ды напісаць на ім тое, што я хацеў. Цяпер я атрымаў пісьмо з Польшчы. Піша, хоць на помніку маё імя, але помнік ужо наш. На помнік я ня ўзяў ад нікога грошы. Тады не выпадала-б падпісваць сваё імя. Магчыма, што калісь ацэняць і музэй — праўда, ужо некаторыя з Беластоку пішуць, што ён "наш" — агульны. Памагаюць, і я мушу прызнаць, што музэй гэта нашая агульная справа. Мая заслуга — мая ініцыятыва была.*

*Зближаюцца Каляды. Хай дасьць Вам Бог у сваёй сямейцы весела правесьці Каляды й Шчасьліва спаткаць Новы 1983 Год! Гэта я жадаю Вашай Жонцы й Сябрам!*

*З шчырай пашанай да Вас Ваш.*

Памёр Юры Попка 29 красавіка 1990 г., пакінуўшы беларускі помнік і музей ў нямецкім Ляймэне, а таксама багатую творчую спадчыну. Усё гэта дасёння бадай незапатрабаванае суайчыннікамі. І калі лёс матэрыяльных каштоўнасцяў мае вырашацца на дзяржаўным узроўні, то лепшае з творчага даробку пісьменніка – ягоная нявыдуманая проза, успаміны – могуць быць вернутыя адным паваротам друкарскага варштату.

Заўвагі:

[1] http://nn.by/?c=ar&i=10221

[2] Усе прыведзеныя тут лісты публікуюцца паводле арыгіналаў, што захоўваюцца ў архіве Беларускага інстытута навукі і мастацтва.

[3] Юры Попка памыляўся. Тэкст Вітаўта Тумаша "Аўхім Карскі: Жыцьцё, навуковая дзейнасьць, пагляды (1861-1931)" быў выдадзены асобнай брашурай ад імя БІНіМу ў Нью-Ёрку ў 1961 г.

[4] БАЗА – Беларуска-амерыканскае задзіночанне.

[5] Газета "Бацькаўшчына" выходзіла ў Нямеччыне ў 1947-1966 гг.

[6] Маецца на ўвазе газета "Беларускі голас", што выдавалася ў Таронта ў 1952-1992 гг. Выдаўцом яе быў пісьменнік Сяргей Хмара (1905-1992).

[7] Маецца на ўвазе грамадскі дзеяч, які на той час жыў у ЗША, Кастусь Мерляк (1919-2006).

[8] Маецца на ўвазе пісьменнік Хведар Ілляшэвіч (1910-1948), з якім Юры Попка быў знаёмы з часоў Другой сусветнай вайны.

[9] Альманах "Запісы БІНіМ", які рэдагаваў Вітаўт Тумаш, выходзіў ад 1951 г.

[10] Маецца на ўвазе падручнік па беларускай мове "Fundamental Byelorussian", складзены Валянцінай Пашкевіч. Першая кніга гэтага падручніка пабачыла свет у Таронта менавіта ў 1974 г.

[11] У нью-ёркскай газеце "Беларус", што выходзіла ад 1950 г., на апошніх старонках рэгулярна падаваліся спісы ахвярадаўцаў на тыя ці іншыя выданні ці праекты.

[12] Часопіс "Беларуская моладзь" выдаваўся Згуртаваннем беларускай моладзі ў Амерыцы ў 1959-1980 гг.

[13] Часопіс Беларускай паступовай думкі "Вехі" выходзіў у Нямеччыне ў 1956-1989 гг. намаганнямі Юрыя Попкі.

[14] Маецца на ўвазе беларуская суботняя школка ў Мельбурне.

[15] Масей Сяднёў (1913-2001), пісьменнік. У той час ён працаваў на пасадзе кіраўніка Беларускай рэдакцыі Радыё "Свабода" ў Мюнхене.

[16] Маецца на ўвазе кніга: Стукалич, Юрий. Мы дойдём! Очерки, статьи, фельетоны. Нью-Йорк, Фонд им. П. Кречевского, 1975. – 154 с.

[17] Пісьменнік і публіцыст Юрка Віцьбіч памёр 6 студзеня 1975 г.

[18] Віктар Астроўскі (1912–1975), грамадскі дзеяч, сын Радаслава Астроўскага.

[19] Радаслаў Астроўскі (1887-1976), Прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады.

[20] Маецца на ўвазе Яўхім Кіпель (1898–1969), грамадскі дзеяч, бацька Вітаўта Кіпеля.

[21] У часе нямецкай акупацыі Юры Попка займаўся працай па арганізацыі беларускіх школ на Пружаншчыне.

[22] Маецца на ўвазе Беларускае аб'яднанне ў Беластоку, аддзел якога Юры Попка ў 1943 г. стварыў у Пружанах.

[23] Прыхільнікі Беларускай Цэнтральнай Рады на эміграцыі закідалі сваім палітычным апанентам з Рады БНР неправамоцнасць перадачы ўлады старшынём Васілём Захаркам у 1943 г. Міколу Абрамчыку паводле тэстаменту.

[24] Пасля смерці першага паваеннага Прэзідэнта БНР Міколы Абрамчыка ў 1970 г. міжнародная актыўнасць Рады БНР сапраўды значна зменшылася.

[25] Гаворка ідзе пра Праваслаўную царкву ў юрысдыкцыі Канстанцінопальскага патрыярха, да якой належалі прыходы прыхільнікаў БЦР.

[26] Маецца на ўвазе Вацлаў Пануцэвіч (1910–1991), грамадскі дзеяч, гісторык, педагог.

[27] Маюцца на ўвазе святары Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду ў Паўночным Лондане на чале з біскупам Чаславам Сіповічам (1914-1981).

[28] Беларускі вызвольны фронт (БВФ) – арганізацыя вайскоўцаў – прыхільнікаў БЦР, створаная ў 1954 г. у Нямеччыне на чале з Дзмітрыем Касмовічам. Мела аддзелы ў розных краінах беларускай прысутнасці на Захадзе і актыўна займалася дзейнасцю на міжнароднай арэне.

[29] Маецца на ўвазе згаданы вышэй падручнік, створаны Валянцінай Пашкевіч.

[30] Маецца на ўвазе Віктар Астроўскі.

[31] Арганізацыя Хрысціянскае аб'яднанне беларускіх работнікаў (ХАБР) была створана ў 1948 г. у Лондане прыхільнікамі БЦР. ХАБР меў стаё памяшканне, набытае на імя Радаслава Астроўскага, з-за якога пасля ад'езду Р. Астроўскага на пачатку 1960-х гг. у ЗША, пачаліся спрэчкі паміж сябрамі ХАБР.

[32] Мікола Абрамчык (1903–1960), грамадскі дзеяч, Прэзідэнт БНР, дзейнасць якой ён аднавіў пры канцы 1947 г.

[33] У часе Другой сусветнай вайны Мікола Абрамчык кіраваў Камітэтам Беларускай самапомачы ў Берліне, пакуль не быў высланы адтуль у Парыж пад нагляд гестапа.

[34] Тэкст тэстамента Васіля Захаркі, якім ён перадаваў паўнамоцтвы Старшыні Рады БНР Міколу Абрамчыку, пазней быў апублікаваны.

[35] Маецца на ўвазе а. Леў Гарошка (1911–1977), уніяцкі святар, што жыў у той час у Парыжы.

[36] Прадстаўнікі БЦР даволі шмат крытыкавалі Міколу Абрамчыка, сцвярджаючы пра ягоную даваенную службу ў спецслужбах. Выходзілі брашуры кшталту “Хто такі Мікола Абрамчык”.

[37] Мікола Дзямідаў (1888–1966), грамадскі дзеяч.

[38] Маецца на ўвазе Віктар Войтанка-Васілеўскі (1912–1972), грамадскі і рэлігійны дзеяч, лекар.

[39] Канстанц – невялікі горад у Нямеччыне на Бодэнскім возеры, дзе ў 1948 г. адбыўся саборык, што аднавіў дзейнасць БАЦП.

[40] Кіраўніком адноўленай БАПЦ быў прыналежны раней да Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ярарх – архіяпіскап Сяргей (Ахатэнка).

[41] Канцэпцыя “непрадрашэнства” актыўна прапагандавалася на Захадзе прадстаўнікамі расійскіх эміграцыйных арганізацый і складалася з пераканання, што вырашэнне нацыянальных пытанняў народаў былой Расійскай імперыі неабходна адкласці да часу поўнае перамогі над камунізмам. Такім чынам, наяўныя сведчанні незалежнай дзяржаўнасці ігнараваліся. Прадстаўнікі БНР бралі ўдзел у супольных пасяджэннях з прадстаўнікамі расійскай эміграцыі па праблемах антыкамуністычнай барацьбы, і гэта дало падставы для крытыкі з боку БЦР, хоць афіцыйна Рада БНР ніколі не падтрымлівала ідэю непрадрашэнства.

[42] Маецца на ўвазе адмова Вітаўта Тумаша ад пасады бургамістра Мінска ўвосень 1941 г.

[43] Уладзіслаў Рыжы-Рыскі (1925-1978). грамадскі і рэлігійны дзеяч.

[44] Маецца на ўвазе архіяпіскап Сяргей (Ахатэнка).

[45] Адам Станкевіч (1892-1949), грамадска-рэлігійны дзеяч.

[46] Маецца на ўвазе каталіцкі святар а. Францішак Чарняўскі (1893–1979).

[47] У Лювэнскім універсітэце цягам 1950-х гг. навучаліся колькі дзясяткаў студэнтаў-беларусаў. Але звестак пра прымушэнне іх да змены рэлігіі на сёння не знойдзена.

[48] Маецца на ўвазе а. Роберт ван Ковэлярт, які быў галоўным апекуном беларускіх студэнтаў у Лювэне.

[49] Маюцца на ўвазе лагеры для перамешчаных асобаў (DP) у паваеннай Нямеччыне.

[50] Маецца на ўвазе выданне: Ігнатоўскі, У. Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця. Выд. 2. Пірмасенс, 1981. – 252 с.

[51] Маецца на ўвазе кніга “Беларускае народнае адзенне” Міхася Раманюка, што пабачыла свет у Мінску ў 1981 г.

[52] Барыс Кіт (нар. 1910), грамадскі дзеяч, настаўнік, матэматык, канструктар амерыканскай ракетнай тэхнікі.

Зоя Матусевіч



...мюзікл у Беларусі –

тэма асобнай гаворкі...

# Пра гісторыю – мовай мастацтва

***Паступова мы вяртаем ва ўжытак нашыя славутыя гістарычныя імёны, якія ў свой час ведала ўся Еўропа. Пэўны ўклад у гэтую справу ўносіць сучаснае мастацтва. У прыватнасці, тэатры, прытым не толькі драматычныя, але і музычныя. Так, у першай палове сезона 2013-2014 на суд гледачоў былі прадстаўлены два спектаклі, заснаваныя на гістарычнай тэматыцы: балет "Вітаўт" у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета і мюзікл "Соф'я Гальшанская" ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры.***

Балет "Вітаўт" стаў яшчэ адным нацыянальным праектам, ажыццёўленым у апошнія гады на галоўнай сцэне краіны. (Папярэдні сезон у гэтым тэатры адкрываўся таксама нацыянальнай пастаноўкай – прэм'ерай другой рэдакцыі оперы "Сівая легенда".) Мо і сапраўды такая тэндэнцыя з цягам часу стане добрай традыцыяй? Ва ўсякім выпадку, на прэс-канферэнцыі, якая папярэднічала прэм'еры балета, і адміністратыўнае, і мастацкае кіраўніцтва тэатра запэўнівала журналістаў, што праца

над нацыянальнымі праектамі з’яўляецца адным з галоўных прыярытэтаў у дзейнасці падначаленага ім калектыву.


*Спектакль “Вітаўт”.*

Тры гады вялася праца над стварэннем балета “Вітаўт”, і адбывалася яна, можна сказаць, непасрэдна ў тэатры, пры цесным узаемадзеянні яго аўтараў і пастаноўшчыкаў, што таксама трэба аднесці да сучасных станоўчых тэндэнцый. Музыку да новага твора напісаў наш вядомы кампазітар Вячаслаў Кузняцоў, а лібрэта створана паводле п’есы Аляксея Дударава “Князь Вітаўт”. Тэатралы са стажам памятаюць, якім поспехам у 1990-я гады карыстаўся аднайменны спектакль Купалаўскага тэатра, дзе галоўную ролю выконваў Генадзь Давыдзька. Вядома, не зусім карэктна параўноўваць два віды тэатральнага мастацтва – драматычны спектакль з балетам, але ж чаму б не паразважаць аб сіле іх эмацыянальнага ўздзеяння на гледача.

Зоркай першай велічыні на гістарычным небасхіле Беларусі называюць Вітаўта Вялікага папулярызатары айчыннай гісторыі эпохі Сярэднявечча. І сапраўды, у часы яго ўладарання Вялікае Княства Літоўскае дасягнула сваёй найбольшай магутнасці і найбольшых памераў (ад мора да мора). Вітаўт праводзіў палітыку цэнтралізацыі дзяржавы, удала адбіваў пагрозы з боку Масковіі і захоўваў незалежнасць Княства у перыяд уніі з Каралеўствам Польскім. І што вельмі важна, прытым не толькі для айчыннай гісторыі: у Грунвальдскай бітве 1410 года князь Вітаўт у саюзе з каралём польскім Ягайлам разбілі Тэўтонскі ордэн, спыніўшы гэтым экспансію крыжакоў на Усход.

Пасля прагляду драматычнага спектакля нават не вельмі дасведчанаму гледачу ў асноўных рысах было зразумела, чаму ў гістарычнай памяці беларусаў застаўся князь Вітаўт, і наколькі складаныя і неадназначныя стасункі ён меў з каралём польскім Ягайлам (сваім стрыечным братам). А вось вынесці нешта гістарычна-пазнавальнае з балетнага спектакля, нават папярэдне ўважліва прачытаўшы лібрэта, практычна немагчыма. І галоўнае, не зразумела – чаму князя Вітаўта лічаць вялікім. Можна сказаць, што сюжэтныя лініі лібрэта ў параўнанні з п’есай не толькі вельмі істотна скарочаныя, але і да элементарнага спрошчаныя. І ў выніку атрымліваецца, што асноўным матывам ўчынкаў Вітаўта ў яго ўзаемаадносінах з Ягайлам з’яўляецца барацьба... нават не за ўладу, а за жанчыну. З логікі спектакля вынікае, што Ягайла забіў Кейстута – бацьку Вітаўта, а яго самога кінуў у цямніцу не з-за сваіх палітычных амбіцыяў і далёка ідучых планаў, а з-за жанчыны. А дзе ж роля асобы ў гісторыі, пра якую заяўлена ў тым жа лібрэта?

Адразу пасля прэм’еры адзін з тэатральных крытыкаў напісаў на адпаведным інтэрнэт-рэсурсе: “Фактычна, убачаная пастаноўка робіцца яшчэ адной гісторыяй пра каханне”. У адказ на магчымае пярэчанне, што нельга параўноўваць лібрэта балета, умоўнае па сваёй прыродзе, з паўнавартаснай п’есай, адзначу, што, нягледзячы на гэтую самую ўмоўнасць, сродкамі балета можна паказаць і глабальныя грамадскія з’явы, і глыбокія філасофскія думкі, а не адно толькі чалавечыя пачуцці і эмоцыі – няхай сабе і самыя высокія. Аднак сказанае не азначае, што па-за ўвагай аўтара гэтых радкоў засталіся па-сапраўднаму пранікнёныя, напоўненыя непадробнай жыццядайнай сілай і нейкай першароднай энергетыкай сцэны кахання і міласці.

Харэографам і пастаноўшчыкам спектакля з'яўляецца народны артыст Беларусі Юрый Траян – мастацкі кіраўнік балета. Зыходзячы са свайго бачання гэтай пастаноўкі, ён адзначае: "На аснове некаторых рэальных фактаў мы стварылі харэаграфічную легенду пра князя Вітаўта. Зразумела, нельга ўмясціць доўгае, складанае і насычанае падзеямі жыццё Вітаўта ў адзін спектакль, таму мы сканцэнтравалі ўвагу на яго маладых гадах, на часе станаўлення яго як асобы".

Але пры гэтым існуе непахісная заканамернасць: расказваючы пра Вітаўта, проста немагчыма не расказваць пра Ягайлу – настолькі ўзаемазвязанымі і пераплеценымі былі перыпетыі іх палітычнага ды і асабістага жыцця. Абодва ліцвіны, тым больш родзічы, яны стаялі на чале дзвюх дзяржаў-суседак. Іх дзяржаўныя і палітычныя інтарэсы не маглі не сутыкацца, але ў той жа час яны па-брацку аб'ядноўваліся, змагаючыся супраць агульных ворагаў.

Што ў спектаклі бясспрэчна ўдалося, дык гэта яскравы і пераканаўчы паказ таго, як нараджалася суперніцтва маладых князёў. Пачаўшыся на паганскім капішчы ў час рытуальных абрадаў, калі, насуперак спадзяванням Ягайлы, прыгажуня Ганна выбрала Вітаўта, яно перарасло ў здраду і жорсткую помсту, а пазней – у палітычнае супрацьстаянне, якое, аднак, перамяжалася перыядамі перамір'я ў імя агульных інтарэсаў і барацьбы з агульнымі ворагамі. (Але гэтыя стасункі ў спектаклі не паказаныя – дасведчаны глядач пра іх проста ведае, а недасведчанаму нават не зразумела, з якой прычыны і каго забілі ў Трокскім замку...)

І хоць спектакль называецца "Вітаўт", па сутнасці, у ім два героі – Вітаўт і Ягайла. У першай карціне, дзе браты ў час палявання нечакана з'яўляюцца на месцы правядзення старажытных паганскіх абрадаў, яны асабліва і не адрозніваюцца паміж сабой. Ёсць такія моманты і ў некаторых наступных сцэнах, калі кожнаму з герояў як бы не хапае ўласных сродкаў выразнасці, у тым ліку і за кошт падабенства ў касцюмах (гэта не зусім той выпадак, калі сцэнічныя строі адназначна вызначаюць статус персанажа).

Як адзначае Юрый Траян, гэты балет грунтуецца на мужчынскіх ролях і мужчынскіх характарах, што, акрамя лініі галоўных герояў, выяўляецца таксама ў яркіх батальных сцэнах і нават у абрадавых танцах, хоць сярод іх ёсць, напрыклад, і чароўныя жаночыя карагоды. Гэта рэдкі выпадак балетнай пастаноўкі, калі жаночыя персанажы не з'яўляюцца галоўнымі, а толькі адцяняюць мужчынскія. Але ж пры гэтым і мужчынскія, і жаночыя партыі выконваюць вядучыя салісты балетнай трупы. Так, калі гаварыць пра галоўных персанажаў, то ў ролі Вітаўта на сцэну ў розных складах выходзяць Антон Краўчанка і Ігар Аношка; Ганны – Людміла Хітрова і Ірына Яромкіна; Ягайлы – Юрый Кавалёў і Алег Яромкін; Ядвігі, жонкі Ягайлы – Вольга Гайко і Аляксандра Чыжык.



*Спектакль "Вітаўт".*

У гэтай пастаноўцы глядач сутыкаецца са свежым, а то і нечаканым малюнкам танца, з новымі пластычнымі ідэямі, якія таксама ўспрымаюцца неадназначна. Не ўсіх захап-



*Спектакль "Соф'я Гальшанская". Гальшанскія самагоншчыкі.*

ляюць і харэаграфічныя эпізоды, насычаныя элементамі драмбалета. "Але ж гэта не чыста класічны балет, – адзначае Юрый Траян, – у ім прысутнічае эмацыянальна насычаны, пластычна больш выразны і ў чымсьці своеасаблівы танец". І тут, зразумела, многае дыктуе сама музыка балета, у якой выразна закладзена пэўная пластычная візуальнасць. Музычная драматургія гэтага твора структуравана так выразна, што харэографу трэба проста чуйна сачыць за кампазітарскай думкай. Увогуле, пастаноўшчыкі спектакля адзначаюць, што сучасная кампазітарская мова, уласцівая такім аўтарам, як Вячаслаў Кузняцоў, не заўсёды адназначна ўспрымаецца гледачамі, выхаванымі на класіцы.

У той жа час дырыжор-пастаноўшчык Вячаслаў Воліч адзначае наступнае: "Мелодыі Кузняцова выклікаюць вельмі яркія асацыяцыі і вобразы. Яны запамінаюцца, маюць выдатнае развіццё і магутныя кульмінацыі. Кампазітар цудоўна ўзнаўляе вобразны каларыт той даўняй эпохі, вельмі арганічным выглядае яго паглыбленне ў гістарычны і сацыяльны матэрыял, на мой погляд, ім даюцца вельмі дакладныя музычныя характарыстыкі ўсіх карцін, заяўленых у лібрэта".

Нельга не адзначыць і сцэнаграфію спектакля. Мастаком-пастаноўшчыкам балета "Вітаўт" з'яўляецца Эрнст Гейдэбрэхт, які зараз жыве ў Германіі, але раней пэўны час працаваў у беларускім тэатры оперы і балета. Яго творчасць у нас ведаюць, памятаюць і цэняць. Прынамсі, чальцы пастановачнай групы вельмі хвалілі работу мастака, адзначаючы яго "дакладнае патрапленне" пры стварэнні візуальнага вобраза спектакля. І сапраўды, сцэнаграфія раскрывае ідэю пастаноўкі і пры сваёй пэўнай лаканічнасці напоўнена адпаведным сэнсам і нават нейкім няўлоўным падтэкстам. Да таго ж мае сучасны і стыльны выгляд. Але пры гэтым, нягледзячы на тэхнічныя магчымасці сцэны, яна застаецца статычнай і часам выклікае асацыяцыі з кніжнай ілюстрацыяй. Асабліва ў першай карціне, дзе над пушчанскім гушчаром, які акружае паганскае капішча, узвышаецца галава зубра – валадара гэтых мясцінаў. Сапраўды, вельмі трапны вобраз, але ў той час як быццам хрэстаматыйна-кніжны.

У кантэксце разважанняў пра гэты спектакль хацелася б закрануць пытанне так званага беларускага літвінізму, якім у пэўных публікацыях папракаюць нас суседзі-літоўцы. Маўляў, літоўскага гістарычнага дзеяча прадстаўляем у якасці свайго нацыянальнага героя. Але ў той жа час, як адзначыў дырэктар нашага Вялікага тэатра Уладзімір Грыдзюшка, яшчэ перад прэм'ерай было атрымана афіцыйнае запрашэнне з Літвы на паказ балета "Вітаўт" ля сцен Трокскага замка – таго самага, дзе адбываліся падзеі, аб якіх расказваецца ў гэтай пастаноўцы.

А зараз звернемся да спектакля “Соф’я Гальшанская”, пастаўленага на другой музычнай сцэне краіны.

У 2006 годзе ў краіне адзначалася 600-годдзе Соф’і Гальшанскай – першай каралевы-беларускі, родапачынальніцы дынастыі Ягелонаў. Асабліва значныя мерапрыемствы з гэтай нагоды праходзілі тады на Гродзеншчыне, і ў першую чаргу ў Гальшанах, дзе нарадзілася князёўна, і ў Навагрудку, дзе яна вянчалася з польскім каралём Ягайлам (якога палякі называлі Ягелонам).

Сёння даследчыкі шмат разважаюць аб тым, чаму Ягайла вянчаўся з Соф’яй менавіта ў Наваградскім фарным касцёле, хоць яго папярэднія тры шлюбы адбываліся ў Кракаве. Розныя погляды на гэтую падзею аб’ядноўвае агульнае меркаванне: Ягайла, будучы па паходжанні ліцвінам і беручы сабе жонку-ліцвінку, хацеў засведчыць свой шлюб на роднай зямлі. Тым больш што Навагрудак тады яшчэ не страціў аўру першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага. Аб той гістарычнай падзеі сёння нам нагадвае мемарыяльная пліта на бакавым фасадзе касцёла: *«У гэтай святыні ў 1422 годзе Уладзіслаў Ягайла, кароль польскі, вялікі князь літоўскі, абвянчаўся з Соф’яй – княжной Гальшанскай, будучай маці каралёў польскіх Уладзіслава Варненчыка і Казіміра Ягелончыка. Кароль Казімір быў бацькам св. Казіміра і польскіх каралёў Яна Ольбрахта, Аляксандра Жыгімонта і Уладзіслава, караля венграў і чэхаў, і Фрэдэрыка, кардзінала касцёла рымскага, прымаса польскага, дзядулем Жыгімонта Аўгуста, апошняга з дынастыі Ягелонаў, якія праславілі і ўзнеслі каралеўства польскае і літоўскае»*.

З гістарычных крыніцаў таксама вядома, што і вяселле Ягайлы з Соф’яй, на якое былі запрошаныя многія санавітыя асобы Еўропы, таксама адбывалася не ў Кракаве, а на Гродзеншчыне – у Лідскім замку, куды і выправіўся каралеўскі картэж пасля вянчання.

Ну а што датычыць Гальшанскага замку, то яго таямнічыя абрысы сёння сталі ўжо своеасаблівай турыстычнай Мекай. Але трэба адзначыць, што родавым гняздом князёў Гальшанскіх быў не той мураваны замак, руіны якога мы бачым цяпер, – Соф’я нарадзілася больш чым на два стагоддзі раней, чым ён быў закладзены. У паселішчы Гальшаны ў даўнія часы быў драўляны замак, дзе ў пачатку XV стагоддзя і нарадзілася будучая каралева Польшчы. А калі ў XVI стагоддзі апошняя княжна з роду Гальшанскіх выйшла замуж за аднаго з Сапегаў, то стары драўляны замак перайшоў ва ўладанні гэтага магнацкага роду. І пазней, у першай палове XVII стагоддзя, Сапегі пабудавалі ў Гальшанах новы мураваны замак, прыкладна за два кіламетры ад старога. Вядома, што гэтае месца, авеянае легендамі, натхніла Уладзіміра Караткевіча на стварэнне знакамітага гістарычнага рамана “Чорны замак Альшанскі”. Перакладзены на многія замежныя мовы, гэты твор паказаў таямнічую славу Гальшанаў па ўсім свеце.



*Спектакль “Соф’я Гальшанская”. Сцэна вайны.*

А 600-гадовы юбілей Соф’і Гальшанскай выклікаў новую хвалю цікавасці да лёсавызначальных гістарычных падзеяў беларускай мінуўшчыны


*Спектакль “Соф’я Гальшанская”.*

і па-новаму ўскалыхнуў творчую думку дзеячаў культуры і мастацтва. Так, скрупулёзны даследчык і знаўца гісторыі Беларусі і Польшчы, вядомы пісьменнік Анатоль Бутэвіч у 2010 годзе выдаў гістарычны раман “Каралева не здраджвала каралю”. Гэтая тэма моцна “зачапіла” і вядомага беларускага кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча, які даўно і плённа супрацоўнічае з музычным тэатрам. З 2006 года выношваў ён ідэю стварэння музычна-тэатральнага твора, галоўнай гераіняй якога была б Соф’я Гальшанская. Адна з цяжкасцей заключалася ў тым, што вельмі складана было знайсці аўтара лібрэта, асабліва з улікам гістарычнай тэматыкі твора. Пасля таго, як Кандрусевіч папрацаваў з пяццю лібрэтыстамі, ён нарэшце выйшаў на Алену Тураву, у творчай садружнасці з якой і нарадзіўся мюзікл “Соф’я Гальшанская”.

Мюзікл у Беларусі – тэма асобнай гаворкі. У рэпертуары Беларускага музычнага тэатра ў асноўным былі правераныя часам творы заходніх і расійскіх аўтараў. І Уладзіміру Кандрусевічу ўдалося пераламаць гэтую сітуацыю. Менавіта ён лічыцца пачынальнікам жанру мюзікла ў нашай краіне. Але да гэтага часу і яго творы, якія ішлі раней і цяпер ідуць на сцэне музычнага тэатра, усё ж засноўваліся на тэматыцы вядомых замежных літаратурных крыніцаў. Таму мюзікл “Соф’я Гальшанская”, цалкам заснаваны на беларускай тэматыцы, стаў знакавым творам як для кампазітара, так і для тэатра. У гісторыі ён застанецца як першы беларускі мюзікл.

Пастановачная група гэтага спектакля таксама цалкам беларуская, у яе склад уваходзяць кіраўнікі ўсіх творчых цэхаў тэатра: дырыжор Юрый Галяс, балетмайстар Уладзімір Іваноў, хормайстар Святлана Пятрова і сцэнограф Андрэй Меранкоў. Рэжысёрам з’яўляецца таксама беларускі тэатральны дзеяч Міхаіл Кавальчык, які ў 2013 годзе ў Беларускай акадэміі мастацтваў выпусціў курс артыстаў музычнага тэатра, многія з якіх і задзейнічаны ў гэтай пастаноўцы.

Зразумела, на ролю Ягайлы прызначаліся шматвопытныя артысты. І так атрымалася, што абодва салісты, вядучыя барытоны тэатра, якія пачаргова выконваюць гэту ролю, нарадзіліся на гродзенскай зямлі – Антон Заянчкоўскі ў Гродне, а Віктар Цыркуновіч у Смаргоні. Дзе яшчэ, як не ў гэтых мясцінах, захаваўся той няўлоўны, але адчувальны дух шляхетнасці, які немагчыма сыграць, – з ім трэба нарадзіцца. Дарэчы, і Уладзімір Кандрусевіч родам таксама з Гродна.

А вось на ролю Соф’і назначаны дзве зусім маладыя выканаўцы: Вольга Жалезская, якая яшчэ з’яўляецца студэнткай Беларускай акадэміі музыкі, і Кацярына Мошчанка – нядаўняя выпускніца курса Міхаіла Кавальчыка. Бясспрэчна, ім моцна пашанцавала, і цяпер галоўнае – апраўдаць аказаны давер.

Нягледзячы на тое, што партытура мюзікла даволі складаная, ў той жа час музыка лёгкая для ўспрымання і вельмі запамінальная – у першую чаргу за кошт свайго меладызму. Гэтым вызначаюцца, напрыклад, арыі і дуэты Ягайлы і Соф’і – сэнсава і эмацыянальна насычаныя, яны па сваёй форме нагадваюць то песню, то баладу, то пранікнёны музычны дыялог.

У цэлым музыка гэтага твора вызначаецца поліжанравасцю і полістылёвасцю. Напрыклад, у першай дзеі, дзе паказваецца атмасфера, у якой вырасла Соф’я, гучыць нямала стылізаванай народнай музыкі, асабліва ў чароўнай сцэне “Ку-

палле”. Тут ёсць нават вельмі смешная, наскрозь пранізаная народным гумарам жанравая замалёўка пра няўдалых гальшанскіх самагоншчыкаў, песня з якой лёгка можа стаць сучасным шлягерам. А ў другім акце, дзе падзеі ўжо разгортваюцца ў Кракаве – у знакамітым Вавельскім замку, гучаць урачыстыя паланезы, і глядач бачыць на сцэне старадаўнія шляхецкія шэсці.

Самым галоўным для любой тэатральнай пастаноўкі з'яўляецца драматычнае напружанне, а яшчэ лепш – наяўнасць вострай інтрыгі. І ў гэтым сэнсе стваральнікам спектакля, можна сказаць, пашанцавала: у рэальным жыцці Соф'і з ліхвой хапала і таго, і другога, і тут нават не было патрэбы прыдумваць нейкія асаблівыя калізіі. Вядома, што на момант заключэння шлюбу Соф'і было 17 гадоў, а Ягайлу – 70. І вось яе, маладую каралеву, якая ўжо насіла пад сэрцам трэцяе дзіця, абвінавацілі ў здрадзе мужу-каралю. “Ці не дапамог каралеве хто-небудь іншы ў справе нараджэння сыноў?” – гэтае пытанне польская шляхта цэлы год разглядала на пасяджэннях соймаў. Тады па загадзе караля хапалі і дапытвалі рыцараў, якія служылі пры Вавельскім замку, сярод якіх аказаўся і доблесны рыцар Генрык – рэальны персанаж рамана Анатоля Бутэвіча, які ў спектаклі паўстае ў вобразе наёмнага воіна Ганчы. Гэты воін-рыцар і сапраўды безнадзейна кахаў Соф'ю, але нават малейшага ценю не навёў на яе рэпутацыю – ён ў сваім пачуцці баяўся прызнацца нават самому сабе. З гістарычных крыніц вядома, што, знаходзячыся пад страхам смяротнай кары, ён увесь час паўтараў: “Каралева не здраджвала каралю”. Закончылася справа тым, што Соф'я паклялася ў сваёй невінаватасці на Святым Евангеллі спачатку ў храме перад вышэйшым кракаўскім духавенствам, а потым – на сойме перад усёй шляхтай. А хутка плёткі развеяліся цалкам: малодшы каралевіч сваім аблічам рабіўся ўсё больш падобным да бацькі-караля. І палякі з любоўю пачалі называць яго Ягелончыкам (з гэтым імем ён і застаўся ў гісторыі – Казімір IV Ягелончык).

У пастаноўцы гэта інтрыга, вядома, ёсць, але, як ні дзіўна, яна не выступае на першы план. Ёй адводзіцца толькі некалькі невялікіх сцэн у другім акце спектакля. А на першы план выступае іншая, прыдуманая інтрыга, якая праходзіць праз увесь спектакль і ў аснове якой ляжыць закладзены ў лібрэта звыклы драматургічны ход – любоўны трохкутнік, у якім задзейнічаны Соф'я, яе сястра Васіліса і Ганча. Хоць у сапраўднасці ніякага трохкутніка не было, як і не было суперніцтва паміж сёстрамі за венцаноснага жаніха Ягайлу.

У спектаклі не так шмат галоўных дзеючых асоб, і таму кожная з іх нясе на сабе значную драматургічную нагрузку. А з-за таго, што ўзаемаадносінам унутры любоўнага трохкутніка трэба было надаць неабходную ў такіх выпадках вастрыню, занадта шмат увагі надзяляецца вобразу Васілісы, якая, кіруючыся пачуццём зайздрасці і помсты, сваімі дзеяннямі ўсё больш закручвае інтрыгу. (Асобнае пытанне: наколькі дапушчальная такая трактоўка, якая не мае нічога агульнага з рэальнай гістарычнай асобай.) Гэтую драматычна насычаную і псіхалагічна складаную ролю з ярка пазначанай адмоўнай харызмай выконваюць вядучыя салісткі тэатра Маргарыта Александровіч і Лідзія Кузміцкая, прыўносячы ў яе свае адметныя штрыхі і фарбы.

У другім акце гэтая інтрыга, не знаходзячы рэальнага развіцця, перарастае ў нейкую нерэальную фантасмагорыю. І вось тут на дапамогу прыходзіць вельмі цікавы ірэальны вобраз, створаны фантазіяй аўтараў, – канцлер Уга, які знаходзіцца пры свіце караля. Гэты персанаж, які сваім аблічам нагадвае дэмана, трымае ў сваіх руках усе ніці інтрыгаў, якія апутваюць Соф'ю, і вынаходліва кіруе іх хітраспляценнямі. Гэтую няпростую ролю вытанчана-завострана, на аголеным нерве, выконвае яркі характарны акцёр Дзяніс Нямцоў. А больш стрымана, з пэўнай доляй акадэмізму – Алег Прохараў, які звычайна выступае ў амплуа героя.

У адпаведнасці з музычнай драматургіяй твора кожны персанаж у гэтым спектаклі мае свае адметныя музычныя характарыстыкі, сваю музычную мову. І ўсё ж, здаецца, што з асаблівай любоўю кампазітар выпісаў вобраз Ганчы (рыцара Генрыка). Яго музычныя нумары напоўненыя такой энергетыкай, такой шчырасцю і глыбінёй пачуцця, што проста захопліваюць у палон душу і сэрца слухача. Да таго ж яны прыцягальныя і незвычайнай меладычнай выразнасцю. У цэлым уся ўнутраная сутнасць гэтага героя цалкам адпавядае рыцарскаму дэвізу: "Жыццё – каралю, сэрца – каралеве, гонар – нікому!" У прэм'ерных спектаклях ролю Ганчы бліскуча выконваў вядучы тэнар тэатра Яўген Ермакоў. Гэтую ж ролю выконвае і малады саліст Арцём Хамічонак, які ўпэўнена заявіў аб сабе яшчэ на канцэртнай прэзентацыі мюзікла, якая адбылася задоўга да прэм'еры спектакля.

І ўсё ж хочацца адзначыць, што сярод пералічаных персанажаў у спектаклі не хапае таго, хто павінен быў стаць упоравень з Ягайлам, а менавіта – Вітаўта. Як падкрэслівалася вышэй, расказваючы пра аднаго з іх, проста нельга забываць пра другога, настолькі ўзаемазвязанымі былі перыпетыі іх дзяржаўнай дзейнасці і ўласнага жыцця. Па-першае, у той перыяд, які паказваецца ў спектаклі, Вітаўт стаяў на чале Вялікага Княства Літоўскага, а па-другое, як сведчаць гістарычныя крыніцы (у прыватнасці, "Хроніка Быхаўца"), менавіта ён выступаў у якасці свата на заручынах Ягайлы з Соф'яй. А калі ўлічваць тую акалічнасць, што Ягайла і Вітаўт былі стрыечнымі братамі, а Соф'я даводзілася Вітаўту швагеркай (была сястрой яго жонкі), то можна уявіць, наколькі там было ўсё пераплецена. І наколькі сэнсава і змястоўна збедненымі аказаліся сюжэтныя перыпетыі спектакля з-за адсутнасці ў ім вобраза Вітаўта (хоць у першапачатковым тэксце лібрэта ён быў). Асабліва гэта адчуваецца ў першым акце, на працягу якога дзеянне адбываецца ў Вялікім Княстве Літоўскім. Больш за тое, у гэтым акце паказваюцца сцэны нашэсця знешніх ворагаў на Княства, прытым вельмі ўдала пастаўленыя, але пры гэтым пастаноўшчыкі ўмудрыліся абысціся без Вітаўта, які праславіўся ў вяках перш за ўсё сваім майстэрствам воіна-палкаводца.

Можна цалкам пагадзіцца з аргументамі стваральнікаў спектакля, што яны не імкнуліся да канкрэтнага адлюстравання гістарычных падзеяў, галоўнае – паказаць характары гістарычных дзеячаў. Але ж ніхто і не чакае ад спектакля скрупулёзнай гістарычнай дакладнасці, галоўнае, каб у ім не было скажэння гістарычнай праўды. А што датычыць характараў герояў, дык яны раскрываюцца праз іх учынкі. І чым больш маштабны персанаж, тым больш маштабныя яго ўчынкі. А калі галоўнай мэтай спектакля становіцца чарговая гісторыя пра каханне, то яго героямі не абавязкова павінны быць рэальныя гістарычныя дзеячы, тым больш такія значныя і славутыя. Аповед пра Рамэа і Джульету – таму яскравае пацверджанне.

Але ў любым выпадку разважанні пра першы беларускі мюзікл неабходна закончыць на аптымістычнай ноце. Бо, нягледзячы на адзначаныя нестыкоўкі сюжэтнага характару, сам па сабе спектакль атрымаўся моцным дзякуючы і ўдалай пастаноўцы, і выканальніцкаму майстэрству занятых у ім артыстаў. Ён аказаўся вельмі відовішчным за кошт выдатных балетных нумароў, разгорнутых масавых сцэнаў і цікавай змястоўнай сцэнаграфіі. Ну а галоўнай яго прыцягальнай сілай з'яўляецца музыка, у якой закладзена ўся драматургічная аснова гэтага твора.

*Фота да спектакля "Вітаўт" – з афіцыйнага сайта Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета.*
*Фота да спектакля "Соф'я Гальшанская" – **Анжалікі ГРАКОВІЧ**.*

Ірына Шаўлякова



...паспрабуйце зразумець чалавека такім,
якім ён быў, а калі ўдасца,
то і такім, якім хацеў быць...

# Праектаванне будучыні ў *немагчымай рэальнасці*

***Да 60-годдзя з дня нараджэння Алеся Асташонка***

## Пункт А
## *Тэхнічнае заданне на творчы партрэт*

Творчая постаць Алеся Асташонка (1954–2004) – ідэальны для мяне ў сэнсе літаратуразнаўчага інтарэсу феномен: з пісьменнікам я ніколі не сустракалася, да нядаўняга часу ў сістэме не была знаёмая ні з яго прозай, ні з з п'есамі, нават біяграфічныя звесткі на вочы не трапляліся. Узнікла ідэя практычна ў "лабараторных умовах", маючы перад вачыма толькі тэксты (мастацкія і крытычныя), разгарнуць *творчы* (эвалюцыйны, так бы мовіць, у рэтраспектыве) партрэт пісьменніка, які ўваходзіў у беларускую літаратуру на схіле 1980-х і сёння мог бы перажываць *творчы* росквіт, пар*у* *творчай* поўні.

Прачытала ўсе (дзве) кнігі А. Асташонка, колькі тэкстаў літаратурна-крытычнага, эсэістычнага, біяграфічнага кшталту

і выразна зразумела, што мне няма чаго сутнаснага дадаць пра творчасць А. Асташонка пасля:

– артыкула Евы Лявонавай “Паэтыка прозы Алеся Асташонка...” [1];

– сёлетняй публікацыі “Нітка лёсу” ў газеце “Літаратурная Беларусь” [2].

Артыкул Е. Лявонавай настолькі шчыльны ў сэнсе інфарматыўнасці, што чытач паводле яго аднаго мог бы займець “цэласнае ўяўленне пра яго (А. Асташонка. – *І.Ш.*) лірычна-шчымлівую і, адначасна, інтэлектуальную, іранічна-філасофскую прозу” [1, с. 140]. Пра “ўмоўна-збіральнага” героя (безыменнага інтэлігента, паглыбленага ў роздумы пра рэчы мікра- і макракасмічныя. Пра сапраўднае месца дзеяння твораў (душа) і адзіны канфлікт (“душэўшыя разладдзе і рэзрух”). Пра адметную сінтэтычнасць прозы А. Асташонка, дзе метад псіхалагічнага рэалізму (“...у тым сэнсе, у якім гэтае паняцце справядлівае ў дачыненні да творчасці М. Гарэцкага ці М. Стральцова” [1, с. 143 ]) спалучаецца з выразнай імпрэсіяністычнасцю.

У мемарыяльнай публікацыі да 60-годдзя пісьменніка газета “Літаратурная Беларусь” сабрала “ў юбілейны вянок памяці” “сяброўскія згадкі пра Алеся Асташонка. Сярод іх – віншавальная паштоўка да 50-годдзя пісьменніка (якая была напісаная для тыднёвіка “ЛіМ”, аднак на свет так і не з’явілася, прадмова Л. Галубовіча (“Чалавек без нумара”. – *І.Ш.*) да кнігі “Жоўты колер белага снегу” і пасляслоўе да яе Л. Дранько-Майсюка (якія выдавецтва “Мастацкая літаратура” так і не асмелілася надрукаваць)” [2].

“Пра што пісаць? / Высока нашы зоры, / Што ім да нашай цьмянай мітусні...” – быў момант, быў: гатова была далучыцца да скрухі лірычнага героя аднаго з вершаў Л. Рублеўскай. Аднак...

...У свой час я так старанна вывучала англійскую мову (у савецкай школе, у постсавецкім універсітэце і на пяць год яшчэ больш постсавецкай аспірантуры), што пасля бесперапыннай пятнаццацігадовай стараннасці мне не заставалася іншага выйсця, як з горкай пакорай змірыцца: я належу да найніжэйшай камунікатыўнай касты “чытаю-і-перакладаю-са-слоўнікам”. Сёлета (відаць, зоры сышліся адметным чынам) я адважылася ўзбунтавацца – наважылася пералезці ў касту “тых-хто-не-баіцца-і-нават-крыху-можа-гаварыць-па-англійску”.

Перадумовы для поспеху ўтваралі: валізка ўяўленняў пра належную (“навуковую”) арганізацыю працэсу (сама)адукацыі, злая рашучасць і незлічоныя сумненні. Чаго за паўтара дзесяцігоддзі не паменела – дык гэта стараннасці. Цяжка прагназаваць, чым (і калі) скончацца гэтыя хаджэнні па “змрочным гушчары” англійскай мовы, але досвед паўгадовай сізіфавай працы дзіўным чынам спатрэбіўся ў сітуацыі літаратуразнаўчай “нявыкруткі”.

Справа ў тым, што момант майго разгубленага “вынырвання” з прозы А. Асташонка прыпаў на часы майго ж ліслівага запабягання перад умоўнымі сказамі (*Conditionals*). Прынцыповым момантам для канструявання гэтых складаназалежных сказаў (іх утварае спалучэнне галоўнага сказу і даданага ўмовы) з’яўляецца рэальнасць (верагоднасць) ці нерэальнасць (малаверагоднасць) сітуацыі, якая апісваецца. Асабліва зачароўвае мяне канструкцыя *second conditional*: яна выкарыстоўваецца тады, калі размова ідзе пра малаверагодную ці гіпатэтычную, уяўную “будучую сітуацыю” і яе наступствы. Цікава, што гэтая нерэальная сітуацыя апісваецца з дапамогай мінулага часу, хаця размова ідзе пра будучыню. Інакш кажучы, гэтая сітуацыя нібыта й неверагодная, але апісваць свае паводзіны даводзіцца так, быццам і дзівосы, і ты ў тых дзівосах – “жывейшы за ўсіх жывых”...

І было мне азарэнне: пісаць пра А. Асташонка “рэальнага”, то бок пра творцу, “*здзейсненага*” ў сваіх кнігах, – марная трата часу, бо, паўтаруся, *па сутнасці* мне дадаць амаль няма чаго. Хіба што ў слупок (самы запатрабаваны ў родным

літаратуразнаўстве від “інфаграфікі”) пералічыць дамінанты індывідуальна-творчага стылю пісьменніка:

– рэфлексіўнасць;

– маналагічнасць;

– спалучэнне розных відаў пафасу ў межах аднаго твора (экзістэнцыяльнага і рамантычнага; сентыментальнага і трагедыйнага).

Спіс гэты непрыстойна кароткі; да таго ж усе яго чыннікі ў тым ці іншым выглядзе згадваюцца ў артыкуле Е. Лявонавай, прадмове Л. Галубовіча ды пасляслоўі Л. Дранько-Майсюка. А скарыстоўваць чужы досціп дзеля выштукоўвання літаратурнага партрэта, праз які лёгка шлёндалася б любому, хто хоча абазнаным чытачом звацца, прафесійнае (тэарэтыка-літаратурнае) выхаванне не дазваляе.

Нашмат цікавейшай падалася ідэя пракруціць нерэальную сітуацыю (кшталту “каб чорт касу насіў, дык і я б касіў”) у фармаце *немагчымай рэальнасці* (усведамляючы яе малаверагоднасць, але з азартам пражываючы яе як рэальную): разгарнуць “альтэрнатыўную гісторыю” творчай эвалюцыі А Асташонка.

## …усё яшчэ пункт А…
## *Агляд рэсурсаў*

Будаўнічы матэрыял згаданай альтэрнатыўнай гісторыі – той жа, што мог бы выкарыстоўвацца для літаратуразнаўчага аналізу творчасці пісьменніка як “гісторыі” здзейсненай. Маюцца на ўвазе дзве кнігі А. Асташонка: “Фарбы душы: Апавяданні, настроі, аповесць” (1989), выдадзеныя “Мастацкай літаратурай” у серыі “Першая кніга празаіка”, і “Жоўты колер белага снегу. Камерная проза” (2006), што пабачыла свет у тым жа выдавецтве.

Уступнае слова да “Фарбаў душы” напісаў Алесь Адамовіч. Кароткі – з шасці лаканічных абзацаў – тэкст для нашых спецыфічных росшукаў набывае адметную каштоўнасць, бо ў ім утрымліваецца ці не адзіная (ускосная) згадка пра творчае *эвалюцыянаванне* А. Асташонка:

“*Гадоў восем назад*[1] прыйшоў да мяне хлопец, як мне здалося, вельмі заклапочаны нейкімі жыццёвымі непрыемнасцямі. Пагаварыў з ім і зразумеў, што неспакой у яго – ад таленту. Па-рознаму людзі пачынаюць пісаць. Некаторыя вось так, адразу ж нагружаючы сябе болем цяперашняга і мінулага жыцця свайго народа. Такім убачыў я і Алеся Асташонка. І, здаецца, не памыліўся, калі вельмі высока ацаніў яго першыя апавяданні. *Талент ёсць, ён паглыбляўся*, і доказам гэтага з’яўляюцца яго новыя апавяданні, п’есы” [3, с. 3].

Першая кніга А. Асташонка, якому на момант яе выхаду было трыццаць пяць год, уключае дзесяць твораў. Сем з іх наўпрост не атрыбутуюцца аўтарам у жанравым сэнсе, але ў першым набліжэнні найбольш суадносяцца з апавяданнямі: “Patria eterna”, “Гэлька, Шуркава маці”, “Фрагмент”, “Супер”, “Метамарфоза”, “Чарга”, “Вяртанне”[2]. Два творы – “Фарбы душы” і “Смутак надзеі” – вызначаюцца як “настроі”; завяршае кнігу аповесць “Малюнкі на попеле”. Хоць творы ў кнізе і не пазначаны датамі, можна меркаваць (памятаючы пра ўступнае слова А. Адамовіча), што першая кніга празаіка выкшталтоўвалася цягам 1980-х.

Другая кніга А. Асташонка паўстала фактам матэрыяльным толькі з другога разу[3], згубіўшы не толькі палову назвы (першапачаткова – “П’яная кніга, або

---

[1] Вылучэнні ў цытаце зроблены намі. – *І.Ш.*

[2] “Вяртанне”, аднак, кантрастуе з іншымі творамі ў кнізе і нагадвае фрагмент эсэізаванага ўзнёсла-асветніцкага нарыса пра станаўленне Максіма Багдановіча як класіка беларускай літаратуры.

[3] У 1996 годзе яе “набор, тады яшчэ ручны, быў у выдавецтве «рассыпаны»” [2].

Жоўты колер белага снегу"), але, відаць, і тое-сеё са зместу[1]. З дзесяці твораў першай кнігі ў другую, выдадзеную пасмяротна, цалкам увайшлі сем (некаторыя пад іншымі назвамі: "Метамарфоза" сталася "Ператварэннем", "Фарбы душы" – "Словамі"). Яшчэ адзін твор – аповесць "Малюнкі на попеле" – мігравала ў другую кнігу асобнымі часткамі (тэксты "Успамін I", "Успамін II", "Успамін III").

Кампазіцыйны ансамбль другой кнігі ўтвараюць пяць раздзелаў – цыклаў твораў, кожны з якіх паўстае асобнай (самастойнай) жанравай тэрыторыяй: "Пясок і попел. *Хроніка зносу*", "Самота. *Апавяданні й навелы. Эсэ*", "Дождж. *Канспекты*", "Пах травы. *Настроі*", "Няўжо я памру!.. *Эцюды, дыялогі*". Хранатоп новых (недрукаваных у першай кнізе) твораў часава суадносіцца з трыма-чатырма гадамі (самы пачатак 1990-х), прасторава – з "прыватным сектарам у вялікім горадзе" [4, с. 67], экзістэнцыйна – з сітуацыяй "перманентнага" (хранічнага) "зносу", эмацыйна – з "духам самоты". Па сутнасці гэта версія хранатопу мяжы – *мяжы знікомай*. Вось гэтую задоўжаную, "застыглую" знікомасць да А. Асташонка, бадай, ніхто не занатоўваў настолькі падрабязна і чулліва, рэалістычна і сентыментальна:

"Дзіўнае гэта з'явішча – каналы прыватных забудоў у вялікім горадзе. <...> Усё тут патыхае вёскаю: хаты, дым з комінаў, хлявы, сабакі па дварах, сады, агародчыкі, рэчка, поплаў, нават, цяпер ужо зноў, козы, свінні, качкі, гусі й куры. <...> Тут, вядома, і людзі, і лад іхняга жыцця, і стаўленне да яго – асаблівыя. Гэта і не горад, і не вёска – гэта нешта непаўторнае, неназванае, а можа, і ўвогуле непаддатнае найменню. Але й яно незваротна страчваецца, як і ўсё цяпер" [4, с. 35].

Усе творы ў другой кнізе скрупулёзна датаваныя, у многіх выпадках указваецца год пачатку – і завяршэння працы над тэкстам: нізка "Пясок і попел. Хроніка зносу, напрыклад, пазначана 1987–1994 гадамі, "Супер" – 1979–1985, мініяцюра "Сустрэча" – 1979 і 1993 і г.д.

"Лічбаторыя" такога кшталту цікавіць нас не сама па сабе, а ў сувязі з адным цікавым момантам. Тэарэтычна творчы шлях пісьменніка, якога не стала ў пяцьдзясят, мог бы займаць ці не чвэрць стагоддзя (з пачатку 1980-х амаль да сярэдзіны 2000-х); фактычна ён карацейшы на дзесяць год, бо пераважная большасць твораў напісана ў межах 1980-х – першай паловы 1990-х (творы апошняга раздзела "Няўжо я памру!.. *Эцюды, дыялогі*" – найбольш познія па часе напісання: "*Лістапад 1993 – студзень 1994*"). Узрост я-герояў, а таксама апавядальнікаў тых твораў, дзе аповед вядзецца ад першай асобы, вылічваецца па формуле "трыццаць тры плюс-мінус пяць год". Інакш кажучы, пры павярхоўным знаёмстве з прозай А. Асташонка можа скласціся ўражанне, быццам пісьменнік так вычарпальна выказаўся ў першай кнізе, што ў другой яму заставалася адно дадаваць дэталі, якія, па вялікім рахунку, мала што змянілі ў аксіялагічным, анталагічным, мастацкім вымярэннях ягонай прозы.

Зманлівасць уражання, зрэшты, выяўляецца даволі хутка – і адносна "тыпова асташонкаўскіх твораў", і адносна тых, што ўспрымаюцца як бы адасоблена ад першых. Напрыклад, галоўная гераіня апавядання "Гэлька, Шуркава маці", змешчанага ў першай кнізе, штодня выходзіць на дарогу, каб сустрэць сына, які не вярнуўся з вайны. Ён для яе жывы насуперак саракагадовай даўніны афіцыйнаму лісту, паводле якога "Якубовіч Аляксандр Аляксандравіч загінуў смерцю храбрых у баях за вызваленне Савецкай радзімы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у раёне горада Мыйзакюла Эстонскай ССР..." [3, с. 46]. Своеасаблівая "атмасфернасць" сацыяльна-псіхалагічнага аповеду з выхадамі ў культурна-гістарычны кантэкст у

[1] У артыкуле Е. Лявонавай са спасылкай на гутарку А. Асташонка з Л. Галубовічам згадваецца складзеная самім празаікам ***эпітафія-"лічбаторыя"*** кнігі, якая ўключала "350 старонак, 50 тэкстаў, толькі 7 з якіх увайшлі ў тую першую і адзіную прыжыццёвую кніжку".

фінале істотна карэктуецца героіка-сентыментальным пафасам: “Высока і велічна ўзлятае той абеліск у неабсяжную сінь... І паварот, на якім ён стаіць, быццам раздвойваецца ў памакрэлых старэчых вачах...” [3, с. 57]. Спалучэнне высокай сентыментальнасці, чуллівасці і трагедыйна-экзістэнцыйнай безвыходнасці наогул можна вылучыць у якасці адной з характэрных рыс мастацкага светаадчування Алеся Асташонка.

“Фарбы душы” ў другой кнізе сталіся “Словамі”, хоць і засталіся “настроямі”. Гэтыя філасофска-лірычныя мініяцюры аб’яднаны архітэктанічна: назву і тэматычную сутнасць кожнай наступнай мініяцюры вызначае апошняе слова папярэдняй (“Жаль”, “Калісьці”, “Журба”). “Смутак надзеі. *Настроі*” спалучаюць з’едліва-рытарычны сарказм (“Ці не кожны другі зайздросціць кожнаму трэцяму – праз тыя розныя дробязі, якіх ён сам не мае, але нягледзячы на свае непаўторныя погляды прагне ўсё ж мець” [3, с. 122]) і высокі лірызм: “Але раптам мне бачыцца позірк бабулі маёй... Свецяцца вочы старэнькія сумам, спагадаю, мудрасцю. Расце ёй адмераны келіх дзён, у сутонні сагрэтых дрыготкай і цьмянай надзеяй, што заўтра растане – і будзе наўкол адна дабрыня...” [3, с. 119].

Здаецца, аўтар практыкаваўся ва ўменні быць супрацьлеглым сам сабе – у адзін і той жа “момант”.

Дзеля таго, каб прыступіць, урэшце, да выканання дадзенага самой сабе “тэхзадання”, варта разважаць не над тым, “ці хацеў пісьменнік быць супрацьлеглым сабе самому, рухацца ад сябе-якім-ёсць – да сябе-якім-не-мог-стацца?”, але над тым, “ці меў наогул магчымасць пазбегнуць гэтага?”...

Прадмова Л. Галубовіча “Чалавек без нумара” да другой кнігі А. Асташонка ўтрымлівае, на мой погляд, ключавую ў гэтым сэнсе фразу: “Магчыма нешта яшчэ ён напісаў бы, але – не... Не напісаў, бо было немагчыма”; падсумоўваецца яна словамі: “Не асуджайце асуджаных. Паспрабуйце зразумець чалавека такім, якім ён быў, а калі ўдасца, то і такім, якім хацеў быць...” [2].

Такім чынам, выйсце ў мяне адно – увайсці ў прозу А. Асташонка праз браму second conditional. Тады дзівосны *новы* (іншы, умоўны, альтэрнатыўны) свет шукаць не давядзецца – ён абрынецца на мяне сам. І будзе ён створаны не з таго, што зрабіў альбо чаго хацеў пісьменнік, але з таго, якім ён *умеў быць*.

## ...пункт А
## *Справаздача: партрэт працяжніка*

А. Асташонак умеў не толькі ствараць, але і цягам доўгіх гадоў падтрымліваць эфект “вялікіх чаканняў”. Літаратуразнаўца Анжэла Мельнікава, адгукаючыся ў фэйсбуку на “Баладу Алеся Асташонка (1.06.1954–6.09.2004)”, якую размясціў на сваёй старонцы Віктар Шніп 1 чэрвеня 2014 года, заўважыла: “Здавалася, што вось-вось ён нечым вельмі моцным стрэліць”.

Магчыма, грунтам гэтага эфекту сталася ўменне А. Асташонка быць “*політэхнічным*” празаікам. Так, ужо “Фарбы душы” ўтрымлівалі шэраг прынцыпова розных (па тэматыцы, праблематыцы, манеры пісьма) тэкстаў.

Філасофска-псіхалагічны аповед “Patria eterna”, відаць, выглядаў у часе яго апублікавання (1989 год) “чужаніцам”. Гэта твор, які аўтар у іншым творы другой кнігі назваў “канспектам” рамана. Дзеянне разгортваецца ў алжырскім Цімгадзе (Тамугадзі), у вандроўцы па гісторыі якога я-героя суправаджае Вінцэнты Краеўскі – шляхціц з Наваградка з такім пакручастым лёсам, што яго калізій хапіла б некалькі авантурных раманаў і яшчэ засталося б на пару-тройку раманаў-падарожжаў. Інакш кажучы, аўтар умеў у адным аповедзе заканспектаваць не тое што адзін – “нізку” раманаў.

Трагедыйна-сентыментальны аповед “Гэлька, Шуркава маці”; узнёсла-асветніцкае “Вяртанне”; сацыяльна-псіхалагічны “Супер”; выштукаваная ў духу філасафічнага канструктывізму “Чарга”... У шэраг непадабенстваў лагічна ўпісваецца “Метамарфоза” (у другой кнізе перайменаваная ў “Ператварэнне”) як узор іранічнай фантасмагорыі, дзе маюць месца і сацыяльнае, і псіхалагічнае, і экзістэнцыйнае. Кожны ж з гэтых складнікаў, дарэчы, “на месцы” не ўтрымліваецца, бо ў гэтым творы ў аўтара не атрымаліся дзве рэчы: быць статычным і здацца перад ціскам шэрай будзённасці, здацца ў палон “чарнухі” ўзору канца 1980-х.

У “Метамарфозе” і без вялікіх высілкаў прачытваюцца вядомыя айчыннаму чытачу літаратурныя традыцыі (у карагодзе якіх, бадай, не абышлося б ні без Гогаля, ні без Зошчанкі, ні без Ільфа з Пятровым): “Лёс не надзяліў грамадзяніна Паваляева багата якімі вартасцямі, што звычайна лічаць мужчынскімі, і таму ён з маладых гадоў вымушаны быў з горыччу прызнаць, што працуе бухгалтарам. <...> І дальбог жа, панове, гледзячы на Паваляева, так і карцела словы шукаць для гаворкі аб ім старадаўнія ды самавітыя. Такі ўжо ён быў чалавек – выгляду мудрагелістага і антыкварнага” [3, с. 92].

Але гэты твор, надрукаваны напрыканцы 1980-х, выклікае і ўстойлівыя асацыяцыі зусім іншага кшталту, напрыклад, з “Мерсэдэсам-бэнцам” Паўла Гюле (2001), ці са “Старасвецкімі міфамі горада Б*” Людмілы Рублеўскай (2001), і нават з фантасмагорыяй Сяргея Рублеўскага “Чалавек-дрэва” (2002). Народжаны ў 1980-х лысы Паваляеў, што трансфармаваўся ў пышнавалосага Валер-Алтайскага, і ў сярэдзіне 2010-х выглядае цалкам канкурэнтным:

“У любую пару года, якое б ні было надвор’е, не лічачы зімы, Паваляеў выходзіў на вуліцу ў капелюшы – то фетравым, то саламяным, – і можна было смела меркаваць, што купляліся яны яшчэ ў той далёкі час, калі першыя аўтамабілі толькі пачыналі ўзрушваць гарадскія світанкі мелодыямі клаксонаў. Былі ў яго вядома ж, і бабровы каўнер, і тройка, і брэгет – усяго адразу не пералічыш.

У кватэры сваёй трымаў ён старыя венскія крэслы, вялікі насценны гадзіннік з дзівосным боем-перазвонам, бронзавыя падсвечнікі (кандэлябры, перапыніў бы нас Паваляеў) і шмат чаго іншага ў падобным стылі. Сцены яго кватэры былі скрозь пазавешваныя фатаграфічнымі карткамі шматлікае радні, большасць якой даўно ўжо спачыла. Самы прыкметны быў работы менскага майстра Міранскага фотапартрэт прадзеда Паваляева – Апалінарыя Ферапонтавіча Валасовіча, паручніка імператарскае гвардыі, пры ордэнах, з шабляю і на белым кані” [1, с. 92–932].

Меў, вядома ж, меў рацыю Л. Дранько-Майсюк, калі пісаў у пасляслоўі да другой кнігі А. Асташонка, што проза гэтага творцы “пераважна малаўсмешлівая, сумная. Яна нагадвае прыгарадны лес, адстойвае першазначнасць чалавечай цеплыні і прыгажосці ўнутры нашай неўладкаванасці і адсутнасці жаданага ўтулля” [2]. Але ва ўмоўным закладзе нашай “альтэрнатыўнай гісторыі” выразна праступаюць контуры зусім іншага настраёвага ландшафту. А. Асташонак умеў быць разнастайна ўсмешлівым у сваёй прозе – і па-заліхвацку рагатнуць, і прытоена-іранічна ўсміхнуцца: “Мне сямнаццаць гадоў. Я добры, сумленны і справядлівы. І ці ж не ўсё разумею я ў свеце? Словам, я чалавек амаль ідэальны. Толькі мала хто гэта бачыць” [1, с. 119].

Я-герой А. Асташонка ўмее дайсці ў самаіроніі да саркастычнасці, у пяці словах сфармуляваць сутнасць жыцця ўнутранага і вонкавага – і ўстрымацца ад амаль “наркатычнай” залежнасці быць самотным, учыняць аўтадафэ ў дэкарацыях, тыповых/жыццёвых для яго: “Калі б я так элегантна пісаў свае апавяданні, як Бабёр прымае тару, многія мае калегі пазелянелі б ад зайздрасці. Праз *непрытульнасць душы* і *неўладкаванасць свайго быцця* (вылучана намі. – *І.Ш.*) я пішу ўсяго толькі два-чатыры апавяданні ў год. А ён працуе, не мяняючы стылю, – штодня” [4, с. 10].

Апавядальнік А. Асташонка – мастацкі суб'ект з "полі-стылявымі" ўменнямі. Найчасцей ён аддае перавагу рэфлексіі, маналагічнасці, герояў заахвочвае да скрупулёзнага самаанатаміравання, а сам з адчайна-халоднай рашучасцю выпраўляецца ў адзінокія вандроўкі па ўнутраным моры, хоць і ведае пра вырак невяртання. Але ён умее ў звыклых панылых дэкарацыях (напрыклад, пункта прыёма шклатары) кшталтаваць партрэты герояў і з дапамогай іншага (здавалася б, "нетыповага" для сябе) мастацкага інструментарыя:

"У Глушца язва, туберкулёз, хворыя ныркі й пячонка, зусім няма пярэдніх зубоў, нос двойчы пераламаны, і цяпер яму цяжка дыхаць. Ён амаль не чуе на левае вуха – «шакалы» адбілі – і таму заўсёды паварочваецца да суразмоўцы правым. Цяпер яму школьная мянушка самы раз. Да таго ж у сваіх не дужа доўгіх пабыўках на волі ён сем разоў чапляў трыпер, і цяпер у яго жудасны прастатыт. <...> Я з вялікім здзіўленнем заўважыў, што Глушэц часта паўтарае, па сутнасці, думкі Мантэня, Паскаля, Ларошфуко, пра якіх ён нічога не ведае, хоць і вывучаў некалькі гадоў літаратуру Францыі... Яшчэ з Глушцовых разваг можна выявіць ягоную згоду з першахрысціянамі, канфуцыянцамі, даасістамі, экзістэнцыялістамі й нават старажытнаегіпецкай «Кнігай мёртвых»" [4, с. 12-13].

Лаканічная па форме, інфармацыйна (зместава) насычаная, імпэтная (дынамічная) паводле тэмпарытму *інвентарызацыя* фізічных "набыткаў" і духоўнай "маёмасці" персанажа магла б у прасторы прозы А. Асташонка разгарнуцца ў мастацка-псіхалагічную тэхніку стварэння вобраза-персанажа: "...нагружаная сеткамі з хлебам, яна кудысьці брыла, і чаго толькі не было ў хадзе яе й паглядзе – панурасць, стома, смутак, скаронасць і, галоўнае, прысутнасць ейная ў гэтым жыцці, месцы, часе, ва ўсіх прапанаваных лёсам абставінах, і адначасна, суцэльная ў ім адсутнасць, усё роўна як яна й не існуе нават, а сніць" [4, с. 215].

Выкарыстанне гэтага прыёму мае цікавыя і кожны раз новыя вынікі ў розных выпадках: і калі апісваюцца ўмоўна-гарадскія ("прыватны сектар – і ўсё") пейзажы (цыкл "Пясок і попел"); і калі апавядаецца містычна-дэтэктыўная "Гісторыя з туалетам": "За сто гадоў існавання прыбіральні мастацтвазнаўцы даследавалі яе ўздоўж і ўпоперак, прыйшоўшы да высновы, што гэта досыць рэдкі помнік «эклектычнага мадэрнізму, які спалучае ў сабе элементы барока, готыкі і рэнесансу», так што і граф, і дойлід, і гарадскія ўлады зрабілі нашчадкам нядрэнную паслугу: грамадзяне з задавальненнем і прыязнасцю наведвалі прыбіральню, а мастацтвазнаўцам было пра што паразважаць і аб чым паспрачацца" [4, с. 165].

Апавядальнік А. Асташонка ўмее быць супрацьлеглым сам сабе не толькі ў самоце ("поўніцца пустатой" я-герой аповеда "Жоўты колер белага снегу"; "поўнае незадаволенасцю" сапраўднае жыццё для я-героя "Арніталогія ў літаратуры футбола Сан-Марына"). Супрацьлеглыя таленты ён спалучае паслядоўна. Напрыклад, талент быць падрабязным (здольнасць ператварыць інвентарызацыю ў вобразна-выяўленчыя прыём), скрупулёзным – і талент быць формульна-абагуленым: "Асабліва хітры быў дырэктар: ён і смеласцю марыў праславіцца, і баяўся, каб чаго-небудзь тут не выйшла" [4, с. 165]. Зрэшты, у абодвух талентах ён па-мастацку дакладны. Аўтар таксама аднолькава віртуозна праводзіць чытача па сутарэннях іранічнай навелы з элементамі містыкі ("Дом творчасці") – і праз лабараторныя лёхі навуковай фантастыкі з "беларускім акцэнтам" ("Ахвяра"). Такім чынам, і апавядальнік, і яго аўтар дакладна ўмеюць выпрабоўваць сябе на разнастайнасць (паставіць побач хоць бы "Беларускі акцэнт" і "Габрэйскія матывы"), пры гэтым у самых неспрыяльных абставінах абодва ўмеюць быць несамотнымі: "Мяне лупілі ўсе – і ўсіх лупіў Залман. Вянцом ягоных благіх паводзін стала фантастычнае здарэнне ў пятым класе. Пасля праваслаўнага Вялікадня ў школу паведамілі з міліцыі, што на святы дзень Геру, п'янага ўшчэнт, падабралі ў лужыне каля кафэ «Белочка» і ў руцэ ён сціскаў фарбаванае яйка. Я

й цяпер не бяруся рабіць якіясьці каментарыі да гэтай тужлівай неверагоднасці й горка іранізаваць з нагоды адсутнасці ў Геравым доме фарбаваных яек” [4, с. 219].

“Незадаволенасць” як “найглыбейшая рыса сапраўднага жыцця” [4, с. 227] ёсць вытокам і вусцем прозы А. Асташонка, сатканай, калі перафразаваць я-героя “Арніталогіі ў літаратуры футбола Сан-Марына”, “з тысячы сноў”. У снах гэтых разгортваюцца цэлыя навелы, усміхаюцца прастытуткі (праўда, “усмешка была крывая і брыдкая, прастытутка – старая й мярзотная”)... “А то яшчэ бачыў у сне сваю смерць” [4, с. 229]. Апавядальнік А. Асташонка ставіцца да сноў па-гаспадарску – будуе з іх навелы (“толькі з канцом наадварот” – так здарылася з “Чаргой”), пра што расказвае ў іншых аповедах (“Арніталогія...”), і нават думае пра пашырэнне справы: “А начныя сны – што ж, з іх адных, можна, бадай, раман напісаць” [4, с. 231].

Магчыма, аўтар “Фарбаў душы” збіраўся пісаць раманы (хаця самы вялікі твор у кнізе – аповесць “Малюнкі на попеле”, варта нагадаць: “Patria eterna” ўважалася празаікам за “канспект рамана”). А вось аўтар кнігі “Жоўты колер белага снегу” іх *умеў* пісаць. Неабвержных доказаў на карысць гэтай дэкларатыўнай, здавалася б, заявы як мінімум шэсць. Столькі твораў утрымлівае раздзел “Дождж. *Канспекты*”: “Жонка артыста”, “Жыццё ідзе”, “Вельмі кароткая доўгая гісторыя”, “Дождж”, “Жыццё праходзіць...” (а таксама ўжо не раз памянёная “Patria eterna”). Якраз у “канспектах” унутраная дынамічнасць аповедаў, нейкі вясёла-нервовы іх тэмпарытм, разнастайнасць вобразна-выяўленчай палітры і лаканізм уласна выказвання супадаюць настолькі шчасліва, што няма падстаў для шкадвання: чаму ж, маўляў, “канспекты” так і не сталіся раманамі?.. Бо яны спраўдзіліся як арыгінальныя жанравыя мадыфікацыі малога эпасу.

“Пішу, спрабуючы большыць яснасць, якая здаецца мне непахіснай, што жыццё – як працяжнік, стралою нясецца наперад, – і ніколі не будзе ў ім скончаных фраз – толькі адзін няспынны, імклівы рух – адзін нястрымны вечны працяжнік...” [4, с. 293] – гэтак А. Асташонак падсумоўвае адзін з эцюдаў, змешчаных у апошнім раздзеле “Няўжо я памру!.. *Эцюды, дыялогі*”). Згаданыя вышэй творы з раздзела “Дождж. *Канспекты*” адметныя тым, што яны спрабуюць занатаваць няспыннасць, заканспектаваць імклівасць, і вынікам гэтага становіцца жанравы наватвор – “*канспект працяжніка*”. Працяжніка ў разуменні А. Асташонак, для якога “жыццё – працяжнік”. У такой сістэме каардынат творца асуджаны без продыху бегчы па дзіўным маршруце, дзе пункты адпраўлення (А) і прыбыцця (Б) супадаюць.

Гэта бег ад сябе – да сябе (ад А да А). Бадай, адно з самых важных ўменняў у гэтай сітуацыі – вышукваць усё новы і новы сэнс, знаходзіць апраўданні для бегу па коле, якое ўвесь час то пашыраецца, то звужаецца... І апавядальнікі, і героі прозы А. Асташонка якраз з гэтым уменнем маюць найвялікшыя праблемы. Зрэшты, і я таксама. Таму, відаць, такім спакуслівым падаецца назіраць за гэтым бегам праз чароўны ліхтар second conditional – малаверагоднай, гіпатэтычнай, уяўнай “будучыні”.

Літаратура:

1. Лявонава, Е. А. Паэтыка прозы Алеся Асташонка (кніга “Жоўты колер белага снегу”) / Е. А. Лявонава // Русская и белорусская литературы на рубеже XX–XXI вв.: сборник научных статей. В 2 ч. Ч. 2 / редкол.: С. Я. Гончарова-Грабовская (отв. ред) [и др.]. – Минск: РИВШ, 2007. – С. 140-146.

2. Нітка лёсу // Літаратурная Беларусь. – 2014. – 30 мая. – № 21 (390). – С. 12.

3. Асташонак, А. Фарбы душы: Апавяданні, настроі, аповесць / А. Асташонак. – Мінск: Маст. літ., 1989. – 174 с. – (Першая кніга празаіка).

4. Асташонак, А. М. Жоўты колер белара снегу: камерная проза / А. Асташонак. – Мінск: Маст. літ., 2006. – 303 с.

Разалія Александровіч



…наш народ, аддзелены
ад мусульманскага свету тысячамі кіламетраў,
стагоддзямі пераменлівай гісторыі,
здолеў захаваць свае традыцыі…

# Яе любіў Алах

***Успаміны пра бабулю Зоф'ю Карыцкую***

Мне выпала шчасце нарадзіцца і пражыць да дзевятнаццаці гадоў у горадзе, які насуперак часу і афіцыйным нормам называем мы гучнай і старадаўняй назвай Нав*а*градак. Побач з Наваградкам, у многім не саступаючы яму, стаіць яшчэ адна мая "малая радзіма" – вёска Іванава. Чаму з гадамі маленькі двор невялікай вёскі Іванава становіцца ўсё больш дарагім сэрцу? Магчыма таму, што праз яе ланцужок жыцця злучае мяне з мамай Альміраай-Ліліяй, з маёй бабуляй Сафіяй-Зоняй (Рай ім светлы).

Уважаючы мужчыну за галоўнага ў сям'і, мусульмане пры гэтым заўсёды называюць, звяртаючыся да Усявышняга, побач з імем чалавека імя жанчыны, якая даравала яму жыццё. На генетычным узроўні кожны чалавек ад маці наследуе мітахандрыяльную ДНК, перадаецца яна далей на працягу стагоддзяў па жаночай лініі. Не зусім упэўненая, што з гэтай прычыны, але ведаю дакладна – я адчуваю ў сабе іх абедзвюх – маю маму і маю бабулю. Усё больш раблюся знешне і голасам падобнай да мамы. Я вяду з

мамай і бабуляй унутраны дыялог, працягваю жыць іх звычаямі, адносінамі да людзей, прыроды, рэчаў.

Памяць кожнага з нас беражліва ахоўвае святло агеньчыка свайго дзяцінства. Мабыць, таму яго пяшчотная аўра нязменна застаецца з намі праз час і прастору. Пры ўзгадцы той пары ў сэрцы ўздымаецца хваля пачуццяў. Яны ўзнікаюць ад успаміну пра самую простую рэч: прыдарожны клён ці драўляную лавачку, якая дажывае свой век. Матэрыяльнае, што з цягам часу ператвараецца ў духоўнае... Гэта след рэчаіснасці, што стварыла цябе, гэта касмічная прастора, непаўторны свет твайго дзяцінства.

Як жа даражым мы і сёння тым часам, калі прадстаўнікі сем'яў Аўхіменяў, Саладухіных і Александровічаў былі адной вялікай сям'ёй. Памяць кожнага з нас утрымлівае падрабязнасці таго перыяду жыцця, калі, з'язджаючыся з Гародні, Моталя і Наваградка, станавіліся мы "іванаўцамі" і "Карыцкімі".

## Нашыя імёны

Так, для іванаўцаў мы ўсе былі "Карыцкімі". На пытанне "чые ж вы?" – мы так і адказвалі: "Мы – Карыцкія". Радня і суседзі ведалі, што ў Карыцкіх тры дачкі. Эмілія – старэйшая, сярэднюю назвалі Айшай, а малодшую Альмірай. Гэтыя імёны даволі распаўсюджаныя сярод беларускіх татараў, але ў нас часцей гучалі як Міля, Аля, Ліля. Упэўнена-традыцыйны адказ: "Мы – Карыцкія" выклікаў пытанне: "А якой з дочак?" І тады надыходзіла чарга кожнага: "Я – Алін, я – Мілін, я – Лілін". Імёны нашыя былі некаторым таксама вядомыя: Леанід (Лёнік), Аляксандр (Саша, Сашык), Міхаіл (Міша, Міхась), Сафія (Соня), Разалія (Роза), Аляксандр (Алік, Алічак).

Старэйшаму з усіх дзедавых унукаў Леаніду хлопцы ў вёсцы далі мянушку "Карыца" (у ласкавай форме "Карыцуля"), безумоўна, не падазраючы, што наш родавы герб мае як раз такую назву – "Карыца".

У гонар дзядулі Ал*і* названы Аляксандрам малодшы з двух сыноў цёці Алі і дзядзькі Мікалая Саладухі (пэўны час прозвішча па волі тых, хто выпісваў дакументы, мела канцавое "-на"). У іх сям'і атрымалася так, што старэйшы брат праваслаўны, малодшы – мусульманін. Леанід быў хрышчоны, а калі нарадзіўся другі хлопчык, то бацькава мама Наста выказала меркаванне, што трэба, каб было справядліва: Аляксандру далі азан. Саша жартам, але і ўсур'ёз, кажа, што ён кніжкі пачынае чытаць з канца. На што я заўважаю: голас продкаў выяўляецца ў арабскай традыцыі пісьма і адпаведна чытання.

У цёці Алінай сям'і ёсць яшчэ адзін Аляксандр – старэйшы сын Леаніда і Надзеі. А іх малодшы сын названы Віктарам у гонар другога дзеда (па маці). Сям'я Саладухіных жыве ў Баранавічах ў прыватным доме, Аляксандр з жонкай Таццянай і дачкой-першакласніцай Гануляй з нядаўняга часу па прыкладу бацькоў і з іх дапамогай купілі і пабудавалі свой дом.

Сын Аляксандра Саладухіна названы ў гонар дзеда Мікалая, а дачка носіць імя Ірына. Старэйшы ўнук Аляксандра сам выбраў сабе імя – нарадзіўся на Івана Купалу, імя другому ўнуку Аляксею далі ў адпаведнасці з праваслаўнай традыцыяй.

Старэйшаму сыну цёткі Эміліі муж Аляксей Міхайлавіч Аўхіменя даў імя ў гонар свайго бацькі. Міхаіл з жонкай Тамарай назвалі дачку Марынай, у якой з мужам Віталем Іаскевічам расце дачка Наста, так звалі бабулю Віталя і прабабулю Марыны.

У гонар бабулі Зоні[1] носіць імя дачка Эміліі Сафія, а яе сыны ў сваю чаргу

---

[1] Вядома, што жонкі Прарока мелі імёны Айша, Сафія, Хадыджа. Атрымліваецца, што імёны бабулі і яе роднай сястры мелі пэўнае дачыненне да арабскай традыцыі, але ў сям'і іх называлі Зоняй і Хадзяй, што адпавядала мясцовай традыцыі.

наследуюць імёны дзядоў: Дзмітрый (так звалі дзеда па лініі бацькі Васіля Дзмітрыевіча Лакціонава) і Аляксей (у гонар дзеда Аляксея).

Як распавядалі мне, я названа татам у гонар яго роднай сястры Рузі. Але старэйшая бабуліна сястра таксама мела імя Разалія, так што я нашу сваё імя і ў памяць аб маладой Разаліі Сабалеўскай, роднай сястры бабулі Зоні. Імя для маёй дачкі абраў яе тата Manga Tchoufkreo. Калі я яшчэ знаходзілася ў радзільным доме № 7 г. Мінска, ён напісаў мне запіску: "Назовём её Angelin". Таму адпаведна традыцыі народа Рэспублікі Чад імя дачкі гучыць Анжэлін Манга Туфкрэо, называем Анжэліна, Анжулька.

У гонар дзядулі Алі таксама названы яго самы малодшы ўнук, мой родны брат. Брат даў і свайму сыну імя Аляксандр (Саша) – атрымалася Аляксандр Аляксандравіч Александровіч. Дачка брата ад другога шлюбу была названа Юліяй. Унучка брата атрымала па жаданні сваёй мамы імя Сафія. Трэба меркаць, што тата Амар Дзіасамідзе называе яе яшчэ больш пявуча – Сафіко. Вось такая галінка нашага дрэва з'явілася ў шматнацыянальным Растове-на-Доне.

Хоць і маем мы розныя імёны, прозвішча "Карыцкія" застаецца для нас сімвалам адзінства і, каб замацаваць сваю еднасць, мы (унукі) нават збіраліся, калі будзем атрымліваць пашпарты, запісацца Карыцкімі. Безумоўна, гэта ніяк не павінна было пакрыўдзіць нашых татаў. У выніку ж іх дзеці і засталіся кожны са сваім прозвішчам, а мы з Сафіяй узялі прозвішчы мужоў.

## Пад знакам меншасці

Я даражу тым, што нарадзілася і расла, а, значыць, фармавалася як асоба, пад знакам меншасці. Ужо з дзіцячай пары пачалося маё самасцвярджэнне, непрыкметнае нават для блізкіх. Адбывалася яно без агрэсіі, без жадання абразіць ці прынізіць "большасць". Я дзякую Усявышняму, што ён дапамог мне не здрадзіць сваёй супольнасці, не страціць сябе.

Я заўсёды мела моц падтрымаць тых, каго прыніжаюць не за адмоўныя якасці, а за колер скуры, за іншадумства. Я добра разумею, што як толькі ты аддаеш права іншаму быць не такім, як ты, то пачынаеш заўважаць у гэтым чалавеку шмат цікавага для самога сябе. Я бачу шматграннасць і шматколернасць кожнай асобы, умею гэта ацаніць. Хоць свет і трымаецца на падпарадкаванні большасці, але прагрэс рухаецца меншасцю. Не кожны можа пераадолець агульнае прыцягненне. Але адзінкі вытрымліваюць выпрабаванне. І з'яўляюцца іншыя, новыя і непадобныя!

Мне ў пэўнай ступені было няпроста несці тое, аб чым не разважалі мае аднагодкі – аб сваёй прыналежнасці да іншага народа, які пры гэтым атрымаў "ярлыкі" ад расійскіх і савецкіх гісторыкаў. Таму бязмерна ўдзячна я тым гістарычным пераменам, якія рэабілітавалі ў вачах маіх супляменнікаў іх добрае імя. Нашчадкі воінаў Тахтамыша цяпер ведаюць сваю гісторыю не праз прызму 300-гадовага мангола-татарскага іга і паразы на Куліковым полі войскаў хана Мамая[2]. Новыя пакаленні далучаюцца да сваёй слаўнай мінуўшчыны праз веды аб дабраахвотным пасяленні татараў у Вялікім Княстве Літоўскім, праз перамогу ў Грунвальдскай бітве, у якую татарскія вершнікі ўклалі дзейсны ўнёсак, праз мірнае суіснаванне ў спагадзе і пашане з карэннымі жыхарамі Беларусі.

## Ці цяжка быць меншасцю

Як пад уздзеяннем большасці не страціць сваё? Як пазбегнуць небяспекі любым чынам далучыцца да большасці? Як заставацца моцным у сваёй меншасці і непадобнасці? Як, падтрымліваючы адзінкавасць, не быць адзінокім?

---

[2] Мамай не з'яўляўся нашчадкам чынгізідаў, сілай заняў пасад хана. Ён таму і прайграў бітву, што яго не падтрымалі ў Залатой Ардзе.

Татары здолелі сваім жыццём на землях Беларусі, Літвы і Польшчы сцвердзіць: заставацца не адзінокім, не чужынцам, лягчэй, калі сэрца, душу і цела мацуе еднасць з тым кавалачкам зямлі, на якім ты жывеш, за які трымаешся сваёй працай... “Зямля не здрадзіць...” Як пры жыцці, так і ў вечнасці.

Натуральна гучаць для кожнага беларускага татарына прыказкі: “Мілы той куток, дзе рэзаны пупок”, “Родная зямля мякчэй, чым чужая пярына”, “У чужой старонцы не так свеціць і сонца”.

Хоць і жывуць нешматлікія нашчадкі татарскіх воінаў на зямлі з пераважна славянскім насельніцтвам, у добрым суіснаванні з хрысціянамі (як праваслаўнымі, так і каталікамі), але застаюцца ўсё ж татарамі, спалучаючы ў гэтым этноніме і веру, і нацыянальнасць. Наша вера і традыцыя вучыла жыць у згодзе з народам-гаспадаром: быць добрымі суседзямі, паважаць мясцовыя звычаі, не губляючы і не цураючыся свайго. Мову ж зямлі не толькі ведаць, але берагчы і ўважаць за родную.

Гэтак спакойна, без хістанняў жылі мае продкі. Усё сталася так мудра, што ў адносінах да татараў не ўзнікала ні ў аднаго разумнага беларуса жадання схіліць пад сябе. Татарскія дзеці паступова і без прымусу выбіралі тое, што назіралі ў жыцці блізкіх і дарагіх людзей – трымаліся за сваё без усялякіх ваганняў і разважанняў “лепш так ці горш”, а хутчэй з перакананнем: кожнаму лепш сваё. Але ўсё ж такі тут патрабавалася моц духу, якая выяўлялася ў вырашальныя моманты жыцця. Бо тое, што прасцей, не заўсёды добра. Калі ты не хочаш сыйсці з наканаванага табе шляху, ты павінен быць моцным. Моц духоўная – тая якасць, якая выпрацоўваецца і падтрымліваецца ўчынкамі.

Выхаванне дзяцей у сем’ях беларускіх татараў сёння не кожны назаве этнічным. Хутчэй ідзе працэс нацыянальнага выхавання жыхара гэтай зямлі. Але адбываецца ўсё праз некалькі іншы светапогляд, які ўзнікае і на глебе веравызнання, і далёкіх адгалоскаў жыцця продкаў, што да гэтай пары, як ні дзіўна, жывуць у нас, у нашай крыві! Вернасць традыцыі шчымліва перадаецца паміж роднымі. Наш народ, аддзелены ад мусульманскага свету тысячамі кіламетраў, стагоддзямі пераменлівай гісторыі, здолеў захаваць свае традыцыі. Таму з адыходам папярэдніх пакаленняў, іх нашчадкі сілай памяці аб адчутым у дзяцінстве, шляхам пераймання і самаадукацыі прымаюць, працягваюць і перадаюць сваю “татаршчызну”.

## Пазнакі нашай іншасці: мастацтва мугіроў

Аб тым, што належу, ужываючы сучасную карэктную тэрміналогію, да нацыянальнай меншасці, я зразумела даволі рана. Адным з вызначальнікаў з’яўляліся абразы. Абразы былі ў большасці дамоў бабуліных аднавяскоўцаў. Плоскасныя выявы Маці (Божай) і дзіцяткі (Ісуса) на яе руках з некалькі парушанымі прапорцыямі вакол акаймляліся залацістай ці серабрыстай напаўаб’ёмнай рамкай з тонкага металу. Гэта быў найбольш пашыраны, а, магчыма, і найбольш даступны варыянт. Але тады, у дзяцінстве, аб мастацтве іканапісу ў бліжэйшым акружэнні ніхто не гаварыў. Я ж сілілася зразумець, якая ў абразах тоіцца моц для людзей і чаму з такой пашанай змяшчаюць яны ў куце пакоя гэтыя немудрагелістыя выявы, якія акаймляюць вышыванымі каляровымі ніткамі па белым полі ручнікамі. “Чырвоныя куты” з абразамі былі ў дамах беларусаў, у нас таксама вылучалася покуць і там стол з лавамі ўздоўж сценаў.

Паступова стала зразумелым, што ў дамах татараў такую ж сакральную ролю выконваюць мугіры – змешчаныя пад шклом у звычайнай драўлянай рамачцы тэксты з радкамі прыгожа пераплеценых значкоў і кропак: пячатка Прарока Мухамеда, запісаная для нас у імя Алаха. Мугіры з’яўляюцца неад’емнай часткай нацыянальна-рэлігійнага каларыту ў дамах і храмах татар-мусульман. Само

слова “мугір” засвоіла я пазней. І назва, і выгляд былі незвычайнымі. Нашмат пазней даведалася, што напісаны на мугірах выслоўі з Карана[3]. Словы Карана суправаджаюць зямное жыццё мусульманіна, словы Свяшчэннага пісання асвятляюць шлях чалавека ў лепшы свет – выслоўе з Карана змяшчаецца на надмагільным камені, на далавары[4].

Разглядаючы прыгожыя загагулінкі, маляваныя чорнай фарбай па шкле, я не ведала аб тым, што гэта літары арабскага алфавіта. Мастацтва прыгожага пісьма тут не губляла сябе, хоць і ў не такой дасканалай каліграфіі мясцовага майстра. Падобныя па выкананні мугіры бачыла я ў татарскіх дамах Іванава, Клецка і ў Наваградку ў доме маёй бабулі Халімы[5].

У Гродзенскім музеі гісторыі рэлігіі сабрана цікавая калекцыя мугіроў. Каштоўнасць для даследчыкаў уяўляе клецкі мугір, зроблены ў 1912 г. Мугір з'яўляецца ўнікальным помнікам культуры беларускіх татараў. Ён упрыгожаны раслінным арнаментам: кветкі, галінкі, два вазоны, дзве стылізаваныя выявы Клецкай мячэці. Выкананы ў тэхніцы ручной вышыўкі па кардоне, арабскай вяззю вышытыя словы “У імя Алаха Міласцівага, Міласэрнага”, “Няма Бога акрамя Алаха, Мухамед прарок Алаха”. Выслоўе “О, Алах. О, Уладыка” паўтараецца 22 разы.

Часта сустракаюцца ў татарскіх дамах намаляваныя на шкле мугіры Шаміля Раецкага (1907-1977). Шаміль Раецкі – патомны жыхар Мінска, бацьку яго звалі Алі, а дзеда Канстанцін. Ажаніўся з Марыяй з Міськевічаў, маці якой паходзіла з роду клецкіх татар Александровічаў[6]. Увесь час нямецкай акупацыі сям'я Раецкіх пражыла ў Мінску на вул. Заслаўскай (Татарскае прадмесце), на куце Рэспубліканскай і Нямігі, што было недалёка ад абутковай фабрыкі імя Калініна (у той час імя Кагановіча). Ш. Раецкі не быў на фронце, у Чырвонай Арміі, у сувязі з траўмай. Яшчэ да вайны падчас працы на тартаку (лесапілцы) яму адрэзала пальцы левай рукі. Дома даводзілася шмат працаваць на гаспадарцы, сям'я з цяжкасцямі выжывала. Беднасць працягвалася і пасля вайны. Прыйшлося заняцца маляваннем, бо пэндзаль у правай руцэ і невялікага памеру шкло – такое было па сілах. Дапамагалі яму ў гэтым жонка і сын, якія таксама засвоілі тэхналогію[7]. Са шкла таўшчынёй тры міліметры вырэзвалася аснова памерам прыкладна 30х40 см. Рыхтаваўся трафарэт у форме букета кветак. Сын назіраў за працай бацькі, таму добра памятае, як гэта рабілася. Пяро, змочанае ў чорную туш, лёгка слізгае па гладкай паверхні, наводзячы контуры малюнка, якія потым запаўняюцца фарбай патрэбнага колеру. Празрыстымі акрылавымі фарбамі свяціліся кветкі – сінія, зялёныя, чырвоныя, жоўтыя – атрымліваўся букет. Лісце было непразрыстым, малявалася алеем. Поле вакол малюнка з тыльнага боку пакрывалася чорнай друкарскай фарбай. Затым майстар злёгку мяў серабрыстую фольгу дзеля надання фактуры і прыкладаў знізу шкла. Адваротны бок закрываў лістом кардону і рабіў акантоўку, бо рамкі былі дарагімі і таму выкарыстоўваліся рэдка. Заставалася прымацаваць пяцельку – «карцінка» гатовая заняць месца ў хаце пакупніка.

Адкуль жа з'явілася ў Шаміля Раецкага думка пачаць выкарыстоўваць для стварэння мугіроў тэхніку малявання фарбамі па шкле? Знаходжу такі варыянт

---

[3] Тут прыходзіць на памяць біблейскае “Спачатку было слова”. Біблія ўважаецца мусульманамі як больш ранняе, але не апошняе пасланне Усявышняга.

[4] Сувой з малітвамі, які пры пахаванні клалі побач з нябожчыкам ці асобым чынам абмотвалі ім нябожчыка.

[5] Мама майго таты Адама Сулейманавіча Александровіча; дзед Сулейман памёр у 1956 годзе, калі мне было прыкладна поўгода.

[6] Брат Марусі жыў у Маскве, быў заслужаным настаўнікам Расіі; другі брат – палкоўнік.

[7] Роспіс па шкле вядомы ў Беларусі з пачатку XX ст. Пэўны ўплыў на яго пашырэнне аказалі польскія майстры-рамеснікі, якія са сваім таварам траплялі ў Беларусь [Сахута, Я.М. Народнае мастацтва Беларусі. – Мінск: БелЭн, 1997. – 287 с. С. 234]

адказу: “Калі беларускі роспіс па шкле ў большасці выпадкаў арнаментальна-дэкаратыўны, то ў народаў Цэнтральнай Еўропы роспіс па шкле меў цалкам сакральны характар – пераважна рэлігійны”[8]. Ці знаёмы быў Шаміль Раецкі з традыцыямі народаў Цэнтральнай Еўропы? Напрыклад, Польшчы, дзе жылі татары і меліся мячэці. Ці маляваў ён мячэці? Цяжка сказаць. Але ёсць мугіры са словамі-запаведзямі ў акаймленні кветак беларускіх палёў і агародчыкаў. Мугіры ён складваў у чамадан і ехаў на радзіму жонкі ў Клецк, а таксама ў Нясвіж, дзе і прадаваў ці абменьваў свае працы на ежу. Мяркую, што такім шляхам трапілі яго мугіры ў дамы маіх сваякоў з Клецка, Іванава, Наваградка. Вельмі ўсцешана тым, што даведалася пра гісторыю з’яўлення маляваных мугіроў[9] .

У доме ў Іванава мугір вісеў на сцяне, уздоўж якой стаяла лава, а перад ёй стол, засланы ільняным абрусам. Гэтае месца – традыцыйны “кут”. Толькі мугір вісеў не на куце, а паміж ім і акном – насупраць уваходу ў пакой. У простай драўлянай рамачцы пад шклом была “карціна”, пра якую ў дзяцінстве я думала, што створана яна спецыяльна для дзяцей. Я любіла разглядаць яе, выкладзеную з серабрыстай фольгі, якая пад празрыстай каляровай фарбай свяцілася чырвоным, зялёным і залацістым адценнямі.

У такую фольгу абгортвалі шакаладныя цукеркі. Мы збіралі абгорткі, складвалі іх у скрыначку. Пасля выкладвалі ў ямцы з фальгі мазаічныя “сакрэты”, якія дапаўнялі травінкамі і каменьчыкамі, затым прыціскалі шкельцам і прысыпалі зямлёй.

Гледзячы на ланцужкі літар мугіра, кожны раз можна было ўяўляць нешта новае. Пэўныя асацыяцыі-параўнанні ўзнікалі і з зорным небам. Тым больш, што вакол літар была цёмная, як начное неба прастора пасярэдзіне з паўмесяцам і зорачкай, за гэтай прасторай – бясконцасць.

## Музейчык у шуфлядзе

Быў у нас своеасаблівы хатні музейчык. Ён месціўся ў ніжняй скрыні шафы. Скрыню мы называлі “шуфлядай”. Ужо сама назва вымушала ставіцца з павагай да таго, што месцілася там. Гэтая назва так намоцна ўвайшла ў маю мову, што і размаўляючы па-руску, я не замяняла яе на іншую. Усе астатнія словы-сінонімы не падыходзілі.

У кожнай сям’і татар-мусульман ёсць, як мінімум, дзве рэчы, якія займаюць асаблівае месца ў доме, іх гаспадары вылучаюць сярод іншых, ім надаецца сакральнае значэнне. Гэта згаданы мугір – ён змяшчаецца на сцяне насупраць уваходу ў пакой. У шуфлядзе ляжала яшчэ адна рэч, якую звычайна трымаюць на адным і тым жа месцы загорнутай у кавалак тканіны. Мы ведалі – яна вельмі важная. Гэта кніжачка, якую дзядуля і бабуля асабліва шануюць. Ведалі, што яна з’яўляецца недатыкальнай ў сэнсе гульняў ці неахайнага абыходжання – можна браць вельмі акуратна і класці зноў на сваё месца. Памятаю, як асцярожна разгарнуўшы тканіну, мы глядзелі на невялікую кніжачку ў скураной вокладцы з выціснутымі на ёй малюначкамі-літарамі. У перакладзе з арабскай мовы “хамаіл” – тое, што трэба заўсёды мець пры сабе. І сапраўды, нават у тыя часы амаль забароненага існавання рэлігіі, хамаілы захоўваліся ў кожнай татарскай сям’і. Ды і схаваць ад чужога вока іх не цяжка. Людзі старэйшага пакалення, якія ў свой час былі навучаныя чытаць па-арабску, карысталіся хамаіламі падчас малення. Бралі хамаілы з дому тады, калі ехалі на “мізар” – мусульманскія могілкі. У хамаіле змяшчаліся малітвы на кожны выпадак. Сярод рукапісных кніг у некаторых дамах

[8] Тамсама.

[9] Упершыню імя Шаміля Раецкага пачула ад стрыечных братоў яго жонкі Хасеня і Ісмаіла Александровічаў. Дзякуючы ім выйшла на размову з сынам Ш. Раецкага.

меліся Кітабы. Але найперш цяжка ўявіць татарскі дом без Кур'ана. Мяркую, што ў свой час быў ён і ў нашай сям'і.

Фотаздымкамі ўпрыгожвалі сцены пакояў. На фотакартцы з архіва жонкі імама Варшавы Алі Врановіча зняты момант, калі Эва грае на піяніна ў доме бацькоў у Клецку; на сцяне вісяць у рамках сямейныя фотаздымкі, а таксама фота Мінскай мячэці. Некаторыя прадметы з сямейных калекцый татар, якія жывуць у Польшчы, былі прадстаўлены на выставе ў Гданьску (2002 г.), па матэрыялах выставы падрыхтаваны каталог, змест якога шмат аб чым нагадае і татарам Беларусі. У 2003 г. мною перададзена ў Нацыянальны гістарычны музей калекцыя візітных картак з архіва сям'і палкоўніка Гасана Канапацкага[10], а таксама серыя партрэтных фотаздымкаў татар-мінчукоў пач. XX ст.; гэтыя матэрыялы ў хуткім часе былі прадстаўлены ў экспазіцыі выставы, прысвечанай Мінску губернскаму.

## Традыцыі і ўзаемаўплывы

Традыцыі татар найбольш звязаны з этнічным і рэлігійным. Тут існуе пэўная замкнёнасць перад прадстаўнікамі іншых этнасаў. Патрабаванні традыцыі аднолькавыя для ўсіх. Найбольш паважанымі з'яўляюцца старэйшыя (старэйшыны), а не багацейшыя. Традыцыйнай з'яўляецца падтрымка бяднейшых ці нечым абяздоленых. Даволі важным з'яўляецца абрад пахавання, які павінен быць выкананы прыстойна, але не пышна; надмагіллі не вычурныя, але з абавязковымі атрыбутамі.

*Памінанне продкаў.* Цікава параўнаць святкаванне Восеньскіх Дзядоў на Дзісеншчыне[11] з вячэрай, якую ладзяць татары ў памяць аб памерлых. Напярэдадні Дзядоў з самай раніцы жанкі прымаліся за капітальную чыстку хаты і ўсіх гаспадарскіх пабудоў. Вечарам уносілі дзяжу, ставілі яе на "крыжох", сярод хаты, пакрывалі чыстым абрусам і садзіліся за стол вячэраць. У час вячэры лічылі "дзядоў", г.зн. прыпаміналі ўсіх памерлых продкаў. Пасля вячэры расчынялі "дзядоўскі хлеб" і на другі дзень пяклі столькі боханаў, колькі налічылі "дзядоў". Раніцай ехалі ў царкву і там раздавалі боханы ўбогім, кожнаму па адным. Велічыня бахонкаў залежала ад заможнасці сям'і: сем'і багатыя пяклі вялікія бахонкі, а бедныя абмяжоўваліся "бондачкамі" з кулак велічынёй.

На вячэру бывалі запрошаны бедныя з суседзяў. Перад вячэрай маліліся па памерлых. На заканчэнне была "саламатка" – сушаныя яблыкі, грушы і ягады, вараныя на мёдзе. Або замест "саламяткі" аўсяны кісель з мядовай сытой. Варылі на вячэру больш, чым трэба было: рэшткі пасля раздавалі, кожны вяртаўся дамоў з пакункам.

Пасля час прысвячаўся гутаркам пра ўчынкі продкаў. Пасядзеўшы і пагутарыўшы на тэмы, пахвальныя для продкаў, разыходзіліся.

Абрад памінання продкаў татарамі-мусульманамі ўключае некаторыя моманты, блізкія да таго, што выконвалі беларусы. Рыхтаваўся пачастунак у памяць аб памерлых – "садага". Рытуальнымі з'яўляюцца "гальма" ці "джаймы", але найчасцей выпякаліся булачкі з разынкамі. Апошнім часам "на садагу" купляюць цукеркі, печыва. Садага павінна складацца з 40 частак ці ў 1,5-2 разы больш – гэта залежыць ад колькасці людзей, паміж якімі будзе дзяліцца *садага*. У час вячэры спачатку моляцца, а хто не моліцца, той проста прысутнічае. У татар прынята складаць для малітвы спіс з імён людзей, якіх памінаюць: "Аміня дачка Зоні", "Куба сын Хавы" і інш. Пасля вячэраюць. Існуюць памінальныя стравы, сярод якіх рысавая

---

[10] Камандуючы беларускім войскам, старшыня Беларускай вайсковай камісіі (1919 – 1920). Матэрыялы перадаў Мацей-Муса Гасанавіч Канапацкі.

[11] Узгадка пра святкаванне восеньскіх "дзядоў" на Дзісеншчыне. Перадрук з час. "Крывіч" // Наша слова. – 1990. – № 8. – С. 7.

каша на малацэ і масле з разынкамі. На заканчэнне – кампот з сушаных яблык, груш, сліў або мядовая сыта. Пасля памінальнай вячэры, як і пасля малення ў мячэці ці на мізары, дзеляць садагу, падаючы правай рукой кожнаму пакунак з загаддзя раскладзенымі пачастункамі.

Беларускія татары стварылі свае моўныя выразы, у якіх назіраецца спалучэнне запазычанай лексікі і традыцыя беларускага граматычнага афармлення:

*“Дзяліць садагу”* – даваць пачастунак у памяць аб памерлых.

*“Загладзіць альхам”* – вымавіць словы “альхам ...” і правесці далонямі ўздоўж твару.

Мясцовымі татарамі многія запазычаныя з арабскай і цюркскіх моў словы рэлігійнай лексікі прыстасаваны да беларускай ці польскай фанетыкі, а спалучэнні слоў – да граматыкі. Назіраецца і такая лінгвістычная з’ява як *метатэза* (ад грэч. “перастаноўка”), калі адбываецца перастаноўка гукаў ўнутры слова: дуалар – далавар, мулла – мулна, мална.

*Дуайка* – слова ўзнікла на мясцовай глебе, памяншальная форма ад “дуа” (у перакладзе з арабскай мовы “малітва”).

*Далавар* (мясцовая форма ад слова “дуалар”: “лар” – суфікс множнага ліку ў турэцкай мове) – сувой з малітвамі, якім абмотвалі нябожчыка ці клалі з ім побач.

*Хамаіл* (з арабскай “тое, што заўсёды пры сабе”) – малітоўнік, звычайна друкаваная ці рукапісная кніжачка кішэннага памеру.

*Гальма* – рытуальны пачастунак, прыгатаваны адмысловым чынам з роўных частак мукі, масла, мёду.

*Джайма* (з кіргізскай мовы “ляпёшка”; “яйма” караімскае – ляпёшкі, макароны; “яймак” – разгортваць) – рытуальная страва ў выглядзе тонкага бліна, спечанага з мукі на сметанковым масле.

*Сыта* – напой з мёду.

## Беларуская мова

Далучэнне да беларускай мовы пачыналася праз бабуліну вёску, суседзяў. Бабуля сама была часткай моўнага асяроддзя. З лёгкасцю, як быццам бы ў працяг сваёй гаворкі, чытала на памяць творы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Помніцца, як яна зачытвала па памяці ўрыўкі з “Новай зямлі” Коласа (часта пры гэтым прамаўляла імя аўтара, назву твора)[12]. Чытала таксама “Алесю” Купалы: “Кукавала зязюля ў зялёным лесе...”

У Наваградку былі ў нас кнігі беларускіх аўтараў, як набытыя мамай, так і падараваныя ёй вучнямі (з подпісамі – гэтая традыцыя ўжо не існуе). Паступова маміна бібліятэчка стала папаўняцца кнігамі па пытаннях дашкольнага выхавання, бо працу настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў Куравічах[13] яна вымушаная была пакінуць – цяжка дабірацца: зімой на кані з Наваградка сустракаў тата, а летам даводзілася вяртацца і пешкі.

У вёсцы жывая беларуская гаворка лілася натуральна. Усе словы паступова ты разумееў, гэта замацоўваўся ў падсвядомасці. Бо ў горадзе – не з-за пагарды да мовы, а з прычыны юнацкага максімалізму – дбала я за чысціню мовы. Не прымала не толькі “трасянкі”, але нават асобных памылак у рускай мове – ва ўжыванні канчаткаў, пастаноўцы націску. Уся гэтая непрымальнасць знікала без следу, як толькі, прайшоўшы з паўкіламетры ад Пукелеўшчыны, уваходзіла ў

---

[12] Яе пляменнік Алі Адамавіч Александровіч (сын Гэлі Сабалеўскай) у сваіх успамінах таксама прыводзіць урывак з гэтай паэмы. Магчыма, і ён у сваім дзяцінстве чуў бабуліна чытанне ці запомніў вершы са школьных гадоў.

[13] Дырэктарам быў бацька вядомага архівіста Віталя Скалабана. Ад гэтага часу засталося некалькі фотаздымкаў настаўнікаў з вучнямі.

Іванава. Па-першае, было неабходна кожнаму сказаць: “Дзень добры”. Ісці тут жа далей не адразу выпадала. Маглі яшчэ распытваць, адкуль мы, хто бацька, ці надоўга прыехалі. Калі чалавек на гэтым заставаўся задаволены, то мы ішлі далей, да наступнага сустрэчнага, дзе ўсё пачыналася спачатку. Было няцяжка прытрымлівацца мясцовай традыцыі ў звычаях, у размове. На пытанні адказвалі на той гаворцы, якая прынята была ў вёсцы. Тады і твая мова “не выпінала”, не рэзала слых, размова лёгка складвалася.

Адтуль, з дзяцінства, ад маёй бабулі і яе аднавяскоўцаў маё спасціжэнне мовы роднай зямлі, адчуванне яе прыгажосці і каштоўнасці. Словы, якія прамаўляла мая бабуля, мелі не проста назыўную ролю. Гэта былі пачуцці. Пачуцці натуральныя і шчырыя, афарбаваныя такімі ж натуральнымі гукамі. Сярод гукаў яе мовы, на ўзроўні адкрытасці нашых душаў, смешнымі і несапраўднымі былі мяккія “ч”, “щ” і “р” ці звонкае “г”. Як мова, так і пачуцці нашыя былі чысцюткімі.

## Чаму родная нам беларуская мова?

З часу пасялення ў канцы XIV ст. у Вялікім Княстве Літоўскім толькі праз два стагоддзі татары пачалі пераходзіць на карыстанне мовамі тых дзяржаваў, якія ўзнікалі на гэтых землях. Гэтымі мовамі адпаведна былі – беларуская, польская, руская. Татарын-пахаджай з ВКЛ на адваротным шляху ў Мекку спыніўся ў сярэдзіне XVI ст. у Турцыі, дзе напісаў для турэцкага султана Сулеймана “Рысале”[14]. У гэтым дакуменце ўтрымліваюцца звесткі аб пераходзе татараў на мову дзяржавы, у якой яны жывуць. Пазней, у XVII ст., турэцкі гісторык Ібрагім Паша пацвердзіў гэты факт. Паступова губляючы сваю кіпчацкую – адну з цюркскіх моваў, а таксама турэцкую, якую татары добра ведалі, у сваіх набажэнствах яны працягвалі выкарыстоўваць арабскую мову – мову святога пісання, а ў побыце беларускую мову – мову гэтай зямлі.

Яскравымі сведчаннямі аб мове “літоўскіх” татараў з’яўляюцца іх рукапісныя кнігі, сярод якіх найперш Кітабы (Аль-Кітабы, Ай-Кітабы) – кнігі рэлігійнага зместу, пісаныя арабскай графікай на мясцовай мове. Адкрыццё аднаго з Кітабаў і яго апісанне належыць дзеячу беларускага Адраджэння з татарскімі каранямі Івану Луцкевічу. У Кітабах, у адрозненне ад хамаілаў (малітоўнікаў), змяшчаюцца парады і павучанні сацыяльнага характару, напрыклад, павучанне “Пра шанаванне бацькі і маці”[15], аб ненавучаным багамольцы і інш.[16] Спецыялісты вызначаюць, што спачатку мова Кітабаў была беларускай з невялікімі ўкрапінамі паланізмаў, затым колькасць паланізмаў павялічвалася і ўрэшце адбыўся пераход на польскую мову. Па меры вывучэння Кітабаў у мовазнаўстве ўзнікла асобнае адгалінаванне – кітабістыка, якая з нядаўняга часу выкладаецца ў адным з універсітэтаў у Польшчы і, спадзяюся, хутка стане прадметам выкладання ў адным з нашых нацыянальных універсітэтаў.

## Цяга да адукацыі

Наша бабуля Зоф’я скончыла ў Санкт-Пецярбурзе 4 класы жаночай гімназіі. Адтуль, з дзяцінства, намоцна запомніліся ёй вершы рускіх паэтаў – найперш Пушкіна і Лермантава, памятаецца мне і чытанне верша Некрасава, бо бабуля заўсёды называла імя аўтара. З той пары выдатна засвоіла арыфметыку, пазней дапамагала рашаць задачы дочкам, навучэнкам пачатковых класаў Ланскай школы.

---

[14] “Трактат пра літоўскіх (польскіх) татар” (“Risale-i-Tatar-i-Lech”), 1557–1558 гг.

[15] Байрам. – 1996. – № 1-2. – С. 54.

[16] Змест Кітабаў — усходнія легенды, казкі, прыгодніцкія аповеды, апісанні мусульманскіх рытуалаў; Мерадж – паэма пра ўзнясенне Магамета ў нябёсы, маральна-этычныя павучанні для моладзі (пра шанаванне бацькоў, гасцей, жабракоў, сіротаў, суседзяў ды інш.), варажба па літарах Карана, разгадка сноў.

Па вяртанні на радзіму прайшла некалькі класаў навучання ў польскай школе. У школе вучыла вершы класікаў польскай літаратуры. Магчыма там жа, а можа разам са школьніцамі-дочкамі, і Купалу? Калі дэкламавала яго верш, то казала: гэта беларускі паэт Янка Купала. Таму не ведаю, ад каго першага пачула гэтае імя. Хутчэй ад бабулі. Калі я сказала, што ў вольны час працую экскурсаводам па маршруце "Зямлёю Купалы", то чыталі разам па памяці "Я мужык-беларус". Яна пачала, а я падхапіла. Бабулі гэта дадало яшчэ больш ахвоты. Я вельмі любіла яе зацікаўленасць, але такога імпэту нават і не чакала.

Калі дочкі вучыліся ў Баранавічскім педагагічным інстытуце, а пазней з сем'ямі жылі асобна, бабуля пісала лісты, таксама і старэйшаму ўнуку Леаніду. Я ж асабіста перапісвалася з самай малодшай сястрой бабулі Евай Гачко[17] з Палонкі, захоўваю некалькі яе апошніх лістоў.

Хоць дзядуля меў толькі адзін год вучобы ў польскай школе, але атрымаў добрую мусульманскую адукацыю. Вельмі прыгожа спяваў малітву "Аль-Іфлям", з якой пачынаецца сура "Я-Сін" – спяваць "ясень" могуць толькі добра падрыхтаваныя людзі. Гэтую суру мусульмане называюць сэрцам Кур'ана і чытаецца яна "за душы" памерлых блізкіх людзей ці "за здароўе" тых, хто адчувае сябе дрэнна. Прытрымліваўся дзядуля і абавязку мусульманіна на ахвяраванні. Здолеў выгадаваць ахвярнага быка на адзін з Курбан-Байрамаў, прадаў і грошы раздаў бедным.

Традыцыя вучыць дзяцей мусульманскай грамаце існавала ў Беларусі з часоў ВКЛ. У мястэчках мусульманскія школкі знаходзіліся ў асобных будынках, ва ўласных сядзібах годжыяў ці гаджыняў (настаўніц, найчасцей жонак імамаў). У передваеннай Польшчы пры кожнай мячэці быў парафіяльны дом. У Іўі будынак мусульманскай школы быў пабудаваны ў 1922 г. на грошы татараў-эмігрантаў, што выехалі перад Першай сусветнай вайной.

Там, дзе не было паблізу мячэці і школкі пры ёй, заняткі праводзіў годжы ў адной з хат. Настаўнікамі былі адукаваныя людзі, таксама хлопчыкі і дзяўчынкі, якія шчыра вучыліся і ведалі асновы веры. За гэта атрымлівалі невялікую плату. Працавалі і "за сп*а*сенне" (паводле мусульманскай веры на тым свеце чалавеку будзе аддадзена за добрыя справы).

Дзяцей вучылі пісаць зычныя літары арабскага алфавіта, з'ядноўваць іх разам, бо напісанне некалькіх літар злітна адрозніваецца ад напісання асобных літар. Таксама вучылі пазначаць значкамі галосныя літары. Спачатку чыталі словы па складах, а затым вымаўлялі іх поўнасцю. Пасля чыталі кніжачкі (суфры), асобныя часткі Кур'ана, прамаўлялі асобныя выслоўі (аяты), сэнс якіх пазнаваўся з перакладаў Кур'ана на рускую ці польскую мову. Вышэйшае дасягненне, якое патрабуе майстэрства – спяванне Кур'ана.

Вучань, які пазнаёміўся са свяшчэннай кнігай мусульман, называўся кураджэем. Кожны стараўся асвоіць чытанне хамаіла (малітоўніка). Хамаілы пісаліся ад рукі, у такіх хамаілах дзеянні апісваліся арабскімі літарамі па-беларуску ці па-польску чырвоным атрамантам[18]. Цікавая асаблівасць: хоць на самой справе чытаць вучылі па-арабску, але да цяперашняга часу можна пачуць, як звыкла гаворацць татары старэйшага пакалення: "Нас вучылі чытаць па-татарску".

П. Шпілеўскі ў "Падарожжы па Палессі і беларускім краі" апісваў стан адукацыі мясцовых татараў: "Дзяцей сваіх імкнуцца навучыць арабскай грамаце. У г. Мінску, пры мячэці, знаходзяцца татары, якія выдатна пішуць па-арабску; яны займаюцца перапісваннем Кур'ана і іншых твораў духоўнага зместу. Адпраўляюць сваіх дзяцей ва ўезныя вучэльні і праз гэта адкрываюць ім новае жыццё: пазней

[17] Бабуліна сястра, таксама яе муж Аляксей Гачко, іх дзеці сталі педагогамі.
[18] Атрамант выкарыстоўвалі толькі з натуральных рэчываў: шафран і інш.

гэтая моладзь ідзе служыць і прыносіць карысць грамадству. Татарская шляхта жыве і выхоўваецца, як і іншая шляхта, сярод яе можна знайсці шмат адукаваных людзей. Многія з іх акрамя еўрапейскіх моў валодаюць яшчэ турэцкай, татарскай і арабскай мовамі".

Тры сястры Карыцкія вучыліся "пры Польшчы" ў Ланскай школе. Прыкладна так выхоўваліся дзеці і ў іншых татарскіх сем'ях. Рамуальд і Янак з сям'і Мацвея і Разаліі Сабалеўскіх закончылі рэлігійную мусульманскую школу ў годжыя ў Іванаве і польскую паўшэхную школу ў Лані. Узгадвалі, што на ўрокі рэлігіі прыходзілі настаўнікі кожнай з канфесій і вучні разыходзіліся ў розныя класы. Дзеці-мусульмане таксама мелі свайго настаўніка.

Да Другой сусветнай вайны навучанне ў Ланскай школе вялося на польскай мове, а з 1939-41 гг. на беларускай мове. Кожная сястра чытала па-польску і па-беларуску. Міля скончыла 9 класаў у 1947 г., Аля і Ліля крыху пазней. Паступалі ў Баранавічскі педагагічны інстытут па чарзе, Аля і Ліля амаль разам. Тры сястры старанна вучыліся, вылучаліся добразычлівасцю і ў кожнай з'явіліся сяброўкі, аб чым сведчаць фотаздымкі з аўтографамі, якія асабліва цікава пераглядаць цяпер, калі гэта сышло ў мінулае, але з'яўляецца кранальным яго сведчаннем. Пра гэта можна пісаць асобна, але прывяду для прыкладу адзін подпіс: "Пройдут года и сменятся годами, от прошлого останется лишь только след, и в знак того, что были мы друзьями останется вот этот документ. В минуту жизни настоящей на память будущим годам – от Сабины для Лили, г. Барановичи, 20 – I – 1951 г."

## Я любіла яе слухаць

Бабуля любіла чытаць. Чытала кнігі, газеты. Адна з нямногіх у вёсцы абавязкова выпісвала часопісы. Яна вылучала рознага кшталту парады, навіны. Пры гэтым можна было заўважыць, што любіла рабіць адкрыцці для сябе, даведвацца аб тым, да чаго не дадумалася сама ці, наадварот, знаходзіць тое, што падмацоўвала яе назіранні, асабісты вопыт. Вельмі цікавілі яе лёсы асобных людзей. Прозвішчы некаторых запаміналa, а гісторыі з іх жыцця пераказвала нам. Жыццё ў расійскай сталіцы пакінула ў памяці прозвішчы "Раманавы", "Распуцін". Пазней не была абыякавай да асобы кіраўніка дзяржавы. Памятаю, як сачыла за ўчынкамі Гарбачова і калі казала аб ім, то вымаўляла цалкам: імя, імя па бацьку і прозвішча.

Нельга сказаць, што наша бабуля была казачніцай. Але пад вечар прыемна было слухаць гісторыі, можа, не надта незвычайныя і маляўнічыя, але цікавыя пабудовай сюжэту, дзеяннямі герояў, за якімі недзе далёка былі схаваныя ўражанні яе дзяцінства. Пазней любіла яна пераказваць пачутае па радыё, бо "радыёкропку" бабуля слухала з задавальненнем.

Добра складваліся нашыя размовы ў доўгія восеньскія ці зімовыя вечары, калі прыязджала праведаць бабулю на выхадныя. Павячэраўшы, патушыўшы святло, мы лягалі пад цёплыя пуховыя коўдры, і пачыналася размова. Бабуля з цікавасцю слухала, калі я расказвала аб падарожжах у другія гарады, назвы якіх яна чула, але не ўяўляла, што за некалькі гадзін на самалёце можна лёгка трапіць у Баку ці ў Кіеў, на Каўказ ці ў Крым. Цікавіла яе і жыццё Мінска. Памятаю, як расказвала ёй пра наведванне ў Мінску тэатра імя Янкі Купалы і п'есу "Паўлінка".

Пыталася бабуля пра работу, вучобу: ці добра мне, ці падабаецца. Умеючы слухаць, свае пытанні задавала нязмушана. Любіла пачуць яе працяжна-задуменныя: "цікава", "добра". Асаблівых павучанняў не памятаю, толькі некаторыя парады. Прычым паўтараліся яны ў розныя сустрэчы: новых словаў яна не шукала для перадачы таго, что вылучала як карыснае. А ці не вякамі паўтараем

мы адну і тую ж мудрасць? Але бабуліны парады не былі ўнушэннямі, яны былі маралізатарствам. Яна як бы прапаноўвала і раілася адначасова.

Загадзя я думала, аб чым раскажу ёй пры сустрэчы. Хацелася зацікавіць, бо ведала – гэта штуршок для разважанняў, калі бабуля застанецца адна. Але я нават і не здагадвалася, што да такой ступені магу ўзрушыць яе аповедам аб смерці сям'і Раманавых. Бабуля была вельмі здзіўлена тым, як гэта адбылося. Не памятаю, якія словы яна казала, калі я, сама ўзрушаная адкрыццём той жахлівай праўды, распавядала ёй. Памятала, што бабуля, калі ўзгадвала перыяд свайго пецярбурскага жыцця, часта казала, што ў Пецярбурзе жылі яны “пры Раманавых”. Пры “цары” яна не казала, таму і рэакцыя была такой, як быццам адбылося тое, што непасрэдна тычылася яе жыцця. Безумоўна, у сям'і было вядома аб мерапрыемствах, звязаных са святкаваннем 300-годдзя дома Раманавых. Магчыма, бачылі ў некага са сваякоў юбілейны медаль, зацверджаны па загадзе цара Мікалая ІІ.

Асобна стаялі расповеды аб жыцці ў Санкт-Пецярбурзе, аб дзядзьках з роду Міськевічаў, што пасяліліся ў паўночнай сталіцы і ў цяжкі час Першай сусветнай вайны забралі з Іванава сям'ю сястры. Бабуля даволі часта з прыемнасцю ўзгадвала, як і пасля іх вяртання ў Іванава кожны месяц для падтрымкі і ў знак памяці высылаліся 5 рублёў. Начальнік Ланскай пошты заўсёды пытаўся: “Сколько этот Ваш Б*е*кір получает?”

Пра жыццё ў сталіцы Расійскай імперыі мы слухалі як пра нешта зусім незвычайнае. Сабалеўскія з Іванава апынуліся ў Санкт-Пецярбурзе падчас Першай сусветнай вайны. Сям'ю падтрымлівалі родныя браты нашай прабабулі Эміліі з роду Міськевічаў з Клецка. Бікір і Абрагам (Ібрагім) Міськевічы жылі ў дастатку. Адзін з братоў меў (магчыма, у Маскве) сваю друкарню. Другі быў інжынерам, працаваў на чыгунцы, куды ўладкаваў нашага прадзеда Іосіфа Якаўлевіча Сабалеўскага[19]. Для сям'і сястры браты знялі асобную вялікую кватэру на Васільеўскім востраве, ІІ-я лінія. Дзяўчынкі хадзілі ў жаночую гімназію. Чытаць і маліцца па-арабску вучыліся дома, быў запрошаны настаўнік мусульманскай граматы “дзядзя Яша”. Жонка аднаго з братоў Міськевічаў вучыла іх добрым манерам, у тым ліку як правільна сервіраваць стол. Старанні гэтай цудоўнай жанчыны, якая апекавалася над дзяўчынкамі, у любым выпадку не былі дарэмнымі, але ў далейшым пэўныя навыкі на вясковы лад жыцця проста не кладліся. Калі бабуля ўзгадвала Пецярбург, то казала не аб паходжанні, а аб прафесіях сваякоў, іх адукаванасці, учынках, пэўных нормах этыкету.

У Санкт-Пецярбурзе на святы разам са сваякамі з сем'яў Міськевічаў члены сям'і Іосіфа Сабалеўскага хадзілі ў мячэць. Пры Мікалаі ІІ была пабудаваная адна з самых вялікіх і прыгожых мячэцей паўночнай сталіцы. Існаваў мусульманскі прыход часткі імператарскай гвардыі Санкт-Пецярбурскага гарнізона. Пэўны час гэты прыход знаходзіўся пад апекай імама Баязітава. Аднаго разу сустрэлі ў мячэці земляка з Іванава – Стэфана Абрагімовіча, які служыў у царскай арміі і ў сувязі з мусульманскім святам атрымаў звальненне, а таксама грошы на дробныя расходы.

Пасля рэвалюцыйнага перавароту ў Петраградзе ўзнік Камітэт татараў Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны. Старшынёй праўлення быў Аляксандр Ахматовіч, намеснікам старшыні Ібрагім Міськевіч[20].

---

[19] У Пецярбурзе ў той час жыло шмат простых татараў з Паволжжа, канкурэнцыю ў працоўных месцах ім складалі фіны: татары працавалі дворнікамі, фіны – фурманамі.

[20] Яго брат Бякір Аляксандраў Міськевіч, інжынер дарог і камунікацыяў, стаў адным з кіраўнікоў Варшаўскага таварыства дапамогі мусульманам.

## Без гучных словаў

У зносінах паміж намі не было прынята выказвацца гучнымі і штучнымі словамі. Усё цёплае, пяшчотнае пераносілася на ўзровень пачуццёвы, ды і гэты бок знешне выяўляўся стрымана, што не дазваляла парушыць чысціню зносінаў і пазбаўляла іх двухсэнсоўнасці. На разнастайныя ветлівыя словы, а тым больш фразы, былі мы даволі “скупымі”. Неяк так атрымлівалася, што ветлівасць выяўлялася намі з дапамогай “дзякую”, “на здароўе”, “калі ласка”. Цяпер, калі разважаю аб вылучэнні словаў-сімвалаў, здаецца, што менавіта гучанне гэтых словаў напоўнена асаблівай энергетыкай і мае моцную сувязь чалавека з роднай зямлёй.

У нашай сям’і рэдка чулася “прабач”. І практычна не чулася так распаўсюджанае сярод дзяцей “я больш так не буду” – на ўжыванне якога вымушаюць дзяцей многія дарослыя, як быццам не ведаюць, колькі яшчэ разоў дзіця “будзе”. Можа таму, што абяцаць і пасля не быць у сілах стрымаць сябе – гэта і слабасць, і штуршок да хітрасці. А вось хітрасць сярод нас вельмі не ўважалася. Хітрыць горш за ўсялякія свавольствы і агрэхі.

Даўно ўжо ўнукі Карыцкіх выраслі. У нашым жыцці стараемся паводзіць сябе так, каб як мага менш спатрэбілася прасіць прабачэння. Хоць сказаць “прабач” стала не так ужо і цяжка, але было б лепш, каб гэтае “сур’ёзнае” слова мела яшчэ адзін сінонім на выпадак, калі проста неабходна падаць знак перапрашэння.

Што тычыцца зваротаў, то ў Іванаве было прынята называць адзін аднаго па прозвішчы, а жанчын “Роўбіха”, “Самалёціха”. Бабулю суседзі называлі ці па прозвішчы “Карыцкая”, а часцей дабрадушна “пані Карыцкая”. Хоць “пані”, “пан” спрабавалі замяніць “таварышам”, “грамадзянінам”, але гэта не прыжылося. Ідэалагічныя “перагібы” не здолелі змяніць формы зваротаў жыхароў мястэчка адно да аднаго. У часы, калі шмат дзе распаўсюдзілася слова “товарищ” у яго савецкім адценні, я чула традыцыйныя звароты.

Чаму ж пры ўсёй прастаце ўзаемаадносін з людзьмі нашу бабулю паважліва, шчыра і звыкла – калі не адзіную сярод іванаўцаў – да самай смерці называлі “пані”? Як на цяпер, то я б успрыняла гэты зварот як “спадарыня”, ды такое слова не было ва ўжытку. Але былі, напэўна, і больш глыбокія падставы. Мяркую, што бабуліна шляхецкасць мела пацверджанне ў яе адукаванасці, прыстойных паводзінах. Хоць і Сабалеўскія з Міськевічамі, і Карыцкія былі дваране, бабуля аб страце сваіх і тытула, і права на валоданне набытай не за тытулы, а за грошы зямлёй моцна не шкадавала. Яна была стрыманай, роўнасць яе паводзін была трывалай і шануемай усімі.

Дробязныя клопаты, як свае, так і чужыя, яе не хвалявалі. Ніколі не была сведкай, каб ва ўзаемаадносінах яна даходзіла да канфліктаў ці гучна і эмацыянальна абуралася. Побач з ёй не было што высвятляць. Бабуля не распылялася на пустыя размовы, тым больш на абгаворы. Не была яна ганарыстай, але мела сваю меру годнасці. Вельмі роўны тон, уменне выслухаць, не перабіваючы чалавека рознымі пытаннямі, не ўстаўляючы свайго “я”. Яна ўмела пазбягаць напускнога ўдзелу, не кідаючыся ў шматслоўе, тым больш у ліслівасць. Называць некага прыніжаючымі словамі, мянушкамі – гэта не пра маю бабулю. А вось быць далікатнай, паважлівай – гэта пра яе. Мяркую, і ў гэтым крыецца адна з прычынаў таго, што і ў савецкія часы, калі, на вялікі жаль, зніклі з афіцыйнай мовы словы-звароты, якія існуюць амаль у кожнай мове, да яе працягвалі звяртацца “пані Карыцкая”.

У фальклоры беларусаў існуюць прыказкі: “На сваім падвор’і і сабака пан”, “На сваім сметніку і певень пан”. Сярод іванаўцаў шырока ўжываўся свой варыянт: “У Лані і свіння пані, а ў Іванове ўсе панове”. Як ні дзіўна, але яго мне ўзнавіла ўнучка цёткі Мілі ў час нядаўняй сустрэчы ў Гродна. Сама ж я ўжо дарослай чула

ад бабулі такое выслоўе: “На бязлюдным двары і Фама дваранін”. Калі аднойчы пры ўзгадванні Фамы-двараніна заўважыла ёй: “Дык Вы ж дваранка!” – то пачула кароткі і просты адказ: “А як жа ж”.

## Узаемаадносіны з часам і сонцам

Узаемаадносіны з часам былі ў нашай бабулі свае. Хоць і мела гадзіннік, але час вызначала найбольш па сонцу. Адной з важных кропак адліку было найвышэйшае знаходжанне сонца над галавой – у зеніце (“зеніт” у арабскай мове і азначае “дарога галавы”). Змены ў прыродзе стваралі і адпаведны жыццёвы рытм, справы ішлі следам за сонцам. Большую частку жыцця бабуля мела не вельмі добры зрок, а пасля 70 гадоў паступова яго страчвала. Сонца ж яна бачыла практычна да канца свайго жыцця.

Калі амаль усе дзённыя клопаты скончаны, бабуля любіць пасядзець на парозе. Пазірае на заход сонца – а, дакладней, сузірае. І так амаль кожны вечар, і ніколі ёй гэта не надакучае. Кожны вечар яна глядзіць, як заходзіць сонца, вызначае надвор’е на заўтра. Вечарам правярае, ці з’явілася раса на траве – гэта перад ясным днём.

Звяртала бабуля ўвагу і на прыкметы надвор’я, якія падказвалі насякомыя. Жукі, матылькі разляталіся, “мошкі граюць”, “камары мак таўкуць” – будзе цёпла. Слепні, камары надта кусаюцца, конікі цыркаюць – будзе пахмурнае ці дажджлівае надвор’е. З веданнем справы рэагавалі і мы, калі ў хату залятала добра знаёмая крапіўніца і хавалася ў вугал пад столлю – хутка навальніца.

Назіранне за заходам сонцам і фарбамі на гарызонце як сродак вызначэння надвор’я. І сузіранне як стан душы, а таксама як асалода для яе слабога зроку. Каму ж надакучыць заходзячае сонца?! Каб не згубіць гэты заваражваючы момант, мастакі бясконца малююць заход сонца.

Найбольш часта бабуля сядзіць на парозе сеняў. Парог тут умоўны – ніжняе, самае моцнае, бервяно ад зруба. Так як зруб хаты прыпадняты, то парог уяўляе своеасаблівы зэдлік. Лічыцца, што парог – месца зносінаў з продкамі, якія сышлі ў іншы свет, таму не трэба станавіцца на парог нагамі. Магчыма і так. Ёсць і іншыя народныя парады-прыкметы. Як бы там ні было, але любяць пасядзець на парозе і хатнія жывёлы, асабліва коткі.

Ціхі летні надвячорак... Мая бабуля сядзіць на парозе свайго дома, альбо на невысокім зэдліку (яго амаль кожны дзень выносім у двор, на ноч ці ў дрэннае надвор’е заносім ў сені). Сонца заходзіць акурат насупраць уваходу ў дом, невысокі гаспадарчы будынак суседзяў не захіляе гарызонту. Аб чым яна думае? Магчыма, аб нечым адным, тым самым, што і ўчора. Можа ўзгадвае маленства, маладосць? А можа гэта бязмоўнае зліццё з прыродай, з вечнасцю?

Парог з’яўляецца для мяне вельмі прыцягальным месцам. Са мной адбываецца нешта падобнае, як і з бабуляй. На парозе нашага навагрудскага дома я сядзела, гледзячы на неба альбо назіраючы за раслінамі, птушкамі, матылькамі, пчолкамі. Пасядзець на парозе і пачытаць – улюбёная справа. Памятаю, як падчас летніх канікулаў прачытала раман Ф.М. Дастаеўскага «Преступление и наказание». Летам, седзячы на парозе, чытала купленую мамай кнігу – “Каласы пад сярпом тваім” Уладзіміра Караткевіча. Было гэта ўжо ў дні летняга працоўнага адпачынку. Мама прынесла даволі ўнушальны том, які набыла ў кнігарні, ідучы з працы, – кніга і цяпер у нашай хатняй бібліятэцы. Сумняваюся, што маме было знаёма імя аўтара, і думаю, што заходзіла яна ў краму, каб паглядзець для сябе навінкі літаратуры па праблемах дашкольнага выхавання. Гэтае выданне было на рускай мове. З цяперашняга майго досведу ўзгадваецца інфармацыя, што кніга спачатку выходзіла на рускай мове і для гэтага быў падрыхтаваны аўтарызаваны пераклад. Кароткага адпачынку на тоўстыя кнігі не вельмі хапала. На Караткевіча хапіла!

Можна сказаць, што кніга ўзяла ў палон, раніцай толькі і думала, як сесці і пачытаць. А чытала я не хутка, для ўдакладнення вяртаючыся зноў да прачытанага.

Ці супадзенне, ці не, але ад таго часу я больш абодва гэтыя творы не перачытвала. Добра прачытаны Дастаеўскі і, здаецца, зразумелы псіхалагічны склад твора, навучылі ў немалой ступені разбірацца ў людзях, іх учынках. Караткевіч здзівіў зваротам да таго ладу жыцця, аб устоях якога магла даведацца (а хутчэй адчуць падсвядома) з адгалоскаў былога жыцця вясковай шляхты.

У адрозненне ад папярэдніх паўстанняў за незалежнасць у 1863 г. не было татарскіх вайсковых фарміраванняў і вылучаліся толькі асобныя людзі. Так, прадстаўнік аднаго з заможных татарскіх родаў Адам Туган-Бараноўскі падтрымаў паўстанне 1863 г. і таемна перавозіў для паўстанцаў зброю з Прусіі. Рэпрэсіі супраць паўстанцаў, натуральна, не абмінулі і татар. У Сібір быў высланы Стафан Крычынскі. За спевы гімна “Яшчэ польска не згінэла” ў час правядзення вобшуку расійскімі афіцэрамі сям'я Рызвановічаў была аштрафавана на 400 рублёў і, каб заплаціць штраф, давялося прадаць усю маёмасць. У 1868 г. 16 сем'яў слонімскіх татараў нават паспрабавалі эміграваць у Турцыю, аднак з-за няведання мовы, звычаяў частка іх вярнулася назад.

Для мяне кранаючымі з'яўляюцца словы-шкадаванні самога Кастуся аб страце дзейснай падтрымкі з боку татараў. Іх прачытала ў кнізе твораў і дакументаў Кастуся Каліноўскага, выдадзеных “Беларускім кнігазборам” ў 1999 г. На пачатак наступнага лета не стала маёй мамы. Але яна паспела прачытаць гэтую кнігу![21]

## Яе лекі – дары роднай прыроды

Чалавек створаны з гліны.
*Аят з Кур'ана*

Кажуць людзі, быццам, творачы мужчыну,
Бог зрасіў вадою высахлую гліну.
*З верша А. Крымскага. Пераклад М. Багдановіча*[22]

Бабуля спецыяльна не займалася “аховай” свайго асяроддзя. Яна проста выкарыстоўвала тое, на што была багатая родная прырода. Лекавалі і сцены роднай хаты. Усе сцены з бярвенняў і аблеплены глінай, якая пабелена. У хаце шмат было ад прыроды. Драўлянымі былі столь з бэлькамі, калясценная мэбля. У пакоі драўляная, з шырокіх хваёвых дошак, не фарбаваная, а добра пагабляваная падлога, колер якой падтрымлівалі, вышароўваючы пяском. Падлога пры печы была глінабітнай. З гліны гаспадыня-печ (у падпечку смальнякі і сухія яловыя шышкі), а таксама грубка. Касметычныя якасці гліны выкарыстоўваем мы цяпер, а здаўна было заўважана, што ў ганчароў, хоць і працуюць яны з мокрым матэрыялам, звычайна не бывае артрытаў. Калі бабуля прыхварэе – то пакладзе на печ ці ў пліту, дзверцы якой былі насупраць ложка, цагліну, а пасля загорне яе ў тканіну з ільну і лекуецца. Драўляны ложак, абгорнутая ільном цагліна, падушка і пярына з пуха, саматканая прасціна з грубага ільну, напоўнены саломай сяннік...

*“Будзь здароў: ногі трымай у цяпле, галаву ў холадзе, а жывот у голадзе”* – раіць народная мудрасць. Бабуля часцей не даядала, чым пераядала. Цяжка ўявіць, але хлеб і малако маглі мацаваць яе вельмі добра. Таму адпавядала ладу жыцця маёй бабулі гэта народнае выслоўе: *“Хто хлеб з сабою носіць, той есці не просіць”*.

---

[21] Апошняй наогул яе кнігай стала яшчэ адна з гэтага збора – “Выбраныя творы” Уладзіміра Жылкі.

[22] Агафангел Яфімавіч Крымскі (1871-1942) – украінскі пісьменнік, акадэмік АН УССР, адзін з арганізатараў Украінскай Акадэміі навук, аўтар літаратурных твораў. Максім Багдановіч пераклаў тры яго вершы (1903).

Трэба было самае неабходнае – простая ежа, вада, а зімой яшчэ паліва для печы. А ежа з печы ці зрэдку з “газоўкі” сапраўды была смачная: разварыстыя кашы, цудоўныя супы са сваёй гародніны ці з самаробнай лапшы з курыцай, тушаная бульба і “кулдуны” - адметная страва мясцовых татар. І зараз застаюцца з намі пахі бабулінай ежы, яе смак. Звычку гатаваць так, каб усё было ў меру і акуратна, перанялі ад бабулі яе дочкі, ад маёй жа мамы – мая дачка.

Холад не быў для яе ворагам. Бабуля не імкнулася, каб у пакоі было горача, была ўважлівай з агнём. Яна, магчыма, і эканоміла на паліве – дровах і торфе. Але не думаю, што торф, які на той час увайшоў у шырокі ўжытак, быў экалагічным палівам. Лічыла лепшым цяплей апрануцца, галоўнае – пазбегнуць “угару”. У ранейшы час палілі бярозай са свайго лесу, пасля дровамі, якія куплялі кубічнымі метрамі. Памятаю, як на паветках сохла звязанае ў пукі галлё: з абрэзаных садовых дрэваў, з пасохлых елак. Ды і сагрэцца было не цяжка – побач з ложакам пліта і печ. А каб не залежвацца, адпраўлялася пахадзіць, рабіла нешта рукамі (вельмі любіла крышыць скарынкі – скармлівала курам, птушачкам). Адным словам – варушылася.

Яна не баялася халоднай вады. Летам вада грэлася на сонейку. Вядро ставілі на лавачку, эмаляваны кубак вешалі на разгач. Пасля прыстасавалі на двары рукамыйнік. Кожны мог ў любы момант памыць рукі, твар. Палівалі з кубка на ногі аж да калена, на рукі за локаць – атрымлівалі вялікае задавальненне. Вада з бабулінага калодзежа служыла і для ачышчэння, і для вяртання моцы. Зімой вада для мыцця была хатняй тэмпературы. Табурэтка з вядром стаяла каля грубкі. Памятаю з больш позняга часу, калі праведвала бабулю зімой, як яна раніцай мылася. Твар, вушы, рукі (заўсёды да локця) – усё не спяшаючыся, па некалькі разоў – рухі нагадвалі рытуал амавення перад маленнем.

Выціралася яна тканымі ільнянымі ручнікамі, спала на ільняной прасціне. Ільняныя тканіны маюць ачышчальную сілу, таму ўсё больш папулярнай становіцца бялізна з ільну. Былі ў бабулі ільняныя прасціны, якія пасцілаліся на набіты сенам ці саломай матрас – сяннік (салома таксама ачышчала ад немачы). Да гэтай пары засталося на лецішчы брата ў Іванава некалькі ручнікоў, трымаем мы і невялікія кавалачкі ад ручнікоў, памятаючы, як прыкладвала іх бабуля зверху трыпутніка на раны. Калі лён зацвітаў, нам падабалася проста ахінаць далонямі блакітныя кветачкі, а пасля і скрыначкі з насеннем ільну. Вылучаюцца некаторыя этапы абыходжання з ільном: сеялі ў *пятніцу*, калі прыходзіла пара, лён рвалі, расцілалі *маладзіком* па траве, каб вылежваўся *“на сарака росах”*, трапалі ў хляве.

З цягам часу пабудаваны з новых бярвенняў хлеў быў і большым па памеры, і больш трывалым. Пасля шкадавалі, што не будавалі новы дом. Напэўна, баяліся, што не хопіць грошай. Але як бы там ні было, і ў нашым не зусім “прэзентабельным” доме добра леталася ўнукам і жылося яго гаспадарам. *“Татава хата ўсім багата”, “Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка”* – гэта абсалютна датычыла трох дочак і нас, дзядулевых і бабуліных унукаў і ўнучак, калі мы летам жылі ў пабудаванай хаце-пяцісценцы, вакол якой былі сад і агарод, зусім недалёка поплаў і лес.

Тут святкавалі і вяселле маіх бацькоў. Акрамя таго ў нашу сядзібу здзейснілі вясельнае падарожжа і правялі частку свайго “мядовага месяца” родная сястра майго таты Мяр’ема-Эмма і яе муж Ісмаіл Лебядзь. Улетку 1967 г. маладых запрасіла з Навагрудка ў Іванава мая мама. Спалі яны ў новым хляве на сене на гарышчы, хадзілі ў лес па ягады і грыбы. Да ўсяго гэтага сталі ўдзельнікамі адной з найважнейшых падзей лета – маёўкі. Уражанні іванаўскае падарожжа пакінула ў іх вельмі добрыя.

Мы адпачывалі ў вёсцы кожнае лета, набіраліся моцы ад сонца, свежага паветра, бегаючы басанож пасля дожджычка. Усё, што было вакол, было на карысць нашаму здароўю, нашым уражанням.

## Пахі бабулінага дома

“Чым пахне ваша дзяцінства?” Недзе прачытала, што на гэтае пытанне малдаванін адкажа: “Баклажанавай ікрой”. На ўсё жыццё застаюцца з намі пахі бабулінага дома. Печ пахла яловымі шышкамі, аладкамі, смажанай бульбай, гарбузікамі. Грыбоў сушылі зусім мала – іх зімой бабуля варыла з буракамі ці квашанай капустай. А яшчэ сушаны ў клінку сыр – яго прывозілі нашыя мамы, калі ўвосень ездзілі праведаць бабулю. Сыр загаддзя высушваўся да крамянасці і яго можна было толькі адкрышыць з дапамогай нажа. Асобна памятала бабуля пра зяця Мікалая з Моталя – гэта быў яго любімы заказ. З даследванняў Алеся Белага вядома, што ў 1892 г. расійскі часопіс «Домострой» рэкамендаваў сваім чытачам выраблены ў сялянскіх гаспадарках Беларусі «хатні» клінковы сыр менавіта як тыпова беларускі прадукт.

Бабуля мела сваю драўляную маслабойку, і гэта быў яшчэ адзін спосаб перапрацоўкі малака. Масла вельмі добра разыходзілася ў нас, бо на ім ці на алеі смажылі мучныя і картафляныя бліны, блінчыкі дляналіснікаў, яечню і інш. Мучныя *бліны* – ад іх паху адразу прачынаўся кожны ўнук. Часцей бывала так: з самай раніцы на мучныя бліны разводзілася цеста і, каб яно падыходзіла, на некаторы час міску адстаўлялі. Затым для старэйшага ўнука Лёніка церлі бульбу на картафляныя бліны. Як толькі мы прачыналіся і спраўляліся з гігіенічнымі працэдурамі, бабуля адразу пякла бліны. Бліны ніколі не надакучалі. Дзеці рассаджваліся на сваіх калодках, якія “па росту” стаялі на шырокай лаве. Дзядуля ўжо сядзеў на крэсле збоку стала і кіраваў працэсам: намазваў маслам і клаў гарачы пульхны блін кожнаму на талерку, а самы масляны кавалачак аддаваў жадаючаму.

Што яшчэ за стравы, пах і смак якіх нагадваюць аб бабуліным доме? Безумоўна, гэта стравы з бульбы. Найперш ужо згаданыя бліны, а затым больш складаная ў прыгатаванні, але адна з самых любімых – *бабка* (назваў “дранікі” і “дранка” ў нас не было). *Картафлянікі* – яшчэ адна абавязковая страва нашай кухні. Рабілі начынне з варанай і размятай бульбы, з дадаткам перцу, кропу і нарэзанай дробна і падсмажанай да залацінкі цыбулі. Затым заварочвалі яго ў цеста так сама, як і кулдуны, і варылі. Елі з топленым маслам або са смятанай.

Нашая ежа была простай і карыснай. Рэцэпты не вельмі складаныя, але вывераныя часам. Абавязкова варылі ў печы *суп*, ягоную гатоўнасць вызначалі па паху, які быў чутны і на двары. На першым месцы стаяў “булён” на птушыным мясе з самаробнай лапшой. Паверсе плаваюць скалкі, а булён празрысты – гэта пра мамін суп. Маміную “зупу” вельмі любіў татаў знаёмы “крэсовы” паляк, які падоўгу жыў недалёка Навагрудка ў роднай сястры (польскае грамадзянства не мяняў, а працягваў тэрмін пражывання на дазволены час). З бацькам сябраваў з-за галубоў, цаніў яго шырокую натуру і любіў паразмаўляць. Памятаю, як крыўдаваў, што ў вёсцы цяпер не здымаюць шапкі ў сталоўцы, дзе ён калі-нікалі харчаваўся.

Крупяныя супы асабліва добра было гатаваць у печы. *Крупнікам* часцей называлі суп з ячневых круп, а не з рысу. Яшчэ любілі супы з гароднiны. Усё расло на градцы. Руская назва “щи” і ўкраінская “борщ” адпаведна гучалі ў нас як “капуста” і “буракі”. Найбольш вядомымі сярод страў мясцовых татараў з’яўляюцца пельмені *“кулдуны”* і пірог *“цыбульнік”* ці *“перакачанік”*. Назвы пірага гаваркія і добра зразумелыя. Шмат у чым заходнебеларуская кухня па назвах страў была падобна да так званай “старапольскай”, якая сфармавалася на адзінай прасторы былой Рэчы Паспалітай не без уплываў рускай, караімскай, а таксама і татарскай кухняў. У беларускай кухні выдатна прыжылася страва пад цюркскай назвай “*каўбаса*”.

А калі казаць наогул пра харчаванне, то слова *“charč”* – татарскае[23].

Як і ўсе землеўладальнікі, мае сваякі большасць прадуктаў атрымлівалі са сваёй гаспадаркі. Татары абавязкова трымалі гусей, многія разводзілі іх у вялікай колькасці[24]. Як святочная запякалася ў печы фаршыраваная гусь. Яшчэ рыхтавалі для мачання бліноў ці пад бульбу *мачанку*. Найбольш далікатэсным тлушчам лічыўся *гусіны шмалец*: ператаплівалі ў печы гусіны тлушч са скуркай, дабаўлялі пасіраваную да залацістага колеру цыбулю, раскладвалі па слоіках і выстаўлялі ў халоднае месца. Луста хлеба і добра намазаны на яе шмлалец – гэтая ежа магла існаваць асобна. Цырымонія ўжывання выглядала наступным чынам: укройвалі лусту хлеба, са слоіка спрытным рухам лыжкі падчэрпвалі шмалец і намазвалі на хлеб. Бралі такі бутэрброд “у руку” і, седзячы на лаве ці разгульваючы па двары, “са смакам” спажывалі гэтую ежу.

Чым практычна не пахла ў нашай вясковай хаце, дык гэта кавай. І ўсё пры тым, што татары ў пэўнай ступені з’яўляюцца сарматамі, а кава лічылася адным з сармацкіх нацыянальных сімвалаў. Кава распаўсюдзілася ў Рэчы Паспалітай з канца XVII ст. Традыцыйна лічыцца, што першая буйная партыя трапіла як трафей пры перамозе над туркамі ў Венскай бітве 1683 г. Вельмі хутка кава набыла вялікую папулярнасць сярод шляхты і мяшчанаў, ніжэйшыя саслоўі імітавалі падобны напой з пражараных жалудоў, ячменю, цыкорыю. Кава, гарбата, спецыі, як і напоі на аснове гарэлкі, у заможных дамах звычайна захоўваліся ў адмысловай шафе, якая называлася “аптэчка прыемная” і ключы ад якой мела толькі гаспадыня.

Кухня шляхты, асабліва пасля Люблінскай уніі 1569 г. трапіла пад уплывы італьянскай (асабліва запазычыла зеляніну, салаты, сальцісоны і г.д.), нямецкай, пазней французскай. У XVI ст. пачалі імпартаваць трысняговы цукар – з Заходняй Еўропы (“*канар*”) і Асманскай імперыі (“*кандыс*”), але ён быў значна даражэйшы за мёд і для большасці недаступны. Трэба адзначыць, што само слова “*sukkar*” (цукар) – арабскае, яно трапіла ў беларускую мову праз польскую, а туды праз нямецкую, італьянскую.

Пад канец лета і ўвосень пахла на ўсю хату яблыкамі, грушамі і слівамі. Бабуля сушыла іх на печы, разрэзаўшы грушы напалову, а яблыкі на долькі. Сушанымі яблыкамі, грушамі і слівамі-венгеркамі пахлі мяшэчкі, якія мелі мы ад бабулі амаль на ўсю зіму. А яшчэ варылі варэнне. Варэнне з вішняў прыжылося ў бабуліным доме з той пары, як у іх на восень і зіму пасялілася сваячка дзядулі Алі. Дзяўчынкі былі яшчэ малымі і ім уяўляліся магічнымі дзеянні вакол меднага тазіка, ад варыва ў якім па ўсёй хаце разыходзіцца заварожваючы пах. На добры ўспамін аб ужо містычнай сваячцы застаўся драўляны куфар і рэцэпт вішнёвага варэння.

## Умела абыходзіцца малым

Яна не марнавала час на клопаты аб багацці. Пакланення рэчам не існавала. Ніколі не чула разважанняў аб узбагачэнні, тым больш за кошт іншых. Не зайздросціла чужым грашам, не палічыла магчымым “прыхапіць” у свой дом нешта з маётка Юзэфа Карыцкага[25], роднага дзядзькі нашага дзеда Алі. Спадчынных рэчаў было зусім мала. Магчыма, таму, што бацькі памерлі рана, і дзеці пакінулі родны дом ў Ардзе каля Клецка і былі забраныя дзядзькам на выхаванне ў яго маёнтак каля Гродна. Дзядзька не пакрыўдзіў пляменніка – заплаціў яму неблагія грошы за працу ўпраўляючым у маёнтку. З гэтымі грашыма сям’я майго дзеда

[23] Булыка, А.М. Слоўнік іншамоўных слоў. – Мінск: Народная асвета, 1993. – С. 357.

[24] Згодна з агульнаеўрапейскім звычаем гусей на Беларусі было прынята забіваць на пачатку лістапада, асабліва на Св. Марціна, які адзначаўся 11 лістапада.

[25] Рэшткі маёнтка захаваліся да гэтай пары пад Гродна, ёсць нават указальнік Копцеўка.

пакінула Копцеўку і пераехала на радзіму бабулі ў Іванава, дзе яна атрымала ад бацькі невялікі пасаг – тры гектары зямлі. На гэтай зямлі і пабудавалі яны свой невялікі дом-пяцісценку.

Бабуля не абцяжарвала сябе і мужа клопатамі аб паляпшэнні дабрабыту лішнім – усе рэчы былі такімі ж арганічнымі, як і прыроднае наваколле. Яна нічога не прыдумляла ў сваім доме, умела абыходзіцца малым і найбольш патрэбным. Таму шанаванне кожнай рэчы было звязана з тым прызначэннем, якому яна верна служыць.

Бабуля ўмела шчодра аддаваць. Нават з невялікай пенсіі яна мела, што даць, напрыклад, “на дарогу”. Атрымаўшы пенсію ці плату ад нарыхтоўшчыкаў яблык, раздавала свае невялікія здабыткі дочкам, унукам. Грошы ляжалі ў знаёмым усім месцы – пад прасціной каля падушкі. Пры неабходнасці хто-небудзь браў грошы і ішоў да “магазіншчыка” Адама Русака, у палове дома якога і быў вясковы магазін. Сама бабуля перастала хадзіць у магазін, калі ён размясціўся напачатку вёскі ў спецыяльным, з разлікам на жыхароў Іванава і Пукелеўшчыны, аднапавярховым цагляным будынку.

Калі мы выраслі і прыязджалі праведаць бабулю на некалькі дзён, то ніколі не ехалі з пустымі рукамі, а прывозілі тое, што любіць бабуля. Невялікай “слабасцю” былі прысмакі: халва, зефір, шакаладныя цукеркі, пячэнне, булачкі. Хацелася парадаваць яе чым-небудзь. Яна ўмела ацаніць увагу. Таму нават адна шакаладка ці некалькі апельсінаў маглі выклікаць яе падзяку. Гэта было не шматслоўна, але шчыра, як быццам бы крыху са здзіўленнем: “О, дзякую!” Мы ўсе ведалі, што бабуля любіла мець пра запас цукеркі. Прылегшы пасля яды, магла паласавацца імі. Частку цукерак трымала каля падушкі: каб не ўставаць, калі лажылася адпачыць. Цяпер разумею, што салодкага патрабаваў яе арганізм як падтрымку дзейнасці мозга, а, магчыма, і эмацыянальнага стану.

Не толькі самой з’есці цукерку падабалася бабулі – любіла яна і пачаставаць, магічным рухам засоўваючы руку пад падушку. Мне гэта нагадвала пачастункі Дзеда Мароза, які з мяха даставаў цукерку, і яна здавалася асаблівай. Неабходнасць у невялікіх запасах была дзеля таго, каб мець што “даць у руку” таму, хто прыходзіў. І аб гэтай звычцы мы таксама ведалі. Ведалі, што бабуля будзе казаць: “Вазьмі грошы і не забудзься купіць цукерак”. Мы не забываліся – бабуля так мала аб чым прасіла.

## Як падтрымка і сяброўка – песня

Узгадкі пра бабуліны спевы заўсёды выклікаюць прыемную ўсмешку. Справа ў тым, што спявала яна па-свойму. Самымі нечаканымі былі спевы ў поўны голас, але гэта тады, калі бабуля думала, што нікога побач няма. У асноўным любіла нешта напяваць “пад нос”. Асобая працэдура – вывад каровы на пашу: калі вяла пасвіць карову, заўсёды напявала[26].

Былі ў яе песні, скажам так, тэматычныя. Верш Міхаіла Лермантава “Парус”, як і імя паэта, яна ведала з часоў вучобы ў пецярбургскай гімназіі. Магчыма, з таго часу вядомы і раманс “Выхожу один я на дорогу...”, які запявала, ідучы на “праменад”: проста прайсціся па сваёй сцежцы ці далей – па дарозе да суседзяў, да сястры Фэлі. Дачка Фэлі, Аміня, ці то сама па сабе, ці ад маёй бабулі пераняла звычку напяваць у час працы[27]. Праз гады, калі Аміня пачынала спяваць падчас мыцця посуду ці бялізны, яе муж Мацей не без добрага гумару любіў казаць: “Ну ўжо завялася цётка Зоня”.

---

[26] Аб гэтым добра памятае Зінаіда Лукінічна Роўба, бо часта бабуля з каровай праходзілі каля іх двара.

[27] Спецыяльных песняў “на выпадак” яна не ўзгадвае, але добра памятае, як на двары Валі Мэцікавай, у якой быў спеўнік, учатырох з аднакласніцамі збіраліся і спявалі.

Была яшчэ песня, а дакладней, запеў: “Вставай, поднимайся, рабочий народ!” Гэта, адпаведна зместу, спявалася, калі бабуля ўставала з ложка. Любіла яна голас і песні Людмілы Зыкінай. Чула іх па радыё, звяртала нашу ўвагу на голас Зыкінай. Калі слухала, то ціха падпявала. Мне дакладна памятаецца “Оренбургский пуховый платок”. Нязвыкла было чуць у бабуліных спевах вымаўленне слоў, якія яна не ўжывала ў сваёй мове.

З цягам часу неяк неўпрыкмет для нас з’явілася ціхае напяванне малітвы – свайго кшталту медытацыя, – гэта ўзнікала натуральна і адбывалася амаль незаўважна.

## Яе малітва

Аят 205. І ўспамінай Уладыку твайго ў думках з пакорай і страхам, і без гучных слоў, зранку і ўвечар; і не будзь сярод недбайных.

Аят 206. І калі чытаецца Кур’ан, слухайце яго моўчкі, каб была аказана Вам міласць.

Аят 207. Сапраўды, блізкія да Ўладыкі свайго не пышлівыя, каб яму не служыць. Яны яго праслаўляюць і адбіваюць яму зямныя паклоны[28].

Мусульмане пяцікроць здзяйсняюць намаз – пяць разоў на суткі моляцца. Як можа падацца на першы погляд, гэта многа і займае шмат часу. Але на самой справе час малітваў размеркаваны вельмі ўдала: якраз у тыя гадзіны чалавек ці яшчэ толькі збіраецца пачынаць свае будзённыя справы, ці робіць перапынак перад прыёмам ежы, ці прачынаецца пасля сну.

Амаль з кожным здараецца, што ён прачынаецца сярод ночы. Адбываецца гэта прыкладна а 4-й гадзіне. У некаторых рэлігіях гэты момант лічыцца найлепшым для злучэння з касмічным. Вось гэта прыкладна і ёсць часіна першай малітвы. Затым ранішняя малітва. Сярод дня моляцца два разы – апоўдні і яшчэ праз 2 гадзіны. Пасля вечарам, перад сном. Кожнаму маленню папярэднічае амавенне, парадак якога вядомы тым, хто моліцца. Само маленне займае ад пяці да дзесяці хвілінаў.

Мая бабуля магла маліцца, паўтараючы адну малітву па некалькі разоў. Альбо паўтараючы шмат разоў “Алах Акбар!” Магло падацца, што выконвала яна прадпісанае: славячы Алаха, мусульмане шматкроць паўтараюць “Алах Вялікі!” Многія для падліку перабіраюць спецыяльныя пацеркі. Але ёсць больш просты сродак – на пальцах: і падлік робіцца, і трэніруецца дробная мускулатура пальцаў, што станоўча адбіваецца на рабоце мозга, у тым ліку тых яго частак, якія адказваюць за маўленне. Тое, што бабуля па некалькі разоў паўтарала малітву, было не проста рытуалам, які перайшоў у звычай – такім было яе асабістае памкненне. Мне нават здаецца, што Каран ствараўся менавіта з самых светлых і разумных чалавечых памкненняў.

Калі стоміцца – прыляжа, пачне маліцца. А яшчэ ў час малення бабуля падоўгу пералічвала па імёнах родных, асобна ўнукаў. Чула і ў Наваградку, як яна моліцца, называючы імёны блізкіх людзей. Лежачы, любіла называць імёны дзеля таго, каб падлічыць, колькі ў яе ўнукаў. Узгадваю, як бабуля пералічвала па імёнах усіх унукаў (Лёнік, Міша, Разалія, Санія, Аляксандр, Алі) і праўнукаў (Саша, Віця, Марына, Анжаліна, Дзіма, Алёша, Жэня, Віця[29], Саша).

Так яна вяла свой падлік: лічыла не грошы, а людзей. Лічыла суседзяў:

---

[28] Кур’ан. Сура 7. Аль-Араф (Кручы) // Пер. з рускай мовы Яўгена Гучка.

[29] Жэня і Віця – браты малодшага праўнука Сашы. Яны не бабуліны родныя ўнукі, але яна ўзгадвала іх і жадала ім здароўя.

колькі было ў вёсцы мужчын, жанчын, колькі засталося. Вось бы запісаць гэты яе падлік! Былі б статыстычныя звесткі пра жыхароў Іванава XX стагоддзя. Яна не ленавалася амаль кожны дзень узгадваць родных і суседзяў. Пералічвала іх па пальцах. Цяпер, на жаль, па пальцах можна пералічыць жыхароў Іванава[30].

Гэтую звычку пераняла цётка Эмілія. Калі ў Гродне служыў у арміі мой пляменнік Аляксандр Александровіч, мы разам са стрыечнай сястрой Сафіяй яго адведвалі. Пасля пайшлі да цёткі Мілі. Пілі гарбату, размаўлялі, пераглядалі старыя фотаздымкі, і цётка Міля назвала лічбу, колькі ў яе стрыечных братоў і сёстраў. Яшчэ сказала, што з родных пляменніц – я ў яе адна. Мы з Сафіяй маем вельмі дарагога для кожнай з нас роднага брата, а родных сёстраў не маем, таму з гадамі становімся ўсё бліжэй паміж сабой.

Гадоў пяць таму мая цётка Эмілія праз брата Леаніда папрасіла жыхарку Іванава, сваю аднакласніцу Ірыну, напісаць ёй, хто жыве ў Іванава. Тады заставалася на ўсё Іванава 17 чалавек. Зусім мала. Але калі аб'яднаць іх разам, то атрымаецца вялікая сям'я. А калі іх засталося яшчэ меней, то ў адзін з сумных момантаў усе іванаўцы сабраліся, каб праводзіць адышоўшага ў іншы свет Кубу (Якуба) Абрагімовіча. Упершыню жыхары вёскі з ліку беларусаў не толькі праводзілі свайго суседа-татарына з яго хаты. Усе да аднаго зачынілі свае хаты і разам паехалі на мізар у Асмолава.

У летніку, арганізаваным Згуртаваннем беларускіх татараў "Аль-Кітаб" пры ўдзеле арабскіх студэнтаў, мы з дачкой Анжалінай вывучылі "Аль-Фатыху" – галоўную малітву мусульман. У хрысціян такой з'яўляецца "Ойча наш". Зараз перад сном я малюся і пералічваю па імёнах сваіх родных, ад усяго сэрца жадаю ім здароўя і доўгага шчаслівага веку. Таксама ўзгадваю тых, каго няма з намі – маіх незабыўных тату Адама і маму Лілію, бабулю Зоню і дзеда Алі, бабулю Халіму і дзеда Сулеймана, прабабулю Аміню і прадзеда Іосіфа, сваю прапрабабулю Эмілію Радкевіч, на надмагіллі якой на Наваградскім мізары напісана: жыла 104 гады.

## Яна была цярплівай

Галоўны пастулат усіх рэлігій – чалавек павінен быць цярплівым. Бабуля ўмела цярпець. Рабіла гэта проста і звычайна, хоць парой патрабавалася ёй вялікая ўнутраная моц. Словы свяшчэннага пісання вучаць чалавека не паддавацца адчаю, пераадольваць нягоды, што сустракаюцца на жыццёвым шляху: «Поистине мы вас испытываем и долей страха, и голодом, убытками в добре, потерей жизни (тех, кто дорог), потерями плодов (труда)»[31]. У перакладзе з арабскага на рускую мову словы аднаго з аятаў Карана і хадзіса гучаць: «Поистине Аллах вместе с терпящими». «Счастливый человек – тот человек, который остался в стороне от смут, и тот, кто будучи в горести, проявлял терпение».

Я ніколі не чула ад бабулі стогнаў. Не бачыла, каб мая бабуля плакала. Але калі плакаў нехта, яна вельмі перажывала. Так было, калі на нас звалілася гора – у 53 гады памёр мой магутны тата. 28-29 лютага і 1 сакавіка 1982 года, калі на нашай Наваградчыне яшчэ ўсё было замецена снегам, мы развіталіся з ім назаўсёды. Я не магла спыніць слёзы. Бабуля папрасіла маму: "Ліля, скажы Розе, каб не плакала". Чаму яна так прасіла? Можа таму, што, адчуваючы мае слёзы і боль, яна сама магла не вытрымаць: не толькі заплакаць – ёй, напэўна, вельмі балела ў душы. А, магчыма, яна ўзгадвала і свайго тату, якога не стала 4 сакавіка 1956 года, калі Іванава было да стрэх замецена снегам...

[30] У некаторых месцах Беларусі з днём Дзядоў звязвалі цікавы абрад – упісванне ў члены сям'і нявестак, зяцёў, нованароджаных і выпісванне тых, хто сышоў.

[31] Каран. 155 аят суры «Карова».

Бабуля ў сваіх перажываннях старалася быць стрыманай. Памятаю, як пасля доўгага лета – нашыя мамы мелі настаўніцкія адпачынкі – мы пакідалі Іванава. Усе выходзілі з хаты. І тыя, хто яшчэ заставаўся, і тыя, хто ад'язджаў. Жаданне правесці, памахаць рукой да новай сустрэчы ішло ад сэрца і з'яўлялася без усялякага прымусу – гэтыя летнія тыдні і месяцы вельмі збліжалі нас. Мы ўсе разам ішлі па сцежцы, неслі чамадан і яшчэ нешта з паклажы, пасля спыняліся недалёка ад брамкі, абдымаліся, цалавалі бабулю, і яе дачка, якая з дзецьмі ад'язджала, не магла стрымліваць слёзы – заўсёды яны каціліся па твары, сумна станавілася і малым. Бабуля, калі развітвалася з намі, застаючыся ў сваёй хатцы адна, старалася не паказваць свае пачуцці.

Пакуль быў жывы дзядуля, ён сустракаў і праводзіў нас да шашы "на возе". Свайго каня дзед у час калектывізацыі здаў у калгас, а пры неабходнасці браў вольнага ў калгаснай канюшні, якая была зусім блізка, у былым гумне нашых суседзяў Роўбаў. Калі мы ехалі з Наваградка праз Нясвіж, дзе перасаджваліся на аўтобус да Клецка, і яшчэ ў Лані, падрыхтаваўшыся да выхаду з аўтобуса, пасля таго, як ён з'язджаў з гары, шукалі вачыма наперадзе сваіх. Спыніўшы каня на ўскрайку шашы ў Пукелеўшчыне, седзячы на возе, дзядуля і нехта з унукаў "выглядалі" аўтобус. Калі з Клецка сустракалі цягнік, на якім з Іванава-Палескага прыязджала з сям'ёй цёця Аля, тады конь патрэбен быў асабліва – ад Клецка да Іванава хоць і праз лес, але кіламетраў 10. Дзядулі не стала, і яго замяніў старэйшы ўнук Лёнік на купленым дзедам ровары.

І ўсё ж такі лета заканчвалася. Бабуля праводзіла нас да брамы, спынялася і стаяла, пазіраючы, як аддаляюцца падросшыя за лета ўнукі. Наколькі сумавала яна, як доўга стаяла – мы ўжо не бачылі. Праз некалькі двароў быў паварот, за якім знікала наша сядзіба...

## Сваю слепату не лічыла хваробай

Тым больш не лічыла яна сябе інвалідам па зроку. Тое ж самае і мы. Мы не звярталіся ў медыцынскія ўстановы дзеля адпаведнага дакумента, за якім меліся пэўныя ільготы. Думаю, што і бабуля не зразумела б нашага жадання атрымаць паперы, ад якіх зрок не вернеш. Мы лічылі, што галоўнае – яе эмацыянальны стан: гэта даражэй за грошы, нават калі б яны і не былі лішнімі. Таму слова "інваліднасць" намі не ўжывалася і мы не хацелі на гэтым засяроджваць увагу. Усявышні пазбавіў яе добрага зроку, але надзяліў памяццю, розумам, мудрасцю. Вялікае шчасце быць пры сваім розуме, нават калі падводзіць такое важнае апірышча, як зрок.

Як магла яна ўратавацца ад цяжкасцей столькіх пераломных падзей XX стагоддзя? Ці ад непатрэбнай будзённай мітусні? Яе ратаваў зрок, а дакладней, амаль адсутнасць яго. Яна здолела спакойна прыняць сваю нядужасць як частку жыцця, як адзін з момантаў старэння. Ад родных, а таксама ад суседзяў не патрэбна было шкадаванне, трэба было проста ўлічваць, што яна дрэнна бачыць. Вакол не было небяспекі. Людзі – свае, кожнага пазнаеш па голасе і нават па кроках. Яе адкрытасць пазбаўляла неабходнасці абараняцца, а прырода пашырала дыяпазон магчымасцяў: бабуля самастойна перамяшчалася, успрымала прадметы не праз зрок, а праз рэцэптары цела. Сучасная навука вылучае такую з'яву, як «прамое бачанне клеткамі галаўнога мозга» (зрокавы вобраз ствараецца ў яго патылічнай частцы) – альтэрнатыва звычайнаму зроку.

Пэўныя цяжкасці, якія ўзнікалі з-за дрэннага зроку, не раздражнялі бабулю і прастору вакол яе. Яна здолела разважна прыняць гэта, і не толькі розумам, але і на справе. Дапамагалі сцены роднага дома і свой двор. Сцяжынка вымерана крокамі да такой ступені, што ногі самі вядуць, вясковую дарогу таксама ведала да дробязяў.

Кожная рэч, прадметы мэблі – на сваім месцы. Навобмацак пазнавала рэчы, любіла і вылучала кожную асобна: ад частага выкарыстання былі ў абыходжанні з прадметамі тыя навыкі і спрыт, якія не напружваюць, а дапамагаюць. Рухі па прыгатаванні ежы не патрабуюць, каб за імі сачылі вочы – памяць засталася ў руках, навыкі перайшлі на ўзровень падсвядомага самакантролю.

Дарэчы, адзін з навыкаў – вязанне – належаў і яе дочкам. Яшчэ ў школе яны рабілі ўрокі (чыталі) і адначасова вязалі на прутках панчохі, толькі зрэдку паглядаючы, як складаецца ўзор. Вязанне суправаджала кожную з дочак па жыцці, выконваючы своеасаблівую ролю адпачынку. Пры гэтым іх уменні дазвалялі ствараць вырабы, якія вылучаліся прыгажосцю і дасканаласцю вязкі. Мая мама пакінула на памяць аб сабе цудоўныя світры, безрукаўкі, а вядомы сярод грамадскасці Беларусі Ібрагім Канапацкі ўтульна адчуваў сябе зімой у адмыслова звязаных шкарпэтках, воўну на якія мама таксама прала сама. Цётка Аля таксама «абвязвала» сваіх сямейнікаў, так атрымалася ў яе гэта на тры пакаленні мужчынаў. Самая старэйшая з сясцёр Эмілія, якая пражыла 85 гадоў, і пасля 80 вязала цудоўнейшыя ўзорчатыя кофты, шалічкі, якія мы з дачкой таксама маем.

Цяжка сказаць, калі бабуля пачала горш бачыць. Відавочна, што страта зроку адбывалася паступова, пакідаючы ёй невялікую долю толькі на самае неабходнае: адасабленне прадметаў, постацей, буйных сродкаў арыентавання. Спачатку не бачыла дробныя прадметы, напрыклад, вушка іголкі – таму ў кожную катушку нашыя мамы ўтыкалі іголку з ніткай. Замест чытання – пачала слухаць радыё. Пасля цяжэй станавілася чысціць бульбу – мыла і “парыла”, такая бульба ачышчалася лягчэй і надзейней. Перад ад’ездам з вёскі мы стараліся зрабіць пэўныя нарыхтоўкі, каб у бабулі неабходнае было пад рукой: перабраць рыс, купіць соль, цукар, макароны. Далей было паліва – яго складвалі ў сенцах. Уздоўж сцяны былі загародкі, у якія змяшчаліся невялікія запасы паліва, агародніны. У камору ставілі скрыню з драўляных рэек, у якой сярод сена ляжалі восеньскія яблыкі – ранета і антонаўка.

З восені да наступнага лета былі нашыя прыезды на некалькіх дзён, а цётка Аля прыязджала на некалькі тыдняў у час школьных канікулаў. Улічваючы бабулін не вельмі добры зрок, у час прыездаў намі выконваліся пэўныя работы. Кожны стараўся зрабіць працейшым для бабулі яе жыццё без блізкіх. У астатні час прыходзілі суседкі. Калі адведвала сваіх бацькоў, то заглядала пляменніца Эмілія Казакевіч. Хоць не часта, але з пэўнага часу прыходзіла служачая сацыяльнай апекі, прыносіла самае неабходнае з ежы, вады са студні. Паліць у печы бабуля спраўлялася сама, хоць было ёй ўжо за 80.

## Доўгажыхарства як дасягненне

Калі мая дачка была ў раннім узросце, мой адпачынак па догляду за дзіцем праводзілі ў Навагрудку, маючы падтрымку ад мамы і ад брата. Прыехала на чарговую зіму і бабуля. Наш з дачкой пакой з бабулінай спальняй раздзяляла сцяна і праём для дзвярэй, які пры неабходнасці занавешвалі – у дзвярах не было патрэбы. Так мы жылі побач, жанчыны аднога роду: бабуля, мама, я і мая маленькая дачушка Анжэлін. Аднойчы вечарам бабуля са свайго ложка папрасіла паклікаць маму. Калі мама падышла, то я пачула, як бабуля спакойным голасам казала: “Ліля, напэўна, я паміраю”. Мама, пасля невялікай разгубленасці, хутка сабралася і пачала пытаць, што баліць. Высветліла, што бабулі нядобра. Мама вызваліла яе ад адзення (у некалькіх кофтах ляжала на ложку, які стаяў блізка ад напаленай печы), пасадзіла, паклаўшы пад спіну вялікую падушку, дала папіць і даволі хутка ўсё было добра. Бабуля пражыла яшчэ амаль дзевяць гадоў...

У бабулі ніколі не было страху перад адыходам ў іншы свет. Пакідаючы Іванава, калі ёй стала цяжка адной спраўляцца з зімовымі клапатамі, гадоў дзесяць ці болей яна вазіла за сабой "клунак" з белай тканінай для сувоя. Яна не збірала шмат грошай "на чорны дзень", запас быў толькі на пахаванне[32]. Ставілася да непазбежнага адыходу ў іншы свет філасофскі. Кожны раз, калі збіраліся ў дарогу, спакойна пыталася: "А ці ўзялі клунак?"

Праўда, хоць яна і не баялася смерці, але і не спяшалася. Увесь час цікавілася жыццём і заўсёды з вялікай павагай вылучала доўгажыхароў. Памятаю яе рэакцыю на віншаванне людзей з днямі нараджэння ў перадачы "па заяўках". Калі чула, што некага віншавалі з 80-ці, 90-годдзем, выказвалася словамі: "Малайцом!" альбо "Дооообра!" Магла сабе яшчэ паўтарыць імя ці месца жыхарства такога чалавека! Гэта я памятаю ўжо з тых часоў, калі прыязджала праведваць бабулю з Мінска. Асабліва яе ўражвала дата 100 і болей. Пра такіх яна магла пераказваць асобна. Яе наогул радавалі асабістыя дасягненні людзей, іх перамогі над няпростымі абставінамі.

Мы вельмі даражылі яе прысутнасцю паміж нас, на гэтым свеце. Таму ніколі дакладна не лічылі яе гадоў – я пазбягала матэматычных разлікаў свядома. Здавалася, калі падлічу колькі год бабулі (у любым выпадку гэта была бы немалая лічба), такі падлік можа стаць ракавым. Прыкладна пасля таго, як маёй бабулі споўнілася 80 гадоў, на пытанне "колькі вашай бабулі гадоў?", адказвала "каля васьмідзесяці". Калі казала пра гады, то ў душы нешта скалыналася і перахоплівала дыханне. Старалася нічым не выклікаць у суразмоўцы жаданне паразважаць наконт гэтага "каля васьмідзесяці", адводзячы ўвагу ад лічбаў. Так было з усімі, незалежна ці з даўно знаёмым чалавекам, ці з тымі, як суседзі з Мінска, хто бачыў бабулю ўпершыню. Самой сабе не дазваляла затрымлівацца на думках аб узросце бабулі.

Нават дзень нараджэння добра не ведала, а цяпер ведаю. Ды і як тут можна забыцца – 24 снежня. Раство па календары католікаў і (з мудрай рукі) непрацоўны для ўсіх жыхароў Беларусі дзень. А яшчэ дзень нараджэння Адама Міцкевіча. Тым больш, што па лініі прабабулі – мы Міськевічы. Лічы – радня! Употайкі я проста загадвала не лічыць: чым менш звяртацца да гадоў нараджэння, тым больш пражыве мая бабуля. І яна, дзякаваць Богу, жыла. Яе гады ўсё больш адыходзілі ад 80 і набліжаліся да 90. У дзевяноста з паловай нашай дарагой бабулі не стала...

## Мара аб сапраўдным

Я нашу ў сваім сэрцы тугу па гарманічным існаванні. Бабулін дом, сад, агарод, двор, пратаптаная ў траве сцежка! Усё, што акаляла жыццё маёй бабулі, мела сэнс, прызначэнне і стварала гарманічнае кола жыцця. У простай сялянскай хатцы яна пражыла доўгае жыццё ў ладзе з сабой і з прыродай. Пражыла ў тым месцы, дзе нарадзілася. Крыху асобкам стаялі Пецярбург, Копцеўшчына пад Гродна. А таксама Наваградак, Мінск, Баранавічы і Гродна, дзе зімавала ў дочак і ўнукаў апошнія дзесяць гадоў жыцця. Асноўная частка жыцця прайшла ў Іванава – ад яго адлічваўся час, падзеі.

У маёй памяці ўсё зліваецца разам у адно завершанае цэлае. І сярод гэтага – бабуля, акуратна апранутая ў простае аддзенне, на галаве белая ў дробненькія блакітныя кветачкі хустачка. Няма ў ёй ніякай штучнасці. Як у знешнім выглядзе, так і ў постаці, рухах рук, у словах. Знешне ўсё здавалася простым і сціплым. Цяпер я бачу за ўсім гэтым тое, что называецца натуральнасцю. Штучнасць найбольш

[32] Грошы з бабулінай пенсіі адкладвала сярэдняя дачка Аля, якая найбольш часу праводзіла летам у Іванаве, многія гаспадарчыя клопаты брала на сябе.

за іншыя з праяўленняў чалавечых не даспадобы мне. Імкнуся да гарманічнасці ў паводзінах, у побыце, у адносінах да абставін, людзей. Безумоўна, гэта ад бацькоў, ад іх прыкладу. Але здаецца мне, што імкненне да праўдзівасці ў жыцці адтуль, ад бабулі, ад яе дома. Адтуль і ўменне шанаваць рэчы, здольнасць выбіраць адпаведна функцыянальнасці, а таксама ўменне бачыць шматфункцыянальнасць рэчы, яе ўнікальнасць, мастацкую вартаснасць.

Усё лета па чарзе альбо ўсе разам мы знаходзілі сабе месца ў бабуліным доме. Калі выраслі, прыязджалі на некалькі дзён альбо тыдняў. Прыязджалі не толькі па абавязку праведаць бабулю. Мы вярталіся ў сваё шчаслівае дзяцінства. Кожны з нас імкнуўся да бабулі без усялякага прымусу, кожны вёз ёй, што мог. Яна прымала спакойна, але вельмі кранальна. Ні на што не крыўдзілася. Частавала ўсім, што мела. З ёй было вельмі добра.

Старэнькі дом дажыў свой век. У яго ўжо ніхто не заходзіць, бо відавочна, што ў любы момант нахілены дом можа канчаткова абваліцца. Зусім хутка ён будзе разабраны. Але бабулін пераемнік, старэйшы ўнук Леанід адцягвае гэты час. Пакуль дом ёсць і мы можам да яго дакрануцца, здаецца, што ў ім захоўваюцца нашыя галасы, нашыя справы. Мы яшчэ можам цешыць сябе такой дарагой маной: дом не пусты, усё паміж намі застаецца як раней, а значыць, не скончылася нашае дзяцінства...

Сяргей Чыгрын



...толькі нацыя мае будучыню,
ніколі насельніцтва...

# Аб гэтым казаў мне Сакрат

***З беларускім пісьменнікам з Беласточчыны Сакратам Яновічам я ўпершыню пабачыўся ў красавіку 1989 года, хаця яго творы ў тыднёвіку “Ніва” чытаў даўно. Тады ён з групай гарадзенскіх літаратараў наведаў Слонім, пабываў у рэдакцыі раённай газеты, дзе адбылася гутарка пра сучасны стан беларускай літаратуры, пра ўзаемаадносіны літаратур краін-суседзяў. У канцы сустрэчы Сакрат дастаў з партфеля сваю кнігу на польскай мове “Belarus, Belarus” і хуценька паставіў аўтограф: “Паважанаму Сяргею Чыгрыну на памятку. Сакрат Яновіч. 22.04.1989. Слонім”.***

У другой палове 2000-х гадоў сустракаўся з ім часцей. Ён любіў гутарыць з тымі, хто прыязджаў з Беларусі, асабліва з тымі, хто жыў не ў Мінску, а ў беларускай правінцыі, як, напрыклад, я. Хаця, і мы ўсе гэта добра ведаем, з Сакратам Яновічам размаўляць любілі многія, і ён любіў і паважаў усіх. Праўда, з ім не так і проста было размаўляць, асабліва ў апошнія гады яго жыцця. Ён быў шмат чым незадаволены і пра гэта шчыра казаў. Але спадар Сакрат быў шчаслівы і радаваўся тым, чым ён займаўся, радаваўся сустрэчам, радаваўся БЕЛАРУСКАСЦІ, якою жыў. Ён заўсёды быў адкрыты, як дзверы ў бацькоўскую

хату. Не ведаю, можа толькі з асобнымі людзьмі ён мог адкрыта гутарыць, разважаць, казаць праўду-матку. Вядома, ён быў і застаўся сучасным чалавекам у літаратуры і жыцці. Іншая рэч, што ён, як старэйшы па гадах, любіў свой час, сваё пакаленне. Але Сакрат Яновіч любіў і нас, хаця прэтэнзій да маладых, і не толькі да творчых людзей, у яго было нямала. Неяк сядзім з ім, гутарым, а ён кажа: "Вось унучка ў мяне, калі ёй трэба злотыя і хоча, каб я ёй даў, размаўляе са мной і просіць іх у мяне па-беларуску. А калі злотыя ёсць, дык тады па-польску". "І вы, вядома ж, адразу ёй даяце злотыя?" – кажу. "Даю, бо на роднай мове ласкава пытае. Як тут не даць!" – адказвае Сакрат.

Сакрат Яновіч, мне здаецца, сам сабе пярэчыў. І гэтае пярэчанне прысутнічала ў яго пастаянна. Прыгадваецца яго герой Сцяпан Кішкель з кнігі "Хатняе стагоддзе": "Выклікае злосць у Сцяпана непашана да бацькоўскіх пажыткаў, заядлае выкідванне маладымі ў ямы шафаў, сталоў, табурэтак, крэдэнсаў, перагародак. Фанатычнае змаганне моладзі мець грошы на ўсенька навюткае, моднае. Што – магчымае, вынішчаючы датла вёску. Выводзячы з яе апошнія капіталы. Абсцябаўшы бацькоў. Без пагібелі вёскі гарадскі дабрабыт дзяцей застаўся б утопіяй. Цікава, на чым будзе грунтавацца раскошны быт унукаў? Без вёскі ўжо. Урослай тым часам лесам. Без вёскі не было б горада. Але той жа горад, разрастаючыся глынае вёску. У прыродзе гатунак паядае гатунак. Беларушчына – гэта падла расейцам і палякам?.." І ў той жа час, калі я з ім рабіў інтэрв'ю ў 2008 годзе, у гутарцы Сакрат Яновіч казаў: "Крынкі – гэта мой свет... Крынкі для мяне – адкрыццё... Што Крынкі, што Варшава – усюды можна выдаваць добрыя кнігі..." Вядома ж, Сцяпан Кішкель у "Хатнім стагоддзі" казаў вуснамі Сакрата. І казаў тое, што тады думаў аўтар, што думаў, наогул, пры жыцці.

Я ў Сакрата пытаўся, а чаму вашыя бацькі далі вам такое рэдкае імя – Сакрат? Можа, гэта ў гонар старажытнагрэчаскага філосафа Сакрата? Ці ведалі вашы бацькі пра грэчаскую філасофію?

– Гэта мяне маці так назвала. Яна была ў бежанстве ў Расіі за Самараю. Там пэўны час хадзіла ў расійскую школу. І аднойчы яе настаўніца пасадзіла са сваім сынам за адну парту. А таго сына звалі Сакрат. Мама дрэнна вымаўляла словы па-расійску, дык ёй заўсёды дапамагаў сын настаўніцы. І калі мае бацькі вярнуліся з тае няшчаснае Расіі на Радзіму, мама выйшла замуж і нарадзіўся я, то яна заўпарцілася і ахрысціла мяне Сакратам. Хаця яна зусім не разумела і не ведала пра Сакрата нічога. Але ў яе памяці заўсёды быў той расійскі хлопчык Сакрат.

– А бацька не быў супраць, каб яго сын меў такое імя?

– А бацька ўвогуле не ведаў, у чым справа. Ды яго гэта мала цікавіла. Як назвала жонка – так і добра.

– А ў школе з вас не смяяліся?

– Спачатку смяяліся, бо не разумелі майго імя. Называлі мяне – крот. Але аднойчы святар Антон Савіч у сваёй пропаведзі згадаў, што быў такі грэчаскі філосаф, які пацвердзіў, што чалавек мае душу, што мудрасць – аснова высокамаральных учынкаў. Тады ўсе ад мяне адчапіліся.

– А цяпер вы, мабыць, з гонарам носіце імя Сакрата? Дый гучыць – Сакрат Яновіч! А не Юрка Яновіч ці Міхась Яновіч...

– Пэўна так! Бо гэта імя не штодзённае. Юркаў і Міхасёў цэлыя копы, а Сакрат у Беларусі адзін...

Сакрат Яновіч напісаў шмат добрых кніг. Я неяк спытаў, які ўплыў на ягоную творчасць аказала літаб'яднанне "Белавежа", што існуе ў Беластоку? І наогул, што дала яму "Белавежа"? "Белавежа" дала мне шмат, – адказаў ён, – найперш дзякуючы першаму рэдактару тыднёвіка "Ніва" Георгію Валкавыцкаму. Ён на пачатку існавання аб'яднання быў адзіным чалавекам, які добра арыентаваўся ў літаратуры. А я меў тэхнічную адукацыю, я – электратэхнік. Але дзякуючы Валкавыцкаму і майму швагру, які некалі прывёз кніжку Бабеля на польскай

мове, я стаў пісьменнікам. Я прачытаў кнігу Бабеля з цікавасцю. Валкавыцкі даў паняцце, што такое літаратура, а Бабель паказаў мне, што можна пісаць не пад Пушкіна, не пад Міцкевіча, а пад маё мястэчка Крынкі, што на Беласточчыне".

Падчас сустрэч з Сакратам Яновічам, я стараўся запытацца ў яго пра ўсіх, хто быў родам з яго Крынак. Пытаўся і пра Янку Геніюша з Ларысай Геніюш. Неяк не вельмі ахвотна ён успамінаў іх, але ж, калі я спытаўся, то шаноўны Сакрат павінен быў адказаць. Ён казаў, што з Ларысай Геніюш двойчы сустракаўся. Першы раз, калі разам з Аляксеем Карпюком з Гродна наведалі ў Зэльве Ларысу і Янку Геніюшаў. А пасля яна была ў Беластоку ў сына, дзе яны таксама мелі сустрэчу. Гутарка тады была трагічная. Бо яе жыццё было трагічным. "У Беласток паэтка прывезла мне стэнаграму выступлення Аляксея Карпюка на V з'ездзе Саюза пісьменнікаў БССР у Мінску 13 мая 1966 года. Яна была ўзрушана гэтым выступленнем. І я напісаў ліст Аляксею, выказаў сваю згоду з яго меркаваннямі і падтрымку. Але ж Аляксей Карпюк быў наіўным чалавекам і пачаў гэтым пісьмом хваліцца, што, маўляў, малады аўтар з Беласточчыны падтрымлівае яго. І тады зацікавіўся мною савецкі КДБ. І я з-за гэтага страціў працу, быў беспрацоўным. Але мне шмат дапамагалі палякі, – адкрывае мне таямніцу Сакрат Яновіч. – З палякамі лёгка гутарыць, дамовіцца пра канкрэтную справу, а вось з беларусамі – цяжка. Палякі цяпер выдаюць цэлую бібліятэку беларускай літаратуры, а з боку ўладна-савецкай Беларусі ідзе толькі хамства..."

Пытаўся ў яго я і пра Юрку Геніюша. І вось што ён прыгадаў: «Юрка Геніюш у Беластоку жыў са мною побач. А я ў Беластоку пражыў 50 гадоў. Пазнаёміліся мы праз тыднёвік "Ніва", я працаваў журналістам, а ён туды часта заходзіў. Мы разам нават выдалі адну кнігу п'ес пад загалоўкам "Зборнік сцэнічных твораў" (Беласток, 1976)».

Я спытаўся ў Сакрата Яновіча, чаму ён не працягвае пісаць п'есы, на што ён адказаў, што ніколі не збіраўся быць драматургам, а на напісанне п'ес яго натхніў і накіраваў Юрка Геніюш, таму і напісалася некалькі п'ес.

У Крынках Сакрат Яновіч пісаў найчасцей прозу і вёў свае дзённікі, бо заўважыў, што дзённікаў ніхто не піша. Пісаў ён у апошні час вельмі марудна. Ён запісваў факты, якія адбываліся і якія хутка забудуцца, і пра іх ніхто не будзе нічога ведаць. А для нашчадкаў жыццёвыя падзеі трэба захаваць. І ён занатоўваў іх.

У апошні час Сакрат Яновіч часта мне казаў, што беларускую літаратуру, культуру, мастацтва трэба *еўрапеізаваць*. Бо ўвесь час беларуская літаратура з'яўляецца нібыта філіяй рускай, а так не павінна быць. Пры жыцці неяк між іншым спытаў я ў прафесара Алега Лойкі: паэзія якой краіны самая магутная ў свеце. Ён адказаў: польская, а на другім месцы – беларуская. Пытаюся: а расейская? Адказвае, што расейская не, бо яна бальшавіцкая, камуністычная, савецкая і г.д. Алег Лойка пераклаў і выдаў двухтомнік анталогіі польскай паэзіі "Напярэймы: ад Буга да Варты" (Мн., 2003), куды ўвайшлі вершы, ад Цыпрыяна Норвіда, Марыі Канапніцкай да Марціна Галася – разам 180 аўтараў. Сакрат Яновіч казаў, што руская літаратура ўзнікла пад уплывам еўрапейскай. І прывёў мне прыклад з Аляксандрам Пушкіным. Каб зразумець яго, трэба ведаць французскую літаратуру. Калі не ведаеш, то Пушкіна дасканала не зразумееш. Бо Пушкін рос у асяроддзі французскай культуры. Яго маці ненавідзела расійскую мову. Яна Сашу Пушкіна, калі ён размаўляў па-расійску, нават біла! І напачатку ён пісаў выключна па-французску. Але хто нам аб гэтым сёння і пры бальшавіках казаў? Ніхто... У Савецкім Саюзе пераважаў расійскі шавінізм...

Вось такім застаўся ў маёй памяці Сакрат Яновіч. У нечым я пагаджаўся з ім, у нечым – не. Але да сённяшніх дзён памятаецца яго рэпліка: "Толькі нацыя мае будучыню, ніколі насельніцтва, зазвычай бяздумнае, бо кіруецца не душою, а жыватом, тоўстай кішкаю..."

*2014*

Леанід Галубовіч



...зазвычай паэты з цягам часу
звяртаюцца да прозы,
а не празаікі – да паэзіі...

# «Дзікія кветкі ссыльнага мейсца»

***Рэцэнзія на кнігу Марыі Вайцяшонак "Гняздо агню"***

Пісаць рэцэнзію на *чужую* кніжку – гэта як завочна расхвальваць ці *абгаворваць* знаёмага табе чалавека сярод зацікаўленага кола набліжаных да літаратуры людзей... Але абысці асобу паэта, засяродзіўшыся толькі на ацэнцы яго твораў, наўрад ці магчыма, таму што іх мастацкая аснова выяўляе характарыстыку і самога аўтара.

Тым больш, калі гэта творца таленавіты альбо, як прынята казаць, сапраўдны.

У маім выпадку гэта больш чым відавочна. Марыя Вайцяшонак – лірык па натуры, па вялікім рахунку чалавек аднаасобны, схільны да стварэння свайго індывідуальнага (як знешняга, так і ўнутранага) свету. Некалі ў маладосці яна была пастаянна ў людзях, увесь час на вачах, гэта можна адсачыць па яе неардынарнай біяграфіі, журналісцкай працы ў "Сельскай газеце", якая была звязана з правінцыяй, з яе ўласным жыццём агулам і, як вынік, з яе псіхалагічнай прозай... Адчувалася, што наўпроставае і бескампрамісна-жорсткае сутыкненне з рэальным светам і яго разнароднымі




насельнікамі, у рэшце рэшт, прывяло яе да сыходу ў самую сябе... Але сыход гэты быў не схованкай і не самаізаляцыяй, а спробай самастойнага выбару дзеля вырашэння тых ці іншых жыццёвых сітуацый. У нейкім сэнсе – самасцвярджэннем... Своеасаблівай філасофіяй жыцця.

Чатыры яе кнігі прозы, якія няпроста чытаюцца, але шмат гавораць чытачу, не прайшлі незаўважанымі ў літаратурным працэсе апошняга дваццацігоддзя... Марыя піша ў маналагічным стылі, дапускаючы па ходу бессюжэтную дыялагічную лінію, на фоне якой выяўляюцца няпэўныя, безакцэнтныя, ні да чаго не абавязвальныя маральныя і духоўныя выкладкі аўтара. Як і ў Бібліі, без прамога параўнання кажучы, у яе прозе "дух лунае, дзе хоча". Рукі баляць, душа плача, а ён – лунае, прадбачыць і прарочыць...

Аднак не ўсё так проста ў самім жыцці, як у яго мастацкіх выявах. Асабліва для тых, каму

Не ўдалося выбраць,
дзе нарадзіцца

і хто

цяпер выбірае, дзе хоча
памерці...

Як вядома, адны з нас выбудоўваюць сваё "гняздо *для* агню" **звонку**, а другія – **знутры**. Першых клапоцяць хаты, кватэры, мэбля, машыны, лецішча, кар'ера – словам, дабрабыт уласнага жыцця. Тады як другія ўвесь час занятыя ўзвышэннем душы і духу: думаюць, мрояць, перажываюць, ствараюць, дабрадзеюць, моляцца, вераць і спадзяюцца...

Нельга сказаць пэўна, што Марыя з першых альбо з другіх. З нараджэння яе спадчыннае гняздо было парушана, загнанае натуральна пад зямлю (сасланае напрыканцы 30-х гадоў з Пастаўшчыны ў алтайскія халодныя зямлянкі), таму ўся істота яе млела ад нажаданага сонца і святла, радзімнасці і бацькаўшчыны...

А літаратура для яе стала той скарбонкай, у якой можна таеміць перліны памяці, сэрца і душы. Бо заўжды падсцерагала небяспека жыцця і тачыла неадступная думка, што

За ўсё сваё жыццё
не здолела
сабраць
перліны
на зямлі
сарваныя
табой калісьці
з маёй шыі
незнарок
адна з іх
найбуйнейшая
скацілася
за небасхіл.

Праўда, у творчасці Марыі Вайцяшонак ёсць адзін зусім неардынарны штрых: зазвычай паэты з цягам часу звяртаюцца да прозы, а не празаікі – да паэзіі.

Зрэшты, перад намі выпадак неадназначны, бо і проза М. Вайцяшонак мела ад пачатку чуйны лірычны зачын. Мы можам адкрыць на якой заўгодна старонцы любое яе апавяданне і будзем уражаны нацыянальнай беларускай метафорыкай і паэтычнай вобразнасцю. Прыклады, калі ласка, з любога месца (аповед “Два гады да вясны”, напісаны напрыканцы мінулага стагоддзя): “Некалі, расказвалі старыя людзі, забілі тутака вясной у вайну млынара, тут недзе і закапаны. І цяпер грыміць увушшу ягоны млын. Сцёрся камень на жорнах, трашчыць жвірам. Укіне птушка дзікае зярнятка – увесь белы свет ад вальцаванай мукі, як на радаўніцу засланы пад дубамі”.

Паколькі Марыя пераважна жыве наводдаль ад людзей, то зазвычай яна, тым ці іншым чынам, мадэлюе вобразы герояў сваіх расповедаў, абапіраючыся на ўласны немалы досвед жыцця. Іншая рэч цяпер, калі яна стала пісаць вершам (у асноўным верлібрам). Тут на першы план ва ўсіх дачыненнях, адносінах і мастацкіх праявах выйшла яна сама, як аўтар, паэтэса, і з гэтай прычыны – галоўны герой створаных тэкстаў...

Збіраю
сляды
нашых сустрэч.
Яны абрываюцца
на прыступках
маёй стромай
адзіноты.

Так супала, што паралельна з працай над гэтай рэцэнзіяй я (з жончынай падачы) на роздыху з вялікім задавальненнем чытаю кнігу вядомага амерыканскага пісьменніка і філосафа Генры Тора “Уолдэн, альбо Жыццё ў лесе”, і вельмі шкадую, што не прачытаў яе хаця б гадоў трыццаць таму. Калі шчыра, дык паралелі паўсталі не толькі ў прачытанні дваіх аўтараў, але і ў супастаўленні іх жыццёвых і духоўных прынцыпаў. Не ведаю, ці чытала Г. Тора беларуская літаратарка. Незалежна ад таго, думаю, погляды на зямное жыццё ў яе наўрад ці змяніліся б. Амерыканец пражыў наўзбоч цывілізацыі больш за два гады, сам забяспечваючы сябе абсалютна ва ўсім. Вайцяшонак жыве адстаронена ад грамады гадоў трыццаць, але яна напоўніцу забяспечана сучасным бытам. Тора не змог бы жыць так як Вайцяшонак, а Вайцяшонак не змагла б гэтак як Тора. Адназначна. І гэта тое, што іх розніць. А вось родніць іх сама адзінота – адасобленасць ад людскога свету і ў той жа час прага ўласнай асабовасці ў гэтым свеце... Генры Тора піша: *“Мы большей частью находимся не там, где мы есть, но в ложном положении. Таково несовершенство нашей природы, что мы выдумываем положение и ставим себя в него и оказываемся, таким образом, в двух положениях сразу, так что выпутаться из них трудно вдвойне. В минуты просветления мы видим только факты, только истинное положение вещей. Говорите то, что имеете сказать, а не то, что следовало бы. Любая правда лучше притворства”.* (Прабачаюся, не насмеліўся перакладаць арыгінал на трэцюю мову праз рускую.) Зраблю рэмарку адносна апошняга сказа, бо ў дачыненні да мастацкай творчасці тут, безумоўна, паўстануць непераадольныя непаразуменні. Як вядома, мастацкая праўда якраз і блізкая да “прытворства” (выдумкі, створанасці), хоць і лічыцца вышэйшай (і прыгажэйшай) за самую праўду жыцця. Як піша Марыя:

...дом вясковы
нараджаецца
кожны дзень.

У Вайцяшонак арыгінальная пабудова верлібра. Ён у яе як бы мае форму вертыкалі. Радок пераважна аднаслоўны. Але дзякуючы *павышанай* нагрузцы на слова, яно, звязваючыся з папярэднім ці наступным, утварае шматлікія сэнсы і асацыяцыі...

Будуе
птушка
гняздо
блізка
амаль
у далонях
пліска.

Унутранае і асабовае жыццё паэтэсы неад'емнае ад стану акаляючай яе прыроды. Больш за тое, яно намагаецца знаходзіць (ствараць) з ёй адпаведную гармонію. Але адчуваецца, што даецца гэта не без вялікіх вымогаў цела і духу. Я прывяду фрагменты цытат з некаторых вершаў:

ноччу фіранку адхінула поўня;
Адсунула фіранкі;
за вакном
уверх – уніз;
спаўзае па шкле на сонцы лядак;
сярод ночы ўсхапіцца закрыць акно;
стук у дзверы ў вокны з нябёсаў;
зімовую самоту дасылае сад асенні напроці ў раме ваконнай;

А яшчэ так частыя ў радках: *дом, цёмны пакой, прытул, сад, поўня, ноч, непагадзь...*

Прычым з усяго мастацкага кантэксту зборніка абсалютна не высноўваецца засілле творчага песімізму. Ёсць рэалістычны погляд на людскі свет і ўласнае жыццё, але праз метафорыку духоўных пошукаў. Праз параўнанне і супастаўленне, праз узвышэнне, але ні ў якім разе не прыніжэнне адной сутнасці перад другой. Яшчэ ёсць спроба наладзіць дыялог з чытачом, жаданне паразумення, не зважаючы на розныя погляды на адзін і той жа акаляючы свет. І нават у сітуацыі немагчымасці паразумення яна піша, бы наўздагон напамінае:

Азірніцеся,
калі мой дом
пакідаеце.

І ўжо ў іншым вершы дадае-ўдакладняе:

але калі знойдзеце
мяне ў баразне
паміж зямлёй
і небам
не замарудзьце
яшчэ цёплыя
рукі
на грудзях
скласці
каб хоць крышачку
адпачыць на зямлі.
Як украсці.

Ну, а ўжо каб рабіць вось такія прызнанні-споведзі, то трэба мець вялікае, у пэўным сэнсе *незапатрабаванае*, мацярынскае сэрца:

З маёй рукі
зярняты
прарастаюць
цяжка,
бо я ніколі
не была
цяжарнай...

І тут не трэба асаблівых аўтарскіх тлумачэнняў і самаапраўдання, а дастаткова толькі даць чытачу магчымасць прачытаць яшчэ адзін верш, напісаны тым жа высакародным сэрцам:

хата суседкі –
пусты
вулей,
залятаюць
сюды ейныя
дзеці
дзікімі
пчоламі.
А неба ніколі
не пустуе.

І нарэшце выдыхнуць без адчаю ў голасе ў вершы “Мае нашчадкі”:

З птушанятамі
сталавацца
пад акно
з лесу
крыжадзюбіха
прывялася –
паказвае,
дзе я жыву.

Безумоўна, што такое сэрца, “напоўненае пустатою страт”, не можа не перажываць наноў тыя дзеі і чыннікі жыцця, якія, шмат абяцаўшы, многае забралі, пакінуўшы знямогу душы... *Пярэдумкі* перажытага (ужо і не ведаю, Марыіна гэта ці маміна слова, ды і не так тое важна) загартоўваюць волю чалавека, выкіроўваюць яго лёс. Для паэта гэта асабліва важна – спроба варыянтнасці існавання. Прымаць існы ўдзел у сутворчасці ўласнага жыцця разам з яго першастваральнікам, каб *вынасіць* сваю чалавечую дасканаласць, як жанчына – дзіця. У рэшце рэшт, гэта каштуе жыццёвай зямной страты дзеля паднебнага духоўнага ўзвышэння. Што праўда, не кожнаму дадзена. Ці не таму –

Калі вецер
заходзіць
на веранду,
скрыпнуўшы
дзвярыма,
ён кагосьці прапускае
наперад,
ён не адзін.
Так заходзіць
трывога.

І тут я хачу вярнуцца яшчэ раз да Г. Тора, які ў вышэй мной згаданай кнізе зазначае даволі цікавую для творчых людзей асаблівасць чалавечай натуры: *“Я знаю себя лишь как человеческое существо, вместилище мыслей и чувств, и ощущаю*

*известное раздвоение, которое позволяет мне так же взглянуть со стороны на себя, как и на любого другого. Как бы остры не были мои переживания, я всегда чувствую, что некая часть меня относится к ним критически; это даже не часть меня, а наблюдатель, не разделяющий моих переживаний и только отмечающий их; этот наблюдатель так же тождественен со мною, как и вы. Когда жизненное представление, быть может трагическое, оканчивается, зритель уходит восвояси. Для него оно было лишь вымыслом, созданием воображения. Эта наша двойственность делает нас иногда плохими соседями и друзьями".* Гэта словы з раздзела "Адзінокасць", у якім пісьменнік і мысляр па сутнасці абвяргае магчымасць абсалютнай чалавечай абасобленасці. Адчуванне пакінутасці і адзіноты ёсць ні чым іншым, як валявым унутраным рашэннем сыходу самога чалавека ад сваіх жа ўнутраных і знешніх праблем. Таму і ў нашым выпадку паэтэса Марыя Вайцяшонак, старонячыся людской мітусні і публічнасці, тым самым прыходзіць да самой сябе, каб наноў перажыць пражытае, пакідаючы людзям той агонь, які не дае ачахнуць агменю жыцця:

Сівыя гады
не вёсны
пастаўлю
на зіму
кросны
сяду
на парозе
пільнуюся
каб не звесці
агонь
у вёсцы...

Можа, дзеля гэтага і варта растрачваць дыханне на векавечныя словы...



# Настальгія

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Сяргей Абламейка. Настальгія: падарожная проза. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 412 с.**

Тэксты Сяргея Абламейкі вызначаюцца нячастай у беларускай літаратуры эстэтыкай бессюжэтнай прозы. У сваіх падарожных эсэ, добра вядомых чытачу "Дзеяслова", ён злучае прозу, паэзію і публіцыстыку. Дзе б і куды ні вандраваў аўтар, як сцвярджаецца ў выдавецкай анатацыі, усе яго падарожжы заканчваюцца ў беларускай культурнай і гістарычнай прасторы. Як адзначае сам аўтар, ён *"не ставіў сабе мэту напісаць кніжку. Некаторыя свае кнігі я, натуральна, пісаў як кнігі. А гэтую я не пісаў. Яна напісалася сама. Я проста натаваў свае пачуцці і свае эмоцыі падчас падарожжаў. Гэта —сапраўды падарожныя тэксты, сапраўды падарожная проза. Я рэфлексаваў, разважаў, параўноўваў, абураўся, тужыў па нечым, што магло б быць у нас, а ёсць у іншых"*.




**Сяргей Дубавец. Сіні карабель у блакітным моры плыве. – Мінск: Ковчег, 2014. – 172 с.**

"Літаратурныя коміксы з мантрамі і саўндтрэкам, псеўдафіласофскія барэльефы нашай беднай цывілізацыі, пошукі вечнасці ў гэтым дачасным свеце і ўсё астатняе, чаго няма, не бывае й не можа быць", – гэтак інтрыгоўна анансуецца новая кніга Сяргея Дубаўца.

*"У гэтай кнізе няма абсалютна нічога, што было б хоць неяк звязанае з рэальнасцю. Гэта кніжка абсалютна пра нерэальнае. Не ведаю, наколькі мне гэта ўдалося, але, па-мойму, у беларускай літаратуры нічога такога яшчэ не было. Калі казаць пра нейкія сусветныя аналагі або пра тое, на што я арыентаваўся, то я б мог згадаць Стругацкіх, Станіслава Лема, Рэя Брэдберы"* – прызнаўся аўтар у гутарцы на Радыё Свабода.

На пытанне "Дзеяслова", каму адрасаваная кніга, аўтар адказвае: *"Кніжка ні пра што, чыстае калыханне паветра. Пісалася не для чытача і няясна навошта... Гэта чыстае мастацтва для мастацтва"*. І ўсё ж, няма сумневу, што свайго чытача гэтая кніга знойдзе.




**Сара Лундберг. Віта Белая Крэска; пер. са швед. Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 36 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка". Падсерыя "Каляровы ровар"; вып. 6).**

**Сара Лундберг. Віта Белая Крэска і Эйвінд; пер. са швед. Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 32 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка". Падсерыя "Каляровы ровар"; вып. 7).**

Дзве новыя кнігі для дзяцей выйшлі ў серыі "Каляровы ровар" Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Яны аб'яднаныя іменем аўтаркі — шведскай мастачкі, ілюстраторкі і пісьменніцы Сары Лундберг, і галоўнай гераіняй абедзвюх гісторый, якую завуць Віта Белая Крэска. Па-беларуску гэтыя творы загучалі дзякуючы перакладчыцы Надзеі Кандрусевіч.




У кнізе “Віта Белая Крэска” Сара Лундберг выступае ў ролі пісьменніцы і мастачкі адначасова. Гэтая кніга распачала серыю кніг пра дзяўчынку Віту, якая малюе крэскі на дарогах. У першай гісторыі (2009) аўтарка знаёміць чытачоў з дзяўчынкай Вітай, якая дапамагае хлопчыку перайсці дарогу і малюе пешаходны пераход. Кніга аформленая ярка, незвычайна і сімвалічна.

Другое выданне “Віта Белая Крэска і Эйвінд” (2011) Сара Лундберг аздабляе яшчэ больш дэталёва. Гэта гісторыя пра тое, як у Віты з’яўляецца сябар Эйвінд, але амаль адразу ж знікае, і Віта выпраўляецца яго шукаць. У 2013 з’явілася трэцяя кніга пра Віту, “Эйвінд і край свету”, якая пакуль што не перакладзеная на беларускую.

*— Перакладаць серыю заўсёды цікава, бо назіраеш, як мяняюцца не толькі персанажы гісторыі, але часам і пісьменніца разам з імі, яе стыль апавядання. Бо першая кніга пра Віту напісаная ў больш педагагічнай манеры, а ў другой і трэцяй кнізе Сара Лундберг уздымае больш філасофскія пытанні, выкарыстоўвае кантрастныя дэтальныя вобразы, як у апісанні, так і ў малюнках. Асаблівасцю кніг Сары Лундберг я б назвала тое, што тэкст і ілюстрацыі жывуць адным жыццём, яны рухаюцца разам і з’яўляюцца нібы працягам адно аднаго. І было цікава сачыць за гэтым рухам, за сугучнасцю слоў і малюнкаў і перадаваць гэта ў перакладзе, —* распавяла сайту lit-bel.org Надзея Кандрусевіч.

**Тацяна Сапач. Раннія вершы. Факсімільнае выданне. – 2014.**




Раннія вершы Тацяны Сапач даюць уяўленне пра самы пачатак творчасці аўтаркі “Восені”, вершы якой завяршаюць сабою залатое XX стагоддзе беларускай паэзіі. Выданне падрыхтавалі Сяргей Дубавец і Віктар Корзун. Гэты рукапісны зборнік – ад зусім юных, школьных і традыцыйных да тых, у якіх пазнаецца ўжо аўтарка “Восені” – адшукаўся ў хаце Тацяніных бацькоў. Некаторыя з гэтых твораў друкаваліся ў маладзечанскай раёнцы задоўга да першага зборніка.

“Раннія вершы” – ўнікальнае для Беларусі факсіміле: кніга выдадзеная ў той самай форме, у якой і была створаная – сшытка рукапісных вершаў (Тетрадь для заметок, Цена 30 коп.) з захаваннем нават арыгінальных колераў пярэстых атрамантаў. Як адзначыла Вера Дзядок, *“чытаючы яе, шчыра думаеш, што гэта вось маглі б быць і твае вершы. Во дзесьці тут яшчэ была вольная старонка, дзе можна штосьці запісаць, занатаваць. На добры ўспамін... Такі сшытак заўжды знойдзецца пад падушкай у кожнай дзяўчыны. І трымаць гэтую кнігу абавязкова тамсама, пад падушкай”.*

У прадмове да кнігі С. Дубавец піша: *“у цэлым Раннія вершы складаюць поўны кантраст зборніку “Восень” — эстэцкаму, поўнаму філасофіі і маркотных настрояў. Гэты — амаль цалкам пазітыўны, просты, “народны”. Тут — спрадвечная беларуская чалавечая праграма — этычная і эстэтычная. Гэта як глеба, на якой пазней вырасце Тацяніна мастацтва чыстай красы”.*

**Алесь Усеня. Грэх: раман. – Мінск: Медысонт, 2014. – 640 с.**




Вера, Надзея, Любоў... Не ўсе ведаюць, што гэта не проста ўстойлівае словазлучэнне, а імёны маленькіх дзяўчынак, якія ў II ст. н.э. на загад рымскага імператара Адрыяна былі жорстка закатаваныя і забітыя, бо не пажадалі адрачыся ад Хрыста.

Пра іх духоўны подзвіг расказваецца ў рамане, знаёмым чытачам “Дзеяслова”. Іўдзейскае паўстанне, пасля якога яўрэі на дзве тысячы гадоў страцілі сваю тэрыторыю, інтрыгі і барацьба за трон у Рымскай імперыі, а перадусім – гісторыя трагічнага кахання маладых іўдзея і хрысціянкі, – усё гэта знітавана захапляльным сюжэтам.

# Нашыя аўтары

**Александровіч Разалія** – філолаг, гісторык. Працуе ў галіне метадычнага забеспячэння адукацыі дзяцей дашкольнага ўзросту. Аўтарка кнігі «Зямля з блакітнымі вачыма» (у суаўтарстве з Т. Нескаромнай). Мае шэраг публікацый у перыядычным друку, навуковых выданнях. Займаецца навуковым даследаваннем па тэме «Далучэнне дзяцей да гісторыі і культуры свайго этнаса: на прыкладзе сем'яў беларускіх татараў». Нарадзілася ў 1956 годзе ў Наваградку. Жыве ў Мінску.

**Аркуш (Козік) Алесь** — паэт, празаік, крытык, выдавец. Аўтар кніг «Вяртанне», «Тайніца», «Крылы ператварацца ў карэнні», «Развітанне з Танталам», «Палімпсэст» і інш. Нарадзіўся ў 1960 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Полацку і Беластоку.

**Барадулін Рыгор** — народны паэт Беларусі (1992). Паэт, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1976). Аўтар кніг паэзіі «Маладзік над стэпам», «Рунець, красаваць, наліваццa!», «Нагбом», «Адам і Ева», «Рум», «Вечалле», «Евангелле ад мамы», «Здубавецце», «Руны Перуновы», «Ксты», «Anima» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе на хутары Верасоўка на Ушаччыне. Памёр у 2014 годзе.

**Баторын (Хаймовіч) Фелікс** – паэт, перакладчык. Піша на беларускай і яўрэйскай (ідыш) мовах. Аўтар кніг «Раніца», «Зялёны тралейбус», «Я дрэва пасадзіў» і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гардзіенка Наталля** — гісторык. Кандыдат гістарычных навук. Вядучы архівіст у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Галоўны рэдактар альманаха «Запісы БІНіМ». Аўтарка кніг «Беларусы ў Аўстраліі», «Беларусы ў Вялікабрытаніі», «Рада БНР 1947–1970. Падзеі. Дакументы. Асобы» (разам з Л. Юрэвічам). Нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Дашына Ярына** — паэтка. Аўтарка кнігі «Графіці на сэрцы». Нарадзілася ў 1978 годзе ў вёсцы Ставы на Камянеччыне. Жыве ў Берасці.

**Жуковіч Васіль** – паэт, празаік, перакладчык, крытык. Аўтар кніг «Паклон», «Крылатыя сябры», «Мелодыя святла», «Як адна вясна...», «Твая місія», «Разняволенне» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Забалацце на Камянеччыне. Жыве ў Мінску.

**Іздрык Юры** – празаік, паэт, культуролаг, мастак. Заснавальнік і галоўны рэдактар часопісу «Четвер». Аўтар паэтычных зборнікаў «Станіслав і 11 його визволителів», «Ю», «Після прози» і інш., кніг прозы «Острів Крк», «Воццек & воццекургія», «Таке», «Подвійний Леон», «Флешка» і інш. Адзін з лідэраў постмадэрнізму ва ўкраінскай літаратуры 90-х. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў Калушы на Івана-Франкоўшчыне. Жыве ў гарадку Калуш і Львове.

**Каржанеўская Галіна** – паэт, празаік, драматург, крытык. Аўтар кніг «На мове шчасця», «Мой сад», «Жыла – была», «На што падобна аблачынка?», «Вечны водгук», «Невымоўнае», «Што варта радасці і слёз...» і інш. Нарадзілася ў 1950 годзе ў вёсцы Лясішча на Случчыне. Жыве ў Мінску.

**Кульбак Мойша** – паэт, раманіст, драматург. Пісаў на мове ідыш. Быў абраны старшынёй Сусветнага габрэйскага ПЭН-клуба (заснаваны ў 1927 годзе). Сябра Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР. Аўтар кніг «Шы́рым» (вершы), «Дзі штот» («Горад», паэма), «Райсн» («Беларусь», паэма), «Янкеў Франк» (драма), «Монцік» («Панядзелак», раман), «Буне ун Бере» («Буня і Бера», гумарыстычная паэма) і інш. Нарадзіўся ў 1896 годзе ў Смаргоні Віленскай губерні (цяпер Гродзенскай вобласці). Расстраляны ў 1937 годзе.

**Ліпска Эва** – паэтка, дыпламатка. Рэдактарка выдавецтва «Wydawnictwo Literackie» (1970-80). Аўтарка паэтычных зборнікаў «Вершы», «Другая кніга вершаў», «Трэцяя кніга вершаў», «Чацвёртая кніга вершаў», «Пятая кніга вершаў», «Жывая смерць», «Камера захоўвання цемры», «Стыпендыяты часу», «Людзі для пачаткоўцаў», «Любая пані Шуберт...», «Каханне, любая пані Шуберт...» і інш. Нарадзілася ў 1945 годзе ў Кракаве, дзе і жыве.

**Лукашук Аляксандар** – празаік, публіцыст, эсэіст. З 1999 года – дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода. Аўтар кніг «Зьдзек», «За кіпучай чэкісцкай работай. З жыцьця катаў», «У фіялетавай ночы вугал крыла», «Прыгоды АРА ў Беларусі», «Сьлед

матылька. Освальд у Менску», «Зкімбы-зымбы» і інш. Нарадзіўся ў 1955 годзе на Берасцейшчыне. Жыве ў Празе.

**Маркавец Віктар** – мастак. Скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (1971). Вучыўся ў І. Ахрэмчыка. Працаваў у розных жанрах станковага жывапісу. Сябра Беларускага саюза мастакоў. Узнагароджаны прэміяй Ленінскага камсамолу Беларусі (1980). Браў удзел у дысідэнцкай групе беларускай інтэлігенцыі «На Паддашку», належаў да незалежнай суполкі мастакоў «Пагоня». З 1992 года плённа супрацоўнічаў з Алесем Разанавым. Першым іх супольным праектам стала серыя з шасці карцін, аб'яднаных назвай «Яйкаквадраты», пасля якіх былі «Іствы» і «Адваротная сіметрыя». Нарадзіўся ў 1947 годзе ў Докшыцах. Памёр у 2013 годзе.

**Матусевіч Зоя** – журналіст, эсэіст. Мае каля 400 публікацый на разнастайную тэматыку ў цэнтральных беларускіх і расійскіх СМІ і літаратурных часопісах. Адна з аўтараў кнігі «Сыны і пасынкі Беларусі». Займаецца выдавецкай дзейнасцю, выступае ў якасці аўтара-складальніка і рэдактара кніг-фотаальбомаў і навукова-папулярных выданняў. Нарадзілася ў вёсцы Талька Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці. Жыве ў Мінску.

**Рублеўскі Сяргей** — празаік, паэт, публіцыст. Аўтар кніг прозы «Апостраф», «Азярод», «Абмытыя валуны», «Ў, тое, што мы скарацілі», «Маўчанне на ўвесь Божы свет», «Святло лускі», «Паспець надыхацца». Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Бабча на Лепельшчыне. Жыве ў Віцебску.

**Русецкая Наталля** – паэтка, перакладчыца. Перакладае паэзію і драматургію з польскай мовы. Аўтарка кнігі паэзіі «Два бяссонні», манаграфіі «Сямейная муза», прысвечанай паэтычнай творчасці Ф.У. Радзівіл. Нарадзілася ў 1974 годзе ў горадзе Новы Урэнь (Расія). Жыве ў Любліне.

**Саламаха Аляксей** – паэт. Па адукацыі выкладчык і перакладчык ангельскай мовы. Скончыў Мінскі дзяржаўны інстытут замежных моў. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Сіўчыкаў Уладзімір** — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, драматург, мастак. Аўтар кніг «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Высакосны год», «Бювар» і інш., а таксама альбомаў «Жодзінцы» і «Рыцары Пагоні і Арла» (сумесна з А. Марачкіным). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

**Супрунчук Віктар** – празаік. Аўтар кніг «Страсці», «Недзе баліць ля сэрца», «Набат», «Жывеш толькі раз» і інш. Нарадзіўся ў 1949 годзе ў вёсцы Сялец на Бярозаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Сямёнава Ала** — крытык, празаік, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Гарачы сьлед таленту», «Слова сапраўднага лад», «У святой краіне выгнання» і інш. Нарадзілася ў 1938 годзе ў мяст. Бальшарэцкае на Камчатцы. Жыве ў Мінску.

**Улашчык Мікалай** – гісторык, археограф. Навучаўся на сацыяльна-гістарычным аддзяленні педагагічнага факультэта БДУ. Браў актыўны ўдзел у нацыянальным жыцці Менска. У 1930 годзе быў арыштаваны ў сувязі са справаю г. зв. Саюза вызвалення Беларусі. Быў сасланы ў Вяцкую вобласць. Потым быў яшчэ двойчы рэпрэсаваны. Канчаткова вызвалены з лагераў у 1955 годзе. Працаваў у Маскоўскім універсітэце, Інстытуце гісторыі АН СССР. Доктар гістарычных навук, аўтар навуковых прац па гісторыі Беларусі часоў ВКЛ, па праблемах летапісання, крыніцазнаўства і археаграфіі. Нарадзіўся ў 1906 годзе ў вёсцы Віцкаўшчына на Міншчыне. Памёр у 1986 годзе.

**Хадановіч Андрэй** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Сто лі100ў на tut.by», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны» і інш. Перакладае з ангельскай, французскай, польскай, украінскай і інш. моваў. Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Хадзінскі Павал** – паэт, фатограф. Сузаснавальнік студыі «Ліхтар». Нарадзіўся ў 1985 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Чыгрын Сяргей** — паэт, журналіст, краязнаўца. Аўтар кніг «Шчырая Шчара», «Горад без цябе», «Пакліканыя на родны парог» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.

**Шаўлякова Ірына** — крытык, літаратуразнаўца. Аўтарка кніг «Галерэя сноў», «Сентыментальнае паляванне», «Рэстаўрацыя шчырасці». Нарадзілася ў 1970 годзе ў Чэрвені на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Шыла Дзмітры** – паэт, мастак. Скончыў факультэт тэалогіі Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Працаваў менеджэрам праектаў у грамадскіх арганізацыях. Ілюстраваў дзіцячыя выданні. Нарадзіўся ў 1975 годзе ў вёсцы Муцькавічы каля Баранавіч, жыве ў Любліне.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.